АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
ІНСТЫТУТ МОВАЗНАУСТВА ІМЯ ЯКУБА КОЛАСА

# МОВА БЕЛАРУСКАЙ ПІСЬМЕННАСЦІ XIV–XVIII ст ст.

МІНСК
«НАВУКА І ТЭХНІКА»
1988

ББК 81.2 Бел
М 74

В книге в обобщенном виде показывается развитие языка древней белорусской письменности на примере изменяемых частей речи — существительного, прилагательного, числительного, местоимения, глагола, наречия. В качестве источников привлекаются многочисленные рукописные и старопечатные памятники.

Рассчитана на лингвистов, преподавателей и студентов филологических факультетов.

Аўтарскі калектыў

А. М. БУЛЫКА, А. І. ЖУРАЎСКІ, І. І. КРАМКО, У. М. СВЯЖЫНСКІ

Рэдактар

член-карэспандэнт АН БССР А. І. ЖУРАЎСКІ

Рэцэнзенты:

доктар філалагічных навук
А. І. ЯНОВІЧ,
кандыдаты філалагічных навук
І. М. ЛАЗОЎСКІ, П. А. МІХАЙЛАЎ

**Мова** беларускай пісьменнасці XIV—XVIII стст. /
М 74 А. М. Булыка, А. І. Жураўскі, І. І. Крамко, У. М. Свяжынскі.— Мн.: Навука і тэхніка, 1988.— 319 с.
ISBN 5-343-00344-3

У кнізе ў абагульненым выглядзе паказваецца развіццё мовы старажытнай беларускай пісьменнасці на прыкладзе змяняльных часцін мовы — назоўніка, прыметніка, лічэбніка, займенніка, дзеяслова, прыслоўя. У якасці крыніц прыводзяцца шматлікія рукапісныя і старадрукаваныя помнікі.

Разлічана на лінгвістаў, выкладчыкаў і студэнтаў філалагічных факультэтаў.

М $\frac{4602010000-034}{М 316(03)-88}$ 153—87

ББК 81.2 Бел

ISBN 5-343-00344-3

# УСТУП

Даследаванне мовы старабеларускіх пісьмовых помнікаў ужо мае працяглую гісторыю. У мінулым даследчыкі звярталі ўвагу галоўным чынам на адлюстраванне ў пісьменнасці з'яў жывой беларускай мовы, дзякуючы чаму стварылася магчымасць з адноснай ступенню верагоднасці ўстанавіць храналогію ўзнікнення беларускіх моўных асаблівасцей і нават тэрыторыю іх распаўсюджання. Даследчыкамі шырока выкарыстоўваўся моўны матэрыял як уласна беларускіх помнікаў, так і царкоўнаславянскіх тэкстаў, якія ствараліся на Беларусі і ў большай ці меншай меры адлюстроўвалі рысы жывой беларускай мовы. Іменна такі падыход вызначыўся ў шматлікіх працах заснавальніка беларускай філалогіі Я. Ф. Карскага, які выявіў у пісьмовых помніках вялікі фактычны матэрыял па гістарычнай фанетыцы, граматыцы і лексікалогіі беларускай мовы. Аднак пры такім вывучэнні старажытных тэкстаў па-за ўвагай застаюцца моўныя факты, якія не знаходзяць непасрэднай адпаведнасці ў народных гаворках пэўнай эпохі,— традыцыйныя моўныя сродкі пісьмовай мовы, запазычанні з іншых моў і аўтарскія наватворы, што ўзніклі ў выніку ўнутранага, спантаннага развіцця пісьмовай мовы.

Пры вывучэнні літаратурных моў, як і народна-дыялектных, мэтазгодна выдзяляць іх знешнюю і ўнутраную гісторыю. Пры гэтым пад знешняй гісторыяй літаратурнай мовы разумеецца перш за ўсё яе грамадска-культурная роля ў жыцці данага народа, сферы выкарыстання яе ў розных галінах гаспадарчага і духоўнага жыцця рознымі слаямі насельніцтва і г. д. Унутраная гісторыя літаратурнай мовы звязана са зменамі ў галіне графікі, арфаграфіі, граматычнага ладу і слоўнікавага саставу, што знаходзіла адпаведнае адлюстраванне ў пісьмовых тэкстах, хоць усё гэта абумоўлівалася знешняй гісторыяй.

Абодва такія аспекты гісторыі беларускай літара-

турнай мовы ўжо закраналіся ў беларускім мовазнаўстве. Да прац гэтага роду адносяцца вучэбныя дапаможнікі Л. М. Шакуна па гісторыі беларускай літаратурнай мовы, апублікаваныя ў 1959, 1963 і 1984 гг. У двухтомным калектыўным даследаванні супрацоўнікаў сектара гісторыі беларускай мовы Інстытута мовазнаўства АН БССР «Гісторыя беларускай літаратурнай мовы» (1967, 1968) была зроблена спроба асвятліць як знешнюю, так і ўнутраную гісторыю беларускай літаратурнай мовы ад старажытнай эпохі да нашага часу. Апублікаваная ж пазней супрацоўнікамі гэтага сектара «Гістарычная марфалогія беларускай мовы» (1979) мела мэтай вывучыць узнікненне марфалагічных інавацый у беларускай народна-дыялектнай мове і характар адлюстравання іх у пісьмовай мове.

Прапануемае ўвазе чытачоў даследаванне «Мова беларускай пісьменнасці XIV—XVIII стст.» асвятляе выключна ўнутраную гісторыю мовы беларускай пісьменнасці адзначанай эпохі. Такое абмежаванне дае магчымасць больш падрабязна паказаць эвалюцыю сродкаў выражэння граматычных катэгорый у галіне марфалогіі.

Пры гэтым прымянальна да старажытнай эпохі патрабуе тлумачэння і само паняцце «беларуская пісьменнасць». Як вядома, у эпоху беларускай народнасці на Беларусі практычна існавала пісьмовае мнагамоўе з пэўным размежаваннем у сферы функцыяніравання. У ранні перыяд у пісьмовым ужытку былі дзве пісьмовыя мовы — уласна беларуская на старажытнарускай аснове і царкоўнаславянская ўсходнеславянскай (пазней беларускай) рэдакцыі. Беларуская мова першапачаткова прымянялася ў справаводстве і юрыспрудэнцыі, у жанрах свецка-мастацкай літаратуры, а пазней часткова пранікла і ў рэлігійную сферу. Царкоўнаславянская мова на працягу ўсяго старажытнага перыяду абслугоўвала рэлігійнае жыццё. З другой палавіны XVI ст. на Беларусі пачалі распаўсюджвацца польская і лацінская мовы, якія выкарыстоўваліся ў сферы справаводства і навукі. У выніку на Беларусі склалася своеасаблівая моўная сітуацыя, аналаг якой цяжка знайсці ў іншых частках тагачаснага славянскага свету,— пісьмовае чатырохмоўе з размежаваннем у сферы функцыяніравання.

Створаныя на Беларусі помнікі на беларускай, царкоўнаславянскай, польскай і лацінскай мовах якраз і ўтвараюць той складаны комплекс культурных здабыт-

каў, які зусім правамерна лічыць беларускай пісьменнасцю. Такія помнікі ствараліся ў большасці беларусамі, узнікалі на беларускай этнічнай тэрыторыі, адлюстроўвалі гістарычнае, культурнае і духоўнае жыццё беларускага народа, распаўсюджваліся сярод беларускага насельніцтва і з'яўляліся ў свет дзякуючы яго матэрыяльным выдаткам.

У вузкім сэнсе пад беларускай пісьменнасцю разумеюцца творы, напісаныя ў эпоху беларускай народнасці на беларускай мове ў адрозненне ад помнікаў на царкоўнаславянскай, польскай і лацінскай мовах. Іменна ў такім сэнсе і разумеецца паняцце «беларуская пісьменнасць» у гэтым даследаванні. Пры такім падыходзе, натуральна, у баку застаюцца помнікі на царкоўнаславянскай, польскай і лацінскай мовах.

Аднак і пры такім падыходзе даводзіцца сутыкацца з пытаннямі, якія могуць атрымаць рознае вырашэнне ў залежнасці ад метадалагічных прадпасылак даследчыка. Створаная ў мінулым на Беларусі пісьменнасць на польскай і лацінскай мовах сістэмай графічных, граматычных і лексічных сродкаў настолькі прыкметна проціпастаўляецца беларускай, што размежаванне іх практычна не стварае ніякіх цяжкасцей.

Затое даследчык аказваецца ў цяжкім становішчы пры адборы крыніц, напісаных кірыліцай,— беларускіх і царкоўнаславянскіх. У ранні перыяд паміж беларускай і царкоўнаславянскай мовамі ажыццяўлялася цеснае двухбаковае ўзаемадзеянне: у творы на беларускай мове ў значнай меры пранікалі граматычныя і лексічныя царкоўнаславянізмы, а беларускія рысы, у сваю чаргу, адлюстроўваліся ў царкоўнаславянскіх тэкстах. У асобных выпадках насычэнне беларусізмамі царкоўнаславянскіх твораў дасягае такой ступені, што часам наогул бывае цяжка вызначыць нават моўную аснову помніка і з упэўненасцю сцвярджаць, з беларускім ці царкоўнаславянскім тэкстам даводзіцца мець справу. Тыповымі ў гэтых адносінах можна лічыць перакладныя выданні беларускага першадрукара Ф. Скарыны, адносна мовы якога няма адзінства поглядаў і ў наш час. Адзіным крытэрыем, на падставе якога можна размежаваць беларускія і царкоўнаславянскія помнікі, застаецца моўны аналіз. Пры гэтым трэба мець на ўвазе, што для моўнага аналізу не маюць значэння і не павінны прымацца пад увагу нейтральныя моўныя рысы, якія атрымліваюць аднолькавае матэрыяльнае выражэнне ў абедзвюх

мовах. Затое ўлік з'яў, якія выражаюцца неаднолькавымі сродкамі ў беларускай і царкоўнаславянскай мовах, мае першаступеннае значэнне для размежавання помнікаў. Прымяненне гэтай методыкі дазволіла, напрыклад, вызначыць царкоўнаславянскую аснову скарынінскіх выданняў [1]. Трэба адзначыць, аднак, што праблема размежавання беларускіх і царкоўнаславянскіх помнікаў мае значэнне галоўным чынам для ранняга перыяду гісторыі беларускай пісьменнасці, калі ўзаемадзеянне паміж беларускай і царкоўнаславянскай пісьмовымі мовамі было асабліва глыбокім, што мела месца ў XV і першай палавіне XVI ст. У пазнейшы час, калі царкоўнаславянскі струмень у беларускай пісьменнасці быў зведзены да мінімуму, царкоўнаславянская мова на Беларусі пад уплывам рускай рэдакцыі вызвалілася ад беларусізмаў і стабілізавалася, для адрознення беларускіх тэкстаў ад царкоўнаславянскіх практычна дастаткова візуальнага азнаямлення.

Вельмі складанай з'яўляецца праблема размежавання беларускіх і ўкраінскіх помнікаў. З існуючай літаратуры па гэтаму пытанню відаць, што нацыянальная прыналежнасць помнікаў звычайна вызначаецца па адנаму з трох паказчыкаў: нацыянальнасць аўтара, месца ўзнікнення помніка і моўны аналіз, хоць асобныя даследчыкі па-рознаму ацэньваюць значэнне такіх паказчыкаў. У гэтым даследаванні аўтары за аснову ўзялі тэрытарыяльны крытэрый [2].

Крыніцамі даследавання паслужылі ў большасці фотакопіі і мікрафільмы арыгіналаў старабеларускіх рукапісных і друкаваных помнікаў, якія цяпер захоўваюцца ў бібліятэках і архівах Масквы, Ленінграда, Вільнюса, Рыгі, Кіева, Львова, Варшавы і Познані. Па зместу і моўных асаблівасцях гэтыя помнікі падзяляюцца на тры асноўныя жанрава-стылявыя разнавіднасці: канцылярска-юрыдычную, свецка-мастацкую і канфесіянальную.

Аўтары звярнулі ўвагу галоўным чынам на аналіз марфалагічных сродкаў змяняльных часцін мовы, зыходзячы з перакანання, што іменна на гэтым узроўні найбольш яскрава выяўляецца эвалюцыя пісьмовай мо-

---

[1] Жураўскі А. І. Мова друкаваных выданняў Ф. Скарыны // 450 год беларускага кнігадрукавання. Мн., 1968. С. 301—303.

[2] Абгрунтаванне гэтага крытэрыю дадзена ў першым выпуску «Гістарычнага слоўніка беларускай мовы» (Мн., 1982. С. 14—15).

вы і вынікі яе ўзаемаадносін з народнай беларускай мовай і роднаснымі літаратурнымі мовамі. У даследаванні звярталася ўвага пераважна на выяўленне стану і эвалюцыі асноўных ці варыянтных норм пісьмовай мовы ў галіне марфалогіі. Таму па-за ўвагай аўтараў заставаліся разнастайныя адзінкавыя моўныя факты, важныя пры вывучэнні гістарычнай граматыкі, але не маючыя значэння для выяўлення літаратурных норм у пісьменнасці таго ці іншага перыяду.

# *НАЗОЎНІК*

## *Граматычныя катэгорыі назоўнікаў*

У пачатковы перыяд развіцця старабеларускай літаратурна-пісьмовай мовы назоўніку ў цэлым былі ўласцівы тыя ж рысы, што і ў сучаснай беларускай мове. Як і зараз, назоўнікі ў залежнасці ад значэння падзяляліся на канкрэтныя і абстрактныя, уласныя і агульныя, адушаўлёныя і неадушаўлёныя, асабовыя і неасабовыя, зборныя і рэчыўныя. У марфалагічных адносінах яны характарызаваліся наяўнасцю катэгорый роду, ліку і склону. Аднак у межах асобных граматычных катэгорый былі значныя адрозненні, абумоўленыя тым, што сістэма назоўніка старабеларускай мовы, з'яўляючыся прадуктам рада эпох, захоўвала рэшткі архаічных асаблівасцей граматычнага ладу не толькі старажытнарускай, але нават і праславянскай мовы.

За перыяд развіцця беларускай мовы ўнутры граматычных катэгорый назоўніка адбыліся прыкметныя змены, звязаныя як з працягам працэсаў, якія пачаліся яшчэ ў старажытнарускую эпоху, так і з развіццём новых тэндэнцый на беларускай моўнай глебе. Разнастайныя зрухі ў межах граматычных катэгорый датычыліся або асобных рыс гэтых катэгорый, або ўсяго іх складу. На працягу XIV—XVIII стст. менш за ўсё змянілася катэгорыя роду, якая ўключала, як і зараз, назоўнікі трох родаў — мужчынскага, жаночага і ніякага. У выніку пэўных гістарычных прычын выявілася толькі змешванне ў родзе некаторых назоўнікаў, пераход іх з аднаго роду ў другі.

Выпадкі змешвання назоўнікаў у родзе знайшлі адлюстраванне ў помніках старабеларускай пісьменнасці розных жанраў на працягу ўсяго перыяду развіцця старабеларускай мовы. Сярод зафіксаваных у старажытных пісьмовых крыніцах паралельных утварэнняў, якія сведчаць аб змешванні тагачаснымі кніжнікамі назоўнікаў у родзе, трэба адзначыць такія найбольш ужывальныя сінанімічныя словаўтваральныя варыянты, як

*варъ || вара, завесъ || завеса, заслонъ || заслона, заставъ || застава, подпоръ || подпора, проступокъ || проступка, чудъ ||чудо:* вышло того вару пива гарцовъ пятьсоть (ИЮМ, III, 20, 1685) — тотъ пудъ вары отписуемъ на панихиды на конунъ по суботамъ (АСД, II, 12, 1537); двери безъ завѣсовъ (АВК, XIV, 641, 1599) — дверь безъ завѣсъ (АВК, XIV, 437, 1592); держат... таемно скрыте по*д* заслоно*м* (Валх., 87б) — гдь естъ заслоною твоею (Пс. XVII, 146б); сромота, леккос*т* то*т* прост8по*к* ѡ который бывае*т* скарга (Бяр., 178) — где жь б8де*т* прост8пъка по*д* которы*м* правомъ (Вісл., 26); того року велики*и* се чу*д* ста*л* (Бельск., 237) — ѡное ч8до птоломе*и* видѣлъ (Кн. Мак., 47б). З'яўленне гэтых разначасовых і рознамясцовых па паходжанню варыянтаў у помніках пісьменнасці пры адсутнасці кадыфікаваных даведнікаў па беларускай мове і пры неаднолькавым адукацыйным узроўні тагачасных аўтараў і перапісчыкаў было звычайнай з'явай.

Яшчэ больш шырока адлюстравалася ў старажытных беларускіх тэкстах XIV—XVIII стст. змешванне ў родзе запазычаных назоўнікаў, што можна тлумачыць рознымі шляхамі пранікнення іх у беларускую мову, а таксама рознай ступенню асваення іншамоўных слоў на беларускай глебе. У якасці прыкладаў можна прывесці зафіксаваныя ў пісьменнасці розных жанраў шматлікія паралельныя напісанні тыпу *адамашокъ || адамашка, барила || барило, бедевей || бедевея, высопъ || выспа, евангелие || евангелия, коневъ || конва, крамъ || крама, миртъ || мирта, паль || паля, ратушъ ||ратуша, семинариумъ || семинария, спациумъ || спация, сцептръ || сцептро, табакъ || табака, цехъ || цеха, чачокъ || чачка, ярмарокъ || ярмарка:* изъ ее скрыни адамашокъ мо*и* выняла (КСД, 1011, 1518) — саян дей дочъки моее адамашки гвоздиковое з аксамитом (АВК, XXXVI, 115, 1582); привезлъ барил8 велик8ю полн8ю ѡливы (Пралог, 647б) — в то*м* напрагн8въшисѧ ѡди*н* валъ з морѧ и выкине*т* ѡное барило (Зб. 82, 452б); одинъ есть высопъ (Царств., 79) — заплывъ до некоторои велми оздобнои и веселои выспы (Тр. гіст., 67); листы был онъ с краму взялъ (АВК, XXXVI, 232, 1582) — катерине отписую лавку, стоячую... водле крамы (ИЮМ, XXII, 214, 1626); шли за нами на ратушъ Пинскій (АСД, VI, 110, 1631) — я возный видел есми того Игъната въ вѣзенью мескомъ под ратушою (АВК, XXXVI, 133, 1582).

У радзе выпадкаў у старабеларускай пісьменнасці фіксуюцца напісанні, якія сведчаць аб змешванні пісцамі роду без змен у марфалагічным афармленні слоў. Найбольш часта змешваўся мужчынскі і жаночы род. Так, назоўнікі *жаль, лучъ, печь, тень, цель* у пісьмовых крыніцах розных жанраў, а часам і ў помніках, блізкіх па зместу, маглі выступаць то ў мужчынскім, то ў жаночым родзе: затаи*л* т8ю жа*л* в собѣ (Бельск., 157б) — ѡрачови тѧжъкии жа*л* задает (Зб. 259, 250б); пол8деннаѦ л8чь повъстанеть тобѣ (Скар. ІК, 16б) — роз8мныи*ж* б8д8ть сіати ѧко лоу*ч* нбсныи (Зб. 262, 12б); свѣтлица, въ ней печь бѣлый (АВК, VI, 57, 1589) — у светлицы печ полеваная вся збита (АВК, XXXVI, 67, 1582); вывѣ*л* и*х* ис тмы и тѣни смртныи (Каз. Кір., 22) — ѡбачыла тѣнь чоловѣчыи на земли (Трыст., 86); оусмотрѦю, мѣр8 до цѣли, гож8, змѣрѦю (Бяр., 136) — не трафишъ до целю та*к* за*ц*ного (Зб. 259, 577). Такое хістанне ва ўжыванні мужчынскага і жаночага роду адзначаных назоўнікаў было невыпадковым. Асноўнай прычынай непаслядоўнасці ў родзе была страта самастойнага тыпу назоўнікаў мужчынскага роду з асновай на ĭ (*гусь, тать*) і аб'яднанне іх з назоўнікамі на ŏ (*конь, отецъ*). Паколькі жаночы род назоўнікаў з былой асновай на ĭ (*кость*) захоўваў свае спецыфічныя асаблівасці, то ў народных гаворках непазбежна ўзнікалі ваганні. Імкненне старажытных кніжнікаў пазбегнуць гэтых ваганняў пры адсутнасці стабільных падручнікаў па беларускай мове прыводзіла нават да гіпернармалізмаў, калі словы жаночага роду ўжываліся ў мужчынскім, а назоўнікі мужчынскага роду з былой асновай на ŏ — у жаночым.

У працэсе гістарычнага развіцця беларускай мовы некаторыя назоўнікі наогул змянілі свой род. У прыватнасці, лексема *моль*, якая ў старабеларускі перыяд адносілася да мужчынскага роду, зараз выступае ў жаночым родзе. Слова ж *тваръ*, наадварот, змяніла жаночы род на мужчынскі. Па гэтай жа прычыне часам адны і тыя ж словы ў розных усходнеславянскіх мовах належаць да розных родаў. Прыкладам можа служыць ужыванне назоўнікаў *боль, жаль, мозоль, полынь, пыль, тень* у рускай мове ў жаночым родзе, тады як іх беларускія адпаведнікі *боль, жаль, мазоль, палын, пыл, цень* выступаюць у мужчынскім родзе. Увогуле ж адзначаныя

ваганні і змены ў дачыненні да ўсёй катэгорыі роду насілі прыватны характар. У цэлым катэгорыя роду на працягу шматвяковай гісторыі беларускай пісьменнасці не зазнала карэнных змен і ў асноўным засталася такой, якой была на пачатковым этапе.

Больш істотныя змены ў працэсе гістарычнага развіцця беларускай мовы закранулі катэгорыі ліку і склону і наогул усю сістэму скланення назоўнікаў. У катэгорыі ліку яны выразіліся ў страце парнага ліку, які спачатку ўжываўся нароўні з адзіночным і множным і выкарыстоўваўся пры абазначэнні парных прадметаў (*две руце, две нозе*), а таксама ў тых выпадках, калі гаварылася аб двух прадметах ці істотах, аднолькавых у якіх-небудзь адносінах (*два посла, две жене*), але паступова змяніўся формамі множнага ліку. У катэгорыі склону асноўны зрух выклікала разбурэнне так званай клічнай формы, якая на працягу доўгага часу ўжывалася побач з назоўным, родным, давальным, вінавальным, творным і месным склонамі пры абазначэнні асобы, да якой звярталіся (*пане, даниле, госпожо*), і паступова была выцеснена назоўным склонам, што стаў выступаць у якасці зваротка (працэсы страты склонавых форм парнага ліку і разбурэння клічнай формы ў беларускай мове аналізуюцца ў раздзеле «Скланенне назоўнікаў»).

## *СКЛАНЕННЕ НАЗОЎНІКАЎ*

Сістэма скланення назоўнікаў старабеларускай літаратурна-пісьмовай мовы склалася на базе старажытнарускай. У адрозненне ад апошняй, якая грунтавалася на асновах, уласцівых праславянскаму перыяду, і ў сувязі з гэтым характарызавалася больш шырокім разгалінаваннем тыпаў скланення, яна мела больш кампактны падзел, адпаведны рэальнаму стану мовы.

Працэс фарміравання сістэмы скланення назоўнікаў у старабеларускай мове быў складаным і працяглым. Асноўным напрамкам гэтага працэсу было вызваленне ад шматтыпнасці скланення і пераход да трох тыпаў скланення. Паколькі на працягу развіцця старабеларускай літаратурна-пісьмовай мовы працэс уніфікацыі скланення адбываўся пераважна ў межах асобных родаў, азнаямленне з сістэмай склонавых форм назоўнікаў у беларускай пісьменнасці XIV—XVIII стст. мэтазгодна праводзіць з улікам катэгорыі роду.

## АДЗІНОЧНЫ ЛІК

### *Формы назоўнікаў мужчынскага роду*

У назоўным склоне адзіночнага ліку назоўнікі мужчынскага роду незалежна ад таго, да якога тыпу скланення яны адносіліся ў папярэдні перыяд, ужываліся на ўсім працягу развіцця старабеларускай літаратурна-пісьмовай мовы з нулявым канчаткам. Выпадкаў ужывання словаформ тыпу *братъ, волъ, гай, день, жалобникъ, зверь, игуменъ, конь, лесъ, мещанинъ, народъ, олень, покой, промень, рогъ, сынъ, тивунъ, хлебъ, часъ, ѧсень* вельмі многа ў пісьмовых помніках розных жанраў: егож вмꙋчилъ дадиѧнъ брат мой (Чэцця, 31); ꙋмолотъ былъ среднии (Барк., 155); был бовѣмъ ден недѣлныи (Мам., 43); конь и оселъ и волъ нехай ѡтпочинеть (Каліст, 106б).

У такой жа форме выступалі і назоўнікі з былой асновай на зычны тыпу *камень, поломень (пламень), ремень,* якія ў старажытнарускую эпоху мелі ў назоўным склоне адзіночнага ліку канчатак *-ы* (*камы, пламы, ремы*): там камень наменший не зостанетъ (Валх., 81б); поломен выходил над печем (Біблія, 53б); ремень значит двѡхъ прироженій... взаемное злꙋчене (Каліст, 278б).

З ліку назоўнікаў мужчынскага роду вылучаліся толькі ўласныя імёны тыпу *Александро, Васко, Данилко, Захарко, Иванко, Марко, Микулко, ѡсташко, Пашко, Радивошко, Степанко, ѧндꙋшко* і агульныя назоўнікі *батько, дядько,* назоўны склон якіх афармляўся пры дапамозе канчатка *-о*. Асабліва вялікая колькасць такіх словаформ сустракаецца ў старабеларускіх дзелавых помніках пры апісанні бытавых з'яў і падзей: не присыловал ѡлександро того слишка (ПГ, І, 133, 1436); въ тую пивницу хоживалъ дядько мой (КЗ, 431, 1489); захарко а марко а есипъ а ѡвъсевеи на томъ присѧгнꙋли (КВЗС, 83б, 1533); на томъ тулковиску батько того замордованого знашолъ рукавицу (АВК, XVIII, 154, 1598). Гэта сведчыць аб наяўнасці такіх форм у жывой народнай мове таго часу, уплыў якой адчувала перш за ўсё дзелавая пісьменнасць.

Характэрнай асаблівасцю старабеларускай пісьмовай мовы з'яўлялася таксама спарадычнае напісанне ў некаторых перакладных помніках рэлігійных і свецкіх жанраў XV—XVII стст. асобных іншамоўных слоў мужчынскага роду, пераважна ўласных імён, з канцавымі

лацінскімі па паходжанню фармантамі *-усъ/-юсъ, -асъ* і трансфармаванымі на польскай глебе суфіксамі *-ушъ/-юшъ, -ашъ* тыпу *гебраисмусъ, гомерусъ, елисеюсъ, месиашъ, пардусъ, пашквилюсъ, пилатусъ, ромулюсъ, тибериюсъ, юбилеушъ:* рогатиною бок его ѡтворил лонкгиоус ритерь (Пак. Хр., 32); епистропус в седми наоуках навченыи (Троя, 14б); з насѣнѧ его мѣлъ повстати Месіашъ (Каліст, 38б); есть то гебраисмꙋс (Выкл., 38). Але гэта асаблівасць вялікага пашырэння ў старабеларускай мове не атрымала, бо ў працэсе марфалагічнай адаптацыі іншамоўных слоў не ўласцівыя беларускай марфалагічнай сістэме суфіксы звычайна адпадалі, уступаючы месца ўсечаным формам тыпу *гебраизмъ, гомеръ, месиѧ, пашквиль,* якія ў структурных адносінах нічым не адрозніваліся ад уласна беларускіх лексем мужчынскага роду; параўн.: ꙋже настал ѡбецаныи месиѧ (Зб. 81, 200); то гебраизмъ (Выкл., 102б) і інш.

У родным склоне адзіночнага ліку назоўнікі мужчынскага роду афармляліся пры дапамозе канчаткаў *-а/-я* і *-у/-ю.* Сфера размеркавання гэтых канчаткаў залежала ад прыналежнасці назоўнікаў да пэўных граматычных катэгорый і семантычных груп. Так, адушаўлёныя назоўнікі, акрамя зборных, нягледзячы на тое, да якіх асноў яны адносіліся ў папярэднюю эпоху, на працягу ўсяго перыяду развіцця старабеларускай мовы ўжываліся ў пісьмовых помніках розных жанрава-стылявых разнавіднасцей выключна з традыцыйным канчаткам *-а/-я.* Толькі гэты канчатак мелі ў родным склоне імёны і прозвішчы людзей (*адама, витовта, димитреѧ, радивила, степана, федора*), назвы асоб па адміністрацыйных пасадах, роду заняткаў, сацыяльнаму становішчу, светапогляду, сваяцкіх адносінах, духоўных якасцях (*брата, ворога, гетмана, должника, енерала, збавителѧ, игумена, ковалѧ, маршалка, наместника, посла, рыболова, сына, тивуна, холопа*), а таксама назвы жывёл (*вепра, вола, зубра, конѧ, ужа, ѧстреба*): колиж ѡт нас алюбо ѡт нашег пана нам послꙋшног кметь оутечеть (Вісл., 39); ставилъ шапъкꙋ до тивꙋна владычного а до пана мара а до стасѧ (КВЗС, 54б); за сына мѣт бꙋде (Бельск., 27); ѧстреба летѧчог прꙋдкости залецает (Зб. 259, 555б).

У катэгорыі адушаўлёных назоўнікаў сваёй спецыфікай, як мы адзначылі, вылучаліся толькі словы са зборным значэннем, якія ў старабеларускай мове вельмі рана набылі новы канчатак *-у/-ю.* Праўда, у пісьмовай

мове на раннім этапе развіцця старабеларускай пісьменнасці формы на *-у/-ю* выкарыстоўваліся яшчэ непаслядоўна. Разнабой у афармленні роднага склону гэтай групы назоўнікаў асабліва відавочны ў такіх пісьмовых крыніцах рэлігійнага прызначэння канца XV — першай палавіны XVI ст., як Пакуты Хрыста, Аповесць аб трох каралях-валхвах, Зборнік біблейскіх кніг № 262, дзе адны і тыя ж зборныя назоўнікі характарызуюцца ў родным склоне дваякім афармленнем — *гада || гаду, люда || люду, скота || скоту*: молвить аньсемоус ѡ шалености люда того (Пак. Хр., 9б) — миръ тобе пане іѡсеп почестливыи и ѡто всего людоу нашого (там жа, 36б); было скота его семъ тисѧч ѡвець (Зб. 262, 12) — наоучаеть насъ ѡт скотꙋ земли (там жа, 27) і інш. Частковае захаванне форм на *-а* ў адзначаных помніках тлумачыцца царкоўнаславянскім уплывам, а не ўздзеяннем жывога вымаўлення, бо ў дзелавых і свецкіх помніках таго часу, якія не мелі царкоўнаславянскіх узораў, пры афармленні зборных адушаўлёных назоўнікаў выступае амаль выключна канчатак *-у/-ю*: з людꙋ своего зрѧдил двадцать и четыри шпици (Троя, 37); вступа жадъного в тыи земъли не мають мети и кꙋницꙋ и белокъ и никоторого зверꙋ не гонити (КВЗС, 122б). У далейшым канчатак *-у/-ю* ў родным склоне зборных адушаўлёных назоўнікаў мужчынскага роду становіцца нормай незалежна ад таго, да якога тыпу літаратурна-пісьмовай мовы адносіцца даны помнік: маетьность роздавати моцъни и вольни бꙋдемь людемъ народꙋ шлѧхетского (Трыб., 13б); зготовал много людꙋ (Алекс. XVII, 16б); великое мнозство иншого звѣрꙋ ѡфѣровали (Варл., 265); в том колодезю велми было полно гадꙋ (Зб. 752, 3).

Сярод неадушаўлёных назоўнікаў мужчынскага роду з канчаткам *-а/-я* нязменна на ўсім працягу развіцця старабеларускай літаратурна-пісьмовай мовы ўжываліся толькі назвы месяцаў — *августа, апрелѧ, груднѧ, июлѧ, июнѧ, липца, марца, маꙗ, ѡктебра, паздерника, сентебрѧ, стычнѧ, февралѧ*: мца генварѧ (Гр. 1465); мца маꙗ шостого днꙗ (КВС, 447); мсца паздерника ꙋмеръ витовтъ (Царств., 76); народиласꙗ пречистаꙗ дѣва... ѡсмого днꙗ сентꙗбра (Зб. 255, 314б). У іншых жа прадметна-тэматычных разрадах неадушаўлёных назоўнікаў паступова ўсё большае пашырэнне пад непасрэдным уплывам жывога вымаўлення пачынаюць набываць формы на *-у/-ю*.

Распаўсюджанне форм на *-у/-ю* ў помніках старабе-

ларускай пісьменнасці сутыкалася, аднак, з пэўным супраціўленнем з боку пісьмовых традыцый. Так, на раннім этапе развіцця старабеларускай літаратурна-пісьмовай мовы новы канчатак *-у/-ю* выступаў яшчэ ў пісьмовых крыніцах параўнальна рэдка: немцѣмъ дати вѣсчего *ѡт* бѣрковьска заоушнѦ ѡт воску (ПГ, I, 39, 1341); не имають збытъкȣ (Вісл., 25б); не ꙗвить людем въ ѡтечствии своемъ такоɣ великого скарбȣ (Чэцця, 54б). Звычайна не толькі ў рэлігійных, але і ў дзелавых і свецкіх пісьмовых крыніцах XIV—XV стст. пануючае становішча займаюць формы тыпу *ада, блуда, востока, гнева, греха, духа, закона, мира, ѡброка, покоꙗ, початка, раꙗ, розума, сорома, страха*: к тои реце никому прихода нетъ (Гр. XIV); *ѡт* веса оузѦт по старому закону (Гр. 1405); наши подданыи держалі посполноɣ ѡбычаꙗ (Вісл., 40); закона своеɣ лишени боудете (Чэцця, 25). У некаторых помніках, нават у такім лепшым узоры свецкай пісьменнасці другой палавіны XV ст., як Віленскі спіс летапісу, формы на *-у/-ю* зусім адсутнічаюць.

Аб ужыванні форм на *-у/-ю* як факультатыўнай норме старабеларускай пісьменнасці, па сутнасці, можна гаварыць толькі ў дачыненні да пісьмовых крыніц, якія ўзніклі на рубяжы XV—XVI стст. У помніках свецкіх жанраў гэтага часу, напрыклад у Александрыі, формы тыпу *бою, краю, ѡброку, суду* нават пераважаюць: далеи краю не ходи (1), принесли емȣ... л҃ тисѦчь иных многих речеи *ѡт* сȣдȣ многоценнаго (2). Напісанні з канчаткам *-а/-я* тут сустракаюцца толькі ў адзінкавых выпадках: рекам четырем послѣдовал есми иже... из раѦ текоут (1).

Канчатак *-у/-ю* ў родным склоне неадушаўлёных назоўнікаў мужчынскага роду пачынае займаць раўнапраўнае становішча з канчаткам *-а/-я* і ў помніках рэлігійных жанраў. Так, у вядомых перакладных апакрыфічных творах канца XV ст. Пакуты Хрыста, Аповесць аб трох каралях-валхвах і ў агіяграфічным Жыціі Аляксея, чалавека божага побач з традыцыйнымі формамі тыпу *востока, голоса, духа, жемчуга, закона, зачинка, ѡгорода, ѡкруга, початка, рима, рожаꙗ, света, титула, ума* не менш шырока выступаюць у родным склоне назоўнікі на *-у/-ю*. Часцей за ўсё гэты канчатак маюць назоўнікі з рэчыўным, зборным і адцягненым значэннем накшталт *балсаму, блуду, веку, ветру, гуку, запаху, ладану, маистату, мармуру, морозу, пороху, раю, смутку*, як у выпад-

ках: голосоу не да*л* (Пак. Хр., 10б); ми да*л* ѡлѣю (там жа, 26б); много лноу ростеть (Валх., 70б); того же законоу и тог*ож* оумыслоу была (Жыц. Ал., 97). У выніку такой арфаграфічнай неўнармаванасці часам твараецца пэўны разнабой пры напісанні адных і тых жа слоў: *всхода* // *всходу, гнева* // *гневу, года* // *году, гроба* //*гробу, закона* // *закону, ѡбычаѧ* // *ѡбычаю, розума* // *розуму, часа* // *часу.* Такім жа разнабоем характарызуецца ў гэты час афармленне роднага склону неадушаўлёных назоўнікаў і ў дзелавой пісьменнасці, напрыклад у Кнізе маршалкоўскага суда, дзе побач з ужытымі пад уздзеяннем жывога вымаўлення словаформамі с того бою (29б), после то*г* грабежȣ (3б), повету слонимского (41б), сего годȣ (86б), по*д*лугъ и*х* записȣ (91б) значнае месца займаюць і напісанні традыцыйнага характару: ȣ листа ку*п*чого (29), ме*н*ского повѣта (87), во*д*лугъ ѡбычаѧ (116б).

У беларускай літаратурна-пісьмовай мове XVI—XVII стст. пры афармленні роднага склону неадушаўлёных назоўнікаў мужчынскага роду, як і ў папярэдні перыяд, ужываліся абодва канчаткі. Аднак у гэты час вядучую ролю ва ўсіх без выключэння жанрава-стылявых разнавіднасцях старабеларускай пісьменнасці набыў канчатак *-у/-ю*. Сфера яго ўжывання пашырылася амаль на ўсе семантычныя разрады назоўнікаў.

Тэндэнцыя да выцяснення канчатка *-а/-я* канчаткам *-у/-ю* ў родным склоне неадушаўлёных назоўнікаў мужчынскага роду, якая выразна праявілася ў беларускай пісьмовай мове канца XV — пачатку XVI ст., знайшла сваё далейшае развіццё перш за ўсё ў групах рэчыўных, зборных і абстрактных назоўнікаў. Асабліва трывала замацаваўся ў беларускай пісьменнасці XVI—XVII стст. канчатак *-у/-ю* ў родным склоне назоўнікаў з рэчыўным значэннем, а таксама ў словах са значэннем матэрыялу, з якога зроблены прадмет, у сувязі з чым звычайнымі сталі напісанні *бобу, воску, гороху, льну, маку, меду, перцу, песку, попелу, пороху, свинцу, туку, шолку, ѧду, ѧчменю*: ѡнъ седить посереді попелȣ (Зб. 262, 12б); взѧли... два ѳȣнъты порохȣ три ѳȣнъты свинъцȣ (КВЗС, 71б); с клети воскȣ полъкаменѧ сорочъки простицы и инъшые речы выграбити каза*л* (КВС, 518б); ечменю копа десеть грошe*и*, ѡркишȣ копа десеть грошe*и* (Ст. 1588, 514). Звяртае на сябе ўвагу тая акалічнасць, што канчатак *-у/-ю* становіцца нормай у гэтай групе

назоўнікаў не толькі ў спрадвечна славянскіх, але і ў запазычаных словах, аб чым сведчаць напісанні тыпу *адаманту, аксамиту, аматисту, жемчугу, кармазину, кгранату, кристалю, мосѧзу, пастернаку, смарагду, шарлату, ѧхонту:* дорожеи ѡна женч8гоу (Зб. 262, 94); взѧто с8кню п8рпурыѧн8 серого (КВС, 444б); пастернак8 бочка шесть грошеи (Ст. 1588, 515); столец ѡного маестату был з смарагд8 (Алекс. XVII, 43б). Словы гэтай семантычнай катэгорыі з канчаткам *-а/-я* сустракаюцца толькі спарадычна: голени его столпы маръм8ра (Зб. 262, 85); стѣны его з топазиѡна по всѣх стопнѧх были (Алекс. XVII, 43б).

Аналагічнае становішча назіраецца ў старабеларускай пісьменнасці XVI—XVII стст. і пры афармленні роднага склону назоўнікаў са зборным значэннем. Арфаграфічную норму сярод іх складаюць формы з канчаткам *-у/-ю* тыпу *бору, гаю, глоду, гуфу, збору, зъезду, лесу, мху, ѡбозу, ѡгороду, саду, сойму, товару, хворосту:* вшитци венцеишии панове з г8ө8 сошлисѧ (Троя, 10б); р8бежи поклали... по краи мх8 (КВЗС, 120); идеть граница дорожкою в конецъ бор8 (ККСС, 27, 1615); вышолъ з 8чениками своими до ѡгород8 ѡливъног (Зб. 259, 632б). Выпадкі ўжывання зборных назоўнікаў з канчаткам *-а/-я* зусім нешматлікія: не мѣл лѣса (Ст. 1529, 192); пришолъ до ѡног ѡгорода (Зб. 259, 633).

Вельмі шырока адлюстроўваюцца ў помніках старабеларускай пісьменнасці XVI—XVIII стст. абстрактныя назоўнікі з канчаткам *-у/-ю*. У пісьмовых крыніцах усіх жанраў, створаных у гэты перыяд, ужываюцца формы *взроку, голосу, греху, долгу, духу, закону, звычаю, периоду, проку, простору, роду, рожаю, розуму, свету, скутку, способу, сродку, стану, тежару, фалшу.* Асабліва багаты матэрыял такога роду змяшчаюць помнікі палемічнай і канфесіянальнай літаратуры канца XVI—XVIII ст., разнастайны змест якіх даваў большыя магчымасці для выкарыстання абстрактнай лексікі ў параўнанні з дзелавымі і свецкімі пісьмовымі крыніцамі, звязанымі з апісаннем будзённых жыццёвых спраў: не б8деть прок8 злом8 (Зб. 262, 105б); верънѣтесѧ до бачен*ѧ* и роз8м8 (Бер. саб., 13б); способ8 не вѣдала (Зб. 259, 534); не отрим8етъ ѡтп8щенiѧ грѣх8 (Зб. вып., 36). Затое ў беларускай дзелавой і свецкай пісьменнасці сустракаецца вялікая колькасць напісанняў з канчаткам *-у/-ю* ў адцягненых аддзеяслоўных утварэннях тыпу *бою, вдару, вступу, выпису, выроку, грабежу, дару, до-*

*воду, запису, кгвалту, крику, лупу, ѡтказу, пожытку, позву, поклону, розбою, спадку, торгу, утиску:* бою не было (Ст. 1529, 207); водл8гъ выст8п8 своего сказыванъ и каранъ быти маеть (Трыб., 9б); на то домысл8 людского не стане (Бельск., 4б); не было имъ вылаз8 (Кн. Мак., 46).

Асноўнай арфаграфічнай нормай роднага склону стаў канчатак *-у/-ю* ў пэўных семантычных групах абстрактных назоўнікаў мужчынскага роду. У прыватнасці, ва ўсіх жанрава-стылявых разнавіднасцях старабеларускай пісьменнасці амаль выключна пры дапамозе гэтага канчатка афармляюцца назоўнікі *веку, вторку, году, понеделку, поранку, року, часу, четвергу,* якія абазначаюць дні тыдня і час: час8 ночного то дело превеченого оуделали (Троя, 16); к8хъмистръ маеть тот дворъ и тое именье деръжати до др8гого божего нароженьѧ ѡтъ рок8 до рок8 (КВС, 484); то вжо до др8гого год8 ѡтложытисѧ мает (Трыб., 10б); свѣт не был ѡт вѣку (Выкл., 1б). Гэты ж канчатак з'яўляецца асноўным і пры напісанні назоўнікаў, што абазначаюць з'явы прыроды — *ветру, вихру, громоту, грому, дожчу, жару, инею, мроку, ѡболоку, потопу, снегу:* которыи боѧтсѧ инею, падеть на тыхъ снегъ (Скар. KI, 11); покрыи ми его добрым сукномъ длѧ дождчу и длѧ вѣтру (Трыст., 23); длѧ снѣгу и длѧ великого зимна 8мерло драбов пѧтсотъ (Алекс. XVII, 31); жадног громот8 слышат не было (Зб. 259, 582б). Амаль паслядоўна канчатак *-у/-ю* ўжываецца і пры афармленні групы назоўнікаў тыпу *болю, встыду, гневу, голоду, гонору, жалю, плачу, смеху, смутку, сну, страху, стыду, фрасунку,* якія абазначаюць пачуцці, перажыванні, псіхічна-фізіялагічны стан: помлѣли з голод8 (Зб. 262, 111б); не надеваюсѧ доити сорому (Трыст., 48); зо сн8 повстала (Алекс. XVII, 2б); затл8ми ѡныи гоиныи дожъдъ слезъ и плач8 (Зб. 259, 9).

Такім чынам, выкарыстанне для афармлення роднага склону абстрактных назоўнікаў мужчынскага роду канчатка *-а/-я* займае ў пісьмовых помніках XVI—XVIII стст. нязначнае месца. У некаторых выпадках формы на *-а/-я* сустракаюцца паралельна з формамі на *-у/-ю* ў помніках рэлігійных і свецкіх жанраў: не маю грѣха (Зб. 262, 26); гекторъ... великостью гнева своего многи греки побил (Троя, 46); 8чылъ нас к8 досконалости жывота д8ховног тегнут (Зб. 255, 22б). Гэта тлумачыцца тым, што рэлігійныя і свецкія пісьмовыя крыніцы больш трывала ў параўнанні з дзелавой пісьменнасцю

зберагалі арфаграфічныя традыцыі і ў большай меры падвяргаліся ўздзеянню з боку царкоўнаславянскіх правапісных прыёмаў. У дзелавых жанрах некаторая непаслядоўнасць у афармленні роднага склону абстрактных назоўнікаў мужчынскага роду назіраецца ў больш ранніх кнігах і дакументах, напрыклад у Кнізе Віцебскага земскага суда 1533—1540 гг., дзе побач аналагічныя або нават адны і тыя ж словы часам могуць афармляцца па-рознаму, хоць увогуле перавага аддаецца канчатку *-у/-ю*: ѡни мают... входы мети по*д*лȣгъ ѡбычаю тȣтошънего (115) — мы маемъ сказаньемъ вчинити во*д*ле бегȣ и ѡбыча▪ права (144б); встȣпȣ черезъ тȣю границȣ рекȣ че*р*ницȣ ни л▪*д* ни сеножате*и* ни бо*р*те*и* нетъ (118) — встȣпа никоторого ни л▪ *д* ни сеножате*и* ни бо*р*те*и* нетъ (119). У беларускай дзелавой пісьменнасці пазнейшага перыяду абстрактныя назоўнікі з канчаткам *-а/-я* ў родным склоне сустракаюцца настолькі рэдка, што на фоне напісанняў з *-у/-ю* здаюцца амаль непрыкметнымі.

Канчатак *-у/-ю* ў родным склоне выступае асноўнай арфаграфічнай нормай старабеларускай літаратурна-пісьмовай мовы XVI—XVIII стст. і неадушаўлёных назоўнікаў мужчынскага роду іншых прадметна-тэматычных разрадаў і груп. Найбольш паказальнай у гэтых адносінах з'яўляецца група назоўнікаў, якія абазначаюць геаграфічныя назвы — *вавилону, дамаску, дону, египту, иерусалиму, коринту, лавренту, нилу, новагороду, перекопу, рыму, сихему, тибру, толесу, царьгороду*. Яны ўжываюцца звычайна з прыназоўнікамі: до толесу мѣста т.ѧгнулъ (Атыла, 200); з римȣ выпȣстити не хочено (Апакр., 12); пошли до дамаску (Біблія, 422); пришли ажь до ефронȣ (Хран., 482). Асаблівасцю гэтай групы назоўнікаў з'яўляецца тое, што асноўнай сферай іх адлюстравання была канфесіянальная і свецкая пісьменнасць, асабліва творы, прысвечаныя апісанню падзей і здарэнняў біблейскага і гістарычнага характару. А як вядома, у помніках рэлігійнага і свецкага характару пэўная даніна аддавалася і традыцыйным напісанням з *-а/-я*: до иерȣсолима се квапи*л* (Алекс. XVII, 6); посла*л* его зв▪заного до вавилона (Кн. Мак., 66); оучоныхъ прислать до егѵпта рачилъ (Хран., 442). Аднак унутры самой групы перавага належала напісанням з *-у/-ю*.

З ліку неадушаўлёных назоўнікаў мужчынскага роду характарам афармлення роднага склону вылучаецца разрад слоў, што абазначаюць канкрэтныя прадметы і

рэаліі. У помніках старабеларускай пісьменнасці яны часцей, чым іншыя групы неадушаўлёных назоўнікаў, выступаюць з канчаткам *-а/-я,* як у формах *воза, квита, келиха, корабл*ѧ, *корда, крижа, листа, лука, меча, мушкета, панцер*ѧ, *перстен*ѧ, *поѧса, рога, сапога, серпа, стола, столпа, струга, шатра:* ѡк8пит ѡт смерти и в-воинѣ ѡт р8кы меча (Зб. 262, 14); люд на валку шол не збройныи не потребуючи ни панцерѧ ни лапки ни тарчи (Троя, 33); взѧли... з воза кож8хъ (КВЗС, 71б); в чюжее жниво серпа своего не впоущалъ (Апакр., 38). Аднак даволі выразна ў якасці факультатыўнай нормы тут практыкуецца і афармленне роднага склону пры дапамозе канчатка *-у/-ю*: мост8 не мощивалъ (КВЗС, 108б); ѧкбы ѡдрентвѣлыи сидѣлем 8 столу (Дыяр., 149); приплыли до берег8 (Зб. вып., 34). Гэта сведчыць аб значным пашырэнні канчатка *-у/-ю* ў вуснай мове таго часу, чаго не было раней, бо ў старажытнарускай і ранняй старабеларускай пісьменнасці пры афармленні роднага склону канкрэтных назоўнікаў трывала захоўваўся яшчэ канчатак *-а/-я.*

Такім чынам у перыяд развіцця старабеларускай літаратурна-пісьмовай мовы назоўнікі мужчынскага роду незалежна ад таго, да якіх асноў адносіліся ў праславянскі перыяд і якія канчаткі мелі ў старажытнарускай пісьменнасці, выступалі ў родным склоне адзіночнага ліку з канчаткамі *-а/-я* і *-у/-ю.* Ступень пашырэння кожнага з іх залежала ад катэгорыі адушаўлёнасці-неадушаўлёнасці, ад прыналежнасці асобных назоўнікаў да пэўных семантычных разрадаў і груп. Аднак неабходна адзначыць, што ў асобных пісьмовых помніках беларускай пісьменнасці ў назоўніках пэўных катэгорый можна сустрэць яшчэ адзінкавыя выпадкі ўжывання старых форм. Спарадычным архаічным афармленнем характарызуюцца часам назоўнікі *день (полудень), камень,* якія паходзяць з былых асноў на зычны, і слова *путь,* што некалі адносілася да асновы на *ĭ.* Сферай іх фіксацыі з'яўляюцца пераважна раннія пісьмовыя помнікі рэлігійных і свецкіх жанраў, што ў пэўнай ступені адлюстроўваюць вынікі частковага захавання літаратурна-пісьмовай мовай старых традыцый і царкоўнаславянскага ўплыву, напрыклад Чэцця (1489): тако потече и до нынешнег дне (10); Александрыя канца XV ст.: принесли ем8 стѣм8 пором8 ѡт камени самфира (2); Зборнік біблейскіх кніг пачатку XVI ст. № 262: чл҃къ

бл8дит ωт п8ти роз8много (104). Падтрымкі з боку жывога вымаўлення такія формаўтварэнні, зразумела, ужо не мелі. Ды і ў пісьмовай мове яны выглядаюць апіскамі на фоне напісанняў тыпу *днѧ*, *каменѧ*, *путѧ*.

У афармленні д а в а л ь н а г а склону адзіночнага ліку назоўнікаў мужчынскага роду старабеларуская літаратурна-пісьмовая мова працягвала і развівала тэндэнцыі, якія зарадзіліся ў старажытнарускай пісьменнасці. Услед за старажытнарускай мовай, дзе ў сувязі з перабудовай сістэмы скланення назоўнікаў і заменай старога падзелу назоўнікаў па асновах падзелам па родах адбылася уніфікацыя канчаткаў, старабеларуская мова выкарыстоўвала ў давальным склоне амаль выключна канчаткі *-у/-ю* і *-ови/-еви*.

Ступень пашырэння кожнага з гэтых канчаткаў (*-у/-ю* ці *-ови/-еви*) у давальным склоне назоўнікаў мужчынскага роду залежала ў старабеларускай пісьменнасці ўжо не ад былых асноў, а ад прыналежнасці назоўнікаў да пэўных граматычных катэгорый, ад часу і месца напісання помнікаў, іх жанрава-стылявой характарыстыкі і ад ступені ўздзеяння на іх мову іншамоўных стыхій. Так, у ранні перыяд развіцця старабеларускай літаратурна-пісьмовай мовы разнастайныя помнікі дзелавых жанраў для афармлення давальнага склону неадушаўлёных назоўнікаў выкарыстоўваюць толькі канчатак *-у/-ю*, у сувязі з чым тут звычайнымі з'яўляюцца напісанні *бою, весу, выезду, концу, лугу, миру, ωтказу, полоцку, привилью, роду, рубежу, столпу, суду, товару*: чстъ путь его товару на ωбѣ сторонѣ и его животу (Гр. 1407); хто б8дет позван протівъ своем8 прівилю (Вісл., 26); тые люди жив8ть по самом8 р8беж8 новъгородском8 (ККК, 166, 1486); ꙗ сꙗ к том8 бою не знаю (КВЗС, 88, 1533). Пераважна з канчаткам *-у/-ю* ўжываюцца ў беларускай дзелавой пісьменнасці XIV—XV стст. і адушаўлёныя назоўнікі мужчынскага роду, перш за ўсё лексемы са значэннем асобы і ўласныя імёны — *брату, видиблѧнину, герасиму, епископу, игумену, наместнику, пану, петру, полочанину, рижанину, федору*: слюбуемъ нашему брату кнѧзю Скиригкаилу (ПГ, I, 50, 1387); вѣсебиое имати вѣсцю как оу полоцку на рижѧнех емлют (Гр. 1407); пану буръмистр8 и рѧдцамъ и всѣм мѣщаном ризког мѣста поклон (Гр. 1465); пан8 ꙗк8б8 довоинович8 дал сорокъ золотых (ККК, 16, 1482). Аднак зрэдку сустракаюцца тут і напісанні з *-ови/-еви:* мы оу ризе руському купьцеви тако же чинимъ (Гр. 1405); станъце-

ви полътина з винъ в жижморехъ (ККК, 23, 1486). З усіх дзелавых помнікаў XV ст. характарам ужывання канчаткаў *-у/-ю, -ови/-еви* вылучаецца толькі перакладны Вісліцкі статут, дзе новы канчатак *-ови/-еви* ў давальным склоне адушаўлёных назоўнікаў ужо значна пераважае. Ён з'яўляецца тут граматычнай нормай ва ўласных імёнах і словах са значэннем асобы — *владареви, дiакови, кролеви, матееви, миколаеви, ѡндрееви, пастухови, приıателеви, писареви, речникови, служебникови, фалкови, францикови, шкодникови, юрьеви:* таꙗ рана есть указана сл8жебникови (19); прiıателеви конѦ позычилъ (23б); мы сказ8емъ паст8хови прiсѦч (27). З канчаткам *-у/-ю* адушаўлёныя назоўнікі сустракаюцца ў гэтым помніку толькі ў некалькіх выпадках: вароваласѦ своем8 с8сед8 шкоды чiнит (25); тот члвкъ имееть ѡсветчит биск8п8 краковском8 (38). Бясспрэчна, канчатак *-ови/-еви* ў Вісліцкім статуце ўжываўся пад уплывам аналагічных форм польскага арыгінала, а не жывога беларускага вымаўлення. Гэта можна пацвердзіць хоць бы тым, што для арыгінальных дзелавых помнікаў нават першай чвэрці XVI ст. канчатак *-ови/-еви* не быў яшчэ характэрны. У прыватнасці, ён зусім не адзначаецца ў Кнізе маршалкоўскага суда 1510—1517 гг., дзе звычайна выступаюць формы *артему, брату, воитеху, десѦтнику, королю, листу, маршалку, небожчыку, пану, писарю, предку, сестренцу, тивуну, товаришу.* Граматычнай нормай з'яўляецца канчатак *-у/-ю* таксама ў Статуце Вялікага княства Літоўскага 1529 г., у якім адушаўлёныя назоўнікі мужчынскага роду фіксуюцца ў давальным склоне амаль выключна ў выглядзе *врѦднику, гетману, жалобнику, земѦнину, младенцу, мужику, мужу, наместнику, ѡпекуну, паробку, потомку, приıателю, суседу, человеку.* Усяго некалькі выпадкаў афармлення давальнага склону адушаўлёных назоўнікаў мужчынскага роду пры дапамозе канчатка *-ови/-еви* сустракаецца таксама ў Кнізе Віцебскага земскага суда 1533—1540 гг.: *салчееви* и его людемъ и земъли на тотъ жо рокъ мають розделити (70); васкови тотъ ермонъ ѡн8ю сорокъ грошеи мает заплатити (95б). Звычайна ж тут, як і ў іншых дзелавых пісьмовых крыніцах, пануючае становішча займаюць формы накшталт *брату, василью, господару, дмитрею, ивану, королю, миколаю, наместнику.*

Не заставалася ў баку ад адлюстравання агульнага працэсу пашырэння канчатка *-ови/-еви* замест *-у/-ю* ў

давальным склоне назоўнікаў мужчынскага роду і старабеларуская свецкая пісьменнасць. Прычым, як і ў дзелавой пісьменнасці, ва ўжыванні гэтых канчаткаў адчуваецца дыферэнцыяцыя ў залежнасці ад уздзеяння разнастайных фактараў унутрымоўнага і экстралінгвістычнага характару. Так, у беларускіх летапісах і перакладных свецкіх помніках XV — першай палавіны XVI ст. неадушаўлёныя назоўнікі мужчынскага роду маюць у давальным склоне толькі канчатак *-у/-ю*, аб чым сведчаць ужытыя ў іх формы тыпу *берегу, бою, городу, гуѳу, ѡстатку, приезду, року, ужитку:* поидѣ къ градȣ рши (Віл., 450); с своими корабли к берегȣ приплынули (Троя, 22) і інш. Пры напісанні ж у давальным склоне адушаўлёных назоўнікаў заўважаецца пэўны разнабой. Адны пісьмовыя крыніцы фіксуюць толькі формы на *-у/-ю*, напрыклад Александрыя канца XV ст., для якой характэрны напісанні *александру, пору, царю:* мыслили александра црѦ выдати индиискомȣ црю пороу (1б); поклонилисѦ александрȣ (2б). У другіх свецкіх помніках, напрыклад у Віленскім спісе летапісу, пануючае становішча займаюць назоўнікі з канчаткам *-у/-ю:* сыноу своемȣ (439б), витовтȣ (440б), к великомȣ кнзю (443), писа грамоту брату (448б), а формы на *-ови/-еви* ўжываюцца зусім рэдка: великомȣ кнзюви (443). Затое перакладзеная ў пачатку XVI ст. на беларускую мову з польскага або чэшскага арыгінала «Траянская гісторыя» адлюстроўвае канчатак *-ови/-еви* ў давальным склоне назоўнікаў мужчынскага роду са значэннем асобы даволі шырока, аб чым сведчаць уласцівыя гэтаму помніку формы тыпу *акгаменонови, гекторови, королеви, мериѡнови, приѧмови, протосмȣсови, ремови, ѳилименови:* оумееш добре радить королеви своему (2б); велми гневливе напротивку гекторови рек (41); акгаменови не было доброволность ани моць (61б). Канчатак *-у/-ю* сустракаецца ў гэтай групе слоў больш абмежавана: пану присѦгнули правдȣ и послушенство держат (9б); тисѦчу рыцеров... полецил под гетманство тесеȣсȣ королю трацыискому (31). У гэтым помніку, як і ў Вісліцкім статуце, безумоўна, адбіўся польскі граматычны ўплыў.

У параўнанні з дзелавой і свецкай пісьменнасцю XIV — першай палавіны XVI ст. у старабеларускіх рэлігійных помніках гэтага часу магчымасцей для адлюстравання новай формы на *-ови/-еви* было яшчэ менш, бо

рэлігійныя жанры наогул характарызаваліся больш трывалым захаваннем старажытных пісьмовых традыцый. Акрамя таго, выкарыстанне кожнай з дзвюх форм знаходзілася тут у залежнасці ад ступені царкоўнаславянскага ўплыву, ад сілы польскага моўнага ўздзеяння і іншых экстралінгвістычных фактараў. Напрыклад, у Чэцці 1489 г., дзе вельмі выразна адбіўся царкоўнаславянскі моўны ўплыў, афармленне давальнага склону праводзіцца па традыцыі пры дапамозе канчатка *-у/-ю* ў назоўніках як неадушаўлёных, так і адушаўлёных, аб чым сведчаць шырока распаўсюджаныя тут словаформы *адаму, архипу, грешнику, дому, дъꙗволу, миру, панамарю, рабу, родителю, семиону, феологу, ꙗзыку:* почалъ говорити къ семионоу (3); глаша к народоу (10); пришол ꙗкимъ к дому своемȣ (15б). Назоўнікі давальнага склону з канчаткам *-ови/-еви.* сустракаюцца ў гэтым помніку надзвычай рэдка: ωна вкȣсила ωт того дерева и дала моужеви своемȣ адамоу (18); прислалъ ꙗрославъ ко глѣбови (244).

Некалькі іншае становішча ў перакладных пісьмовых помніках канца XV ст. Пакуты Хрыста і Аповесць аб трох каралях-валхвах, дзе царкоўнаславянскі ўплыў у параўнанні з Чэццяй менш адчувальны і дзе прыкметна праяўляюцца элементы польскага моўнага ўздзеяння. Неадушаўлёныя назоўнікі тут выступаюць, як правіла, з канчаткам *-у/-ю*: велѣлъ его к столпоу привѧзати (Пак. Хр., 7); нине тѧ подаю ωгню вечномоу (там жа, 29б); гелена чим болше старомȣ законоу... приставала (Валх., 69); коу ωбычаю... оу великих толпах приходѧт (там жа, 83б). Пры афармленні ж адушаўлёных назоўнікаў выкарыстоўваюцца канчаткі *-у/-ю* і *-ови/-еви,* прычым іх ужывальнасць у гэтых помніках прыкладна аднолькавая. Часта абодва канчаткі выступаюць у адных і тых жа словах, утвараючы паралельныя словаформы тыпу *волкоу* // *волкови, геродоу* // *геродови, королю* // *королеви, пилатоу* // *пилатови, послоу* // *послови, цесарю* // *цесареви:* пилатъ реклъ послоу своемоу (Пак. Хр., 17б) — потом реклъ послови своемоу (там жа, 17); цесарю и многимъ королом и иным людемъ велми любе (Валх., 90) — то потом цесареви сказал (там жа, 77). Аднак у помніках рэлігійных жанраў першай палавіны XVI ст. тэндэнцыя да выкарыстання канчатка *-ови/-еви* замест традыцыйнага *-у/-ю* некалькі затухае, тут сустракаюцца параўнальна нешматлікія выпадкі ўжывання

новых форм давальнага склону, прычым амаль выключна назоўнікаў адушаўлёных: оуподобис собѣ милостьник8 мои ѡленеви (Зб. 262, 83б); боудьте рады бг8 помочникови ншем8 (Пс. XVI, 83б) і інш. Граматычнай нормай у рэлігійнай пісьменнасці гэтага перыяду, як і ў папярэдні перыяд, з'яўляецца ўжыванне форм на *-у/-ю* пры афармленні давальнага склону як неадушаўлёных, так і адушаўлёных назоўнікаў мужчынскага роду, аб чым сведчаць напісанні *аду, голосу, городу, двору, крич8, ѡгню, розуму, снегу, югу; богу, делателю, ездоку, коню, люду, мужу, ѡленю, приѧтелю, сыну, царю, чоловеку* і інш.

У беларускай літаратурна-пісьмовай мове другой палавіны XVI ст. працягвала развіццё тэндэнцыя да пашырэння канчатка *-ови/-еви* ў давальным склоне назоўнікаў мужчынскага роду. Аднак гэта пашырэнне было ў асноўным даволі ўмераным і адбывалася паступова. Найбольш пранікальнай сферай для новага канчатка, як і ў пісьмовых помніках папярэдняга перыяду, з'яўляліся ва ўсіх жанрава-стылявых разнавіднасцях старабеларускай пісьменнасці адушаўлёныя назоўнікі, перш за ўсё назвы асоб, у выніку чаго тут некалькі часцей, чым раней, сустракаюцца словаформы накшталт *антихристови, богови, вижови, геретыкови, гетманови, королеви, кухмистрови, малерови, ѡблюбенцови, папежови, приѧтелеви, ревизорови, секретарови, сынови, цесарови, шлѦхтичови:* тот реестръ пан8 к8хъмистрови на тотъ же часъ ѡтъдалъ (КВС, 484); тако 8чинили ѡдному сынови жены ІилъскиѦ (Будны, 35б); писарови за 8писованье до книгъ грошъ ѡдинъ (Трыб., 15); десѧтину дают цесарови (Наб. тур., 24). Разам з тым усё часцей пры дапамозе канчатка *-ови/-еви* пачынаюць афармляцца і неадушаўлёныя назоўнікі, выступаючы ў словаформах *бичови, векови, вечерови, доводови, звычаеви, кгвалтови, концови, розумови, рублеви, статутови, часови:* тои навѧзце дв8мъ полътинамъ и р8блеви грошеи... зложили есмо рокъ (КВС, 616); тот ку доводови маеть быти припущонъ (Ст. 1566, 13); шкодливом8 звычаеви в панстве нашомъ великомъ кнѧзстве литовскомъ не хотели доп8стити большеи ширитисѦ (Ст. 1588, 408); кгвалтови правъ и волностеи нашых ѡдпоръ давать не занехаемо (Барк., 159б). Тым не менш граматычнай нормай пры афармленні давальнага склону неадушаўлёных і адушаўлёных назоўнікаў мужчынскага роду, як і ў папя-

рэдні перыяд, працягвала заставацца ўжыванне канчатка *-у/-ю*. Словаформы з гэтым канчаткам тыпу *выроку, городу, декрету, доводу, заходу, краю, листу, ѡбычаю, повету, розуму, ручаю, свету; бискупу, брату, витезю, гостю, жалобнику, кату, лавнику, мельнику, рыбаку, служебнику, хлопцу* з'яўляюцца звычайнымі ў помніках другой палавіны XVI ст. усіх жанрава-стылявых разнавіднасцей старабеларускай пісьменнасці.

Сярод беларускіх пісьмовых помнікаў другой палавіны XVI ст. характарам афармлення давальнага склону назоўнікаў мужчынскага роду вылучаюцца толькі паасобныя друкаваныя выданні, у прыватнасці Описанье и оборона събору руского берестейского (1597) і Апокрисисъ албо отповедь на книжкы о съборе берестейскомъ (1598). У першым з іх словаформы на *-у/-ю* (епископȣ, королю, пастырȣ, презвитерȣ) і *-ови/-еви* (архиепископови, коньцови, петрови, розȣмови) ужываюцца ў якасці раўнапраўных варыянтных норм. У другім формы на *-ови/-еви* ў пераважнай большасці выпадкаў прымаюць адушаўлёныя назоўнікі (войтови, докторови, папѣжови, секретарови, чителникови, шпикгови) і ў якасці факультатыўнай нормы — назоўнікі неадушаўлёныя (артикоулови, концови, розоумови, часови). Значнае пашырэнне канчатка *-ови/-еви* ў Апакрысісе тлумачыцца, відавочна, як уздзеяннем адпаведных польскіх форм, так і тым, што ў самым канцы XVI ст. гэты канчатак прабіў сабе дарогу ў старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове. Можна меркаваць таксама, што на характары афармлення давальнага склону тут у пэўнай ступені адбіліся асаблівасці гаворак Брэстчыны, у якіх канчатак *-ові/-еві* ў некаторых разрадах назоўнікаў мужчынскага роду захоўваецца і зараз.

Далейшае развіццё форм давальнага склону назоўнікаў мужчынскага роду ішло ў напрамку пашырэння канчатка *-ови/-еви* за кошт *-у/-ю*. У многіх беларускіх пісьмовых крыніцах XVII ст., у першую чаргу ў перакладных творах, словаформы на *-ови/-еви* складаюць асноўную граматычную норму. Перавага канчатка *-ови/-еви* над *-у/-ю* ў давальным склоне адушаўлёных назоўнікаў мужчынскага роду характэрна, напрыклад, для такіх свецкіх помнікаў XVII ст., як Хроніка М. Бельскага, Хроніка М. Стрыйкоўскага, Александрыя, Рымскі летапісец, Траянская гісторыя, Хроніка польская, Дыярыуш А. Філіповіча і інш. У іх надзвычай распаўсюджаны словаформы *балверови, вожови, гетманови, дедови,*

*жолнерови, коневи, кролеви, лекареви, лотрови, людови, мужеви, народови, послови, рицереви, родичови, служебникови, тестеви, цареви, цесарови:* 8вѣрила 8жови (Бельск., 5); тѧгнул противко домонтови стриеви своем8 (Стрыйк., 531); приказал абы против порови цареви были готовы (Алекс. XVII, 23б); дивовалисѧ ѡному коневи (Тр. гіст., 71б) і інш. Канчатак *-ови/-еви* займае таксама пануючае становішча ў радзе пісьмовых крыніц рэлігійных жанраў, у прыватнасці ў Бібліі пачатку XVII ст., у зборніках павучанняў сярэдзіны XVII ст. № 107, 255, 259, Зборніку жыцій святых другой палавіны XVII ст. № 752 і інш. Найбольш характэрнымі для рэлігійнай пісьменнасці словаформамі з канчаткам *-ови/-еви* з'яўляюцца *ангелови, господеви, грешникови, диѧволови, збавителеви, игуменови, кесарови, мнихови, мученикови, папежови, пастырови, плебанови, пророкови, сотворителеви, спасителеви, тиранови, учителеви, христови, шатанови:* росказал ангелови котории вытрачал: досыт 8же (Біблія, 399); никому того не ѡзнаимил ѡдно самому иг8менови (Зб. 107, 106б); д8ха ѡтдала сотворителеви своему (Зб. 752, 36); то теж власне сл8житъ месиѧшови (Выкл., 28) і інш. Пры гэтым звяртае на сябе ўвагу тая акалічнасць, што афармленню давальнага склону пры дапамозе новага канчатка, акрамя адушаўлёных назоўнікаў, у значнай меры падпарадкоўваюцца назоўнікі неадушаўлёныя: грѣхови се ѡном8 и пок8се спротивили (Бельск., 2б); будем послушни законови (Кн. Мак., 53); самъ себе ѡгневи вѣчном8 предалъ (Зб. 107, 124б); роз8мови и воли подданы б8д8ть (Зб. 255, 54).

Зразумела, у якасці вырыянтнай нормы старабеларускія свецкія і рэлігійныя помнікі мелі для афармлення давальнага склону назоўнікаў мужчынскага роду і канчатак *-у/-ю.* Ён быў характэрны ў пераважнай большасці выпадкаў для назоўнікаў неадушаўлёных і часткова ахопліваў назоўнікі адушаўлёныя, часам утвараючы паралельныя напісанні да словаформ на *-ови/-еви* тыпу *братови — брату, королеви — королю, праведникови — праведнику, чоловекови — чоловеку.* Не знікае адзначаны паралелізм і ў пачатку XVIII ст., аб чым сведчыць Збор выпадкаў кароткі, дзе побач з пераважаючымі напісаннямі на *-ови/-еви* ўжываюцца і словаформы на *-у/-ю:* Чи естъ потребнаѦ Іерееви вѣра (5), капланови потреба Стихара (30б), не треба мовѣти злодѣеви

(38б) — доносилъ епспȣ ѡ грѣхахъ (77б), писа къ θеѡфилȣ никоемȣ игемонȣ (89б).

Некалькі ў баку ад агульнага працэсу замяшчэння канчатка *-у/-ю* канчаткам *-ови/-еви* знаходзілася ў XVII і пачатку XVIII ст. старабеларуская дзелавая пісьменнасць. Так, у Кнізе канцылярыі спраў судовых (1615—1618) ужыванне канчатка *-у/-ю* з'яўляецца нормай у назоўніках са значэннем асобы і ўласных імёнах, г. зн. той катэгорыі слоў, якая найбольш выразна выяўляла тэндэнцыю да пераходу на новы канчатак *-ови/-еви*. Выпадкі ўжывання словаформ тыпу *андрею, брату, глебу, ивану, коморнику, королю, маршалку, миколаю, наместнику, пекару, писару, семену, стрельцу, тивуну, толмачу, юръю* займаюць тут пануючае становішча. Афармленне давальнага склону пры дапамозе канчатка *-ови/-еви* практыкуецца ў гэтым помніку рэдка, аднак адзначаным канчаткам забяспечваюцца назоўнікі як адушаўлёныя, так і неадушаўлёныя: листъ... даны*и* сынови ее (3), десетина костелови божомȣ давана быти маетъ (39), вырокъ по*д* печат*ю* великого кнѧзства литовско*г* ска*р*бови естъ выданъ (36б). Гэта сведчыць, што мяжа паміж асобнымі граматычнымі катэгорыямі назоўнікаў мужчынскага роду ў старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове страчвалася.

Такім чынам, і ў давальным склоне розніца паміж асобнымі тыпамі скланення ў старабеларускай мове не існавала. Усе назоўнікі мужчынскага роду аб'ядналіся ў адзін тып скланення, выступаючы з канчаткамі *-у/-ю*, *-ови/-еви*, якія дыферэнцыраваліся ў залежнасці ад розных лінгвістычных і экстралінгвістычных прычын.

Як і ў старажытнарускай пісьменнасці, афармленне в і н а в а л ь н а г а склону назоўнікаў мужчынскага роду ў старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове залежала ад прыналежнасці да катэгорыі адушаўлёнасці-неадушаўлёнасці. Так, адушаўлёныя назоўнікі, у першую чаргу словы са значэннем асобы, нягледзячы на тое, да якіх асноў яны адносіліся ў папярэднюю эпоху, мелі ў вінавальным склоне форму, аднолькавую з формай роднага склону. Выпадкаў ужывання словаформ на *-а/-я* тыпу *бискупа, брата, гетмана, гонца, друга, злостника, з.ѧтѧ, кнѧзѧ, мужа, н.ѧтца, ѡборонителѧ, пана, попа, прокуратора, сына, товарыша, человека* надзвычай многа ў помніках розных жанрава-стылявых разнавіднасцей старабеларускай пісьменнасці XIV—XVIII стст.: а нынѣ послалъ к вамъ попа (ПГ, I, 62, 1392); Чого длѧ зовешь

Іcoусомъ сына божіего (Будны, 119б); пакли бы ком8 придалосѦ таковоrо выволанца забити (Трыб., 14б); невѣсто почала есь ѡборонителѧ твоего (Алекс. XVII, 3). Разам з тым у пісьмовых помніках пачынаючы ад ранняга этапа развіцця старабеларускай пісьменнасці знаходзяць адлюстраванне вынікі пашырэння форм роднага склону на вінавальны склон адушаўлёных назоўнікаў іншых лексіка-семантычных груп: имаеть вѣпрѦ ѡдног с правомъ забить (Вісл., 37б); дал был конѦ своего поставить оу стадо (ПГ, I, 186, 1450); 8жа подасть ем8 (Цяп., 9); видѣлъ смока в битвѣ (Алекс. XVII, 3). Праўда, гэты працэс хоць і закрануў практычна ўсе групы адушаўлёных назоўнікаў, працякаў непаслядоўна, бо ў некаторых помніках паралельна з формамі роднага склону сустракаюцца яшчэ формы старога вінавальнага склону. Найбольш ярка гэта праяўляецца пры напісанні назоўнікаў, якія абазначаюць назвы жывёл: на конь есмо 8седши воискомъ стоѦли (ККК, 105б, 1486); на свои конь оуседлъ (Троя, 42); полевати, або звѣръ ловити (Будны, 48) і інш.

Для вінавальнага склону неадушаўлёных назоўнікаў мужчынскага роду, як і ў старажытнарускай пісьменнасці, былі характэрны формы, што супадалі з формамі назоўнага склону. Яны шырока адлюстраваліся ў пісьмовых помніках розных жанраў: городъ витебскъ засѦде (Віл., 448б); в промет в десѧть копъ грошеи 8палъ (КВЗС, 76); съ себе добрыи взор а приклад давать рачили (Будны, 5); ѡт мене мае прикладъ брат (Алекс. XVII, 13б); плод принесла (Зб. 259, 531б) і інш. Зрэдку, аднак, у некаторых пісьмовых крыніцах XV—XVI стст. сустракаюцца выпадкі афармлення вінавальнага склону неадушаўлёных назоўнікаў пры дапамозе канчатка роднага склону: начѦша твердо добывати града (Віл., 450); мает листа просити (Ст. 1529, 41). Гэта сведчыць не толькі аб адсутнасці ў перыяд развіцця старабеларускай літаратурна-пісьмовай мовы строгай унармаванасці ў галіне арфаграфічнай сістэмы, але і аб тым, што ў жывой народнай мове таго часу працэс замены форм старога вінавальнага формамі роднага склону ахапіў значна большую частку лексікі, чым у старажытнарускай мове. У паўднёва-заходніх беларускіх гаворках гэта з'ява працягваецца і зараз.

Граматычным сродкам афармлення творнага склону назоўнікаў мужчынскага роду, нягледзячы на іх паходжанне, быў у старабеларускай літаратурна-пісьмо-

вай мове ўсіх яе жанрава-стылявых разнавіднасцей канчатак *-омъ/-емъ*. Неабходна, аднак, адзначыць, што ў пачатковы перыяд фарміравання старабеларускай пісьменнасці паралельна з ім у якасці асноўнай нормы выступаў па традыцыі больш старажытны канчатак *-омь/-емь* (з *-ъмь/-ьмь*): любовь ваша праваѧ съ сномь моимь с витенемь (Гр. 1300); поити ему назадъ с товаромь (ПГ, I, 41, 1338); соль весити пудьнымъ ременемь (Гр. 1405) і інш. Зразумела, ужыванне гэтага канчатка не адпавядала жывому народнаму вымаўленню, бо працэс зацвярдзення гука *м* у беларускіх гаворках закончыўся яшчэ ў XIV ст., аб чым сведчаць уласцівыя беларускай дзелавой пісьменнасці XIV — пачатку XV ст. напісанні і з канчаткам *-омъ/-емъ*: со кн҃ѧземъ съ Семеномъ миръ оузѧли (ПГ, I, 64, 1396); соль вѣсити на скалвах тым же вѣсомъ (Гр. 1407).

У далейшым канчатак *-омъ/-емъ* трывала замацоўваецца ў старабеларускіх пісьмовых крыніцах усіх жанраў спачатку ў якасці асноўнай нормы, а потым і як адзіны сродак афармлення творнага склону назоўнікаў мужчынскага роду. Сярод самых ранніх помнікаў беларускай пісьменнасці, дзе напісанні тыпу *кгвалтомъ, крикомъ, ѡбычаемъ, паномъ, поветомъ, позовомъ, служебникомъ, судомъ, урѧдомъ* займаюць пануючае становішча, вылучаецца колькасцю выпадкаў напісанняў з канчаткам *-омъ/-емъ* Вісліцкі статут: с которымъ ѡбычаемъ имают зазываті къ с8д8 (6), п8стилъ вины перед с8домъ (15б), ѡна крикомъ и плачомъ осветчи свое оусилованіе (36) і інш. Праўда, тут яшчэ ў якасці варыянтнай нормы канчатак творнага склону выступае з *ь* на канцы: не были габани тымъ позовомь (14); вослед пошли за злодеемь (22б). Дарэчы, у гэтым помніку сустрэўся выпадак напісання ў творным склоне канчатка *-амъ*: индрих сѧ заложилъ давнымъ записамъ (23), што сведчыць аб развіцці ў жывой беларускай мове акання і аб вымаўленні ў ненаціскной пазіцыі канчатка *-омъ* як *-ам*.

Канчатак *-омъ /-емъ* у творным склоне назоўнікаў мужчынскага роду з пераважаючым ъ на канцы ўласцівы і пісьмовым крыніцам свецкіх і рэлігійных жанраў канца XV ст. Пры гэтым варыянт *-омъ* выкарыстоўваецца, як правіла, пры напісанні назоўнікаў, якія маюць цвёрдую аснову, а сферай ужывання варыянта *-емъ* з'яўляюцца назоўнікі з мяккай асновай: боудет до жи-

вота своего слꙋжачи ерѣемъ (Чэцця, 15б); живеть съ кнѧземъ великимъ Агаиломъ (Віл., 439б); наполнил гоубкоу ѡцтомъ (Пак. Хр., 22); перед воломъ и ѡсломъ был положен (Валх., 70). Старыя формы на *-омь/-емь* выступаюць у адзначаных пісьмовых крыніцах ужо значна радзей, чым у Вісліцкім статуце: рокъ ꙋчинили... засѣсти город под братом великым кнземь евнꙋтьемь (Віл., 437б); оу раю седѧт ис гсдемь богом (Пак. Хр., 32б).

Ужыванне літары *ь* замест патрабуемай *ъ* у канчатку творнага склону назоўнікаў мужчынскага роду часам назіраецца і ў пісьмовых помніках XVI ст.: грекове иншим ѡбычаемь не могли мети приступꙋ (Троя, 19); присегꙋ ꙋчинити маютъ с тымъ докладомь (Трыб., 3). Аднак тут гэта рыса не з'яўляецца адлюстраваннем традыцыі, а носіць чыста арфаграфічны характар: яна сведчыць аб адсутнасці строгіх крытэрыяў ва ўжыванні *ъ* і *ь* у пазнейшай беларускай пісьменнасці. Назіранні паказваюць, што ў радзе дзелавых і свецкіх пісьмовых помнікаў другой палавіны XVI і пачатку XVII ст. змешванне гэтых літар у канцы слоў, прычым не толькі ў творным склоне (параўн. характэрныя для некаторых дзелавых помнікаў гэтага часу, напрыклад для Кнігі Гродзенскага земскага суда 1556—1557 гг., формы назоўна-вінавальнага склону тыпу *денъ, кгвалть, листь, сеножатъ, справедливостъ, хомуть, частъ* або выключнае ўжыванне ў Хроніцы М. Бельскага і Хроніцы М. Стрыйкоўскага на канцы слоў літары *ъ*), пашырана настолькі, што прыкметна змяняе арфаграфічнае аблічча ўсяго тэксту. Тым не менш у большасці помнікаў беларускай пісьменнасці XVI—XVII стст. канчатак *-омъ/-емъ* у творным склоне назоўнікаў мужчынскага роду выступае, як правіла, адзінай граматычнай нормай. Канчатак *-омъ* маюць словаформы з цвёрдай асновай *берагомъ, братомъ, ветромъ, гетманомъ, голосомъ, домомъ, духомъ, коштомъ, лесомъ, медомъ, ѡбозомъ, ѡрломъ, перуномъ, розумомъ, скарбомъ, судомъ, сыномъ, хлебомъ, часомъ*: грѧнет голосомъ гордости (Зб. 262, 27б); былъ на онъ часъ игемономъ (Будны, 128б); перед сꙋдомъ головнымъ не сталъ (Трыб., 6); ест початкомъ и зродлом вшелѧкое згоды (Бер. саб., 6б). Варыянт *-емъ* выкарыстоўваецца для афармлення творнага склону назоўнікаў з мяккай асновай — *боемъ, витеземъ, вѧзнемъ, гаемъ, жалемъ, злодеемъ, зѧтемъ,*

*каменемъ, киемъ, кнѧземъ, конемъ, ωбычаемъ, ωлеемъ, перстенемъ, приꙗтелемъ, рожаемъ, спасителемъ, тенемъ, ꙗсенемъ:* покрыл бо лице свое лоемъ (Зб. 262, 18б); всихъ побили и ωного злодеꙗ с тымъ конемъ ωтнꙗли (КВС, 447б); таковымь ωбычаемъ заховатисѧ будеть повиненъ (Трыб., 12б); ȣмыслили помститисѧ на*д* вȣемъ свои*м* (Рым., 78).

У старабеларускай пісьменнасці XV—XVII стст. няўстойлівасць пры афармленні творнага склону назоўнікаў мужчынскага роду заўважаецца толькі ў тых словах, якія перад канчаткам маюць шыпячыя, *ц* і *р*. Гэтыя словы могуць выступаць то з канчаткам *-омъ*, то з *-емъ*. Такі разнабой характэрны для ўсіх жанраў старабеларускай пісьменнасці, прычым у больш ранніх пісьмовых помніках і ў пазнейшых тэкстах рэлігійнага зместу звычайна пераважае канчатак *-емъ*, а ў дзелавых і свецкіх кнігах XVI—XVII стст.— *-омъ*. Часам паралельныя напісанні тыпу *господаремъ — господаромъ, концемъ — концомъ, мечемъ — мечомъ, мужемъ — мужомъ, отцемъ — отцомъ, пальцемъ — пальцомъ, плачемъ — плачомъ, плащемъ — плащомъ, ритеремъ — ритеромъ* сустракаюцца ў адных і тых жа помніках, напрыклад у Пакутах Хрыста: людȣ жидовскомоу пальце*м* оуказа*л* есми его (27б) — его есми оуказа*л* пальцо*м* (26); у Траянскай гісторыі: мече*м* свои*м* троꙗно*в* не пересtotava*л* би*ти* (26б) — оудари*л* мечо*м* голы*м* гелмъ его злома*л* (47б); у Рымскім летапісцу: названо его цесаре*м* (80б) — цесаро*м* длꙗ того назва*л*сꙗ (80б) і інш. Разнабой у напісанні канчаткаў *-омъ/-емъ* пасля шыпячых, *ц* і *р* тлумачыцца тым, што старабеларуская арфаграфічная сістэма, грунтуючыся на этымалагічным прынцыпе, у ранні перыяд свайго развіцця захоўвала яшчэ рэлікты старажытных форм на *-емъ(-емь)* пасля шыпячых, *ц* і *р*, уступаючы ў супярэчнасць з жывым народным вымаўленнем, дзе гэтыя гукі вымаўляліся ўжо цвёрда. На больш познія пісьмовыя помнікі рэлігійных і свецкіх жанраў, акрамя таго, аказвалі ўплыў царкоўнаславянскія правапісныя прыёмы. Паслядоўнае ж выкарыстанне ў помніках канчатка *-омъ*, а не *-амъ* звязана са слабым адлюстраваннем акання ў старабеларускай пісьменнасці і ўздзеяннем традыцыйнага канчатка *-омъ*, які са старажытнасці быў характэрны для назоўнікаў мужчынскага роду з цвёрдай асновай.

Сярод асаблівасцей, якія ўласцівы асобным помнікам, трэба адзначыць ужыванне канчатка *-эмъ* пасля

*ц* і *р* у некаторых свецкіх творах другой палавіны XVI ст., напрыклад у Аповесці аб Баве: па*л* пере*д* ста*р*цэмъ на колени (143); у Летапісе па спісу Рачынскіх: бы*л* цэсарэмъ га*и*ωсъ (225). У радзе помнікаў беларускай пісьменнасці, пераважна перакладных, сустракаюцца выпадкі ўжывання канчатка *-емъ (-эмъ)* у назоўніках з асновай на цвёрды зычны: с стымъ Еронимем тамо были (Валх., 71б); стоварышэ*не* на во*и*ну, которое*м* с тэωдорык*емъ* ω*т*цо*м* тво*им* мѣ*л* (Атыла, 196); аж было с пострахэ*м* ве*л*ки*м* 8споминат (Еўл., 54). Выпадкі з'яўлення канчатка *-емъ (-эмъ)*, не характэрнага для старабеларускай мовы, можна растлумачыць уплывам адпаведных польскіх форм. Гэты канчатак адзначаны ў творах, якія былі перакладзены з польскай мовы або адчулі моцнае польскае ўздзеянне. Сярод апошніх асабліва вылучаецца Дзённік Ф. Еўлашоўскага, які наогул у параўнанні з іншымі помнікамі старабеларускай пісьменнасці аказаўся найбольш паланізаваным і дзе канчатак *-емъ (-эмъ)* выступае як у лексічных паланізмах, так і ў спрадвечна беларускіх словах (*гробемъ, громемъ, дахемъ, декретемъ, домемъ, кардиналемъ, приклалемъ, разѣмъ*).

З іншых асаблівасцей, якія сустракаюцца ў старабеларускай пісьменнасці пры афармленні творнага склону назоўнікаў мужчынскага роду, можна адзначыць ужыванне канчатка *-омъ* пасля галосных пярэдняга рада ў запазычаных словах, асабліва ў асабовых назвах. Такія напісанні сустракаюцца ўжо ў Катэхізісе С. Буднага (1562): помазовати елеомъ (120). З пісьмовых помнікаў XVII ст. наяўнасцю такіх словаформ характарызуюцца Александрыя: з птоломеω*м* из антиωхо*м* и з пе*р*дыкою шолъ (38); Кніга Макавеяў: бы*л* рокъ ωди*н* а*р*хиереω*м* (65б). Ужыванне гэтага канчатка ў пазіцыі, не ўласцівай беларускай мове, тлумачыцца царкоўнаславянскім уплывам. Звяртаюць на сябе ўвагу таксама выпадкі напісання запазычанага назоўніка *сцептрумъ* у лацінскім граматычным афармленні: 8дари*л* му*ж* ωди*н* непт8новы*м* сцептр8*м* (Бельск., 37б); ωны*м* сцептр8мъ голов8 его бьют (Зб. 255, 271). Ужыванне ў творным склоне канчатка *-омъ* пасля асноў на мяккі зычны ў Пакутах Хрыста (казалсе сномъ бжьимъ и короло*м* жидовскімъ, 19б) і Аповесці аб трох каралях-валхвах (поле... есть та*к* велико и до*л*го ка*к* бы на по*л*кипенеіа камено*м*, 61) тлумачыцца адсутнасцю ў старабеларускай

графіцы спецыяльнага сродку для абазначэння гука *о* пасля мяккіх зычных.

Пры афармленні м е с н а г а склону назоўнікаў мужчынскага роду старабеларуская літаратурна-пісьмовая мова з самага пачатку свайго існавання выкарыстоўвала граматычныя сродкі, якія перайшлі ў яе са старажытнарускай мовы,— канчаткі *-е* (з *-ѣ*) і *-и*. Канчатак *-е* на ўсім працягу развіцця старабеларускай пісьменнасці ўжываўся ва ўсіх яе жанрава-стылявых разнавіднасцях пры напісанні назоўнікаў з цвёрдай асновай, утвараючы словаформы тыпу (*в, на, о, пры, у*) *артыкуле, брате, воите, голоде, доме, економе, жывоте, зъезде, инструменте, листе, мещанине, народе, ѡгороде, перевозе, розуме, сыне, труде, усходе, хлебе, часе:* оув огороде крижова*н* есть (Пак. Хр., 32); кролева*л* на то*м* то ѡстрове (Троя, 5); роки которые земские ȣв ономь повете припали (Трыб., 11б); заста*л* Каина в густо*м* лѣсе (Выкл., 7). Пры дапамозе канчатка *-и* афармляліся ад старажытнасці назоўнікі з мяккай асновай, дзякуючы чаму ва ўсіх жанрах старабеларускай пісьменнасці ўзніклі напісанні накшталт (*в, на, о, пры, у*) *бои, гаи, злодеи, ильи, камени, кнѧзи, колодези, краи, локти, ѡбычаи, покои, пути, раи, рожаи, розбои, рубли, ручьи, ступени, юрьи:* люди в раи были (Чэцця, 18); при которомъ де*и* бои и шкоды сѧ немалые сталп (КВС, 444); на кони седѣлъ (Трыст., 31); пишȣ*т* гисторици ѡ великомъ короли (Зб. 259, 198б).

Канчатак *-и* доўга быў у старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове таксама сродкам афармлення меснага склону назоўнікаў мужчынскага роду з асновай на шыпячы, *ц* і *р*: давана ѡ*т*права в судомири (ККК, 73, 148б); ѡ мужи своемъ не вѣдала гдѣ пошолъ (Чэцця, 14б); пришолъ лечи въ конци стога (Зб. 262, 32б). З другой чвэрці XVI ст. паралельна з *-и* ў многіх пісьмовых помніках, пераважна дзелавых і свецкіх, стаў ужывацца канчатак *-ы*, які служыў паказчыкам зацвярдзення адзначаных зычных у старабеларускай мове: былъ на манастыры (КВЗС, 45, 1533); то пры лȣкашы зостати маеть (КВС, 597б); ѧ есми до*ч*ка королѧ коронованого а ȣ ве*н*цы (Бава, 140). Неабходна, аднак, адзначыць, што канчатак *-и(-ы)* не з'яўляўся ў старабеларускай пісьменнасці адзіным сродкам афармлення меснага склону назоўнікаў з асновай на шыпячы, *ц* і *р*. Ацвярдзенне гэтых гукаў у жывой мове прывяло да таго, што словы з гэтымі гукамі ў канцы асновы сталі ўспры-

мацца пішучымі, як і назоўнікі з асновай на цвёрды зычны, у выніку чаго ў пісьменнасці на месцы *-и(-ы)* даволі часта стаў паяўляцца канчатак *-е (-ѣ, -э)*: оу дворце сѧ стало (Вісл., 31); сталисе ве зборе (Пак. Хр., 31б); ▪есми много мѣлъ почесности 8 твоемъ дворэ (Трыст., 57). Такім чынам, неадпаведнасць вымаўленчай якасці зацвярдзелых шыпячых, *ц* і *р* традыцыйным правапісным нормам, якая склалася ў XVI ст. на беларускіх землях, прывяла да таго, што ў пісьмовай практыцы патэнцыяльна магчымым стала напісанне ў месным склоне аднаго і таго ж слова ў пяці варыянтах: (у) *дворци — дворцы — дворце — дворцѣ — дворцэ.*

Часткова разнабой закрануў таксама іншыя групы назоўнікаў. У выніку ўзаемадзеяння абедзвюх асноў канчатак *-и (-ы)* зрэдку стаў практыкавацца пры афармленні меснага склону назоўнікаў з цвёрдай асновай, наадварот, назоўнікі з мяккай асновай часам сталі прымаць канчатак *-е (-ѣ)*, уласцівы цвёрдым асновам. Найбольш паказальныя выпадкі разнабою ў адных і тых жа пісьмовых помніках, напрыклад, у Статуце 1529 г.: в законѣ (123) — в закони (123); у Зборніку № 107: на то*м* свѣте (99б) — на то*м* свѣти (100); у Зборніку № 259: в гробе (12б) — в гроби (10б). Зразумела, што такія нешматлікія напісанні істотных змен у асноўныя правілы афармлення меснага склону назоўнікаў мужчынскага роду не ўнеслі. Некалькі шырэй формы з канчаткам *-и* замест заканамернага *-е* сустракаюцца ў Дыярыушы А. Філіповіча: на т8рови (148), в Кіеви (156б), на се*и*ми (160), в роздѣли (166), але тут іх ужыванне можна тлумачыць і ўкраінскім уплывам.

Выкарыстанне канчаткаў *-е (-ѣ, -э)* і *-и (-ы)* як сродкаў афармлення меснага склону было звычайным і заканамерным на ўсім працягу развіцця старабеларускай пісьменнасці для пераважнай большасці назоўнікаў мужчынскага роду. Аднак у гісторыі беларускай літаратурна-пісьмовай мовы гэтыя граматычныя сродкі не былі адзінымі. Побач з імі старабеларуская мова ўжо з самага пачатку свайго існавання мела для афармлення меснага склону і канчатак *-у/-ю,* што таксама перайшоў у яе са старажытнарускай мовы. У старажытнарускіх пісьмовых помніках гэты канчатак быў характэрны для невялікай групы назоўнікаў тыпу *верхъ, волъ, домъ, медъ, пиръ, сынъ,* якія адносіліся да асноў на *ŭ*. У старабеларускай мове ў сувязі з разбурэннем старой сістэмы скланення былая вытрыманасць ва ўжыванні канчат-

ка *-у/-ю* ўжо страцілася, і пералічаныя назоўнікі побач з традыцыйным *-у/-ю* пад уплывам форм меснага склону іншых назоўнікаў мужчынскага роду сталі адлюстроўвацца ў помніках пісьменнасці і з канчаткам *-е*: о сн8 которыи не ωтделенъ ωт оца (Вісл., 8); чинили пиръ в домоу (Зб. 262, 12), але: на сыне его миколаю поискивати мы маемъ (КВС, 639б); поганин ωдин на доме своем написалъ (Зб. 259, 577б). У сваю чаргу канчатак *-у/-ю* назоўнікаў былых асноў на *й* распаўсюдзіўся на месны склон іншых разрадаў назоўнікаў.

Выпадкі ўжывання канчатка *-у/-ю* замест традыцыйных *-е* і *-и* ў месным склоне назоўнікаў мужчынскага роду знайшлі адлюстраванне ў беларускай пісьменнасці ўжо ў XIV—XV стст.: границы того села на листу купчим мяновите описаны (ПГ, I, 63, 1392); пошли оу покою (Пак. Хр., 36). Той факт, што канчатак, уласцівы раней невялікай групе назоўнікаў з асновай на *й*, стаў успрымацца і назоўнікамі іншых груп, даследчыкі тлумачаць акцэнталагічным момантам: у распаўсюджанні канчатка *-у/-ю* асноўнае значэнне мела рухомасць націску, які ў месным склоне з асновы мог пераходзіць у адпаведных акцэнталагічных умовах на канчатак. Пэўную падтрымку ў гэтай з'яве аказвалі і формы роднага склону, дзе таксама актыўна адбываўся аналагічны працэс замены *-а/-я* канчаткам *-у/-ю*.

У старабеларускай пісьменнасці XVI—XVII стст. канчатак *-у/-ю* на месцы традыцыйных *-е* і *-и* ў словаформах меснага склону тыпу (*в, на, о, при, у*) *берегу, бору, выпису, гаю, году, долгу, замку, коню, лесу, листу, меху, мужу, наместнику, недостатку, пастуху, рубежу, рынку, суду, торгу, человеку* знайшоў настолькі шырокае распаўсюджанне, што яго можна кваліфікаваць як раўнапраўную варыянтную норму нараўне з канчаткамі *-е* і *-и*. Асаблівым пашырэннем канчатка *-у/-ю* характарызуюцца дзелавыя і свецкія помнікі гэтага часу, дзе ён сустракаецца нават часцей, чым *-е* і *-и*: потроклюс на коню оудержатисѧ не моглъ (Троя, 40); на сл8жебник8 его станислав8 виделъ ран8 тят8ю (КВС, 444); был 8 страх8 (Трыст., 83); в монастыр8 р8ском мешкал (Стрыйк., 531). Самую трывалую пазіцыю заняў гэты канчатак у месным склоне назоўнікаў, што абазначалі назвы гарадоў і мясцовасцей: 8 менску (КМС, 86б), 8 волъковыск8 (КВЗС, 19), 8 полоцъку (КВС, 543б), в новгородку (Рач., 239), в дамаск8 (Бельск., 14б) і г. д.

Менш шырока, але таксама даволі прыкметна выкарыстоўваецца новы канчатак *-у/-ю* і ў пісьмовых крыніцах рэлігійных жанраў XVI—XVII стст.: моць его оу п8пк8 (Зб. 262, 29б); ѡ д8х8 светомъ глава перша҃ѧ мовить (Бер. саб., 45б); в см8тк8 положилсѧ есми на землю (Зб. 752, 6б); слнце всходит на еднымъ краю нба (Выкл., 113б). Вядомы гэты канчатак і ў беларускіх пісьмовых помніках пачатку XVIII ст., аб чым сведчыць, напрыклад, Збор выпадкаў кароткі: млднцъ въ грѣх8 причастилсѧ (23); въ полгодины по пол8дню (30); кто в дорослομъ вѣк8 крещаетсѧ (121б).

Такім чынам, канчатак *-у/-ю,* уласцівы ў старажытнасці толькі назоўнікам на *ŭ,* у старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове ў значнай меры распаўсюдзіўся на іншыя разрады назоўнікаў, дзе выступаў у якасці варыянтнай нормы да канчаткаў *-е, -и.* Аднак цалкам выцесніць старыя формы ён не здолеў. Таму на завяршальным этапе свайго развіцця старабеларуская літаратурна-пісьмовая мова характарызавалася разнастайнасцю канчаткаў меснага склону адзіночнага ліку назоўнікаў мужчынскага роду: *-е (-ѣ, -э), -и/-ы, -у/-ю.* Найбольш непаслядоўным было афармленне меснага склону назоўнікаў з зацвярдзелай асновай, дзе да варыянтаў тыпу *(у) дворци — дворцы — дворце — дворцѣ — дворцэ* далучыўся яшчэ варыянт на *-у*: 8 др8гомъ деи дворц8 8 юкишъкахъ наполъ землю пашеть (КВС, 477, 1552). Можна меркаваць, што яшчэ больш стракатым выглядала афармленне меснага склону ў тагачаснай беларускай народна-дыялектнай мове, дзе, акрамя таго, напластоўваліся розныя мясцовыя асаблівасці, якія ў значнай меры захаваліся да нашага часу.

## *Формы назоўнікаў жаночага роду*

У назоўным склоне адзіночнага ліку назоўнікі жаночага роду з былой асновай на *ā* ўжываліся ў старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове са старажытным канчаткам *-а/-я.* Варыянт *-а* быў характэрны для назоўнікаў з асновай на цвёрды зычны, варыянт *-я* выступаў пры мяккіх асновах. У сувязі з тым што гэта катэгорыя назоўнікаў была ў старабеларускі перыяд, як і зараз, надзвычай ужывальнай, пісьмовыя помнікі XV—XVIII стст. адлюстроўваюць нямала выпадкаў выкарыстання як словаформ на *-а* тыпу *аренда, бочка, вдова,*

*голова, дочка, жонка, застава, краина, личба, мова, ѡхота, правда, река, роса, служба, улица, хвала, частка, шапка, ꙗма,* так і словаформ на *-я* накшталт *волѧ, зброꙗ, землѧ, кошулѧ, кулѧ, куплѧ, лазнѧ, надеꙗ, неделѧ, пашнѧ, песнѧ, пустынѧ, скрынѧ, стайнѧ, студнѧ, торговлѧ, хвилѧ, хвоꙗ, шиꙗ, ꙗскинѧ*: которои жоне богатеи народитсе дочка тогды натыхмѣстъ матка починаеть такіе сорочки дѣлати (Валх., 70б); естли бы теснаꙗ дорога была (Ст. 1566, 78б); сладкаꙗ праца ест томꙋ (Зб. 255, 1); землꙗ была едного ꙗзыка (Выкл., 10б).

Сярод назоўнікаў гэтай катэгорыі некаторы разнабой у афармленні назоўнага склону назіраўся толькі ў групе слоў тыпу *боꙗрынѧ, господарынѧ, кнѧгинѧ, рабынѧ,* якія ў старажытнарускай мове ўжываліся з канчаткам *-и*. Як сведчаць помнікі старабеларускай пісьменнасці, у гэтых словах пад уплывам іншых назоўнікаў жаночага роду даволі рана пачаў замацоўвацца канчатак *-я* замест старажытнага *-и*: тое имѣнье... ему кнегиня Швидригайлова дала (АЗР, I, 72, 1456); жаловала намъ бояриня (КЗ, 657, 1496); таꙗ панъна которую еси прывел ест наша господарынѧ (Трыст., 76); ꙋмерла кнꙗгинꙗ ꙋлꙗна (Стрыйк., 545б) і інш. Аднак старыя формы на *-и* захоўваліся пераважна ў дзелавых помніках аж да канца XVI ст. у якасці варыянтнай нормы: тое именье держала кнегини его до своего живота (ККК, 85б, 1486); жаловала боꙗрини гсдрскаꙗ (КВЗС, 31б, 1537); ее мѣла кнегини на волю выпустити (АВК, XIV, 77, 1563). У большасці старабеларускіх пісьмовых помнікаў, асабліва такіх, як Віленскі спіс летапісу, Кніга Віцебскага земскага суда 1533—1540 гг., дзе паралельна ўжываюцца абедзве формы, частковае выкарыстанне канчатка *-и*, безумоўна, абавязана пісьмовай традыцыі. Аднак для некаторых дзелавых крыніц нельга выключыць і ўздзеянне жывога вымаўлення, бо замена канчатка *-и* на *-я* ў старабеларускі перыяд, відавочна, адбылася не ва ўсіх беларускіх гаворках, аб чым сведчаць рэлікты старой формы ў сучаснай дыялектнай мове.

Усе астатнія назоўнікі жаночага роду (былых асноў на *ĭ* і на *ū*) выступалі ў назоўным склоне адзіночнага ліку ў старажытнай форме з нулявым канчаткам—*борть, весть, глупость, далекость, жалость, злость, кость, лесть, любовь, милость, морковь, ночь, память, радость, речь, свекровь, тихость, церковь, часть, шерсть*: видела свекровь ее то иже собрала (Зб. 262, 32); борть наша звечъ-

на (КВЗС, 117б, 1540); любовъ межи насъ росла (Будны, 235б); мене божска моцъ потлумила (Алекс. XVII, 19б).

Назоўнікі былых асноў на зычны *мати і дъчи (дъщи)* у сваёй зыходнай форме ўжываліся ў старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове вельмі рэдка: есть оу городе... дъщи нѣкоег соуньклита (Чэцця, 61); приступила к нему мати (Цяп., 27б). Не атрымала пашырэння ў помніках старабеларускай пісьменнасці і форма былога вінавальнага склону ў значэнні назоўнага: мьстит ем8 бгъ и прчста его мтръ (Гр. 1377). Звычайна ж замест старажытных *мати, дъчи* ў старабеларускай мове ўжываліся новаўтварэнні *матка, дочка.*

Пры афармленні р о д н а г а склону назоўнікаў жаночага роду з былой асновай на *ā* старабеларуская літаратурна-пісьмовая мова выкарыстоўвала ўнаследаваны ад старажытнарускай эпохі канчатак *-ы/-и.* Варыянт *-ы* быў характэрны для слоў з цвёрдай асновай: *битвы, воды, высоты, годины, данины, жоны, зимы, копы, краины, личбы, ѡсобы, помсты, причины, роботы, розмовы, севбы, уставы, хвалы, цены, школы,* варыянт *-и* ўжываўся пры мяккіх асновах: *баламутни, воли, господыни, дани, зброи, земли, кропли, лазни, надеи, неволи, недели, ѡвчарни, пустыни, свѧтыни, студни, сукни, хвои, шабли.* Словаформ абедзвюх разнавіднасцей вельмі многа ў помніках усіх жанраў старабеларускай пісьменнасці: изъ своеа земли ид8т на воин8 (Вісл., 27б); напротивку его воли приказал ему зостать (Троя, 10); стрельбы жадное чинити не маеть (Трыб., 8); вси прагн8щые идите до воды (Зб. 255, 15б).

Некаторы разнабой, звязаны са змешваннем цвёрдага і мяккага варыянтаў, выяўляўся толькі ў групе назоўнікаў з асновай на шыпячы, *ц* і *р.* У сувязі з зацвярдзеннем адзначаных зычных у беларускай мове ўтварылася неадпаведнасць паміж іх вымаўленнем і правапіснай традыцыяй, якая па-ранейшаму патрабавала захоўваць у родным склоне гэтых назоўнікаў канчатак *-и.* Тым не менш характэрны для назоўнікаў з цвёрдай асновай і адпаведны жывому вымаўленню варыянт *-ы,* нягледзячы на трываласць традыцыі, паступова прабіваў сабе дарогу ў пісьменнасць. У выніку склалася сітуацыя, калі адны і тыя ж словы ў залежнасці ад жанру пісьменнасці, а часам і ў адных і тых жа тэкстах афармляліся па-рознаму: безъ всѧкое праци вашое выдамъ его в роуки ваше (Пак. Хр., 1); въ коморахъ

ложи своеи не клени бога (Зб. 262, 91б) — сама в тот час шла в комору до ложы (Бава, 153); мѣлес мѣти живност без працы (Бельск., 6). Разам з тым неабходна адзначыць, што імкненне асобных пісцоў захаваць традыцыю прыводзіла часам і да адваротнай з'явы, калі канчатак *-и* пісаўся ў пазіцыі пасля этымалагічна цвёрдых зычных. Выпадкаў узнікнення гіпернармалізмаў такога роду асабліва многа пасля этымалагічна цвёрдага *р*: хрестиѧнинȣ и братȣ сполне рȣскои вѣри (Стрыйк., 526б); пришли ажъ до кгрȣнту ѡднои гори (Алекс., 36б); параўн.: взглѧдом которое горы таѧ дрȣгаѧ ест (Карп., 6б); ѡзонтъ пастух был ѡвцам, але веры стое хрестиѧнское (Зб. 752, 11б).

Нарэшце, пэўны разнабой у раннія старабеларускія пісьмовыя помнікі і некаторыя тэксты рэлігійнага зместу XVI ст. пры афармленні роднага склону назоўнікаў жаночага роду ўносіла група слоў, аснова якіх заканчваецца на заднеязычныя гукі. Нягледзячы на змякчэнне заднеязычных *г, к, х* перад *і* яшчэ ў старажытнарускі перыяд, некаторыя аўтары па традыцыі працягвалі ўжываць пасля іх архаічны канчатак *-ы*. У выніку ўзнікалі словаформы накшталт *дорогы, жонкы, ласкы, наукы, присѧгы, рекы, рукы*: ѡнъ брат маткы его (Віл., 444); ѡкȣпит тѧ ѡт смерти и в воинѣ ѡт рȣкы меча (Зб., 262, 14); тепер зовутъ присѧгы вживати (Будны, 22б). Аднак у пераважнай большасці выпадкаў, а ў пазнейшы перыяд амаль выключна ў родным склоне назоўнікаў з асновай на заднеязычны ўжываўся канчатак *-и*.

Такім чынам, ужыванне канчатка *-ы/-и* ў родным склоне назоўнікаў жаночага роду былых асноў на *ā* было на ўсім працягу развіцця старабеларускай літаратурна-пісьмовай мовы арфаграфічнай нормай. Разам з тым у старабеларускай пісьменнасці ранняга перыяду і ў асобных рэлігійных і свецкіх помніках XVI—XVII стст. зрэдку ўжываўся і стары канчатак *-е (-ѣ)*, уласцівы яшчэ старажытнарускай мове пры напісанні слоў з мяккай асновай і амаль цалкам выцеснены з пісьмовага ўжытку канчаткам *-и* ўжо на заключным этапе развіцця старажытнарускай пісьменнасці: рижѧном оу Полочку никакое малое торговле не торговати (Гр. 1407); вышли проч из божнице (Пак. Хр., 33б); первородные речи так з добытѧ ѧко из землѣ бирали (Бельск., 20б). Такія формы падтрымліваліся ў старабеларускай пісьмовай мове ўплывам царкоўнаславян-

скай пісьменнасці. Спарадычныя выпадкі фіксацыі ў некаторых рэлігійных помніках слова *землѦ* з канчаткам -Ѧ (-ѩ) у родным склоне таксама тлумачацца ўплывам царкоўнаславянскіх арыгіналаў: видѣша столпа огнаго ѿ землѩ до нбси (Чэцця, 12); широта его до конець всѣѦ землѦ (Зб. 262, 117б).

З канчаткам *-и* ў родным склоне ўжываліся назоўнікі тыпу *братья, лодья, шурья:* кнѦз пак ѩноуш забыл добра и приѦзни цтѦ своего и тещи и шѹрьи своеи (Віл., 442); много братьи своеи ищет добра (Зб. 262, 133). Гэты ж канчатак быў уласцівы ў родным склоне назоўніку *шиѩ,* а таксама шматлікім назвам краін, аснова якіх заканчваецца на *и,* у сувязі з чым яны ад старажытнасці ўжываліся ў выглядзе словаформ *Вавилонии, Греции, Ефиѡпии, Индии, Месопотамии, Персии, Сирии:* черес то море чирвоне съ зыреи зь егпта до индіи плохо преѣздѦт (Валх. 47); оусердила мѦ еси... ѡдинымъ колнѣремъ шии своеи (Зб. 262, 84); вернулсѩ теды исав до Сирии (Бельск., 24) і інш. На працягу другой паловіны XVI і ў XVII ст. колькасць слоў гэтага тыпу прыкметна павялічылася за кошт запазычанняў пераважна лацінскага паходжання, якія таксама сталі ўжывацца ў родным склоне з канчаткам *-и* — *апелѩцыи, бестии, дискреции, елекцыи, инструкцыи, канцелѩрии, копии, легацыи, материи, ѡказии, ѡрдинации, посесыи, ревизыи, сентенции, традиции, унии, фантазии, юрыздицыи:* чого водлѹгъ артыкѹлѹ на соиме коронацыи королѦ генърика ѹѳаленого ѹчынити не могъ (Трыб., 14); конъфедерацыѦ с польское конъстытѹцыи... на рѹскии езыкъ преложона (Ст. 1588, 67); прошени есмо были ѡ выдане з книгъ канцелѩріи ншое (Дыяр., 154б) і інш.

Пэўнай асаблівасцю ў скланенні гэтай групы слоў можна лічыць толькі тое, што часам апошні галосны асновы *и (ы)* замяняўся галоснымі *е, ѣ, э,* у выніку чаго помнікі пісьменнасці падаюць нямала форм тыпу *александреи, брытанѣи, гвардеи, елекцеи, зофеи, индеи, колацеи, матереи, ѡртокграфеи, плебанеи, сирѣи, унеи, францэи:* привели насъ мѹжове плебанеи витебъское на рѹбеж свои (КВЗС, 84б); ѩ есми из ѳранцэи (Бава, 150); которой оунѣи лістъ тамъ же снать списаный приписалъ (Апакр., 4); котораѦ волна была ѿт тоей кондыцѣи (Хран., 75). У некаторых ранніх помніках родны склон гэтай групы назоўнікаў афармляўся пры дапамозе канчатка *-е:* пришол до лаѡдаціе (Жыц. Ал., 98); с коро-

левства панание приехал крол (Троя, 13). Нарэшце, у асобных помніках, пераважна перакладных, для афармлення роднага склону такіх назоўнікаў зрэдку выкарыстоўваўся канчатак *-ей*: тридцеть пѣнѧзеи... до роук королѧ арабіеи пришли (Валх., 60); кторыи же был с касидониеи (Троя, 52б); пришла невеста с самариеи (Зб. 255, 16). Можна меркаваць, што гэтыя канчаткі з'яўляліся ў перакладных тэкстах пад уплывам польскай мовы, у якой назоўнікі жаночага роду з канцавым галосным асновы часта мелі формы прыметнікаў (*paniej, studniej, sukniej*).

Для роднага склону назоўнікаў жаночага роду былых асноў на *ĭ*, *ū* і на зычны быў характэрны канчатак *-и*, у сувязі з чым у помніках пісьменнасці розных жанраў мелі адлюстраванне шматлікія словаформы тыпу *боязни, борти, великости, горкости, далекости, криви, милости, ночи, ѡсени, повести, постели, роспачи, свекрови, сеножати, трудности, хитрости, целости, церкви, чести, шерсти*: ѡн на тотъ рок не подал ему ничого соли (ПГ, I, 227, 1465); справедливости ꙋчынити не хотелъ (Трыб., 9б); пришла до свекрови своей (Біблія, 139б); не выходила с церкви (Зб. 259, 533). Некаторы разнабой, выкліканы з'яўленнем варыянта *-ы*, праяўляўся толькі ў выпадках, калі аснова слова заканчвалася на зацвярдзелыя шыпячыя, *ц* і *р*: такъ сѧ тыми разы доведала певъное речы (КВЗС, 12б, 1533); гордит плодом матеры своеѧ (Будны, 70б); знаки моцы и мдрости божеи (Выкл., 2б). Вельмі рэдка словы гэтага тыпу, як і назоўнікі былых асноў на *ā*, маглі ўжывацца ў пісьмовых помніках з архаічным канчаткам *-е*: ѡт цркве римское соут ѡтделены (Валх., 79б); ѩко се мелхиседекъ без ѡтца и без матере мѧнꙋет (Бельск., 16б); казалъ шꙋкати справедливости Бжеи, вѣдаючи еи маткою любве быти (Мак., 314).

Прыведзены фактычны матэрыял паказвае, што афармленне роднага склону назоўнікаў жаночага роду незалежна ад іх паходжання пры дапамозе канчатка *-ы/-и* з'яўлялася ў старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове арфаграфічнай нормай і ўсякія адхіленні ад яе былі нязначнымі.

У старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове для афармлення д а в а л ь н а г а склону назоўнікаў жаночага роду былых асноў на *ā* выкарыстоўваліся ўнаследаваныя ад старажытнарускай эпохі канчаткі *-е (-ѣ)* і

-*и*. Як сведчаць помнікі пісьменнасці, канчатак -*е* (-*ѣ*) ужываўся ў тэкстах розных жанраў у словах з асновай на цвёрды зычны — *битве, воде, войне, голове, горе, долине, жоне, згубе, зиме, королевне, личбе, ѡсобе, потребе, правде, славе, службе, стороне, траве, хвале, шкоде:* мы его не хочемъ пріпѫстіть къ справѣ (Вісл., 38); прозбе пановъ радъ нашихъ и всихъ становъ досытъ чинечи (Трыб., 16); далъ сестрѣ его клеѡпатре жонѣ своеи царство египетское (Рым., 81); стрела к горѣ летит (Зб. 259, 124б). Такое ж афармленне мелі ў давальным склоне і назоўнікі, у якіх канцавыя заднеязычныя асновы *г, к, х* чаргуюцца са свісцячымі *з, ц, с*: маеть именье взѦти все к своеи р8це (ККК, 144б, 148б); ѡтецъ нашъ ѡтъписалъ был жоне своеи а мачосе нашои панеи ганъне шымъковне на вечъность третюю часть (КВС, 441б, 1552); проводникъ не[?]кис к дорозе котории провадит (Зб. 259, 589).

З канчаткам -*и* ўжываліся ў давальным склоне назоўнікі жаночага роду з асновай на мяккі зычны *бо[?]рини, вечерни, воли, згрои, земли, кропли, лазни, лилии, надеи, недели, пашни, песни, пустыни, студни, сукни, торговли, шии, [?]скини;* оучинит некотор8ю шкод8 землі нашои (Вісл., 38б); кнѦз великыи кест8теи пригнал къ городѫ к вилни (Віл., 437б); ку зброи побегли (Троя, 18б); такъ стало трои (Тр. гіст., 72). У сувязі з зацвярдзеннем у старабеларускай мове некаторых зычных, у прыватнасці шыпячых, *ц* і *р*, у становішчы пасля гэтых зычных у некаторых помніках канчатак -*и* замяняецца канчаткам -*ы:* кажном8 по лисици (Вісл., 30б); к оршы прихѡдилъ (Віл., 445б) — ѡттоле кнѦз великии витовт прыидеть къ ѡршы (Рач., 254); матерею належачую и прислухаючую к8 мынцы фальшовали (Ст. 1588, 24).

Ужыванне ў давальным склоне назоўнікаў жаночага роду канчатка -*е* (-*ѣ*) пры цвёрдай і -*и* (-*ы*) пры мяккай (зацвярдзелай) аснове вытрымлівалася паслядоўна ва ўсіх жанрава-стылявых разнавіднасцях старабеларускай пісьменнасці на ўсім працягу яе развіцця. Адхіленні ад гэтага правіла сустракаюцца ў беларускіх пісьмовых помніках вельмі рэдка. Так, на фоне правільных напісанняў зусім непрыкметнымі выглядаюць выпадкі ўжывання канчатка -*и* ў давальным склоне назоўнікаў з цвёрдай асновай: невѣсти (Ст. 1529, 228); преблагословеннеи дѣви (Зб. 259, 533). Толькі спарадычна сустракаецца -*ѣ* ў назоўніках з мяккай асновай: великой княгинѣ (АЗР, I, 303, 1503); богинѣ вѣстѣ (Рым., 79). Хоць

падобныя адхіленні былі выкліканы ўзаемадзеяннем абедзвюх асноў, але гэта ўзаемадзеянне не было ў старабеларускай мове такім моцным, як у старарускай, дзе канчатак *-е (-ѣ)* паступова замацаваўся пры мяккай аснове, і істотных змен у афармленне давальнага склону назоўнікаў жаночага роду з былой асновай на *ā* не ўнесла.

Назоўнікі жаночага роду з былымі асновамі на *ĭ*, *ū* і на зычны, страціўшы свае ранейшыя асаблівасці яшчэ ў старажытнарускую эпоху, на ўсім працягу развіцця старабеларускай літаратурна-пісьмовай мовы выступалі з канчаткам *-и*, які толькі ў выпадках, калі аснова слова заканчвалася на зацвярдзелыя шыпячыя, *ц* і *р*, зрэдку замяняўся варыянтам *-ы*. У пісьмовых помніках словаформы давальнага склону гэтых назоўнікаў мелі выгляд *болести, высокости, жалости, зацности, злости, користи, кости, лести, любви, матери, мудрости, ночи, осени, памети, радости, свекрови, смерти, трудности, церкви, чести:* к одной цркви прибѣгають (Вісл., 32б); его жалости месть сътворил (Віл., 448б); то к8 ведомости всимъ прийти могло (Трыб., 15б); ку его м8дрости присmат 8мыслили (Алекс. XVII, 74б). Адхіленні ад такога формаўжывання сустракаюцца ў старажытных пісьмовых помніках толькі ў адзінкавых выпадках. Напрыклад, у Зборніку № 262 у словах гэтага тыпу пад уплывам форм назоўнікаў з асновамі на цвёрды зычны часам адзначаецца канчатак *-е (-ѣ)* на месцы заканамернага *-и:* реклъ естерѣ црци (131), реклъ црь естере црци (132б), а ў біблейскіх кнігах у перакладзе Ф. Скарыны мае месца ўжыванне канчатка *-ови,* характэрнага для назоўнікаў мужчынскага роду са значэннем асобы: сѣ домъ Амановъ далъ есми Есѳерови цариции (Скар. КЕ, 13б); сосуды сиѧ ωтдали людие І8диѳови (Скар. КЮ, 24б).

Пэўнай своеасаблівасцю вылучалася ў старабеларускай пісьменнасці афармленне давальнага склону назоўніка *пани*. Побач з формай *пани,* аналагічнай формам назоўнікаў *боѧрини, господарыни, кнѧгини,* даволі часта гэты назоўнік выступаў у давальным склоне ў форме *паней,* утворанай, як лічаць даследчыкі, па ўзору прыметнікаў: сл8жила панеи семеновои (КВЗС, 39б); панеи бруноровицы вътни главу мечомъ (Трыст., 76); пришла теды агаръ и 8кориласѧ панеи своей (Біблія, 43). У пашырэнні гэтай формы пэўную ролю адыграў уплыў аналагічнай старапольскай формы *paniej.*

Сродкам афармлення **в і н а в а л ь н а г а** склону назоўнікаў жаночага роду былых асноў на *ā* ў старабеларускай мове, як і ў старажытнарускай, быў канчатак *-у/-ю,* прычым варыянт *-у* быў уласцівы назоўнікам з цвёрдай асновай, *-ю* — з мяккай. З гэтым канчаткам шырока адлюстраваны ў пісьмовых помніках розных жанраў назоўнікі абедзвюх разнавіднасцей — *беседу, братию, воду, волю, голову, дорогу, жону, зброю, землю, комнату, кроплю, личбу, лазню, мову, неделю, ногу, ѡсобу, помсту, пустыню, руку, славу, стайню, торговлю, улицу, цноту, шапку, ꙗскиню:* правдоу дали (Віл., 443); ѣли чеснок и цибоулю (Пак. Хр., 7б); зброю брали (Троя, 65); отошли в сторон8 свою (Цяп., 3б).

Усе астатнія назоўнікі жаночага роду, г. зн. словы, якія адносіліся некалі да асноў на *ĭ*, *ū* і зычны, мелі ў старабеларускі перыяд у вінавальным склоне форму, што супадала з формай назоўнага склону — *бронь, волость, жалость, злость, користь, кость, лесть, любовь, милость, ночь, ѡсень, печать, радость, речь, соль, трудность, хитрость, честь, шерсть, ꙗсность:* месть сътворил (Віл., 448б); приидох разлучити человѣка на ѡтца своего, и дъщере на матер свою, и невѣстку на свекровъ свою (Будны, 55); вспомнели на т8ю невымовн8ю ѡбличѧ его ꙗсность (Карп., 20); весну лѣто и ѡсень бавил межы лесы (Пралог, 534). Ніякіх асаблівасцей у іх ужыванні старабеларуская пісьменнасць не выяўляла.

**У т в о р н ы м** склоне назоўнікі жаночага роду былых асноў на *ā* ўжываліся ў старабеларускай мове са старажытным канчаткам *-ою/-ею.* Варыянт *-ою,* як правіла, мелі назоўнікі з цвёрдай асновай. Гэта пацвярджаецца данымі помнікаў розных жанрава-стылявых разнавіднасцей старабеларускай пісьменнасці XIV—XVIII стст., дзе знайшлі шырокае адлюстраванне слова-формы тыпу *битвою, виною, головою, долиною, дочкою, жалобою, заставою, крапивою, личбою, мовою, невесткою, ѡхотою, правдою, росою, силою, турмою, умовою, хвалою, шатою, ꙗгодою:* сілою права ѡтводѧть (Вісл., 15); ѡнъ др8гими вороты 8текъ в лесъ зъ жоною (ККК, 166б, 148б); под кропивою збираютсѧ (Зб. 262, 24б); 8дарил его в голов8 лѣскою котор8ю держалъ (Алекс. XVII, 73).

Варыянт *-ею* выкарыстоўваўся пры афармленні творнага склону назоўнікаў жаночага роду з мяккай асновай — *волею, зброею, землею, кнегинею, кошулею, кулею, куплею, лазнею, неделею, песнею, походнею, пу-*

*нею, пустынею, скрынею, стайнею, студнею, хвилею, хвоею, шаблею, ѧскинею:* всею к8плею своею к8пи роз8мъ (Зб. 262, 94б); не зь жадною зъкграею прист8пити и до кгмаху входити маеть (Трыб., 7б); стану*л* пере*д* мѣсто*м* на*д* ст8днею (Бельск., 19); з ѧкою бы с8кнею вшолъ с такою нехай вы*и*де (Хран., 98).

Ва ўжыванні разгледжаных варыянтаў у творным склоне назоўнікаў жаночага роду, як правіла, у пісьмовых помніках адхіленняў не назіраецца. Ваганні заўважаюцца толькі пры ўжыванні ў творным склоне тых слоў, аснова якіх заканчваецца на шыпячы, *ц* або *р*. У сувязі з тым што ў старабеларускай жывой народнай мове гэтыя зычныя зацвярдзелі і развілося аканне, у творным склоне канчатак назоўнікаў гэтай групы атрымаў агаласоўку *-аю*. Аднак напісанне *-аю* супярэчыла патрабаванням традыцыйнай арфаграфіі, таму пісцы, адчуваючы новую вымаўленчую якасць гэтага канчатка, але не маючы звычаю змяняць галосны *е* на *а*, пачалі выкарыстоўваць канчатак *-ою*, які пісаўся пры цвёрдай аснове. Словаформы на *-ою* пасля шыпячых, *ц* і *р* распаўсюдзіліся ў помніках усіх жанрава-стылявых разнавіднасцей старабеларускай пісьменнасці пачынаючы з XV і канчаючы XVIII ст.: сами оу мене оу нѦтствѣ хωдѦть за малою сторожою (Віл., 440б); кожою и мѦсо*м* ωболок мѦ еси (Зб. 262, 16); чинить ее чужоложъницою (Цяп., 6б); вѣрою а надѣею приωздобена ч8ле молиласѧ (Зб. 259, 9) і інш. Разам з тым у многіх пісьмовых помніках, асабліва ў больш ранніх і ў тэкстах рэлігійных жанраў, словы гэтай катэгорыі па традыцыі ўжываліся ў творным склоне са старым канчаткам *-ею:* ωна своею дѣ*л*ніцею може*т* м8жа пон҃Ѧть (Вісл., 31б); ω*т*поведа*л* претроухливою доушею (Пак. Хр., 3); б8рею оурази*л* мѦ и оумножи*л* раны мои (Зб. 262, 15б); сажею лица их почерни*в*ши, ω*т* себе выгналъ (Варл., 259б). Тым не менш варыянт *-ою* ў творным склоне назоўнікаў жаночага роду з шыпячымі, *ц* і *р* на канцы асновы паступова заваёўваў усё больш моцныя пазіцыі.

З варыянтам *-ею* ўжываліся ў творным склоне назоўнікі, аснова якіх заканчваецца гукам *j* незалежна ад вымаўленчай якасці галоснага перад *j*, як у выпадках *амнистиею, апелѧцыею, братиею, европиею, зброёю, инстанциею, констытуцыею, лилиею, материею, надееню, оказиею, процесыею, ремисыею, сентенциею, турбацыею, униею, фуриею, шиею:* іωсепъ с маріею позно 8же смеркаючисе пришо*л* (Валх., 44); то есмо имъ на писме вы-

дат были росказали за вар8нкомъ и змоцненьемъ тое речы конъстыт8цыею соимовою (Трыб., 1); македониею справовал (Алекс. XVII, 9); над шиею на нити мечъ виселъ сталистый (Лям., 19). Да гэтай групы слоў, як відаць з прыкладаў, належалі назоўнікі, якія ў асноўным з'яўляліся лацінізмамі па паходжанню, іншыя абазначалі імёны людзей, назвы розных краін і гарадоў.

Выпадкі ўжывання словаформ са скарочаным канчаткам *-ой/-ей* для помнікаў старабеларускай пісьменнасці не характэрны. Хоць Я. Ф. Карскі адзначаў, што з'яўленне такого канчатка ў беларускіх крыніцах адносіцца ўжо да XV ст., аднак ілюстрацыйнага матэрыялу на гэту з'яву ён не прыводзіў.

Сродкам афармлення творнага склону назоўнікаў жаночага роду з былымі асновамі на *ĭ*, *ŭ* і на зычны быў канчатак *-ью*, які ў пэўных сітуацыях мог выступаць як *-ию*. Канчатак *-ью* быў пашыраны ва ўсіх жанрах старабеларускай пісьменнасці, прычым у дзелавых і свецкіх помніках складаў амаль непадзельную арфаграфічную норму. Выпадкаў выкарыстання канчатка *-ью* пры афармленні творнага склону ў старажытных беларускіх тэкстах надзвычай багата — *болестью, волостью, жалостью, зацностью, злостью, костью, кровью, любовью, мудростью, ночью, осенью, печалью, радостью, свекровью, трудностью, хитростью, цудностью, частью, шерстью, ѧростью:* взѦлъ оу него солью, грошми всего на пѦтнадцѦть р8блевъ (ПГ, I, 205, 1461); тѦжеи было еи тогды животъ вести нижли претѦжкою смертью загиноути (Пак. Хр., 14); повѣдано ми все што вчинила еси съ свекровью свою (Зб. 262, 32); золото заправды вси кр8шцы ц8дностью и дорогостю превышает (Алекс. XVII, 22б).

З канчаткам *-ию* ў творным склоне назоўнікі жаночага роду сустракаюцца ў дзелавой і свецкай пісьменнасці вельмі рэдка і то амаль выключна ў помніках ранняга перыяду, напрыклад у Вісліцкім статуце: ѡбличностію (33б), честію (42); ва Увараўскім спісе летапісу: ратию (5); у Аповесці аб Троі пачатку XVI ст.: великостию (5). Затое ў пісьмовых крыніцах рэлігійных жанраў XV—XVII стст. яго выкарыстанне з'ўляецца звычайным, і формы тыпу *великостию, грѦзию, жолтию, кровию, лестию, милостию, мудростию, немоцию, плотию, радостию, сетию, скоростию, страстию, трудностию, хитростию* выступаюць тут у якасці варыянтнай нормы: с ѧкою горкостію и навалностію наипервое до аннаша

приведен есть (Пак. Хр., 7); збавилъ тотъ ѡныи город м8дростію своею (Зб. 262, 91); завистію порушонъ (Будны, 223); послы з велікою радостию розехалися (Зб. 752, 108). Значнае пашырэнне словаформ на *-ию* ў старабеларускіх пісьмовых помніках рэлігійных жанраў тлумачыцца царкоўнаславянскім арфаграфічным уплывам на старабеларускую літаратурна-пісьмовую мову. Падобныя словаформы захоўваліся ў старабеларускай пісьменнасці аж да XVIII ст. і з'яўляюцца арфаграфічнай нормай у Зборы выпадкаў кароткім (1722): болестію (3), солію (8), властію (12б), жалостію (23), помощію (23б), сповѣдію (36б), пилностію (40б), трудностию (41).

Звяртае на сябе ўвагу і наяўнасць у творным склоне разгледжанай катэгорыі назоўнікаў канчатка *-ою/-ею* паралельна з *-ью (-ию)*: на тотъ рокъ маюють готовы быти... не вымовляючися жадною речою (КВЗС, 148, 1537); спокоинѣишею мыслею служыти закон его размышливати а прыказане ховати мог (Атыла, 187); потравы цнотъ своихъ якобы солею заправ8ют (Зб. 259, 168б). Выкарыстанне канчатка *-ою/-ею* ў гэтых выпадках трэба, безумоўна, звязваць з уплывам форм назоўнікаў з былой асновай на *ā*.

У м е с н ы м склоне адзіночнага ліку назоўнікі жаночага роду афармляліся пры дапамозе ўнаследаваных ад старажытнарускага перыяду канчаткаў *-е (-ѣ)* і *-и*. Канчатак *-е (-ѣ)* быў асноўным сродкам афармлення назоўнікаў былой цвёрдай асновы на *ā*. З гэтым канчаткам яны шырока ўжываліся на працягу ўсяго перыяду развіцця старабеларускай пісьменнасці ў помніках розных жанраў, утвараючы словаформы тыпу *(въ, на, о, при, у) беседе, битве, воде, войне, голове, дуброве, жалобе, заставе, коморе, личбе, нозе, ѡсобе, помсте, реце, руце, силе, турме, хвале, цноте, школе:* в телезе по чотыри волы (ККК, 28б, 1486); при его моуце был (Пак. Хр., 7б); медци венцеишими перьвыи был або вторыи моцныи во цноте и в силе валечнои (Троя, 15б); стои при тои дорозѣ (Зб. 752, 14). З канчаткам *-и* ўжываліся назоўнікі жаночага роду былых асноў на *ā* з мяккай асновай і асновай на *j*, выступаючы ў помніках пісьменнасці ў выглядзе словаформ тыпу *(въ, на, о, при, у) вилни, воли, зброи, земли, кошули, купли, лазни, лилии, надеи, недели, пашни, песни, пожни, свиньи, скрыни, стайни, студни, торговли, хвили, яскини:* то оу нашои волі б8деть (Вісл., 39); на тои земли ѡдна только матъ-

ка его ѡстала (ККК, 85, 1486); былъ 8 зброи (Трыст., 77); в пятокъ по третеи недели в пост (Зб. 255, 15).

Такое размеркаванне граматычных сродкаў для афармлення меснага склону назоўнікаў жаночага роду былых асноў на $\bar{a}$ захоўвалася на ўсім працягу развіцця старабеларускай пісьменнасці. Аднак нельга лічыць, што ў старабеларускай літаратурнай мове не адбывалася ўзаемаўплыву паміж гэтымі двума тыпамі словаформ. У радзе пісьмовых помнікаў сустракаюцца выпадкі, калі пры цвёрдых асновах ужываецца канчатак, уласцівы для мяккіх асноў, а назоўнікі з мяккай асновай афармляюцца пры дапамозе канчатка цвёрдых асноў. Іменна ўплывам мяккага тыпу скланення тлумачыцца з'яўленне канчатка *-и* ў наступных словаформах: 8 турми (Бава, 145); на дорози (Дыяр., 165б); по долгои годинн (Зб. 107, 108); по ночнои ради (Зб. 259, 581б). З другога боку, уплывам форм з цвёрдай асновай можна растлумачыць ужыванне канчатка *-ѣ* ў некаторых назоўніках з мяккай асновай: на землѣ (Бельск., 6б); на зѣмлѣ и на водѣ (Зб. 259, 536). Аднак гэта ўзаемадзеянне аказалася неэфектыўным і істотных змен у афармленне меснага склону не ўнесла. Да іншых вынікаў прывёў гэты працэс у старарускай мове, дзе ў адпаведнасці з формаўжываннем жывых гаворак на працягу XVI ст. адбылося выраўноўванне форм меснага склону назоўнікаў з мяккай асновай па формах назоўнікаў з цвёрдай асновай.

У сістэме форм меснага склону назоўнікаў жаночага роду былых асноў на $\bar{a}$ некаторую спецыфіку выяўлялі ў пісьмовых тэкстах толькі словы з асновай на шыпячы, *ц* і *р*. На раннім этапе развіцця старабеларускай пісьменнасці, калі адзначаныя зычныя былі яшчэ мяккімі, ужыванне назоўнікаў гэтага тыпу з канчаткам *-и* ў месным склоне было заканамернай з'явай: на оулици петръ она гонилъ и ранилъ (Вісл., 19); вчинилъ собѣ коучю и в к8чи жилъ (Чэцця, 14); ѡбразъ пана нашого езоу криста нечеловѣчьим делом оуделаныи на простири держан есть (Жыц. Ал., 97б). З пачатку ж XVI ст., калі шыпячыя, *ц* і *р* у беларускай мове ўжо зацвярдзелі, можна было б чакаць адлюстравання ў пісьмовых помніках гэтых назоўнікаў з канчаткам, уласцівым назоўнікам з цвёрдай асновай, г. зн. *-е*. Аднак старабеларуская пісьменнасць такіх форм не дае, бо ў жывой народнай мове ў сувязі з зацвярдзеннем шыпячых, *ц* і *р* на месцы *-і* развіваўся *-ы*. Гэты новы канчатак як паказчык цвёр-

дасці шыпячых, *ц* і *р* усё часцей ужываўся паралельна з *-и* пераважна ў помніках дзелавых і свецкіх жанраў, утвараючы тут асноўную правапісную норму, параўн. у Кнізе Віцебскага земскага суда 1533—1540 гг.: на к8ницы мешъкалъ (1), 8 светълицы (103), на тои клячы (111б) — на клячи (111б), в тои п8щи своеи (164); у Аповесці аб Трыстане: в *ложницы* (15), в темницы (105) — 8 θлѧши (101) і інш. У тэкстах рэлігійных жанраў, якія больш трывала захоўвалі правапісныя традыцыі, наадварот, пераважалі формы на *-и:* бѣгают по с8ши (Зб. 262, 24); о вечери (Будны, 3б); на пущи (Біблія, 448); в тои винници (Зб. 259, 198б) і інш. Словаформы з канчаткам *-ы* сустракаюцца тут спарадычна: ѡ десницы богу сѣлъ (Будны, 122б); много бовѣм было в тои пущы ѡкр8тныхъ звѣреи (Зб. 752, 13).

Назоўнікі жаночага роду з былымі асновамі на *ĭ*, *ū* і зычны на ўсім працягу развіцця старабеларускай літаратурна-пісьмовай мовы мелі ў месным склоне канчатак *-и.* З гэтым канчаткам яны паслядоўна адлюстроўваліся ў помніках розных жанрава-стылявых разнавіднасцей— *(въ, на, о, при, у) болести, волости, глупости, далекости, заповеди, кости, лести, любви, матери, мысли, ночи, ѡсени, печали, радости, свекрови, терпливости, целости, церкви, чести, шерсти:* прігожаетсѧ такымъ дѣтемь оу молодості частокрот свою дѣлніцю истратить (Вісл., 28); оу церкви голос з неба зазвинѧл (Жыц. Ал., 98); нашли ег лежачог на королевскои постели (Троя, 7б); ромулюс бенкартъ потомок енеѧ здраицы троиского по матери (Рым., 78б). Толькі тыя назоўнікі, аснова якіх заканчваецца на шыпячы, *ц* і *р*, маглі прымаць у месным склоне канчатак *-ы* замест *-и,* што з'яўлялася сведчаннем зацвярдзення гэтых зычных у беларускай мове: ѡни деръжачы того чл҃вка 8 своеи моцы ѡт крывдъ боронити не хотять (КВС, 453); гэрбъ якъ на тарчы так на хоругвѧх носил (Атыла, 179) і інш. Разгледжаныя формы меснага склону назоўнікаў жаночага роду захаваліся ў сучаснай беларускай мове.

## *Формы назоўнікаў ніякага роду*

У н а з о ў н ы м склоне адзіночнага ліку назоўнікі ніякага роду, як і ў старажытнарускі перыяд, мелі ў старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове канчаткі *-о, -е.* З канчаткам *-о* выступалі, як правіла, назоўнікі.

аснова якіх заканчвалася на цвёрды зычны, як у слова-формах тыпу *болото, вино, войско, горло, дело, железо, золото, лекарство, место, молоко, небо, ѡзеро, ѡлово, полотно, потомство, слово, тело, ухо, чудо, царство.* Канчатак *-е* выкарыстоўваўся пры напісанні назоўнікаў з мяккай асновай: *битье, веселье, говоренье, дрыжанье, еднанье, жданье, зелье, именье, коренье, море, нароженье, ѡтосланье, поле, розуменье, свитанье, терпенье, устье, чиненье, щастье.* Афармленне адзначаных назоўнікаў пры дапамозе абодвух канчаткаў знайшло шырокае адлюстраванне ў старабеларускай пісьменнасці: бысть веселье мно*г* (Віл., 448); црство мое есть тоу*т* (Пак. Хр., 19); дерѣво доброе овощи добрые чинить (Цяп., 9); око не видѣло, и оухо не слышало (Мак., 264).

Разнабой у афармленні назоўнага склону назіраўся толькі ў выпадках, калі ў назоўным склоне ўжываліся назоўнікі з асновай на шыпячы і *ц*. У пісьмовых помніках, дзе было моцным захаванне правапісных традыцый або выразна праяўляўся царкоўнаславянскі ўплыў, звычайна выступаў канчатак *-е (лице, селище, сердце)*; для тэкстаў, якія больш шырока адлюстроўвалі зацвярдзенне шыпячых і *ц*, характэрны быў канчатак *-о (лицо, селищо, сердцо)*; лице ее проси[illegible] свѣто*м* (Чэцця, 6); ваше се*р*дъце неха*и* се не по*д*носи*т* (Алекс. XVII, 19б) — лицо его так се было изменило (Пак. Хр., 6б); старое речыщо маеть быти пре*д*се границою (Ст. 1588, 367). Часам такі разнабой сустракаецца ў аднаго і таго ж аўтара ці перакладчыка.

З ліку назоўнікаў ніякага роду вылучаюцца толькі назоўнікі былых асноў на зычны *н* тыпу *имѧ, веремѧ, семѧ* і т накшталт *козлѧ*, ѡслѧ, *телѧ*, якія ў старабеларускай пісьменнасці, як і ў старажытнарускай, мелі ў назоўным склоне канчатак -ѧ: осердѣеть и жеребѧ дикое (Зб. 262, 16б); карова одна до дому войтовского прышла, але теля не прыходило (АВК, XXXIX, 244, 1579); сталосе знамѧ стра*ш*ливое в мѣсти (Бельск., 388); по все*м* свѣте залецa*н*но есть им[illegible] дариево (Алекс. XVII, 9).

Асноўным сродкам афармлення р о д н а г а склону назоўнікаў ніякага роду ў старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове, як і ў старажытнарускай, быў канчатак *-а/-я*. Ён выступаў, як правіла, у помніках пісьменнасці розных жанраў, у сувязі з чым яны характарызуюцца наяўнасцю словаформ тыпу *болота, ведра, войска, гумна, дерева, долота, железа, жыта, золота, лета,*

*местца, молока, неба, ѡкна, полѧ, ремесла, слова, солнца, царства, черева:* лавринъ не был чістог ложа (Вісл., 24б); лотоки его полны молока (Зб. 262, 21); слово ѡт слова то вписати дати мають (Трыб., 15б); был там в крȣгу ѡного полꙗ лѣсъ (Алекс. XVII, 35б). Такой стабільнасцю форм роднага склону назоўнікі ніякага роду адрозніваліся ад назоўнікаў мужчынскага роду, якія афармляліся яшчэ і пры дапамозе канчатка *-у/-ю*. Некаторую непаслядоўнасць выяўлялі толькі словы з асновай на *р*, у сувязі з зацвярдзеннем якога традыцыйны канчатак *-я* ў радзе помнікаў замяняецца канчаткам *-а:* почавши ѡт мѣста римского ажъ до морꙗ заходнего (Алекс. XVII, 11б) — з земли вси пожитки беремы, з мора рибы (там жа, 35).

Назоўнікі ніякага роду тыпу *здоровье, зелье, именье,* а таксама шматлікія аддзеяслоўныя назоўнікі тыпу *выволанье, ловенье, стрелѧнье* звычайна ўжываліся на ўсім працягу развіцця старабеларускай пісьменнасці з *ь* перад канчаткам роднага склону, утвараючы формы *актыкованьꙗ, бичованьꙗ, везеньꙗ, гвоздьꙗ, збавеньꙗ, ловеньꙗ, милосердьꙗ, насеньꙗ, ѡбильꙗ, панованьꙗ, розуменьꙗ, слуханьꙗ, счастьꙗ, узреньꙗ, упомненьꙗ, цвиченьꙗ:* приплынули до месем длѧ добытьѧ спижи (Троя, 5); ȣвезаньѧ боронилъ моцно (Трыб., 14б); длꙗ ловенꙗ звѣрȣ заплыв до нѣкоторои велми ѡздобнои и веселои выспы (Тр. гіст., 67); през цѣлыи рокъ теды длꙗ збитꙗ и мордованꙗ ѡного лежал (Зб. 107, 128). Неабходна таксама адзначыць, што ў ранніх старабеларускіх пісьмовых помніках і ў некаторых тэкстах рэлігійнага зместу пазнейшага часу родны склон аддзеяслоўных назоўнікаў часам мае формы на *-ия:* такіи не входѧт нашег ѡсȣженіꙗ подлȣгъ заслȣгы (Вісл., 27б); самовластиа позбыли (Будны, 223); крещениꙗ потребовалъ (Зб. 259, 527). Несумненна, захаванне гэтага канчатка падтрымлівалася тут уздзеяннем царкоўнаславянскіх правапісных прыёмаў.

У радзе беларускіх пісьмовых помнікаў XVI—XVIII стст., дзе знайшло адлюстраванне ўласцівае гаворкам сцяжэнне або падаўжэнне апошніх зычных асновы, родны склон гэтай катэгорыі слоў афармляецца без *ь* перад канчаткам *-я:* Каин ѡфѣровал бгȣ дари з насѣнꙗ земног (Бельск., 6б); нѣкоторие писали ѡт початку свѣта до заложенѧ риму (Рым., 78б).

У старабеларускіх пісьмовых помніках пэўнай спе-

цыфікай пры афармленні роднага склону вылучаліся толькі назоўнікі ніякага роду з былымі асновамі на *н*, *т*. У пераважнай большасці выпадкаў яны выступалі з традыцыйным канчаткам *-и*, унаследаваным ад старажытнарускай эпохі. Выпадкаў ужывання словаформ *времени, знамени, имени, племени, поломени, рамени, семени; быдлѦти, дитѦти, жеребѦти, зверати, ѡтрочати* ў старабеларускіх пісьмовых помніках розных жанраў даволі многа: взѦлъ с кажъдого конѦ из жеребѦти и с клѦчи по денъзе (ККК, 167б, 1486); не наити таковаго штобы помоглъ при смертном веремени (Чэцця, 52); поднесши р8ку свою в моцности рамени своег (Троя, 26б); зготовала была неѧкие х8сточки длѧ повитѧ ѡтрочати (Зб. 255, 326б). У асобных тэкстах рэлігійных жанраў для афармлення роднага склону назоўнікаў гэтага разраду зрэдку прыцягваецца і архаічны канчатак *-е*: потребоуеть каког конѦ албо звѣрѦте (Валх., 43б); лвица бовемъ кромъ едного лвѧте болшеи не родит (Зб. 259, 10б). Разам з тым неабходна адзначыць, што пад уздзеяннем іншых назоўнікаў ніякага роду назоўнікі з асновамі на *н, т* часам ужываюцца ў родным склоне і з канчаткам *-а/-я:* носили зброю чирвон8 а жолту красн8 оумалевано без жадного знаменѦ (Троя, 12б); ѡт своего именѦ прозвал мѣсто рома (Рым., 78); сонъ... такъ приналежачии до звѣратѦ и ем8 потребныи (Зб. 259, 10б). Гэта паказвае, што і ў родным склоне назоўнікаў ніякага роду адбывалася уніфікацыя канчаткаў, якая, аднак, завершана не была (параўн. сучасн. *імя — імені; племя — племені; дзіцяці, цяляці, ягняці*).

У д а в а л ь н ы м склоне адзіночнага ліку назоўнікі ніякага роду, акрамя слоў з асновамі на *н, т,* мелі ў старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове канчатак *-у/-ю*. З гэтым канчаткам яны паслядоўна ўжываліся ў пісьмовых помніках розных жанраў на працягу ўсяго перыяду развіцця старабеларускай пісьменнасці, утвараючы словаформы тыпу *болоту, войску, горлу, дереву, долоту, железу, кольцу, лекарству, лету, месту, небу, ѡзеру, ѡкну, панству, полю, праву, сердцу, слову, телу, чуду:* справѣдливость по своем8 прав8 дали (ПГ, II, 104, 1482); вернулъсѦ ѡпѦт к тому мѣстцу (Бава, 155); самовидцами и сл8гами слов8 были (Варл., 71б); ѡвца по полю ходит не могли (Зб. 752, 1).

Як і ў родным склоне, назоўнікі тыпу *здоровье, именье* і аддзеяслоўныя назоўнікі ўжываюцца ў большасці выпадкаў з *ь* перад канчаткам: головнѦ оуголью а ды-

ва ѡгню (Зб. 262, 107); ку вызволенью троилевому спе*ш*не бы*л* прибеглъ (Троя, 45б); ничого шкодити тому ѡбиранью с8де*и* не маеть (Трыб., 2б); зе*м*лю... да*м* тобѣ и насѣнъю твоем8 (Бельск., 25). У пісьмовых помніках, якія адчулі на сабе царкоўнаславянскае ўздзеянне, для афармлення давальнага склону выкарыстоўваецца канчатак *-ию*: вси моци и поднесеніа моꙗ пановані моем8 по*д*даны соу*т* (Пак. Хр., 18б); оу их же болше все*х* потра*в* и ины*х* потре*б* коу 8живанію (Валх., 46б); приближаютсѦ ко ѡбезьѣствію (Зб. 262, 29). Пры адлюстраванні помнікамі сцяжэння зычных асновы ў давальным склоне перад канчаткам *ь* не пішацца: ничого тежъ к8 еденю не ш8каемы (Алекс. XVII, 32); пришла година роженю (Тр. гіст., 67б); приглѣдѣвъшисꙗ за*ц*ности и щастю (Зб. 259, 557).

Сродкам афармлення давальнага склону назоўнікаў з асновамі на *н, т* быў у помніках старабеларускай пісьменнасці старажытны канчатак *-и*, прычым суфіксы *-ен-, -ет-* захоўваліся — *времени, имени, племени, семени; дитѦти, зверѦти, кнѦжати, ѡтрочати:* даю сельце... своему племени на памѦть (ПГ, I, 86, XIV ст.); говори*т* миръ всем8 сѣмени своемоу (Зб. 262, 133); ве*р*нимосѦ ку ѡному Аколонову дитѦти (Трыст., 4); пришо*л* к8 кнꙗжати своему (Алекс. XVII, 19). Аднак у некаторых тэкстах рэлігійнага зместу пачатку XVI ст. былі магчымы і формы з канчаткам *-ю:* промысли*л* есми к веремено тѣсном8 (Зб. 262, 28б); нехаи же поеть именю твоему вышнем8 (Пс. XVI, 63б). У асобных пісьмовых крыніцах пачатку XVII ст. ёсць нават выпадкі ўжывання гэтых форм з канчаткам *-еви*, што былі ўласцівы назоўнікам мужчынскага роду: це*р*ковъ котор8ю есмъ посвети*л* именеви моему, не ѡткин8 (Біблія, 418); поча*л* тамъ мѣсто своему именеви ф8*н*дова*т* (Алекс. XVII, 75б).

Такім чынам, і ў давальным склоне назоўнікі ніякага роду выступалі ў старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове як адзін тып скланення. Толькі словы з былымі асновамі на *н, т* захоўвалі яшчэ старажытны канчатак *-и*, але і тут прабіваў сабе дарогу канчатак *-ю*.

Для в і н а в а л ь н а г а склону большасці назоўнікаў ніякага роду былі характэрны формы на *-о, -е* — *болото, войско, горло, дело, железо, золото, лекарство, молоко, небо, ѡзеро, полотно, слово, тело, царство, чудо; веселье, дрыжанье, еднанье, зелье, именье, каменье, море, поле, свитанье, торгованье, устье,* што супадалі з назоўным склонам: 8 мое воиско пріеха*л* (Віл., 443);

зелье або лѣкарство дають шкодливое (Будны, 76б); маетъ по собе певное рукоемъство дати (Трыб., 6); свѣтѧт ꙗко сребро и золото (Зб. 259, 526).

Некаторы разнабой ва ўжыванні гэтых канчаткаў назіраецца толькі ў словах, дзе перад канчаткам сустракаецца шыпячы ці *ц*, бо вымаўленне гэтых зацвярдзелых зычных не супадала з правапіснай традыцыяй: ꙗ тое именеицо ꙗцка хведковича ꙋ красынꙗх держꙋ (КВЗС, 42, 1533); миловали его пновеꙗкъ свое сэрцо (Трыст., 41) — пришол на мѣстце (Алекс. XVII, 14б); апостолове пали на лице (Зб. 259, 552).

Зрэдку ў помніках старабеларускай дзелавой пісьменнасці, відавочна, пад уздзеяннем акаючай гаворкі пісца вінавальны склон назоўнікаў ніякага роду афармляецца канчаткам *-я* замест традыцыйнага *-е*: ѡрал свое полѧ (Вісл., 32); дал за тое полѧ (КМС, 11б).

Сярод назоўнікаў ніякага роду сваёй спецыфікай афармлення вінавальнага склону вылучаюцца толькі словы з былымі асновамі на *н, т*, якія таксама, як і ў назоўным склоне, ужываюцца з канчаткам *-а/-я*: ѡнъ был кнѧжа апостолское (Пак. Хр., 5); вложил гсдь на каине знамꙗ, абы его не забивал кождыи (Біблія, 532); поставил ѡтроча малое посреде их (Зб. 255, 189) і інш.

Сродкам афармлення т в о р н а г а склону назоўнікаў ніякага роду быў у старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове канчатак *-омъ/-емъ*. З варыянтам *-омъ* на ўсім працягу развіцця старабеларускай пісьменнасці ўжываліся ва ўсіх яе жанрава-стылявых разнавіднасцях назоўнікі з цвёрдай асновай: *болотомъ, войскомъ, горломъ, деломъ, железомъ, золотомъ, игомъ, лономъ, мыломъ, небомъ, ѡкомъ, правомъ, словомъ, теломъ, ухомъ, чудомъ*: не габаеть его жаднымь правомъ (Вісл., 20б); чолом оударивши покорне богу дѧковали (Валх., 54б); винень бꙋдеть рꙋчницы перед местом выстрелити (Трыб., 8); онъ васъ злымъ словомъ, помышленемъ образилъ (Лям., 4).

Пры дапамозе варыянта *-емъ* у помніках старабеларускай пісьменнасці афармляліся назоўнікі з мяккай асновай, значную частку сярод якіх складалі імёны аддзеяслоўнага паходжання, прычым у апошніх перад канчаткам у большасці выпадкаў пісаўся *ь*. У сувязі з частай ужывальнасцю гэтага разраду лексікі ў старабеларускай мове пісьмовыя помнікі даюць многа выпадкаў ужывання словаформ тыпу *битьемъ, везеньемъ, го-*

*вореньемъ, дрыжаньемъ, еднаньемъ, жданьемъ, здоровьемъ, именьемъ, каменьемъ, моремъ, нароженьемъ, полемъ, свитаньемъ, терпеньемъ, утрапеньемъ, чиненьемъ, щастьемъ:* терньемъ короуноують (Пак. Хр., 10); рыхлы*м* еханье*м* до своего г8θу приехали (Троя, 3); за ты*м* сказаньемъ вы*и*ти маеть (Трыб., 4); корон8 золот8ю з каменье*м* коштовны*м* на головѣ мѣла (Алекс. XVII, 23б). У радзе пісьмовых крыніц, дзе адлюстроўваецца сцяжэнне зычных, *ь* перад канчаткам не пішацца: до пок8ты и*х* привести хотѣлъ ѡны*м* пытане*м* (Бельск., 5б); со 8си*л*нымъ налеганемъ трывали на молитве (Зб. 255, 7); своимъ блисканемъ и свѣтлостю тежъ сло*н*це темностѧми ѡкриваетъ (Зб. 259, 4б).

У некаторых пісьмовых крыніцах старабеларускай пісьменнасці гэты разрад лексікі афармляўся паралельна і з літарай *и* перад канчаткам, што з'яўлялася, безумоўна, не адлюстраваннем жывога вымаўлення, а працягам старажытнарускай традыцыі, аб чым сведчыць наяўнасць такіх форм у пісьмовых помніках розных жанраў ранняга перыяду: границю с тымъ именіемъ имели (Вісл., 42); боіазнію и дрыжаниемъ злѦклисе (Пак. Хр., 32б); ѧко же рожа межи терніемъ такъ подр8га моѦ межи дочками (Зб. 262, 83) і інш. У пазнейшы перыяд развіцця старабеларускай пісьменнасці ўжыванне літары *и* перад канчаткам назоўнікаў з мяккай асновай падтрымлівалася царкоўнаславянскім уплывам, таму формы тыпу *повелениемъ, решениемъ* больш трывала зберагаліся ў тэкстах рэлігійных жанраў, хоць часам пранікалі і ў пісьмовыя помнікі свецкага зместу: ему тое имѦ за повеленіем божіемъ далъ (Будны, 119б); воротиласе з веселие*м* (Алекс. XVII, 26б); тымъ ѡр8жиемъ ба*р*зо 8мѣли добре воевати (Зб. 259, 566б). Аднак напісанні гэтага тыпу можна кваліфікаваць толькі як факультатыўную правапісную норму.

У радзе выпадкаў афармленне творнага склону назоўнікаў ніякага роду характарызавалася разнабоем, выкліканым неўсталяванасцю старабеларускага правапісу. Некаторы разнабой ва ўжыванні варыянтаў *-омъ* і *-емъ* быў уласцівы, напрыклад, словам з асновай на шыпячы і *ц*. У выніку зацвярдзення гэтых зычных пасля іх у пісьменнасці канца XV — пачатку XVI ст. набывае распаўсюджанне варыянт *-омъ:* ре*ч* злодѣиск8ю ліцомъ выим8т (Вісл., 36б); над селищо*м* которе было пере*д* ты*м* домо*м* где хлебъ продавано звѣзда стала (Валх., 53); игрищо*м* пере*д* нимъ быхъ (Зб. 262, 19) і інш.

Аднак у сувязі з уласцівай старабеларускай пісьменнасці арфаграфічнай непаслядоўнасцю ў адлюстраванні новых фанетычных рыс і цягай старажытных кніжнікаў да захавання ранейшых правапісных традыцый побач з варыянтам *-омъ* у гэтых жа пісьмовых крыніцах, часам у адных і тых жа словах, выступае варыянт *-емъ*, што дае магчымасць для з'яўлення паралельных напісанняў, як, напрыклад, у Пакутах Хрыста: оувидели ѡчи мои спсеніе твое которе зготова*л* пере*д* лице*м* всѣхъ людеи (26) — перетеклъ есми пере*д* лицо*м* приитья его (27б); у Зборніку № 262: Ѧ тр8жаюс по*д* слцем (87) — м*д*ровалъ есми по*д* слцо*м* (87).

У старабеларускай пісьменнасці другой палавіны XVI—XVII ст. выкарыстанне варыянта *-омъ* пры афармленні творнага склону назоўнікаў ніякага роду з асновай на шыпячы і *ц* становіцца арфаграфічнай нормай. Тым не менш у некаторых пісьмовых крыніцах гэтага часу, нават свецкіх і дзелавых, зрэдку сустракаюцца і словаформы з варыянтам *-емъ* пасля адзначаных зычных: тое именье... з реками ставищемъ из криницами (КВС, 442); приеха*л* к8 рецѣ прозвище*м* ѡкиѧ*н* (Алекс. XVII, 13б); зѣ*ле* ...которые на*д* вод8 ѡбра*с*тали сло*н*це*м* (Зб. 259, 168б). У Пазнанскім зборніку, дзе змешчаны Аповесць аб Трыстане, Аповесць аб Баве і Гісторыя аб Атыле, ужываецца зрэдку ў слове сэрца варыянт *-эмъ*: *ѡн* милова*л* красную ижоту всимъ сэ*р*цэмъ (Трыст., 29); вѣ*р*не и статэ*ч*ны*м* сэрцэ*м* буду стоѦлъ (Атыла, 197). Гэту арфаграфічную рысу можна тлумачыць польскім уплывам. Польскі ўплыў у асобных пісьмовых помніках праяўляецца таксама ў напісанні канчатка *-емъ* замест *-омъ* пасля асноў на цвёрды зычны. Гэта рыса адзначаецца, як правіла, у тэкстах, перакладзеных на беларускую мову з польскіх арыгіналаў, або ў помніках, мова якіх наогул у значнай ступені паланізавана,— у Аповесці аб трох каралях-валхвах: межи пога*н*стве*м* роспрошены мешкали (56б), ѡферова*л* з набоженьстве*м* (60б); у Дзённіку Ф. Еўлашоўскага: межи кнзе*м* соломори*щ*ки*м* и мѧстэ*м* ме*н*ски*м* была бурда велка (17) і інш.

У некаторых пісьмовых помніках рэлігійных жанраў, напрыклад у Пакутах Хрыста і Аповесці аб трох каралях-валхвах, звяртаюць на сябе ўвагу выпадкі напісання канчатка *-имъ* замест *-емъ* у назоўніках ніякага роду з мяккай асновай: перед ѡбличьи*м* ваши*м* подлоуг того

как сѧ вам лепше видит оучините (35б—36); звѣзда с такою великою свѣтлостию и блисканиимъ се понорила (53). Такія напісанні ўзніклі пад царкоўнаславянскім уплывам.

Назоўнікі з былой асновай на зычны тыпу *имя, теля* маюць у творным склоне канчатак *-емъ*, прычым суфіксы *-ен-, -ят-* у іх звычайна захоўваюцца, як у словаформах тыпу *беременемъ, веременемъ, знаменемъ, именемъ, пламенемъ, племенемъ, раменемъ; дитѧтемъ, кнѧжатемъ, отрочатемъ, телѧтемъ:* Зенько Еховичъ зъ своимъ племенемъ владыце дають чотыри п8ды мед8 (ККК, 165б, 1491); крол именем тентран которыи през дл8гии час тое кролевство оу покою держал (Троя, 4); кнѧжатем... есть 8ставлен (Алекс. XVII, 23б); дал ей в монастырю коморку мешкат з дитѧтем (Зб. 752, 17). Выпадкі ўжывання слоў гэтай групы без суфіксаў *-ен-, -ят-* сустракаюцца ў беларускіх пісьмовых помніках рэдка: оусхочеть ее црь и назоветь имѧм (Зб. 262, 128); роспалалсѧ ѡгонь оу громаде и поломѧм попалил грешники (Пс. XVI, 107б); приехала дѣвка з детем (Трыст., 8).

Для афармлення м е с н а г а склону назоўнікаў ніякага роду ў старабеларускай пісьменнасці выкарыстоўваліся канчаткі *-е* і *-и*. Канчатак *-е* (з *-ѣ*) ужываўся пры напісанні назоўнікаў з асновай на цвёрды зычны — (*в, на, о, при, у*) *болоте, горле, гумне, деле, дереве, жите, золоте, коле, лоне, месте, небе, ѡзере, пекле, писме, праве, сене, слове, стаде, теле, чуде:* мает знаменіе оучинит на дѣревѣ (Вісл., 37); бь на небе а ты на земли (Зб. 262, 88б); то есмо имъ на писме выдат были росказали (Трыб., 1); его по всѣм тѣле на каждомъ члонку м8чит буд8т (Кн. Мак., 50б).

Яшчэ шырэй адлюстраваны ў старабеларускай пісьменнасці словаформы з канчаткам *-и*, уласцівым назоўнікам ніякага роду з мяккай асновай. Гэта звязана з тым, што разглядаемы граматычны разрад уключаў групу аддзеяслоўных назоўнікаў, якія ў перыяд развіцця старабеларускай літаратурна-пісьмовай мовы характарызаваліся значным пашырэннем. Пры гэтым неабходна адзначыць, што ў аддзеяслоўных назоўніках перад канчаткам, як і ў іншых склонах, у большасці выпадкаў ужываўся *ь*. Словаформы тыпу (*в, на, о, при, у*) *будованьи, весельи, говореньи, держаньи, едананьи, здоровьи, именьи, коханьи, молчаньи, нароженьи, ѡраньи, поли, розмноженьи, свитаньи, терпеньи, уставленьи, хоженьи,*

*чиненьи* знаходзяць адлюстраванне ў розных жанравастылявых разнавіднасцях старабеларускай пісьменнасці: оу селе*х* не стѡꙗлі, але на полі (Вісл., 28); евнȣт*ꙗ* ѡсадилъ въ вилни на велико*м* кнѧженьи (Віл., 437б); жа*д*ное переказы в томъ именьи чынити не мае*м* (КВС, 570б); на свитаньи породила доброго витезѧ (Трыст., 6). У ранніх пісьмовых крыніцах і зрэдку ў пазнейшых беларускіх помніках, якія адчулі на сабе царкоўнаславянскі ўплыў, перад канчаткам выступае літара *и*: бȣдȣть лі сестры в томъ именіи (Вісл., 36); не оупережаи мене оу то*м* оутиснении (Пак. Хр., 3); оу пріиденіи нечестиваго пришла и ганьба его (Зб. 262, 102).

Канчатак -*и* ўжываўся ў старабеларускай мове ў якасці нормы ў назоўніках, аснова якіх заканчваецца на шыпячы, *ц* і *р*: болело на сер*д*ци (Пак. Хр., 7б); прыве*р*нулъ на томъ селищи братаничъ его θедоръ на тры бочъки жита (КВС, 450б); спа*л* в по*р*тищи (Біблія, 449); збудова*л* повторе на мори велики*и* до*м* на ѡкрȣте*х* (Алекс. XVII, 76б). Паказчыкам зацвярдзення ў старабеларускай мове адзначаных зычных з'яўляецца канчатак -*ы*, што пачаў ужывацца з пачатку XVI ст. паралельна з -*и* ў многіх пісьмовых помніках, пераважна дзелавых і свецкіх: на томъ жо месцы стоꙗчы поведилъ миха*и*ло (КВЗС, 113, 1533); θедоръ на томъ селищы заставномъ тры бочки жита посеꙗвшы и пожалъ (КВС, 451); в то*м* прыстанищы коро*л* артиȣшъ и его витези ѡ*т*почынули (Трыст., 114); крукъ ѡ*т* ȣсходу сло*н*ца прылете*в*шы ȣсѣлъ на право*м* плечы его (Атыла, 212).

У сваю чаргу, як сведчаць помнікі пісьменнасці, у старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове былі вядомы выпадкі адлюстравання ўплыву на формы назоўнікаў з цвёрдай асновай форм назоўнікаў з мяккай асновай. Гэта праяўлялася ў тым, што назоўнікі з традыцыйным канчаткам меснага склону -*е* (-*ѣ*) часам паралельна выступалі з канчаткам -*и*, у выніку чаго ствараўся арфаграфічны разнабой, як у Хроніцы М. Бельскага: на небе (11) — на неби (14). Асабліва пашыраны формы з канчаткам -*и* замест заканамернага -*е* ў Дыярыушы А. Філіповіча: на дереви (148), в мѣсти (148б). Тут іх, аднак, можна тлумачыць і ўплывам гаворак Брэстчыны.

Звяртаюць на сябе ўвагу назоўнікі ніякага роду з былой асновай на зычны тыпу *беремя, время, знамя, имя, племя, стремя* і *дитя, жеребя, теля, ѡсля,* якія паслядоўна ўжываюцца з канчаткам -*и* і захаваннем су-

фіксаў *-ен-, -ят-*: при детѧти былъ (Чэцця, 17); на рамени своемъ носил бых его (Зб. 262, 26б); на ѡслѧти по колк8 рокъ ездили (Барк., 152б); чом8 се пытаешъ ѡ имени моем (Бельск., 23б). Што датычыць лексем тыпу *слово, тело, чудо,* то напісанне іх у месным склоне з захаваннем суфікса *-ес-* амаль не практыкавалася: благодариша гсда ѡ преславномъ чудеси его (Зб. 752, 27). Звычайна, як было паказана вышэй, яны выступалі з канчаткам *-е.*

Такім чынам, выкарыстанне ў помніках старабеларускай пісьменнасці для афармлення меснага склону назоўнікаў ніякага роду старажытных канчаткаў *-е (-ѣ)* і *-и (-ы)* было нармальнай з'явай. Аднак такое афармленне адзначаных назоўнікаў не было адзіным у гісторыі старабеларускай пісьменнасці. Ужо з самага пачатку развіцця старабеларускай мовы назоўнікі ніякага роду, як і назоўнікі мужчынскага роду, пачалі выяўляць моцную тэндэнцыю да замены старых склонавых форм меснага склону новым канчаткам *-у/-ю.* Пры гэтым працэс замены адбываўся гэтак жа інтэнсіўна, як і ў катэгорыі назоўнікаў мужчынскага роду. Асабліва шырокае адлюстраванне ён знайшоў у беларускіх пісьмовых крыніцах розных жанрава-стылявых разнавіднасцей на працягу XV—XVII стст., прычым пераважна ў назоўніках з мяккай і зацвярдзелай асновай: (*в, на, о, при, у*) *бежанью, веселью, годованью, держанью, здоровью, зелью, именью, караныо, ложу, мору, нароженью, ѡденью, полю, розогнанью, серцу, тѧгненью, узыченью, шыхованью, щастью, ѧденью,* хоць, зразумела, гэты канчатак мелі і некаторыя назоўнікі з асновай на цвёрды зычны, напрыклад, такія, як *(в, на, о, при, у) войску, дереву, ложку, местечку, месту, посмевиску, слову, телу, уху.* Прыкладаў выкарыстання канчатка *-у/-ю* пры афармленні меснага склону назоўнікаў ніякага роду ў старабеларускай пісьменнасці не менш, чым выпадкаў захавання старажытных канчаткаў *-е (-ѣ)* і *-и (-ы).* У многіх пісьмовых крыніцах яны ўтвараюць факультатыўную правапісную норму: хто заимет жівотін8 чюж8ю на своемъ збожю (Вісл., 25б); не былъ витез пры том дереву (Трыст., 90); маетъ быти 8 везенью задерьжанъ (Трыб., 6б); трава не росла на ѡном мѣстц8 (Зб. 752, 5). Пры афармленні меснага склону аддзеяслоўных назоўнікаў, як сведчаць прыведзеныя прыклады, перад варыянтам *-ю,* як правіла, ужываецца *ь.* У тых жа пісьмовых помніках, якія адчуваюць на сабе

царкоўнаславянскі ўплыў, замест *ь* выкарыстоўваецца *и*, як, напрыклад, у Аповесці аб трох каралях-валхвах: на взгорію (44б), оу то*м* оутисненію (76б); у Зборніку № 255: в мо*л*чанию (3б), ω збавению ве*ч*номъ (17) і інш.

Увогуле ж формы на *-е, -и* і *-у/-ю* пры напісанні ў месным склоне назоўнікаў ніякага роду выступаюць у помніках беларускай пісьменнасці XV—XVIII стст. як дзве раўнапраўныя варыянтныя нормы.

## *Клічная форма*

У старабеларускай мове працягвала захоўвацца ўнаследаваная ад старажытнарускай эпохі клічная форма, якая характарызавалася своеасаблівымі канчаткамі ў параўнанні з канчаткамі іншых склонаў. У адрозненне ад старажытнарускай мовы, дзе клічная форма мела даволі значную сферу пашырэння, у беларускай мове яна выступала больш абмежавана. Фактычна яе маглі ўтвараць толькі назоўнікі мужчынскага роду былых асноў на *ŏ, ŭ* і жаночага роду былых асноў на *ā*. Назоўнікі ніякага роду не мелі спецыяльнага канчатка для клічнай формы. У іх, як і ў множным ліку, функцыю вакатыва выконваў назоўны склон. Клічная форма, называючы асобу ці прадмет, да якіх звяртаюцца з гаворкай, магла знаходзіцца ў розных адносінах з бліжэйшым кантэкстам — складаць параўнальна ізаляваны самастойны вакатыўны сказ або выступаць у якасці дзейніка.

Характэрнай прыкметай клічнай формы назоўнікаў мужчынскага роду былых асноў на *ŏ* былі ў старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове канчаткі *-е, -ю,* што перайшлі ў спадчыну са старажытнарускай мовы. З канчаткам *-е* ўжываліся звычайна назоўнікі мужчынскага роду з цвёрдай асновай, аб чым сведчыць адлюстраванне ў пісьмовых помніках розных жанрава-стылявых разнавіднасцей словаформ тыпу *боже, брате, друже, иване, квете, молодче, мудрче, ωрле, ωтче, пане, пелгрыме, рабе, семене, филипе, ѧне:* велика сила твоѧ архистратиже михаиле (Чэцця, 7б); боже хвал8 тобѣ вздаю (Будны, 7б); ω лихи*и* злы*и* человече (Трыст., 7); квѣте мой иди до дом8 (Зб. 752, 16). Пры гэтым, як паказваюць прыклады, клічную форму могуць мець уласныя або агульныя асабовыя назоўнікі мужчынскага роду і радзей назоўнікі, якія абазначаюць жывёл, птушак і

іншых істот, а таксама неадушаўлёныя назоўнікі, калі яны ўжыты ў значэнні адушаўлёных.

Канчатак *-ю* складаў асаблівасць клічнай формы назоўнікаў мужчынскага роду з мяккай асновай — *вітезю, злодею, королю, лебедю, сказителю, учителю:* прии̂телю мои надо всех наимилешіи в роуце твои полецаю сына моего (Пак. Хр., 2); злодею если ми того посэльства не справишъ роздеру на собѣ вси шаты (Бава, 130); здоров б8дь на8чителю (Алекс., 1б); кролю навѣки живи (Варл., 24б).

У сувязі з зацвярдзеннем у беларускай мове шыпячых, *ц* і *р* назоўнікі з гэтымі зычнымі ў канцы асновы часам адлюстроўваюцца ў помніках другой палавіны XVI і XVII ст. з канчаткам *-у:* прошу тебе рыцэру поведаи ми ѡткуль еси (Трыст., 24); не див8иси̂ теды сл8хач8 же исаии̂ не мовит (Зб. 259, 580б); рад8иси̂ муж8 мои (Зб. 752, 14).

Клічная форма назоўнікаў мужчынскага роду з былой асновай на *ŭ* ужывалася ў старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове, як і ў старажытнарускай, пераважна з канчаткам *-у:* сыноу наимилеишіи мои (Пак. Хр., 3); сыну мои велми есми тебе жедала видети (Трыст., 6) і інш. Зрэдку, аднак, пад уплывам больш шматлікіх форм назоўнікаў з былой асновай на *о* яна магла афармляцца і пры дапамозе канчатка *-е:* исповедахоусѧ ем8 глюще оче сне (Чэцця, 9). У сваю чаргу пад уплывам клічнай формы назоўнікаў з былой асновай на *ŭ* і пад уздзеяннем форм з мяккай асновай канчатак *-у* распаўсюдзіўся на некаторыя назоўнікі з цвёрдай асновай на *о*. Менш за ўсё ўстойлівымі ў гэтых адносінах аказаліся назоўнікі, аснова якіх мела канцавы заднеязычны: пане наместъник8 на насъ перевоз8 ищеш (КВЗС, 8б, 1533); пахолку даи ми щыт (Трыст., 44); мои намилшии антиѡх8 (Алекс. XVII, 40); не боисѧ стырник8 (Зб. 259, 564б). У сувязі з гэтым пры выкарыстанні ў помніках пісьменнасці клічнай формы назоўнікаў з асновай на заднеязычны ўзнікаў разнабой, бо яны па традыцыі часта афармляліся і пры дапамозе канчатка *-е.* У такіх выпадках перад канчаткам *-е* адбывалася змяненне заднеязычных у шыпячыя: достоиниче и др8же бжии господен крстителю молимъ ти (Чэцця, 38); ѡкаи̂нниче чини тое сам (Зб. 107, 123б); 8важат б8дешъ чловече твар злости (Зб. 259, 580б).

З ліку лексем мужчынскага роду вылучаўся назоўнік *господь*, які адлюстроўваўся ў помніках старабеларускай пісьменнасці з канчаткам -*и* ў клічнай форме, уласцівым у старажытнарускі перыяд назоўнікам з асновай на *ĭ*: помози ми гси бе мои (Чэцця, 9); гсди если ты еси повели ми до себе прити (Зб. 255, 2).

Сродкамі афармлення клічнай формы назоўнікаў жаночага роду з былой асновай на *ā* ў старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове, як і ў старажытнарускай, былі канчаткі -*о*, -*е*. З канчаткам -*о* ўжываліся назоўнікі з цвёрдай асновай, яны фіксаваліся ў помніках пісьменнасці розных жанраў, дзе надзвычай распаўсюджанымі з'яўляюцца словаформы тыпу *девко, дочко, жоно, матко, невесто, опекунко, панно, подруго, потехо, свечо, сестро*: жоно ѡто снъ твои (Пак. Хр., 12); сестро моѧ невѣсто коль добры милованьѧ твоѧ (Зб. 262, 84); моѧ милаѧ дочко ижото што чыниш (Трыст., 39); матко мои, не буд ѡтцꙋ моему в том противна (Алекс. XVII, 73б).

З канчаткам -*е* ў клічнай форме выступалі ў помніках старабеларускай пісьменнасці назоўнікі жаночага роду з мяккай асновай, утвараючы напісанні тыпу *госпоже, душе, земле, кнѧгине, милостнице, полнице, царице*: вздоимитесе оулице вечные (Пак. Хр., 29); земле не покрываи крови моеи (Зб. 262, 19); милостиваѧ господарыне принесъ до мене листъ вашое милости гдръскии подданыи вашое милости (КВЗС, 75б, 1533); рекъ до неи анектанав: сѧдь царице (Алекс. XVII, 3б). Аднак і ў гэту групу назоўнікаў у сувязі з зацвярдзеннем шыпячых пранікаў канчатак -*о*: Мерлин рекъ госпожо правдꙋ тобѣ поведам (Трыст., 5); спишъ дшо на ложъкꙋ мене не шꙋкаешъ (Зб. 259, 635).

У наш час клічная форма захавалася ў дыялектнай мове, асабліва характэрна яна для паўднёва-заходніх беларускіх гаворак. У творах мастацкай літаратуры яна выкарыстоўваецца з мэтай надаць мове персанажаў экспрэсіўны характар.

## МНОЖНЫ ЛІК

### *Формы назоўнікаў мужчынскага роду*

У перыяд развіцця старабеларускай літаратурна-пісьмовай мовы назоўнікі мужчынскага роду ў сувязі з тым, што мелі рознае паходжанне і па-рознаму адчулі на сабе вынікі ўзаемадзеяння асноў і склонавых форм,

характарызаваліся ў назоўным склоне множнага ліку разнастайнасцю канчаткаў.

Вымаўленчай і правапіснай нормай назоўнікаў мужчынскага роду на *ŏ* з цвёрдай асновай было ўжыванне канчатка *-ы*, які развіўся пад уплывам вінавальнага склону замест *-и* яшчэ ў старажытнарускую эпоху. Выпадкаў ужывання з гэтым канчаткам словаформ тыпу *апостолы, браты, волосы, гетманы, декреты, енералы, зубы, кусты, листы, мосты, народы, ѡстровы, послы, столы, тивуны, уланы, часы* вельмі многа ў старажытных беларускіх пісьмовых помніках XV—XVII стст.: ѡстровы соут розделены водами (Валх., 46б); суды головъные ѡтправованы быти мають (Трыб., 7); псы котории велми счекают (Алекс. XVII, 7б); пер8ны летают (Зб. 259, 555б).

Назоўнікі ж на *ŏ* з мяккай асновай афармляліся ў назоўным склоне множнага ліку пры дапамозе старога канчатка *-и* — *бои, витези, гаи, делатели, звычаи, злодеи, кони, корабли, короли, медведи, ѡбыватели, приятели, промени, родители, рожаи, струмени, учители:* в томъ то чинѦт собѣ дѣл пріетели (Вісл., 32б); по вшисткому лицу его струмени крови текли (Троя, 56); короли полские так8ю едьность вже были по соборе ѳлорентеискомъ в тыхъ панъствахъ 8чинили (Бер. саб., 7); кони наши 8ставают без перестанку (Алекс. XVII, 10б).

У некаторых пісьмовых помніках сустракаюцца выпадкі ўжывання старажытнага канчатка *-и* ў назоўным склоне адушаўлёных назоўнікаў мужчынскага роду з цвёрдай асновай. Такія формы ўласцівы пераважна тэкстам рэлігійных жанраў, дзе ўжываюцца з стылістычнымі мэтамі: воиско его затонет и пад8т тр8пи мнози (Зб. 262, 125б); ни бѣси ни злые люди зашкодити не могуть (Будны, 118б); пси ядѦть з одробінъ падаючих з стола пановъ своих (Цяп., 21б). Працяглае ўжыванне гэтай флексіі ў пэўнай групе імён забяспечыла яе захаванасць, хоць і ў невялікай колькасці слоў, да нашага часу. Да ліку гэтых лексем адносіцца, напрыклад, назоўнік *сусед,* які ў назоўным склоне множнага ліку мае форму *суседзі,* што з'яўляецца рэліктам мінулага, аб чым сведчыць выкарыстанне яго ў старабеларускай пісьменнасці то з канчаткам *-ы,* то з канчаткам *-и* пры перавазе апошняга: назвали ем8 с8сѣды имѦ (Зб. 262, 33б); то бы с8седи ѡколичные посветчали (Ст. 1588, 402); с8сѣди кривдити еи почали (Мак., 354).

Неабходна звярнуць увагу таксама на формы назоўнага склону назоўнікаў мужчынскага роду, аснова якіх заканчваецца на шыпячы, *ц* і *р*. У ранні перыяд развіцця старабеларускай літаратурна-пісьмовай мовы яны ўжываліся, як і ў старажытнарускай мове, з канчаткам *-и*, бо шыпячыя, *ц* і *р* былі мяккімі: торговци восхотѧтъ на конехъ ехати (Гр. 1409); земьскыи пісари... за запис имеют брат (Вісл., 43б); вельможи а иныи многие люди не могли дотисноутисѧ (Чэцця, 20б); сторожи тых коустовъ продавают людем (Валх., 59б).

Аднак ужо ў беларускіх пісьмовых крыніцах XVI ст. у сувязі з зацвярдзеннем шыпячых, *ц* і *р* у становішчы пасля іх знаходзіць пашырэнне новы канчатак *-ы*. Праўда, ужыванне яго не было паслядоўным, бо па традыцыі ў помніках пісьменнасці часта выкарыстоўваўся і стары канчатак *-и*. У сувязі з гэтым утвараўся арфаграфічны разнабой у афармленні назоўнага склону гэтай групы назоўнікаў. З аднаго боку, яны афармляюцца ў выглядзе словаформ тыпу *богачи, жеглѣри, жолнери, золотари, лекари, мечи, мужи, немци, ѡвочи, пастыри, писари, пушкари, рицери, сторожи, тлумачи, цесари*: позынѹтсѧ сторожи домовыи и покривлѧютсѧ мѹжи воевнии (Зб. 262, 92); вожи суть сьлепые слепыхъ (Цяп., 21); вси которые мают старане ѡ других сут пастыри (Зб. 255, 52б); богачи сѹть приведены до столѹ гсднего (Выкл., 115). З другога боку, значнае пашырэнне маюць словаформы тыпу *арендары, ветры, вывѡланцы, женцы, комисары, купцы, месецы, министры, ѡтцы, печатары, ротмистры, сторожы, товарышы, цары, чернцы*: ѡтцы видѧчи сны свои посечены живот свои в тѧжкости ведли (Троя, 28); ѡтрошъковичы поведили иж ѡни его не били (КВЗС, 3б, 1533); товаришы ихъ... покою в кнѧзстве литовъском не мають (Ст. 1588, 27); зараз вси ветры покус дѧволских ѹпадѹть (Зб. 255, 3). Словаформы з канчаткам *-и* былі характэрны ў асноўным для пісьмовых помнікаў рэлігійных жанраў, канчатак жа *-ы* выступаў пануючым у дзелавых і свецкіх жанрах.

Звяртаюць на сябе ўвагу распаўсюджаныя ў старабеларускай пісьменнасці формы тыпу *бедники, вороги, грехи, долги, еретики, знатники, конники, латинники, мнихи, ѡкрутники, пастухи, роботники, садовники, турки, ученики, члонки, ѧзыки*. Яны шырока адлюстраваны ў помніках розных жанрава-стылявых разнавіднасцей пачынаючы з XV ст.: были тамо злостники (Пак. Хр., 20);

в неи сут розмаитого рожаю птахи (Троя, 13); при том были мнихи с полоцъка (КВЗС, 32б, 1533); боги перскии змиловалисе на*д* нами (Алекс. XVII, 18б). Такія формы з'яўляюцца новаўтварэннямі, якія ўзніклі фанетычным шляхам: спрадвечныя формы вінавальнага склону *богы, пастухы, ученикы,* выцесніўшы старыя формы назоўнага склону *бози, пастуси, ученицы,* змянілі канцавыя спалучэнні *гы, кы, хы* на *ги, ки, хи.*

Шырокае адлюстраванне ў помніках старабеларускай пісьменнасці форм на *-ги, -ки, -хи* не выключала, аднак, магчымасці ўжывання старых форм на *-гы, -кы, -хы* і нават архаічных форм назоўнага склону на *-зи, -си, -ци.* Спрадвечныя формы на *-зи, -си, -ци* сустракаюцца часцей у ранніх старабеларускіх пісьмовых крыніцах: чинѧтсѧ разбойніци (Вісл., 28); нечестивии врази пр҇идоша (Чэцця, 10б); завистію проти*в* его терпѣли кнжата капланскаꙗ и писменници и законници (Пак. Хр., 31); др8зи прикладають оухо къ голос8 твоем8 (Зб. 262, 86). У беларускай пісьменнасці другой палавіны XVI і XVII ст. формы на *-зи, -си* ўжо надзвычай рэдкія, прычым сфера іх ужывання абмяжоўваецца выключна помнікамі рэлігійных жанраў: не овцѧ ли оубо пасут пастуси (Будны, 69б); неха*и* во*с*кре*с*не*т* богъ а роспороша*т*сꙗ врази его (Зб. 82, 399). У процілегласць ім у гэты час значнае распаўсюджанне ў помніках рэлігійных і свецкіх жанраў атрымлівае форма на *-ци*, якая ў сувязі з зацвярдзеннем *ц* выступае ў большасці выпадкаў як *-цы*: юнацы слухали до ко*н*ца што ѡна прыпевала (Бава, 169); полѧцы до рым8 ꙗко торомъ было ближеи послы свое выслали (Бер. саб., 40); схизматицы ѡ*т*ст8пили (Карп., 7); зошлисꙗ преднѣ*и*шіи спѣвацы и м8зыкове (Выкл., 131б). Пашырэнне формы на *-цы* ў беларускай свецкай і рэлігійнай пісьменнасці пазнейшага часу было звязана ў пераважнай большасці выпадкаў з уплывам польскай мовы, у якой формы на *-cy* ў назоўным склоне множнага ліку назоўнікаў мужчынскага роду былі ў сярэдневяковы перыяд звычайнай з'явай: *krucy, polacy, prorocy, pťacy, turcy, wilcy.* Формы на *-гы, -кы, -хы* сустракаюцца толькі ў ранніх дзелавых і свецкіх помніках і ў тэкстах рэлігійнага зместу XVI ст., бо ў гэты час на месцы іх пашырыліся формы на *-ги, -ки, -хи:* находѧтсѧ имъ такымъ дѣвъкомъ ѡпекальнікы (Вісл., 41); кнзѧ великог кестоутѧ оудавили коморникы (Віл., 444); б8д8*т* ѡбходити по оулици нарочникы (Зб. 262, 92);

моученикы которые тымъ плеткамъ... не вѣрили (Апакр., 45).

Старабеларуская пісьменнасць адлюстроўвала ўзаемадзеянне не толькі паміж назоўнікамі мужчынскага роду назоўнага і вінавальнага склонаў, але і вынікі ўзаемаўплыву паміж асобнымі групамі назоўнікаў. Асабліва прыкметна гэта на прыкладзе назоўнікаў з былымі асновамі на *о* і *и*.

Адзіным сродкам афармлення назоўнага склону назоўнікаў мужчынскага роду з асновай на *и* у старажытнарускай мове быў канчатак *-ове*. У старабеларускай пісьменнасці трывалым захаваннем старажытнай формы характарызаваўся толькі назоўнік *сынъ*: тамо теж сынове израилскіи соухою ногою перешли (Валх., 86); сынове ее городничомꙋ и братьи его маютъ ѡтъказати (КВЗС, 12, 1533); сынове и потомкове ноевы розбѣглисѧ розно (Стрыйк., 416б). У іншых назоўніках з былой асновай на *и* канчатак *-ове* ўжываўся для афармлення назоўнага склону множнага ліку радзей: домове ваши расъхищени бꙋдꙋт (Зб. 262, 114б); мои соут... скоты в горах и волове (Пс. XVI, 50б). На месцы яго ў радзе пісьмовых крыніц розных жанраў знайшоў распаўсюджанне канчатак *-ы*: соут оу них домы ѡпришне (Валх., 43б); волы коръмные... были пасены (АВК, XXI, 54, 1555); волы ѡрали и ѡслицы на поли подле них были (Бельск., 39); которыи домы их кꙋча простым дором накрита (Стрыйк., 516). Паступовае замацаванне гэтага канчатка ў назоўніках з былой асновай на *и* звязана, відаць, не толькі з уздзеяннем форм вінавальнага склону множнага ліку, але і з уплывам канчаткаў назоўнікаў мужчынскага роду на *о* з цвёрдай асновай.

Са свайго боку назоўнікі з былой асновай на *и* аказалі прыкметны ўплыў на назоўны склон множнага ліку назоўнікаў на *о*, звязаны з пашырэннем у апошніх характэрнага для асноў на *и* канчатка *-ове*, які пры мяккіх асновах стаў афармляцца як *-еве*. У помніках старабеларускай пісьменнасці канчатак *-ове*/*-еве* ў назоўным склоне множнага ліку назоўнікаў з былой асновай на *о* з цягам часу пашырыўся настолькі, што стаў пераважаць у пэўных групах лексікі. У прыватнасці, ён стаў уласцівы назоўнікам адушаўлёным — *апостолове, братове, велблюдове, голубеве, докторове, злодееве, купцове, лотрове, муринове, народове, послове, рыболове, суседове, тата-*

*рове, учневе, французове, шпекгове:* оучневе его пришли (Пак. Хр., 35); водле ѡбычаю права были даны ѡпек8нове (КВС, 501); мы не можемъ ѡпустити закону нашого што на*м* вставили пре*д*кове на*ши* (Трыст., 73); пото*м*кове его вси поме*р*ли (Выкл., 7б).

Атрымаўшы ў старабеларускай пісьменнасці значэнне варыянтнай нормы пры афармленні назоўнага склону назоўнікаў мужчынскага роду са значэннем асобы і іншых адушаўлёных, канчатак *-ове/-еве* зрэдку выступаў і пры напісанні ў назоўным склоне множнага ліку назоўнікаў неадушаўлёных: м8симъ ꙗко члонъкове за головою... тримать (Бер. саб. 32); ваши снопове ѡколо стоѦчи кланѦлисѦ снопови моем8 (Хран., 59б). Пад уплывам назоўнікаў з асновай на *и* і на *о* канчатак *-еве* часам станавіўся і сродкам афармлення назоўнага склону назоўнікаў з былой асновай на зычны: дневе говорѦть и множество лѣтъ исповѣд8ють (Зб. 262, 25б). Значнаму пашырэнню ў старабеларускай пісьменнасці канчатка *-ове/-еве* як сродку афармлення назоўнага склону множнага ліку назоўнікаў мужчынскага роду садзейнічала таксама тое, што аналагічныя формы на *-ове/-еве* уласцівы польскай мове, а польская мова, як вядома, аказвала моцнае ўздзеянне на старабеларускую літаратурную мову.

Сярод сродкаў афармлення назоўнага склону множнага ліку назоўнікаў мужчынскага роду патрэбна адзначыць таксама канчатак *-е,* які спрадвечна выкарыстоўваўся пад уплывам вінавальнага склону пры напісанні назоўнікаў на *о* з мяккай асновай — *богаче, короле, муже, резце, старце, тлумаче:* купцѣ нехаи ѣдуть (ПГ, II, 16, 146б); стороже которые стерегли гробоу ісса пришли (Пак. Хр., 34б); ѡ томъ тл8маче писма стго спираютсꙗ (Зб. 259, 52б). Гэта з'ява знаходзіла падтрымку ў тагачаснай жывой народнай мове, аб чым сведчыць захаванне такіх форм у цэнтральных і паўднёва-заходніх беларускіх гаворках да нашага часу.

Амаль паслядоўным ужываннем канчатка *-е* характарызаваліся ў старабеларускай пісьменнасці назоўнікі, якія ў формах адзіночнага ліку мелі суфікс *-ин* як прыкмету адзінкавасці, а ў формах множнага ліку, губляючы суфікс, змяняліся як назоўнікі з былой асновай на зычны. У сувязі з гэтым яны афармляліся ў назоўным склоне множнага ліку ў выглядзе словаформ тыпу *боꙗре, дворане, египтѦне, землѦне, мещане, ѡршане, погане,*

*полочане, римлѧне, славѧне, троѧне, христиѧне*: жаловали нам наши полочанѣ (ПГ, II, 20, 1468); пры томъ были дворане (КВС, 491); рымѧне звыкли были звитѧжонымъ ѡтпущать (Рач., 219); розвалили ѡлтаръ, которого погане сплюгавили (Кн. Мак., 55б). Рэдка сустракаюцца ў старабеларускіх пісьмовых помніках напісанні гэтай катэгорыі назоўнікаў з канчаткам *-ы/-и*: оубогых землѧны оутіскають (Вісл., 14б); побиты падали троѧны (Троя, 21); не погани але грекове во хвалѣ звитежства будꙋт (Алекс. XVII, 74б). Канчатак *-е* побач з *-и (-ы)* ужываўся і пры афармленні назоўнага склону множнага ліку назоўнікаў на *-арь, -ель, -ерь*, што змяняліся ў множным ліку таксама па асновах на зычны. У выніку помнікам пісьменнасці былі ўласцівы паралельныя напісанні тыпу *жолнере || жолнеры, комисаре || комисары, ѡбывателе || ѡбыватели, родителе || родители, царе || цари*: пришли срокгіе и страшные жолнѣре (Варл., 113б) — жолнери взбурившисѧ на палацъ его ꙋдарили (Пралог, 579б); тамъ теды были гости и новые ѡбывателе (Зб. 259, 6) — варовали тое собѣ нѣкоторіи ѡбыватели (Дыяр., 170б).

Сярод назоўнікаў мужчынскага роду вылучаюцца лексемы лацінскага паходжання, якія ў назоўным склоне множнага ліку паралельна з агульнапрынятымі формамі на *-ы* часам выступаюць у пісьмовых помніках з канчаткам *-а* — *акта, декрета, инструмента, провента, сакрамента*: были инстрꙋмента до достꙋпенѧ досконалости (Зб. 261, 142); декрета ѡ томъ свѣдчат (Дыяр., 172). Узнікненне такіх напісанняў звязана, безумоўна, з уплывам польскіх і лацінскіх арыгіналаў.

У родным склоне множнага ліку назоўнікі мужчынскага роду з былой асновай на *ŭ*, а пры апошнім цвёрдым зычным асновы і на *ŏ* на ўсім працягу развіцця старабеларускай літаратурна-пісьмовай мовы ўжываліся ў помніках пісьменнасці з канчаткам *-овъ*, характэрным на раннім этапе развіцця старажытнарускай пісьменнасці толькі назоўнікам з асновай на *ŭ*. Ад старажытных часоў да XVIII ст. яны адлюстроўваліся ў выглядзе словаформ тыпу *артыкуловъ, братовъ, воловъ, городовъ, домовъ, жартовъ, зубровъ, квитовъ, козловъ, листовъ, медовъ, народовъ, пановъ, пастуховъ, скарбовъ, сыновъ, часовъ*: мы имъ тые корчмы ещо продали на шесть годовъ (ККК, 36, 1486); взѧлъ зъ собою добрыхъ юнаков в товарыство (Трыст., 1); идетъ граница

боком кгр8нтовъ (ККСС, 27, 1615); нов8ю матку взялъ не до маетности домовъ або ѳолварковъ (Зб. 259, 568б).

Для назоўнікаў мужчынскага роду былых асноў на *ŏ* з мяккай асновай, а таксама для назоўнікаў з асновай на *ĭ* і на зычны найбольш характэрны быў у родным склоне множнага ліку канчатак *-ей*, уласцівы ў старажытнарускую эпоху толькі назоўнікам з асновай на *ĭ* і распаўсюджаны пад іх уплывам на іншыя назоўнікі з мяккай асновай. Формы на *-ей* тыпу *витезей, голубей, дней, зверей, коней, кораблей, лосей, мужей, ногтей, ѡленей, променей, путей, рублей, соболей, товарышей, червей, царей* шырока прадстаўлены ў старабеларускіх пісьмовых помніках розных жанраў: колко грошей маеть (Вісл., 43); многи греки побил а иншии с конеи збил (Троя, 46); дали за него ѡк8па многое множество р8блеи московских и соболеи (Патр. К, 61); много бовѣм было в тои пущы ѡкр8тныхъ звѣреи (Зб. 752, 13). Часам канчатак гэтай катэгорыі назоўнікаў выступаў у варыянце *-ий*, больш старажытным, чым *-ей*: оу том ѡгороде сем колодезіи (Валх., 59); ихъ выдаю... въ дванадцати р8блехъ грошии (КВЗС, 9б); през ѡсмъ днии чинили веселе (Алекс. XVII, 23б).

Аналіз склонавых форм назоўнікаў мужчынскага роду паказвае, аднак, што канчатак *-ей (-ий)* не з'яўляўся адзіным сродкам афармлення роднага склону множнага ліку назоўнікаў з мяккай асновай. У радзе старабеларускіх пісьмовых помнікаў гэтыя ж словы сустракаюцца і з канчаткам *-евъ*, які набываў пашырэнне пад уплывам назоўнікаў з цвёрдай асновай: достан8ть п8тевъ животных (Зб. 262, 94); которыи днев своих над вси иныи своею цюдностью был повышен (Троя, 48); на денъ выходило... по ст8 лосев (Патр. К, 57) і інш. У выніку назіраецца арфаграфічны разнабой, які сведчыць, што працэс нармалізацыі форм роднага склону назоўнікаў мужчынскага роду з мяккай асновай у старабеларускай вуснай мове канчаткова не завяршыўся. Гэты разнабой быў яшчэ больш значны ў тых словах, апошні зычны асновы якіх шыпячы, *ц* і *р*. У сувязі з зацвярдзеннем адзначаных зычных у беларускай мове адны і тыя ж словы атрымалі магчымасць адлюстроўвацца ў трох варыянтах: *мужей — мужевъ — мужовъ, месѧцей — месѧцевъ — месѧцовъ, пастырей — пастыревъ — пастыровъ*.

Даволі паслядоўным выкарыстаннем канчатка *-евъ*

вылучаліся назоўнікі мужчынскага роду з асновай на *j* — *боевъ, гаевъ, ереевъ, злодеевъ, лиходеевъ, ѡбычаевъ, птоломеевъ, ратаевъ, рожаевъ, розбоевъ*: ты намъ заст8пница ѡт злодѣевъ наших (Чэцця, 19б); во чти держат... ѡто всехъ людеи рожаевъ (Валх., 94); был заправ ѡн потроклюс... ѡбычаевъ шлѧхотных (Троя, 37б); што сѧ дотычеть гаевъ сеножатеи (КВС, 651б). Аднак і тут у асобных пісьмовых помніках рэлігійных і свецкіх жанраў XVII ст. часам узнікаў разнабой у сувязі з напісаннем пад уздзеяннем царкоўнаславянскіх правапісных прыёмаў канчатка -*ѡвъ*, напрыклад у Кнізе Макавеяў: першии з архиереѡв (65б); у Зборніку № 255: ѡт ѳарисеѡв (15); у Зборніку № 259: до евъреѡвъ (529б).

Звяртаюць на сябе ўвагу назоўнікі, якія ў назоўным склоне адзіночнага ліку заканчваліся на -*инъ*, а ў множным ліку змяняліся як назоўнікі з былой асновай на зычны. Пры афармленні іх у родным склоне множнага ліку старабеларуская пісьменнасць выкарыстоўвала дзве варыянтныя формы — без канчатка -*овъ* і з канчаткам -*овъ:* множество же хрестіѧнъ и елинъ тамо прихождах8 (Чэцця, 9); мечом голымъ мног с троѦн побив (Троя, 25); выкупил в своих египтѧн всѣ жидовскии вѧзни (Кн. Мак., 47) — ѡт вѣрных хрестіановъ оу чести соуть (Валх., 70б); ѡт троѧнов 8 великои ѡкрутности битѧ погинули (Троя, 19б); потомъкове твоих мещанов не пышнилисѦ тымъ (Атыла, 218).

Формы роднага склону множнага ліку з нулявым канчаткам, характэрныя ў старажытнарускую эпоху для назоўнікаў з асновай на *о* і на зычны, у перыяд развіцця старабеларускай літаратурна-пісьмовай мовы амаль поўнасцю зніклі, аб чым сведчыць зусім нязначнае адлюстраванне іх у помніках пісьменнасці: о злодеи имеет ли быті погоні за німъ ѡт с8седъ (Вісл., 6б); которымъ давано... по семи локотъ с8кна (КВЗС, 18); дѣлилъ корысти непріател своихъ (Выкл., 130б). Звычайнымі на месцы гэтых форм з'яўляюцца ў старабеларускай пісьменнасці напісанні з канчаткамі -*овъ*, -*ей*.

Сродкам афармлення д а в а л ь н а г а склону множнага ліку назоўнікаў мужчынскага роду ў старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове быў канчатак -*омъ*/ -*емъ*, які перайшоў у спадчыну ад старажытнарускай эпохі. Варыянт -*омъ* быў характэрны для назоўнікаў з цвёрдай асновай незалежна ад іх паходжання ў стара-

беларускіх пісьмовых помніках розных жанраў пачынаючы з самага ранняга перыяду і заканчваючы XVIII ст. — *апостоломъ, берегомъ, войтомъ, городомъ, домомъ, катомъ, листомъ, мещаномъ, ωгородомъ, паномъ, посломъ, суседомъ, сыномъ, тивуномъ, товаромъ, ученикомъ, чаровникомъ*: продали были есмо корчмы врȣцъкие мещаномъ (ККК, 36, 148б); шкода сꙗ добрымъ гономъ стала (КВЗС, 150); чинил ωфери богом (Алекс. XVII, 75); кто Тȣркомъ или Еретыкомъ воюючимъ на Христіаны помагаетъ (Зб. вып., 44б). Пры дапамозе варыянта *-емъ* афармляліся назоўнікі з мяккай асновай, выступаючы ў помніках пісьменнасці ў выглядзе словаформ тыпу *витеземъ, днемъ, злодеемъ, кметемъ, конемъ, кораблемъ, королемъ, ωбывателемъ, пенѦземъ, приꙗтелемъ, путемъ, рожаемъ, ручаемъ, стрыемъ, учителемъ, учнемъ, фарисеемъ*: листы его которые королем и кнзем шлеть соут кроугле (Валх., 67); порѦдокъ тыхъ сȣдовъ новых головьныхъ дали есмо всимъ ωбователемъ (Трыб., 15б); подмо против неприꙗтелем нашим (Кн. Мак., 58); набери свежог сѣна конем (Зб. 752, 336).

У асобных выпадках назоўнікі з мяккай асновай сустракаюцца з канчаткам *-омъ*. Гэта асаблівасць уласціва толькі пісьмовай мове і можа кваліфікавацца як арфаграфічная рыса, выкліканая адсутнасцю спецыяльнага графічнага сродку для абазначэння гука *о* пасля мяккіх зычных. У выніку ствараецца арфаграфічны разнабой, напрыклад, у Пакутах Хрыста, дзе паралельна з формай *оучнемъ* у давальным склоне множнага ліку выступае форма *оучномъ:* реклъ оучном своим седите тоут (5б); у Гісторыі аб Атыле, якая побач з формай *приꙗтелемъ* мае варыянт *приꙗтеломъ:* прыꙗтелом которым наболшеи ȣθал... раду свою ωзнаимилъ (195).

Зрэдку канчатак *-омъ,* уласцівы цвёрдым асновам, ужываецца ў словах іншамоўнага паходжання, аснова якіх заканчваецца на *j*: июда валчил противко идȣмеωм (Кн. Мак., 55б); фарисеωмъ без жаднои ωколичности на ωчи ихъ злости выметалъ (Зб. 259, 623б). З'яўленне такіх форм у помніках старабеларускай пісьменнасці тлумачыцца царкоўнаславянскім уплывам.

Пэўны арфаграфічны разнабой у помніках старабеларускай пісьменнасці стварала афармленне давальнага склону множнага ліку назоўнікаў мужчынскага роду, аснова якіх заканчвалася на шыпячы, *ц* і *р*. У сувязі з зацвярдзеннем гэтых зычных у беларускай мове стара-

беларускія кніжнікі ўсё часцей выкарыстоўвалі пасля іх канчатак *-омъ* замест старажытнага *-емъ*. Але ў многіх выпадках згодна з правапіснай традыцыяй варыянт *-емъ* захоўваўся. Словаформы на *-емъ* тыпу *весцемъ, зверемъ, костаремъ, купцемъ, младенцемъ, мужемъ, немцемъ, пастыремъ, старцемъ, торговцемъ, цесаремъ, чужоземцемъ* найбольш характэрны для ранніх беларускіх пісьмовых помнікаў, а ў пазнейшы перыяд часцей сустракаюцца ў тэкстах рэлігійнага зместу: нѣмцемъ в то не велѣли въступатсѦ (ПГ, I, 145, 1440); приказалъ есми... мужемъ полочаномъ всимъ печаловатисѦ домомъ (Гр. Сем.); дали пѣнѦзи ритерем моим (Пак. Хр., 31); тѣло его звѣремъ выкинено (Зб. 752, 48б). Формы на *-омъ* тыпу *боярромъ, дедичомъ, зверомъ, купцомъ, мужомъ, посланцомъ, пушкаромъ, родичомъ, сторожомъ, товарышомъ, торговцомъ, трубачомъ* пераважаюць у свецкіх і дзелавых помніках XVI—XVII стст.: не ревн8и м8жом злым (Зб. 262, 105б); почали кликати купцом говоречы верните того млоденца (Бава, 147); 8казал см8тным родичом што то тѣлесная смертъ (Бельск., 6б); давалъ волност жолнѣромъ (Зб. 259, 582).

Такім чынам, прыведзены вышэй матэрыял яскрава паказвае, што выкарыстанне канчатка *-омъ/-емъ* як сродку афармлення давальнага склону множнага ліку назоўнікаў мужчынскага роду было даволі паслядоўным у старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове XIV—XVIII стст. Ён выступаў тут незалежна ад таго, у націскной ці ненаціскной пазіцыі знаходзіўся. Аднак ужо з XV ст. у дзелавых і свецкіх помніках назоўнікі мужчынскага роду пачынаюць фіксавацца з канчаткам *-амъ/-ямъ*, які быў уласцівы звычайна толькі давальнаму склону множнага ліку назоўнікаў жаночага роду: панамъ ратманамъ ризким чолобитье (ПГ, I, 133, 1436); рокъ заплате тымъ пенезямъ положили (КВЗС, 38, 1533); велит король витезѦмъ и дѣвкам к собе прыити (Трыст., 91). Хоць такія выпадкі ў пісьмовых тэкстах нешматлікія, яны сведчаць, што ў жывой народнай мове працэс пашырэння новых форм на *-ам/-ям* быў актыўны, а яго адлюстраванне на пісьме стрымлівалася толькі традыцыяй.

У вінавальным склоне множнага ліку назоўнікі мужчынскага роду афармляліся пераважна з дапамогай канчатка *-ы* пры цвёрдай і *-и* пры мяккай аснове. Практычна яны супадалі па форме з назоўным склонам. Словаформы на *-ы* пры цвёрдай аснове тыпу *апостолы,*

*бубны, возы, волы, голосы, домы, записы, клопоты, листы, меды, натесы, ѡрлы, плоты, сыны, тыны, хлебы, часы* выступалі ў якасці асноўнай нормы ў помніках старажытнай беларускай пісьменнасці розных жанраў: его за волосы тѧгноули (Пак. Хр., 6б); псы держить (КВЗС, 150); дайте и вы сыны ваши на ѡфер8 им (Біблія, 38); на всѣ ѡстровы троиских знагла напали (Тр. гіст., 69). Гэтак жа шырока ўжываліся ў пісьмовых помніках пры мяккай аснове словаформы на *-и* тыпу *бои, вѧзни, гаи, дни, злодеи, кони, корабли, лоси, медведи, непокои, непрıѧтели, ѡбычаи, перстени, приѧтели, пути, струмени, учители*: начат збирати вои свои (Віл., 448); были на бои оучоны ходити (Алекс. XV, 1б); на збройныи кони всседали (Троя, 18б); въ певъные дни мѧса не елъ (Будны, 2).

У пераважнай большасці выпадкаў парушэння заканамернасці ва ўжыванні гэтых канчаткаў у старабеларускай пісьменнасці не назіраецца. Некаторая непаслядоўнасць, як і ў назоўным склоне, заўважаецца толькі ў пэўных фанетычных умовах і ў асобных групах слоў. Так, то з канчаткам *-и*, то з *-ы* ўжываюцца, напрыклад, назоўнікі з асновай на шыпячы, *ц* ці *р*, што было звязана з зацвярдзеннем гэтых зычных у беларускай мове: писари при собе держал (Валх., 83); наследил есми собѣ мсци соуетныи (Зб. 262. 14б); тые в скалех мешкают а 8жи едѧт (Бельск., 12б) — р8бежы пор8бано в том д8бе (КВЗС, 84б); забивал люди м8дрии паны старцы млоденцы (Кн. Мак., 65б); христос моглъ бы дат ветры погодные (Зб. 255, 1б).

Некаторай непаслядоўнасцю характарызуюцца формы назоўнікаў з апошнім заднеязычным асновы. Праўда, на фоне форм на *-ги, -ки, хи* тыпу *береги, волки, грехи, духи, злосники, кожухи, ланцухи, ѡблудники, противники, птахи, роги, свещенники, ученики, чужоложники*, шырока распаўсюджаных у старабеларускіх пісьмовых помніках, напісанні з архаічнымі *-гы, -кы -хы* сустракаюцца толькі спарадычна, ды і то ў ранніх тэкстах і рэлігійных помніках XVI ст.: то на векы вѣчныи держіть (Вісл., 22); ани ѡтнимаеть Хаwомъ оружіа еже на врагы (Будны, 80б). Затое, хоць таксама вельмі рэдка, ужываюцца яшчэ больш архаічныя формы на *-зи, -ци, -си*: Федор8 дал три стр8зи (ПГ, II, 9, 1465); слыште нн҄ѣ вси ѧзыци (Зб. 262, 110б).

Як сведчыць прааналізаваны матэрыял, з канчаткам

*-ы/-и* ў вінавальным склоне множнага ліку ўжываліся назоўнікі як неадушаўлёныя, так і адушаўлёныя. Разам з тым у сувязі з развіццём катэгорыі адушаўлёнасці назвы людзей і жывых істот у вінавальным склоне множнага ліку рана пачалі выступаць у форме, адпаведнай форме роднага склону множнага ліку, што знайшло адлюстраванне і ў пісьменнасці — *апостоловъ, братовъ, вѧзневъ, гетмановъ, докторовъ, злодеевъ, катовъ, королевъ, лотровъ, млоденцовъ, мужовъ, ѡтцовъ, пословъ, рицеровъ, суседовъ, тивуновъ, шлѧхтичовъ*: водит ерѣевъ глȣпостью и велеможны*х* ѡкривлѧеть (Зб. 262, 17); суседовъ есмо собрали (КВЗС, 64); алеѯа*н*де*р* возва*л* к собѣ посло*в* дариевы*х* (Алекс. XVII, 20); игȣме*н* вы*с*ла*л* дво*х* брато*в* абы его нашли (Зб. 752, 3).

У параўнанні з канчаткам *-овъ/-евъ* у некалькі меншай ступені адбіўся ў вінавальным склоне множнага ліку канчатак *-ей (-ий)*, уласцівы назоўнікам з асновай на мяккі зычны: ꙗзыкъ криведныи ненавидить ѡбличителеи своихъ (Зб. 262, 107); коне*и* ȣ нихъ взꙗлъ (КВС, 493); двȣхъ приѧтеле*и* мети мають (Трыб., 7б). Зрэдку вінавальны склон множнага ліку назоўнікаў з асновай на мяккі зычны афармляўся пры дапамозе старажытнага канчатка *-е (-ѣ)*, што было характэрна пераважна для пісьмовых помнікаў рэлігійных жанраў: выбирите из ва*с* моуже силне и дȣже (Пак. Хр., 17б); даро*в* своихъ стрȣмене вылива*л* (Зб. 255, 18); ключе з собою носилъ (Зб. 259, 547б).

Варыянтныя граматычныя сродкі выкарыстоўваліся ў старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове пры афармленні вінавальнага склону множнага ліку назоўнікаў, якія ў назоўным склоне адзіночнага ліку заканчваюцца на *-инъ*. З аднаго боку, яны выступаюць у формах тыпу *египтѧны, римлѧны, троꙗны, хрестиꙗны*, што супадаюць з формамі назоўнага склону множнага ліку: тые люди исмы чере*с* оуси египтѧны и сарацены... были велми ѡбважены (Валх., 82); оучинівши навалность на троꙗны му*ж*не и*х* били (Троя, 23); по*в*стало всꙗкое гонение на хрестиꙗ́ны (Зб. 752, 128). З другога боку, у радзе пісьмовых помнікаў звычайным для іх з'яўляецца ўжыванне ў форме, адпаведнай назоўнікам мужчынскага роду роднага склону множнага ліку з нулявым канчаткам: жаловалъ намъ... поповичъ на мещанъ (КВЗС, Зб. 1533); чинили нава*л*ность на и*н*дѣꙗ*н* (Алекс. XVII, 25); пога*н* на памꙗ*т* и на верȣ хвȣ приве*л* (Зб. 752, 24б).

Формы вінавальнага склону множнага ліку з нулявым канчаткам, характэрным у старажытнарускую эпоху для назоўнікаў з асновай на *о* і на зычны, якія адпавядалі формам назоўнага склону адзіночнага ліку, у перыяд развіцця старабеларускай мовы сустракаліся ў пісьмовых помніках рэдка: просим... приıателеи наших и сусѣдъ (ПГ, І, 211, 1463); ваша б милость тых немець всказнили (ПГ, ІІ, 65, 1477); дарии цесаръ зобравши великость неприıател... положивсıа над рекою тигръ (Алекс. XVII, 15).

З іншых асаблівасцей можна адзначыць ужыванне ў вінавальным склоне, як часам і ў назоўным, запазычанага канчатка *-а* ў назоўніках лацінскага паходжання: в акта записано (КМС, 159, 1516); мають... декрета не з головы але с писма чинити (Трыб., 36); инстр8мента военные вси мѣлъ (Зб. 259, 609). Зусім рэдка ўжываецца ў вінавальным склоне множнага ліку назоўнікаў мужчынскага роду канчатак *-а/-я* пад уплывам назоўнікаў ніякага роду: позверховные промениа вып8стилъ (Зб. 259, 549); гоиные стр8мениа слез своих ѡчии выливали (там жа, 176).

Асноўным сродкам афармлення т в о р н а г а склону множнага ліку назоўнікаў мужчынскага роду ў старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове, як і ў старажытнарускай, быў канчатак *-ы/-и*. Дзякуючы гэтаму формы творнага склону знешне супадалі з формамі назоўнага склону множнага ліку. Варыянт *-ы* выступаў у назоўніках з асновай на цвёрды зычны — *артыкулы, волы, голосы, домы, езы, замыслы, лесы, млыны, норовы, ѡгороды, паны, снопы, сыны, трупы, умыслы, хомуты, часы:* николи подвод з возы не даивали (ККК, 148, 1486); х8р8т зеленыи и синии свѧзанъ поворозы ильнѧными (Зб. 262, 127); били на муръ тараны а желѣзными приправами (Алекс. XVII, 11); пришол гсдь... з громы, з грады и з иншими стрѣлами своими (Выкл., 1126). Варыянт *-и* з'яўляўся сродкам афармлення назоўнікаў з асновай на мяккі зычны — *витези, вои, гаи, ереи, кмети, кнѧзи, ковали, корабли, короли, приıатели, рубли, соболи:* почал сѧ радити... съ всими кнѧзи (Віл., 449); прошли с корабли непрiѧтелскими (Зб. 262, 16); маеть ѡнъ землю мою т8ю в побержахъ держати... з гаи з лесы (КВС, 4906); выиди прето з приıатели твоими (Алекс. XVII, 176). Разгледжаны разрад словаформ з канчаткам *-и* значна папаўняўся словаформамі на *-ги, -ки, -хи,* якія мелі вялікае пашырэнне

ў старабеларускай пісьменнасці: съ изменники не мешаисѦ (Зб. 262, 105б); колько долъжниковъ зъ розными долъги до ѡдного именьѦ збеглисѦ (Ст. 1588, 316); кнѧжа з каппадокѣи привело ѡдного конѧ... ȣвѧзавши зо всѣхъ сторон ланцȣхи желѣзными (Алекс. XVII, 5). На фоне іх словаформы з архаічным канчаткам *-ы* выглядаюць адзінкавымі: поча добывати градъ, ѡпорокы бити градъ (Віл., 445); подоприте мѦ кȣбкы (Зб. 262, 83). Адзінкавымі з'яўляюцца ў старабеларускіх помніках і выпадкі ўжывання канчатка *-ы* ў творным склоне назоўнікаў з асновай на мяккі зычны: видели есмо ісса говорѦчого из оучны своими (Пак. Хр., 36); ȣкрившы то передъ родичами або приѧтелы своими (Ст. 1588, 407).

Непаслядоўнасць ва ўжыванні варыянтаў *-ы* і *-и* назіраецца толькі пры напісанні назоўнікаў творнага склону з канцавымі шыпячымі, *ц* і *р* у аснове. Неадпаведнасць правапіснай традыцыі жывому вымаўленню прыводзіла да фіксацыі адных і тых жа слоў не толькі ў пісьмовых крыніцах розных жанраў, але часта нават у адным і тым жа помніку то з *-ы*, то з *-и*, у выніку чаго ўтвараліся паралельныя напісанні тыпу *мужи* // *мужы, немци* // *немцы, товариши* // *товарышы, шатри* // *шатры, шлѦхтичи* // *шлѦхтичы,* як у выпадках: за тремі ключи замькнȣты (Вісл., 42б); детина тот што стоѦлъ над женци (Зб. 262, 31б); видечы наши щыты перед шатри рекъ трыщан (Трыст., 55) — поднѦл его над боѦры (Зб, 262, 130); чоловека того... дȣбъцы билъ (КВЗС, 68, 1533); почали сѦ мечы рубати по гелмах (Трыст., 51).

Разам з тым у старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове даволі актыўна выкарыстоўваўся канчатак *-ми*, што пашыраўся пад уплывам назоўнікаў з асновай на *ĭ* ў сувязі з імкненнем адрозніваць творны склон ад назоўнага. Ужываўся ён паралельна з канчаткам *-ы*/*-и* ў адных і тых жа пісьмовых помніках, дзе выступаў як факультатыўная норма ў формах тыпу *апостолми, бояръми, вепрми, гостьми, дарми, докторми, жолнерми, зверьми, киими, коньми, мечми, ножми, путьми, струменьми, сынми, товаришми, царми:* вечерѦл исъ апостолъми своими (Пак. Хр., 5); делъ ровныи в ыменью ѡтчызномъ межы сынъми бȣдеть (Ст. 1588, 291); почал валчит з смоки и ȣжъми (Алекс. XVII, 27б); ѡбȣли в железные его боты гвоздми набитые (Зб. 752, 12).

Акрамя канчатка *-ми* пры афармленні творнага склону множнага ліку назоўнікаў мужчынскага роду

старабеларускай пісьменнасці ўсё большае пашырэнне знаходзіў канчатак *-ами/-ями*, што пранікаў пад уплывам назоўнікаў з асновай на *ā*. Ён быў характэрны для пісьмовых крыніц розных жанраў, прычым у варыянце *-ами* выступаў як сродак афармлення назоўнікаў з асновай на цвёрды зычны — *берегами, бубнами, волами, выводами, гисторыками, дарами, зубами, копцами, ланцугами, мандатами, ѡбозами, пастухами, рогами, снегами, талантами, урѦдниками, холмами*: перед холмами сътворена есми (Зб. 262, 97); воеводство менское ис повѣтами его (Трыб., 10); ѡжидали англов ...вѣтрами, вихрами, снѣгами, грады, ледами, морозами (Бельск., 1б); сȣковатыми дȣбцами был битыи (Зб. 752, 7б). У варыянце *-ями* гэты канчатак быў характэрны для назоўнікаў з асновай на мяккі зычны — *гаѩми, днѦми, злодеѩми, киѩми, кнафлѦми, королѦми, привилеѩми, приѩтелѦми, променѦми, рублѦми, учнѦми*: сȣкнѩ зеленаѩ с шестьма книѳлѩми (КВС, 444б); маю тебе за княже и преложоного надъ иными ȣчънѦми (Бер. саб., 29); греки ѡточили трою ѡколо кораблѩми (Тр. гіст., 69б); которыи нѣколись приѦтелѦми моими и братіею были (Варл., 16б). Змяшэння варыянтаў *-ами/-ями* ў старабеларускай пісьменнасці амаль не назіраецца за выключэннем некалькіх слоў з асновай на *р*, якія ў залежнасці ад перавагі ў помніках традыцыйных або адпаведных жывому вымаўленню напісанняў маглі выступаць то з *-ами*, то з *-ями*, утвараючы паралельныя напісанні тыпу *рыцерѦми // рыцорами, царѦми // царами*. Афармленне творнага склону назоўнікаў мужчынскага роду пры дапамозе канчатка *-амі/-ямі* замацавалася ў якасці літаратурнай нормы ў сучаснай беларускай мове.

Для афармлення месн ага склону множнага ліку назоўнікаў мужчынскага роду незалежна ад іх паходжання старабеларуская літаратурна-пісьмовая мова выкарыстоўвала ў асноўным канчатак *-ехъ*, які ўзнік на месцы старажытнарускіх *-ѣхъ, -ьхъ, -ихъ*. З гэтым канчаткам ужываліся аднолькава як назоўнікі з асновай на цвёрды, так і на мяккі зычны. У помніках старабеларускай пісьменнасці розных жанраў вельмі многа выпадкаў фіксацыі словаформ тыпу *(в, на, о, при, у) амбарехъ, боехъ, гаехъ, домехъ, животехъ, злодеехъ, лесехъ, мостехъ, народехъ, ѡбычаехъ, ѡгнехъ, путехъ, розбоехъ, сынехъ, трупехъ, хвостехъ, червехъ*: ничого въ домехъ не ѡставили (ККК, 166, 148б); на тыхъ сȣдехъ вотȣ не

маеть мѣти (Трыб., 11б); звѣрат которих в лѣсех хватаемъ а тым се живимы (Алекс. XVII, 30б); ѡ сынех ведаю же не маю их (Зб. 752, 108б). У некаторых дзелавых помніках другой палавіны XVI ст. пасля літары *р* як паказчык зацвярдзення гука *р* мог спарадычна выступаць і канчатак *-эхъ*: артык8л ѡ θалшованю монэты ѡ мынцахъ и ѡ золотарэхъ (Ст. 1566, 12).

Паралельна з разгледжаным граматычным сродкам, праўда, менш актыўна ў старабеларускай пісьменнасці для афармлення меснага склону множнага ліку назоўнікаў мужчынскага роду выкарыстоўваўся канчатак *-охъ*: р8чилъ королю по тыхъ мытникохъ п8тивльскихъ две камъце (ККК, 37б, 1486); м8жове сіи были звѧзаны в плащох своих (Зб. 262, 117); на торгохъ потомуж на соимикох и рокох земскихъ тое выданье тых судовъ ѡповѣдати... мають (Трыб., 15б); сатыри люди лесныи в горах албо в великих лесох бывают (Бельск., 12). Пашырэнне гэтага канчатка звязана з уплывам форм назоўнікаў з былой асновай на *ŭ*, дзе *-охъ* узнік фанетычным шляхам са старажытнаруская *-ъхъ*. Магчыма, пэўнае ўздзеянне аказаў і давальны склон, у якім канчатак *-омъ* на месцы *-ъмъ* стаў пашырацца яшчэ ў старажытнарускай мове. Канчатак *-охъ* найбольш быў характэрны для назоўнікаў, аснова якіх заканчваецца на заднеязычны: з'яўленне тут гэтага канчатка не выклікала пераходу *г, к, х* у *з, ц, с,* што адпавядала жывому вымаўленню старабеларускага перыяду. Ужыванне канчатка *-охъ* пасля шыпячых, *ц* і *р* таксама падтрымлівалася тэндэнцыяй да адлюстравання зацвярдзення зычных.

Наяўнасць старажытнага канчатка *-ехъ (-ѣхъ)* і больш новага *-охъ* у месным склоне множнага ліку назоўнікаў мужчынскага роду з'яўлялася нармальнай з'явай у старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове. Разам з тым уплыў жывога вымаўлення садзейнічаў афармленню гэтых назоўнікаў і пры дапамозе канчатка *-ахъ/-яхъ*. Словаформы з канчаткам *-ахъ/-яхъ* вядомы ў пісьмовых помніках розных жанраў з XV ст.: королевствъ болшаа долѧ албо часть есть в островах (Валх., 46б); на потомъкахъ его того поискивати хотели (КВС, 658); тобѣ ѡ наших ѡбычаях 8мыслилисмы выповѣдат (Алекс. XVII, 31б). Іх пашырэнне звязана, безумоўна, з уздзеяннем форм назоўнікаў жаночага роду з былой асновай на *ā*, што ў сваю чаргу вяло да уніфікацыі канчаткаў меснага склону. Хоць форм на *-ахъ/-Ахъ*

у параўнанні з формамі на *-охъ* і асабліва на *-ехъ (-ѣхъ)* у пісьмовых помніках менш, усё ж наяўнасць іх у пісьменнасці розных жанраў і паступовае павелічэнне ў колькасных адносінах ад стагоддзя да стагоддзя даюць падставу лічыць гэтыя формы факультатыўнай нормай.

## *Формы назоўнікаў жаночага роду*

У назоўным склоне множнага ліку назоўнікі жаночага роду з былой асновай на *ā* ўжываліся пераважна з канчаткам *-ы/-и*. Варыянт *-ы* выступаў у выпадках, калі апошні зычны асновы быў цвёрды — *аренды, беседы, воды, губы, долины, жоны, краины, лавы, невесты, ѡвцы, панны, рады, совы, умовы, цноты, шаты, шкоды:* м8жеве ест глава а жоны им подданы а др8ги оудовы волны (Вісл., 33); гоубы шіа горло оусе было ѡтекло (Пак. Хр., 12); были до нас донесены прозбы (Трыб., 1); мисы тежъ столы и лавы были з щирого золота справлены (Алекс. XVII, 18). З варыянтам *-и* ўжываліся назоўнікі з апошнім мяккім зычным асновы — *богини, девки, дочки, дыни, жонки, зброи, земли, книги, лазни, ласки, лодьи, ѡмелии, песни, реки, розги, руки, хвои:* которе книгі до акон и до колаты были принесены (Валх., 40б); жонки перехитривали их (Арыст., 208); ихъ зброи были позолочоны (Алекс. XVII, 26б); богини ѡныи прохожаючися по сад8 ѡном нашли ꙗблоко (Тр. гіст., 67б). Выпадкі паралельнага выкарыстання канчатка *-ы* ў гэтым разрадзе слоў сустракаюцца толькі ў становішчы пасля заднеязычных, але яны ўласцівы амаль выключна раннім пісьмовым помнікам і носяць спарадычны характар: тыи книгы имеют быти за тремі ключи замькн8ты (Вісл., 42б); ѡтворилисѧ розинкы чисты (Зб. 262, 85б).

Колькасць назоўнікаў жаночага роду з былой асновай на *ā*, якія ў назоўным склоне множнага ліку мелі канчатак *-и*, у пэўнай меры папаўнялася за кошт лексем з асновай на шыпячы, *ц* і *р*, якія ўжываліся ў выглядзе словаформ тыпу *вежи, гори, ѡвци, свечи.* Аднак у сувязі з зацвярдзеннем адзначаных зычных гэты традыцыйны канчатак усё часцей замяняўся канчаткам *-ы:* хмоуры темные землю оусю накрили (Валх., 49б); дойные овцы и козы быти могутъ (АЗР, III, 78, 1557); вежи и темницы наполнени были (Зб. 752, 460б).

Афармленне назоўнага склону множнага ліку назоў-

нікаў жаночага роду з былой асновай на ā пры дапамозе канчатка *-ы/-и* было правапіснай нормай у старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове. Аднак у пісьмовых помніках рэлігійных жанраў паралельна з *-и* пры мяккай аснове зрэдку па традыцыі захоўваўся стары канчатак *-ѣ (-е)*: оуси земле и королевства видевше таке дивы ѡстерегалисе (Валх., 39б); ѧскинѣ и пропасти моимъ зданьемъ безпечнѣйшіе (Апакр., 84б); бѹрѣ, вѣтры... розрѹхѡв чинити не переставаютъ (Каліст, 52б).

Сродкам граматычнага афармлення назоўнага склону множнага ліку назоўнікаў з былой асновай на ĭ на ўсім працягу развіцця старабеларускай літаратурна-пісьмовай мовы нязменна заставаўся старажытны канчатак *-и* — *борти, волости, глупости, дани, злости, кости, масти, ночи, печати, радости, речи, сеножати, сети, темности, трудности, хитрости, части*: тыи речи оу меньших пенезѧх проданы (Вісл., 18); дорогие масти соуть (Валх., 92б); правыѧ перси мѹжскиѧ а левыѧ женскиѧ (Царств., 69б); тые всѣ злости ѹ мне се наидѹють (Зб. 107, 187). Толькі ў рэдкіх выпадках, калі аснова назоўнікаў заканчваецца на шыпячы, канчатак *-и* можа замяняцца на *-ы*: нагоршие речы ѡборочаютсе в добрые (Зб. 255, 14).

Родны склон множнага ліку назоўнікаў жаночага роду з былой асновай на ā афармляўся ў старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове ў выглядзе словаформ з нулявым канчаткам — *бочекъ, высотъ, границъ, девокъ, жабъ, земль, игръ, книгъ, конопель, малпъ, ѡвецъ, пчолъ, сажовокъ, хустъ, чаръ, шкодъ, ѧгодъ*: звезда проводила ихъ зо трех дорогъ до бетлеемъ (Валх., 79б); дали... нашъ листъ з нашыми и сестръ и зѧтеи нашых печатми (КВС, 466б); ѡ заплатѹ тыхъ винъ ѹпомненъ (Трыб., 8); игоръ жадных не милуемъ (Алекс. XVII, 32б). Разам з тым на гэту групу назоўнікаў аказалі вырашальны ўплыў формы назоўнікаў з былой асновай на ĭ, у выніку чаго ў некаторых пісьмовых помніках яны фіксуюцца і з канчаткам *-ей (-ий)*: врѧдилъ притчеи много (Зб. 262, 92б); тыхъ землеи не мелъ и не ѹживалъ (КВЗС, 143, 1537); ѡт которои коли много походнии берѹт ѡгонь, не мнѣй теж ѡна свѣтит (Алекс. XVII, 31б).

Сродкам афармлення роднага склону множнага ліку назоўнікаў жаночага роду іншамоўнага паходжання з канчаткам *-иѧ (-ыѧ)* у назоўным склоне адзіночнага ліку быў канчатак *-ий/-ый* — *апелѧций, бестый, гисторый, диспутаций, инклинаций, копий, лимитаций, презента-*

*ций, протестацый, рацый, реликвий, семинарий, фундаций, церемоний, юрыздыкцый:* просилъ копи*и* з листовъ анъдреевыхъ (КВС, 541б); ѡтс8жыванье апелѦцы*и* не выдалъ (Трыб., 1б); мѣ*л* подобе*н*ство розмаиты*х* бесты*и* (Алекс. XVII, 44); на то ба*р*зо много доводо*в* и протестаци*и* всюды на*ид*8*т*сѧ (Дыяр., 170).

Для афармлення роднага склону множнага ліку назоўнікаў жаночага роду з былымі асновамі на *ĭ* і на *ŭ* ў старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове выкарыстоўваўся старажытны канчатак *-ий* і ўтвораны на яго аснове варыянт *-ей*. Як сведчаць даныя пісьменнасці, канчатак *-ий* больш характэрны быў для помнікаў рэлігійных жанраў і тэкстаў свецкага зместу, дзе па традыцыі і пад уплывам царкоўнаславянскай мовы ўжываліся словаформы тыпу *власностий, вонностий, даний, заповедий, злостий, користий, кровий, мыслий, небеспечностий, печатий, противностий, тварий, темностий, трудностий, церквий:* которыхъ злостiи лиходеи есть (Пак. Хр., 16б); вѣдаемо с повѣстiй костелны*х* (Апакр., 49); много на*и*де небеспечности*и* (Алекс. XVII, 38б); посвѧще*н* на справова*н*ю црквн*и* (Зб. 752, 23). Паралельна з імі менш актыўна ў ранняй пісьменнасці і ў пераважнай большасці ў пісьмовых крыніцах другой палавіны XVI—XVII ст. выступалі словаформы з канчаткам *-ей* тыпу *болестей, волостей, дверей, мастей, ночей, ѡбфитостей, пожадливостей, радостей, сетей, ступеней, умеетностей, частей,* распаўсюджаныя пад уздзеяннем жывога вымаўлення: бы*л* дорогихъ мастеи полонъ (Жыц. Ал., 99б); боюсѦ всн*х* болестеи свои*х* (Зб. 262, 16); та*к* много ноче*и* постилъ (Зб. 255, 3); переселил*с*ѧ до ве*ч*ны*х* радосте*и* (Зб. 752, 22б). Часам разнабой назіраецца пры напісанні адных і тых жа слоў, у выніку чаго выяўляюцца дублетныя словаформы, напрыклад, у Александрыі пачатку XVII ст.: до наши*х* 8шъю з много*х* повѣсти*и* пришло (31б) — перекладал з повѣсте*и* зъ и*н*шихъ (45б); у Зборніку № 752: дивил*с*ѧ лю*д* речи*и* неслыханы*х* (37) — не ели рече*и* нечистыхъ (93б).

У дзелавых пісьмовых помніках XV—XVII стст. канчатак *-ей* быў адзіным граматычным сродкам афармлення роднага склону з былымі асновамі на *ĭ* і на *ŭ*, а гэта пацвярджае меркаванне аб яго распаўсюджанні ў жывой народнай мове таго часу. Некалькі іншы ў дзелавой пісьменнасці і сам набор словаформ у сувязі са спецыфікай дзелавой лексікі ў параўнанні са слоўнікавым

складам мовы свецкай і рэлігійнай літаратуры, аб чым сведчаць такія словаформы, як *бортей, гусей, записей, клетей, маетностей, ѡтповедей, печатей, речей, сеножатей, сетей, частей, честей:* пѣчатѣи своих не держали естьмо (ПГ, II, 114, 1487); тыхъ сеножатеи не держалъ (КВЗС, 143, 1533); згин8ла деи половица ребаѧ ѡвецъ семеро гусеи (КВС, 540); до с8довъ таковых речеи маемъ мети (Трыб., 5б).

Неабходна адзначыць, што на афармленне роднага склону множнага ліку назоўнікаў жаночага роду ўсіх асноў аказала пэўны ўплыў узаемадзеянне іх з іншымі родамі, у прыватнасці ўплыў форм назоўнікаў мужчынскага роду, дзякуючы чаму ў помніках пісьменнасці яны адзначаюцца і з канчаткам *-овъ:* войд8т... до печов твоих (Біблія, 114); тр8довъ и працов своих не счадѧчи приходили до мира (Зб. 82, 231). Аднак істотных змен у афармленне роднага склону назоўнікаў жаночага роду такія спарадычныя напісанні не ўнеслі.

У д а в а л ь н ы м склоне множнага ліку назоўнікі жаночага роду з былой асновай на *ā* захоўвалі ў старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове старажытны канчатак *-амъ/-Ѧмъ*, які аказаў таксама ўздзеянне на паралельна нешматлікія групы слоў з асновамі на *ĭ* і на *ū*. Дзякуючы гэтаму ў помніках старабеларускай пісьменнасці розных жанраў правапіснай нормай давальнага склону множнага ліку назоўнікаў жаночага роду незалежна ад іх паходжання было выкарыстанне словаформ тыпу *березамъ, вдовамъ, горамъ, дочкамъ, думамъ, жонамъ, намовамъ, ногамъ, ѡльхамъ, ѡсамъ, пущамъ, рекамъ, рукамъ, сестрамъ, сторонамъ, улицамъ, церквамъ,* калі перад канчаткам выступае цвёрды зычны, і словаформ тыпу *волостѦмъ, землѦмъ, перворodностѦмъ, стихиѧмъ, торговлѦмъ, хитростѦмъ, частѦмъ* пры апошнім мяккім зычным асновы: б8деть ли сестрамъ его посагъ недобре данъ (ККК, 144б, 1486); блоуды... иные держат и чтоут по всим церковамъ (Валх., 83); которыи тесна ново сего леса натесаны по хвоѧмъ по ѡльхамъ по березамъ (КВЗС, 83, 1533); листы с8довые сторонам подавали (Трыб., 10б); всѣмъ землѧм дает вилготност (Бельск., 4).

Часам, аднак, у помніках старабеларускай пісьменнасці адзначаюцца адхіленні ад такога ўжывання. Так, вядомы выпадкі выкарыстання канчатка *-омъ* пры афармленні давальнага склону множнага ліку назоўні-

каў з былой асновай на *ā*, што можна растлумачыць уздзеяннем форм мужчынскага і ніякага роду: оуставлѧемь м8жомъ запис рочныи а оудовамъ за шесть лѣт, а м8жаткомъ за дѣсѧт лѣт (Вісл., 33); повелъ нас по межомъ по лѧдомъ по нивъю (КВЗС, 82б, 1533); противъ пок8сомъ валчит (Зб. 259, 568). Пры афармленні давальнага склону назоўнікаў з былой асновай на *ĭ* гэты канчатак выкарыстоўваўся толькі ў пазіцыі пасля зацвярдзелых шыпячых: чи ес конецъ рѣчом вѣтреным (Зб. 262, 18б); помогают низкимъ речомъ (Зб. 259, 611). Затое яны, як і словы з асновай на *ĭ*, маглі выступаць з канчаткам *-емъ*, не ўласцівым назоўнікам з асновай на *ā*, утвараючы словаформы тыпу *бортемъ, волостемъ, дверемъ, костемъ, матеремъ, моцемъ, мыслемъ, печатемъ, речемъ, сеножатемъ, склонностемъ, твердостемъ, частемъ* і адлюстроўваючыся ў якасці дублетных напісанняў да разгледжаных вышэй словаформ з канчаткам *-ѧмъ:* маеть приказывати и роздавати дело волостем задвиньским (ПГ, II, 49, 1475); моцы к моцем згромажаючи на грекн ѡкрутне оусиловал (Троя, 41б); две части... къ своимъ частемъ прил8чыли (КВЗС, 46б, 1533); склонностемъ нашимъ се припатр8ет (Зб. 259, 548б). Прыклады паказваюць, што такі разнабой сустракаецца звычайна ў словах, дзе націск падае на аснову, у сувязі з чым гэты разнабой можна растлумачыць гукавой невыразнасцю ненаціскнога ґалоснага ў канчатку.

Асноўным граматычным сродкам афармлення в і н а в а л ь н а г а склону множнага ліку назоўнікаў жаночага роду незалежна ад іх паходжання быў канчатак *-ы/-и*, г. зн. яны супадалі з формамі назоўнага склону множнага ліку. З варыянтам *-ы*, які ўжываўся пасля цвёрдых канцавых зычных асновы, і варыянтам *-и*, уласцівым словам з мяккімі канцавымі зычнымі асновы, гэтыя формы шырока адлюстраваліся ў помніках старажытнай беларускай пісьменнасці розных жанрава-стылявых разнавіднасцей — *березы, войны, губы, жоны, звезды, козы, лѧмпы, новины, ѡблуды, потребы, рыбы, слезы, травы, учты, шаты* і *богини, волости, голени, долони, земли, книги, кости, лазни, недели, ѡтповеди, песни, печали, радости, свиньи, торговли:* оумыл роуки свое (Пак. Хр., 21б); мел спор ѡ борти и входы (Ст. 1529, 207); в таковые вины впадываеть (Трыб., 8б); выгнал козы (Бельск., 9б); рыбы ламлет и простому множеству ѡному роздает (Зб. 255, 23б).

Некаторая арфаграфічная непаслядоўнасць, якая выражаецца ў змяшэнні гэтых варыянтаў, адзначаецца толькі ў становішчы пасля шыпячых, *р* і *ц*, што тлумачыцца неадпаведнасцю вымаўлення пісьмовай традыцыі і на пісьме адлюстроўваецца ў выглядзе дублетных напісанняў тыпу *ѡвци — ѡвцы, речи — речы, чари — чары.*

Пэўнай асаблівасцю некаторых пісьмовых помнікаў, пераважна рэлігійных жанраў, было ўжыванне побач з формамі на *-ы/-и* і старых форм на *-е (-ѣ)*: оу границе наше оуходит (Пак. Хр., 25б); черес ихъ земле шол (Валх., 5б); предаст д8хъ свой в р8цѣ божии (Зб. 752, 26б).

Выкарыстанне форм роднага склону ў значэнні вінавальнага пры напісанні адушаўлёных назоўнікаў жаночага роду для старабеларускай літаратурна-пісьмовай мовы не было характэрна, аднак у помніках пісьменнасці зрэдку сустракаюцца і такія формы. Да іх адносяцца перш за ўсё выпадкі напісання назоўнікаў жаночага роду на *ā* з цвёрдай асновай і на *-ин(я)* з нулявым канчаткам: дѣвочокъ семъ большых мѣла ѡколо себе (Атыла, 201); маютъ панове духовъные чотырохъ д8ховныхъ ѡсобъ спосродк8 себе ѡбрати (Трыб., 3б); кнегинь, пань, вдовь, кн[illegible]жень, паненъ девокъ не маемъ ни за кого кгвалътомъ давати (Ст. 1588, 110). Сюды ж прымыкаюць выпадкі фіксацыі назоўнікаў з былой асновай на *ĭ*, а пад іх уплывам і на *ā* мяккага варыянта з канчаткам *-ей* у вінавальным склоне множнага ліку: жита на п[illegible]ть бочокъ пожали а инъшое конъми потравили и потоптали и жнеи побили (КВС, 469). Гэта сведчыць, што ў жывой народнай мове таго часу працэс дыферэнцыяцыі канчаткаў вінавальнага склону назоўнікаў жаночага роду ў залежнасці ад адушаўлёнасці — неадушаўлёнасці ўжо адбыўся.

Асноўным граматычным сродкам афармлення творнага склону множнага ліку назоўнікаў жаночага роду з былой асновай на *ā* быў у старабеларускай мове канчатак *-ами/-ями*, што шырока адлюстравалася ў пісьменнасці. З варыянтам *-ами* тут адзначаюцца словаформы з апошнім цвёрдым зычным асновы — *брамами, водами, головами, дубровами, жонами, звездами, искрами, кветками, мовами, нивами, ѡсобами, подводами, рыбами, слезами, таблицами, улицами, шатами:* хто кому дѣрево зр8бить со пчелами (Вісл., 37); почал с нѣмьци собѣ соимы чинити и записыватисѧ грамотами (Віл., 439); ѡбедве стороны з справами своими готовы были (Трыб., 5б);

з розмантыми пригодами и хоробами до него ишли люди (Зб. 752, 3б). З варыянтам *-ями* фіксуюцца словаформы з апошнім мяккім зычным асновы *апелѧцыꙗми, бестиꙗми, волочнѧми, елекцыꙗми, землѧми, копиꙗми, кроплѧми, надеꙗми, песнѧми, пустынѧми, рацыꙗми, реликвиꙗми, стацеꙗми, струꙗми,церемониꙗми, шаблѧми, шиꙗми:* пришол июда а с ним толпа людеи велікаꙗ с походнѧми (Пак. Хр., 6); зъ стацэꙗми ходꙗть (Ст. 1566, 17); сȣдити мають вси справы за апелѧцыѧми (Трыб., 4); въехал с пѣснꙗми до мѣста (Кн. Мак., 64).

Адзначаны канчатак творнага склону множнага ліку назоўнікаў жаночага роду з былой асновай на *ā* складаў у старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове арфаграфічную норму. Гэта норма толькі зрэдку парушалася выпадкамі ўжывання канчатка *-ы/-и,* з'яўленне якога можна тлумачыць уплывам форм творнага склону назоўнікаў мужчынскага роду: звезда межи стены... поноурила (Валх., 54б); ѡплакала дѣвицство мое з товаришки моими (Біблія, 277); котораꙗ ест межи всими невѣсты навдꙗчнѣиша (Тр. гіст., 71); пришлыми своими працы и поты себе зновȣ быт нарожонымъ показовалъ (Зб. 259, 7). Парушэннем нормы з'яўлялася таксама спарадычнае ўжыванне канчатка *-ми* пад уздзеяннем аналагічных форм назоўнікаў з былой асновай на *ĭ*: богданȣ на михаиле присȣдили... пчолы пчолъми навезати (КВЗС, 14, 1533); взꙗлъ... сребромъ перълами шатми... сто копъ грошеи (КВС, 533б).

Ужыванне назоўнікаў з былой асновай на *ĭ* з канчаткам *-ми* ў творным склоне множнага ліку было звычайнай з'явай, дзякуючы чаму яны ў большасці выпадкаў выступалі ў выглядзе словаформ тыпу *бортьми, болестьми, жалостьми, заросльми, костьми, моцми, немоцми, персьми, печатьми, радостьми, речми, сеножатьми, честьми:* тоую корону ис ѡными многими пречистыми рѣчми... притѧгноули (Валх., 40б); плеснȣли на тебе долоньми (Зб. 262, 111); дарȣю того мужа моего марътина дворцомъ... з сеножатьми (КВС, 439б); живот мой великими болестьми есть дрȣчонъ (Алекс. XVII, 3б). Аднак пачынаючы з XV ст. у якасці дублетнага сродку афармлення творнага склону гэтых назоўнікаў усё часцей пачынае выступаць канчатак *-ами/-ями,* распаўсюджаны пад уздзеяннем аналагічных форм назоўнікаў з былой асновай на *ā*. Выпадкі ўжывання словаформ тыпу *волостѧми, голенѧми, горкостѧми, жалостѧми, кос-*

*тѦми, коштовностѦми, мастѦми, навалностѦми, радостѦми, речами, темностѦми* сустракаюцца ў помніках розных жанрава-стылявых разнавіднасцей старабеларускай пісьменнасці: прегоркими жалостѦми многіе приводила коу жалованію (Пак. Хр., 15б); б8дет владѣти... всими коштовностѦми (Зб. 262, 126); послаломъ его до жоны моее з некоторыми листы потребными из речами моими (КВС, 592); было велми много вѧзнев ...з поламаными голенѧми (Алекс. XVII, 20б). Аднак у параўнанні з напісаннямі на *-ми* іх колькасны ўклад у граматычную сістэму старабеларускай пісьменнасці быў нязначны.

Назоўнікі жаночага роду з асновай на *ā* ў старабеларускай мове, як і ў старажытнарускай, характарызаваліся ў месным склоне множнага ліку старажытным канчаткам *-ахъ/-яхъ*. Пры гэтым варыянт *-ахъ* выступаў пасля цвёрдых канцавых зычных асновы, аб чым сведчыць наяўнасць у пісьмовых помніках розных жанрава-стылявых разнавіднасцей словаформ (*в, на, о, при, у) битвахъ, водахъ, горахъ, дубровахъ, жонкахъ, заслугахъ, избахъ, краинахъ, мовахъ, ногахъ, ѡсобахъ, планетахъ, рекахъ, сестрахъ, скалахъ, улицахъ, шкодахъ*: много иных речіи ѡ заслугахъ и добротахъ, велебнеи гелены на тои таблици соуть пописаны (Валх., 72б); што бы сѦ при забитью або ранах стало (Трыб., 6б); помножалсе в силах (Кн. Мак., 59); крылисе верные по горах по ѧмах (Зб. 752, 72). Варыянт *-яхъ* ужываўся пасля мяккіх канцавых зычных асновы і *j* — (*в, на, о, при, у) апелѦцыѧхъ, веѧхъ, греблѦхъ, елекцыѧхъ, зброѧхъ, землѦхъ, куплѦхъ, милѦхъ, неделѦхъ, песнѦхъ, походнѦхъ, ревизыѧхъ, скринѦхъ, спижарнѦхъ, стайнѦхъ, церемониѧхъ, ѧскинѦхъ*: подаемъ пенѦзи на квитацыѦхъ (ККК, 50, 148б); злота ѡбѳитость... оу скринѦх их налезли (Троя, 61б); 8 дв8хъ неделѦх станогитисѦ маеть (Трыб., 10б); крылисе по горах, лѣс[illegible]х, п8стынѧх (Зб. 752, 538б).

У колькасных адносінах словаформы на *-ахъ/-яхъ* назоўнікаў з асновай на *ā* складалі ў старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове настолькі значнае месца, што аказалі прыкметны ўплыў на афармленне меснага склону іншых груп назоўнікаў. У прыватнасці, пры дапамозе канчатка *-ахъ/-яхъ* стаў афармляцца месны склон множнага ліку назоўнікаў з былымі асновамі на *ĭ* і *ū*, якія ў старажытнарускай мове мелі канчатак *-ехъ* (з *-ьхъ*). Аб гэтым сведчаць выяўленыя ў помніках

старабеларускай пісьменнасці шматлікія выпадкі адлюстравання словаформ на *-ахъ* пасля цвёрдых зычных і *-яхъ* пасля мяккіх зычных — *(в, на, о, при, у) бортѧхъ, волностѧхъ, волостѧхъ, годностѧхъ, долегливостѧхъ, жалостѧхъ, кревностѧхъ, моцахъ, небеспечностѧхъ, повестѧхъ, радостѧхъ, речахъ, сладостѧхъ, темностѧхъ, хитростѧхъ, церквахъ, частѧхъ*: грекове велми сѧ в моцахъ потвердили (Троя, 25б); таꙗ сȣма пнзеи на двȣхъ частꙗхъ того жъ именьꙗ записанаꙗ (КВС, 609); сторона жалобнаѧ сторонȣ противънȣю в такихъ речахъ до кгродȣ позоветъ (Трыб., 5б); чи не в церквах соборы ѡные чинили (Зб. 752, 65). Тым не менш даволі часта назоўнікі жаночага роду з асновай на *ĭ* адлюстроўваюцца ў помніках старабеларускай пісьменнасці па традыцыі са старым канчаткам *-ехъ* у месным склоне множнага ліку: што было въ клетех то выграбили (ККК, 164б, 148б); на своих печатехъ держить правицю (Валх., 67); грекове есть сѧ покрепили а оу своих моцех (Троя, 22б); штос молвилъ в ѡбоихъ частехъ (Зб. 259, 526б). Іх уплыў адчуваецца нават на формах назоўнікаў з былой асновай на *ā*: оузѧлъ емȣ меч и тоболы а оу тоболех три скотца гроши (Вісл., 26б); идоуть оусегды оу толпах а оу хоустех (Валх., 80); колце золотое в ноздрехъ свиньи (Зб. 262, 98б).

У месным склоне множнага ліку назоўнікі з асновай на *ĭ* маглі мець і канчатак *-охъ*. Праўда, словаформы з гэтым канчаткам сустракаюцца ў старабеларускай пісьменнасці значна радзей, чым з *-ехъ:* пѣвность ѡ тых рѣчох вѣдали (Гр. 1470); оу шести печалох збавит тѧ (Зб. 262, 14). З'яўленне такіх форм тлумачыцца невыразнасцю вымаўлення пэўных гукаў у ненаціскной пазіцыі. Такія формы яшчэ больш павялічвалі арфаграфічны разнабой у пісьменнасці. Напрыклад, як відаць з прыведзеных вышэй прыкладаў, назоўнік *речь* выступаў у месным склоне множнага ліку аж у трох варыянтах: *(в) речахъ — речехъ — речохъ.*

### Формы назоўнікаў ніякага роду

У назоўным склоне множнага ліку назоўнікі ніякага роду незалежна ад іх паходжання ўжываліся ў старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове пераважна з канчаткам *-а/-я,* выкарыстоўваючы варыянт *-а* пасля цвёрдых зычных, а варыянт *-я* пасля мяккіх — *богатст-*

*ва, войска, гумна, дерева, жерела, забойства, зельꙗ, ко-ла, крила, лета, морꙗ, ѡзера, полꙗ, права, села, слова, стада, тела, царства, чуда:* вси права мают быти (Вісл., 10); тела и реліквие тых трех королев безъ оусѦкое чти и безъ всеи печали там лежали (Валх., 76б); такие пис-ма... презвитера зъ его достоиности зложили (Бер. саб., 37б); лежат тые полꙗ и тепер под тым же назвиском в перскои ѡднои краинѣ (Бельск., 11б).

Своеасаблівасць у скланенні назоўнікаў з былой асновай на зычны тыпу *знамя, имя, племя* і *зверя, княжа, теля* заключалася толькі ў тым, што ў іх перад канчаткам захоўваліся старажытныя суфіксы *-ен-* і *-ат-/-ят-*: племена и ꙗзыци схилилисѦ ѡбразꙋ златомꙋ (Зб. 262, 11б); дети и внꙋчата тꙋю слꙋжбꙋ слꙋжили (КВЗС, 91б, 1533); над каждым ѡбразом были написаны имена кнꙗжат (Алекс. XVII, 43б); звѣрата бовѣмъ и быдлѦта не безплодными сꙋт (Каліст, 209б). Зрэдку пад царкоўнаславянскім уплывам захоўваўся і суфікс *-ес-* у назоўніках тыпу *слово, тело, чудо,* хоць звычайна, як аб гэтым гаварылася вышэй, яны ўжываліся ў назоўным склоне множнага ліку без гэтага суфікса: чюдеса ег... оѳѦроуют емоу ѡѳѦрꙋ хвалы (Пс. XVI, 109б); ѡтворилисе небеса (Зб. 259, 527б); словеса засъ БжіѦ члчской ѡтмѣнѣ подлегати не могꙋт (Зб. вып., 3б).

Ужыванне канчатка *-а/-я* пры афармленні назоўнага склону множнага ліку назоўнікаў ніякага роду толькі зрэдку парушаецца выкарыстаннем канчатка *-ы/-и,* уласцівага назоўнікам мужчынскага роду: словы мои цѣлы и розꙋмъ с тобою (Зб. 262, 27); имены и прозвиски на листе ее вызнаномъ ѡписаные (КВС, 546б); слонце которое на тот час всходꙗчое покривали ѡблаки (Зб. 259, 5). Выключэнне складаюць лексемы *ѡко* і *ухо,* якія афармляліся ў пераважнай большасці выпадкаў пры дапамозе канчатка *-и (-ы):* несправенье мое видели очи твои (Пс. XVI, 134); ѡчы выскакали (Бава, 134); оуши жебы ѡбмовискъ не слꙋхали (Мак., 28). Канчатак *-а* выступаў тут толькі спарадычна: нехай бꙋдоут оуха твои на розбачене млтвы моеи (Пс. XVI, 129); оуха твои нехай бꙋдꙋтъ готовы (Варл., 331б).

У родным склоне множнага ліку назоўнікі ніякага роду з асновай на цвёрды зычны, як і ў старажытнарускі перыяд, ужываліся з нулявым канчаткам. Аб гэтым яскрава сведчаць помнікі старабеларускай пісьменнасці розных жанраў, дзе шырока адлюстраваны словаформы

тыпу *богатствъ, войскъ, гуменъ, деревъ, житъ, забойствъ, королевствъ, крилъ, местъ, ѡзеръ, панствъ, правъ, ремеслъ, селъ, стадъ, царствъ:* помогали емоу из добръ своихъ (Пак. Хр., 22б); приходит сонъ зъ многихъ дѣлъ (Зб. 262, 88б); ѡт ѡзеръ ничого брати не мають (Трыб., 15); пришли до деревъ (Алекс. XVII, 38).

Для назоўнікаў з новай асновай на мяккі зычны характэрным сродкам афармлення роднага склону множнага ліку быў канчатак *-ей/-ий,* у сувязі з чым у помніках пісьменнасці мелі пашырэнне словаформы *зелий, имений, мешканий, плечей, полей, поколений, утрапений:* оу пеленки аж до плечей оу ꙗслех на сѣне лежал оувитыи (Пак. Хр., 53б); нихъто не смелъ ꙋ тое станиславовое именеи ее кꙋповати (КВС, 557); началъ над нимъ чароват и мазат его сокомъ зъ ѡных зелии (Алекс. XVII, 3); есть линѣꙗ поколѣнии пресвꙗтои богородицы (Рым., 82). Выключэнне складаў назоўнік *поле,* які звычайна ў родным склоне множнага ліку меў нулявы канчатак: вернꙋласѧ ѡт поль моавскихъ (Зб. 262, 31б); засели пры границах тых поль (Атыла, 199).

Выкарыстанне форм з нулявым канчаткам у родным склоне множнага ліку пашыралася ў старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове і на іншыя граматычныя разрады назоўнікаў ніякага роду. Так, з нулявым канчаткам ужываўся звычайна назоўнік *слово,* які ў старажытнарускі перыяд адносіўся да групы назоўнікаў з асновай на зычны: никомоу поведаите слов тых которые казали есте нам (Пак. Хр., 36); не могꙋчи стерпети ѡных неоучтивых слов так рек (Троя, 4б). Праўда, у радзе выпадкаў гэта лексема, відаць, пад уплывам царкоўнаславянскай мовы захоўвала старажытны суфікс *-ес-:* при изреченіи сихъ словесъ (Зб. вып., 70б). Нулявы ж канчатак таксама з захаваннем суфікса *-ес-* з'яўляўся сродкам афармлення і роднага склону множнага ліку слоў *небо, тело, чудо:* вопль ѡт женъ и ѡт дѣтей слышат было аж до небес (Алекс. 1697, 14б); дшѧ по исходѣ ѡт телесъ мешкают в ѡтхлани (Зб. вып., 7б).

Назоўнікі ніякага роду з былой асновай на зычны тыпу *знамя, имя, племя* мелі ў родным склоне множнага ліку нулявы канчатак з захаваннем суфікса *-ен/-ян:* богъ вашъ изберетъ собѣ ѡт всех плѣменъ вашихъ (Скар. ДЗ, 27); на васъ обороны и такъ тяжкихъ беремянъ... не зволяли (КПД, 106, 1544); знаменъ часомъ нѣ можете досьветчити (Цяп., 22).

Назоўнікі тыпу *жеребя, осля, теля* таксама выступалі ў родным склоне множнага ліку з нулявым канчаткам і з захаваннем суфікса *-ят(-ат)*: ѡдин з кнажат дариевыхъ именемъ нестодь писал лист дариеви (Алекс. XVII, 16б); волчица... дѣти ѡбое ѡтносила до своего логовиска до волченАт (Рым., 77б); жолнере розныхъ звират ск8ръ до строю заживали (Зб. 259, 579б).

З ліку назоўнікаў ніякага роду з былой асновай на зычны вылучаўся назоўнік *око*, які ўжываўся ў родным склоне множнага ліку з канчаткам *-ей/-ий*: мѣл сто ѡчеи (Бельск., 78б); крывыи не может поднести ѡчии в нбо (Зб. 261, 88б).

Пры разглядзе канчаткаў роднага склону множнага ліку назоўнікаў ніякага роду звяртаюць на сябе ўвагу засведчаныя ў помніках старажытнай беларускай пісьменнасці выпадкі парушэння прынятых арфаграфічных норм. У прыватнасці, парушэннямі з'яўляюцца зафіксаваныя ў некаторых тэкстах словаформы накшталт *местовъ, слововъ, чудовъ* замест правамерных *местъ, словъ, чудесъ*: с словов и сведчства пастоухов велми се срадовали (Валх., 52); до которыхъ мѣстовъ с8довыхь судьи... р8ки свое подъписовати маюють (Трыб., 10б—11); чого праве с ч8дов дознаешъ (Рым., 83б). З'яўленне падобных словаформ, безумоўна, было звязана с уплывам аналагічных форм назоўнікаў мужчынскага роду. Як сродак афармлення роднага склону множнага ліку назоўнікаў ніякага роду яны ў старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове не замацаваліся.

У давальным склоне множнага ліку назоўнікі ніякага роду незалежна ад іх паходжання афармляліся пераважна пры дапамозе канчатка *-омъ*, унаследаванага ад старажытнарускай эпохі. Словаформы на *-омъ* тыпу *быдлАтомъ, деломъ, зweratomъ, кацерствомъ, коленомъ, лгарствомъ, летомъ, местомъ, ѡзеромъ, ѡкномъ, панствомъ, поселищомъ, селомъ, словомъ, стадомъ, унучатомъ, чадомъ* мелі шырокае распаўсюджанне ў пісьмовых помніках розных жанраў на ўсім працягу развіцця старабеларускай літаратурна-пісьмовай мовы: по своеи земли поселищом шкодАт (Вісл., 27б); коли трыщанъ прышол к лѣтомъ, прышолъ изъ своею дружыною и вбилъ кнзА изпорота (Трыст., 13); быдлатом подобныи (Выкл., 51); чадомъ своимъ ничого не зоставитъ (Зб. вып., 125).

Разам з тым у якасці варыянтнага сродку афармлен-

ня давальнага склону множнага ліку назоўнікаў ніякага роду ў старабеларускай пісьменнасці ўсё большае распаўсюджанне знаходзіў канчатак *-амъ/-ямъ*, што пашыраўся пад уздзеяннем форм давальнага склону множнага ліку назоўнікаў жаночага роду: казалъ кликати по всим мѣстам (Трыст., 3); не чини болшеи прикрости тым деревам (Алекс. XVII, 38б); не верил словам моим (Зб. 752, 9). Гэта сведчыць аб адпаведных працэсах у жывой народнай мове, што прыводзілі да выцяснення старажытнага канчатка *-омъ* новым канчаткам *-амъ/-ямъ*. Уплывам царкоўнаславянскай мовы тлумачацца выпадкі афармлення назоўніка *слово* ў давальным склоне множнага ліку ў выглядзе *словесемъ:* по словесем хвымъ (Зб. вып., 66). Зразумела, такія словаформы пашырэння ў старабеларускай пісьмовай мове не атрымалі.

Асноўным сродкам афармлення вінавальнага склону множнага ліку назоўнікаў ніякага роду незалежна ад іх паходжання быў у старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове канчатак *-а/-я,* г. зн. іх формы супадалі з формамі назоўнага склону множнага ліку. Выкарыстоўваючы варыянт *-а* ў становішчы пасля цвёрдых зычных і варыянт *-я* пасля мяккіх, назоўнікі ніякага роду выступалі ва ўсіх жанрах старабеларускай пісьменнасці, як і ў назоўным склоне, у выглядзе словаформ тыпу *богатства, болота, вздыханьꙗ, войска, гумна, дела, жита, именьꙗ, колена, лекарства, места, морѧ, начиньꙗ, ѡкна, полѧ, седла, царства, чола, шаленства, ꙗблока:* пріидѹть в розѹмъ и в лета (Вісл., 26б); с своими корабли на морѧ сѧ пустил (Троя, 10б); в озера потомѹ жъ вси наполы ѹстѹпъ мети мають (КВС, 614б); приехали на полꙗ спѹстошалыи (Алекс. XVII, 30б); ѹпадалъ на колѣна (Зб. 259, 613).

Асаблівасцю ў афармленні вінавальнага склону множнага ліку назоўнікаў ніякага роду з былой асновай на зычны тыпу *знамя, имя, племя* і *жеребя, княжа, ягня* было тое, што ў іх перад канчаткам з'яўляліся суфіксы *-ен-* і *-ат-/-ят-:* в петръкове даваны жеребѧта (ККК, 94б, 1486), възвѣстити вам знамена его (Зб. 262, 117); хто ѡсегаеть добра повиненъ носити и беремена (Ст. 1588, 324); нашол тые близнѧта (Рым., 78). Некаторым разнабоем характарызаваліся толькі словаформы, утвораныя ад назоўнікаў *коло, небо, слово, тело, чудо.* З іх толькі назоўнік *слово* ўжываўся ў вінаваль-

ным склоне множнага ліку ў форме *слова* і толькі назоўнік *небо* меў царкоўнаславянізаваную форму *небеса*. Астатнія назоўнікі адлюстраваны ў помніках старабеларускай пісьменнасці ў двух варыянтах — *кола—колеса*, *тела—телеса*, *чуда—чудеса*: тот многіе дивы и чоуда чинил (Пак. Хр., 20) — многиа чудеса сотвори тогда гсдь (Зб. 752, 27); тела наше и дше наше... тобе полецАемъ (Пак. Хр., 16) — възливающе вод8 на телеса ваша (Чэцця, 7б). Пры гэтым можна адзначыць, што варыянт з суфіксам *-ес-* больш характэрны быў для пісьмовых помнікаў рэлігійных жанраў, якія прыкметна адчулі на сабе ўплыў царкоўнаславянскіх арыгіналаў.

Уплыў форм вінавальнага склону назоўнікаў мужчынскага роду на вінавальны склон назоўнікаў ніякага роду адлюстроўваецца ў старабеларускай пісьменнасці ў адзінкавых выпадках: тыи словы ведаешь вед ты (КВЗС, 44б, 1533); все звѣрята держите (Алекс. XVII, 34б); розп8д ѡблоки ѡные такъ г8стые и чорные (Зб. 259, 9). Толькі назоўнікі *око* і *ухо* выступаюць у вінавальным склоне множнага ліку, як правіла, з канчаткам *-и (-ы)*: вѣсть пришла въ оуши наши (Алекс. XV, 2б); ѡчи заправд8 мел палаючии (Троя, 14б); тые великие 8ши мают (Бельск., 12б); напрод ѡтвори ѡчы (Зб. 255, 12б).

Ужыванне форм роднага склону множнага ліку пры афармленні вінавальнага склону адушаўлёных назоўнікаў ніякага роду таксама не мела ў старабеларускай пісьменнасці вялікага пашырэння. Толькі назоўнікі з былой асновай на зычны, што абазначалі назвы маладых істот, часам ужываліся тут, як і ў родным склоне, з нулявым канчаткам: возвавши кнежат своих, первей сам перешол потом вси за ним (Алекс. XVII, 14б); мѣлъ ис хс ѡрлят (Зб. 259, 562б). Аднак усё ж у якасці нормы тут выступаў канчатак *-а*.

У т в о р н ы м склоне множнага ліку назоўнікі ніякага роду ўжываліся пераважна з канчаткам *-ы/-и*, выкарыстоўваючы варыянт *-ы* пасля цвёрдых, а *-и* пасля мяккіх зычных. Аб гэтым сведчаць помнікі пісьменнасці розных жанраў, дзе распаўсюджаны формы тыпу *болоты, войски, деревы, железы, зельи, именьи, крылы, купецтвы, лекарствы, леты, местцы, ѡболоки, ѡзеры, ѡкны, панствы, правы, речыщы, седлы, стады, устьи*: нача лечити многы лѣкарствы (Віл., 44б); закрил мене под крилы своими (Пак. Хр., 37); збиралъ есми неск8съ мои

съ зельи моими (Зб. 262, 84б); два кони зъ седлы (КВС, 526); др8гихъ и лѣты и дѣлностю своею... перевышалъ (Зб. 259, 535б).

Як і ў іншых склонах, пэўныя асаблівасці заўважаюцца толькі пры афармленні творнага склону множнага ліку назоўнікаў з былой асновай на зычны, але яны не датычаць канчаткаў, а заключаюцца ў наяўнасці або адсутнасці старажытных суфіксаў. Так, назоўнік *небо* ўжываецца ў творным склоне множнага ліку з суфіксам *-ес-*: под всими нбсы дасть ем8 ѡпочин8ти (Зб. 262, 27б). Назоўнік *слово* мае ў пераважнай большасці старажытных беларускіх пісьмовых помнікаў бессуфіксальную форму: пышными словы а шкаредными смел есть ѡсвеценость ваш8 розгневать (Троя, 2); 8 того листу при печати подпис р8ки тыми словы (Дыяр., 157). Аднак зрэдку ў пісьмовых крыніцах пад царкоўнаславянскім уплывам сустракаецца і форма *словесы:* там молодых людеи соблазнила словесы спросными (Зб. 752, 142). Назоўнік жа *коло* адлюстроўваецца ў двух раўнапраўных варыянтах: возъ зе чтерма колы (Зб. 259, 581) — двое конеи с колесы из хом8ты (КВС, 635б). Затое назоўнікі тыпу *знамя, имя, племя* і *зверя, княжа, порося* ў творным склоне множнага ліку, як правіла, без суфіксаў *-ен-* і *-ат-/-ят-* не ўжываюцца: тымиж знамены знаменали (Валх., 39б); три коровы доиных с телѧты (КВЗС, 108, 1540); кормилисѦ ѡт волчицы посполу з волченѦты (Рым., 77б).

Творнаму склону множнага ліку назоўнікаў ніякага роду быў уласцівы і канчатак *-ми,* але яго распаўсюджанне ў помніках старабеларускай пісьменнасці ў параўнанні з канчаткам *-ы/-и* было менш значным: не взѦла бы тѦ брывъми своими (Зб. 262, 96); гекторъ напротивку коленми был припужон 8пасти (Троя, 41); дворъ меречъ мають... с польми з гаи (КВС, 483).

Нарэшце, некаторую ролю ў афармленні творнага склону множнага ліку назоўнікаў ніякага роду ў старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове выконваў канчатак *-ами/-ями.* Праўда, яго выкарыстанне старабеларускімі кніжнікамі было таксама абмежаваным: крилами повѣтре биючи, так промены звездоу оукроуг роушали (Валх., 45б); ѡсыпльте мѦ ѧблоками (Зб. 262, 83); рыцери его копьями волочнѧми и стрелба ихъ побивала (Алекс. XVII, 30б). У жывой народнай мове таго часу канчатак *-амі/-ямі,* безумоўна, меў большае пашырэнне.

Аб гэтым сведчыць тое, што ён замацаваўся ў якасці літаратурнай нормы.

У месным склоне множнага ліку назоўнікі ніякага роду ўжываліся ў старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове, як і назоўнікі мужчынскага роду, у асноўным з канчаткам *-ехъ*, які паходзіць са старажытнарускіх *-ѣхъ, -ьхъ, -ихъ*. Словаформы на *-ехъ (в, на, о, при, у) делехъ, деревехъ, жилищехъ, зельехъ, коленехъ, летехъ, местехъ, ѡзерехъ, ѡкнехъ, писмехъ, полехъ, правехъ, седлехъ, селехъ, селищехъ, серцехъ, словехъ* мелі шырокае адлюстраванне ў беларускіх помніках пісьменнасці розных жанраў: хто ком8 шкоды чинѧт оу гаи а любо в селехъ (Вісл., 28б); ѡ тыx делеx 8сказалъ есми (ККК, 116б, 148б); скор въ словеx (Зб. 262, 108б); мужъ в лѣтехъ подошлыи (Кн. Мак., 49б). Пэўную асаблівасць у афармленні меснага склону множнага ліку выяўлялі толькі назоўнікі з былой асновай на зычны, якія ўжываліся або выключна з суфіксамі *-ен-, -ат-/-ят-, -ес-*, або ў двух варыянтах — з суфіксамі і без іх: во треx именехъ (Чэцця, 19); ѡ кнѧжатеx и ѡ землѧx (Валх., 94); в телесѣхъ иx (Будны, 29); параўн.: ѡ телеx и ѡ реліквіахъ (Валх., 74б).

Як і назоўнікі мужчынскага роду, зрэдку назоўнікі ніякага роду афармляліся ў месным склоне множнага ліку пры дапамозе канчатка *-охъ*, прычым словаформы гэтыя фіксаваліся пераважна ў помніках дзелавога характару: ѡнъ не присѧгнеть на тыx перлохъ (КМС, 90, 1514); делъ хочать мети ѡ п8щ8 на сорицы и в озероx (КВЗС, 45б, 1533).

Уласцівым меснаму склону множнага ліку назоўнікаў ніякага роду, як і мужчынскага, было ў старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове і выкарыстанне канчатка *-ахъ/-яхъ*, запазычанага ад назоўнікаў жаночага роду. Пры гэтым трэба адзначыць, што словаформы на *-ахъ/-яхъ* у назоўніках ніякага роду знаходзілі ў помніках беларускай пісьменнасці большае распаўсюджанне, чым у назоўніках мужчынскага роду: матъка моѧ засѧ на тыхъ своихъ именьѧхъ ѡсела (КВЗС, 118, 1537); тые с8дьи головные заседати мають по воеводствахъ (Трыб., 3б); на кторыхъ гольѧхъ седѣли птахи (Алекс. XVII, 25б); натесы новые по деревахъ чынено (ККСС, 18б, 1615). Гэты канчатак замацаваўся ў якасці адзінай нормы ў сучаснай беларускай літаратурнай мове.

## ПАРНЫ ЛІК

У сістэме скланення назоўніка старабеларускай мовы сваёй спецыфікай вылучаліся формы парнага ліку. Яны перайшлі ў спадчыну ад старажытнарускай эпохі і ўжываліся ў выпадках, калі гаворка ішла аб двух або парных прадметах.

У адрозненне ад старажытнарускай мовы, дзе склонавыя формы парнага ліку мелі вялікае пашырэнне і выступалі ў большай разнастайнасці, старабеларуская літаратурна-пісьмовая мова фактычна захавала толькі рэлікты назоўна-вінавальнага, родна-меснага і давальна-творнага склонаў. Гэта тлумачыцца тым, што страта парнага ліку, абумоўленая развіццём чалавечага мыслення ад уяўлення аб канкрэтнай множнасці да ўяўлення аб абстрактнай множнасці, пачалася яшчэ ў старажытнарускай мове і ў асноўным была завершана на пачатковым этапе фарміравання старабеларускай мовы. Паколькі страта парнага ліку працякала неадначасова ў розных склонах і ў розных тыпах скланення назоўніка, вынікі яе адбіліся неаднолькава ў асобных граматычных катэгорыях назоўнікаў і ў пісьмовых помніках рознага часу і жанраў.

Супастаўленне фактычнага матэрыялу старабеларускіх пісьмовых крыніц з пункту погляду адлюстравання парнага ліку ў асобных склонах паказвае, што ў найбольшым аб'ёме ў старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове адбіліся формы назоўна-вінавальнага склону. Праўда, і тут адбіццё парнага ліку не было аднолькавым для назоўнікаў усіх родаў, што сведчыць аб розначасовай страце форм парнага ліку асобнымі родамі. У прыватнасці, для старабеларускай пісьменнасці, нават пісьмовых крыніц XIV—XV стст., зусім рэдкай з'явай было ўжыванне старажытнай формы парнага ліку назоўнікаў мужчынскага роду з былой асновай на *ŏ* пры лічэбніках *два, оба, обадва:* возметь лі... два конѧ (Вісл., 37); ему *ωтдал тот* Фома два рȣблѧ (ПГ, II, 67, 1477); та*м* мѧ два птаха... стретили (Алекс. XV, 1); приехали два кролѧ (Троя, 14). Верагодна, што жывой народнай мове такія спалучэнні былі ўжо не ўласцівы, бо звычайна ў гэтых умовах граматычнай нормай было выкарыстанне форм множнага ліку: емȣ жъ два рȣбли з винъ в красносели (ККК, 22б, 1486); ωсадивъ тыи два городы (Віл., 442); приехали два кроли (Троя, 12); два кони емȣ верънȣлъ (КВЗС, 55б, 1533); по два грошы

платити маеть (Трыб., 13); поимавши два быки д8жих и вязалъ ихъ (Тр. гіст., 67б).

У большасці выпадкаў з канчаткам *-ы/-и* ўжываліся ў старабеларускай пісьменнасці пры лічэбніках *два, оба, обадва* і назоўнікі мужчынскага роду з былымі асновамі на *и, і* і на зычны: имееть два волы оу закладѣ (Вісл., 16б); затворишасѧ въ градѣ и боронишас два дни (Віл., 450); даи... два пѣнѧзи (Валх., 71б); ѡсталас ѡна и два сны ее (Зб. 262, 31); два камени на сторож8 людскую 8ставлены (Алекс. XVII, 2). Хоць у старажытнарускай мове назоўна-вінавальны склон парнага ліку гэтых груп назоўнікаў супадаў з прыведзенымі формамі, аднак сцвярджаць катэгарычна, што апошнія з'яўляюцца захаваннем парнага ліку, няма падстаў. Іх аднолькава можна лічыць і сродкамі множнага ліку, што ўжываліся ў старабеларускі перыяд пад уплывам больш шматлікай групы назоўнікаў мужчынскага роду з былой асновай на *о*.

У адрозненне ад назоўнікаў мужчынскага роду форму назоўна-вінавальнага склону парнага ліку больш трывала захоўвалі ў старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове назоўнікі жаночага роду. Фактычны матэрыял з помнікаў старабеларускай пісьменнасці сведчыць, што формы парнага ліку назоўнікаў жаночага роду пры лічэбніках *две, обе, обедве* адлюстраваліся ў старажытных тэкстах даволі шырока, прычым яны былі характэрны для розных жанраў: тыи двѣ стороне королеве а пастоухове соут двѣ стене (Валх., 52); 8 якуба невольника две корове пограбилъ (КВС, 461б); ровно на ѡбе стороне было (Трыб., 3б); нашли двѣ дорозѣ (Алекс. XVII, 37); непадалеку шли две рецѣ (Зб. 752, 10б). Зразумела, працэс страты парнага ліку праяўляўся і ў назоўніках жаночага роду. Не выпадкова ў старабеларускіх пісьмовых крыніцах у якасці варыянтнай нормы пры лічэбніках *две, обе, обедве* выступалі назоўнікі жаночага роду множнага ліку: знати истцю истца на обѣ стороны (ПГ, І, 205, 1461); съим8тьс на вельи вышеи ковна двѣ мили (Віл., 442); ѡтецъ его две земъли под собою держалъ (КВЗС, 32б, 1533); нарадили битву за две недѣли (Трыст., 20); ѡбирати маютъ... з воеводства по две ѡсобы (Трыб., 2б); ѡбедве дочки ее стяти казалъ (Зб. 752, 77). Аднак на фоне напісанняў з захаваннем парнага ліку выпадкі ўжывання форм жаночага роду множнага ліку пры адзначаных лічэбніках у стара-

беларускай пісьменнасці сустракаліся ў меншай колькасці.

Формы парнага ліку на *-и (-ы)* назоўнікаў жаночага роду з былымі асновамі на *ĭ* і на *ū* пры лічэбніках *две, обе, обедве* не з'яўляюцца паказальнымі, бо яны, як і ў назоўніках мужчынскага роду, супалі з формамі множнага ліку: жона ег анна двѣ жалости жаловала (Чэцця, 14б); две красне црькви оубоудовала (Валх., 69б); его голову на две части розтѧ*л* (Троя, 40); тамъ были полътора дни а две ночы (КВЗС, 76б); сотвори*л* Богъ двѣ речи (Выкл., 1б).

Некалькі радзей у форме назоўна-вінавальнага склону парнага ліку выступалі ў старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове назоўнікі ніякага роду: за две лете николі емж не оупоминалсѧ (Вісл., 21); Паламидежъ сѧ заметалъ мечо*м* и щыто*м* на ѡбе колени пада (Трыст., 117); двѣ мѣсте гр8нтовныи зб8ри*л* (Алекс. XVII, 76б—77); пребы*л* та*м* двѣ лѣте (Зб. 742, 25); сераѳемове... две криле маю*т* (Зб. 261, 72). Паралельна з імі на працягу XVI—XVII стст. у старабеларускіх пісьмовых помніках ужываліся формы множнага ліку, хоць лічэбнікі пры іх маглі выступаць і ў старой і ў новай форме ніякага роду; виделъ раны кривавые на чоле и ѡбедве ѡка по*д*битые (КВС, 524б); ты*м* способомъ ѡбѣдве во*и*ска были спра*в*лены (Атыла, 193); хс двѣ светила намъ выставилъ (Зб. 259, 610б) — ѡбадва 8ха 8телъ (Ст. 1588, 422); тые обадва крещеніа спасают человѣка (Навука, 13).

У меншай ступені, чым формы назоўна-вінавальнага склону, для помнікаў старабеларускай пісьменнасці былі характэрны формы родна-меснага склону парнага ліку. Як сведчаць прыклады са старажытных пісьмовых крыніц розных жанраў, яны таксама ў асноўным выступалі ў назоўніках жаночага і ніякага роду. Сярод апошніх асабліва вылучаліся захаваннем парнага ліку словы *око* і *ухо*. Адлюстраванне формы *очью* ў родным і месным склонах адбывалася рэгулярна ва ўсіх жанравастылявых разнавіднасцях старабеларускай пісьменнасці на ўсім працягу яе развіцця: светлость ѡчью мои*х* оу темность болести сѧ ѡберноула (Пак. Хр., 5); не оутаи*л* троуд8 ѡ*т* ѡчью моихъ (Зб. 262, 13); не могла з него ѡ*чю* знести (Бава, 136); не выходи*т* жоны и*х* а*ж* тва*р* закри*в*ши ѡкро*м* ѡчъю троха (Наб. тур., 23б); пречъ зъ очу своихъ уступити... казалъ (АСД, IX, 117, 1627);

щасте ѡч8 не маетъ (Зб. 259, 580б). Такімі ж асаблівасцямі характарызаваўся і назоўнік *ухо,* які выступаў у родна-месным склоне парнага ліку ў форме *ушью:* позвонить гласъ твои во 8шию моихъ (Скар. ПП, 5); напоминанья незвыклые до ушъю его королевское милости не прыходили (КПД, 168, 1551); карали ѡбърезаньемъ носа 8ш8 и г8бы (Ср. 1588, 550); толко дырки 8место 8ш8 маютъ (Царств., 70); до нашихъ 8шъю з многихъ повѣстии пришло (Алекс. XVII, 31б); без оушъю слышати не можна (Мак., 183). Безумоўна, адзначаныя формы мелі падтрымку ў тагачаснай жывой народнай мове. Выключна ў назоўніках *вока* і *вуха* адзначаецца родна-месны склон парнага ліку ў сучаснай беларускай мове: *пацямнела ў ваччу, зазвінела ў вушшу.*

У параўнанні з назоўнікамі *око* і *ухо* іншыя лексемы ўжываліся ў старабеларускіх пісьмовых помніках у форме родна-меснага склону парнага ліку ў адзінкавых выпадках: также ѡт обою сторон8 бываютъ (Вісл., 28); не вспомѧнулъ на подножие ногу своихъ в день гнева своего (Скар. ПЕ, 5б); высвободи мѧ з р8коу неприѧтели моихъ (Пс. XVI, 31); ходиш на крылоу ветръних (там жа, 103); ѡ дв8 коню ехалъ (Хр. польск., 8). Ужыванне адзначаных форм пераважна ў пісьмовых крыніцах канфесіянальнага зместу сведчыць, што для народнай мовы таго часу яны ўжо былі малахарактэрны.

Гэтак жа абмежавана ўжываліся ў старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове формы давальна-творнага склону парнага ліку назоўнікаў. Як і пры адлюстраванні родна-меснага склону, асноўная колькасць выпадкаў фіксацыі давальна-творнага склону ў старабеларускіх помніках пісьменнасці прыпадае на назоўнікі *око* і *ухо.* Словаформа *очима* выступае ў пісьмовых крыніцах розных жанраў на ўсім працягу развіцця старабеларускай мовы: ѡни мигноули ѡчима никодем8 (Пак. Хр., 37); дам сн8 очима моима (Пс. XVI, 130); буду судити... сумнене свое прэд ѡчима маючы (Ст. 1566, 41б); смерть твою 8ставичне перед ѡчима мѣй (Алекс. XVII, 21б); надъ очима лысина бѣлая (АВК, XVIII, 342, 1645). Гэтак жа шырока адлюстравана ў старабеларускай пісьменнасці і словаформа *ушима:* вшима слышю (Чэцця, 12); оушима нашима слышали есмо (Зб. 262, 23б); 8шима 8слышели, и сердъцем зроз8мели (Цяп., 17б); ѡдна невѣстка дет[illegible] з за[illegible]чею шиею и 8шима породила (Стрыйк., 619б); оуши з оушима, голов8 з головою зл8чивши, сталсѧ весь чистым (Мак., 19).

Выпадкі ўжывання ў форме давальна-творнага склону парнага ліку іншых назоўнікаў у помніках старабеларускай пісьменнасці сустракаюцца значна радзей. Праўда, у параўнанні з родна-месным склонам, які характарызаваўся спарадычным характарам адлюстравання, давальна-творны склон прасочваецца ў пісьмовай мове больш выразна: то было ѡчіщеніе двенадцетма светкома добрыма (Вісл., 32); двѣма конома и трима слоугама может се ѡбоити (Валх., 62); естъли же будет прѧ межи человекома двема (Скар. ДЗ, 47); он же не чинилъ естъ рукама своима безакониѧ (Скар. ПБ, 6); ѡберн8лъсѧ к нему плечыма (Трыст., 96); марѣмка чаровные поганские слова говорила, проклинала, ѡбема р8кама назадъ кидала (Барк., 151б); не хотели его своима р8кама забить (Зб. 752, 259). Аднак у якасці граматычнай нормы замест былога парнага ліку ў старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове выступаў множны лік. Тым не менш рэлікты форм давальна-творнага склону парнага ліку захаваліся ў некаторых беларускіх гаворках да нашага часу. Зрэдку яны сустракаюцца ў мастацкіх творах, дзе выступаюць паралельна з літаратурнымі формамі.

# ПРЫМЕТНІК

## *Іменныя формы адносна-якасных прыметнікаў*

Прыметнікі — словы, якім уласцівы значэнне якасцей або прыкмет, кароткія і поўныя формы роду, ліку і склону і сінтаксічная функцыя азначэння. Старабеларускай пісьмовай мовай пад уплывам жывой гутарковай была страчана большасць кароткіх форм ускосных склонаў, на змену якім прыйшлі поўныя.

Адной з найбольш жывучых, мяркуючы па матэрыялах помнікаў, аказалася форма назоўнага і пры неадушаўлёных назоўніках вінавальнага склону **адзіночнага** ліку *мужчынскага* роду. Яна фіксуецца рознымі па часе напісання і прыналежнасці да пэўнай жанрава-стылявой разнавіднасці тэкстамі амаль выключна ў прэдыкатыўнай функцыі. Назоўны склон: немоцонъ бы*л* (Вісл., 37б); ѧж нищь есми и оубогъ (Пс. XVI, 42б); в хоже*ню* бы*л* лени*в* ѧко жолвъ (Алекс., 29б); кто *ж* б8де*т* подобенъ тобѣ (Выкл., 136б); вінавальны склон: сътвори бра*к* ч*с*тнъ (Віл., 448); в завѣтъ веченъ (Скар. КБ, 31); съсѫ*д* бо скоуделенъ скр8шае*м* (Зб. 262, 9б). Даная форма ў атрыбутыўнай функцыі не з'яўляецца нормай ні ў адным старабеларускім помніку. Прыклады такога ўжывання адлюстраваны ў большасці сваёй у рэлігійных тэкстах з царкоўнаславянскімі элементамі: великъ голодъ терпѦть (Будны, 64); бы*в* бовѣ*м* вели*к* днь (Каз. Кір., 94).

На працягу старажытнага перыяду беларускай мовай устойліва захоўваліся іменныя формы назоўнага і вінавальнага склонаў адзіночнага ліку *ніякага* роду з канчаткам *-о/-е*. Аднак сустракаюцца яны даволі рэдка. Назоўны склон: чемоу черлено есть оухо твое (Пак. Хр., 3б); было ему море тихо (Трыст., 83); тѣсто без квас8 и соли ест мертво (Каз. Кір., 88); жытіе мнишеское т*ѧж*ко е*ст* (Зб. 752, 13б). Прыклады ўжывання гэтай формы ў атрыбутыўнай функцыі знаходзім у ранніх рэлігійных і летапісных помніках, а таксама ў перакладах, што тлумачыцца ўплывам сцягнутых форм польскай мовы:

приступилъ к немоу отроча мало (Чэцця, 30); на давно мѣстце хлебъ зносѧт (Валх., 44); там то сталосѧ велико побите (Троя, 28); вінавальны склон: зм8ровалъ собѣ камѣнием мало мѣстъце (Чэцця, 5); на местце велми шкодливо (Троя, 44); носит знамѧ бѣло (Трыст., 35).

Іменныя формы *жаночага* роду назоўнага склону адзіночнага ліку з канчаткам *-а/-я* па пашыранасці мала ўступаюць формам мужчынскага роду. Звычайна ў функцыі прэдыката яны ўжываліся на ўсім працягу старажытнага перыяду беларускай мовы: б8дет ли синевага рана а кровава (Вісл., 30б); бѣѧше велми моудра (Сівіла, 171б); была солодка і смачна манна (Лям., 11); вода солона і горка была (Зб. 107, 99б); Росп8стна рѣчъ вино (Выкл., 97).

Формы вінавальнага склону жаночага роду маюць звычайна канчатак *-у/-ю*. Яны пашыраны амаль у такой жа ступені, як і адпаведныя формы мужчынскага ці ніякага роду: на просб8 подобн8 (Вісл., 20); ѡболоклъсѧ в риз8 власѧноу (Чэцця, 2б); хрстианъск8 вѣр8 дръжати (Сівіла, 173); ѡни видели кролевую мертву (Трыст., 6); в пропаст велику (Біблія, 390); въ глыбоку веж8 всадилъ (Зб. 81, 2б).

Як відаць з прыкладаў, у адрозненне ад форм назоўнага склону формы ўсіх трох родаў вінавальнага склону прадстаўлены галоўным чынам у рэлігійных і свецка-мастацкіх помніках XV—XVI стст. З дзелавых тэкстаў яны зафіксаваны толькі ў самых ранніх, напрыклад у Вісліцкім статуце. Відаць, яны рана перасталі быць нормай жывой гутарковай мовы.

Вельмі абмежавана ўжываюцца ў старабеларускай пісьменнасці кароткія формы прыметнікаў іншых ускосных склонаў адзіночнага ліку. Большасць з нешматлікіх форм р о д н а г а склону фіксуецца помнікамі XV—XVI стст., прычым у дзелавых тэкстах яны ўжываюцца часта ў складзе фразеалагічных зваротаў. *Мужчынскі* і *ніякі* род: за він8 которого оубога (Вісл., 11); ѡт вѣтра высока (Чэцця, 53); изъ ѧзыка греческа (Арыст., 4); ѡт велика до малых (Бельск., 63); *жаночы* род: ово лѣности ради иоудеискы (Зб. 262, 2б). У XVII ст. такія формы адзначаюцца толькі ў рэлігійных помніках: ѡт мала и до велика (Зб. 752, 14б); за панованѧ Мархела црѧ сенарска (Хран., 22б); до потока кедръска (Зб. 82, 1б). Прыведзеныя прыклады могуць разглядацца як вынік уплыву царкоўнаславянскіх ці старажытнарускіх пратографаў.

Надзвычай рэдкія формы кароткіх прыметнікаў д а в а л ь н а г а і м е с н а г а склонаў. Адзінкавыя прыклады іх ужывання адзначаны выключна ў рэлігійных тэкстах. Давальны склон, *мужчынскі і ніякі* род: не годно емоу живоу быти (Пак. Хр., 24б); црю бывшю скоупꙋ до себе (Арыст., 2); *жаночы* род: къ сладости грѣховнѣ (Зб. 262, 5); месны склон, *мужчынскі* і *ніякі* род: по мнозе врѣмени (Чэцця, 6); *жаночы* род: в роубе шолкове (Жыц. Ал., 97).

Кароткія формы т в о р н а г а склону адзіночнага ліку прыкметнага адлюстравання ў старабеларускай пісьменнасці не знайшлі.

Формы кароткіх прыметнікаў н а з о ў н а г а і в і н а в а л ь н а г а склонаў пераважна ў ролі прэдыката найбольш пашыраны і ў **множным** ліку. У ранніх рэлігійных і свецка-мастацкіх помніках яшчэ ў пэўнай ступені захоўваецца характэрная для старажытнарускай мовы сістэма ўжывання разглядаемых форм у залежнасці ад роду азначаемага назоўніка. Так, прыметнікі *мужчынскага* роду часам выступаюць з ранейшым канчаткам *-и* пры цвёрдай аснове, звычайна ж — з *-ы* пры цвёрдай аснове, з *-и* пры мяккай. Назоўны склон: бꙋдꙋть ли прави (Вісл., 17); мнози же народи прихожахоу к немоу (Чэцця, 5); здрови на землю выступили (Троя, 22); како бы могли живи быти на небесех (Сівіла, 172б); с прироженѧ вси соут грешни (Пс. XVI, 15); вінавальны склон: обрѣтох люди велми мудры (Арыст., 3); имоущѧ различны съсоуды пѣснены (Зб. 262, 8б).

Прыметнікі *ніякага* роду ў назоўным і вінавальным склонах пры падтрымцы царкоўнаславянскай мовы часам выступаюць з канчаткам *-а/-ѧ*: прорчества достойна сотворилъ (Чэцця, 38); тела ... краснейша нижли коли живы были (Валх., 68б); чинит ... чꙋдеса безчислена (Зб. 262, 15б); боудет ѡнъ оучити оуставенѧ нова и приказаньѧ многа (Сівіла, 172б).

Для кароткіх прыметнікаў *жаночага* роду ў абодвух склонах характэрны канчатак *-ы/-и:* многи пакости примаше (Чэцця, 9б); жонки сараценскіе велми рады (Валх., 59); облече и в ризы нечисты во ѡчью его (Зб. 262, 22б).

У XVI—XVII стст. кароткія формы прыметнікаў назоўнага і вінавальнага склонаў множнага ліку ўжываюцца амаль выключна ў рэлігійных і свецка-мастацкіх творах, у асобных з іх пад уплывам польскай мовы: которіи того слова послушни (Будны, 95); терьпети

есмо повинъни (Унія, 3б); были вшитцы их млти нам зычливи (Еўл., 38); тыи спокоини сут (Бельск., 24б); недведове ѡкр8тни, а велми велики почали до ѡного ѡзера приходит (Алекс., 27б); зостали свободни (Кн. Мак., 48); ѡбадва были годни (Рым., 78); мы станемо передъ нимъ трепетни (Каліст, I, 22); винни себе Гвалтом прим8сити (Мак., 21б); мнози с8ть Бгове (Зб. вып., 10б). У дзелавых тэкстах указанага перыяду такія прыклады адзначаюцца толькі зрэдку: живи б8д8ть (КВС, 475б); моцъни и вольни б8демъ (Трыб., 13б). Побач з ранейшымі формамі з канчаткамі *-ы* або *-и* ў залежнасці ад роду шырока ўжываюцца і новыя — з канчаткам *-ы* пры цвёрдай аснове і *-и* пры мяккай, якія з'яўляюцца вынікам пашырэння гэтай флексіі з жаночага роду на мужчынскі і ніякі. Назоўны склон: щепы садовы во ѡгородѣ б8д8ть щиплены (Вісл., 29б); многы ѡт члкъ нерадивы соуща (Зб. 262, 5); изыд8т до пекла жывы (Пс. XVI, 55); выроки вси тыхъ с8деи маютъ быти такъ важны (Трыб., 4); ходѧт босы без ботов (Наб. тур., 21); палцы ногъ частью желѣзны (Біблія, 533); полны к8ты жалости (Лям., 8); собралисѧ на мене силныи ... збѣглисѧ і сут готѡвы (Пс. XVII, 44); вінавальны склон: видѣвши оуста его полны крови (Чэцця, 32).

Акрамя разгледжаных, адзначаны яшчэ формы р о д н а г а і т в о р н а г а склонаў множнага ліку кароткіх прыметнікаў, якія не складаюць колькі-небудзь прыкметнай з'явы ў старабеларускай пісьменнасці. Адзінкавыя выпадкі іх ужывання зарэгістраваны толькі ў рэлігійных помніках XV—XVI стст.: ѡт гласа водъ многъ (Чэцця, 11); нача лечити многы лѣкарствы (Віл., 44б); съ гѫсльми и арганы различны (Зб. 262, 8б).

Не з'яўляюцца характэрнай асаблівасцю мовы старабеларускіх помнікаў формы парнага ліку кароткіх прыметнікаў. Яны толькі зрэдку адзначаюцца ў некаторых, галоўным чынам рэлігійных, тэкстах XV — пачатку XVI ст. Гэта пераважна формы н а з о ў н а-в і н а в а л ь н а г а склону: стоѧть два честна моужа (Чэцця, 49); там мѦ два птаха члкообразна стретили (Алекс. XV, 1); оба бѣста стара и сошлого веку (Скар. КБ, 32); без ѡца же ѡбоѦ и безименна (Зб. 262, 2б); радзей — р о д н а-м е с н а г а: аще бы ты былъ ѡт добр8 родителю (Чэцця, 3б).

Разгледжаны матэрыял паказвае, што ў найбольшай ступені ранейшая сістэма форм кароткіх прыметнікаў захавалася ў помніках кніжнай мовы XV — пачатку

XVI ст., многія з якіх адчулі ўплыў царкоўнаславянскай мовы. Але і ў гэтых помніках яны захаваліся не ў аднолькавай ступені: часцей сустракаюцца формы назоўнага і вінавальнага склонаў адзіночнага і множнага ліку, радзей — роднага склону адзіночнага ліку, яшчэ радзей — формы давальнага і меснага склонаў адзіночнага ліку, творнага склону абодвух лікаў. У помніках другой палавіны XVI—XVII ст. зрэдку сустракаюцца толькі формы назоўнага і вінавальнага склонаў абодвух лікаў. Такім чынам, у цэлым кароткія формы прыметнікаў, асабліва ўскосных склонаў, былі прыкметай пераважна кніжнага стылю, у жывой жа мове яны ўяўлялі сабой ужо з'яву мінучую.

## *Формы поўных адносна-якасных прыметнікаў*

Да традыцыйных з пункту погляду жывой мовы трэба аднесці ўнаследаваныя старабеларускай мовай ад старажытнарускай формы н а з о ў н а г а і пры неадушаўлёных назоўніках в і н а в а л ь н а г а склонаў адзіночнага ліку *мужчынскага* роду з канчаткам *-ый/-ий*. Пасля заднеязычных, шыпячых асноўнае месца займае канчатак *-ий*, канчатак *-ый* пасля заднеязычных і шыпячых — з'ява рэдкая. Назоўны склон: мештерь задвиньскии (Гр. 1407); староста краковскыи и сѹдомірьскыи (Вісл., 9); кнѦз великыи евноутіи выскочил (Віл., 438); был на нас грѣхъ великий (Біблія, 59); шлѧхетныи Мартинъ Свежынскии ... сторонѹ свою позванѹю ... до права прыволывати давалъ (ККСС, 32, 1615); ѡн не тихии ани ласкавы але страшливыи на суд ѡстатнии прити мает (Зб. 255, 62); вінавальны склон: в город иконииски (Чэцця, 61); воскъ мѦккій вытѦгают (Валх., 48). Пасля астатніх зычных ужываецца канчатак *-ый* або *-ий* у залежнасці ад іх якасці: над старыи звычаи (Ст. 1588, 37); тотъ Марко старый и новый тестаментъ мавѦл на памѦть (Мак., 19); голову в кош сажы полныи вложывшы (Зб. 752, 19б). Уласцівы жывой мове сцягнуты канчатак *-и/-ы* прадстаўлены нязначна: владиславъ польски (Гр. 1384); ѡсподрь полоцки (Гр. 1407); ѩзыкъ мѦхки зломить кость (Зб. 262, 106); воитъ довъкгѣлиски (КВС, 489, 1552); наемникъ часомъ бываетъ добры (Унія, 4б); маючи ѳолваркъ лѧховицки (Еўл., 32); ѡныи ѡкрѹтны (Зб. 752, 131).

Поўныя прыметнікі *ніякага* роду ў большасці пісь-

мовых тэкстаў ужываюцца толькі з традыцыйным канчаткам *-ое/-ее*. Назоўны склон: лихое повѣтрие ꙗвилосѧ на люди (Гр. 1470); посполное запісаніе не залежит (Вісл., 33); его красное и роскошное виденіе было се пременило (Пак. Хр., 1); Стое тѣло, з которого вдꙗчное миро плыне (Зб. 752, 135б); вінавальны склон: перестоупивъ хрстіаньское цѣлованіе (Віл., 445); местце подобное выбрал (Троя, 28б).

Поўнай формай *жаночага роду* з'яўляецца, як правіла, традыцыйная з канчаткам *-ая/-яя*: зостанет таꙗ вина головнаѧ (Вісл., 33); престависѧ стаѧ славнаꙗ (Чэцця, 66б); моць небеснаꙗ есть такъ ганебне посмевана (Пак. Хр., 1б); поможеть моура каменнаѧ и зброѧ железнаѧ (Арыст., 4б); Гвалтовнаѧ наглаѧ, по м8с8 оутрата (Лям., 3); та Сусанна была велми пенкнаꙗ (Жыц. св., 3).

Традыцыйны канчатак *-ого/-его* складае норму ў родным і пры адушаўлёных назоўніках у вінавальным склонах *мужчынскага* і *ніякага* роду. Пасля шыпячых у залежнасці ад жанру тэкста пераважае варыянт *-ого* або *-его*. Родны склон: до нинейшего днѧ (Валх., 40б); вси ѡтцеве сыновъ Еверовыхъ брата ꙗфетова старшего (Скар. КБ, 22); до вышъшого права (КВЗС, 99, 1539); 8вꙗжчого ѡт копы два грошы (Ст. 1588, 254); набери свежог сѣна (Зб. 752, 336); вінавальны склон: великого кнѧзѧ свѧтослава оубиша (Віл., 446); конꙗ серого взꙗлъ (КВС, 442, 1552); окрестілъ Апслъ сила сторожа темъничъного (Будны, прадм.); сына своего меншого заспала (Тр. гіст., 71б); за понтского Пилата (Зб. 752, 427).

Прыкметай царкоўнаславянскага ўплыву на старабеларускую пісьменнасць з'яўляецца канчатак мужчынскага і ніякага роду *-аго/-яго*. Прыклады яго ўжывання адзначаны ў помніках розных жанраў XIV—XV стст. У XVI — першай палавіне XVII ст. формы на *-аго/-яго* ўжываюцца ўжо толькі ў рэлігійных і свецка-мастацкіх помніках. Родны склон: ѡт збора людскаг (Вісл., 12); снъ бга живаго (Чэцця, 60б); тѣло ищет всенеправеднаго ѡбрѣсти бл8да (там жа, 8б); урадовалься великаго князя Витовтову приезду (Увар., 2б); з божественнаго писма (Каз. Кір., 140б); насенѧ ꙗрнаго каждыи мало мелъ (Барк., 167); сошествіѧ престаго ...Дха (Паўуст., 1); з оутр8женѧ телеснаго (Варл., 43); постановенѧ Црквъвнаго (Сакр., 3б); вінавальны склон: на каждог рыцерскаго члвка (Вісл., 34б); великаго кнѧзѧ витовта

ѡстави оу вилни (Вил., 441б); помѦни и мене хоудаго мниха савоу (Зб. 262, 8); си*м* ѡдолееть несилный силнаго (Арыст., 9); землѧ пожреть живаго (*М*ам., 49б); вѣрꙋтнаго окрꙋтника велбилъ (Паўуст., 2б); наги*и* нагаго ... хса на*с*ледоват прагнет (Зб. 255, 47); оучини*л* его ѧкобы нѣѧкогѡ бга земнагѡ (Хран., 4б).

Пад уплывам адпаведных форм неасабовых займеннікаў поўныя прыметнікі *жаночага* роду ў родным склоне адзіночнага ліку часта выступаюць з двухскладовым канчаткам *-ое/-ее.* Гэты канчатак з'яўляецца нормай большасці помнікаў XV—XVI стст. розных жанраў: до граніци земьское (Вісл., 38б); всекатель ѡтсѣклъ главоу стое оульѧнии (Чэцця, 87б); не терѦй земли лито*в*ское (Віл., 448); длѦ силное а нестерпливое горючести слнчное (Валх., 46б); съ початка жатвы ѧчменное (Зб. 262, 31б); днепровое рыбы не ѧдали (Барк., 139б); и*м* наꙋки не треба великое (Наб. тур., 20б); зе*м*ли лито*в*ское (Патр. К., 48); з зе*м*ли хананеи*с*кое (Біблія, 58). З помнікаў другой палавіны XVII—XVIII ст. двухскладовы канчатак *-ое/-ее* роднага склону пераважае над аднаскладовым толькі ў асобных рэлігійных друкаваных, а таксама ў рукапісных зборніках рэлігійных павучэнняў і навел: Оужа*л*сѦ плачливое молодости (Кін., 54); з ꙋтробы матеры*н*ское (Навука, 16); зъꙋпо*л*ное скрꙋхи... не мелъ (Зб. 255, 13); до хрести*ѧн*ское философии (Зб. 752, 172б).

Новыя формы на *-ой/-ей,* якія ўтварыліся ў жывой мове шляхам рэдукцыі ненаціскнога *е* ў двухскладовым канчатку, адзначаюцца спарадычна ўжо ў асобных тэкстах XV ст., а нормай становяцца ў большасці помнікаў XVII ст., напісаных мовай, блізкай да гутарковай: из воли бжіей (Вісл., 10); з великой ѡпатриности (Валх., 47); иконы пречистой бгородицы (Будны, 13б); ку доброму рэчы посполитои (Ст. 1566, 31); на границах Францэи нарбоненской (Атыла, 205); еще есте не сыты крови троѧнскои (Бельск., 89б); з жебранины нендзной (Лям., 13); длѦ горѦчей огнѦ моцы (Мак., 36—37); вкинте его до те*м*ности ѡстатнеи (Жыц. св., 167б); з восточнои стороны (Зб. 82, 6).

Традыцыйным быў для беларускай мовы канчатак д а в а л ь н а г а склону адзіночнага ліку *мужчынскага* і *ніякага* роду *-ому/-ему,* які і з'яўляецца асноўнай нормай помнікаў усіх жанраў. У большасці рукапісных тэкстаў, асабліва дзелавых, пасля шыпячых, як правіла, ужываецца канчатак цвёрдай разнавіднасці асноў *-ому:*

мают тую ѡпеку... ѡбъчому ... злетити (Ст. 1566, 11); горачом8 прагненю твоем8 досыт стало (Карп., 40б). У рэлігійных, летапісных і ранніх дзелавых творах, асабліва друкаваных, пасля зацвярдзелых зычных асноў можна сустрэць канчатак *-ему*: противъ пріказанью бжьему (Вісл., 15); къ брату пріеждивалъ къ старшем8 (Віл., 439); старшем8 а ѡстатнем8 кнѧжати (Каз. Кір., 70).

Нормай у давальным склоне адзіночнага ліку *жаночага* роду з'яўляюцца формы на *-ой/-ей*, якія захаваліся са старажытнарускай эпохі. Пасля шыпячых у большасці выпадкаў ва ўсіх помніках выступае канчатак *-ой*: к8 вышшои оучтивости взвѣл (Каз. Кір., 194); ку сл8жбѣ бжой (Навука, 52). Радзей сустракаецца варыянт *-ей*: к8 хвалѣ бжеи (Бельск., 153б); к8 чти а хвалѣ бжеи (там жа, 47). У рэлігійных помніках з найбольш адчувальнай кніжна-славянскай стыхіяй зрэдку пасля мяккіх пярэднеязычных сустракаецца канчатак *-ей*, які ў царкоўнаславянскай мове далучаецца да асноў як на мяккі, так і на цвёрды зычны: не прист8пит бо злоба бжественей блгодати (Чэцця, 75б); навченъ былъ вѣре хрстьꙗньстей (там жа, 29б); вон же хощет соудити вселеннѣй правдою (Зб. 262, 10); сію ти млтвѫ ꙗко влдцѣ грѣшнеи приносимъ (там жа, 11б); жидовьстѣи странѣ пръвосщенникоу свѣщаніе же ꙗвлѧꙗ (там жа, 2б).

Поўныя прыметнікі *жаночага* роду ў **вінавальным** склоне адзіночнага ліку ў старабеларускай пісьменнасці ў цэлым маюць пераважна традыцыйны для беларускай мовы канчатак *-ую/-юю*: далъ есмъ правду крепкую (Гр. 1387); сильноую великоую моусишъ оувидети моукоу мою терновую (Пак. Хр., 3б); выдили на ѡном мѣстц8 свѣч8 горюч8ю (Стрыйк., 454); мает мѣти дуж8ю сил8 (Зб. 752, 118).

Поўныя прыметнікі *мужчынскага* і *ніякага* роду ў **творным** склоне ўжываюцца толькі з традыцыйным канчаткам *-ымъ/-имъ*: оувидѣли его старци повившас южемъ власѧнымъ (Чэцця, 3б); передъ тым с8дом головънымъ (Трыб., 9); казал их железным начинем кости вси переломити (Зб. 752, 12б). У помніках XIV—XV стст. і ў пазнейшых рэлігійных і свецка-мастацкіх пасля шыпячых пераважае канчатак *-имъ*, пасля заднеязычных сустракаецца канчатак *-ымъ*: полскымъ правомъ (Вісл., 25б); великым кнѧзем витовтом (Віл., 442); дѣлом члчьимъ (Валх., 57); которыи сѧ ѡбливают кислым а

горячим квасом (Стрыйк., 436); б8дь д8жим (Хран., 159б).

Прыметнікі *жаночага* роду у творным склоне адзіночнага ліку ў пераважнай большасці помнікаў выступаюць з традыцыйным двухскладовым канчаткам *-ою/-ею:* пожегъци имаютъ злою смертію гин8ть (Вісл., 25б); покрый нас своею чстною ризою (Чэцця, 81); поговорю горкою дшею моею (Зб. 262, 15); казал пилою деревяною наполы перетерти (Бельск., 133); водою сѧ м8тною жалю напаваетъ (Лям., 10). Адпаведны аднаскладовы канчатак прадстаўлены нязначна. Прыклады яго ўжывання з'яўляюцца хутчэй апіскамі: кривдои божои (Зб. 81, 24б); лествицею небесной (Зб. 82, 6б).

У большасці старабеларускіх тэкстаў XIV—XVII стст. асноўным у месным склоне *мужчынскага* і *ніякага* роду з'яўляецца традыцыйны канчатак *-омъ/-емъ,* на ўзроўні другараднай нормы пашыраны прыклады ўжывання канчатка *-емъ* пасля шыпячых: ѡ паст8хѣ ѡвечемъ (Вісл., 27); на великом кнѧженьи (Віл., 437б); на глоубшемъ местци (Валх., 47); в млсрдію бжьем (Пак. Хр., 78); на ... дужем драбори ехал (Троя, 51б); на месте навышшем (Бельск., 49б); в зацнѣйшом пекнѣйшом, звѧзнѣйшом с8птелнѣйшом достаточнѣйшом ѧзыку (Каліст І, 8); во ѡвчомъ ѡдению (Зб. 255, 88б); в г8стомъ лѣсе (Хран., 13б).

У нямногіх помніках розных жанраў XV—XVII стст. адзінкавымі прыкладамі прадстаўлены новы канчатак меснага склону, аднолькавы з творным, які ў жывой гутарковай мове набыў у гэты час значэнне нормы: оу высокимъ городе (Увар., 37); 8 старимъ законѣ (Будны, 8б); по сад8 ѡном роскошным (Біблія, 542); в малым ѡкр8те езджѣ (Бельск., 176б).

Самым пашыраным у поўных прыметнікаў *жаночага* роду ў месным склоне з'яўляецца традыцыйны канчатак *-ой/-ей.* Пасля шыпячых, асабліва ў ранніх помніках, сустракаецца канчатак *-ей:* в чюжей земли (Вісл., 16); оу печали великой (Чэцця, 14б); в литовской земли (Віл., 446б); в... тѧжкой смртелной шкоде (Троя, 62б); в церкви божои (Унія, 2б); гъ... в тр8бѣ божои зыиде з неба (Каз. Кір., 148); при смерти человѣчои (Зб. 261, 86); на чорнои и бѣлои р8си (Стрыйк., 524); в покусѣ телесной (Пролаг, 481).

Працягам старажытнарускіх літаратурна-пісьмовых традыцый у старабеларускай пісьменнасці з'яўляецца былы канчатак поўных прыметнікаў **множнага** ліку

*мужчынскага* роду назоўнага і пры неадушаўлёных назоўніках вінавальнага склонаў *-ыи/-ии,* які часткова пашырыўся і на прыметнікі *ніякага* і *жаночага* роду. Адпаведныя формы з'яўляюцца адзінымі ў помніках розных жанраў XIV—XV стст. Назоўны склон: многыи неисправне брали (Вісл., 22); почали пси дворнии притоужати (Чэцця, 98б); люди ратныи отступили от Скирганла (Увар., 3б); вінавальны склон: принесли дары многоценныи (Алекс. XV, 2б); слова неоучтивыи мови*ть* (Троя, 2). Яны з'яўляюцца пануючымі ў асобных рэлігійных і свецка-мастацкіх помніках XVI—XVII стст., у дзелавых жа тэкстах гэтага перыяду яны займаюць ужо другараднае месца. Назоўны склон: оумножатсѧ лживыи пророци (Каз. Кір., 7б); мѣлъ пазнокти росоховатыи быдлѧчии (Рым., 80б); дши стыи ... з тѣлъ свои*х* вышли были (Зб. 259, 5б); промени солнечныи, мѣсѧчныи и звѣздныи на высокость всходили (Хран., 9); вінавальны склон: присылали емꙋ жонкы красныи (Арыст., 14б); радости невымовныи ... слышалъ (Каз. Кір., 30).

З канчаткам *-ие/-ые* ў назоўным склоне множнага ліку ў старажытнарускай мове ўжываліся прыметнікі толькі жаночага роду. У старабеларускай мове гэты канчатак пашырыўся і на прыметнікі мужчынскага і ніякага роду. Ён паступова выцясняў разгледжаны вышэй традыцыйны канчатак *-ии/-ыи,* бо больш адпавядаў норме жывой гутарковай мовы. Канчатак *-ие/-ые* ўжо шырока прадстаўлены ў помніках XIV—XV стст., у большасці ж помнікаў XVI—XVII стст. ён утварае асноўную або адзіную норму. Пасля заднеязычных тут сустракаецца канчатак *-ые,* пасля шыпячых часта выступае *-ие.* Назоўны склон: оувѣдали многие люди (Чэцця, 94); многые те*ж* повставаю*т* (Пс. XVI, 8); зъродкове змиевые ѧко можетѣ добре мовити, лихими бꙋдꙋчи (Цяп., 16—16б); потравы свѣ*т*ские бываю*т* заправные горѧчие (Зб. 261, 147б); нагие на тѣле (Зб. 81, 1); вінавальны склон: писма заразливые выдаватъ (Унія, 2б); на сꙋды головъные (Трыб., 12); на пꙋстые мѣ*ст*ца (Зб. 752, 122).

У родным, пры адушаўлёных назоўніках у вінавальным, і месным склонах множнага ліку поўныя прыметнікі ўсіх трох родаў выступаюць звычайна з традыцыйным для старабеларускай мовы канчаткам *-ыхъ/-ихъ,* прычым *-ыхъ* яшчэ сустракаецца пасля заднеязычных, *-ихъ* — пасля шыпячых. Родны склон: ѡ ѡткладанію роко*в* велікы*х* земьскы*х* (Вісл., 39б); исполни очи мои слезъ дховны*х* (Чэцця, 8б); привели к немꙋ

тисѦчю тисѦчь конеи кормны*х* (Алекс. XV, 2); з оустъ медвѣжи*х* (Валх., 44б); вінавальны склон: не отпускай ... дроуговъ свои*х* лепши*х* (Арыст., 3); Головнѣ*и*ши*х* еретик*ѡв* т8 Кирил стыи потл8*м*лѦе*т* (Каз. Кір., 165б); преднѣ*и*ши*х* бѣс*ѡв* заперъ в пропасть (там жа, 24); на*д* оубожшихъ в дары не выноситъ (Каліст I, 84б); месны склон: о земны*х* кгвалце*х* (Вісл., 1); п бѣлы*х* риза*х* (Чэцця, 4б); в речахъ таковыхъ кривавыхъ (Трыб., 5); оу правосла*в*ны*х* (Каз. Кір., 84).

Поўныя прыметнікі ўсіх трох родаў у д а в а л ь н ы м склоне множнага ліку выступаюць з традыцыйным канчаткам *-ымъ/-имъ* адпаведна пасля цвёрдых і мяккіх зычных: а лѣнивы*м* и непотребны*м* по покое телеснѣмъ моука вѣчнаѦ (Зб. 262, 8); Местцю с8домъ головънымъ (Трыб., 7); Добримъ страшонъ, злосливымъ ласкаве сѦ ставитъ (Лям., 24); Противко злы*м* люде*м* (Пс. XVII, 5б). У помніках розных жанраў XIV—XV стст. звычайным з'яўляецца канчатак *-ымъ* пасля заднеязычных: полочано*м* все*м* немечькымъ (Гр. 1405); оубогы*м* люде*м* чинѦ*т* (Вісл., 28).

У т в о р н ы м склоне множнага ліку звычайным з'яўляецца канчатак *-ыми/-ими*, які нязменна захоўваўся са старажытнарускай эпохі: ѡболоки небѣсными (Чэцця, 58); сноурами золотыми препоѦсовалисѦ (Жыц. Ал., 97); тва*р* его железными кокти драти каза*л* (Зб. 752, 103б). У тэкстах XV—XVII стст. пасля шыпячых ужываўся, як правіла, канчатак *-ими*: медци ве*н*цейшими стали (Будны, 70); низшими, пло*х*шими, бры*д*шими, спроснѣйшими (Каліст, 153); заразил Iѡва стго немочию и вродами што найгоршими (Жыц. св., 14).

Да традыцыйных рыс старабеларускай літаратурна-пісьмовай мовы належаць формы **парнага** ліку поўных прыметнікаў. Атрыманыя старабеларускай мовай у спадчыну ад старажытнарускай, гэтыя формы сталі выходзіць з ужытку, будучы з'явай рэліктавай у большасці беларускіх народных гаворак старажытнага перыяду. Большасць прыкладаў іх ужывання сканцэнтравана ў помніках XIV—XV стст., калі яны былі, відавочна, яшчэ характэрнымі для жывой мовы. Найбольш часта адзначаюцца формы н а з о ў н а-в і н а в а л ь н а г а склону: ѡ*т*ворилъ стаѦ своѦ оуста (Чэцця, 43б); ѡ беднаꙗ оуста моꙗ (Пак. Хр., 13б); по*д*несетесѦ ворота вѣчнаѦ (Пс. XVI, 25б). Адзначана таксама рэдкая форма парнага ліку назоўна-вінавальнага склону з характэрным для царкоўнаславянскай мовы канчаткам *-аа* без інтэр-

вакальнага *j* у спалучэнні з назоўнікам у форме парнага ліку: по*д*неситесѦ ворота вечнаа (Пс. XVI, 25).

Практычна адсутнічае ў старабеларускай пісьменнасці форма р о д н а-м е с н а г а склону. Рэдка сустракаецца форма д а в а л ь н а-т в о р н а г а склону: сима великима архистратигома (Чэцця, 76); с пресмоутныма ѡчима (Пак. Хр., 13); дȣшевныма ѡчима (Каз. Кір., 54); телесныма ѡчима и не видимо (Жыц. св., 122); ѡчима телесныма (Зб. 259, 30); рȣкама людскима (Хран., 20).

Такім чынам, разгляд скланення поўных адносна-якасных прыметнікаў у помніках старабеларускай пісьменнасці паказвае, што ў ім намеціліся змены, асноўныя з якіх замацаваліся пазней у якасці нормы ў сучаснай беларускай літаратурнай мове. Працэс паступовага набліжэння склонавых форм гэтых прыметнікаў да жывой мовы працякаў з неаднолькавай інтэнсіўнасцю ў розных жанрах старабеларускай пісьменнасці. Так, у рэлігійных і свецка-мастацкіх тэкстах ён запавольваўся традыцыяй выкарыстання ў іх архаічных царкоўнаславянскіх і старажытнарускіх форм — назоўнага склону адзіночнага ліку жаночага роду на *-аа*, роднага склону адзіночнага ліку мужчынскага роду на *-аго/-яго*, назоўнага склону множнага ліку на *-ыи/-ии*, ускосных склонаў парнага ліку і інш. Найбольш інтэнсіўна адзначаны працэс працякаў у дзелавых і рукапісных тэкстах іншых разнавіднасцей пісьменнасці канца XVI—XVII ст. Тут прыкметна адлюстраваліся такія рысы жывой мовы, як цвёрдасць канцавых шыпячых і *р* асноў, аднаскладовы канчатак *-ой/-ей* у родным склоне адзіночнага ліку жаночага роду, у месным склоне адзіночнага ліку мужчынскага роду канчатак *-ымъ/-имъ*, аднолькавы з творным склонам.

## *Формы прыналежных прыметнікаў*

Найбольш прадуктыўнымі з суфіксаў прыналежных прыметнікаў у старабеларускай мове былі атрыманыя ў спадчыну ад старажытнарускай мовы суфіксы *-ов-*, *-ев-*, *-ин-*, *-ьјь-*, *-јь-*, *-н-*. У агульнаславянскі перыяд прыналежныя прыметнікі скланяліся па іменнаму тыпу, як назоўнікі асноў на **о* і на **а*. Іменнае скланенне прыналежных прыметнікаў мела месца і ў пачатковы перыяд развіцця старабеларускай літаратурна-пісьмовай мовы. Аднак тут вельмі рана пад уплывам адносна-якасных

прыметнікаў яны пачалі набываць поўныя формы скланення.

У назоўным і пры неадушаўлёных назоўніках у вінавальным склонах адзіночнага ліку прыналежныя прыметнікі *мужчынскага* роду, утвораныя пры дапамозе суфіксаў *-ов-, -ев-, -ин-,* выступаюць, як правіла, з чыстай асновай, як і ў старажытнарускай мове. Назоўны склон: мѣньшій брат ѳалковъ (Вісл., 23); постелникъ фараоновъ (Скар. КБ, 71б); на него оузгꙋчит тꙋл блискъ сꙋличинъ (Зб. 262, 29); ѡтпочивает дхъ илиин на елисею (Бельск., 124б); вінавальны склон: вземше нечистии жидове крстъ чстный хсвъ (Чэцця, 26); на разꙋм посслателевъ (Арыст., 14); листъ вызнаныи сорочынъ перед нами покладалъ (КВС, 486, 1522); под дах полкгрошков (Еўл., 24); лѧментъ Адамовъ видѣлъ (Хран., 12). Поўныя формы гэтых прыметнікаў у старабеларускай пісьменнасці сустракаюцца надзвычай рэдка: домъ паоуковый надежа его (Зб. 262, 15б).

Прыметнікі, утвораныя пры дапамозе суфіксаў *-ьјь-, -јь-, -н́-,* пераважна ў ранніх і зрэдку ў пазнейшых, у асноўным рэлігійных, помніках выступаюць у архаічных кароткіх формах. Фіксацыя гэтых форм толькі кніжнымі тэкстамі сведчыць аб адсутнасці іх у тагачасных народных гаворках. Назоўны склон: азъ есмъ англъ господень приидох к тобѣ с небеси (Чэцця, 38); заложи Владимирь, сынъ Ярославль, Святую Софью (Увар., 95б); вінавальны склон: оузнѧти крстъ гснь изъ земли (Чэцця, 20б); двор княж изложиша (Увар., 101б); оповѣдают приход гсднь (Каз. Кір., 150б).

Асноўную норму ўтвараюць поўныя формы такіх прыметнікаў з канчаткам *-ый/-ий.* Назоўны склон: снъ человѣчии черви*и* (Зб. 262, 22б); вінавальны склон: имееть положить лꙋпежь бараніи (Вісл., 34); оурад епскпи*и* зложит (Жыц. св., 66б). Пасля шыпячых часцей выступае канчатак *-ий,* радзей *-ый.* Назоўны склон: обычай злостівій был слꙋжебнічій (Вісл., 25); симъ нарицаюся слоуга божій (Арыст., 12б); приповѣдане не естъ моленіе але кгвалтъ пророчій (Каз. Кір., 171б); вінавальны склон: голос члвчій слышал есми (Пак. Хр., 20б); вчынил ... девичыи манастыр (Рач., 230); принявши ѡбраз неволничи*и* (Зб. 261, 74); выслꙋхалъ бгъ голосъ дѣтѧчій (Хран., 34).

У назоўным і пры неадушаўлёных назоўніках у вінавальным склонах адзіночнага ліку іменная форма характэрна і для прыналежных прыметнікаў *ніякага* роду.

Традыцыйнасць яе дапаўняецца тым, што ў разглядаемы перыяд флектыўнае *-о* ўжо *не* адлюстроўвала ўласцівага жывой гутарковай мове вымаўлення галоснага няверхняга пад'ёму ў пазанацыскным складзе. Назоўны склон: стму ивану ... село лебедево (Гр. 1384); ани осмотрѣло ѡко соколово (Зб. 262, 23б); а*н*тіхристово зачне*т*сѧ влада*р*ство (Каз. Кір., 134); запалило се*р*це ѳомино (Зб. 259, 32); вінавальны склон: блгсвенъ грѧдый во имѧ г*с*не (Чэцця, 32); принѧлъ бъ лице иевово (Зб. 262, 30б); побили татарове Витовтово воиско (Рач., 263); стадо Хр*с*тово 8рываючы (Унія, 1б); на во*и*ско налива*и*кино (Барк., 154); в сердце иродово (Зб. 752, 160б). Адпаведная займенная форма ў старабеларускай пісьменнасці сустракаецца вельмі рэдка: крыло павиное похвално есть (Зб. 262, 29).

Прыналежныя прыметнікі ніякага роду, утвораныя пры дапамозе суфіксаў *-ьjь-, -jь-, -н-,* у рэлігійных помніках часам адзначаюцца ў архаічных кароткіх формах. Назоўны склон: слово г*с*дьне бы*с*ть к нему (Скар. КБ, 28); то е*ст* преште гдне (Бельск., 44б). Звычайнымі ж у помніках розных жанраў з'яўляюцца поўныя формы з канчаткам *-ое/-ее:* дѣло бо члчее боудет заплачено емоу (Зб. 262, 26); Человѣкъ есмь сътворенье божие (Будны, 1); вспоможене го*с*по*д*нее завитает (Зб. 255, 9); вінавальны склон: оузрѣла на дрѣве гнездо птичее (Чэцця, 15); члвчее мѧсо ели ѡ*т* голод8 (Бельск., 246б); на жребѧ осличее (Каліст I, 93б); звѣрѧчое, пташое и рыбье мѧсо ели (Хран., 16б).

Поўная форма прыналежных прыметнікаў ніякага роду з суфіксамі *-ов-, -ев-* мае адноснае значэнне: изали буд8 ести мѧсо быковое (Пс. XVII, 30б).

Нязменна са старажытнарускай эпохі ў старабеларускай пісьменнасці захоўваюцца іменныя формы *жаночага* роду назоўнага склону адзіночнага ліку з канчаткам *-а,* утвораныя пры дапамозе суфіксаў *-ов-, -ев-, -ин-.* Гэты канчатак хоць і не супярэчыў жывой мове, але і не ўтвараў спецыфікі беларускай мовы сярод іншых усходнеславянскіх моў. У помніках розных жанраў пануюць прыклады накшталт дань рылова долѧ (Гр. 1387); голова материна (Вісл., 24б); несторьева ересь згорѣла (Чэцця, 50); обломися на леду дружина святополкова (Увар., 92б); плесала дочка иродыѧдина (Цяп., 19); шлѧ*х*тѧ*н*ка неѧка жо*л*нэрова (Еўл., 5); то е*ст* церковъ а*р*темидина (Пролаг, 585б).

Адпаведныя поўныя формы сустракаюцца вельмі

рэдка. Але прыметнікі, якія абазначаюць жонку або дачку пэўнай асобы, часцей выступаюць у поўнай форме: княгиня великая Витовтовая (Рач., 252); кролевая Сава до соломона была приехала (Стрыйк., 417).

Прыналежныя прыметнікі жаночага роду, утвораныя пры дапамозе суфіксаў *-ьjь-, -jь-, -н-*, у асобных рэлігійных помніках зрэдку выступаюць у архаічных кароткіх формах з канчаткам *-а/-я*: средѣ венца роука гнѧ (Чэцця, 31б); рада дроужнѧ (Арыст., 8); гдѣ значна ласка божя была (Рач., 280); личба члча и личба его ес шестьсот шестдесѧт и шес (Каз. Кір., 219).

Асноўную ж норму тут утвараюць адпаведныя поўныя формы з канчаткам *-ая/-яя/-ья*: сила божиꙗ начала их метати оу воды рѣчьныꙗ (Чэцця, 13); вельможность бжьꙗ такъ легко важена (Пак. Хр., 1б); страшит мѧ ненависть братнѧѧ (Каз. Кір., 148); Абы сꙗ ѡказала правда божаꙗ (Выкл., 7б).

У р о д н ы м і пры адушаўлёных назоўніках у в і н а в а л ь н ы м склонах прыналежныя прыметнікі ўсіх трох родаў рознага ўтварэння першапачаткова мелі традыцыйныя кароткія формы. Кароткія формы *мужчынскага* і *ніякага* роду ў родным склоне адзіночнага ліку мелі канчатак *-а/-ꙗ*. Адпаведныя прыклады звычайныя ў помніках XIV—XV стст. Яны ўтвараюцъ асноўную норму і ў радзе рэлігійных і свецка-мастацкіх тэкстаў XVI ст. Родны склон: ѡтъ ржства гнѧ (Гр. 1283); не терпиши рабиꙗ подобиꙗ (Чэцця, 12); которыи гробоу хсва стерегли (Валх., 61б); роки... отъ насъ положоныи нестаныꙗ воротынъцова (КВЗС, 144б, 1539); начало пристьѧ антихристова (Барк., 141б); длꙗ великого страхȣ мȣчителева (Зб. 752, 81б); Ведлуг пророцства Ісаина (Выкл., 21б); вінавальны склон: моучаще раба бжиꙗ архипа (Чэцця, 9б); велели на колесе разбити ... дꙗдю маткына кнзꙗ великаго Витовта ѡтнѧ брата (Увар., 89); закладають вола вдовина (Зб. 262, 22); посланца антиѡхова забилъ (Кн. Мак., 53); выгнал раба божіꙗ (Зб. 752, 3).

Поўныя формы разглядаемых прыметнікаў з канчаткам *-ого/-его* пачынаюць ужывацца з XV ст., і на працягу XVI ст. яны становяцца ўсё больш прыкметнымі, аднак па-ранейшаму ўступаюць іменным. Традыцыйнасць поўных форм заключалася ў тым, што канец слова іх не адлюстроўваў характэрнага для жывой мовы вымаўлення галосных *о, е* ў пазанаціскных складах. Родны склон: ꙅ препоущенꙗ бжьего (Валх., 51б); ани слышали голоса приставового (Зб. 262, 13); до сознаньꙗ вижового

(КВС, 447, 1522); приход сна члчого (Каз. Кір., 124). Асноўнай нормай яны становяцца толькі ў XVII ст. Родны склон: за ѡбешене ѡтца его наливаикового (Еўл., 42); викинен потом з живота велерибег (Бельск., 136); до капища аполонового (Алекс., 46); вінавальны склон: брал 8 насъ вижомъ сл8жебника моего наместъничого (КВС, 456б, 1522); воеводу князя Федорового поимал (Рач., 261); пустили... слуг8 авраамового (Біблія, 56); взб8дил гсдь бгъ дха данілового (Жыц. св., 4); знашли есмо Исуса сына Иѡсиѳового (Зб. 255, 127).

Прыналежныя прыметнікі *жаночага* роду рознага ўтварэння ў родным склоне адзіночнага ліку на працягу ўсяго старажытнага перыяду беларускай мовы рэдка выступалі ў кароткіх формах з канчаткам *-ы:* не имаеть печати ѡцвы пожіват (Вісл., 11б); аж до смрти геродовы (Валх., 59); до великаго князя Витовтовы смерти (Увар., 49); до артемовы жоны (КВЗС, 11, 1533); на8ки христовы наполнен естъ (Каз. Кір., 78б); до недели ѳомины (Барк., 167б); з челюсти ѡсловы (Самсон, 25); злѧкшисѧ великои моцы megдекговы (Стрыйк., 524); з повѣсти пастуховы (Рым., 78); презъ положеніе р8ки Іереевы (Зб. вып., 13б).

У цэлым у старабеларускай пісьменнасці ва ўжыванні прыметнікаў данай групы пераважаюць займенныя формы. Сярод іх найбольш пашыранымі з'яўляюцца формы з аднаскладовым канчаткам *-ой/-ей,* вядомым ў старажытнарускай мове. Адпаведная форма фіксуецца помнікамі ўсіх разнавіднасцей старабеларускай пісьменнасці. Родны склон: из воли бжіей (Вісл., 10); с тое Содомы антихристовой (Будны, 4); ѡт одежѣ теды ѡвечеи познан б8дешъ (Каз. Кір., 160б); взѧвши крови телцовои и козлеи (Бельск., 57б); перстен с кости чловечеи (Бельск., 225б); простоты голубинои а ростропности змиинои наследовали (Зб. 255, 212б). Такога ж тыпу формы характэрны і для давальнага і меснага склонаў. Давальны склон: цркви бжиeй (Чэцця, 8); к матеры его княгини светославовой (Рач., 255); вере невестеи приписал (Зб. 255, 118б); месны склон: о клАтве божией (Скар. КБ, 12); на книжои земъли (КВЗС, 34б, 1538); в церкви божои (Унія, 8); по погибели мамаевои (Мам., 67б); не есть то на чловечеи но на воли божой (Зб. 752, 7б).

У меншай ступені ў беларускай пісьменнасці пашырана займенная форма роднага склону адзіночнага ліку з двухскладовым канчаткам *-ое/-ее,* якая захавалася са

старажытнарускай эпохі. Яна адзначаецца ў помніках розных жанраў: зъ кгвалтовности 8ликсовое (Троя, 23б); безъ млсти божее (Сівіла, 174б); з шерьсти верблюжое (Цяп., 4); до на8ки христовое (Бер. саб., 13); аж до смерти иродовое (Зб. 255, 142б). Звычайна двухскладовы канчатак маюць у родным склоне адзіночнага ліку прыналежныя прыметнікі жаночага роду са значэннем жонкі або дачкі пэўнай асобы. Шырокае адлюстраванне гэтай з'явы дзелавымі тэкстамі сведчыць аб наяўнасці яе ў тагачаснай жывой мове: королевое ее млсти (КВЗС, 14б, 1537); ѡт панее ѧк8бовое (КВС, 464б, 1552); до дом8 тое мохначовое (там жа, 455); братовое церкви (Еўл., 15).

Слабай пашыранасцю характарызуюцца ў старабеларускай пісьменнасці іменныя формы жаночага роду меснага склону. Яны фіксуюцца помнікамі ўсіх жанраў XIV—XV стст., у тым ліку і дзелавымі, што дазваляе гаварыць аб іх наяўнасці ў тагачаснай жывой мове. Пасля этымалагічна цвёрдых зычных у гэтых формах выступае канчатак *-е*, пасля мяккіх — *-и*: оу жалобе дѣдичне (Вісл., 22б); во ютробе мтрьни (Чэцця, 38); в темници адове (там жа, 38). У XVI—XII стст. указаная форма адзначаецца ўжо толькі ў рэлігійных, летапісных і гістарычных тэкстах, г. зн. у помніках кніжнай мовы: по смерти Авраамове (Скар. КБ, 47); ѡ моудрости саломоновѣ (Сівіла, 171б); 8 пѦтой книзе Моисеове (Будны, 85); По смерти ахавове (Бельск., 124).

У давальным склоне адзіночнага ліку прыналежныя прыметнікі *мужчынскага* і *ніякага* роду рознага ўтварэння ў помніках усіх жанраў XIV—XV стст. выступаюць звычайна ў іменных формах з канчаткам *-у/-ю*: кто наречеть ѡс8женію старостін8 (Вісл., 8); сн8 бжию взаемъ даешь (Чэцця, 19); не бе посла ко Блуду, воеводе Ярополчю (Віл., 81б). З пазнейшых помнікаў такая форма захоўваецца толькі ў некаторых рэлігійных і свецка-мастацкіх, па чым можна меркаваць, што яна стала прыналежнасцю кніжнай мовы: возвеселѦтсѦ гослос8 ѡрганов8 (Зб. 262, 21); к послѫшенствѫ александрову (Арыст., 3б); сынови Адамову (Хран., 12); выкрыкаите бг8 Іаковлю (Выкл., 136).

Займенная форма давальнага склону адзіночнага ліку мужчынскага і ніякага роду з канчаткам *-ому/-ему* адзначаецца ўжо ў самых ранніх старабеларускіх помніках: противъ приказанью божьему (Вісл., 15). Але найбольшае пашырэнне яна атрымала ў XVI—XVII стст.,

аб чым сведчаць наступныя прыклады з тэкстаў розных жанраў: по образ8 божиему сотворилъ его (Скар. КБ, 14); сынови соломоновому (Біблія, 431); коне*ц* ста*л*се двдовом8 царств8 (Бельск., 197); Петръ 8т*ал* 8хс сл8зе а*р*хиереевому (Зб. 255, 247). Займенная форма давальнага склону адзіночнага ліку мужчынскага і ніякага роду з'яўляецца нормай сучаснай беларускай літаратурнай мовы.

Пераважна ў традыцыйнай іменнай форме з канчаткам *-у/-ю* ўжываюцца ў в і н а в а л ь н ы м склоне адзіночнага ліку прыналежныя прыметнікі *жаночага* роду, утвораныя пры дапамозе суфіксаў *-ов-, -ев-, -ин-*: за він8 панов (Вісл., 6); въ вѣроу х*с*овоу многие почали приходити (Чэцця, 35б); поведаша ему всю речь Рогнедину (Увар., 81); през кро*в* бара*н*ков8 (Каз. Кір., 90б); зmовилисмы за него сестру пна ло*ж*чину (Еўл., 16); ѡ*т*повѣ*д* радивилов8 ... ѡтдали (Стрыйк., 518б); маючи*и* голов8 волов8 (Рым., 80б); вспо*м*невши на злы поступки и злую смрть ариев8 (Жыц. св., 106); кровъ козлову пити (Пс. XVII, 30б). Адзначана поўная форма жаночага роду вінавальнага склону са значэннем дачкі або жонкі пэўнай асобы: по панию Кгашътольтовую (Рач., 291); та*к* засм8чоную ѡстави*л* цесаров8ю (Жыц. св., 72).

Прыметнікі жаночага роду з суфіксамі з элементам *-j-* у вінавальным склоне ў іменнай форме з канчаткам *-у/-ю* адзначаюцца надзвычай рэдка, што тлумачыцца, відаць, іх слабым пашырэннем у жывой гутарковай мове. Прыведзены пералік прыкладаў бадай што вычарпальны: по*д* волю божу (Еўл., 37); кро*в* г*с*дню (Біблія, 41); на гор8 гню (Зб. 261, 85б); розли*л* кро*в* члч8 (Бельск., 9б). Затое адпаведная поўная форма з канчаткам *-ую/-юю* ў помніках розных жанраў з'яўляецца звычайнай, відаць, яна больш адпавядала норме жывой гутарковай мовы: надежоу члч8ю заг8би*л* еси (Зб. 262, 18); ѡ ѳал8 божию (Унія, 3б); цеса*р* целова*л* р8к8 биск8пъю (Бельск., 225б); псюю собѣ голов8 лю*д* старашачи чини*л* (там жа, 213); 8ва*ж* ласкаво*ст* господнюю (Зб. 255, 104); хер8вимъ ... лв8ю тва*р* мѣлъ (Зб. 259, 202б—203); ѡсоб8 стр8сюю маютъ (Хран., 5).

У т в о р н ы м склоне прыметнікі *мужчынскага* і *ніякага* роду differ рознага ўтварэння выступаюць амаль выключна ў традыцыйнай форме з канчаткам *-ымъ/-имъ*. У тэкстах усіх разнавіднасцей старабеларускай пісьменнасці амаль адзінымі з'яўляюцца прыклады тыпу пре*д* нароженье*м* бжы*м* (Валх., 43); со князя великого Оль-

гирдовымъ позволениемъ (Увар., 43); дхне*н*емъ шадаевы*м* ѡжив8 (Зб. 262, 20); за ѡпыта*н*емъ моимъ вижовымъ (КВС, 443б, 1522); сыномъ сыновнимъ не естъ (Унія, 11б); игрыскомъ дѣти*н*ным себе оучинилъ (Варл., 9); з ... потомствомъ Каиновымъ (Хран., 13).

Прыналежныя прыметнікі *жаночага* роду незалежна ад утварэння ў творным склоне адзіночнага ліку выступаюць у асноўным з двухскладовым канчаткам *-ою/-ею,* які для беларускай мовы з'яўляецца традыцыйным. У помніках розных жанраў пануючымі з'яўляюцца прыклады тыпу ѡ*т*цевою печа*т*ю (Вісл., 11б); за намовою Аэцыусовою (Атыла, 186); т8ю ересь называетъ змиевою (Каз. Кір., 165б); аболи ꙗ есмъ псею головою (Біблія, 360); была его ѡсоба прикритаꙗ скорею лвею (Зб. 259, 11); по*д* мощью б8дешъ м8жнею (Хран., 10). Пасля шыпячых у цэлым да сярэдзіны XVI ст. пераважае канчатак *-ою,* пазней — *-ею:* печорою розъбоиничою (Цяп., 59б); сажавка овчею называетсѧ (Каліст, I, 122б).

Абмежаванасцю ўжывання характарызуюцца ў старабеларускіх пісьмовых помніках іменныя формы прыналежных прыметнікаў м е с н а г а склону адзіночнага ліку *мужчынскага* і *ніякага* роду. У XIV—XV стст. яны выкарыстоўваюцца ў помніках розных жанраў, нават у дзелавых, бо адпавядалі, відаць, у нейкай меры норме жывой гутарковай мовы таго часу. Пасля цвёрдых зычных у гэтых формах выступае канчатак *-е,* пасля мяккіх — *-и*: по рож*с*тве *б*жии (Гр. 1405); о кр*с*тѣ х*с*ве (Чэцця, 21); на ратоушоу пилатове (Пак. Хр., 16). У XVI—XVII стст. даныя формы фіксуюцца толькі нямногімі помнікамі кніжнай мовы — асобнымі рэлігійнымі і летапіснымі тэкстамі як прыкмета адпаведнага стылю. Выяўленыя прыклады не дасягаюць узроўню нормы: о смерти и о погребении Ісаакове (Скар. КБ, 64); в законе г*с*дни (Пс. XVI, 7); в голосѣ арха*н*геловѣ (Каз. Кір., 150б); на куликовѣ полѣ (Мам., 70); на гробѣ ахи*л*лѣвѣ (Тр. гіст., 72); в ... тѣлѣ хвѣ (Каліст, 112б); по рожес*т*вѣ иѡа*н*новѣ (Зб. 752, 9).

Узроўню асноўнай нормы ў старабеларускай пісьменнасці дасягаюць адпаведныя займенныя формы з канчаткам *-омъ/-емъ,* традыцыйным для беларускай мовы. Прыклады ўжывання гэтай формы шырока прадстаўлены ў помніках розных жанраў, у тым ліку і ў дзелавых, што можа быць ускосным доказам адпаведнасці яе норме жывой гутарковай мовы старабеларускага перыяду:

по бжемь роженьи (Гр. 1407); ѡ лов ж оленьемъ и лосіномъ (Вісл., 9б); во ѡбразе голоубичином (Пак. Хр., 27б); ѡ девичем порожении (Валх., 41б); на митропольемь дворѣ (Увар., 29б); в дом8 ıак8бовомъ (КВЗС, 18б); ѡ наставаню антіхристовом (Каз. Кір., 66б); ѡ нюдином спросном 8чинк8 (Біблія, 86); в пѣню пташем се кохаем (Бельск., 181); на жребѦти ослѣмъ (Каліст, I, 90б); в животе матчином (Жыц. св. 12б).

Прыналежныя прыметнікі ўсіх трох родаў у назоўным і пры неадушаўлёных назоўніках у вінавальным склонах **множнага** ліку мелі розныя суадносіны кароткіх і поўных форм у залежнасці ад словаўтваральных сродкаў.

Так, прыметнікі, утвораныя пры дапамозе суфіксаў *-ов-, -ев-, -ин-,* выступаюць амаль выключна ў іменнай форме з канчаткам *-ы/-и.* У помніках розных жанраў нормай з'яўляюцца прыклады тыпу почолъ боги цревы ни во что же (Чэцця, 31); ѡвцы христовы с правдивое ѡвчарни выводечы (Унія, 1б); Наливаикины козаки... пна ГригориѦ Анюховского забили (Барк., 154); роздѣлил сыны Лиины и рахилины (Бельск., 24); ѡчы зб̕авителевы к нем8 ѡборочоны (Зб. 255, 1).

Прыметнікі, утвораныя пры дапамозе суфіксаў з элементам *-j-*, у іменнай форме ў XIV—XV стст. адзначаюцца ў помніках розных жанраў, г. зн. былі характэрны як для кніжнай, так і для жывой мовы. Гэта відаць на прыкладах тыпу ѡбычаи и учинкы члвчи измены (Вісл., 9б); бяше же сынове Святославли (Увар., 79). У XVI—XVII стст. кароткая форма адзначаецца толькі зрэдку ў рэлігійных тэкстах як вынік захавання царкоўнаславянскіх ці старажытнарускіх традыцый: неприıатели гсдни скоро 8чщени (Пс. XVII, 7б). Але ўжо ў ранніх помніках шырокай ужывальнасцю вылучаецца і адпаведная поўная форма, унаследаваная старабеларускай мовай ад старажытнарускай.

На працягу ўсяго старажытнага перыяду беларускай мовы ў пісьменнасці ўстойліва захоўвалася форма, уніфікаваная па *мужчынскаму* роду, з канчаткам *-ыи/-ии.* У тэкстах розных жанраў, асабліва ў рэлігійных, прыкметна выступаюць прыклады тыпу: стретоша его Ангели божии (Скар. КБ, 59); в скорки козлıачии (Біблія, 61); приıатели божыи власне не 8мираютъ (Зб. 255, 29б); Перси рѣзати невестии казал (Зб. 752, 182); ѡбои скоры ѡвчии были (Выкл., 43).

Побач з гэтым, набываючы ўсё большае пашырэнне,

ужываецца поўная форма, уніфікаваная па *жаночаму* роду, з канчаткам *-ые/-ие/-ье*. Пасля канцавых шыпячых асноў часцей выступае канчатак *-ие/-ье,* радзей *-ые.* Як у ранніх, так і ў пазнейшых помніках розных жанраў прыкметна прадстаўлены прыклады тыпу Тые соут бжье таемности (Пак. Хр., 30); ноги человечые псы по улицам волочывали (Рач., 271); з8бы вамъ волчые 8каж8тъ (Бер. саб., 14б); кости члвчие будет на тобѣ палил (Біблія, 42б); в быдличие тѣла входит (Бельск., 168б); вси 8чынки законничые лепшы се стають (Зб. 255, 420б).

У р о д н ы м, пры адушаўлёных назоўніках у в і н а в а л ь н ы м, і м е с н ы м склонах множнага ліку прыналежныя прыметнікі выступаюць у старабеларускай пісьменнасці ў поўных формах з канчаткам *-ыхъ/-ихъ.* Для беларускай мовы гэты канчатак з'яўляецца традыцыйным, паколькі ён быў унаследаваны ад старажытнарускай мовы. Прыметнікі, утвораныя пры дапамозе суфіксаў *-ов-, -ев-, -ин-,* маюць канчатак *-ыхъ,* пры дапамозе суфіксаў з элементам *-j-* — канчатак *-ихъ.* Родны склон: з оустъ медвѣжих албо львовых (Валх., 44б); ѡт рук ахилевых (Троя, 7); речей Ижотиных (Трыст., 99); до мачешиныхъ детей (Унія, 4б); вінавальны склон: 8били двохъ братовъ кнѧзеи тронѧтиныхъ (Патр. П., 85); хвалцовъ божиих забиваете (Зб. 752, 28б); месны склон: о десети ѧзвахъ фараоновыхъ (Скар. КБ, 4); в границохъ завулоновых (Цяп., 5); По горах ефремих (Бельск., 94); в наметахъ сімовых (Хран., 17б).

У д а в а л ь н ы м склоне прыналежныя прыметнікі маюць традыцыйную поўную форму з канчаткам *-ымъ/-имъ.* Адпаведныя прыклады аднолькава пашыраны ў помніках усіх разнавіднасцей старабеларускай пісьменнасці: к посломъ Владимировым (Увар., 82); наоучишис заповѣдем гнимъ (Зб. 262, 8б); Атылевым жолънеромъ (Атыла, 206); чаровничим на8кам служил (Біблія, 511); землю теж даде сном члвчим (Хран., 1).

Захаваннем ранейшых моўных традыцый характарызуецца і т в о р н ы склон множнага ліку прыналежных прыметнікаў. Нязменна са старажытнарускай эпохі тут выступае канчатак *-ыми/-ими:* змииными оусты почалъ говорити евзе (Чэцця, 23); биваша свары межи пастухи Авраамовыми и Лотовыми (Скар. КБ, 25б); зов8чы... цареи и господареи... неволниками антихристовыми (Унія, 4); з воисками мамаевыми (Мам., 61б); зъ 8честниками господними (Зб. 255, 1). У адзінкавых выпад-

ках тут назіраецца захаванне ранейшай цвёрдасці флектыўнага губнога зычнага: з псимы головами (Бельск., 402б). Поўная форма творнага склону множнага ліку прыналежных прыметнікаў на *-ыми/-ими* з'яўляецца адзінай у сучаснай беларускай літаратурнай мове.

У рэлігійных тэкстах, якія ўзыходзяць да царкоўнаславянскіх ці старажытнарускіх арыгіналаў, зрэдку адзначаюцца формы **парнага** ліку прыналежных прыметнікаў н а з о ў н а - в і н а в а л ь н а г а склону з канчаткам *-ая/-яя:* врата нѣбесная брама раиская (Зб. 255, 184б); р о д н а - м е с н а г а склону з канчаткам *-у/-ю* ѡ... оугодникоу хсвоу (Чэцця, 66б); ѡтведе их Іосифъ ѡт колен8 ѡтцев8 (Скар. КБ, 89). Прыналежнасць тэкстаў, фіксуючых прыведзеныя прыклады, да кніжных пераканаўча сведчыць аб тым, што разгледжаныя формы ўжо не адпавядалі норме жывой гутарковай мовы таго часу.

У сучаснай беларускай літаратурнай мове пры рэліктавых формах давальна-творнага склону парнага ліку назоўнікаў *вочы, плечы* прыналежныя прыметнікі-азначэнні ўжываюцца ў форме множнага ліку: бацькавымі плячыма, матчынымі вачыма.

## *Формы ступеней параўнання якасных прыметнікаў*

У праславянскай мове былі толькі кароткія формы вышэйшай ступені параўнання прыметнікаў, якія ўтвараліся пры дапамозе суфіксаў *-jьs-, -ejьs- (-jes-,-ejes-).* Яны змяняліся па родах, ліках і склонах: у мужчынскім і ніякім родзе па асновах на **о,* у жаночым — па асновах на **а.* Паколькі гэтыя формы перасталі ўжывацца ў атрыбутыўнай функцыі, яны рана пачалі страчваць формы словазмянення, у старажытнарускай мове к XIV ст. засталіся толькі кароткія формы вышэйшай ступені назоўнага склону ніякага роду тыпу *выше, сильнее, крепче,* якія сталі ўжывацца ў ролі выказніка. Разам з тым у старажытнарускай мове ўзніклі поўныя формы вышэйшай ступені параўнання прыметнікаў і апісальныя формы — найвышэйшай.

*Кароткія простыя* формы в ы ш э й ш а й ступені ў старабеларускай пісьменнасці адлюстравання не знайшлі. Пашырэнне падобных форм, выяўленае ў радзе рэлігійных і свецка-мастацкіх помнікаў XIV—XVII стст.,

больш правільна разглядаць як вынік польскага або чэшскага ўплыву: ѡдна сторона есть долъжша и ширша и болша (Валх., 63); валка тым твержьша есть сѦ ѡтновила (Троя, 52); справедливша естъ паче мене (СкарКБ, 71); иконописаніе... вышша рѣчь (Будны, 14); коморкȣ собѣ збȣдовал ... чотыри стопы вшыр и въвыш пѧт то ест нижша нижли его был взростъ (Зб. 752, 448б). Такая кваліфікацыя прыведзеных форм будзе больш верагоднай, калі ўлічыць, што помнікі, якія іх фіксуюць, або з'яўляюцца перакладамі з польскіх ці чэшскіх арыгіналаў, або напісаны двухмоўнымі ці шматмоўнымі асобамі. Старажытныя ж формы вышэйшай ступені кароткіх прыметнікаў мужчынскага і ніякага роду тыпу *больше, должеиши, ширши, лепши* ў старабеларускіх помніках выступаюць ужо фактычна ў ролі вышэйшай ступені параўнання прыслоўяў.

Сярод *поўных простых* форм вышэйшай ступені параўнання прыметнікаў у старабеларускай пісьменнасці ў адрозненне ад сучаснай беларускай літаратурнай мовы пераважаюць утвораныя пры дапамозе суфікса *-ш-*. Прыметнікаў, ад якіх утваралася такая форма, было надзвычай многа і практычна неабмежавана. Суфікс *-ш-* мог далучацца не толькі да невытворных, але і да некаторых вытворных асноў: на вышьшее право (Вісл., 33б); старшего сына Вышеслава посади в Новегородѣ (Увар., 90б); чим богатшій а тымъ скȣпеишій (Сівіла, 174б); тѦжъшую муку оубійцом самъ богъ после потопа придалъ (Будны, 81); лишшое приимете осȣженье (Цяп., 32); зъ ѡбфитшою ласкою (Навука, 33); грȣбшіи и сȣптелнѣйшіи и простшіи тѣла жебы истность свою мѣли (Мак., 34); до працовитшой дороги (Жыц. св., 162б); гладшие сут слова ихъ над ѡливу (Пс. XVII, 39).

Суфікс *-ш-* маюць, як правіла, і формы вышэйшай ступені параўнання прыметнікаў, утвораныя пры дапамозе суплетывізму асноў: людие ... почали творити повелѣньѧ ѡт больших и до менших (Чэцця, 81б—82); лепшаѧ строна валки была сѦ пригодила (Троя, 54б); не отпускай милостных дроуговъ своих лепших (Арыст., 3); што горшого ... терьпети есмо повинъни (Унія, 3б); ко брату своему меншему (Мак., 50б); хȣждшій цо подлѣйшій (Бяр., 77).

Амаль у такой жа ступені пашырана ў старабеларускай пісьменнасці простая форма вышэйшай ступені параўнання прыметнікаў, утвораная пры дапамозе суфікса *-ейш-*, традыцыйнага для беларускай мовы ў цэлым.

У адзінкавых выпадках зарэгістравана кароткая форма з указаным суфіксам, напрыклад: котораѧ была красненша над слоунца (Пак. Хр., 3б); проти*в* слнца оусходоу ты*м* менши и мглеиши и крепчейши родѦтсе люди (Валх., 54); речь перьша и потребнеиша (Троя, 3б); Правда на*д* все моцнѣиша (Бельск., 162б); абы ты*м* безпечнѣ*и*ши были ѡ*т* ꙋжо*в* (Бельск., 41б). Свабоднае выступленне разглядаемай формы ў атрыбутыўнай функцыі дазваляе меркаваць, што перад намі сцягнутая форма польскага ці чэшскага паходжання.

У асноўнай масе выпадкаў утварэнні з *-ейш-* выступаюць у поўнай форме: в рожай шлехетнейший (Пак. Хр., 22б); на последнейшихъ сторона*х* (Валх., 94); хто дово*д* слꙋшънe*и*шы*и* и лепъшыи водъле ѡбычаѧ права вчинитъ (КВЗС, 50); тыи сѧ звѣзды ѧ*с*нѣишими сѧ здаю*т* (Бельск., 7); пожите*ч*нѣйшаѦ ре*ч* естъ (Каліст, I, 8); былъ силнѣйшимъ (Зб. вып., 14). Суфікс *-ейш-* з'яўляецца асноўным сродкам утварэння простых форм вышэйшай ступені прыметнікаў у сучаснай беларускай літаратурнай мове.

Ярка выражаны кніжны характар мае форма вышэйшай ступені параўнання прыметнікаў, утвораная пры дапамозе суфікса *-айш-*, які ў старажытнарускай мове выступаў звычайна пасля шыпячых. Адзінкавыя прыклады яе ўжывання фіксуюцца выключна рэлігійнымі помнікамі, што і дае падставу меркаваць аб адсутнасці яе ў тагачаснай жывой гутарковай мове: сла*д*чаиши на*д* медъ (Пс. XVI, 21б); о вещи далечайшой (Навука, 49); абы былъ крѣпчайши*м* (там жа, 36); Ве*щ* ближа*и*шаѦ естъ (Зб. вып., 15). Зразумела, што ўжыванне ўказанай формы ў гэтых помніках абумоўлена ўплывам царкоўнаславянскіх ці старажытнарускіх крыніц.

Нешматлікімі прыкладамі прадстаўлена ў старабеларускіх помніках *апісальная* форма, утвораная пры дапамозе займенніка *самый*. Відавочна, яна не набыла яшчэ дастатковага пашырэння ў пісьменнасці і ў жывой гутарковай мове таго часу: Пѧ*т*на*д*цати локо*т* была ѡнаѧ вода на*д* самы*х* го*р* высши*х* (Бельск., 9); емꙋ на самомъ середнемъ повѣтрю безпечне забегꙋтъ (Каліст, I, 157).

Традыцыйным для старабеларускай пісьмовай мовы і прадуктыўным было ўтварэнне н а й в ы ш э й ш а й ступені параўнання прыметнікаў пры дапамозе прыстаўкі агульнаславянскага паходжання *наи-*. У тэкстах розных жанраў гэта прыстаўка ўжываецца часцей за ўсё ў

ранейшай несцягнутай форме, характэрнай для старажытнарускай мовы.

Адзінкавымі прыкладамі прадстаўлены сцягнутыя формы з прыстаўкай *на-/най-*: ѡ наимилостивша панно маріа (Пак. Хр., 2); ѡ наймилейша матухно (там жа, 3б); тебе прош8 матко на*и*ми*л*ша (Бельск., 154б). У асноўнай жа масе выпадкаў найвышэйшая ступень з прыстаўкай *най-/наи-* выражаецца поўнай формай: ѡ маріа наимилостившаꙗ матоухно (Пак. Хр., 2); листъ его млсти кнзꙗ костенътина ивановича ѡстроског воеводы троцъкого гетъмана на*и*вышого ... покладалъ (КВС, 481, 1552); хотѧт сѧ собрати наибольшые тры рыцэры (Трыст., 7); з на*и*моцне*и*шого кгр8нът8 (Унія, 10); на*и*первша дата (Еўл., 7); болес*т* телес*н*аꙗ нехаи б8де*т* на*и*болшаꙗ (Зб. 261, 80б); двѣ речы соу*т* на*и*потребнѣйшые (Навука, 73); ꙗк8ю бы и*м* найго*р*ш8ю и до*л*же*и*ш8ю смрть задат ме*л* (Жыц. св., 24б).

Побач з гэтым прыкметна выступае форма найвышэйшай ступені, утвораная пры дапамозе сцягнутай прыстаўкі польскага паходжання *на-,* з якой сустракаецца часам і сцягнутая форма. Адпаведныя прыклады адзначаюцца, як правіла, у помніках, мова якіх адчула польскі ўплыў. Упершыню яны ўжыты ў Вісліцкім статуце, а ў Дзённіку Ф. Еўлашоўскага яны ўжо з'яўляюцца нават адзінымі: наблишье племѧ (Вісл., 36); моꙗ матка намилейша (Пак. Хр., 12б); николаите соу*т* хрестіаны настаршіи на свѣте (Валх., 82); ꙗко накрепчеишым муро*м* ѡточоны су*т* (Атыла, 198); зо вҫѣ*х* цареи наго*р*шии (Бельск., 119б); на*д* навдѧчнѣйшіе того живота потѣхіи оулюбилъ (Варл., 9б); которое ч8до межи всѣми иншими нема*л* набо*л*шее и назнамени*т*шее (Жыц. св., 137б); в ... зо вси*х* наглы*б*шии ро*в* впасти хотѣлъ (Пролаг, 493).

Для выражэння разглядаемага граматычнага значэння ў старабеларускай пісьменнасці выкарыстоўваецца часам і прыстаўка *пре-*. Аналіз жанравага характару фіксуючых даную форму помнікаў паказвае, што такі спосаб утварэння найвышэйшай ступені не быў уласцівы жывой гутарковай мове старажытнага перыяду. Крыніцай указанай прыстаўкі з'яўляецца царкоўнаславянская або польская мова. Хутчэй за ўсё тут мела месца запазычанне не прыстаўкі, а словаформы: госпожи преч*с*тое (Чэцця, 17б); оу превышни*х* (Зб. 262, 19); *люди* боудоу*т* носити ѡдеж8 преди*в*н8 господоу бг8 невго*д*н8 (Сівіла, 174б); ꙗко же ре*к* прем*д*рый (Арыст., 9); пре-

велке богатства (Еўл., 22); в це*р*ковь собо*р*ную пресвѧтои бгци (Мам., 45); преза*ц*наѧ з молодости (Зб. 752, 84б).

У асобных помніках рэлігійных жанраў, стыль якіх характарызуецца экспрэсіўнасцю, сустракаецца форма найвышэйшай ступені, утвораная пры дапамозе дзвюх прыставак *пре-* і *най-*: пренасвѦтшого сакраментѸ посвеценье (Бер. саб., 44б); кровию прена*и*доро*ж*шою (Дыяр., 170); на тваръ его ·Пренасвѧтѣ*и*шую (Зб. 81, 19б); цвѣтъ з себе Пресличне*и*шы*и* х*с*а живота нашего Пустила (Зб. 752, 413).

Аналіз сістэмы форм прыметнікаў у старабеларускіх помніках паказвае, што яна была неаднолькавай у розныя перыяды старажытнага развіцця беларускай мовы, а таксама ў розных жанрава-стылявых разнавіднасцях пісьменнасці. У большасці тэкстаў XIV — пачатку XVI ст. на ўзроўні асноўнай нормы ўжываюцца традыцыйныя формы. Формы, крыніцай якіх была жывая гутарковая мова, пачынаюць дасягаць узроўню нормы з другой палавіны XVI ст. У цэлым у параўнанні з некаторымі іншымі часцінамі мовы, напрыклад з назоўнікам і дзеясловам, прыметнік у старабеларускай пісьмовай мове ў большай ступені захаваў ранейшую сістэму сваіх форм.

# *ЛІЧЭБНІК*

У гэтым раздзеле разглядаецца адлюстраванне ў помніках старабеларускай пісьменнасці формаўтварэння той групы слоў, на базе якой утварылася лічэбнікавае скланенне як самастойны тып. Гэта лічэбнікі ад *двух* да *дзесяці* і вытворныя ад іх. Тыя ж лічэбнікі, якія на працягу ўсёй сваёй гісторыі скланяліся па займеннікава-прыметнікавым скланенні (*адзін*, парадкавыя, зборныя) або па тыпу назоўнікаў (*сто, тысяча, мільён*), тут не разглядаюцца.

Помнікі беларускай пісьменнасці XIV—XVII стст. адлюстроўваюць той перыяд у развіцці лічэбнікавага скланення, калі на базе трох старажытных тыпаў (*два, оба; три, четыри* і *пять — десять*) фарміраваліся два сучасныя тыпы. Варыянтная разнастайнасць форм размяркоўваецца ў асноўным паміж традыцыйнымі і новымі, жывымі народнымі элементамі.

**Першы** тып утвараўся шляхам аб'яднання скланення лічэбнікаў *два, оба* і *три, четыри* на базе парадыгмы апошніх двух.

Вядома, што гэтым лічэбнікам у старажытнарускі перыяд было характэрна адрозненне па родах у назоўным склоне (*дъва* — муж., *дъвѣ* — ніякі і жан., *тры(ие), четыре* — муж., *три, четыри* — ніякі і жан.), а ва ўскосных склонах існавала адна для ўсіх родаў парадыгма — для *два, оба* па парнаму ліку і для *тры, чатыры* па множнаму. Вырашальныя змены ў гэтай групе лічэбнікаў адбыліся к канцу старажытнарускага перыяду.

Помнікі старабеларускай пісьменнасці пачынаючы з XV ст. для лічэбнікаў *тры* і *чатыры* ўжо фіксуюць поўную страту адрозненняў па родах і выпрацоўку адной склонавай формы ў назоўным (і вінавальным — пры неадушаўлёных назоўніках) па ніякаму і жаночаму роду ў двух графіка-фанетычных варыянтах: мяккім і цвёрдым. Для першага лічэбніка гэта варыянты *три* і *тры*. Абодва яны ўжываліся ў помніках усіх жан-

раў, прычым нярэдка ў адным і тым жа помніку, але пры відавочнай колькаснай перавазе мяккага варыянта: а б8деть лі деръжалъ три годы и три мсци (Бісл., 16); держал трі лета (там жа, 22); дали мыто ... на тры годы... держати ему тыи мыта три годы (АЛРГ, 83, 1489); а то си три браты татарскыа (Супр., 81); ему же родишесѦ три сыны (Скар. КБ, 14б); мешъкалъ ѡсобъно три годы и далъ ем8... тры волы (КВЗС, 159, 1540); мает дати вины на*м*... три рубли г*ршэи* а стороне тры*ж* рубли (Ст. 1566, 36); дни три при мнѣ тривають (Цяп., 21б); три дни вы*ид*у*т*, и поча*л*сѦ радити и взѦлъ тры *ж*е*р*ди (Бава, 77); тые три речи захова*и* (Дыяр., 158); сакрамент тры речи значит (Зб. вып., 1).

Для *чатыры* былі тыя ж суадносіны мяккага і цвёрдага варыянтаў, але пры большай колькасці зыходных асноў — *чотыри, четыри, чтыри* і *чотыры, четыры, чтыры:* с8ма том8 чотыри тисѦчи копъ (ККК, 61, 1482); в него были четыри сны (Супр., 82); потокъ... розлучашесѦ во четыри реки (Скар. КБ, 11); Мишко з Мартиномъ... дымы четыры (ДМАМЮ, I, 69, 1525); Прышли чотыри рыцэры (Трыст., 10); а с тыми шлѦхты чотыры рожан (Рач; 112б); на чотыро*х* рогахъ буд8*т* чотыри ко*л*ца (Біблія, 143); жывности... возовъ чтыры (АСД, I, 251, 1616); цноты головныи чтыри тыи с8*т* (Дыяр., 172б); вси чотыры ме*шк*али (Зб. 82, 17); четыры были сакрамента (Зб. вып., 1б).

Рэшткі старажытнай формы назоўнага склону мужчынскага роду *трие, четыре,* якія ў асобных помніках старабеларускай пісьменнасці прэтэндуюць на варыянтную норму, сустракаюцца побач з *три, четыри* толькі ў тых помніках, якія наогул вызначаюцца большай сувяззю са старой пісьмовай традыцыяй: трие цри ...дары принесли (Чэцця, 114); тры к8сы хлѣбы вк8шаше (там жа, 8); пишутъ ... ѩко четыре евангелисты (Скар. ПЦ, 2); избито естъ мужовъ ... четыри тысещи (там жа, 11); четыре теже круги златыхъ зготуеши (Скар. КІ, 47).

Старажытныя формы р о д н а г а склону *трьи* і *четырѣ* таксама рана выйшлі з ужытку, і ў помніках старабеларускай пісьменнасці ўжываліся ўжо новыя формы, якія пад уплывам меснага склону займеннікава-прыметнікавага скланення набылі канчатак *-х.* У родным і месным склонах ужываліся таксама два варыянты форм, мяккі і цвёрды, пры перавазе мяккага (ад пералічаных раней асноў) — *трех, чотырех, четырех, чтырех* і *трох,*

*трэх, чотырох, четырох, чтырох:* а рок8 ωт трехъ недел далеи не имают ωткладат (Вісл., 12б); по светои малкгорете в трох недел*ѧ*х (КВЗС, 19, 1537); ωт чотырехъ царей ωтнѧлъ (Будны, 25); с тых всихъ дванадцати ωсоб выберэм трэхъ (Ст. 1566, 41); ωт чотырехъ ветровъ (Цяп., 34б); в чотырох милѧхъ ωт реки немна (Рач., 114); почали ωтпирати с трехъ сторон (Барк., 139б); ωбрано... на тот 8р*ѧ*д чтырех (Еўл., 40); п*ѧ*ть ихъ цареи против чотырех (Біблія, 35); четверо звир*ѧ*т ... ω чотырох крылах каждое и ω четирох р8ках (Бельск., 140б); до четырох недел (ККСС, 177б, 1616); трох ωсобъ ... виделем (Дыяр., 158б); зо всѣхъ частеи четырех свѣта (Зб. 82, 25); треба еще трех речей (Зб. вып., 4б). Пераважнае ўжыванне мяккага варыянта — гэта даніна правапіснай традыцыі, якая не паслядоўна вытрымлівалася нават у адным і тым жа помніку: с тых трех третеи королю дань идеть сто р8блевъ и тры (ККК, 165, 1487); на тры годы, тыи три годы, в тых его трех годех (АЛРГ, 81—82, 1498); тые теды дни чотыры, съ тыхъ теды чотырехъ дній (Пыт., 45).

Давальны склон у старабеларускай мове захоўваў старажытны канчатак *-мъ*, які далучаўся і ў гэтым склоне да мяккіх і цвёрдых асноў: тремъ братаникомъ ві копъ (ККК, 22, 1482); коу чти тремъ королемъ (Валх., 77б); мы казали имъ всимъ чотыремъ (КСД, 284, 1510); зведомо то тромъ чоловекомъ (КВЗС, 110б, 1539); по всим чотыром сторонам (Трыст., 46); по всим сторонам чотыремъ (там жа, 50); назначил тром сыном 8р*ѧ*ды (Стрыйк., 415б); сполечное бовѣм всѣмъ трем ест бозство (Варл., 163); всѣмъ чотырωмъ дозорцωм ... поданый скарбецъ ... бываетъ (Ст. бр., 13б); по трем дню ... такъ се молила (Зб. 82, 38). У рэдкіх выпадках пад уплывам адпаведнай старажытнай формы лічэбніка *два* ў некаторых помніках ужывалася форма давальнага склону ад *тры* і *чатыры* з канчаткам *-ма:* есче ль не роз8меете ... колько кошовъ взѧлисьте, а ни семи хлебовъ чотырма тисечамъ (Цяп., 22); маеть се ωповедати хор8жом8... а при немъ трема шл*ѧ*хтичомъ (Ст. 1588, 55).

Творны склон у старабеларускай пісьмовай мове часткова захоўваў спрадвечны для *тры* і *чатыры* канчатак *-ми:* тыи кнігы имеют быти за тремі ключи (Вісл., 42б); вела ... до храму ... со треми тельци и съ треми мерами муки (Скар. ПЦ, 6б); оу лѣтех ... тисѧцю стом шестіюдесѧт і четырми (Валх., 76б); тотъ юли8съ ... двад-

цатьма и треми ранами был забит (Атыла, 110б). Але асноўнай нормай была форма з новым канчаткам *-ма*, якi гэтыя лiчэбнiкi набылi пад уплывам давальна-творнага склону лiчэбнiка *два:* обмеженны зъ поддаными чотырема (АВК, II, 1, 1431); хочет намъ с того сельца трема панъцыри слꙋжити (ККК, 141, 1485); пѧть цареи воевалисѧ суть съ четырма (Скар, КБ, 26б); переедналъ былъ мене трима копами грошеи (КВЗС, 10б, 1533); хто бы з двема або з трэма жонами дети мелъ (Ст. 1566, 72).

Лiчэбнiкi *два* i *оба* ў глыбокай старажытнасцi скланялiся па парнаму лiку, меўшы родавыя адрозненнi ў назоўна-вiнавальным склоне: мужчынскi род меў форму *два* i *оба,* а нiякi i жаночы — *двѣ* i *обѣ.* У родна-месным для ўсiх родаў iснавала адна форма *дъвою, обою,* а ў давальна-творным — *дъвѣма, обѣма.* У працэсе развiцця адбывалася пераасэнсаванне i пераход гэтых лiчэбнiкаў у скланенне па множнаму лiку (па тыпу *тры, чатыры).* Лiчэбнiкi *два, оба* i пазнейшы *обадва* ў помнiках старабеларускай пiсьменнасцi прадстаўлены такiмi формамi, з якiх вiдаць, што гэты працэс пераходу хоць i вызначыўся канчаткова, але завяршыўся яшчэ няпоўнасцю. Тут суiснавалi элементы абодвух скланенняў.

У назоўным i вiнавальным склонах захоўвалася адрозненне па родах, але адбыўся iстотны зрух у пераасэнсаваннi значэння лiку. Характэрныя для старажытнарускага перыяду спалучэннi лiчэбнiкаў з назоўнiкамi парнага лiку *мужчынскага* роду яшчэ ўжывалiся ў XIV—XV стст.: тотъ маетъ старосте нашому заплатити два фунта перцу (АЗР, I, 24, 1388); а тые два братеника седита на ѡзере на Мѧделе (ДМАМЮ, I, 18, XV); пол ѡсмы копы грошей и два гроша [дани] (АЛРГ, 79, 1479); вышли два стараѧ моужа (Пак. Хр., 27); пославъ два варѧжина (Чэцця, 243); оба волъхва ... дали стмꙋ никите испити в чаши (там жа, 34б). Зрэдку яны сустракаюцца i ў помнiках больш позняга часу: през два месѧца (Троя, 65); два младыхъ козѣлца (Скар. ПП, 6); ѡба конца негодна соуть (Арыст., 140); воткнул есми у ворота ... два реестра ... обадва под печатью моею (АВК, XXXVI, 8, 1582); подложили емꙋ под ѡба локтꙗ рꙋки камен (Бельск., 47); покладано два декрета (ККСС, 24б, 1615); два мужа ... несли мене (Зб. 82, 21б); два были сакрамента (Зб. вып., 1б). Ужыванне такiх спалучэнняў тлумачыцца пэўнай устойлiвасцю старых пiсьмовых традыцый.

Новыя спалучэннi, дзе назоўнiк ужываецца ў множ-

ным ліку, набываюць статус нормы ўжо ў XV ст.: ставити имъ ... два ошытки пшеницы (АСД, I, 1, 1406); а ліхвы не дають два годы (Вісл., 28б); вы бо еста ѡба слоуги сотонины (Чэцця, 143); пошлет два члкы к полоцк8 (Віл., 441); два светки приступивши рекли (Пак. Хр., 7б); тыи два паны ... везваны (Валх., 67); а нине два цари есмо (ККК, 112, 1482); Володъку ... два чоловеки у Красном селе (ДМАМЮ, I, 57, XV); боронишасѦ два дни (Увар., 94); держати ему тое мыто два годы (АЗР, II, 1, 1506). У XVI і XVII стст. словазлучэнні *два, оба, обадва*+назоўнік мужчынскага роду ў множным ліку становяцца асноўнай нормай у помніках усіх жанраў: [наушницы] важили два сикли (Скар. КБ, 42); были в тотъ часъ м8жики два (КВЗС, 32, 1537); ѡба роздѣлы добри суть (Будны, 114б); тые обадва кони при почте князя (ПВЛ, 123б, 1567); прыехали два витези (Трыст., 3б); 8мерли ему ѡбадва браты (Рач., 119); под декретомъ два албо и три судьи подписатисѦ мають (Трыб., 31б); жебы два врѦдники ехали (Ст. 1588, 459); два члвки ... сноповъ м нажнут (Барк.,. 164); тые два патриархове ... розделили (Стрыйк., 413б); ѡбадва царе ... се поткали (Алекс., 28б); пришли до него два мужеве (Хр. польск., 4б); и южъ бы были два отцы (Пыт., 14); на*д* ѡ*д*ны*м* мѣсто*м* два бискупы быти не мают (Дыяр., 171б); пришли два жо*л*нере (Зб. 82, 6). Канчатак *-и* і ў назоўнікаў былога скланення на *-и* ў спалучэнні з гэтымі лічэбнікамі ў XVI—XVII стст. успрымаецца (па ўзору асноў на *-о*) як канчатак множнага, а не парнага ліку: ѡставилъ жон8 и два сыны (ККК, 152б, 1487); приведе к нем8 оба сыны своѦ (Скар. КБ, 88б); сѣдели тые дъва сыны мои (Цяп., 28); два вла*ст*ные сынове невла*ст*ные сыны сэ*р*цэмъ... вели спо*р* (Атыла, 111); домы обадва поспол з собою лежат (ССГВ, 80, 1633).

У спалучэннях форм *жаночага* роду гэтых лічэбнікаў *(двѣ, обѣ, обедвѣ)* з адпаведнымі формамі назоўнікаў таксама адбывалася пераасэнсаванне і пераход на множны лік, але павольней. Прыкладна з аднолькавай частатой у старабеларускіх помніках гэтыя лічэбнікі спалучаліся і з назоўнікамі ў форме парнага ліку і з назоўнікамі множнага ліку. Найлепш гэта відаць на назоўніках скланення на *-а*, дзе канчаткі множнага і парнага ліку адрозніваліся (чаго не было ў назоўніках жаночага роду асноў на *-і*): две земли... де*р*жалъ и две сл8*ж*бе служивалъ, две косы два топоры бывали (КВЗС, 32б, 1537);

ωбирати маютъ ... з воеводства по две ωсобы (Трыб., 2б); в томъ воеводстве будетъ по две ωсобе (Ст. 1588, 73); за кони або за сверепѸ две копы грошеи ... за третичкѸ сверепкѸ две копе грошеи (Ст. 1588, 512); обедве стороны рокъ собе у трыбуналу о тую ж присегу ... утворили и обедве стороне вряд обвинили (АВК, XXXII, 58, 1596); зродил теды адам двѣ дочки (Біблія, 21); мешкалъ в печере сам и двѣ дочцѣ его (там жа, 48); ω невыдане ... по две копе грошеи ...[праз 1 радок] по две копы грошеи (ККСС, 61б, 1615); двѣ корчмѣ въ мѣстѣ кобрынскомъ (АЗР, V, 4, 1633); двѣ корчмы вольныхъ у Кобрыни жъ (там жа, 3). Суіснаванне форм парнага і множнага ліку ў пісьменнасці тлумачыцца тым, што парны лік у той час быў жывой з'явай у пэўнай частцы беларускіх гаворак.

Сказанае адносіцца і да лічэбнікаў *ніякага* роду. У большасці выпадкаў ніякі род лічэбніка захоўваў у назоўным і вінавальным склонах старую форму парнага ліку *(двѣ, обѣ, обѣдвѣ)* пры непаслядоўным ужыванні новых форм назоўніка ў адпаведных спалучэннях, што сведчыла аб пераасэнсаванні значэння ліку і ў гэтых словазлучэннях: за две лете (Вісл., 21); Володимеру... две сели (ДМАМЮ, I, 24, XV); пашъку а федку по две дѦкле ржи (ККК, 69, 1487); несетъ ωбе плече ... оузнѦвши (Валх., 71); далъ ему двѣ дворыща (АВК, XXIV, 13, 1507); възбръмѦт обѣ уши его (Скар. ПЦ, 10); двѣ ли лѣте миноуло (Супр., 73); взиал ... седла две (КВЗС, 146б, 1540); еретик двѣ началѣ всѣм речамъ быти наоучал (Будны, 112б); две очи маючи (Цяп., 24б); на ωбе колени падаи (Трыст., 59); двѣ толко мѣстца споминаетъ намъ (Пыт., 58); на ωбѣдвѣ ωци ωслѣпил (Стрыйк., 466); коли ωбѣдвѣ воиска яко на двѣ стрѣлбища ... стягнулисе (Стрыйк., 533б); оучинилъ бгъ двѣ свѣтила (Хран., 3); мешкала двѣ лѣте (Зб. 82, 21). З канца XV ст. у беларускіх помніках пачынае пашырацца форма *два, обадва* і ў спалучэннях з назоўнікамі ніякага роду: писаремъ по два дякла ржы (АЛРГ, 39, 1482); якож два младых ланѦта (Зб. 262, 84); два сукна ... маетъ емѸ заплатити (КСД, 134, 1514); взяли два Ѹзголовъя (КВЗС, 10, 1533); естли бы ωбадва Ѹха Ѹтялъ ωбедве ωка (Ст. 1588, 426); была там седмъдесят и два княжаты (Біблія, 29); два колца нехай будѸт на ωдном боку (Біблія, 139); то были два поколѣня (Стрыйк., 426); присеглисе ωбадва тронята (там жа, 526); скасовавшы тые два селища (ККСС, 190б, 1617); тые обадва крещеніѦ спасают

человѣка (Навука, 13). У XVI—XVII стст. гэта форма стала другой нормай, што сведчыла аб актыўнасці працэсу аб'яднання форм мужчынскага і ніякага роду.

Першапачатковая форма р о д н а-м е с н а г а склону парнага ліку, якую меў лічэбнік *два* і *оба* для ўсіх родаў *(двою, обою),* у помніках старабеларускай пісьменнасці ўжывалася зрэдку ў пэўнай формуле актавай пісьменнасці: мели... давати... по гусяти и по двою куровъ (АЛРГ, 126, 1507); платить винни... по двою куровъ (АСД, III, 282, 1560). Гэта назіраецца і ў некаторых творах рэлігійнай літаратуры з адзнакай традыцыйнасці пісьма, у тым ліку ў цытатах з царкоўнаславянскіх крыніц: овець... вси имеюще по двою ѫгнетокъ (Скар. ПП, 5); поими съ собою ... два да при ѹстѣх двою или трех свѣдетелеи станеть всѧкъ глъ (Будны, 249б). У асобных помніках засведчана адрозненне па родах і ў гэтым склоне, што ішло не ад старой традыцыі, а з жывой мовы, хоць выкарыстана форма лічэбніка старая: гроуда в обею оушеи (Пак. Хр., 12); умыслъ свой къ которому доброму концу обѣю панствъ обернулъ (АЗР, I, 373, 1506).

Пісьмовая традыцыя трывала захоўвала другую старажытную форму родна-меснага склону гэтых лічэбнікаў — *дву, обу, обудву.* У помніках XV і XVI стст. яна ўжывалася шырока, на правах факультатыўнай нормы, асабліва форма *дву:* абы веньци не слали ѡдно двѹ слѹгъ (Вісл., 17); ѹвезатисѧ ѹ двѹ неделѧх а по семои сѹботе (ККК, 39б, 1482); то ѡсмъдесѧт грошей безъ дву грошей (АЛРГ, 67, 1496); ихъ двоу рѧдителю вечне оуставили (Валх., 67); взялъ ... животины пятьдесять безъ двѹ (КСД, 68, 1510); написалъ на дву доскахъ каменныхъ (Скар. ДЗ, 13); о выгнании ихъ обудву з раю (Скар. КБ, 12); моихъ двѹ частеи выделити не хочеть (КВЗС, 51б, 1538); даи ми розѹмъ тых двѹ (Сівіла, 6); жеребцовъ чотыри по дву летехъ (АВК, XXII, 156, 1565); кого хочете зъ дву (Цяп., 40б); мѣлъ дву сыновъ (Атыла, 11б); и двѹ копъ грошеи не стоѧло (Ст. 1588, 529).

У дзелавой пісьменнасці форма *обу* і *обудву* асабліва пашырана ў словазлучэнні *з обу (обудву) сторон:* и ихъ речеи з обѹ сторонъ выслухавъшы (КВЗС, 72б, 1538); и доводы выслѹхавъшы з обѹдвѹ сторонъ (там жа, 114); оказали намъ знаки зъ обудву сторонъ (АСД, I, 67, 1546); з обѹ сторонъ наганили (Ст. 1588, 372); з обѹ сторонъ прыехали (ККСС, 44, 1615); конътроверсыи з ѡбѹдвѹ сторонъ вносили (там жа, 65б). Формула з *обу (обудву) сторон* сустракаецца і ў помніках іншых жан-

раў: 8дарыли 8 б8бны... с обу сторо*н* (Трыст., 30); зы*шлис*ѧ полки с обу сторонъ (Рач., 119); з обу сторо*н* немало пало (Барк., 158): тѣсно ми зъ обудву сторонъ (Пыт., 64). Частковая кантэкстуальная абумоўленасць гэтай формы гаворыць аб пэўнай традыцыйнасці яе ўжывання.

Новай, нетрадыцыйнай, выступае ў беларускіх помніках форма *двух, абудвух* (радзей *обух*), якая ўтварылася ў выніку збліжэння скланення гэтых лічэбнікаў са скланеннем *тры* і *чатыры* і пад уплывам прыметнікаў-азначэнняў у спалучэннях тыпу *двух добрых сынов.* Яна выступае ў якасці асноўнай нормы ў помніках розных жанраў з XV ст.: а хто двухъ лѣтъ жеребя забьеть (Вісл., 18); ѡпроча ты*х* дв8*х* чоловековъ (ККК, 142б, 1485); выправивши ѡны*х* двоухъ оучьновъ (Пак. Хр., 2б); послалъ пре*ж* себе двоу*х* чл҃вкъ (Увар., 99); двухъ копъ не ѡ*т*далъ (КСД, 5, 1510); 8 двухъ копъ не ѡ*т*далъ (КСД, 5, 1510); 8 дву*х* недел[illegible]хъ (КВЗС, 26, 1537); съ двухъ речеи человѣкъ е*ст* зложонъ (Будны, 192); мае*т* поставити дву*х* ѡсобъ (Ст. 1566, 32б); котории зъ обудъвухъ (Цяп., 29б).

З XV ст. у дзелавой пісьменнасці з'яўляецца і форма *двох,* якая ўтваралася шляхам далучэння канчатка *-х* да асновы ранейшага парнага ліку: давати будуть... зъ волокъ двадцати и осминъ двохъ ... по копѣ жита (АВК, II, 2, 1431). У XVI ст. яна сустракаецца ў большым коле помнікаў і не толькі дзелавых: подъ виною двохъ тысечы копъ грошей (АЮЗР, I, 33, 1507); войтовъ ... двохъ або трехъ обравши (КПД, 185, 1564); ѡ недаванью двохъ достоенъствъ... ѡдно*и* ѡсобе (Ст. 1588, 44); двох апостоловъ... с8кцесыю... в нивошто ѡборочаемъ (Унія, 19). У XVII ст. адзначаная форма побач з формай *двух* набывае правы варыянтнай нормы ў вялікай групе помнікаў розных жанраў: сына ѡбуди*в* и дв8*х* младе*н*цовъ (Біблія, 51); сыно*в*... двохъ породила жона мо[illegible] (там жа, 98); з обо*х* сторо*н* (там жа, 136); выправи*л* дву*х* еппо*в* (Бельск., 319); ты*х* дво*х* п8стн*т* каза*л* (там жа, 319б); рогвол*д*а и дв8*х* сыно*в*... заби*л* (Стрыйк., 445); сплоди*л* дво*х* сыно*в*... а еще за живота ѡбо*х* подѣли*л* (там жа, 515): слова... ѡ дв8хъ церквѧхъ (Карп., 7б); носили ѡбраз ... дво*х* ц҃рквеи (там жа, 6б).

Пашырэнне гэтай формы ў XVII ст. можна растлумачыць больш актыўным удзелам у культурным жыцці Беларусі выхадцаў з яе паўднёва-заходняй часткі (а часам і з Украіны), для гаворак якіх адзначаная форма

была жывой з'явай. Таму ў асобных помніках форма *двох, обох, ободвох* выступае ў якасці асноўнай нормы: обѡх сынѡвъ... прійм8ет (Каліст, 18); обачилъ др8гихъ двохъ братѡвъ (Каліст, 6б); з двохъ приказанѦхъ (Варл., 93б); до ѡбохъ насъ ... любовъ (Сматр., 6); ѡ забране кони двох з возом (Дыяр., 171); з ѡбох сторон (там жа, 178б); нас ѡбодвохъ ѡхоронил (там жа, 152б); над обохъ горшее (Бяр., 209); нѣкій, або еденъ з двѡхъ (там жа, 282). Пранікала гэта форма нават у творы, напісаныя на паўночным усходзе Беларусі: пасылали до митрополита двохъ ѡсобъ ѡт дховных а двох с кола рыцерского (Барк., 146б); за насожоване двохъ рыдловъ (ИЮМ, Х, 102, 1695).

Частата ўжывання лічэбнікаў *два, оба, абадва* ў давальным склоне была намнога меншая, чым у родным, таму з меншай дакладнасцю прадстаўляецца магчымым апісаць ужыванне ў беларускай пісьменнасці варыянтаў форм давальнага склону. У агульных рысах і тут наглядаецца тая ж заканамернасць, што і ва ўжыванні форм роднага склону. Старая форма давальна-творнага склону парнага ліку *дъвѣма (обема)* у сваім першапачатковым выглядзе, калі і лічэбнік і назоўнік ужыты ў аднолькавай форме, у старабеларускай пісьменнасці сустракаецца толькі ў асобных творах, напрыклад у кнігах Ф. Скарыны: суть всѦ, елика 8чинилъ есть господь богъ сима двема царема (Скар. ДЗ, 11б); поведилъ обема братома своима (Скар. КБ, 21). Спалучэнні ж, дзе лічэбнік стаіць у старой форме, а назоўнік — у новай, у форме давальнага склону множнага ліку, даволі трывала ўжываліся ў дзелавых, летапісных, рэлігійных і мастацкіх творах не толькі ў XV і XVI стст., але і ў XVII: сыномъ довоиновича двема... е копъ (ККК, 56б, 1482); и рекла наами двѣма невѣсткамъ своимъ (Зб. 262, 31); рокъ есми тымъ ѡбема присѧгамъ положили (КВЗС, 114б, 1539); ѡбема панѦм ... исполнилосѦ серцэ (Трыст., 52); жонкам двѣма призволено было до комнатъ (Карп., 161); приказал тежъ и двѣма тисечом ездныхъ (Алекс., 11); 8богим ... и м8ченикомъ ... ѡбема царство небесное прис8дилъ (Зб. 255, 221б). Але вырашальны зрух у пераходзе на новую форму, форму множнага ліку, адбыўся і ў давальным склоне. Па тыпу *тремъ, четыромъ* і пад уплывам адпаведных назоўнікаў і займеннікаў, з якімі спалучаліся гэтыя лічэбнікі, формы *два, оба, обадва* набылі канчатак *-мъ*. Утвараліся новыя формы да-

вальнага склону таксама ад двух відаў асноў — *дву-* і *дво-*. Першая адзначаецца з XIV ст., а ў XVI і XVII стст. становіцца асноўнай нормай у большасці помнікаў: двумъ хрестьяномъ... свѣдетство допущено маеть быти (АЗР, I, 23, 1388); е копъ з мыта в ковне левъковичомъ дв8мъ (ККК, 55, 1482); имѧ дв8*м* сномъ его магълон и хильен (Зб. 262, 31); дв8м паномъ служити (Цяп., 8); а шло бы имъ ωб8двумъ сторонамъ ω ωдн8 речъ (Ст. 1588, 190); 8знавшы перед собою фор8мъ ты*м* ωб8двум справа*м* (ККСС, 254б, 1618). Форма *двом* фіксуецца з канца XV ст., але найбольшае пашырэнне набывае ў XVII ст., калі ў шэрагу помнікаў (тых, што і форма роднага склону *двох*) набывае правы асноўнай нормы: пушкарем двом путивльским 12 коп грошей (АЛРГ, 86, 1499); двомъ паномъ ... жаденъ служити не может (Пыт., 30); постъ обωмъ естъ потребенъ (Каліст, 75б); цѣлост дво*м* ты*л*ко релѧмъ... ωтнѧли (Дыяр., 170б); пожитки не ωдном8 мѣсту, або дво*м* або десѧтомъ... ωтнесли (Зб. 82, 9); двомъ человекомъ дали золот. два (ИЮМ, VII, 190, 1690).

Творны склон захаваў старажытны канчатак *-ма*, але і тут адбылося пераасэнсаванне формы па множнаму ліку. Першапачатковая форма парнага ліку была ўласціва толькі асобным помнікам. Як норма яна ўжывалася ў Аповесці аб трох каралях-валхвах: двѣма конома и трима слоугама может се ωбыити (с. 62); есть поставленъ межи двѣма криницема (с. 86). Паралельна з новай яна выкарыстоўвалася ў кнігах Ф. Скарыны і Бібліі пачатку XVII ст.: естъли же будет прѧ межи человекома двема (Скар. ДЗ, 47); пришол.. со обема сыны (Скар. КЛ, 2б); вышла... съ ωбѣма нѣвѣсткома (Біблія, 137б); держи обѣма р8ками (там жа, 139б). Асноўнай жа нормай праз усю старабеларускую пісьменнасць праходзіць пераасэнсаваная форма, г. зн. у спалучэнні з іменамі творнага склону множнага ліку: сл8жебнікъ съ двема сл8гами (Вісл., 16б); слово божіе ѧко мовѧть р8ками принѧли (Будны, прадм., 3б); мѣлъ з вами двема товарышство (Трыст., 43); начнеть кнѧжыти... ωбема тыми кнѧжаньи (Рач., 114); межы тыми двема сторонами (Ст. 1588, 345); видѧчи его межи двѣма розбойниками (Карп., 20); жегнаемсѧ... трема, двѣма палцами (Зб. вып., 144б). У тых жа помніках, у якіх наогул пераважаюць асновы *дво-*, і ў творным склоне канчатак *-ма* далучаўся да гэтай асновы: гетманов дво*х* на чоло а третег з двома по*л*ками

ў загоны выправил (Стрыйк., 517); ѡбовѦзавши оуслꙋгами двома (Сматр., 35); казали мꙋшкет набити двома кꙋлями (Дыяр., 178б). Форма творнага з асновай *дву-* зафіксавана ў XVI ст., але вялікага распаўсюджання яна не мела: съ тыми двума санчаками (АЗР, II, 341, 1537).

**Другі** тып лічэбнікавага скланення сфарміраваўся на базе лічэбнікаў *пяць — дзевяць* і *дзесяць,* якія ў глыбокай старажытнасці скланяліся па адзіночнаму ліку назоўнікаў з асновай на *-і* (*пяць — дзевяць*) і па тыпу назоўнікаў на зычны ва ўсіх трох ліках (*дзесяць*). Помнікі старабеларускага перыяду адлюстроўваюць той этап у развіцці гэтага тыпу скланення, калі на базе двух адзначаных склаўся адзін агульны для *пяць — дзевяць* і *дзесяць* тып (з вытворнымі ад яго лічэбнікамі), а таксама адбываўся ўплыў скланення папярэдніх лічэбнікаў (*два, три, чотыри*), у прыватнасці на выпрацоўку форм творнага склону.

У назоўным склоне лічэбнік *пяць* ужываўся ў адной форме, а астатнія лічэбнікі мелі фанетыка-арфаграфічныя варыянты. Гэта былі *шесть* (асноўная) і *шэсть* (Ст. 1566), першапачатковая форма *седмь(ъ)* і новая *семъ(ь),* для *васьмі* асноўным варыянтам быў *осмъ* і зрэдку ўжывалася ў другой палавіне XVII ст., відаць, пад польскім уплывам форма *осемъ,* а таксама *восемъ* і *восмъ(ь). Девять* і *десять* мелі яшчэ раўнапраўны варыянт *деветь* і *десеть.*

Лічэбнікі гэтай групы ў н а з о ў н ы м (і в і н а в а л ь н ы м) склоне праз увесь старабеларускі перыяд захоўвалі спрадвечны (нулявы) канчатак: емꙋ вынѦл... ѡсмь копъ гроши (Вісл., 31б); солътанꙋ... десѦт копъ з мыта (ККК, 17, 1482); миколаю десеть копъ (там жа, 24); сполнѦтсе пѦть тисечеи лѣт (Пак. Хр., 28); коли сполнѦтсе... дѣвѦт лѣтъ (там жа); вси грады двадесет и деветь (Скар. ІН, 31б); мает седети... шэст недель (Ст. 1566, 17); идуть шест чоловеков (Трыст., 35б); взял волов оремых восемъ (АВК, XXXVI, 28, 1582); вина пенежная двадцать ѡсмъ грывенъ (ККСС, 36б, 1615); през ѡсѣм лѣтъ (Зб. 752, 13б); сѣдѣли... семъ дней и семь ночей (Хран., 57); есть тылко седмъ сакраментовъ (Зб. вып., 2). Адзначаная фанетычная варыянтнасць праяўлялася і ва ўскосных склонах, дзе таксама і *пять* мела варыянт (*пети, петьма*) і г. д.).

У р о д н ы м, д а в а л ь н ы м і м е с н ы м склонах першапачатковы канчатак *-и* захоўвалі лічэбнікі *пять — девять,* а пад іх уплывам і лічэбнік *десять* ранейшы кан-

чатак роднага і меснага склонаў адзіночнага ліку -*е* замяніў на -*и*: подкоморьимъ по шесті грівен (Вісл., 30б); продали... корчмы... семи чоловекомъ (ККК, 36, 1482); т8 на8чение седми на8къ вызволеныхъ (Скар. КБ, 3); приставилъ шапък8 з десяти р8блев (КВЗС, 11, 1533); по шесьти днѦхъ (Цяп., 55); за кождое дерево... по ѡсми грошеи (Ст. 1588, 309); в десети днях (Еўл., 16); девети члвковъ... ставити хочетъ (ККСС, 1615); маючы пры собе... пети шляхтичовъ (КЛС, 2б); по девѦти мсцах воротил (Зб. 82, 16б). Гэты канчатак у пералічаных склонах быў адзінай нормай пісьменнасці, а асобныя выпадкі ўжывання іншых канчаткаў адлюстроўвалі індывідуальныя рысы аўтараў. Да такіх належыць спарадычнае ўжыванне ранейшага канчатка множнага ліку давальнага склону -*мъ* і канчатка -*ма* парнага ліку: Ивашку десеть чоловековъ... имѦ тымъ десятемъ чоловекомъ (ДМАМЮ, I, 4, XV ст.); пѦти хлѣбовъ пѦтьма тисѦчамъ... взѦлисьте (Цяп., 12); приподобитьсе... десѦтьма девъкамъ (там жа, 35); тымъ шестма головы постиналъ (Бава, 73б); пожытки не ѡдному мѣсту, або двом або десѦтомъ або едином8 народови... ѡтнесли (Зб. 82, 9). Часам сустракаецца ранейшы канчатак множнага ліку роднага склону -*хъ*: зъмежи седмихъ дней одинъ былъ (Пыт., 71). За межамі нормы знаходзіцца і запазычаны з польскай мовы канчатак -*ю*: ѡ зб8рене домовъ шестю (ККСС, 15, 1615).

У творным склоне лічэбнікаў *пять — десять* існавала аж тры варыянты форм. Самай пашыранай ва ўсіх жанрах пісьменнасці, уключаючы і дзелавую, была форма з канчаткам -*ма*, які быў раней уласцівы скланенню *десять* (і вытворным ад яго) у парным ліку, а пазней падтрымліваўся адпаведнай формай лічэбнікаў *два* і *тры*, *четыры*: имеет... досветчит шестьма светкы (Вісл., 34); а восхочеши болши [правіцеляў] но до десѦти занже десѦтма наполнѦютсѦ (Арыст., 168); десетма копам гршэи две недели (Ст. 1566, 63); з двадцатьма пѦтьма тисечеи 8гров (Атыла, 11б); был первеи на кнзство литовское взѦтъ ниж на королевство польское семма годы (Рач., 137); тотъ бы межи тыми деветма светки не ѡбралъ трех (Ст. 1588, 362); пятма хлѣбы пять тисячей народовъ насытилъ, также и седма — чотыри тисечи (Пыт., 48); для того жегнаемсѦ пѦтма, четырма, трѣма, двѣма палцами (Зб. вып., 144б). Апошні прыклад можа сведчыць, што ў пашырэнні гэтага канчатка ў творным склоне *пяць — дзевяць* адыгрывала сваю ролю і аналогія творнага скло-

ну *два — чатыры*. Маглі падраўнівацца нават асновы: за садибами двома и моргами шестома на городзи забудованье (АВК, II, 1, 1431).

На другім месцы па частаце ўжывання ў старабеларускіх помніках была форма творнага склону з канчаткам *-ью*, які раней быў уласцівы гэтым лічэбнікам у адзіночным ліку. Кола помнікаў, дзе ўжывалася гэта форма, ахоплівае асноўныя жанры пісьменнасці, але ў дзелавых яна сустракаецца рэдка: его детемъ... двор нашъ у Смоленску съ семю чоловеки (ДМАМЮ, I, 271); пѧтью хлѣбы е тысещь моужеи накормилъ (Чэцця, 255б); тягнул кнзь... с пѧтью тысѧчми валечных (Троя, 63); если бы пѧтю мнѣй нашлосѧ (Біблія, 99); и пановал над десѧтю поколѣнии (Бельск., 129); приехал... з ѡсмью тисѧчей рицерства (Стрыйк., 466б). Тое, што гэта форма дажыла ў беларускай мове да нашага часу і стала нормай літаратурнай мовы, сведчыць, што яна была жывой для часткі гаворак старой беларускай мовы. Але ў якасці асноўнай нормы старабеларускай пісьменнасці выкарыстоўвалася форма парнага ліку, уласцівая паўднёва-заходняй зоне беларускіх гаворак.

Жывыя гаворкі захоўвалі і форму множнага ліку з канчаткам *-ми*, якая пранікала і ў пісьменнасць: двор ... из шестьми слугами (ДМАМЮ, I, 25, XV); королевал над стем двадцат и пѧтми змлѧми (Валх., 46б); передъ шестми сенаторами (АЗР, IV, 163, 1597); мене семми поврозовъ звѧзано (Біблія, 132б); порѧдок... седми сенодами поставленыи (Дыяр., 162). Апошняя форма хоць і была жывой, але ў старабеларускай пісьменнасці выступала факультатыўнай у параўнанні з дзвюма папярэднімі.

Такая ж сістэма канчаткаў уласціва і вытворным ад папярэдніх складаным лічэбнікам з другой часткай *дзесяць (-дцать, -тцать, -десять)*. Але ў гэтых групах існавала пэўная варыянтнасць за кошт ужывання розных словаўтваральных тыпаў з неаднолькавымі марфалагічнымі ўласцівасцямі. Так, у групе лічэбнікаў ад *адзінаццаці* да *дзевятнаццаці* ўжо к XV ст. склаўся тып з другой скарочанай часткай *-дцать (-дцеть)*: сума того одинадцать копъ (АЮЗР, I, 16, 1444); Миклашу тринадъцать копъ (ККК, 16б, 1482); ув Оболцох чотырнадъцать чоловеков (ДМАМЮ, I, 10, XV); а вины пѧтнадцет гроши а сȣдови дрȣгаѧ пѧтнадцеть (Вісл., 30); Сопезе... семнадцать чоловековъ (ДМАМЮ, I, 45, XV). Гэты тып, дзе цалкам

страцілася самастойнасць першапачатковых састаўных частак, дзе адбыліся фанетычныя спрашчэнні і ўтварылася слова з канцавой флексіяй ва ўскосных склонах, быў асноўнай нормай беларускай пісьменнасці ў XVI і XVII стст. і меў тыя ж канчаткі ва ўскосных склонах, што і разгледжаныя вышэй лічэбнікі (*пять* — *десять*): ѡчіщеніе двена*д*це*т*ма све*т*кома (Вісл., 32); с одинадцатью 8чни (Пак. Хр., 35б); искалъ... шестъна*д*цати грошеи (КВЗС, 22б, 1537); по ... зглаже*н*ю ... всих дванадцати поколени (Будны, 3); маютъ быти роки... дванадцатма копам и три*д*ца*т*ма (Ст. 1566, 63); бово 8текъ деветнадцати стѦвшы (Бава, 73б); заставилъ.. все у восмнадцати коп грошей (АВК, XXXIX, 327, 1579); на*д* двана*д*ца*т*ми возными ѡдинъ (Барк., 144); по чоты*р*на*д*цати копъ ... чыни*т* (ККСС, 241, 1618); поклониса двана*д*цатемъ богамъ (Пролаг, 505б); наняли петнадцати человековъ (ИЮМ, XI, 83, 1697). Разам з тым у пісьменнасці працягвалі па традыцыі ўжывацца архаічныя тыпы і пераходныя, для якіх была характэрна поўная або частковая здольнасць кампанентаў змяняцца самастойна. Самы архаічны тып, дзе змянялася першая частка, а другая нязменна захоўвалася ў месным склоне, у беларускай пісьменнасці сустракаецца рэдка ў помніках з прыкметамі царкоўнаславянскага ўплыву: надъ двемнадесѦте коленома (Скар. ПЦ, 2б); ап*с*ли единонадесѦте собрани (Зб. вып., 87б). Той жа тып, дзе другая частка з'яўляецца не месным склонам, а назоўным або родным (пры зменлівасці першай часткі), ужываўся факультатыўна ў шэрагу помнікаў, пераважна рэлігійных (Чэцця, Сівіла, Зб. 255, Зб. вып.), часткова ў палемічных (Апакр., Дыяр.) і ў некаторых дзелавых помніках XV ст.: давати... зъ каждого городу сноповъ пятьнадесять (АВК, II, 2, 1431); церковъ у Володимери светых апостолъ двунадесѦть (ДМАМЮ, I, 53, XV); исповедали все то ѡдномунадесѦть ап*с*лъ (Чэцця, 282); по летех ... тысеща пѦтистехъ и девѦтинадесѦть (Скар. КЕ, 26); ап*с*ловъ было дванадесѦтъ (Апакр., 102б); имѣть клѧтв8 триста и ѡ*с*мънадесѧт (Дыяр., 153); жила лѣтъ петнадесѧ*т* (Зб. 255, 347); першіи с8ть дванадесѦтъ избранныи ѡ*т* г*с*да (Зб. вып., 87б). Гэты тып у якасці стабільнай нормы выступае толькі ў кнігах Ф. Скарыны. Правіла скланяць першую частку ў гэтых лічэбніках не вытрымлівалася, відаць, пад уплывам жывога тыпу, таму ў аўтараў, якія выкарыстоўвалі старыя лічэбнікі, яны ўжываюцца таксама і з канчаткамі ў абедзвюх частках і з канчат-

кам толькі ў апошняй частцы: сѦдете и вы на двунадесети престолѣх судѦще обемонадесетема коленом ізраилевым (Скар. ДЗ, 4б); по летехъ... тысеща пѦтистехъ и деветьнадесѦти (Скар. ДП, 40); егда боудет по четырьнадесѦти стех летех (Сівіла, 5); стережи себѣ... ѡнѧх двоюнадесѦтех домох (Неба, 63б); ѡдиннадесѧтем 8чеником своимъ вымовлѦл (Зб. 255, 60); Іѡсифъ был лѣтъ семинадесѦти (Хран., 59).

Відаць, як даніна старой традыцыі, як імкненне адштурхнуцца ад прастамоўя ўжываўся і такі тып складаных колькасных лічэбнікаў, дзе другая частка цалкам трансфармавалася ў *-дцат (-дцеть, -тцать)*, але канчаткі набывала і першая частка. Ён сустракаецца галоўным чынам у дзелавой пісьменнасці XV—XVI стст., радзей у помніках іншых жанраў: колиж деті молодыи ниж дв8надцеті лет (Вісл., 26б); сума того одиннадцать копъ безъ петинадцати (АЮЗР, І, 16, 1444); ѡтослати... в трехнадъцати неделѦхъ (ККК, 159б, 1487); тебе выбрал апстлом ѡдным зе двоухнадцети (Пак. Хр., 1б); оу летех векоу своего в шестинадцать и ве стоу (Валх., 67б); даломъ... прутовъ седминадцать и полъ (АВК, XXIV, 447, 1586). Пашыраны гэты тып у парадкавых лічэбніках адзначанай групы, дзе ён у абазначэнні дат і нумарацый быў нормай летапіснай і дзелавой пісьменнасці, а таксама ўжываўся і ў помніках іншых жанраў: сталосе есть... в осмомнатьцеть лете кнѦженьѦ его (Пак. Хр., 16); лѣта Божьего тисяча пятьсотъ шостогонадцать (АСД, ІІІ, 5, 1516); лета божьего тисяча пятьсотъ первогонадцать... индикта пятогонадцать (АЛРГ, 151, 1511); припадалъ четвертыинадцать день л8ны (Унія, 23б); 8меръ... третеенадцать годины (Рач., 144б); м҃ца ѡктобра первогонадцать дни (Дыяр., 154); мѣсеца іюля шостогонадцать дня, индикта четвертогонадцать (АЗР, V, 3, 1633). Штучнасць, традыцыйнасць такіх напісанняў асабліва відавочна там, дзе пісар, каб пазбегнуць аднастайнасці, ужывае штучную і жывую народную форму адначасова. Апошняя падкрэслівае штучнасць першай. Так, у Статуце 1588 г. сістэмна праведзена напісанне наверсе старонкі народных форм, а далей нумары раздзелаў абазначаны кніжнай формай: Розделъ тринадъцатыи... розделъ третиинадцать ѡ грабежохъ (с. 508); Розделъ чотырнадъцатыи... розделъ четвертыинадъцать ѡ злодеистве всѦкого стан8 (с. 519). Падобным чынам паступалі пісары і ў іншых выпадках, дзе здаралася ўжываць побач два лі-

чэбнікі: семна*д*цатого дн҇а индыкта второгона*д*цать (ККСС, 17, 1615); м*с*ца ма҇а ѡсмогона*д*ца*т* дн҇а а др8 ги*и*... семна*д*цато*г* дн҇а (там жа, 75).

Падобнае становішча ў старабеларускай пісьменнасці займалі і лічэбнікі *двадцать* і *трыдцать*. Ад астатніх лічэбнікаў гэтай групы (беспрыназоўнікавага ўтварэння) яны адрозніваліся тым, што другая частка ў іх з самага пачатку мела аднолькавую склонавую форму з лічэбнікамі папярэдняй групы (*адзінаццаць — дзевятнаццаць*), прайшла тую ж эвалюцыю ў *-дцать* (*-тцать, -дцеть, -тцеть*) і зрашчэнне ў адно непадзельнае слова з адным канчаткам пры апошняй частцы. Такая форма была нормай амаль усіх помнікаў старабеларускага перыяду пачынаючы з XV ст.: оу три*д*цати годовъ може*т* ѡк8пити тое дѣдичство (Вісл., 20б); к8пованъ... по два*д*цати гроше*и* (ККК, 16, 1482); золотый по двадцати грошей (АЛРГ, 92, 1499); коро*л* королева*л* над сте*м* двадца*т* и пѦтми змл҇ами (Валх., 46б). Тыя ж нешматлікія выпадкі ўжывання старой формы, якія сустракаюцца ў асобных дзелавых і рэлігійных помніках, выкарыстаны толькі як стылявы сродак: лѣта Божого тысеча четыриста тридесять первого (АВК, II, 1, 1431); приходить дани двадесять пудовъ меду (АСД, II, 6, 1506); то*т*... за тридес҇а*т* сребренико*в* прода*л* (Зб. 107, 106); и ины*х* ста и двадес҇а*г* молитвы (Зб. 255, 64); архимандрита повѣненъ мѣти лѣтъ тридесѦтъ (Зб. вып., 70б). Выключэннем з'яўляюцца кнігі Ф. Скарыны, дзе старыя формы *двадесѦть, тридесѦть,* як і іншыя традыцыйныя сродкі, выкарыстоўваюцца не са стылявымі мэтамі, а як сістэма, як норма: людемъ младымъ предъ тридесетма леты (КБ, 8); знаидутсѦ ль и*х* тамъ двадесеть рече не погублю длѦ двудесѦти (там жа, 33). Для мовы Ф. Скарыны вядомы і жывыя формы гэтых лічэбнікаў: не дочолсѦ мужовъ... без одного два*д*цети (ДЦ, 70); продали с8ть и за тридцѣть сребреникъ (КБ, 69). Але апошнія ў Скарыны з'яўляюцца неасноўнымі, другараднымі.

Наступныя лічэбнікі гэтага скланення (*чотырдесятъ— девятьдесятъ*) адрозніваліся ад *дваццаці* і *трыццаці* ў пачатку сваёй гісторыі тым, што ў зыходнай форме (назоўным склоне) другая частка ў іх уяўляла сабой родны склон множнага ліку (*-десятъ*). У далейшым яна захавалася, не адбылося трансфармацыі ў *-дцать* (*-ццаць*), а гэта адбілася і на формазмяненні. Праз увесь старабеларускі перыяд даволі трывала захоўвалася таксама

асноўная якасць гэтай групы — набываць склонавыя формы толькі ў першай частцы: в томъ послалисѧ на левъка ... с петидесѧтъ копъ грошеи (ККК, 152, 1487); з... семьюдесеть кораблев рыцерьства... приплынул (Троя, 15б); в деветидесѧт и в девети летех (Скар. КБ, 30); запродалъ мне поле свое ȣ восмидесѧтъ грошах (КВЗС, 20, 1533); зъ шестмадесѧт братов (Атыла, 111б); бȣдеть виненъ ... по петидесѧтъ копъ грошеи платити (Ст. 1588, 426); зоставȣетъ ... село... в стȣ восмидесѧтъ и пети копах грошеи (ККСС, 73, 1615). Але з XV ст. пранікае ў пісьмовыя помнікі і сучасная форма з двума канчаткамі: возвавши... матку и съ семидесѧтью оучениковъ (Пак. Хр., 2б); не хотели мнѣ тыхъ ѡсмидесяти грошей дати (КСД, 60, 1510); былъ пакъ ест моисеи ȣ восмидесѧти лѣтех и аарон ȣ восмидесѧт и во трех лѣтех (Скар. КВ, 14б); ѡдин зъ ѡных пѧтидесѧти (Бельск., 264).

У разрадзе складаных лічэбнікаў у старабеларускай пісьменнасці норма была парушана яшчэ і ўжываннем пэўнай колькасці паланізмаў — лічэбнікаў, у якіх другая частка трансфармавалася ў *-сте (-сти)*. Асноўнай сферай, дзе яны ўжываліся, была актавая пісьменнасць другой палавіны XVI—XVII стст.: теды двонастѣ грошей ма заплатить (АЗР, I, 224, 1501); земли... моркговъ тринасте (АВК, XXIV, 132, 1552); овса засѣяно солянокъ чтердзесце (АВК, XIV, 78, 1563); давал есми одинасте копъ грошей (АВК, XXII, 193, 1565); в свирне рукавицъ... паръ чотырнасте (АВК, XXII, 156, 1565); талерей цыновыхъ дванасте новыхъ, а старыхъ осмнасте (АВК, XIV, 437, 1592); грошей... было кгданскихъ чтырдести два (ИЮМ, XXI, 499, 1623); на той сторонце золотыхъ сто двадзесте чтыри (ИЮМ, I, 165, 1681). Сустракаюцца яны і ў асобных помніках іншых жанраў, напрыклад у Аповесці аб трох каралях-валхвах, Троі, Дзённіку Ф. Еўлашоўскага, Лямаnце, Лісце да Абуховіча: кгалілеѧ ѡдъ ероузалем как бы тридести албо меншеи (Валх., 50); двадестѧ чварту [шпицю] ведлъ кроль (Троя, 39); тридестѧ с них забил (там жа, 50б); шацуючи тэж маетност на пѧтнасте и тисѧчеи золотых (Еўл., 23); miewszy czetarnaścia sot piechoty (Абух., 441). Калі ў цэлым гэты тып лічэбнікаў нешматлікі, то ўскосныя склоны ад яго зусім рэдкія: поеднал... п̄на волоского ѡсмънасту сот коп грши (Еўл., 38); Сесь чтырдестȣ ѡт роду не дошолъ зȣполна (Лям., 10); Поденщикомъ тремъ по гроши осемнасту (ИЮМ, I, 266, 1682). Гэты тып не зрабіў уплыву на скланенне асноўнага беларускага марфалагічнага тыпу

лічэбнікаў, і можна яго разглядаць як звычайнае лексічнае запазычанне або як словаўтваральны тып, падобны да неазначальных лічэбнікаў *килканасте, колькONACTE,* *килканадцать, колькoнадцать, килкадесять, колькодесять, килкасотъ, колькосотъ,* якія мелі прыкладна тую ж частату ўжывання.

Як паказвае прыведзены матэрыял, ужыванне ў старабеларускай пісьменнасці побач з асноўным беларускім тыпам скланення колькасных лічэбнікаў некаторых элементаў больш ранняга (дабеларускага) тыпу або асобных элементаў польскага тыпу не звязана непасрэдна з жанравай прыналежнасцю таго або іншага помніка, у якім сустракаюцца адхіленні. Ужыванне архаічных (старабеларускіх або царкоўнаславянскіх) ці польскіх форм залежала ад узроўню адукацыі і арыентацыі аўтара або перакладчыка твора ці пісара афіцыйных дакументаў.

# ЗАЙМЕННІК

## *Формы асабовых і зваротнага займеннікаў*

Характэрны для царкоўнаславянскай мовы займеннік 1-й асобы **адзіночнага** ліку назоўнага склону *азъ* сустракаецца ў асноўным у рэлігійных і летапісных тэкстах, а таксама па традыцыі і ў зачынах ранніх старабеларускіх грамат: се азъ смиреныи семиѡнъ (Гр. Сем.); азъ есми архистратигъ михаилъ (Чэцця, 12); азъ помиловах тѧ (Віл., 437); Азъ же реку тебѣ (Арыст., 10); можете ли пити чаш8 юже азъ пію (Дзід., 7—8). Надзвычай рэдка нават у ранніх граматах ужываецца старажытнарускі варыянт гэтага займенніка *язъ*: Азъ кланѦюсꙗ (Гр. 1300); ꙗзъ и своимъ братомъ оумыслили есмы (Гр. 1387). Ужо ў старажытнарускіх помніках пашырана форма *я*, якая і стала нормай старабеларускай мовы і народных гаворак: ꙗ есми никола (Чэцця, 90); Ѧ выедоу (Віл., 443); к том8 сꙗ ꙗ знаю (КВЗС, 3, 1533); дꙗкую ꙗ тобе боже мо*и* ѡ*и*че (Еўл., 55); ꙗ поставлю примиренье (Хран., 16б).

Адзінай у старабеларускай пісьменнасці, як і ў старажытнарускай, з'яўляецца форма назоўнага склону займенніка 2-й асобы адзіночнага ліку *ты*: ты дрьжишь е*с* мнѣ бли*ж*шее (Вісл., 35); ты не вчинилъ плода своего (Чэцця, 14); ѡ ты преневѣрный (Пак. Хр., 2); ты мене где колве*к* б8де*ш* хотѣ*л* поховаешъ (Стрыйк., 443).

Старажытнаруская мова з'явілася для старабеларускай непасрэднай крыніцай двухскладовай формы родната і вінавальнага склонаў асабовых і зваротнага займеннікаў. Родны склон: ѡт тебе (Пак. Хр., 10б); въсьледъ мѣне (Цяп., 26б); ме*л* ма*лж*о*н*ку 8 себе (Еўл., 19); давнін до мене безъчинцы (Лям., 14); противко мене (Зб. 107, 101б); вінавальны склон: не впрашай мене вл*д*ко (Чэцця, 2); р8ка бо бо*ж*Ѧ вранила мене (Зб. 262, 20); хто се тебе ходоре билъ (КВЗС, 74, 1539); самъ себе мажетъ (Бер. саб., 27).

У давальным і месным склонах са старажытнарускай эпохі захаваліся аднаскладовая форма

займенніка 1-й асобы *мне* і двухскладовыя са ступенню *о* чаргавання галоснага ў аснове — займенніка 2-й асобы і зваротнага. Давальны склон: плоты собе горо*ди*ть (Вісл., 6б); не годитсѦ тобѣ та*к* тоужити (Чэцця, 14б); ты мнѣ не вѣрилъ (Віл., 11б); чи не стыдитесѦ док8чати мнѣ (Зб. 262, 20); Бже, милостивъ б8дь мнѣ грѣшном8 (Каліст, I, 6); месны склон: да возвеличить г*с*ь бъ милосердие свое на тобѣ (Чэцця, 17); то все ѡ мнѣ есть (Пак. Хр., 4б); таꙗ законъка на тобѣ маеть быти (КВЗС, 51, 1538); до бга оудайте на молитвы о собѣ (Лям., 20).

У старажытнарускай мове ў давальным і вінавальным склонах побач з поўнымі (праклітычнымі) формамі разглядаемых займеннікаў ужываліся і кароткія (энклітычныя) — *ми, ти, си* і *м*Ѧ, *т*Ѧ, *с*Ѧ. Згодна з праславянскай традыцыяй, поўныя формы павінны былі ўжывацца ў прэпазіцыі да кіруючага дзеяслова, кароткія — у постпазіцыі. У старабеларускай пісьмовай мове пад уплывам гутарковай адбывалася разбурэнне гэтых традыцыйных узаемаадносін поўных і кароткіх форм займеннікаў. Давальны склон: тому ми веры не нѦти (Гр. 1387); а лице мое не ꙗвит ти сѦ (Чэцця, 75); велика бы ти соромота была (Алекс. XV, 2б); хочет ми се пити (Пак. Хр., 13); р8ки ми подралъ (КВЗС, 21, 1537); запэвне ми бра*т* 8ме*р* (Еўл., 30); на м8к8 ити ми ча*с* оуже (Каліст, I, 160б); вінавальны склон: поустѣте мѦ смердѦща*г* оумрѣти (Чэцця, 3б); не може*т* тѦ нихто познати (Трыст., 17); нашто мѦ нагого прим8шаеш (Кін., 55). Фіксацыя энклітычных форм тэкстамі розных жанраў сведчыць аб іх падтрымцы з боку жывой мовы.

У творным склоне асноўную норму старабеларускай літаратурнай мовы складае форма асабовых і зваротнага займеннікаў з двухскладовым канчаткам *-ою*: *мною, тобою, собою,* што з'яўляецца працягам развіцця на ўсходнеславянскай глебе адпаведных агульнаславянскіх форм: тоу были на соуде со мною (Гр. 1284); мною сѦ клени (Чэцця, 5б); ꙗ оумерла с тобою (Пак. Хр., 11); абы ты*м* безпечнѣ*и*ши были ѡ*т* 8жо*в* набра*л* з собою бо*т*ꙗко*в* (Бельск., 41); ничого з собою ѡдно грехи свои мають (Зб. 752, 168).

Парадыгма асабовых займеннікаў **множнага** ліку ў старабеларускай пісьменнасці ў параўнанні са старажытнарускай істотных змен не адчула, за выключэннем амаль поўнай страты іменнымі формамі і формамі парнага ліку сваёй граматычнай ролі.

Так, у назоўным склоне адзінымі з'яўляюцца

ранейшыя формы *мы, вы*: мы ему даемъ и дали есмы тотъ городъ полтескъ (Гр. 1387); вы и потомкове ваши смертью заражени б8дете (Бельск., 4б); мы то сами для себе терпимо (Кн. Мак., 51). Для дзелавой пісьменнасці характэрна ўжыванне займенніка *мы* ў значэнні адзіночнага ліку: мы господар ѡбецуем (Ст. 1566, 17). У роднымо, вінавальным і месным склонах маюць месца толькі ранейшыя формы *насъ, васъ*: межи нас (Гр. 1407); нехаи нас не соромотит (Цяп., 270б); которій оповѣд8ет ѡ нас (Каз. Кір., 173); у давальным — *намъ, вамъ*: оуже вам ѡмерзлъ есми (Алекс. XV, 1б); намъ злоречити б8дешъ (Мак., 16); у творным — *нами, вами*: благословлена ты еси межи нами (Пак. Хр., 4); вчынилъ бысь мир межы вами (Трыст., 20).

Кароткіх форм давальнага і вінавальнага склонаў множнага ліку асабовых займеннікаў у старабеларускай пісьменнасці не выяўлена. Вельмі нязначна пашыраны формы **парнага** ліку. Адзінкавыя выпадкі іх ужывання характэрны для асобных рэлігійных і летапісных тэкстаў, дзе яны з'яўляюцца вынікам царкоўнаславянскага ці старажытнарускага ўплыву. Родна-месны склон: на помочь наю пришол (Чэцця, 99б); но молитвою ваю помозита ми (Увар., 99б); Во ваю благославитсѧ Ізраиль (Скар. КБ, 90); давальна-творны склон: во вѣри вашеи б8ди вама (Дыяр., 177).

## *Формы займенніка 3-й асобы*

У праславянскай мове ролю займенніка 3-й асобы спачатку выконваў указальны займеннік *и* (м. р.), ꙗ (ж. р.), ѥ (н. р.). Але ён рана страціў формы назоўнага склону, і на змену яму прыйшлі формы іншага ўказальнага займенніка — *онъ, она, оно*. На вінавальны склон у парадыгме разглядаемага займенніка пашырыліся формы роднага *его (него), ее (нее)*. Губны *м* у формах творнага і меснага склонаў страціў першапачатковую мяккасць.

У старабеларускай пісьменнасці, як і ў старажытнарускай, у назоўным склоне адзіночнага ліку займеннік 3-й асобы мае фармальныя адрозненні ў залежнасці ад роду — *онъ* (м. р.), *она* (ж. р.), *оно* (н. р.): ѡнъ пропівенъ того права (Вісл., 7); ѡно же подпора тѣлоу члчьском8 привѣзати дшю (Арыст., 139); Волю умерети после меча трышанова (Трыст., 18); ѡна в п8щи збл8дила (Зб. 107, 171б).

Ва ўскосных склонах адрозніваліся формы мужчынскага і ніякага роду, з аднаго боку, і жаночага — з другога. Усе яны пры наяўнасці прыназоўніка атрымлівалі пачатковае *н*. Апошняе характэрна і для дзелавых тэкстаў, што можа служыць ускосным доказам наяўнасці гэтай рысы ў жывой гутарковай мове старажытнага перыяду.

У р о д н ы м і в і н а в а л ь н ы м склонах займеннікі *мужчынскага* і *ніякага* роду выступаюць у ранейшай агульнай форме *его (него)*. Родны склон: в которой волости члвкъ извинитьс ту ему правда дат или вина его (Гр. 1264); ѡт тѣла его смрадъ исходить (Чэцця, 3); ноги его в дошки стиснено (Зб. 752, 19б); вінавальны склон: его свои и казнѧть (Гр. 1405); собака его укѹсила (Вісл., 27); ахимандритъ же и старци почали дивитисѧ зрѧще на него (Чэцця, 4); на него того спротивеньѧ ... доведет (Трыб., 14); взывал Алеѯей на него (Зб. 752, 133б). У спалучэнні з прыназоўнікамі *за, на* часта ўжываецца сцягнутая форма *нь*. Яна мае месца ў помніках розных жанраў, што можна разглядаць як вынік падтрымкі з боку жывой мовы: розгнѣвалис на нь (Пак. Хр., 25); горло зан дат мает (Бельск., 66б); возложыли нань плащ шарлатный (Зб. 255, 270).

У д а в а л ь н ы м склоне адзіночнага ліку ў якасці нормы нязменна выступае ранейшая форма *ему (нему)*: естьли же сѧ емѹ не поздоровить (Вісл., 40); мнози же народи прихожахоу к немоу (Чэцця, 5); емѹсь того оглѧдати не хотѣлъ дати (Лям., 9).

Ранейшая форма *имъ (нимъ)* выступае ў т в о р н ы м склоне: ты с нимъ гораздо живеш (Вісл., 439); боем битисѧ с ним мыслим (Алекс. XV, 1); за ним всѧкъ члкъ влечетсѧ (Зб. 262, 21б); котории нимъ взгардить смѣли (Біблія, 562); ѡбвилъ нимъ все тѣло свое (Зб. 82, 2). Як відаць з прыкладаў, пачатковае *н* магло з'яўляцца і пры адсутнасці прыназоўнікаў.

У м е с н ы м склоне адзіночнага ліку займеннікі мужчынскага і ніякага роду часцей за ўсё выступаюць у форме *немъ*, якая была ўласціва старажытнарускай мове. Паколькі тут яна выступае заўсёды з прыназоўнікамі, то мае, як правіла, пачатковае *н*: в нем же бгъ раи насадил (Алекс. XV, 1); не было оу нем местьце здорове (Пак. Хр., 36); тѣло его на нем бѹдет болѣти (Зб. 262, 18). Новая форма, аднолькавая з творным склонам, па частаце ўжыванняў значна ўступае традыцыйнай, відаць, у жывой мове яна яшчэ толькі ўваходзіла ва ўжытак: на

нимъ гневливе помстити (Троя, 41); в нимъ трвали (Бер. саб., 43); ȣзрѣвши Исус мѣсто иерȣсалим плакал на ним (Бельск., 223б).

Не адбылося істотных пераўтварэнняў у старабеларускай пісьмовай мове ў параўнанні са старажытнарускай і ў парадыгме займенніка 3-й асобы *жаночага* роду. Так, у **родным** і **вінавальным** склонах ужываецца ранейшая форма *ее (нее)*. Родны склон: оць ее ѡтсѣклъ главоу ее мечемъ (Чэцця, 87б); взѧлъ ȣ нее свѧтост (КВС, 478, 1522); кому ее надобѣ (Будны, 84б); вінавальны склон: Фрацикъ ... выдал ее замȣжь (Вісл., 21б); которіе ее межи себе идоучи как бы мертвоую держали (Пак. Хр., 10б); родичы ее за нее мовѧт (Навука, 149). Для вінавальнага склону характэрна і энклітычная форма *ю (ню)*. Яна ўстойліва захоўваецца на працягу ўсяго старажытнага перыяду беларускай мовы: ку троии могли быхом пойти а ю ѡбозреть (Троя, 16б); принеси ми ю (Трыст., 53); ѡн ю поднѧти казал (Біблія, 56б); казал ю выпхнут з домȣ (Бельск., 106б); наполы ю мертвȣ зоставил (Зб. 82, 20б).

У **давальным** і **месным** склонах, як і ў старажытнарускай мове, бачым ранейшую форму *ей (ней)*. Давальны склон: мног к неи прісл8хаеть (Вісл., 43б); рекла еи слȣжебьница ее (Чэцця, 14б); Дружненна послала по него абы шолъ к неи у ложницу (Бава, 137); месны склон: оупȣстілъ мошьнȣ а в неи три скотци (Вісл., 32); землѧ по ней же ходим (Чэцця, 15б); по ней же Агнецъ брести можеть (Скар. КБ, 2б); который нашолъ въ Сіродонской горѣ ѡнȣю вежȣ ... а на ней звѣздочеснȣ мȣдрость (Хран., 18).

У **творным** склоне ў старажытнарускай мове мела месца двухскладовая форма *ею (нею)*. Яна стала нормай і старабеларускай літаратурна-пісьмовай мовы: иди с нею (Скар. КБ, 24); змилȣетсѧ над нею (Зб. 262, 20б); чинили з нею што хотѣли (Бельск., 75б); ты сѧ ею ȣкриваешъ (Мак., 8); много женъ преднеишыхъ плакало над нею (Зб. 752, 179б).

У **назоўным** склоне **множнага** ліку адбылася страта ранейшых родавых адрозненняў. У якасці універсальнай стала выступаць былая форма мужчынскага роду *они*: ѡни боѧтсѧ (Вісл., 15); ѡни его не принѧли (Віл., 439б); ѡни стрелѧючи на него велми много стрѣлъ выстрелѧли (Алекс., 75); ѡни великую шкодȣ чинили (Кн. Мак., 64б). Відавочна, яна мела месца і ў жывой гутарковай мове.

У родным, вінавальным і месным склонах ужываецца ранейшая форма *ихъ (нихъ)*. Родны склон: было их тысѧча тысѧчь (Алекс. XV, 1б); ꙗко мы до нихъ такъ ѡни до насъ (Унія, 3б); з ни*х* некоторые забъете (Зб. 255, 13б); вінавальны склон: вед8ть ихъ на с8*д* (Вісл., 8); не имаючи на нихъ жалобы (там жа, 15б); заклꙗл ихъ вси*х* (Зб. 752, 25); месны склон: віна на ни*х* пре*д*ре*ч*енаꙗ (Вісл., 15). Пад уплывам жывой мовы пачатковае *н* тут часам апускаецца: о ихъ деехъ (Валх., 38б); ω ихъ же оу наши*х* сторона*х* не есть печа*л* (там жа, 45б).

Давальны склон множнага ліку разглядаемага займенніка характарызуецца захаваннем ранейшай формы *имъ (нимъ)*: какъ и*м* заповедати (Вісл., 7б); поиде против8 имъ (Віл., 44б); то имъ за знамѧ даваю (Пак. Хр., 1); рече к нимъ ростите жь и множтесѧ (Скар. КБ, 20).

Творны склон множнага ліку займенніка 3-й асобы ў параўнанні са старажытнарускай эпохай амаль не зведаў істотных змен. Тут адзінай, як і раней, з'яўляецца форма *ими (ними)*: на склепе соуть дири што ими тела оумерлыхъ на глоубокость оуноутръ кидаютъ (Валх., 61); не росседаетсѧ ѡболокъ под ними (Зб. 262, 23); но лѣпѣ*и* сего царствуй надъ ними (Арыст., 3); веспо*л* з ними (Каз. Кір., 148б). З пачатковым *н* даная форма выступае часам і пры адсутнасці прыназоўнікаў: робити ними б8д8*т* (Біблія, 42); каза*л* сѣти чини*т* ... и рибы ними ловити (Бельск., 213—214). З другога боку, відаць, пад уплывам жывой мовы пры наяўнасці прыназоўніка пачатковае *н* можа адсутнічаць: межі имі были (Вісл., 39б); тоиж з ыми (Патр. К., 60б).

## *Формы ўказальных займеннікаў*

Для старажытнарускай мовы былі характэрны ўказальныя займеннікі *сь, сꙗ, се* (для ўказання на блізкі прадмет), *онъ, она, оно* (для ўказання на далёкі прадмет), *тъ, та, то* (для адноснага ўказання). З-за сваёй кароткасці яны былі невыразнымі і таму вельмі рана ў старажытнарускай мове пачалі выступаць у спалучэнні з формамі такога ж *(тотъ, сесь)* ці іншага займенніка *(тый, той, тое, таꙗ, сей, сиꙗ, сию, оныи, онаꙗ, оною)*.

У старабеларускай пісьмовай мове даная сістэма форм атрымала далейшае развіццё. Пад уплывам жывой гутарковай мовы найбольш пашырыўся займеннік

*той(тотъ)*, *таꙗ(та)*, *тое(то)*, якi стаў універсальным пры ўказанні як на блізкі, так і на далёкі прадмет. У значна меншай ступені распаўсюджаным аказаўся займеннік *сей(сий)*, што тлумачыцца адсутнасцю падтрымкі ў яго ўжыванні з боку жывой мовы. Тое ж можна сказаць і адносна займенніка *оный*. Усе яны пры скланенні паўтараюць формы прыметнікаў.

Так, у н а з о ў н ы м і пры неадушаўлёных назоўніках у вінавальным склонах **адзіночнага** ліку з самага пачатку ўжываліся займеннікі *мужчынскага* роду *той, сей, оный*. Формы *той, сей* ва ўскосных склонах утваралі факультатыўную норму. Назоўны склон: да ѡтколе есть смрадъ сии (Чэцця, 3б); был той воидило ȣ великои мѡци (Віл., 439); вінавальны склон: ѡбезъꙗна скоштовавъши часто ѡреха, которыи ест зверхȣ горкии заразъ ѡныи покидает (Зб. 259, 463). Пераважаюць тут формы *тотъ, сесь*, прычым форма *тотъ* фіксуецца і дзелавымі тэкстамі, што можа тлумачыцца падтрымкай з боку жывой мовы. Назоўны склон: тот юреи четыри лета держал (Вісл., 21); Сесь томȣ дорога (Лям., 21); Тот келих новым тестаментом ест (Выкл., 42б); вінавальны склон: ні в сесь векъ, ні в бȣдȣчій (Цяп., 16); вышла у сесь ѡгородецъ (Трыст., 85—86).

Членныя формы ўтвараюць асноўную норму і ў *ніякім* родзе. У пэўнай меры яны былі ўласцівы старажытнарускай мове, у старабеларускай жа яны атрымалі перавагу дзякуючы падтрымцы з боку жывой мовы. Назоўны склон: тое кнзю скиркгаилу (Гр. 1387); сее слово згодитсѧ з онымъ (Будны, 149); вінавальны склон: а тое все емоу даю (Віл., 440б); роука гнѧ оучинила сее (Зб. 262, 17); Дитѧ ... можетъ каждый ѡкрестити Водою поливаючи ѡное (Сакр., 4б).

Аналагічны малюнак назіраецца і ў *жаночым* родзе. Пануючымі тут з'яўляюцца членныя формы, якія адпавядалі норме жывой гутарковай мовы; проволочет ли сѧ таꙗ немоць (Вісл., 39б); Моудрость сѧѧ ноȣжнаѧ црю (Арыст., 1).

Ранейшыя нячленныя формы гэтых займеннікаў у старажытны перыяд беларускай мовы ўяўлялі сабой ужо рэліктавую з'яву. Аб гэтым сведчыць значна меншая ў параўнанні з членнымі ступень іх пашырэння і фіксацыя іх амаль выключна рэлігійнымі помнікамі: та быс нѣма ѡт рожѣниіа своег (Чэцця, 7б); ведетсѧ пословица сѧ (Арыст., 205); змій онъ пекелный ... твоей нехай пилнȣ-

етъ головы (Каліст I, 17); а то все бель в ночи зъедает (Жыц. св., 8).

Ва ўскосных склонах парадыгмы ўказальных займеннікаў адзіночнага ліку адрозніваюцца: з аднаго боку, мужчынскага і ніякага роду, з другога — жаночага. Так, агульнай для *мужчынскага* і *ніякага* роду формай р о д н а г а і пры адушаўлёных назоўніках в і н а в а л ь н а г а склонаў з'яўляюцца формы *того, сего, оного*. Родны склон: не ведал оу него того прівільѦ (Вісл., 26); мы не можемъ сего терпѣти (Чэцця, 3); вінавальны склон: сего не оубьемъ (Чэцця, 9б); не знаю члвка того (Пак. Хр., 8); ѡного несмертелностю почтил (Варл., 14б); ȣврачȣи немощнаго сего члка назавтрее рано (Дыяр., 152); гсдь Бгъ послал помсту на ѡкрȣтника ѡного (Зб. 752, 561).

Пануючымі формамі *жаночага* роду адзіночнага ліку роднага склону з'яўляюцца традыцыйныя двухскладовыя *тое, сее, оное*. Першая з іх, відавочна, адпавядала норме жывой гутарковай мовы, аб чым сведчыць фіксацыя яе помнікамі ўсіх без выключэння разнавіднасцей старабеларускай пісьменнасці: ѡт тое земли местерю и брата его ѡтступит с всею правдою (Гр. 1264); што сее хȣлы горшее (Чэцця, 41б); тое полътины гроши не заплатилъ (КВЗС, 3, 1533); тое пл■кги пан бог не перепȣстил (Бельск., 93). У параўнанні з двухскладовымі аднаскладовая форма, хоць і адзначаецца пачынаючы з XV ст., пашырана вельмі нязначна, відаць, у жывой мове яна яшчэ не дасягнула ўзроўню асноўнай нормы: тоиж ѡсени (Увар., 71); з тои чари пивалъ (Стрыйк., 446б); сеи приповѣсти двѡх речій кождый члкъ наȣчитисѦ мает (Каліст I, 6б).

У вінавальным склоне жаночага роду нормай старабеларускай пісьменнасці ў цэлым з'яўляюцца членныя формы *тую, сию (сюю), оную,* якія былі ўласцівы ўжо і старажытнарускай мове: тȣю ѡвцю прігонил до села (Вісл., 27); моучнкъ же хсвъ никита сию страсть притерпѣвъ ѡт безаконных (Чэцця, 31); ѡстави пѣснь сію (Зб. 262, 9); за тȣю винȣ (Трыб., 13б); на тȣю и на сюю сторонȣ (Наб. тур., 22); тȣю таемницȣ видели (Выкл., 11). У адзінкавых выпадках адзначаюцца адпаведныя нячленныя формы *ту, сю, ону*. Прыклады адзначаны галоўным чынам у помніках XIV — пачатку XVI ст., калі яны яшчэ ў пэўнай ступені былі ўласцівы жывой гутарковай мове: дали есмы сю грамоту (Гр. 1387); в тȣж винȣ впадаеть (Вісл., 29).

Пануючымі ў д а в а л ь н ы м склоне адзіночнага

ліку з'яўляюцца ранейшыя формы ўсіх трох родаў разглядаемых займеннікаў. У *мужчынскім* і *ніякім* родзе выступаюць толькі формы *тому, сему, оному,* ужыванне якіх вызначалася не граматычнай, а лексічнай нормай літаратурна-пісьмовай мовы: к томȣ панȣ чіе сѣло есть (Вісл., 14); семоу же Салтаноу дошедшоу ѡрды (Увар., 104); хочеш ли вѣдати причинȣ ономȣ их шаленствȣ (Каз. Кір., 213б); не ѡбрȣшаисѧ противко тому которому сꙗ счастит в его справах (Пс. XVII, 6б).

У давальным і месным склонах *жаночага* роду выступаюць амаль выключна ранейшыя формы *той, сей, оной.* Давальны склон: к сеи грамоте (Гр. 1407); къ тои очине (Вісл., 22б); тои присꙗзе (КВЗС, 4, 1533); и тои и ѡвои сторонѣ (Бельск., 172б); месны склон: вже не имаеш ходити по земли сеи (Чэцця, 16б); оу той одрине пред хоронкою ꙗсли каменне (Валх., 44б); гвоздꙗ ... на ѡнои дорозѣ... понабивал (Хр. польск., 3).

У т в о р н ы м склоне займеннікі *мужчынскага* і *ніякага* роду на ўзроўні асноўнай нормы выступаюць з *ы(и)* у аснове, што ў формах *тымъ, симъ* з'яўляецца вынікам уплыву жывой гутарковай мовы, у форме *онымъ*— звычайным для займеннага скланення: тымъ урѧдомъ хто кого позываеть (Вісл., 14); симъ поганѧй невѣрных (Чэцця, 20); под ѡным часом (Ст. 1566, 2); тым по воздȣхȣ ношеніем люд зводит (Каз. Кір., 62б); Въполвѣкȣ смрть з дшею з симъ свѣтомъ розстане (Лям., 6). У асобных помніках, не свабодных ад архаічных царкоўнаславянскіх ці старажытнарускіх традыцый, часам можна сустрэць формы *темъ, семъ,* якія не адпавядалі норме жывой гутарковай мовы: тем же соудѧ и согрѣшающего (Віл., 497); молю васъ надъ тѣмъ (Арыст., 12); тѣмъ же образомъ (Будны, 79).

У *жаночым* родзе маюць месца пераважна традыцыйныя формы *тою, сею, оною,* што можна разглядаць як сведчанне падтрымкі з боку жывой мовы: со стклѧницею сею (Чэцця, 29); пред тою ѡдриною (Валх., 44); за смȣтною сею оказіею (Сматр., 11).

Норму старабеларускай пісьменнасці ў м е с н ы м склоне *мужчынскага* і *ніякага* роду ўтвараюць традыцыйныя формы *томъ, семъ, ономъ.* У ступені іх пашырэння не вылучаецца ніводзін помнік: на томъ имееть досыть (Вісл., 31б); змии есть велик и лютъ гнѣздѧисѧ въ ѡзере семъ (Чэцця, 82б); во ѡном ȣтеканю тулꙗючихсꙗ туды и сюда бегаючих забили (Біблія, 136б);

У параўнанні са старажытнарускай мовай ніякіх

змен не адбылося ў парадыгме **множнага** ліку ўказальных займеннікаў. У назоўным і пры ўказанні на неадушаўлёныя прадметы ў вінавальным склонах ужываюцца дзве варыянтныя формы кожнага з іх. Уніфікаваныя па мужчынскаму і ніякаму роду формы *тыи, сии, оныи* найбольш пашыраны ў тэкстах розных жанраў XIV—XV стст., а з пазнейшых — галоўным чынам у кніжных, што сведчыць аб выхадзе гэтых форм з ужытку ў жывой мове. Назоўны склон: тыи, кто по не*м* будет (Гр. 1264); рѣки бо сиі ѡ*т* велики*х* высотъ исходѧть (Чэцця, 10б); ѡныи которыи носили хоуроугви (Пак. Хр., 17б); пойдȣт сіи в мȣкȣ вѣчнȣю (Каз. Кір., 21б); вінавальны склон: мы ѡ*т*кладаемь тыи прісѧгы (Вісл., 24); осадивь сии городы (Увар., 6б); знашолъ тыи сети (КВЗС, 9, 1533); мови*л* анге*л* тыи слова (Біблія, 119б); Виде*чи* теды филипъ царъ тыи знамена дрижачи*и* а боѧзливы*и* вшо*л* до алимпиѧды (Алекс., 4); тыи книги нашли (Зб. 81, 30). Формы *тые, сие, оные* таксама адзначаюцца ўжо ў ранніх старабеларускіх помніках. Пазней, пачынаючы з XVI ст., выцесніўшы форму *тыи, сии, оныи,* яны набываюць значэнне асноўнай нормы, што тлумачыцца падтрымкай з боку жывой мовы. Назоўны склон: тые змле... соут розделены водами (Валх., 46б); Сие сȣть сыновѣ Ісавли (Скар. КБ, 66); тые мȣжики его зра*д*не забили (Патр. П., 88б); вінавальны склон: тые слова говорила (Пак. Хр., 4б); тые близнѧта ... ȣтопити до реки тибри послалъ (Рым., 77б); кровъ хстова... ѡные ѡмывае*т* (Зб. 259, 529б); При*и*ми тые чло*н*ки мое (Зб. 752, 28б).

Традыцыйныя формы *тыхъ, сихъ, оныхъ* нязменна выступаюць са старажытнарускай эпохі ў родным, вінавальным (пры адушаўлёных назоўніках) і месным склонах, форма *оныхъ* тут адзіная. Родны склон: до си*х* мѣстъ (Гр. 1465); до ѡны*х* земль (Валх., 47); а на*и*бо*л*шеи ѡ*т* ты*х* которіе ѡ*т* жидо*в*ства (Каз. Кір., 124); вінавальны склон: веліть ты*х* прізва*т* (Вісл., 25); ѡны*х* млднцо*в* до кролѧ впроважоно (Жыц. св., 5б); месны склон: нѣтъ в сихъ словѣхъ никакое тру*д*ности (Будны, 43б).

У давальным склоне норму складаюць формы з *ы* на месцы старажытнага *ѣ,* якія былі ўласцівы жывой гутарковай мове, форма *онымъ* была адзінай, што выключала варыятыўнасць: пріказȣемь мы тымъ то слȣжебнікѡм (Вісл., 15); тымъ которые в тѦжкихъ выступ-

кахъ померли с8ть (Унія, 16); ѡным за тое подꙗковане на знак вдꙗчности оучинилъ (Варл., 18б).

Формы з *ы* (*и*) на месцы ранейшага *ѣ* характэрны і для творнага склону: тыми городы и селы и всѣми людми володети кнꙗзю скирикгаилу (Гр., 1387); котории ѡт меча полегли зъ ѡными котории были попалены (Кн. Мак., 6б).

## *Формы азначальных займеннікаў*

Са старажытнарускай мовы ў старабеларускую перайшлі азначальныя займеннікі *весь, всꙗкий, самъ, самый, иный, каждый.* Пазней узніклі формы *иншый, кажный, вшелякий, вшисткий.* Парадыгма найбольш пашыранага займенніка *весь* (*увесь*) у старабеларускай пісьменнасці амаль не змянілася. У назоўным і пры неадушаўлёных назоўніках у вінавальным склонах **адзіночнага** ліку выступаюць тры формы ў залежнасці ад роду — *весь* (*увесь*), *всꙗ* (*усꙗ*), *все* (*усе*): речица всꙗ ... што воишвилтъ державъ (Гр. 1387); все свꙗтое тело пред ѡбличьим твоим (Пак. Хр., 2); Виделъ есми ... хрыбетъ увес синий, збитый киими (АВК, XXXVI, 325, 1582).

Ва ўскосных склонах выступаюць звычайна традыцыйныя формы. У родным і пры адушаўлёных назоўніках у вінавальным склонах бачым форму *мужчынскага* і *ніякага* роду *всего* (*усего*). Родны склон: межи всег племени своег (Чэцця, 15); Хаосъ ... матеріа всег свѣта (Бяр., 321); вінавальны склон: себе всего до надѣй вѣчныхъ прыложил (Варл., 11).

Давальны склон захоўвае ранейшую форму *всему* (*усему*): по всемоу рꙗдил свѣтоу (Валх., 42б); указался народу всему (Арыст., 12); всем8 том8 быти (Каз. Кір., 48б).

У творным склоне адзіночнага ліку традыцыйная старажытная форма займае другараднае месца: со всемь доходомъ (Гр. 1387); обладающему всемъ именіемъ его (Скар. КБ, 4); пред всѣм народом (Каз. Кір., 62б). Асноўнае месца займае форма *всимъ*, якая ўзнікла ў старажытнарускай мове па аналогіі з множным лікам, дзе ў той час адбывалася выраўноўванне асновы на *и* ў формах ускосных склонаў. У старабеларускай пісьменнасці гэта форма набыла вялікае пашырэнне дзякуючы падтрымцы з боку жывой мовы: съ всимъ скарбѡм (Віл., 441); кто исполненъ всим тым чим печатникъ твои

(Арыст., 12б); перед вси*м* рицерством своимъ (Алекс., 19); надъ всимъ створенемъ (Мак., 3).

У месным склоне пераважае традыцыйная старажытнаруская форма *всемъ:* во все*м* родоу жидовъскѡ*м* (Чэцця, 24б); во все*м* ем8 противни (Каз. Кір., 6); во все*м* то*м* не згрѣши*л* (Жыц. св., 13б). Адзінкавымі прыкладамі прадстаўлена форма, аднолькавая з творным склонам, яе ўжыванне тлумачыцца ўплывам жывой гутарковай мовы: въ всимъ ... пособлѦли (Будны, 47); по вси*м* кролев*ст*ве (Жыц. св., 28); в вси*м* люд8 (Зб. 255, 266).

Надзвычай высокай ступенню захавання старажытнарускіх форм характарызуецца парадыгма ўскосных склонаў займенніка *всѦ жаночага* роду. У родным склоне пераважае ранейшая двухскладовая форма *всее:* ѡде всее толпы жидовское (Пак. Хр., 17б); тые ... мають выбрати со всее шлѧхты того повету бра*т*и своее ко*ж*дыи врѧ*д* (Ст. 1566, 41); по*д*ска*р*бие*м* бы*л* зе*м*ли всее (Жыц. св., 67).

У давальным і месным склонах непадзельна пануе традыцыйная старажытная форма *всей.* Давальны склон: тотъ бо есть н*ч*ало всѣй правде (Чэцця, 28); нароженье и справованье всеи це*р*кви (Бер. саб., 45); ко все*и* братіи (Зб. 107, 164б); месны склон: дивного запах8 росхо*д* по всей црькви (Валх., 92б); вышол слу*х* о нем по всей Сирии (Цяп., 5б); шол у гостилницу у блѦхъ и во всеи зброи (Трыст., 20).

Вінавальны склон характарызуецца перавагай старажытнай формы *всю:* стратит всю свою речь (Вісл., 13б); всю н*д*лю не ѧдаше (Чэцця, 2б); вын8дь на всю зе*м*лю египе*т*скую жабы (Біблія, 114); мнѣ всю пра*в*д8 ѡзна*и*ми*л* (Алекс., 2).

У творным склоне выступае толькі традыцыйная двухскладовая форма *всею:* ѡт тое земли местерю и бра*т*и его ѡ*т*ступи*т* *с* всею правдою (Гр., 1264); владѣти всею землею (Віл., 448б); на*д* всею Братіею пилнѣ*и*шими были (Ст. бр., 13).

У парадыгме **множнага** ліку ў старабеларускай пісьменнасці назіраецца страта былых родавых адрозненняў. У назоўным і пры неадушаўлёных назоўніках у вінавальным склонах асноўнай або адзінай у большасці помнікаў, асабліва ў тых, якія адносяцца да XIV—XVI стст., з'яўляецца уніфікаваная па мужчынскаму роду форма *вси (уси):* имаеть шкоды вси платіть (Вісл., 37б); преложю ... вси пѣсни ваша во слезы (Чэцця,

25); вси год8ючии великим страхом пор8шил (Алекс., 3б); вси которыи колвек ωгнѧ и темности годныи (Жыц. св., 168б). Другая варыянтная форма *все,* уніфікаваная па жаночаму роду, у многіх помніках XIV—XVI стст. не адзначана зусім, у астатніх яна прадстаўлена вельмі нязначна: сътвори богъ все птице по роду ихъ (Скар. КБ, 10); всѣ сл8хают (Каз. Кір., 100б); кгреки все на костелъ светыи подъб8рилъ (Бер. саб., 39). З канца XVI ст. яна пачынае паступова выцясняць папярэднюю, дасягаючы ў асобных тэкстах узроўню асноўнай нормы: все прешкоды ωтдалит ωт мене рачыл (Зб. 261, 71); А их 8бири все звѣрины шк8ри (Стрыйк., 516); ωзнаимил еи всѣ таемницы (Рым., 83); всѣ пожадливости звытѧжили (Каліст, I, 3); всѣ присѧги выпорожнили (Кін., 57).

У р о д н ы м, в і н а в а л ь н ы м (пры абазначэнні асобы) і м е с н ы м склонах дзякуючы падтрымцы з боку жывой мовы пераважае форма *всихъ* (*усихъ*): королевство ωтто всих неприѧтелеи вызволил (Троя, 8б); хто жъ зо всих не бачить (Унія, 10б); во всихъ речахъ (Зб., 259, 47). Форма *всѣхъ,* менш уласцівая жывой мове, сустракаецца радзей: ω всех жалобах (Вісл., 13); с8мма всѣх знакωв антіхрістовых (Каз. Кір., 219); исповѣданіе всѣхъ грѣхωвъ (Дзід., 26).

Форма з *и* ў аснове *всимъ* (*усимъ*) займае асноўнае месца ў д а в а л ь н ы м склоне: оусим оузываючим (Валх., 45б); всимъ геретическим и дїѧволскимъ сектамъ (Унія, 3б); Христос 8казалсе всимъ 8ченикомъ (Зб. 255, 43б); пропаст всимъ злостѧмъ (Зб. 752, 52). Форма з *е* ў аснове, менш характэрная для жывой мовы, сустракаецца радзей, прычым, як правіла, у помніках кніжнай мовы: чюдо велие всѣмъ показалъ (Чэцця, 25); единостайный естъ ѧзыкъ всемь (Скар. КБ, 23); Покои вам всѣм (Каз. Кір., 114б); всѣмъ которие его чим колвек образили (Навука, 117).

Асноўную норму старабеларускай пісьменнасці ў цэлым, пачынаючы з самых ранніх помнікаў, складае традыцыйная форма т в о р н а г а склону з *и* ў аснове: со всими силами (Рач., 231); над всими епископы (Унія, 17б); над всими ѧзыки (Зб. 82, 10б). Другая традыцыйная форма творнага склону множнага ліку з *е* ў аснове, якая не адпавядала норме жывой гутарковай мовы, па пашыранасці значна ўступае папярэдняй: всѣми людми володети (Гр. 1387); зо всѣми розл8ка (Лям., 3); всѣми чтырма плѧгами (Мак., 7б).

Амаль не адбылося істотных змяненняў у старабеларускай пісьменнасці ў параўнанні са старажытнарускай у парадыгме іншых азначальных займеннікаў *всѧкий, самъ, самый, иный, кождый.* У помніках старабеларускай пісьменнасці яны скланяюцца як поўныя прыметнікі. У назоўным і пры неадушаўлёных назоўніках у вінавальным склонах адзіночнага ліку нешматлікімі прыкладамі прадстаўлены старажытныя іменныя формы *инъ, всѧкъ.* Фіксуюцца яны на працягу ўсяго старажытнага перыяду беларускай мовы, але толькі рэлігійнымі помнікамі, што сведчыць аб іх неадпаведнасці норме жывой гутарковай мовы: да ѡтоидет всѦко чародѣиство (Чэцця, 34б); инъ вѣстникъ прииде глѦ ко Іовꙋ (Скар. КІ, 5б); оу каждо времѦ (Арыст., 149); на всѦкъ часъ (Будны, 97). Аднак пануюць у *мужчынскім* родзе поўныя формы на *-ый/-ий:* в самыи полъднь (Чэцця, 15); самъ оусшо*л* на не*г* (там жа, 20б); мыслили побечи въ свою землю каждыи (Алекс. XV, 1б). У ранніх помніках, як і сярод прыметнікаў, сустракаюцца формы з канчаткам *-ый* пасля заднеязычных і *-ий* пасля шыпячых, што ў пэўнай меры было характэрна і для жывой беларускай мовы ранняга перыяду: всѦкый члвкъ (Вісл., 12б); иншій весь кгрунтъ лѣсомъ зарослъ (РПП, 127, 1555). Асноўную норму ў *ніякім* родзе складаюць поўныя формы з канчаткам *-ое/-ее:* иное тѣло грѣшило (Каз. Кір., 18); ꙋчи*мс*ѧ выпо*л*нѧти тое и и*н*шое (Зб. 261, 223); хоромꙋ даетсѦ... самое здоровˢе (Дзід., 26).

У родным (пры адушаўлёных назоўніках і ў вінавальным) склоне норму складае блізкі жывой мове канчатак *-ого/-его:* без всѦкого извѣта (Гр. 1264); кождого витезѦ...ласкаве будеть прыймовати (Трыст., 113—116); ѡфѣра, которꙋю оучинилъ спситель нашъ... ѡфѣрꙋючи самого себѣ (Дзід., 22). Намнога менш пашыраны канчатак царкоўнаславянскага паходжання *-аго/-яго:* каждаго напоминала (Зб. 752, 95б); ѡ*т* всѦкаг дѣла (Хран., 8); безъ всѦкаго прекословіѦ (Ст. бр., 22). У давальным склоне бачым толькі традыцыйны канчатак *-ому,* уласцівы і жывой мове: всѦкому ми делу исправа... чинити (Гр. 1387); иному никому не въступатисѦ (Гр. 1399); кожномꙋ члвкꙋ надобе е*ст* (Вісл., 12—12б); семіонъ ... недꙋжьнымъ исцелѣние подавалъ вча и запрещаѧ кождомꙋ (Чэцця, 5б); вси*м* посполите и кождомꙋ зособна (Трыб., 1); у творным — звычайны для яго ранейшы канчатак *-ымъ/-имъ:* золотыми жемчоуги и иным*и* дорогимъ каменье*м* (Валх., 40); з самым діѦво-

ломъ побiютсѦ (Каз. Кiр., 146); самымъ Богомъ присѦгати (Кiн., 57); з самы*м* то*л*ко го*с*подомъ (Зб. 259, 17); традыцыйны канчатак *-омъ* пераважае ў месным склоне: в ка*жд*о*м* городе (Арыст., 4); в кождомъ годȣ (Трыб., 2б); не на *вс*Ѧ*кωм* мѣсци (Каз. Кiр., 211); на само*м* берегȣ реки (Бельск., 28б); в каждомъ сакраментѣ (Сакр., 1б); радзей сустракаецца ўласцiвы жывой мове канчатак *-ымъ/-имъ:* на самым до влоское земли вытѦганю (Атыла, 220); на и*н*шы*м* ме*ст*цȣ (Зб. 261, 69); на ко*жд*ымъ чло*н*ку (Зб. 752, 95).

Амаль нiякай спецыфiкi не мае ў старабеларускай пiсьменнасцi ў параўнаннi са старажытнарускай парадыгма азначальных займеннiкаў *жаночага* роду адзiночнага лiку, як i прыметнiкаў. У назоўным склоне пануючай з'яўляецца поўная форма на *-ая/-яя:* ка*ж*наѦ землѦ имееть (Вiсл., 12б); да сотретсѦ всѦкаѦ неприязнь (Чэцця, 13); кажнаѦ кость свою кровь выпоустит (Пак, Хр., 3б). Зрэдку сустракаецца iменная форма: в роуцѣ его дша всѦка жива (Зб. 262, 17); належыт всѦка честь (Зб. 752, 36б). У родным склоне пераважае традыцыйны канчатак *-ое:* безъ всѦкое праци (Пак. Хр., 1); безъ кождое проволоки (Трыб.. 14); с ка*жд*ое речы (Зб. 255, 49б); способъ не рознитъ рѣчи самое (Дзiд., 22). Ранейшы канчатак *-ой* мае месца ў давальным склоне: кажной дѣвце дѣльница (Вiсл., 35б); котори*и* кролеви людȣ к тисѦчи ку ка*жд*о*и* потребѣ стави*т* приωбѣца*л* (Хр. польск., 16). У вiнавальным склоне ў рэдкiх выпадках выступае iменная форма з канчаткам *-у:* на всѦкоу нощь (Чэцця, 8б); сѣ дахъ вамъ всѦку былину (Скар. КБ, 10б), у астатнiх помнiках адзiнай з'яўляецца поўная форма з канчаткам *-ую:* на каждȣю валкȣ (Вiсл., 12); ѱломъ всѦкȣю противность ... оусмирѦе*т* (Зб. 262, 1б); кажную рѣчь по сѣму познати (Будны, 53б); Оумыю на ко*жд*ȣю ночь ложко мое (Мак., 227). У творным склоне паслядоўна выступае традыцыйны двухскладовы канчатак *-ою/-ею,* якi быў нормай старажытнарускай мовы: со всѦкою пошлиною (Гр. 1387); иною смртью мене оумоучте (Пак. Хр., 11б); з ре*ч*ю самою (Унiя, 24б); межы и*н*шою розмовою (Зб. 752, 43); з кождою дȣшею (Хран., 16б). Традыцыйны канчатак *-ой* звычайны ў месным склоне: во всѦкой торговли (Гр. 1405); на иньшеи игрѣ (Вiсл., 8); в каждо*и* владзы (Каз. Кiр., 66); в кождой дше (Сматр., 8); ω самой речи (Варл., 23б).

Для парадыгмы **множнага** лiку разглядаемых азна-

чальных займеннікаў, як і прыметнікаў, характэрны уніфікаваныя формы для ўсіх трох родаў. У н а з о ў н ы м і пры неадушаўлёных назоўніках у в і н а в а л ь н ы м склонах нормай з'яўляецца поўная форма, уніфікаваная па мужчынскаму роду, з канчаткам *-ыи/-ии:* иныи на дорозе помѣрли (Гр. 1405); иныи видѧхоу пламень ѡгныи (Чэцця, 9б); иныи жоны и дѣти на колье тыкахоу (Віл., 445); тако жебы водилисѧ всѧкіи седѧщии во беседе (Арыст., 147); Бгъ самыи толко ѧвныи овоцы вымагаетъ (Мак., 22); радзей — форма, уніфікаваная па ніякаму роду, з канчаткам *-ие/-ые:* оуси иные горы ... превышает (Валх., 42); всѧкіе хулы на Бга суть противу того приказаньѧ (Будны, 18б); иные тꙋ на зем*ли* пакостѧ*т* люде*м* (Каз. Кір., 22б); по самые ѡкна (Стрыйк., 495б); над всѣ иншые речи (Варл., 38б); зрэдку ўжываецца іменная форма: ины гадины шкодливше соу*т* (Валх., 54); на*д* ины кроли (Бельск., 37); што есть доро*ж*ше на*д* всѧки шаты (Алекс., 35б).

У адрозненне ад іншых займеннік *самъ* у назоўным склоне множнага ліку выступае ў традыцыйнай іменнай форме *сами* (*самы*). Такая спецыфіка тлумачыцца неабходнасцю дыферэнцыраваць фармальна два займеннікі *самъ* і *самый,* неаднолькавыя па семантыцы: самі старосты (Вісл., 9б); сами разсѣѧни по землѧмъ плачютсѧ (Чэцця, 2б); сами оумирае*м* (Каз. Кір., 36б); самы слова свѣдчат (Каліст, І, 3б).

Толькі формы з канчаткам *-ыхъ/-ихъ,* характэрныя і для старажытнарускай мовы, ужываюцца ў р о д н ы м, в і н а в а л ь н ы м (пры адушаўлёных назоўніках) і м е с н ы м склонах: ины*х* земль гсдрь (Гр. 1387); иныхъ боѧръ мно*г* постинали (Віл., 444); длѧ всѧки*х* причи*н* (КВЗС, 12, 1533); ѡ*т* инъшыхъ кгрꙋнътовъ (Трыб., 13); абы и*х* то самых поткало (Еўл., 46); длѧ и*х* самы*х* (Зб. 752, 43б); з канчаткам *-ымъ/-имъ* у д а в а л ь н ы м склоне: проти*в* ины*м* домо*м* (Валх., 44); Повинность ꙋчите*л*скꙋю ѧкъ ... ѡ*т*правовалъ... самымъ іновѣрцемъ нє естъ невѣдомо (Сматр., 38); противко всѧкимъ искꙋшеніамъ (Зб. вып., 14); з канчаткам *-ыми/-ими* ў т в о р н ы м склоне: межи иными рѣчами (Валх., 41б); з жадными иными бронѧми (Трыб., 8); з людми самыми (Каз. Кір., 142б); ѡного мешка*н*ѧ достꙋпилъ которое всѧкими добрами естъ напо*л*нено (Варл., 125).

## *Формы прыналежных займеннікаў*

Старабеларуская літаратурная мова ўнаследавала ад старажытнарускай перш за ўсё сам склад прыналежных займеннікаў. У яго ўваходзілі словы *мой, твой, свой* — для адзіночнага ліку, *нашъ, вашъ* — для множнага. У старабеларускай пісьменнасці ў асноўным захавалася і сістэма склонавых форм адзначаных займеннікаў, якой яны характарызаваліся ў старажытнарускай мове. Асаблівай устойлівасцю форм у старабеларускіх пісьмовых помніках вылучаюцца займеннікі *мой, твой, свой,* якія скланяюцца па мяккай разнавіднасці займеннага скланення. У старабеларускай пісьменнасці даная парадыгма зведала толькі асобныя фанетычныя змены. У назоўным, а пры неадушаўлёных назоўніках і ў вінавальным склонах **адзіночнага** ліку ў *мужчынскім* родзе выступаюць зыходныя формы *мой, твой, свой,* у *ніякім* — *мое, твое, свое:* свои мед несъ да дом8 (Вісл., 19); мое ноужное тело срдце и дша моѧ дрыжит (Пак. Хр., 3); гласъ твой гсди слышахъ в раи (Скар. КБ, 12б); пожадает серце твое (Пс. XVII, 6).

Традыцыйныя старажытныя формы займеннікаў *мой, твой, свой* характэрны і для большасці ўскосных склонаў. Адзінай у родным і пры адушаўлёных назоўніках у вінавальным склонах з'яўляецца ранейшая несцягнутая форма з канчаткам *-его моего, своего:* за своего брата (Гр. 1387); хто забьеть пiроженаг своего (Вісл., 7б); чстное пррока твоего тръжество (Зб. 262, 11б); ѡтст8пілі роз8м8 своего (Жыц. св., 3); у давальным склоне — з канчаткам *-ему:* городъ ... поставили есмы кнзю скирикгаилу брату своему (Гр. 1387); к ... моем8 листу (КВС, 490б, 1552); 8лж8 д8х8 твоем8 (Бельск., 59); у творным — з канчаткам *-имъ:* изъ своимъ мѫжемъ (Вісл., 21б); пред ѡбличьим твоим (Пак. Хр., 2); с моим оучителем аристотелем (Алекс. XV, 1); своим древом его наполы пробол аж с конѧ спал оумерши (Троя, 25б); зъ своимъ патриѧрхою (Бер. саб., 38); у месным — з канчаткам *-емъ:* ѡ моемъ сыноу миломъ чоувал (Пак. Хр., 2); поставить тебе во врѧде твоемъ (Скар. КБ, 73); при гробѣ своемъ (Лям., 18). Новая форма, якая ўзнікла ў выніку уніфікацыі форм па творнаму склону ў жывой мове, займае другараднае месца: ѡ словѣ своимъ (Будны, 33); у моим дому (Трыст., 3); ѡ жывоте своимъ (Бер. саб., 31б); на своим мѣст8 (Бельск., 90б); во винограде своим (Зб. 255, 314).

Традыцыйныя ранейшыя формы пераважаюць і ў парадыгме разглядаемых займеннікаў *жаночага* роду адзіночнага ліку. У н а з о ў н ы м склоне тут, як і ў старажытнарускай мове, выступаюць толькі формы *моя, твоя, своя*: згиноула надеꙗ моꙗ (Жыц. Ал., 99); възложилас рꙋка моѧ и оуста мои (Зб. 262, 25); то была жена твоꙗ (Зб. 752, 14б).

У р о д н ы м склоне адзіночнага ліку ў большасці помнікаў розных жанраў XIV—XVI стст. і ў асобных рэлігійных і свецка-мастацкіх тэкстах XVII ст. пераважаюць традыцыйныя формы з двухскладовым канчаткам *-ее*: молитвы моее (Пак. Хр., 11б); кꙋ скаженью главы твоее будут оусиловать (Троя, 40б); вѣдал мꙋки своее (Зб. 752, 168б); формы з аднаскладовым канчаткам, крыніцай якіх была жывая гутарковая мова, сустракаюцца ўжо ў самых ранніх старабеларускіх тэкстах розных жанраў, аднак узроўню нормы яны дасягаюць толькі ў асобных помніках XVI ст. і ў большасці — XVII—XVIII стст.: хорꙋгві своей бороніть (Вісл., 10); длѧ твоеи дворности (Трыст., 65); Кто не пиет крове моеи (Каз. Кір., 92); ꙗкобы мышь выскакуючи з своеи ꙗ́мы (Алекс., 7); час мꙋки и смерти моеи пришолъ (Зб. 255, 244б). У д а в а л ь н ы м і м е с н ы м ужываюцца формы *моей, твоей, своей*—давальны склон: к женѣ своей (Чэцця, 17); любо боуди свѧтости твоеи (Пак. Хр., 2б); дхъ мои... чоуж был женѣ моеи молилсѧ (Зб. 255, 265); месны склон: по своеи правде (Гр. 1405); по смерти моеи (Пак. Хр., 3); почки мои оу пазꙋсѣ моей (Зб. 262, 20); в твоеи владзы (Варл., 15б); у в і н а в а л ь н ы м — *мою, твою, свою*: простри рꙋкꙋ твою (Чэцця, 6); кажнаꙗ кость свою кровь выпоустит (Пак. Хр., 3б); в кожꙋ мою и в мѧсо мое прилепиласѧ дша моѧ (Зб. 262, 20). Норму ў т в о р н ы м склоне складае канчатак *-ею*: головою своею заплатит (Вісл., 24); зъ жоною моею (КВС, 441б, 1552); перед ѡбличностю твоею (Алекс., 14б); своею пѧдю мѣритсѧ (Паўст., 5); мы естесмо зранены оуродою твоею (Жыц. св., 3).

Панаваннем старажытных форм характарызуецца і парадыгма **множнага** ліку разглядаемых прыналежных займеннікаў. У н а з о ў н ы м і пры неадушаўлёных назоўніках у в і н а в а л ь н ы м склонах часцей за ўсё, асабліва ў ранніх старабеларускіх помніках, адзначаюцца традыцыйныя, уніфікаваныя па мужчынскаму роду формы *мои, твои, свои*: кладеть оу колодꙋ ноги мои (Зб. 262, 26); раны свои ... вказывалъ (КВЗС, 3б, 1533); Тру-

пы свои поховали (Атыла, 17б); вытѦгаючи ꙗкъ паѹкъ на сѣти внѹтрности свои (Паўуст., 2б); рѹки свои ѹмыет в крови несправедливого (Пс. XVII, 43); формы *мое, твое, свое,* уніфікаваныя па жаночаму роду, па пашыранасці ўступаюць папярэднім, а прыкладна з сярэдзіны XVI ст. яны пачынаюць актыўна іх выцясняць: вси кости мое перечтут (Пак. Хр., 3б); во всѣ еднако впѹщает все поꙗдаючее свое зѹбы (Кін., 64); ѡплакѹи злости твое (Зб. 255, 3б); у родным і вінавальным (пры адушаўлёных назоўніках) і месным склонах—*моихъ, твоихъ, своихъ*: светлость ѡчью моих (Пак. Хр., 5); родных своих братовь позабивалъ (Мам., 169); потреба наѹкъ твоихъ дѹховныхъ (Лям., 7); дха Правого ѡбнови во внѹтрностꙗх моих (Пс. XVII, 40); у давальным—*моимъ, твоимъ, своимъ*: исоус молвил оучнкомъ своим (Пак. Хр., 5б); к8 своимъ рѹкамъ (КВС, 460, 1552); нѣтъ ѡтпочинку костем моим (Пс. XVII, 9); у творным — *моими, твоими, своими*: со единомысленики своими (Чэцця, 7б); посылалэм листы моими (Еўл., 49); ѡчима твоими (Біблія, 321); скрежечет на него зѹбами своими (Пс. XVII, 7).

Па-іншаму склаўся ў старабеларускай пісьмовай мове лёс парадыгмы прыналежных займеннікаў *нашъ, вашъ.* З аднаго боку, па старажытнарускай традыцыі яны працягвалі скланяцца па мяккаму варыянту займеннага скланення і, такім чынам, нічым не адрозніваліся ад займеннікаў *мой, твой, свой.* З другога боку, з жывой гутарковай мовы ў пісьмовую ўсё больш пранікалі ўтвораныя ў выніку зацвярдзення *ш* і пераходу *е* ў *о* формы скланення гэтых займеннікаў па цвёрдай разнавіднасці. Суадносінамі форм мяккай і цвёрдай разнавіднасці і вызначалася ў даным выпадку моўна-стылістычнае аблічча таго або іншага помніка.

Так, у назоўным і вінавальным (пры неадушаўлёных назоўніках) склонах **адзіночнага** ліку *мужчынскага* роду найбольш часта, хоць і непаслядоўна, форма мяккай разнавіднасці адзначаецца ў помніках XIV—XV стст., прычым нават у дзелавых, якія адлюстроўваюць факт жывой мовы: держить брать нашь (Гр. 1387); весь вашъ товаръ ѡтпустимъ (Гр. 1409); нашь рочныи имеет емѹ платить (Вісл., 39); дали есте ми того то члвка ... ѡтвращавшаго люд нашь (Пак. Хр., 9). Аднак пануючай у пісьменнасці ў цэлым з'яўляецца форма цвёрдай разнавіднасці: землѦнинъ наш не играл (Вісл., 27б); коли бы хто ... маестат нашъ гсдрьскии ѡбразил

(Ст. 1588, 4); нехай свѣтитсѧ свѣтъ вашъ пред члки (Мак., 5). У *ніякім* родзе ў большасці помнікаў перавaжае традыцыйная форма мяккай разнавіднасці з канчаткам *-е*: право наше такъ оуставлѧемь (Вісл., 12); мног зацных людеи згинѹло през шаленство ваше (Бельск., 86б); што жь то ваше за щастье (Хран., 8б).

У родным і пры адушаўлёных назоўніках у вінавальным склонах часцей ужываецца форма *нашего, вашего,* радзей — *нашого, вашого.* Родны склон: есте того з вашого мужества доказали (Атыла, 192); Вы пожадливости ѡтца вашего хочете чинити (Мак., 50); вінавальны склон: засоромотили есте бга вашого (Пак. Хр., 21); дѧкую ѧ ... пна нашого Езуса Христуса (Еўл., 35); ѹпоймы прето ѡтца нашего виномъ (Біблія, 48); Аболи не ѹзналес мене быт алеѯандра ... слугѹ вашего (Алекс., 15). У давальным склоне — часцей *нашему, вашему,* радзей — *нашому, вашому*: поведѣте мѧ къ стареишине вашемѹ (Чэцця, 44б); кѹ столѹ нашомѹ (Ст. 1588, 4); ѡфери чинили гсдѹ богу нашему (Біблія, 110); Писались мы иншихъ часов маестатови вашему (Алекс., 15б); преосщенствѹ вашемѹ покорне себе полецаю (Дыяр., 176б). Творнаму склону ўласцівы формы *нашимъ, вашимъ,* радзей — *нашымъ, вашымъ*: естъ ходотаемъ нашимъ къ богу (Будны, 122б); передъ ѡтцомъ вашимъ небесънымъ (Цяп., 25); тыс есть гетманом нашим (Кн. Мак., 63); нашимъ ѧзыкомъ рѹским ѡбъѧснил (Бяр., прадм.). Меснаму склону — часцей *нашемъ, вашемъ,* радзей — *нашомъ, вашомъ*: не вонтплю ничого ѡ вашом жолнеры (Атыла, 192); бѹде ѹмова моѧ на тѣле вашем (Біблія, 43); пытал ѡныи муж ... ѡ родѣ нашем (Бельск., 30б); нѣшто выпишемы ѡ нашем животѣ (Алекс., 31б). Другая форма, аднолькавая з творным, прадстаўлена нязначна: в набоженстве нашимъ преслѣдовани бываемъ (Апакр., 2б); в панствѣ вашымъ (Дыяр., 168).

Суіснаваннем форм цвёрдага і мяккага варыянтаў скланення характарызуецца і парадыгма адзіночнага ліку *жаночага* роду разглядаемых прыналежных займеннікаў. Нязменна са старажытнарускай эпохі захоўваецца ў старабеларускай пісьменнасці форма назоўнага склону з канчаткам *-а наша, ваша*: волѧ ваша будеть (Рач., 309); таѧ схажка ваша ... собором се звать не можетъ (Бер., саб., 9б); рачъ вѣдат велможност ваша (Алекс., 8б); у родным склоне — *нашее, вашее (нашое, вашое),* радзей — *нашой, вашой:* послал до жоны вашое (Пак. Хр., 18); длѧ вашеи милости то вчыню

(Трыст., 14); жд8 вырок8 апостолское вашее столицы (Бер. саб., 32б); до оное... ωтчызны нашее (Карп., 4б); вѣрныи подданыи вашое крол млст (Дыяр., 158б); млсти вашои моглъ добре выгодити (там жа, 158); у давальным і месным склонах — *нашей, вашей*, радзей — *нашой, вашой*: ку ωтчизне вашои помочи (Цяп., 269б); в моцы нашей (Біблія, 53); Вси рыбы морскіи р8цѣ вашеи подданы с8ть (Хран., 16б); у вінавальным — *нашу, вашу*, зрэдку — *нашю, вашю*: справедливыи судѦ реч ншю пофалит (Цяп., 270б); ваш8 землю зъедѧт кобылки (Бельск., 74); на дш8 наш8, ласк8 свою всемог8чый бгъ вливает (Дзід., 1); у творным — часцей *нашею, вашею*, радзей — *нашою, вашою*: шодше из братьею вашею (Пак. Хр., 30); не печал8йтесѦ д8шею вашею (Цяп., 8б); перед нашою ωбличностю б8д8т (Алекс., 8б); Не фрас8йтесѦ дшею вашею (Варл., 92б).

Большай перавагай традыцыйных форм мяккай разнавіднасці скланення характарызуецца парадыгма **множнага** ліку разглядаемых займеннікаў, бо старажытныя спалучэнні шыпячых з *и* аказаліся ў старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове ўстойлівымі. Нормай у назоўным і пры неадушаўлёных назоўніках у вінавальным склонах з'яўляюцца уніфікаваныя па мужчынскаму роду формы *наши, ваши*, радзей — *нашы, вашы*: вѣдаю мысли ваши (Зб. 262, 21); тогда ваши люди жидовъскіи боудоут гин8ти (Сівіла, 4); ω горла нашы игра идеть (Атыла, 192); вы и потомкове ваши смертью заражени б8дете (Бельск., 4б); у родным, вінавальным (пры адушаўлёных назоўніках) і месным склонах часцей бачым формы *нашихъ, вашихъ*, радзей — *нашыхъ, вашыхъ*: вы наполъньте меру ωтцовъ вашихъ (Цяп., 33); побито ωт наших москвы (Еўл., 140); в вашых сторонах прибытки (Алекс., 34б); даите д8ши ваши за примере ωтцовъ ваших (Кн. Мак., 53б); ωтп8стите каждыи брат8 своем8 в серцъ вашых (Зб. 255, 114); у давальным — *нашимъ, вашимъ*, радзей — *нашымъ, вашымъ*: битва была нашим щаслива (Еўл., 2); бгомъ нашымъ великим оферовати (Хран., 24б); у творным — *нашими, вашими*, радзей — *нашыми, вашыми*: тые которіе под нашими дыхали моуками (Пак. Хр., 25б); кроиникар матеи стриковскии згодливе з нашими стародавными лѣтописцы р8скими се згожает (Стрыйк., 42б); богами нашыми гардѧт (Зб. 752, 82).

У асобных рэлігійных помніках, галоўным чынам ранніх, можна адзначыць старажытныя формы назоўна-ві-

навальнага склону множнага ліку, уніфікаваныя па жаночаму і ніякаму роду,— *наша, ваша*; *наше, ваше*: преложю деи празники ваша въ соуетоу (Чэцця, 25); выст8пки вашѣ перед ним ꙗкъ нащирей ѡткрывайте (Каліст I, 8б).

Рэліктавую з'яву ў гісторыі беларускай літаратурнай мовы ўяўлялі сабой формы **парнага** ліку прыналежных займеннікаў, як і прыметнікаў. Яны адзначаюцца ў асобных, пераважна ранніх, помніках рэлігійных жанраў. Прыкметна пашырана форма н а з о ў н а-в і н а в а л ь н а г а склону: ѡтворилъ стаѦ своѦ оуста (Чэцця, 43б); возмите кнжата ворота ваша (Пак. Хр., 26—27); ѡ*д*творите кнзи врата ваша (Жыц. св., 64). Некалькі радзей сустракаецца форма р о д н а-м е с н а г а склону: снемъ ѡковы с ногоу своею (Чэцця, 33б); што ѡ*т* р8к8 твоею ѡзметь (Зб. 255, 27). У найбольшай жа ступені пашырана форма д а в а л ь н а-т в о р н а г а склону: ногама своима (Чэцця, 33б); ѡчима нашима оувидети (Пак. Хр., 32б); паг8ба и смрть рекли оушима нашима (Зб. 262, 23б); пере*д* ѡчима твоима (Біблія, 229); перед моима ѡчима (Алекс., 4б); своима ѡчима (Жыц. св., 58б). Відаць, у разглядаемы перыяд формы парнага ліку ў пэўнай ступені былі характэрны для жывой гутарковай мовы.

## *Формы пытальна-адносных займеннікаў*

Старабеларускай мовай былі ўнаследаваны ад старажытнарускай пытальна-адносныя займеннікі *кто (къто), что (чьто), каковый (каковъ), кои, чий (чый, чей)*. Займеннікі *кто, что* не змяняліся па родах і не мелі форм множнага ліку. Першы з іх скланяўся па цвёрдаму тыпу, другі—па мяккаму. Яшчэ ў старажытнарускі перыяд пад уплывам жывой мовы займеннік *кто* прыняў выгляд *хто*, а *что — што* ў н а з о ў н ы м склоне (другі з іх — і ў в і н а в а л ь н ы м). Формы *кто, что,* уласцівыя старажытнарускай мове, адзначаюцца зрэдку толькі ў асобных рэлігійных і свецка-мастацкіх творах: кто б8де*т* раненъ оу сваде (Вісл., 6б); кто еси ты (Чэцця, 2); что мови*т* писмо (Каз. Кір., 171б); кто ес*т* в плюга*в*ствѣ неха*и* еще плюгавѣе*т* (Выкл., 136). Нормай старабеларускай пісьменнасці сталі ўласцівыя жывой гутарковай мове формы *хто, што*. Яны вядомы самым раннім старабеларускім тэкстам: о томъ, хто брата забьеть (Вісл., 7б); Хто што имѣлъ ѡт овощовъ (Чэцця, 14); хто всимъ што в

дом8 естъ владнетъ (Бер. саб., 28); што ѡтповѣм што рек8 (Кін., 54б); абы ѡкреститисѦ хто прагн8л (Стрыйк., 4).

Ва ўскосных склонах названыя займеннікі выступаюць у формах, блізкіх да жывой гутарковай мовы (калі не лічыць іх традыцыйнага арфаграфічнага аблічча). У р о д н ы м і в і н а в а л ь н ы м склонах пераважаюць формы *кого, чого,* форма *чего* даволі рэдкая: ни с чого личбы не довать ем8 (Вісл., 35б); кого бы врѦдь на горло сказалъ (Трыб., 6); длѦ чого ромулюс королем зосталъ (Рым., 78); 8важаи длꙗ чего (Зб. 255, 20); у д а в а л ь н ы м ужываюцца толькі формы *кому, чому:* которыи ком8 школы чинѦт у гаи (Вісл., 7б); чом8 поличоны есмо ꙗко скотина (Зб. 262б); ком8 ином8 в р8ки п8стилъ (Трыб., 14); кому се алимпиꙗдо поддала (Алекс., 3); у т в о р н ы м склоне — часцей за ўсё *кимъ* (па ўзору *чимъ*), *чимъ* (радзей *чымъ*), у адзінкавых выпадках — старажытнарускія *кемъ, чемъ*: а не б8дет ли чимъ заплатіть (Вісл., 24); с ким сѦ мог8 ровнати (Чэцця, 15); чѣм дароватн кождого (Арыст., 16б); чымъ ты того довелъ (КВС, 442б, 1552); чим сꙗ свѣт бавить (Зб. 81, 29); у м е с н ы м склоне ў адрозненне ад папярэдніх пераважаюць ранейшыя традыцыйныя формы *комъ, чомъ,* радзей *чемъ*: жадного недостатку не мѣли ни в чем (Валх., 56); по комъ тое горе (Лям., 16); при комъ правд8 быт 8знаю (Зб. 752, 72б); другараднае месца займаюць новыя, уласцівыя жывой мове формы, агульныя з творным склонам: в чым велик8ю 8чтивост... показал (Зб. 255, 290); в чим кого 8шкодил (Выкл., 49б). Астатнія пытальна-адносныя займеннікі (*каковый (каковъ), кои, чий (чый, чей))* мелі формы, аналагічныя формам непрадметных займеннікаў ці прыметнікаў.

## *Адмоўныя і няпэўныя займеннікі*

Традыцыйнымі для беларускай мовы з'яўляюцца атрыманыя ёй у спадчыну ад старажытнарускай мовы а д м о ў н ы я займеннікі *никто, ничто, никакий, никоторый, ничий.* Гэтыя займеннікі, як і пытальна-адносныя, ад якіх яны ўтварыліся пры дапамозе часціцы *ни*, у беларускай народна-гутарковай мове падвергліся фанетычным зменам, у выніку якіх набылі выгляд *нихто, ништо, ниꙗкій, ничый.* Разам з тым па прычыне ўласцівай пісьмовай мове традыцыйнасці норм працягвалі ўжывацца і іх старажытнарускія прататыпы. Суадносіны традыцый-

ных і новых варыянтаў у парадыгме гэтых займеннікаў такія ж, як і ў парадыгме пытальна-адносных, ад якіх яны ўтварыліся. Так, намнога радзей, чым адпаведныя формы жывой мовы, адзначаюцца ў старабеларускай пісьменнасці характэрныя для старажытнарускай мовы формы назоўнага склону *никто, ничто*. Яны сустракаюцца зрэдку толькі ў рэлігійных помніках XIV—XVI стст., што падкрэслівае іх кніжны характар: ѡна же не ѡтвещала емоу ничто же (Чэцця, 63); никтож без грех токмо бгъ един (Віл., 437); никто войти не смѣлъ (Валх., 39); абы сѧ никто своей кривды не мстилъ (Будны, 77б). Асноўнае месца займаюць уласцівыя жывой мове формы *нихто, ништо:* нихто не ставит (Вісл., 34); без него же не было ништо (Чэцця, 22); нихто его не позналъ (Трыст., 28).

У значэнні 'ніводзін, ніхто' самым пашыраным у старабеларускай пісьменнасці пасля спрадвечных аказаўся адмоўны займеннік *жадный (жаденъ)*, які ўжываўся не без падтрымкі з боку польскай мовы. Ён адзначаецца пачынаючы з XVI ст. і мае тыповае займеннае скланенне: абы землѧнинъ наш не играл изъ жадным такым чюжоземьцом косток (Вісл., 27б); жадная дша до неба неидеть (Наб. тур., 21—21б); не было жадного дому, котории не был кровю ѡблитыи (Тр. гіст., 72); жадной речи ѡгнемъ печеной, албо вареной не ѣдали (Мак., 14); жадное имъ ѡрꙋжіе не шкодит (Алекс. 1697, 36б).

Са старажытнарускай мовы ў старабеларускую перайшлі галоўным чынам няпэўныя займеннікі, утвораныя пры дапамозе часціцы *не.* На беларускай моўнай глебе яны набылі выгляд *нехто, нешто, некий (некый), некоторый, некакий,* і аказаліся тут найбольш ужывальнымі. Побач з імі яшчэ працягвалі ўжывацца некаторы час і іх старажытнарускія прататыпы: некоторыи речи нехто комꙋ кгвалтом возмет (Вісл., 7б); оучинилъ тобе нешто лихого (Пак. Хр., 1б); в некакое поднесѣнье (Валх., 41); бысть же нѣкто чернець (Віл., 550); нѣкакии рощки походили зъ его чола (Алекс., 5); звѣром нѣчто подобное (Хран., 4б).

У старабеларускай пісьменнасці атрымалі значнае пашырэнне няпэўныя займеннікі, утвораныя пры дапамозе часціцы польскага паходжання *колве (колвекъ).* Яны фіксуюцца ўжо самымі раннімі помнікамі: которые колвек ѡттоль вывалезены (Гр. 1407); которые колвек едут мимо (Трыст., 55); такимъ кольвекъ ѡбычаемъ (Трыб., 11); чогоколвекъ бы ѡт него жедали (Алекс., 65); кого

колвек Хс вызȣлъ з одѣнА (Мак., 19); што колве сотворилъ (Хран., 5).

Прыкметнае пашырэнне пры ўтварэнні няпэўных займеннікаў у старабеларускай пісьменнасці атрымала і часціца *леда-/лѧда-*, якая ў сваім ужыванні таксама мела падтрымку з боку польскай мовы: такъ сА ледачым бавАть (Атыла, 255); не годитсѧ жебы леда хто носилъ скриню божию (Біблія, 366); вперод ȣмартвит ѧзык абы лѧдачого не мовил (Зб. 261, 154); назбытъ щодримъ въ чȣжихъ самъ лАдачимъ сА давить (Лям., 24); члвкъ з великое нендзы шалѣет и мовит лѧда што (Зб. 752, 552б).

Найменш пашыраны няпэўныя займеннікі, утвораныя пры дапамозе часціцы *-сь*, уласцівай польскай мове, якая, верагодна, і з'явілася яе крыніцай: иже бы емȣ чтос приехати (Віл., 443б); приведет ѧкогос члка (Каз. Кір., 124); Штось то оу насъ под сесь часъ навѣчный жалъ справилъ (Лям., 10); через когосъ (Навука, 140); до мене до темного везенѧ приходил муж ѧкиись сь свѣчею (Жыц. св., 101).

Такім чынам, склад займеннікаў і іх марфалагічная парадыгматыка ў старабеларускай пісьмовай мове ў аснове сваёй захаваліся нязменнымі са старажытнарускай эпохі. Гэтаму садзейнічала, з аднаго боку, сама спецыфіка данай часціны мовы, для якой характэрна лексічная абмежаванасць і аднатыпнасць, закасцянеласць форм пры семантычнай разнастайнасці адпаведных слоў, з другога — кансерватыўнасць норм пісьмовай мовы, асабліва пэўных яе разнавіднасцей, у параўнанні з жывой гутарковай мовай. Змены ж, якія адбыліся ў іх скланенні, былі агульнымі з прыметнікамі.

# *ДЗЕЯСЛОЎ*

У помніках старабеларускай пісьменнасці па колькасці формаўжыванняў дзеяслоў займае другое месца пасля назоўніка, што тлумачыцца як функцыянальнай роляй дзеяслова, так і разнастайнасцю яго граматычных катэгорый. Гэта часціна мовы ўключае ў сябе спрагальныя (асабовыя) і неспрагальныя (іменныя) формы. Спрагальныя формы рэалізуюцца ў катэгорыях часу, ладу, трывання, стану, асобы, ліку і роду. Кожная з гэтых катэгорый мае свае адметныя сродкі выражэння, у сувязі з чым агульная колькасць канчаткаў у парадыгме дзеяслова значна большая, чым у іншых змяняльных часцінах мовы.

У мове старабеларускай пісьменнасці ў параўнанні з сучаснай беларускай мовай сістэма дзеяслоўных форм была больш разгорнутай, асабліва ў выражэнні прошлага часу, дзе адрозніваліся перфект, аорыст, імперфект і плюсквамперфект, і будучага часу, для выражэння якога ўжываліся будучы просты і два будучыя складаныя.

Дзеяслоўныя формы ў цэлым характарызуюцца неаднолькавым развіццём. Адны з іх аказаліся вельмі ўстойлівымі на працягу ўсяго перыяду гісторыі беларускай мовы і адпаведна выступаюць у аднастайным, стабілізаваным выглядзе ў пісьменнасці. Іншыя значна змяніліся ў выніку ўнутранага, спантаннага развіцця літаратурна-пісьмовай мовы і ўплыву іншамоўных стыхій. Вельмі паказальна, што ў сістэме дзеяслова, з аднаго боку, зусім нязначна адлюстраваліся дыялектныя адрозненні, якія, як можна меркаваць па сучасных гаворках, былі вельмі стракатымі ўжо ў старажытнасці. З другога боку, дзеяслоў у большай меры, чым іншыя часціны мовы, нясе на сабе вынікі ўзаемадзеяння з іншымі славянскімі мовамі.

## КАТЭГОРЫЯ ЧАСУ

### *Цяперашні час*

Парадыгма цяперашняга часу рэалізуецца ў формах усіх трох асоб абодвух лікаў. Усе члены гэтай парадыгмы выкарыстоўваюцца ў пісьменнасці, аднак яны характарызуюцца неаднолькавай устойлівасцю. Формы 1-й асобы **адзіночнага** ліку на працягу ўсяго старажытнага перыяду паслядоўна ўжываюцца з канчаткам *-у/-ю* незалежна ад характару асновы: *бачу, беру, вѣру, вижу, еду, живу, иду, мовлю, мушу, терплю, хочу; ведаю, дворую, кланѦюсѦ, надеюсѦ, обецую, пытаю, шацую, шлюбую* і г. д. У залежнасці ад графіка-арфаграфічных асаблівасцей помнікаў канцавое *-у* ў гэтых формах можа перадавацца графемамі *у, ѫ, ȣ, оу, ю*: бога молю за васъ (Гр. Як. 1300); Ѧзъ вамъ кланѦюсѦ (там жа); ꙗ с тобою за *ѡдно* живѫ (Віл., 438); са*м* ꙗ на бои к немоу идȣ (Алекс. XV, 1б); вь ероузалеме моущоу ꙗ быти (Пак. Хр., 2б); в роуце твои полецаю сына моего (там жа, 2); ꙗ тыхъ хочȣ за парȣкȣ дать (КВС, 10); з великою радостю того прагну (Барк., 157); идȣ и ꙗ с тобою (Дыяр., 149).

У 1-й асобе адзіночнага ліку назіраюцца толькі нязначныя адхіленні ад асноўнай пісьмовай нормы. У гэтых адносінах асабліва вылучаецца Дзённік Ф. Еўлашоўскага пачатку XVII ст., у якім наогул польскі граматычны ўплыў адлюстроўваецца ў значна большай меры, чым у якім-небудзь іншым помніку. У творы формы 1-й асобы нярэдка ўжываюцца з канчаткам *-е*, які адпавядае польскаму канчатку *-ę* — *вере, живе, зоставуе, упатруе*: по сме*р*ти му добрэ слово зоставуе (3); зыче му с пано*м* его вшелꙗкого блокгославэ*н*ꙗ (41); ꙗко *юж* тэраз ȣпатруе (2). Іншыя помнікі старабеларускай пісьменнасці такіх форм не ведаюць.

Польскі ўплыў больш прыкметна адбіўся на дзеясловах з асновай на галосны, якія і ў польскай мове калісьці мелі канчатак *-ę*, але пад уздзеяннем нетэматычных дзеясловаў *dam, jem, wiem* пачалі ўжывацца з канчаткам *-т* у 1-й асобе адзіночнага ліку: *polecam, powiadam, umieram, zawołam*.

У беларускай пісьменнасці формы такога ўтварэння адзначаюцца з сярэдзіны XVI ст. Трапляюцца яны нават у дзелавых помніках: тыхъ записо*в* выдати тобе не смемъ (КВЗС, 5); ꙗ мамъ на то листъ кȣпъчы*й* (там жа, 43); ꙗ и самъ скорописного писма писати не ȣмемъ (там жа,

124). Больш пашыраны такія ўтварэнні ў перакладах з польскай мовы: прировнамсѦ к тым которые входѦть в рѡв (Пс. XVI, 28б); Домнимамъ ижь ми того каждый допоможеть (Будны, 238); присегам на слонце (Бельск., 158); ѧ ем8 8фам (Стрыйк., 62б).

Вялікай колькасцю такіх утварэнняў вылучаюцца Аповесць аб Трыстане і Гісторыя аб Баве, змешчаныя ў Пазнанскім зборніку канца XVI ст., дзе звычайнымі выступаюць *вмѣмъ, внимамъ, давамъ, дуфамъ, жедамъ, знамъ, надевамсѦ, поведамъ, полецамъ, прысегамъ, пытамъ* і інш.: то внимамъ за правд8 (Трыстан, 18); ѧ того велми жедам (там жа, 19); ѧ в тебе велми дуфамъ (там жа, 40б); богу тѦ полецам (Бава, 66б); пытам васъ што то за хлопец (там жа, 68б).

Аднак такія формы не былі пануючымі ў старабеларускай пісьменнасці, нават у тую эпоху, калі ўздзеянне польскай мовы на беларускую было асабліва моцным.

Формы 2-й асобы адзіночнага ліку ў старабеларускай пісьменнасці ўжываліся з варыянтнымі канчаткамі *-ши* і *-шъ* (*шь*). Першы з іх успрымаўся як паказчык царкоўнаславянскага паходжання і выкарыстоўваўся ў канфесіянальных творах канца XV — пачатку XVI ст.: о чадо почто мѧ искоушаеши (Чэцця, 1б); нине ѡтпоущаеши слоугоу твоего (Пак. Хр., 31б); ѡбвеселиши его радостію (Пс. XVI, 22б); поиши нас слез в мер8 (там жа, 83); все что сотвориши и речеши оувѣдаеть сотворитель твои (Арыст., 5).

Формы на *-ши* зрэдку сустракаюцца і ў пазнейшых помніках пераважна рэлігійнага зместу, што трэба разглядаць як рэлікт царкоўнаславянскага формаўтварэння: Не тое ли знайдеши (Будны, 56б); тогды принесеши дар твои (Жыц. св., 95б); б8деть ти ѧко же хощеши (Зб. 752, 84); землѧ еси и в землю ѡпѧт пойдеши (Зб. 82, 267б).

Аднак у старабеларускай пісьменнасці асноўнымі былі формы на *-шъ* (*-шь*), што цалкам адпавядала стану гэтых форм у народнай беларускай мове. Яны адзначаюцца ўжо ў граматах самага пачатку XIV ст.: ты самъ ведаешь (Гр. 1300); ныне новую правду ставишь (там жа). Нават у Чэцці 1489 г., дзе царкоўнаславянская плынь вельмі адчувальная, формы на *-шь* самыя звычайныя: *бежишь, боудешь, ведаешь, велишь, видишь, держишь, идешь, мыслишь, стоишь, хочешь, чинишь* і г. д. У пазнейшай пісьменнасці атрымліваюць пашырэнне арфаграфічныя варыянты *-шъ* і *ш*ˢ і, акрамя таго, у

скарапісных помніках канчатак -*ш* часта пішацца над радком: моусишъ оувидети моукоу мою (Пак. Хр., 3б); внегда ѡтидеш[s] ѡттуд8 и далей пойдешъ и придеш[s] къ д8б8 (Скар. ПЦ, 20б); ты законъ ховае*ш* в се*р*ц8 твое*м* (Бельск., 220б).

З ліку помнікаў XVI ст. вылучаецца толькі Зборнік № 262, дзе атрымала адлюстраванне асіміляцыя папярэдняга *ш* да гуку *с* зваротнай часціцы *с*А: напасти и голодоу посмѣессА и ѡ*т* звѣрА земского не оубоиссА (14); к шадаю помоли*сс*А (15); помолиссА к нем8 и оуслышит тА (22); чомъ с нимъ свариссА (26).

Некалькі прыкладаў такога напісання адзначаецца і ў помніках XVII ст.: если ми мае*т*нос*т* побере*ш*, не 8богати*сс*а (Бельск., 285б); даючи абовѣмъ ем8 себе, станесьсА добры*м* (Мак., 8б); ты боре*сс*а з дна́воломъ (Зб. 82, 206б). Такія прыклады, надта далёкія ад нормы, служаць толькі сведчаннем стыхійнага імкнення да фанетызацыі правапісу, што, аднак, не атрымала развіцця.

Вельмі стракаты малюнак мае ўжыванне форм 3-й асобы адзіночнага ліку, якія найбольш ярка адлюстроўваюць узаемадзеянне беларускай пісьмовай мовы з тымі стыхіямі, што аказвалі на яе ўздзеянне.

Мяккі канчатак -*ть* у дзеясловах абодвух спражэнняў можна лічыць асноўным для беларускай пісьменнасці ранняга перыяду: *береть, будеть, ведаеть, ведеть, велить, видить, говорить, даеть, держить, едеть, живеть, знаеть, идеть, кажеть, лежыть, любить, маеть, мовить, можеть, мусить, найдеть, обецуеть, пишеть, прагнеть, просить, робить, седить, стоить, тратить, ходить, хочеть, чинить, шкодить* і г. д. Такія формы адзначаюцца як у дзелавой, так і свецкай і рэлігійнай пісьменнасці: кнАз герден кланАеть *с* все*м* темь кто видить сую грамо*т* (Гр. 1264); ѡ*т* кого будеть какаА обида (Гр. 1399); петръ маеть то присАчь (Вісл., 19б); вариво даеть оубогимъ по всА дни (Чэцця, 3); ѡ*т*ць мои того хочеть (Пак. Хр., 2б); Агайло з вилни къ трoко*м* же идеть ра*т*ю (Віл., 441б); хто сѣеть кривд8 пожнеть безаконье (Зб. 262, 104); братъ тво*й* здоровъ ездить и ходить и пьеть, а не лежить (КВЗС, 103).

Мяккі канчатак -*ть* з'яўляецца асноўнай нормай і ў выданнях Ф. Скарыны, С. Буднага і В. Цяпінскага: кто много говорить вредить душу свою (Скар. ІС, 32); самъ мусить 8 иных хлѣба просити (Будны, 94б); Въсе тое лихое зн8трА выходить и поганить чоловека (Цяп., 53).

Рукапісныя спісы Статута Вялікага княства Літоўскага, друкаваны Статут 1588 г. і Летапіс Рачынскага з'яўляюцца, па сутнасці, апошнімі помнікамі, дзе формы на *-ть* застаюцца пануючымі: хто на кого мовить и ведеть, а не доведеть, тым каранемъ сам каран быти маеть (Ст. 1566, II, 8б); Можеть тые речы ѡбернꙋти кꙋды хочеть кꙋ своей потребе (Ст. 1588, 331); ӕкгейло ꙋ мене в нетстве ходить (Рач., 124).

Формы на *-ть* ужываліся і ў пазнейшых помніках, але тут яны ўжо суіснуюць з іншымі варыянтамі гэтага канчатка.

Побач з формамі на *-ть* у беларускай пісьменнасці рана пачалі ўжывацца і формы з вынасным *-т*. Такія формы трапляюцца ўжо ў ранніх беларускіх граматах: где будет кто кому виноват (Гр. 1264); хто имет тое закладывать (Гр. 1377); оузѧт ему свои товаръ куда хочет ехат (Гр. 1407). У помніках канца XV — пачатку XVI ст., якія адлюстроўваюць стадыю змянення ўстаўнага пісьма ў паўустаўнае, прыём вынасу канцавога *т* над радком атрымаў шырокае распаўсюджанне. У гэтых адносінах асабліва вылучаюцца Судзебнік Казіміра 1468 г., Вісліцкі статут, Віленскі спіс летапісу, Пакуты Хрыста, Аповесць аб трох каралях-валхвах канца XV ст. і Зборнік № 262 пачатку XVI ст.: мает оу него оузѧт за первое застатье сокирꙋ (Вісл., 37); кнѧз великый Агаипо поведет его велми оу высокых (Віл., 439); поломѧнное ѡрꙋже стережет его (Алекс. XV, 1); все идет к мѣстꙋ единомꙋ (Зб. 262, 38б). Ва ўсіх такіх выпадках вынасное *т* абазначае мяккі канчатак, на што ўказваюць прыклады накшталт вода з матице течет и плыветь (Валх., 59б); Небо се затворѧет и ѡтворѧеть (там жа, 66б).

Вынасны канчатак *т* асабліва шырокае распаўсюджанне атрымаў у помніках канца XVI і XVII ст. Аднак не заўсёды ёсць магчымасць верагодна сцвярджаць, як чытаўся такі канчатак. Двраякае чытанне можна дапусціць для выпадкаў тыпу хто на кого мовить и ведетъ, а не доведет (Ст. 1588, 2). У большасці выпадкаў для помнікаў гэтага часу ў вынасным *т* трэба бачыць цвёрды канчатак, паколькі ў такіх помніках звычайна ўжываюцца цвёрдыя канчаткі, калі яны не выносяцца над радком: кто читает, нехай зрозꙋмѣваетъ (Каз. Кір., 82б); што хто хочетъ, то броит (Барк., 166б); хто просит, достꙋпоует, хто шꙋкает найдꙋетꙅ (Каліст, 18).

У помніках беларускай пісьменнасці значнае пашы-

рэнне атрымалі таксама формы 3-й асобы цяперашняга часу адзіночнага ліку без канчатка *-ть/-тъ*. Сюды адносяцца выключна формы дзеясловаў I спражэння тыпу *буде, будуе, бывае, ведае, возме, воюе, встане, дае, еде, живе, згине, знае, иде, каже, мае, може, найде, обецуе, оферуе, пануе, пише, прагне, хоче* і інш.

Першыя выпадкі ўжывання форм без *т* адзначаюцца ў Чэцці 1489 г.: младаꙗ моѦ кость желѣзом погибае и тонкое мое тѣло оувѦдае (31); снъ твой ꙗзыка не имае (32). Гэтымі формамі помнік пацвярджае сваё заходнебеларускае паходжанне. Некалькі прыкладаў форм без *т* адзначана і ў Бібліі Ф. Скарыны: *знайде, може, пише, рече*. Нават у дзелавой пісьменнасці XV — першай палавіны XVI ст. формы без *т* трапляюцца толькі спарадычна, што тлумачыцца паўночна-ўсходняй моўнай асновай дзелавой пісьменнасці гэтага часу. З помнікаў сярэдзіны XVI ст. вялікай колькасцю такіх форм вызначаецца Псалтыр, перакладзены з польскай мовы. Тут звычайнымі з'яўляюцца формы *б8де, возме, выписуе, загыне, знайде, зыйде, мае, мен8е, мешкае, може, ѡберне, ѡбец8е, ѡгорне, ѡплак8е, пише, пошле, прийде, прийм8е, пророк8е, прѦгне, роскош8е, сказ8е, сотре, стане, оувоиде, оуказ8е, оупомѦне*: то б8де частка чаши их (14б); терпливость оубогых не загыне навекы (13); хвал8 мою в порох ѡберне (11); ѡ моцнои вере пише (128). У Аповесці аб Трыстане такія формы з'яўляюцца варыянтнай нормай: пане трыщане еде за тобою витез (49б); за ним иде витез (49); кличе ге8шъ подчашый великимъ голосомъ (49); щытъ може быти 8 тебе (31б); ѡный латынник такъ чынит скаче ꙗко левъ (57); ѡн так зуфалый хоче его силою повести (24б).

У пазнейшай беларускай пісьменнасці назіраецца неаднолькавае выкарыстанне форм з *т* і без *т* у друкаваных і рукапісных творах. З ліку друкаваных кніг канца XVI ст. выдзяляецца толькі Казанне Кірыла Ерусалімскага, выдадзенае С. Зізаніем у 1596 г. Тут формы тыпу *б8де, згасне, зыйде, може, пише, подойме, прійде, роз8мѣе, справ8е, оуказ8е* ўтвараюць варыянтную норму: длѦ розмноженѦ несправедливости згасне милость межи мнѡгими (76); ѡ том в книгах моисеовых широко пише (96б); ꙗвне ѡт единого двох оуказ8е (110). Некалькі форм гэтага тыпу сустракаецца ў Гісторыі аб Варлааме і Іаасафе 1637 г. Іншыя друкаваныя кнігі форм без *т* не ведаюць. У гэтым, несумненна, адлюстравалася традыцыя тагачасных друкарань, якія большую

частку сваёй друкаванай прадукцыі выдавалі на царкоўнаславянскай мове.

Затое рукапісныя старабеларускія творы адкрылі шырокую дарогу формам без *т*, што можна тлумачыць, відаць, узнікненнем іх на захадзе Беларусі, дзе такія формы мелі падтрымку з боку жывой беларускай мовы. У якасці варыянтнай нормы яны адзначаюцца пераважна ў перакладных свецкіх і рэлігійных творах. Іх асабліва многа ў Александрыі пачатку XVII ст., у беларускіх апрацоўках хронік М. Бельскага і М. Стрыйкоўскага, у Біблії і Хроніцы польскай пачатку XVII ст., у Хранографе, у зборніках агіяграфічных і гамілетычных твораў № 81, 82, 107, 255 і 752: алеѯандер коли хоче с ким валчит, не шле панов ани кн■жат своих, але самъ ѡбличне приступ8е ку битвѣ (Алекс. XVII, 13б); витовтъ там и сам се с8е, напоминае, а шики кричачи поправ8е (Стрыйк., 558б); Кгды бог з нами б8де, хто се нам ѡперет може (Бельск., 46); зо всѣхъ сторон 8тискъ менe тисне (Біблія, 399); жадпымъ ѡбычаем человек не може досыт 8чынит (Зб. 255, 113); человекъ ■дени■ прагне, а без него быт не може (Зб. 752, 54б); все справит може, если хоче злѣчит неволниц8 свою (Зб. 82, 378).

Перакладзены ў сярэдзіне XVI ст. з польскай мовы Псалтыр у вялікай колькасці мае формы 3-й асобы адзіночнага ліку без канцавога *-т*, якія канчаюцца на тэматычны галосны *а* або *и*: *впомина, вылича, жада, замыка, ма, мешка, наоуча, ѡповеда, поведа, помина, оупомина, вчини, грози, залежи, значи, мови, проси, хвали.* Такія формы ўжываюцца ў большасці ў так званых аргументах — кароткіх выкладах сутнасці адпаведных псалмоў: Недбалым грози моукою (96); замыка в собѣ млтвы (9); гсь мешка на вѣки (12б); ма прійти на соуд (50); што ѡн почина (12б). З ліку арыгінальных беларускіх помнікаў вылучаецца Дзённік Ф. Еўлашоўскага, дзе трапляюцца формы *быва, види, дба, зостава, мешка, муси, одда, приходи, рачи, станови, траф■*. Формы гэтага тыпу трапляюцца і ў іншых помніках, арыгінальных і перакладных: жданъ ■н8кевичъ насъ проси (КВЗС, 158); Види ми сА по ѡтказу твоему (Будны, 156б); муси быти ещэ горей (Трыстан, 33б); тотъ ма быти горломъ каранъ (Ст. 1588, 539); во всемъ мови захов8емъ постановене (Бер. саб., 34); вер8 пану своем8 хова (Барк., 150б); сын нириевъ подсчува тебе на нас (Біблія, 527); м8си. то быт (Бельск., 298б); не зда быт подобно (Зб. 255, 269).

У старабеларускай пісьменнасці з канца XVI ст. атрымалі пашырэнне формы 3-й асобы адзіночнага ліку цяперашняга часу з цвёрдым канчаткам *-тъ*: *бачитъ, беретъ, боронитъ, будетъ, ведетъ, вернетъ, видитъ, даетъ, держитъ, живетъ, знаетъ, значитъ, зоветъ, идетъ, кажетъ, кладетъ, маетъ, мовитъ, можетъ, носитъ, пишетъ, пойдетъ, прагнетъ, проситъ, робитъ, седитъ, станетъ, стоитъ, тратитъ, учитъ, ходитъ, хочетъ, чинитъ, шкодитъ* і інш. Некалькі форм гэтага тыпу адзначаецца ў Катэхізісе С. Буднага 1562 г., але інтэнсіўная экспансія іх у друкаваныя кнігі пачалася ў канцы XVI ст. Статут 1588 г. з'яўляецца першай друкаванай кнігай, дзе формы на *-тъ* выступаюць у значэнні факультатыўнай нормы: тотъ записъ хотѧ в книгахъ зостанетъ, жадное моцы мети не бȣдетъ (312); ѡтецъ и матка выречисе сына и девки можетъ (340); то емȣ не маетъ быти заборонено, ꙗко статутъ ȣчытъ (346). У далейшым канчатак *-тъ* атрымаў шырокае распаўсюджанне ў друкаваных кнігах. Асабліва многа такіх форм у Уніі 1595 г., Казанні Кірыла Ерусалімскага 1596 г., Абароне сабора рускага берасцейскага 1597 г. З помнікаў XVII ст. ужываннем гэтага канчатка вылучаюцца Два казанні Л. Карповіча 1615 г., Евангелле Каліста 1616 г., Лямент у света убогіх 1620 г., Навука аб сямі тайнах 1620 г., Бяседы Макарыя 1627 г., Гісторыя аб Варлааме і Іаасафе 1637 г. і Збор выпадкаў кароткі 1722 г.: жаднымъ ѡбычаемъ не можетъ хто того довести (Унія, 9б); ѡдна церъковъ быть не можетъ на земли (Бер. саб., 24б); ведлȣгъ волѣ владзы своеи кого хочетъ оубожитъ и богатитъ, тѣшитъ и фрасȣетъ, смȣтитъ и веселитъ (Каліст, 272); Кождый хто проситъ, пріймȣетъ, и хто шȣкаетъ, находитъ (там жа, 122б); то што емȣ любо радитъ, вырокȣетъ, справȣетъ и кончитъ (Сматр., 2б); ѡрачъ землю пашетъ (Мак., 237); хто ж з нас долгъ ѡный ѡтдатъ можетъ (Варл., 349); Рȣсь мȣситъ сама себѣ хлѣба зараблѧти (Зб. вып., 56б).

Несумненна, што пад уздзеяннем формаўжывання друкаваных кніг канчатак *-тъ* пачаў распаўсюджвацца і ў рукапісных помніках. Формы з такім канчаткам асабліва распаўсюджаны ў Баркалабаўскім летапісе пачатку XVII ст., у Патрыяршым і Румянцаўскім спісах летапісу, у Дыярыушы А. Філіповіча, у Статуце полацкага брацтва і інш.: писмо все на памет знаетъ (Барк., 151б); што хто сеетъ, такъ и жати маетъ (Патр. П., 100б); незносн8ю кривд8 церков восточнаꙗ терпитъ

(Дыяр., 155); река немωнъ 8падываетъ в море ωкиан (Рум., 14); маетъ быти оном8 часъ певный до вписанѦ назначонъ (Ст. бр., 5б). Як відаць з прыкладаў, такія формы ўжываюцца пераважна ў арыгінальных рукапісных творах, што, відаць, апраўдана звязваць з царкоўнаславянскім уплывам. На гэта ўказвае і факт, што ў перакладах з польскай мовы, якія менш за ўсё падвяргаліся ўздзеянню з боку царкоўнаславянскай мовы, такія формы адсутнічаюць. Іх няма, напрыклад, у Бібліі пачатку XVII ст., у Кароткім выкладзе хронікі польскай, у хроніках М. Бельскага і М. Стрыйкоўскага, у зборніках № 107, 255, 752 і інш.

Нарэшце, выключна ў друкаваных кнігах XVII ст. адзначаецца яшчэ адзін тып форм 3-й асобы адзіночнага ліку цяперашняга часу, у якіх пасля канцавога *т* ставіцца значок $^s$: берет$^s$, будет$^s$, ищет$^s$, коштует$^s$, мает$^s$, может$^s$, мовит$^s$, мыслит$^s$, пишет$^s$, растет$^s$, терпит$^s$, ходит$^s$ і г. д.: паст8х$^s$ ωвц8 паршив8ю оулѣчити и ωт волка оустеречи может$^s$ (Мак., 345); члвкъ превѣе тѣлом$^s$ родитсѦ, растет$^s$, іаст$^s$ и пиет$^s$ (Зб. вып., 2). Такія формы адпавядаюць канчатку *-тъ*.

Практычна, аднак, ніводзін з разгледжаных вышэй тыпаў у помніках пазнейшага часу не выступае адзіным, дамінуючым. Гэта асабліва датычыць друкаваных кніг. Напрыклад, у Двух казаннях Л. Карповіча 1615 г. адзначаюцца формы *взираеть, докладаеть, спѣваеть;* мает, мовит; *видитъ, знаетъ, любитъ, мовитъ, хочетъ; кохает$^s$, мает$^s$, может$^s$, хвалит$^s$*; у Гісторыі аб Варлааме і Іаасафе 1637 г.: *може, приказ8е; береть, видить, идеть, мовить, можеть, хочеть, чинить; идет, любит, мовит, пишет, чинит; беретъ, видитъ, идетъ, мовитъ, можетъ, чинитъ; б8дет$^s$, мает$^s$, мовит$^s$, может$^s$, прагнет$^s$*. Такая разнастайнасць адных і тых жа форм служыць сведчаннем пэўнай няўстойлівасці арфаграфічных норм старабеларускай пісьменнасці. Разам з тым тут можна бачыць і свядомае імкненне зрабіць разнастайным арфаграфічнае афармленне канчаткаў, што давала магчымасць чытачу па-свойму ўспрымаць іх у залежнасці ад дыялектнай прыналежнасці чытача і яго адукацыйнага ўзроўню; параўн: Любов$^s$ долго терпит, естъ лагодна, любовъ не завид8етъ, не выноситсѦ, не пышнитсѦ, нѣчимъ сѦ не бридитъ, не ш8каетъ своего, не гнѣвает$^s$сѦ, не мыслит злого, не рад8ет$^s$сѦ з несправедливости, а рад8етсѦ з правды. Все любит, все вѣр8ет$^s$, всем8 оуфает, все зносит, любовъ нѣколи не ωтпад8етъ (Каліст, 110).

Формы 1-ай асобы **множнага** ліку цяперашняга часу ў помніках прадстаўлены трыма варыянтамі канчатка, неаднолькавымі па часе фіксацыі ў помніках: *-мъ, -мо* і *-мы*. Першы варыянт, самы старажытны па паходжанню, з'яўляецца асноўным на працягу ўсяго старажытнага перыяду: чинимъ славно и знаемо и даемъ ведомо оусем (Гр. 1377); мы ѡбѣчаемъ и слюбуемъ нашему брату (Гр. 1387); оуставлѧемъ и пріказꙋемъ всем шелтісомъ (Вісл., 11б); черес здровье цесарское теж присѧгаем тобе (Пак. Хр., 18б); мы тобѣ на томъ правдоу даемъ (Віл., 443); мы о собѣ оуже певни быти можемъ (Будны, 203б); прото ꙋставꙋемъ и мети то хочемъ и полнити ѡбецꙋемъ (Ст. 1588, 44); мы зла никомꙋ не чинимъ (Патр. П., 100б); ѡпрочъ егѡ ничого любити не хочемъ (Мак., 40); вси так вѣрым, вси так розꙋмѣемъ (Бельск., 357б); ничого не змышлѧемъ, ани даремне оудаемъ (Варл., 23); живем цнотливе, свѣцъких речий прагнем (Зб. 82, 373б).

Варыянтны канчатак *-мо* ўпершыню адзначаецца ў Пакутах Хрыста канца XV ст.: *бꙋдемо, вѣдаемо, знаемо, оувидимо*. У якасці варыянтнай нормы гэты канчатак упершыню выкарыстоўваецца ў выданнях Ф. Скарыны: *боимосѧ, возможемо, говоримо, грешимо, наполнимо, позовимо, пойдемо, покоримо, послушаемо, седимо, сотворимо, ꙋзримо, ꙋчинимо, ходимо* і інш. Вядомы гэты канчатак і Катэхізісу С. Буднага 1562 г.: ѡ томъ иншого часꙋ ширей напишемо (16б); къ достаточному того зложеньѧ розбѣранью приступѣмо (113б); наибольшую силу врага нашого ꙋвидимо (177б); ꙋ той прозбѣ просимо хлѣба тѣлесного (196б).

У пазнейшых помніках, рукапісных і друкаваных, формы на *-мо* выкарыстоўваюцца часта побач з формамі на *-мъ*: жертвы за нихъ приносимо и памети имъ творимъ (Унія, 15б); если тежъ тут зостанемо, мусим ꙋмерети (Біблія, 469); коли ѡдержим царство наше, вславимо тебе (Кн. Мак., 64б). Такое вар'іраванне асабліва шырока прымяняецца ў друкаванай Гісторыі аб Варлааме і Іаасафе 1637 г., дзе адзначаюцца *бꙋдемо, видимо, держимо, дѧкꙋемо, маемо, носимо, славимо* і *вѣдаемъ, даемъ, живемъ, маемъ, можемъ, хочемъ* і інш. Евангелле Каліста 1616 г. і Казанне пахавальнае М. Сматрыцкага 1620 г. з'яўляюцца такімі помнікамі, дзе формы на *-мо* выступаюць адзінай пісьмовай нормай: сей заповѣди не полнимо, и ближних маетность драпѣжимо, и кривдимо, и лихвимо, и потварѧемо, и

оболг8емо, и досажаемо имъ (Каліст, 70б); коли даемо, тогды пріймвемо, а коли роздаемо, тогды збираемо (там жа, 160б).

Нарэшце, трэці варыянт *-мы* ў беларускай пісьменнасці ранняга перыяду адзначаецца выключна ў перакладных творах: выдаваемы и оуставлѦемы права (Вісл., 10); ѡт блоудовъ не можемы ѡтозваны албо ѡтволаны быти (Валх., 68б); рѦды королевства полнимы а держамы (Жыц. Ал., 98б); ꙗзыкь нашь вьзвеличимы (Зб. 262, 36б). Асабліва многа форм з такім канчаткам у Пакутах Хрыста канца XV ст.: *вѣдаемы, держимы, можемы, просимы, роспачоуемы, оустанемы, оучинимы, хочемы* і інш. Выданні Ф. Скарыны таксама вылучаюцца тым, што тут формы на *-мы* маюць значэнне варыянтнай нормы: мы будемы раби господина твоего (КБ, 81б); велми далеко живемы ѡт васъ (ІН, 20б); мы идемы к мужемъ сим (ПЦ, 27б); Дщеръ теже наших[s] не можемы дати имъ за жены (КС, 47); егда начнемы сѦ бити (ПЦ, 60б); с тобою поидемы к людем твоимъ (КР, 2б); к кому пошлемы кивотъ его (ПЦ, 15б). Такія формы адносяцца да ліку рыс, якія аддаляюць мову выданняў Скарыны ад царкоўнаславянскай асновы, хоць вытокам іх не з'яўляецца беларуская народная мова.

Пасля Скарыны формы на *-мы* фактычна не ўжываюцца ў беларускай пісьменнасці аж да канца XVI ст. Затое ў перакладных помніках XVII ст. яны выкарыстоўваюцца ў значэнні варыянтнай нормы. Іх асабліва многа ў Александрыі XVII ст.— *беремы, ведемы, даваемы, жедаемы, маемы, можемы, плачемы, пошлемы, приказ8емы, ходимы, чинимы, ш8каемы:* з великостю валечных людий се поспешимы а велми скоро притꙗгнемы (9б); завжды наги ходимы, жажды тѣла нашего не выполнꙗемы, все през терпливост скромне зносимы (32); коли се маемы смѣꙗт, плачемы и смутимысе (36б). Такія формы часта ўжываюцца ў Біблії пачатку XVII ст., у Хроніцы М. Бельскага і ў некаторых іншых перакладных помніках. Але ні ў адным з іх яны не выступаюць як адзіная норма, а ўжываюцца побач з іншымі варыянтамі: нападемы нань на коем[s] же месте знайдем его и прикриемо й (Скар. ДЦ, 98б); коли се з звитезством ворочаемъ ѡт наших, ѡднакъ хвалу беремы (Алекс. XVII, 26); простый а чистый живот ведемы, грѣхов не полнимо, ани хочемы их назбыт мѣти (Бельск., 178).

Формы цяперашняга часу 2-й асобы множнага ліку

аказаліся найбольш устойлівымі ў гісторыі беларускай пісьменнасці. На працягу ўсяго старажытнага перыяду ў помніках паслядоўна ўжываецца канчатак *-ете* для дзеясловаў I спражэння і *-ите* ў II спражэнні: *едете, живете, зовете, идете, можете, несете, видите, гледите, сидите, чините* і г. д. Зразумела, што ў жывым вымаўленні такія формы мелі разнастайныя фанетычныя варыянты, якія, аднак, у пісьменнасці не знаходзілі адлюстравання. Дзякуючы гэтаму формы пісьмовай мовы характарызуюцца ўстойлівасцю і аднастайнасцю: што сѣете то и пожнете (Віл., 445б); што ми хочете дати (Пак. Хр., 1); пане вы едете с турнаѧ (Трыстан, 17); если хочете стоꙗт ȣ нас господою, можете (Бельск., 19); если есте, если п^s^ете, если робите, або идете где, або стоите, або сидите, любъ штоколвек^s^ иншого чините, завше и срдцемъ и оустами кождый з васъ мовте (Каліст, 98б); если сѧ смерти не боите, длѧ чого ж оутѣкаете (Варл., 28б); што тут зыскуете, а што там тратите (Зб. 752, 443).

Для характарыстыкі форм 2-й асобы множнага ліку пэўнае значэнне маюць друкаваныя кнігі і некаторыя рукапісныя, у якіх больш-менш паслядоўна праведзена акцэнтуацыя. У гэтых помніках адзначаюцца формы двух тыпаў — з націскам на аснове і на канчатку, пры гэтым націск на аснове абазначаўся знакам акут (′), а на канцавым галосным — гравісам (`). Форм з націскам на аснове параўнальна нямнога: *мóвите, нáйдете, нóсите, рóбите, хóчете, чи́ните*. Ім проціпастаўляецца значна большы па колькасці тып з націскам на канчатку: *боитѐсѧ, живетѐ, зоветѐ, идетѐ, несетѐ, п^s^етѐ, помретѐ, сидитѐ, стоитѐ, умретé, чтитѐ* і інш. З прыкладаў відаць, што сістэма націску ў старабеларускай мове ў асноўным адпавядала сучаснай.

У формах 3-й асобы множнага ліку ў старабеларускай пісьменнасці асноўным быў канчатак *-ть* з папярэднімі *-у/-ю* або *-а/-ѧ* асновы. Вядомы сучаснай беларускай мове падзел дзеясловаў на два спражэнні ў залежнасці ад галоснага асновы строга вытрымліваўся ўжо ў старабеларускай пісьменнасці. Тут, з аднаго боку, фіксуюцца формы тыпу *бегуть, будуть, ведуть, живуть, знають, идуть, мають, поють* і формы *боронѧть, видѧть, лежать, мовѧть, мусѧть, робѧть, служать, учать* — з другога.

Як і ў формах адзіночнага ліку, у множным ліку выразная эвалюцыя ў пісьменнасці адбылася з зычным *-т*

канчатка. Мяккае *-ть* было асноўнай нормай у помніках старабеларускай пісьменнасці: с ліцѡм прівед8ть татѦ (Судз. Каз., 203); ѡбапол езера люди жів8ть (Вісл., 10б); того мог8ть врадники шляхта присегою доводити (Ст. 1588, 55); вси мусѦть встати (Будны, 163б); три дни при мне тривають и не мають чого есьти (Цяп., 53б); ѡни за волками на свою погибел бег8ть (Унія, 1б); ѡвцы ид8ть за ним (Зб. 255, 69б).

Катэхізіс С. Буднага 1562 г. на фоне іншых помнікаў вылучаецца гіпернармалізаваным абазначэннем мяккасці папярэдняга шыпячага або *р* асновы: *берють, важѦть, говорѦть, грѣшѦть, держѦть, кажють, личѦть, пишють, служѦть, слышѦть, творѦть, 8чѦть.* Іншыя помнікі такіх форм не маюць.

Як і ў адзіночным ліку, формы 3-й асобы множнага ліку вельмі рана пачалі ўжывацца з вынасным канцавым *т,* чым зацямняецца фанетычная структура формы. Гэты арфаграфічны прыём назіраецца ўжо ў ранніх беларускіх дзелавых матэрыялах: живут на стого іана земли (Гр. 1399); ратьмане его судѦт по своеи правде (Гр. 1405); рекы тек8т межі именьи (Вісл., 10б). У помніках ранняга перыяду гісторыі беларускай пісьменнасці ў вынасным *т* трэба бачыць мяккі канчатак *-ть,* бо ў такіх помніках формы з вынасным *т* ужываюцца побач з формамі без вынасу мяккага канчатка: иные Єго пъхають иные ногами топчоуть иные го проклинают и лают (Пак. Хр., 7); кдень коли говеють свѦтѦт едѦт піють дѣлають жалоують плачоут радоуютсе и веселѦтьсе (Валх., 84). У позніх помніках вынасное *т* адпавядае цвёрдаму канчатку: чого собѣ не зычат, иншом8 того не чинѦтъ (Варл., 251).

Цвёрды канчатак *-тъ* атрымаў шырокае распаўсюджанне ў старабеларускіх друкаваных кнігах. Некалькі выпадкаў яго ўжывання ёсць у Катэхізісе С. Буднага 1562 г.: *говорѦтъ, завидуютъ, пріймаютъ.* У далейшым, пачынаючы з друкаванага Статута 1588 г., такія формы выступаюць у значэнні варыянтнай нормы, а ў некаторых старадруках — і асноўнай: выволанъцы и чсти ѡтсужоные не мог8тъ тестаменътовъ чинити (Ст. 1588, 335); иньшихъ веръ люди до собор8 не належатъ (Бер. саб., 8); злого слова на нихъ речы не смеютъ (Унія, 3); которыи сѣютъ з слезами, з радостью жн8тъ (Каліст, 71); вси тыи оучинки ничого не важатъ (Зб. вып., 34б). Цвёрды канчатак *-тъ* выступае адзіным у такіх друкаваных кнігах, як Два казанні Л. Карповіча 1615 г.,

Евангелле Каліста 1616 г., у Казанні пахавальным М. Сматрыцкага 1620 г. Пад уздзеяннем мовы друкаваных кніг ён пачаў выкарыстоўвацца і ў рукапісных творах XVII ст.: на то зезволити не могутъ (Барк., 149б); свою волю полнѧтъ и свои своих гнембѧтъ (Дыяр., 160б); родичи мои мене велми мил8ютъ (Зб. 82, 320); хлебъ з форост8 пекутъ (Стрыйк., 80).

З цвёрдым варыянтам зближаюцца і формы, дзе пасля канцавога *т* ставіцца значок $^{s}$. Такія формы адзначаюцца ў Катэхізісе С. Будната 1562 г.: *живут*$^{s}$, *будут*$^{s}$, *любѧт*$^{s}$, *могут*$^{s}$, *розумѣют*$^{s}$, *терпѧт*$^{s}$, *оуповают*$^{s}$ і інш. Зрэдку трапляюцца яны і ў пазнейшых друкаваных і рукапісных помніках. У некаторых помніках часам нават у адным сказе выкарыстоўваюцца формы розных тыпаў: смѡтрѣте на птахи небесныи ижъ нѣ сѣют, нѣ жноутъ, а нѣ збирают$^{s}$ до г8мна (Каліст, 11); Не вшетеченства, ани ч8жоложства грѣхомъ ѡбвѧз8ютсѧ: не свѣдчатъ фалшиве, ч8жого не прагн8тъ, чтѧт$^{s}$ ѡтца и матк8, ближнихъ любѧтъ, справедливе с8дѧт$^{s}$, чого собѣ не зычат, иншом8 того не чинѧтъ, кривдѧчих$^{s}$ себе ѣднаютъ и приѧзни их ш8кают, неприѧтелем добре чинити стараютсѧ, ѡт вшелѧкого сполкованѧ и нечистости выстерегают$^{s}$сѧ, вдовъ не пребачаютъ, сироты не засм8чаютъ (Варл., 251—251б).

## *Будучы час*

У помніках старабеларускай пісьменнасці ўжывалася некалькі відаў будучага часу, неаднолькавых у граматычных і структурных адносінах,— будучы просты і дзве формы будучага складанага.

У старажытнарускай мове ранняга перыяду **п р о с т ы  б у д у ч ы** час выражаўся формай цяперашняга часу закончанага трывання. Такі спосаб выражэння будучага часу замацаваўся ў эпоху ўтварэння мовы беларускай народнасці. Звычайна формы будучага часу ўтвараліся шляхам далучэння да асноўнага дзеяслова адпаведных прыставак, якія надавалі дзеяслову значэнне закончанага трывання. У помніках у большасці зафіксаваны дзеясловы з прыстаўкамі *в-, вы-, до-, з- (с-), за-, зо-, из-, на-, о-, по-, при-, про-, у-* і інш. У некаторых дзеясловах закончанасць выражалася асновамі.

Па сваіх канчатках формы простага будучага нічым не адрозніваюцца ад форм цяперашняга часу: *буду — будеши /будешь/ будешъ/ будеш /будеш*$^{s}$ *— будеть /бу-*

*де/ будетъ /будет/ будет*[s] *— будемъ /будемо/ будимы— будете — будуть /будутъ/будут/ будут*[s]. Таму тут канчаткі простага будучага асобна не разглядаюцца.

Формы простага будучага адзначаюцца ва ўсіх помніках старабеларускай пісьменнасці, пачынаючы ад ранніх беларускіх грамат і канчаючы Зборам выпадкаў кароткім 1722 г.: ѡт кого будеть какаѧ обида нашему монастырю (Гр. 1399); его тамъ полочѧне ѡсудѧт по своему праву (Гр. 1407); хто бортное древо зрȣбить без пчол (Вісл., 37); приидоу по тебе а возмоу тѧ (Пак. Хр., 3б); племѧ ег ѡсѧгнеть землю (Пс. XVI, 26б); старци ваши сны ȣзрѧт[s], и юноши ваша видѣніа оувидѧть (Будны, 153б); мы томȣ досытъ не ȣчинимъ (Бер. саб., 15б); всей твари конецъ прійде (Каз. Кір., 80б); вси поступки наши потопѧтъ (Барк., 160); не забиемы тебе, але звѧзаного выдамо (Біблія, 283); и ȣжъ скорѣй ȣкȣсит коли сѧ ȣ клȣбъ зовъет (Стрыйк., 485б); вси ѡднако бѣгъ свой кончатъ (Варл., 16б); человекъ тут засеет, там жат бȣдет (Зб. 255, 11); Слонце и мѣсѧцъ зацмѧтсѧ (Зб. вып., 96).

Акрамя свайго асноўнага значэння, формы простага будучага ў помніках часам ужываюцца і для абазначэння мінулага дзеяння. Напрыклад, у Аповесці аб трох каралях-валхвах, дзе значнае месца займаюць этнаграфічныя замалёўкі з жыцця народаў Блізкага Усходу, такія формы выкарыстоўваюцца пры абазначэнні разнастайных пастаянных мінулых дзеянняў, якія абазначаюць заняткі людзей, мясцовыя звычаі: тогды того конѧ албо звѣрѧ предъ мѣсто ведет да на дорогоу наведет, а тогды само вернетьсе до мѣста своего (43б); сторож ѡного домоу возмет тое звѣрѧ да накормит его (там жа).

Больш часта ў пісьменнасці формы простага будучага часу ўжываюцца для абазначэння аднаразовага мінулага дзеяння, імгненнага, з адценнем нечаканасці, раптоўнасці. Такое ўжыванне асабліва характэрна для беларускіх летапісаў: гонець тои наидеть великого кнѧзѧ витовта оу городнѣ (Віл., 440б); кнѧз великыи Ѧгаило поведет его велми оу высоких и дасть за него сестрȣ свою (там жа, 439); По малых же часех ȣмреть брат его (Рач., 113); великий Евнутей со страху выбежить з города вилни и втечеть ȣ гуры бос и там ѡзѧбеть ȣ ноги (там жа, 123); сподобалосѧ емȣ там велми и збȣдȣетъ город (Патр. П., 88).

Падобнае ўжыванне простага будучага вядома і ін-

шым помнікам, хранографам і агіяграфічным творам, дзе пры апавяданні аб мінулых падзеях выкарыстанне будучага часу надае выкладу своеасаблівую дынамічнасць і экспрэсіўнасць: Свирщевский постерегши тог крикне на них (Стрыйк., 626б); гды всѣ спали в полночи самой прийдет на мене страхъ барзо великий (Дыяр., 150); зоставившы мене шли прочъ, а и до них знову почну кричат (там жа, 564); тыи и иные напоминанѧ их иноков коли прочитае, зараз р8шило его с8мънене, а самъ сѧ гризти и ревно плакати почънет (Зб. 82, 188).

Такія прыклады сведчаць аб вялікіх патэнцыяльных магчымасцях дзеяслоўных форм для выражэння самых тонкіх нюансаў у працяканні дзеяння, і старабеларуская пісьменнасць актыўна выкарыстоўвала гэтыя магчымасці.

Складаныя формы будучага часу таксама зазналі пэўныя змены ў сваёй структуры і значэнні.

Новай з'явай у гісторыі складанага будучага часу беларускай мовы было выступленне пры інфінітыве незакончанага трывання дзеяслоўнай звязкі *быти* ў адпаведнай асобе і ліку. Форма будучага часу структуры *буду+інфінітыў* не была характэрнай для старажытнарускай мовы, дзе ў такой ролі выкарыстоўваліся звязкі *начьну, почьну, учьну, хочю, имамь,* якія мелі пэўнае лексічнае значэнне і выступалі часцей у складзе састаўных дзеяслоўных выказнікаў. У беларускай мове першы выпадак фіксацыі новай формы будучага часу адзначаецца ў Грамаце князя Карыбута 1388 г., дзе запісана *будемъ держат*. У помніках XV ст. такая форма служыць асноўным сродкам выражэння будучага незакончанага дзеяння: который боудет лежні держати оу своем дом8 (Судз. Каз., 203); ѡколица та б8дѣт вѣдат (там жа, 204); ѡтселе боудоу плакатис и воздыхати (Чэцця, 152б); потомъ боудешь се радовати и веселитисе (Пак. Хр., 3б); мы оу нем захованіе держати б8демо (там жа, 33б); тамо вѣчне боудеть мѧшкати (Валх., 75); с тобою тоут мешкати боудоу (Жыц. Ал., 97б). У далейшым гэта форма атрымала распаўсюджанне ва ўсіх жанрах старабеларускай пісьменнасці. Выкарыстанню дзеяслоўнай звязкі *быти* ў складзе будучага часу садзейнічала тое, што дзеяслоў *быти* дзякуючы адцягненасці лексічнага значэння і няздольнасці выражаць дадатковыя мадальныя адценні ў параўнанні з іншымі дапаможнымі дзеясловамі ў большай меры адпавядаў тым патрабаванням, якія прад'яўляліся да фармальна-

граматычных паказчыкаў будучага часу дзеясловаў незакончанага трывання. Гэты дзеяслоў здаўна выступаў у якасці звязкі і ў іншых дзеяслоўных формах.

У беларускай пісьменнасці выкарыстоўваліся таксама і формы будучага часу з дапаможным дзеясловам *имамъ (иму)*, якія ў сваю чаргу былі аналітычнымі і сінтэтычнымі. Апошніх выяўлена літаральна некалькі выпадкаў у дзелавых і рэлігійных дакументах: *битиму* (1556), *розуметимешь* (1597) і *потребоватиметь* (1608). Зразумела, што такія адзінкавыя выпадкі не маюць значэння для характарыстыкі норм пісьмовай мовы.

Затое аналітычныя формы з дапаможным дзеясловам *имамъ* можна разглядаць як варыянтную форму: нѣкоторыми дѣлы имуть межи себе воеватися (АЗР, І, 64—65); который полочанинъ иметь намъ о чомъ жаловатися... намъ з Литвы дѣцкого не слати (АЗР, III, 18); не има*м* оустати ѡ*т*сюдꙋ (Чэцця, 148б); сꙋдьꙗ тое земли имееть сꙋдити прі нашомъ дворе (Вісл., 12б); на тре*х* месте*х* имаю*т* сꙋды сꙋдити (там жа, 6); кто имать седети на престолѣ твоемъ по тебѣ (Скар. ТЦ, 121б); жонꙋ того мерьтвеца маешь кꙋпити (Зб. 262, 33). У такіх канструкцыях дапаможны дзеяслоў побач з граматычным значэннем паказчыка будучага часу мае і дадатковае лексічнае значэнне з адценнем неабходнасці, абавязковасці дзеяння.

Псалтыр XVI ст. фактычна з'яўляецца адзіным помнікам, дзе формы будучага часу з дапаможным дзеясловам *иму* выступаюць як раўназначныя з іншымі формамі будучага часу. Кантэкстам помніка абумоўлена, што тут у асноўным ужываюцца формы 1-й асобы адзіночнага ліку: вспевати имоў тобе (110б); выславѦти имоу чюдеса твои (71); выхвалѦти имꙋ имѦ твое (54); выдавати имꙋ хва*л*у тобе (133б); розꙋмети имоу дороги твои (118б); стеречи имоу его (119б). Формы такога ўтварэння трапляюцца і ў іншых асобах: взде*р*живати име*т* мѦ правица твоѦ (134б); хвалити име*м* тебе (82б); мешкати имоу*т* в немъ (88б).

У гэтым помніку дапаможны дзеяслоў *иму* мае толькі граматычнае значэнне і не змяшчае якіх-небудзь дадатковых лексічных адценняў. Аб гэтым сведчыць факт, што формы на *иму* ўжываюцца ў такіх кантэкстных умовах, дзе ў тагачасных псалтырах на царкоўнаславянскай мове выкарыстаны або простыя формы будучага часу, або спалучэнні з дапаможным дзеясловам *быти: воспою — вспевати имоу, исповемсѦ — выхвалѦти имоу,*

*призов8 — призывати имоу, сохраню — стеречи имоу, любити будемъ — выхвалѦти имем* і г. д.

Побач з гэтымі формамі ў старабеларускай пісьменнасці для выражэння будучага дзеяння ўжываліся яшчэ формы так званага будучага другога, або ранейшага будучага, якія ўтвараліся шляхам спалучэння дапаможнага дзеяслова *быти* з дзеепрыметнікам на *-л*. З пункту погляду граматычнай характарыстыкі, храналогіі і размеркавання па жанрах наяўныя ў старабеларускай пісьменнасці формы складанага будучага другога можна падзяліць на два разрады.

Першы з іх утвараюць формы, якія адзначаюцца галоўным чынам у беларускай дзелавой пісьменнасці ранняга перыяду і, безумоўна, мелі падтрымку з боку жывой тагачаснай беларускай мовы. Аднак значэнне іх не было аднолькавым. У большасці выпадкаў яны абазначаюць дзеянне, якое будзе выконвацца раней другога будучага дзеяння. Формы гэтага тыпу звычайныя ў такіх юрыдычных помніках, як Судзебнік Казіміра 1468 г., Вісліцкі статут канца XV ст., граматы і судовыя запісы XV—XVI стст.: которыи пѣрвое оукрадѣ*т* а дотоуль б8деть не крадываль ино за первоую татб8 віною егѡ казнити (Судз. Каз., 203б—204); б8деть инде с8ди*л* тогды его с8дъ моци не маеть (Вісл., 13б). У некаторых выпадках такія формы маюць значэнне прошлага часу, блізкае да значэння плюсквамперфекта: ѡтрешимо замокъ да оувидимъ тать ли боуде*т* влѣзлъ или инъ хто вшо*л* б8де*т* (Чэцця, 93б); поидѣте смотрѣте што пси притоужають, звѣрь ли боуде*т* вшо*л* въ дворъ или тать (там жа, 98б); а того не ведаю, естъли б8деть м8*ж* мо*й* в нее того кон<sup></sup>а бралъ (КВЗС, 32); если б8д8ть б8*д*ники мои без ведома моего и через границы ходили, а тыхъ границъ видети хоч8 (там жа, 37); то мають на обѣ сторонѣ держати, не рухаючи, хто будеть што у кого купилъ подлугъ ихъ майстату (АЗР, I, 199). Такія выпадкі трэба разглядаць як сведчанне разлажэння першапачатковага значэння гэтай формы, што ў канчатковым выніку прывяло да заняпаду яе.

Другі разрад форм будучага складанага з дзеепрыметнікам на *-л* утвараюць формаўжыванні, якія выкарыстоўваюцца ў простых сказах або ў галоўных частках складаных сказаў і па свайму граматычнаму значэнню цалкам раўназначныя формам будучага часу з інфінітывам. Гэтыя формы выкарыстоўваюцца выключна ў перакладах з польскай мовы, што недвухсэнсава ўказ-

вае на іх паходжанне. Перакладзеныя ў канцы XV ст. Пакуты Хрыста, Аповесць аб трох каралях-валхвах і Жыціе Аляксея ўжо маюць такія формы, хоць яшчэ ў невялікай колькасці: кто боудеть проклѧл тебе, боуди тотъ проклѧтъ (Пак. Хр., 4); А теж поидоу а боудоу се молилъ емоу (Валх., 51); с тебе выидет водца иж боудет рѧдил люд мои (там жа); какое потешеніе потом боудоу моглъ имѣти (Жыц. Ал., 98б—99).

Затое ў Псалтыры XVI ст. формы будучага часу з дзеепрыметнікам на *-л* ужываюцца амаль у аднолькавай колькасці з формамі, у склад якіх уваходзіць і н ф і н і т ы ў: бȣдȣ кликалъ к немȣ (8б); на вѣкы сѧ бȣдȣ радовал, а ты в них бȣдеш мешкал (9б); постель мою бȣдȣ слезами ωкропѧл (10); бȣдȣ сѧ веселил и радовал ω тобѣ (12); гневȣ своего не бȣде искал (13б); бȣде чинил справедливость (16б); под крыла его боудеш надею мел (93). Аднак гэты пераклад не аказаў ніякага ўплыву на тагачасную беларускую пісьменнасць, не стаў для яе крыніцай для папаўнення моўных сродкаў іншых помнікаў.

З помнікаў канца XVI ст. значнай колькасцю такіх форм вылучаюцца Аповесць аб Трыстане, Аповесць аб Баве і Гісторыя аб Атыле. Але асабліва шырокае іх выкарыстанне назіраецца ў перакладных творах XVII ст., такіх, як Александрыя, Біблія, Хронікі М. Бельскага і М. Стрыйкоўскага, Гісторыя аб Варлааме і Іаасафе, зборнікі № 81, 82 і 752, Псалтыр XVII ст., Выклад месц цяжэйшых і інш. Вялікі і разнастайны матэрыял гэтага часу можна праілюстраваць наступнымі прыкладамі: тебе ꙗко за ωтца бȣдȣ мѣла (Алекс. XVII, 2б); Соломон сын твой будет царствовал по мнѣ и ωн буде седѣл на столицы моей (Біблія, 400); не пойдȣ з тобою, ани будȣ елъ хлѣба, ани пил воды на том мѣстцȣ (там жа, 426); ꙗ тебе бȣдȣ провадил из твоим войском (Бельск., 174); так се стане, же се не бȣдешъ боꙗл того ката (Кн. Мак., 51б); коли будеш хотел дат не будеш моглъ (Жыц. св., 59); того здраицȣ бȣдешъ знал ꙗкъ карати (Зб. 81, 162б); збию братию а сам будȣ пановал (Зб. 752, 324б); ему рȣка моꙗ будет помогала (Пс. XVII, 88); Старшии бȣдет слȣжил молодшомȣ (Выкл., 21б); будȣ тут ажъ до вечера лежал (Зб. 82, 333б).

Форм такога ўтварэння зусім няма ў арыгінальных беларускіх помніках, перш за ўсё ў летапісах і мемуарных творах і ў перакладах з іншых моў, акрамя поль-

скай. Аднак пераклады з польскай мовы ў XVII ст. займалі вядучае месца, і ў цэлым формы будучага часу з дзеепрыметнікам на *-л* утваралі яркую рысу ўплыву польскай мовы на беларускую пісьменнасць XVII ст.

## *Прошлы час*

### П е р ф е к т

З ліку форм прошлага часу ў беларускай пісьменнасці найбольш устойлівымі аказаліся формы перфекта, які атрымаў здольнасць выражаць безадноснае мінулае дзеянне, уключыўшы ў сябе і значэнні ранейшых аорыста і імперфекта. Пры развіцці перфекта на беларускай глебе быў апушчан дапаможны дзеяслоў-звязка, у выніку чаго дзеепрыметнік на *-л* у складзе перфекта ператварыўся ў асноўную форму прошлага часу. Аднак у беларускай пісьменнасці звязка па традыцыі працягвала ўжывацца на працягу ўсяго старажытнага перыяду.

Змены фанетыка-марфалагічнага парадку ў складзе перфекта закранаді як дапаможны дзеяслоў-звязку, так і дзеепрыметнік на *-л*. Пры гэтым найбольшыя змены адбыліся іменна ў звязцы, таму яе агульны выгляд якраз аказаўся вырашальным у гісторыі перфекта пісьмовай мовы.

Старажытная форма звязкі 1-й асобы адзіночнага ліку *есмь* яшчэ трывала захоўваецца ў граматах XIII—XIV стст.: докончалъ есмь с немьци по давному докончанью (Гр. 1229, СГ, 28); судилъ есмь бирелА (Гр. 1284); выдалъ есмь армановича (там жа); нынѣ есмь оувѣдалъ любовь ваша праваА (Гр. Як. 1300); на всемъ далъ есмь правду крепкую брату своему (Гр. 1387). Гэта звязка ў арфаграфічных варыянтах *есмь, есмъ* і *есм*ˢ выкарыстоўваецца яшчэ ў Катэхізісе С. Буднага 1562 г.: крестилъсА есмь въ имА его (1б); 8же есмъ повѣдѣлъ причину (112); вже есмˢ повѣделъ (20б).

У цвёрдым варыянце *есмъ* звязка ўжываецца яшчэ ў некаторых помніках XVII ст., асабліва ў Бібліі, Александрыі і Кнізе Макавеяў: ■ есмъ 8теклъ з войска (Біблія, 306); пе*р*вей есмъ тр8но*к* пилъ, пото*м* есмъ тобѣ *лист* 8каза*л* (Алекс. XVII, 14б); 8сѣлъ есмъ на столицы ω*т*цовъ мои*х*, и доста*л* есмъ па*н*ства и порази*л* есмъ димитре■ и ωсѣлъ есмъ землю нашу (Кн. Мак., 60).

Аднак ужо ў ранніх граматах адзначаецца і новы варыянт звязкі *есми*, які стаў асноўным у старабеларускай пісьменнасці: оуставила есми брати... темѧнъ щинꙋ (Гр. 1377); был есмі оу великои печали (Чэцця. 49б); не рꙋшилъ есми ни скарбов его ни стадъ (Віл., 440б); пришолъ есми къ ѡгородꙋ своемꙋ (Зб. 262, 84б); былъ есми в тотъ часъ в домꙋ ѧкꙋбововомъ (КВЗС, 18б); видел дей есми сон дивный (Рач., 122); закон твой ховал есми в серци моем (Пс. XVII, 14); принеслъ есми тобѣ твое золото (Зб. 82, 425б).

Побач з такімі аналітычнымі формамі перфекта ў беларускай пісьменнасці з сярэдзіны XVI ст. пачалі ўжывацца і сінтэтычныя формы, у якіх звязка зліваецца з дзеепрыметнікам на *-л* у адно слова. Евангелле В. Цяпінскага з'яўляецца фактычна першым помнікам, дзе такія формы маюць значэнне асноўнай нормы: *вышоломъ, говориломъ, зготоваломъ, зналомъ, ламаломъ, меломъ, нашоломъ, пришоломъ, рекломъ, стерегломъ, хотеломъ* і інш. Трапляюцца такія формы і ў помніках XVII ст.: позналом то по тобѣ днес (Бельск., 108б); дозналом многокрот вѣри вашой (Хр. польск., 20); ꙋчыниломсѧ неволником всих (Зб. 255, 165б); не моглом на тваръ его смотрети (Зб. 82, 186б).

Але асноўнай нормай гэтага часу былі ўтварэнні з літарай *-е-* паміж дзеепрыметнікам і звязачным элементам *-м*: велми славных ѡтцов тут выписалемъ (Унія, 9); бѣгъ мой доконалемъ (Каз. Кір., 30б); мыслилемъ о томъ (Апакр., 2); кꙋпилем ꙋ нег ѡгород, в котором нашолем закопаный скарбъ (Бельск., 176); пришолемˢ раз до него и нашолемъ пред келіею его (Мак., 17); слꙋжбꙋ мою межи вами скончилемъ, и нічого не ѡпꙋстилемъ и не замолчалемъ, што бымъ вамъ не ѡзнаймилъ (Варл., 327б); которого мѣлемъ ѡкреститн, албо ѡдродитн, оутратилемъ его (Дзід., 8).

Формы на *-емъ* пашыраліся ў беларускай пісьменнасці ў эпоху моцнага ўздзеяння на яе польскай мовы. Яны, безумоўна, у адрозненне ад форм на *-омъ* больш збліжаюцца з польскім вымаўленнем. У гэтых адносінах асабліва вылучаецца Дзённік Ф. Еўлашоўскага, дзе напісанні на *-эм* найбольш дакладна перадаюць польскае вымаўленне: мешкалэм там през вшитке есен (7); лежалэм в тэй хоробе сем недел (8); захоралэм на горючку и казалем се везть аж до бранска (8); тэскнилэм барзо, жаловалэм и мовилэм до жоны моей (30).

З сярэдзіны XVI ст. у помніках усё часцей адзнача-

юцца выпадкі, калі звязачны элемент *-м* зліваецца не з дзеепрыметнікам, а з першым знамянальным словам фразы: ꙗмъ ихъ ꙗко людей добрыхъ чтилъ (КВЗС, 7б); ꙗмъ терпелъ дорогы тѧжкие (Пс. XVI, 17б); зле*м* вчынилъ нже*м* добы*л* меча проти*в* тебе (Трыстан, 42б); то*м* емꙋ повѣди*л*, што*м* видѣ*л* (Бельск., 304б); Добрꙋю*м* працею працовалъ, бѣгу*м* моего доконал, вѣры*м* дохова*л* (Зб. 752, 495); ꙗмъ спалъ и твердомъ заснꙋлъ (Выкл., 105б).

Некаторыя помнікі маюць і іншыя асаблівасці ва ўжыванні перфекта. У Бібліі пачатку XVII ст. ужываюцца своеасаблівыя формы, дзе звязка *есмъ*, распаўсюджаная ў гэтым помніку, зліваецца з дзеепрыметнікам, але не скарачаецца — *важилесмъ, видѣлесмъ, взывалесмъ, далесмъ, држалесмъ, згрѣшилесмъ, наведилесмъ, пришолесмъ* і інш.: хлѣба тежъ и вина ту*т* не поживалесмъ (40); постановилесмъ в пра*в*дѣ ꙋчтить тебе (20б); взывалесмъ ва*с* абысте мнѣ помочъ дали (278).

У Зборы выпадкаў кароткім 1722 г. сустракаюцца формы, дзе звязка зліваецца з дзеепрыметнікам на *-в* тыпу *забѣвемъ, мысливемъ, согрѣшивемъ, оукравемъ, оучинивемъ* і інш.: согрѣшивемъ, алемъ плакалъ (40б); не оучинивемъ того грѣхꙋ (40б); обѣцавемсѧ кохати в цнотахъ, але мысливемъ же оздоровѣвши не вытрваю (36б). Іншыя помнікі старабеларускай пісьменнасці такіх форм не ведаюць.

У некаторых помніках XVII ст. мае месца своеасаблівая рэдуплікацыя — падвоенае ўжыванне звязкі, прычым адна з іх стаіць у форме 1-й асобы адзіночнага ліку (у поўным або скарочаным выглядзе), а другая — у форме 3-й асобы адзіночнага ліку: ꙗ*м* ес*т* сꙗ цесаре*м* ꙋроди*л* (Бельск., 305б); ꙗмъ естъ збꙋдова*л* до*м* ца*р*ства моего (Зб. 752, 295б). Адзначаны выпадак, калі пры адным дзеепрыметніку на *-л* ужыта аж тры звязкі: ꙗ есми таѧ, што есми вчора пришла есть есмъ з кесарѣи мѣста (Зб. 82, 397).

Формы перфекта 2-й асобы адзіночнага ліку ў беларускай пісьменнасці ранняга перыяду ўжываліся са звязкай *еси*: *ѡт* кого навыклъ еси моудрости (Чэцця, 53б); продалъ еси мистра своего (Пак. Хр., 1б); исторглъ еси мѧ *ѡт* часу злого (Скар. IC, 80б); оувѧзлъ еси рѣчми оустъ свои*х* (Зб. 262, 95б); добылъ еси зе*м*ли подольское (Рач., 130). Ужыванне звязкі *еси* працягваецца і ў пісьменнасці XVII ст.: вынеслъ еси ку горѣ ѡчи

твои (Біблія, 507); змоцни*л* еси надо мною рȣку твою (Пс. XVII, 9); притупи*л* еси ωстрие мечови его (там жа, 90б). У помніках гэтага часу зрэдку трапляецца і звязка ў форме *естесь*: мнѣ не да*л* есте*с* пото*м*ка (Біблія, 41); чому *ж* есте*с* взго*р*дилъ слово (там жа, 375); есте*с* ста*л* вына*й*де*н*емъ всꙗко*й* злости (Зб. 752, 96).

Побач з гэтым у беларускай пісьменнасці звязка 2-й асобы пачала ўжывацца ў скарочаным выглядзе *есь*. Такая форма як варыянтная норма выступае ўжо ў выданнях Ф. Скарыны: почто ȣчинила есь сее (КБ, 12б); ȣчини ꙗко глаголалъ есь (там жа, 31б); поведилъ ми есь ложъ (КС, 35); ты ходилъ есь прѣдъ лицем моимъ (ТЦ, 143). Такім ужываннем вылучаецца Псалтыр XVI ст., Катэхізіс С. Буднага і важнейшыя помнікі XVII ст. Пры гэтым поўная і скарочаная формы звязкі часам ужываюцца побач: проти*в* кому есь голо*с* сво*й* по*д*носилъ и вынеслъ еси ку горѣ ωчи твои (Біблія, 507); ȣже есь пи*л* и вино, и ωлѣ*й* еси ȣжива*л* (Зб. 82, 334).

Звязка 2-й асобы таксама зліваецца з дзеепрыметнікам на *-л* або з папярэднім словам фразы. Першыя выпадкі такога ўжывання адзначаюцца ў помніках канца XVI ст., і асабліва гэта стала тыповым для пісьменнасці XVII ст.: не заховале*с* приказа*н*ꙗ мое*г* (Бельск., 5б); котори*м* ωбычае*м* смѣле*с* перейти реки, гори и морꙗ (Алекс. XVII, 9); закололесь длѧ него телца оного (Каліст, 9б); помни химе*с* бы*л* а чиме*с* тепе*р* (Бельск., 330б); нехай такъ бȣдетъ ꙗкесь росказалъ (Варл., 230).

У складзе перфекта 3-й асобы адзіночнага ліку здаўна ўжывалася звязка *есть*, якая адзначаецца ў ранніх беларускіх помніках: хто есть вамъ повелѣ*л* сие творити (Чэцця, 85б); сталосе есть восмое лѣто цеса*р*ства цесарѧ (Пак. Хр., 16); нагле сталъсѧ есть голо*с* за ниωле*м* (Валх., 43). Аднак у 3-й асобе звязка ўжываецца пераважна ў перакладах з заходнеславянскіх моў. Вельмі часта яна выкарыстоўваецца ў выданнях Ф. Скарыны, прычым часцей за ўсё яна выступае ў цвёрдым варыянце *естъ* або з вынасам над радком спалучэння *ст*: он же ȣтеклъ е*ст* предъ тобою (ДЦ, 90б); царь виделъ естъ сонъ (КД, 6б); мардохеи писалъ естъ листъ (КЕ, 15); во днѣхъ судеи деꙗласѧ е*ст* речь та*ѧ* (ПЦ, 2—2б); того часу былъ е*ст* гладъ в земли (ЧЦ, 192). У Скарыны перфект са звязкай ужываецца і там, дзе ў царкоўнаславянскай бібліі выступае аорыст: *бысть — сталосѧ естъ, видѣ — виделъ естъ, даде — далъ естъ, нападе — напалъ естъ, посла — послалъ естъ* і г. д.

Перфект 3-й асобы са звязкай выкарыстоўваецца таксама і ў іншых перакладах з заходнеславянскіх моў: *валка* есть сѧ стала *медци* ими (Троя, 44); ꙗзык мои прилн8*л* есть к д*ѧ*слам мои*м* (Пс. XVI, 23б); хто есть и*х* вложилъ (Біблія, 96); *муж* мо*й* 8ме*р*лъ е*ст* (Бельск., 125); 8тонуло естъ на*и*ми*л*шое дѣтꙗ мое (Зб. 81, 18б). Але ў помніках гэтага часу ўжыванне звязкі было вельмі далёкім ад нормы. Яно толькі сведчыць аб перакладным паходжанні таго ці іншага помніка.

Ужыванне звязкі *суть* у складзе перфекта 3-й асобы множнага ліку ў асноўным адпавядае выкарыстанню звязкі *есть* у адзіночным ліку: почто сии соу*т* пришли (Чэцця, 151б); из гробоу его оусталого свѣтчили соу*т* (Пак. Хр., 31); напо*л*нилисѧ соу*т* дни м҃рiи (Валх., 42б). Асабліва часта ўжываецца гэта звязка ў выданнях Ф. Скарыны: Т8 пали суть щитовѣ силныхъ (ДЦ, 67б); друзи мои запомен8ли с8ть мене (КІ, 24б); возопили суть вси людие (КЮ, 6б). У выданнях Скарыны перфект са звязкай *суть* часта адпавядае формам аорыста і імперфекта 3-й асобы множнага ліку царкоўнаславянскага тэксту Бібліі: *видѣша — видели с8ть, изыдоша — выходили суть, покрыша — прикрили суть, послаша — послали суть, исках8 — искали суть, хождах8 — ходили суть* і інш. У пазнейшых помніках перфект 3-й асобы са звязкай ужываецца вельмі рэдка.

У супрацьлегласць гэтаму вялікай разнастайнасцю варыянтаў характарызуецца звязка ў складзе перфекта 1-й асобы множнага ліку. Старажытны варыянт *есмъ* у беларускай пісьменнасці не ўжываўся зусім. У ранніх граматах ужываецца варыянт *есмы*: вѣдомо буди какъ миръ есмы твори*л* (Гр. 1264) (*створил* тут абазначае *створили.— А. Ж.*); На то жь дали есмы сю грамоту (Гр. 1387); инѧлисѧ есмы крѣпко блюсти его (там жа); дали есмы тотъ городъ полтескъ (там жа). Некалькі выпадкаў ужывання звязкі ў такой форме вядома і пазнейшым помнікам: привилеи волности дховныи з иными потвердили есмы (Апакр., 24б); досы*т* есмы 8же мѣли на то*м* (Алекс. XVII, 23б); всꙗко*ж* есмы вы*й*ти зара*з* не *с*мѣли (Зб. 82, 48). Але такая звязка не стала нормай.

У ранніх граматах адзначаецца таксама і варыянт *есме*: Чего сѧ есме ѡтступили въ Ризе (Гр. 1265); Мы ратьмане ризькии скончали есме съ полоча*н* (Гр. 1405).

Аднак асноўным у старабеларускай пісьменнасці стаў варыянт *есмо*, вядомы з канца XIV ст. і ўжываль-

ны на працягу ўсяго старажытнага перыяду: велели есмо продати белъку (Гр. 1389); пѣчѦти есмо свои привѣсили (Гр. 1407); оурѦділи есмо такъ (Судз. Каз., 203); мы до вечера принѧли есмо поститисѦ (Чэцця, 3); всю братію его знали есмо (Пак. Хр., 16б); мы познали есмо тебе (Скар. ІС, 58); пили есмо 8 корчме за витбою (КВС, 11); там есмо седели и плакали (Пс. XVI, 133); светыхъ 8чителей писанью пилно прысл8халисе есмо (Унія, 14б); на твердость тое речи дали есмо имъ сесь нашъ листъ (Барк., 146б); пред полуднемъ минули есмо страж (Дыяр., 150б); днѧ ѡного мѣли есмо великое свѧто (Зб. 752, 50б).

У пазнейшы час звязка 1-й асобы множнага ліку падверглася розным трансфармацыям, у сувязі з чым прыкметна змянілася структура перфекта. Важнейшай асаблівасцю ў эвалюцыі звязкі *есмо* было зліццё яе з дзеепрыметнікам на *-л*, у выніку чаго атрымаліся сінтэтычныя формы перфекта тыпу *виделисмо, далисмо, мовилисмо, моглисмо, пришлисмо, чинилисмо* і г. д. Такія формы пачалі распаўсюджвацца ў канцы XVI ст. Евангелле В. Цяпінскага з'яўляецца фактычна першым помнікам, дзе яны маюць значэнне нормы: виделисмо бо звезд8 его на всходе (3); ото мы оставилисмо все (27); мы не моглисмо выгнать его (24). Такія формы асабліва распаўсюджаны ў Евангеллі Каліста 1616 г., у Гісторыі аб Варлааме і Іаасафе 1637 г., у Дыярыушы А. Філіповіча і Статуце полацкага брацтва і іншых помніках: тотъ листъ р8кою нашею подписалисмо (Апакр., 30б); огню вѣчном8 годныи оучинки чинилисмо (Каліст., 21б); ш8мъ тылко слышѦлисмо водный (Мак., 172); многихъ засъ днiй не видѣлисмо его (Варл., 195б); взышлисмо на высокую гор8 (Дыяр., 150).

Далейшым момантам у эвалюцыі звязкі было зліццё яе з папярэднім словам фразы, у большасці з займеннікамі, прыслоўямі. Такое ўжыванне звязкі атрымала распаўсюджанне з канца XVI ст.: мысмо были 8 его пристанищу (Трыстан, 58); оучинилисмо то, штосмо повинни были оучинити (Каліст, 8); тобѣ многосмо злого вырѦдили (Варл., 311); цел8ю ноч ничогосмо не поймали (Зб. 255, 84); николисмо того не видѣли, анисмо ѡт кого слышали (Зб. 82, 191).

У помніках з канца XVI ст. несумненна пад польскім уплывам звязка пры злітным ужыванні выступае ў выглядзе элемента *-смы*, як у формах *далисмы, ехалисмы, зналисмы, мелисмы, муселисмы, реклисмы, слышалис-*

*мы, чинилисмы* і інш.: ѡт прелести и зрады многих моглисмысѧ оустеречи (Каз. Кір., 58б); оучинилисмы то з великихъ а важныхъ причинъ (Апакр., 29); поховалисмы тело его в лѧховичах (Еўл., 20); потом ехалисмы до кола до братии (Барк., 149); слѹжилисмы тобѣ до тых час вѣрне (Стрыйк., 625б); ѡ трех кролѧх рокисмы судили земске (Еўл., 41); ледвосмы ѹшли рѹкъ неприѧтелскихъ (Алекс. XVII, 9).

У помніках з канца XVI ст., якія асабліва моцна адлюстроўваюць польскі ўплыў, ужываецца звязачны элемент *-хмо* або *-хмы*, які таксама зліваецца з дзеепрыметнікам або з папярэднім словам: виделихмо некоторого именемъ твоимъ выганѧючого бесы (Цяп., 56б); старалихмосѧ ѡ тое вси пильне (Ст. 1588, 67); в том же шкриптѣ синодовомъ ѡповѣдалихмосѧ с тымъ (Апакр., 10); вси тот же напой пилихмо (Мак., 36); Вси абовѣм[s] потребными сѹть, ѩкохмо рекли (Мак., 3б); слѹхалихмы тое справы (ККСС, 43); лжеи нас карает нижехмы заслужили (Біблія, 565).

Такой разнастайнасці варыянтаў няма ў іншых асобах адзіночнага ці множнага ліку. Адной з прычын гэтага, відаць, было тое, што ў вывучаных творах формы перфекта 1-й асобы множнага ліку наогул выкарыстоўваюцца больш часта, што звязана з кантэкстам твораў. Вялікая колькасць перакладных помнікаў, натуральна, садзейнічала пераносу элементаў арыгіналаў у мову перакладаў.

У супрацьлегласць гэтаму звязка ў складзе перфекта 2-й асобы множнага ліку фактычна не зазнала ніякіх марфалагічных змен. У помніках усяго старажытнага перыяду яна ўжываецца ў форме *есте*: оубоѧлисѧ есте индиѧнъ (Алекс. XV, 1б); пополнили есте слюбы ваше (Пак. Хр., 14); чомѹ есте того чоловека збили (КВЗС, 74); Не хотели есте слухать голосу моего (Біблія, 258); велми есте злѹю реч ѹчинили (Бельск., 31б). Як і ў іншых асобах, звязка зліваецца з дзеепрыметнікам або папярэднім словам, выступаючы ў выглядзе элемента *-сте*: чемѹ противилистесѧ словомъ правды (Скар. КІ, 11); чого вышлисте в пустыню (Цяп., 14); гостемъ былемъ, а не приняѧлисте мене, лакнѹлем, а не накормилисте мене, прагнѹлемъ, а не напоилисте мене (Мак., 288); штосте им оучинили, мнѣсте оучинили (Каз. Кір., 4б); певноисте ѡ нихъ вѣры набыли (Варл., 69б).

Цікавую эвалюцыю перажылі дзеепрыметнікі з асновай на зычны. У ранніх помніках беларускай пісьменна-

сці такія дзеепрыметнікі мужчынскага роду адзіночнага ліку па традыцыі ўжываюцца ў старажытным выглядзе: *бѣглъ (выбѣглъ, збѣглъ, побѣглъ, убѣглъ), зверглъ, леглъ, моглъ (возмоглъ, помоглъ, премоглъ), неслъ (вынеслъ, знеслъ, понеслъ, принеслъ), ѡблеглъ, ѡболоклъ, ѡмерзлъ, ѡтверглъ, паслъ, поверглъ, погреблъ, пожоглъ, прис*Ѧ*глъ, притеклъ, простерлъ, реклъ, стереглъ, сволоклъ, сѣклъ, стерлъ, рослъ, умерлъ, утеклъ* і г. д. Такія формы ўжываліся ў пісьменнасці ад самых старажытных часоў да пачатку XVI ст.: влдка рижьскии оумерлъ (Гр. 1229 В, 25); тогды онъ оубоꙗвъсѦ живота оутеклъ к тобе кнѦжо (Гр. 1300); идикъ не моглъ на него досвичит (Вісл., 27); михаил погреблъ тѣло его (Чэцця, 71); пилат велми сѦ зоумел албо злѦклъ (Пак. Хр., 21б); милостникъ мои простерлъ р8к8 свою (Зб. 262, 84б); рослъ ꙗко гора земли (Скар. ІС, 71б); мой сынъ естъ живъ, а твой оумерлъ (Скар. ТЦ, 128б). Форм на *-лъ* старой пісьмовай традыцыі асабліва многа ў Чэцці 1489 г.: *возмоглъ, вынеслъ, моглъ, оболоклъ, ѡтсѣклъ, побѣглъ, погреблъ, помоглъ, посѣклъ, реклъ, сожеглъ, стереглъ, стерлъ, оубеглъ, оумерлъ* і г. д. Разам з тым у помніках гэтага часу, перакладзеных з польскай мовы (Пакуты Хрыста, Аповесць аб трох каралях-валхвах і Жыціе Аляксея), падобныя формы вытокам мелі польскую мову: *злѦклъ, моглъ, ѡблоклъ, ѡмерзлъ, паслъ, побеглъ, пожоглъ, прениклъ, притеклъ, реклъ, оумерлъ.*

Разам з тым у адпаведнасці з жывым вымаўленнем у пісьменнасці з канца XV ст. дзеепрыметнікі гэтага тыпу пачалі ўжывацца і без канцавога *-лъ* у формах мужчынскага роду адзіночнага ліку: *бегъ, влезъ, втекъ, выжогъ, донесъ, допомогъ, звыкъ, зволокъ, легъ, могъ, несъ, ѡболокъ, ѡстерегъ, простеръ, рекъ, стерегъ, умеръ, утекъ* і інш.: мед несъ до своего дом8 (Вісл., 19); геѡргии простеръ роукоу свою (Чэцця, 84); кнѦз великыи витовтъ рекъ ѡц8 своемоу (Віл., 439б); александръ же на мазиньскоую землю потѦгъ (Алекс. XV, 2б); гнѣвъ его зажогъсѦ в нем (Зб. 262, 127); ꙗсне гледети не могъ (Скар. КБ, 89); его зрадою приволок оу сетк8 свою (Пс. XVI, 13б); дед ихъ вмер на томъ селищи (КВЗС, 57).

Дзеепрыметнікі без канцавога *-лъ* заставаліся пануючымі ў беларускай пісьменнасці XVI і XVII стст.: ланцугамі нихто не могъ его свезать (Цяп., 48б); там гай вырос (Рач., 116); на сл8жб8 наш8 ехати не могъ (Ст. 1588, 55); много спиртъ з житомъ пер8нъ пожогъ (Барк., 142б); заразъ ѡслѣпъ ѡныи чоловѣкъ (Бельск., 331б);

кроль александер ȣмер (Хр. польск., 14б); присѧгъ емȣ такъ ѧк хотѣлъ (Зб. 82, 246б); пафнотій зараз бѣгъ до него (Зб. 107, 172б); самъ наготовал имъ ωбед и рыбу ȣпекъ (Зб. 255, 47).

Побач з гэтым у пісьменнасці з сярэдзіны XVI ст. зноў пачалі распаўсюджвацца дзеепрыметнікі на *-лъ*. Знешне яны падобныя на формы, якія ўжываліся ў беларускай пісьмовай мове XIV — пачатку XVI ст., але вытокам іх цяпер была, несумненна, польская мова. Аб гэтым сведчыць факт, што ўжываюцца яны ў большасці ў перакладах з польскай мовы, хоць трапляюцца і ў помніках мясцовага паходжання: ωнъ реклъ ѧ инъшого доводȣ не маю (КВЗС, 131); того никто исполнити не моглъ (Будны, 103); за грѣхи принеслъ ωфѣрȣ (Каз. Кір., 177); што коли выреклъ ȣтихлъ дȣхъ ихъ (Біблія, 268); Ахав се злѧклъ и роздерлъ на собѣ шаты и ωболоклъ сѧ в волосѧницȣ (Бельск., 123); володар до галича ȣтеклъ и там ȣмерлъ (Стрыйк., 471б); злѧклъсѧ птоломей ωт ωбличѧ его и ȣтеклъ (Кн. Мак., 48б); ȣтеклъ до своих не моглъ его жаден догонит (Хр. польск., 8); посохъ ωный в дерево ȣрослъ (Зб. 752, 174б); Авраам зналѣзлъ барана, который был за роги в терню ȣвѧзлъ (Выкл., 51б); змий зараз роспуклъсѧ и здохлъ нагле (Зб. 82, 310).

У некаторых помніках, асабліва друкаваных, формы на *-лъ* з'яўляюцца амаль адзінымі. Сюды адносяцца, напрыклад, Два казанні Л. Карповіча 1615 г., Евангелле Каліста 1616 г., Казанне пахавальнае М. Сматрыцкага 1620 г., Збор выпадкаў кароткі 1722 г., рукапісная Хроніка М. Бельскага пачатку XVII ст. і інш. У Бяседах Макарыя 1627 г. адзначаюцца *могъ, ωболокъ, рекъ* і *моглъ, ωболоклъ, реклъ*; У Гісторыі аб Варлааме і Іаасафе 1637 г.— *побѣгъ, рекъ, росъ, умеръ* і *побѣглъ, реклъ, рослъ, умерлъ*. Такая ж варыяцыя асабліва назіраецца ў рукапісных помніках XVII ст.: оутеклъ далеко ωт родичов и бѣгъ до понтȣ (Жыц. св., 66б).

Дзеепрыметнікі на *-лъ* у функцыі перфекта трапляюцца і ў арыгінальных беларускіх творах, нават у дзелавых помніках: ωнъ реклъ ѧ инъшого доводȣ не маю (КВЗС, 131); того никто исполнити не моглъ (Будны, 103); до зѣмли непріѧтельское ȣтеклъ (Ст. 1588, 6); витовтъ реклъ пойдемо пустошечи землю татарскую (Рач., 130); з вилна ȣтеклъ до села своег (ККСС, 104); ωн зараз при всѣхъ реклъ то (Дыяр., 178). У старабеларускай пісьменнасці наогул, асабліва ў перакладных

помніках, высокай частотнасцю вылучаюцца формы *моглъ, реклъ, умерлъ, утеклъ,* яны, відаць, атрымалі пашырэнне і ў гутарковай мове адукаваных асоб таго часу, адкуль лёгка маглі пранікаць і ў арыгінальныя творы.

Формы гэтага тыпу дазвалялі вар'іраваць набор граматычных сродкаў, пазбягаць аднастайнага формаўжывання, хоць паміж утварэннямі абодвух тыпаў якой-небудзь стылістычнай ці экспрэсіўнай дыферэнцыяцыі не заўважаецца.

Па ўжыванню такіх форм прыкметна вылучаецца Дзённік Ф. Еўлашоўскага пачатку XVII ст., дзе адпаведныя дзеепрыметнікі маюць яўна польскае фанетычнае афармленне: потом врыхле ꙋмарлъ му старший зѧт (37); ωн ꙋпадлъ в став до воды (16); будучи в турове впадлъ ꙋ θэбрэ (14).

Увогуле дзеепрыметнікі на *-лъ* у ролі перфекта паказваюць, што ступень польскага ўплыву на мову старабеларускай пісьменнасці завяршальнага этапа яе гісторыі была вельмі моцнай. Такіх форм зусім не ведае новая беларуская літаратурная мова. Формы гэтага тыпу належаць да ліку тых паказальных рыс, якія з'яўляюцца спецыфічнымі для старабеларускай пісьменнасці і сведчаць аб адсутнасці пераемнасці паміж старабеларускай і новай беларускай літаратурнай мовай.

Некаторыя змены зазналі і дзеепрыметнікі з асновай на галосны. У жывым вымаўленні канцавы *-л* у формах мужчынскага роду адзіночнага ліку рана змяніўся на *-ў* (у нескладовае). Аднак у помніках з-за кансерватыўнасці правапісу гэты працэс адлюстроўваецца толькі з канца XV ст., прычым канцавы *-ў* у пісьменнасці паслядоўна перадаецца праз *-въ*: коли бы злодѣи што оу кого ꙋкрав а игдѣ ꙋкрадѣно, а тамъ его оухватѧть с ліцом (Судз. Каз., 203). Параўнальна многа такіх новых форм у Чэцці 1489 г.: ростꙋживсѧ таким и в домъ свои не пошолъ (14); ωнъ за нас своею волею притерпѣвъ (56); тамъ бо иевъ праведныи тѣломъ терпѣвъ лежачи в червѣх на гноищи (56б); принемъ масло помазавъ их ωт главы и до ногъ (103б); весь же город наполнивсѧ запахоу мирног (106).

Адзначаюцца такія формы і ў іншых помніках канца XV — пачатку XVI ст.: александръ же то слышавъ воискоу свою к собѣ призвавъ и к ним говорил (Алекс. XV, 1б); поръ... воиско свое собравъ и переписати велел (там жа); ω том оузѧв ωтповедь оу дши (Валх., 64). Нярэд-

кія такія формы і ў выданнях Ф. Скарыны: И навративсѧ паки из места Галгалы, где же беша кумиры (КС, 9); Той же опустив совѣтѹ мужеи старых (ТЦ, 155); натѧгнув единъ мужъ лукъ и стрелил (ТЦ, 181); И завеща с ними завет, и присѧгою ихъ завезав (ЧЦ, 208).

Падобныя выпадкі адзначаюцца ў помніках, якія ствараліся ў эпоху інтэнсіўнага вызвалення беларускай пісьменнасці ад царкоўнаславянскай стыхіі і зближэння яе з жывой беларускай мовай. Аднак гэта тэндэнцыя не атрымала развіцця ў далейшай гісторыі беларускай пісьменнасці. Некалькі выпадкаў форм на -*въ* адзначаецца ў друкаваных кнігах канца XVI ст.: тогды исусъ пославъ дву ȣчениковъ (Цяп., 28б); азали не памѧтаете ѧ ком ва*м* мови*в* (Каз. Кір., 100); ѡные черезь слȣги свое прылȣчывъ до ѡ*д*ного стада своего (Бер. саб., 1); хто третій в розмовȣ межи двѣма початȣю вмешавсѧ (Апакр., 54б). Але пазнейшыя друкаваныя кнігі першай палавіны XVII ст. такіх форм не ведаюць.

У супрацьлегласць гэтаму ў некаторых рукапісных помніках XVII ст. такія формы па колькасці ўжывання набылі значэнне варыянтнай нормы. Тут перш за ўсё варта адзначыць зборнік пачатку XVII ст., дзе змешчаны Александрыя, Траянская гісторыя, Кніга Макавеяў і Рымскі летапісец. Для рукапісу звычайнымі з'яўляюцца формы боѧвсѧ, вставъ, выламавсѧ, довѣдавсѧ, живъ, забравъ, загнавъ, закрепи*в*, замаза*в*, заплы*в*, збȣри*в*, здавъ, злупи*в*, мешка*в*, побравъ, положивсе, приближивсе, призва*в*, прочита*в* і інш.: положивсе та*м* з войско*м* свои*м* (Алекс. XVII, 17); антиѡхъ... вси начинѧ це*р*ковныи злупи*в* и мѣсто збȣри*в* и побравъ сребро и золото (Кн. Мак., 48б); августъ коли прочита*в*, вставъ зараз з маестату (Рым., 81б).

Вялікай колькасцю фо*р*м на -*въ* характарызуюцца творы, змешчаныя ў Зборніку сінадальным № 790, у Бібліі пачатку XVII ст., у зборніках № 81, 82, 107 і 752, у Хранографе сярэдзіны XVII ст.: коли ȣзрѣвъ возы и все што пославъ ожи*в* дȣхъ его (Біблія, 100); гды се старе*ц* ве*р*нулъ повѣдивъ емȣ все што видѣвъ (Зб. 107, 179б); тот ѡкрȣтенства на*д* де*т*ми чыни*в*, иные на колъ тыка*в*, зам*к*и села попали*в* (Царств., 78).

Апошняя друкаваная кніга на старабеларускай мове — Збор выпадкаў кароткі 1722 г.— таксама ў вялікай колькасці ведае формы на -*въ*: *бравъ, бывъ, вѣривъ, давъ, мѣвъ, поствивъ, ранивъ, робивъ, шанововъ* і інш. У гэтай кнізе, напрыклад, на 5 старонках тэксту

(лл. 41б—43) ужыта 65 форм на *-въ* і толькі 4 — на *-л*. Наяўнасць вялікай колькасці такіх форм у помніку, мова якога наогул характарызуецца архаічнасцю, выглядае некалькі нечаканай. Растлумачыць гэту з'яву можна, відаць, тым, што помнік ствараўся ў эпоху занядаду старабеларускай пісьменнасці, і кніжныя нормы папярэдняга перыяду ўжо не аказвалі ўплыву на пазнейшых аўтараў.

## Аорыст

Даследчыкамі ўсходнеславянскіх моў з несумненнай верагоднасцю ўстаноўлена, што ў жывой народна-дыялектнай мове ўсходніх славян аорыст ужо не існаваў у XII—XIII стст. Напрыклад, самая вялікая па аб'ёму і самая старажытная з заходнерускіх Смаленская грамата 1229 г. зусім не мае форм аорыста (за выключэннем аарыстычных форм дапаможнага дзеяслова *быти* ў складзе ўмоўнага ладу). З форм прошлага часу ў гэтай грамаце амаль ва ўсіх выпадках ужываецца перфект, які нярэдка выступае тут і ў значэнні ранейшага аорыста.

З ліку старажытнарускіх пісьмовых помнікаў арыгінальнага паходжання аорыст вельмі часта сустракаецца ў летапісах.

Асабліва паказальнымі з'яўляюцца даныя Лаўрэнцьеўскага летапісу, які наогул адлюстроўвае найбольш старажытныя адносіны розных форм часу. Разнастайныя мінулыя падзеі, нерасчлененыя па характару працякання дзеянні ў летапісе, як правіла, перадаюцца аорыстам: ѡльга же поимши малы дружины. легъко идущи. приде къ гробу его и плакасѦ по мужи своемъ. и повелѣ людемъ своимъ съсути могилу велику. и ӕко соспоша. и повелѣ трызну творити. по семь сѣдоша ДеревлѦне пити. и повелѣ ѡльга ѡтрокомъ своимъ служити пред ними. и рѣша ДеревлѦне к Ользѣ кдѣ суть дружина наша. ихъже послахомъ по тѦ. ѡна же реч идуть по мнѣ съ дружиною мужа моего. и ӕко оупишасѦ ДеревлѦне, повелѣ ѡтрокомъ своимъ пити на нѦ. а сама ѡтиде кромѣ и повелѣ дружинѣ своеи сѣчи ДеревлѦне. и исѣкоша ихъ (16).

У беларускіх пісьмовых помніках ранняй эпохі аорыст як самастойная форма прошлага часу сустракаецца яшчэ даволі часта. Як пэўны стылістычны сродак ён выкарыстоўваецца часам нават у дзелавых дакументах,

асабліва ў канцоўках грамат: а писана быс грамот сѧ оу могилевѣ (Гр. 1407); а писан бысть сиѧ грамота въ полоцку (Гр. 1409); стадо Христово небрегомо и къ погыбели готово скорбяхомъ о томъ (АЗР, I, 33); Петръ ѩна на с8д пріведѣ а реклъ ем8 (Вісл., 19).

Зусім натуральным з'яўляецца выкарыстанне аорыста ў тых рэлігійных творах, якія ўяўляюць сабой апрацоўку царкоўнаславянскіх тэкстаў. Тыповай у гэтых адносінах з'яўляецца Чэцця 1489 г., перапісчык якой, як адзначыў у свой час А. І. Сабалеўскі, паповіч Бярозка з Навагрудка, прыклаў усе намаганні, каб зблізіць мову царкоўнаславянскіх тэкстаў з мясцовай заходнерускай. Аднак формы аорыста ўжываюцца тут вельмі шырока: ѩко же начахъ тако и скончаю (5); его же азъ видѣх в нощи сей (30); слышах о тобѣ а не инѧхъ вѣры (30б); все споведах тобѣ (83); начахъ молитисѧ ем8 (94); не видѣхом ѡт них помочи никоторое (30); единых избихомъ, а др8гие прогнахом (142); оускладоша нань хврастие соухое (32); падоша вси капища на землю (64б); вжасошасѧ вси и прист8пиша близь со свещами (98б).

Разнастайныя формы аорыста часта выкарыстоўваюцца ў перакладных выданнях Ф. Скарыны: И прийде день и принесе жертву гелкана (ПЦ, 5б); И иде Анна путемъ своимъ, и вниде въ обитель и ѩде и пие с мужемъ своимъ (ПЦ, 6б); смертию 8мремы, понеже видехом гсда (КС, 31); Тогда внийдоша мужи тии прокаженныи в полки и влезоша в шатеръ единъ. ѩдоша ту и пиша, и набраша т8 злата (ЧЦ, 198б).

Формы аорыста як звычайныя дзеясловўныя ўтварэнні вядомы таксама іншым рэлігійным помнікам першай палавіны XVI ст. Іх вельмі многа, напрыклад, у Зборніку № 262 і ў Псалтыры XVI ст. Аорысты гэтых помнікаў выдзяляюцца тым, што ў сувязі са спецыфікай жанру тут ужываюцца пераважна формы 1-й асобы адзіночнага ліку: избых толко ѧ один сказати тобѣ (Зб. 262, 12); загин8л бы день иже родихсѧ в немъ (там жа, 13); ѡбретохъ милость в ѡчью твоих (там жа, 32); безаконие мое тобѣ ѩ вих (Пс. XVI, 32); собрали на мѧ бичи и не вѣдах (там жа, 35б); попел ѩко хлеб едах (там жа, 101).

Тым не менш і ў гэтых помніках аорыст ужываецца значна радзей, чым у тагачасных тэкстах на царкоўнаславянскай мове. Так, у многіх выпадках, дзе ў Астрожскай біблії ўжыты аорыст, у Зборніку № 262 адпавядае перфект: исс8ши — выс8шил, забы — забыл, летѣ — лѣ-

тел, настави — наставил, посла — послал, положи — положил, покры — покрыл, оудиви — оудивил, оуслыша — оуслышал, бышѧ — были, ископаша — ископали, оставиша — ѡставили, решѧ — рекли і г. д.

Увесь прыведзены вышэй матэрыял адносіцца да канфесіянальных твораў, мова якіх шмат у чым залежала ад папярэдніх узораў або пераймала іх прыёмы.

Вельмі паказальна, што форм аорыста практычна не адзначаецца ў апакрыфічных і агіяграфічных творах, перакладзеных у канцы XV ці пачатку XVI ст. з польскай мовы — у Страсцях Хрыстовых, Аповесці аб трох каралях-валхвах і Жыцціі Аляксея, мова якіх наогул свабодная ад царкоўнаславянізмаў.

Для характарыстыкі лёсу аорыста ў беларускай пісьмовай мове значна большую цікавасць мае назіранне над ужываннем яго ў арыгінальных беларускіх творах, у першую чаргу ў летапісах. У ранніх спісах беларускіх летапісаў (Нікіфараўскі, Увараўскі, Віленскі, Супрасльскі, Акадэмічны), асабліва ў тых іх частках, якія былі перапісаны са старажытнарускіх пратографаў, формы аорыста вельмі частыя: рюрикъ же кнѧжи въ новѣгородѣ (Нік., 252б); помѧнѫ ѡлегъ конь свои (там жа, 255); ровь изрыивъ ископа и впадесѧ во имѫ юж сотвори (Увар., 18б); тогда же бе зима велми стоудена (там жа, 32); Того ж лета воеваша татарове ѡколо Киева и манастырь Печерьскии пограбиша и пожгоша (там жа, 39б—40); самого великог кнѧзѧ свѧтослава оубиша (Віл., 44б); ѡн же жда брата своег (Супр., 86); взѧ его и нача его лѣчити (Акад., 181).

Асаблівую цікавасць мае назіранне над ужываннем аорыста ў Віленскім і Увараўскім спісах летапісу. У гэтых помніках апавядаецца пра палітычныя падзеі ў Вялікім княстве Літоўскім XIV—XV стст., калі аорыст ужо не быў жывой з'явай у беларускай мове. Выкарыстанне ж аорыста пры апісанні падзей нядаўняга мінулага сведчыць, што гэта дзеяслоўная форма перапісчыкамі летапісаў успрымалася як абавязковая прыналежнасць кніжнага стылю. Кантэкстам помнікаў абумоўліваецца тое, што тут ужываюцца пераважна формы 3-й асобы адзіночнага ліку: потом пакъ кнѧз великыи ѡлгирдъ оумре (Віл., 438б); кнѧз же великыи витовтъ ѡзма кривыи горѡд (там жа, 447б); Кестоутеи ѡтпоусти его со матерью (Увар., 3); великии Витовтъ поидѣ нашвитригаило во Оугры (там жа, 41б); великии Витовтъ поидѣ и взѧ град Житомирь (там жа, 29).

Віленскі спіс летапісу з'яўляецца найбольш тыповым узорам беларускай пісьмовай мовы канца XV ст., і тут аорыст выступае яшчэ раўнапраўнай формай прошлага часу нароўні з перфектам і плюсквамперфектам. Разам з тым гэты спіс дае ўяўленне аб пераўтварэнні форм аорыста ў іншыя марфалагічныя сродкі, якія служылі для выражэння прошлага часу. У помніку для выражэння мінулага дзеяння побач з перфектам выкарыстоўваюцца яшчэ своеасаблівыя дзеяслоўныя формы, знешне падобныя да форм будучага часу — *вженеть, дасть, наидеть, ѡсадить, ѡстоупить, поведеть, поедеть, поидеть, почнеть, пошлеть, проводить* і г. д.: кнѦз великыи пакъ кестꙋтеи, събравъс съ всими вои своими. и вженеть оу вилню. и иметь великог кнѦзѦ Агаила. и с матерью его и зъ братьею, и грамоты наидеть, што с нѣмъци записалисѦ. и къ сноу своемоу гонца пошлеть къ великꙋ кнѦзю Витовтꙋ к Дорогичиноу. што таѦ дѣла сталасѦ. и гонець тои наидеть великѡго кнѦзѦ витѡвта оу городнѣ. и кнѦз великыи витѡвтъ за ѡдинъ днь з городна приженеть къ ѡцꙋ своемꙋ великомоу кнѦзю кестутью (440—440б).

Гэтыя формы як быццам можна прыняць за пазнейшы аорыст, ускладнены канчаткам *-ть*: аарыстычныя формы тыпу *вчини, ѡстави, поиде, поможе, сѦде* і ўтварэнні накшталт *вженеть, наидеть, поведеть, поедеть, поидеть, почнеть, пошлеть* ужываюцца ў аднолькавых стылістычных умовах і маюць аднолькавае граматычнае значэнне. Аднак такому меркаванню пярэчыць факт, што ў падобных кантэкстах ужываюцца і формы множнага ліку, якія зусім не супадаюць з формамі множнага ліку аорыста: кнѦз великыи витовтъ. събрав всю свою рат ѡчины своеи. поиде из городна противоу ѡца своего и съимꙋтьс на вельи. вышеи ковна двѣ мили. и тоу перевезѣтьс рат и поидоут къ троком. и пришедши ѡстꙋпѦт трокы (442).

Можна лічыць, што падобныя ўтварэнні ўспрымаліся перапісчыкам як формы будучага часу, якія ў старажытнай пісьменнасці якраз і ўжываліся з канчаткам *-ть*. Такое меркаванне пацвярджаецца тым, што ў пазнейшых летапісных спісах формы будучага часу ў значэнні прошлага распаўсюджаны на месцы старажытных аорыстаў яшчэ больш. Такая замена аорыста будучым часам у пісьмовых тэкстах магла параўнальна лёгка ажыццяўляцца дзякуючы таму, што ў размоўным стылі

ўжыванне форм будучага часу для абазначэння міну-
лага дзеяння, відавочна, адбывалася ўжо ў старажыт-
насці. Такое ўжыванне будучага часу адзначаецца, на-
прыклад, у Баркалабаўскім летапісе пачатку XVII ст.,
мова якога цалкам незалежная ад папярэдняга белару-
скага летапісання: которые молотили ■аръ, зер*н*■ то*л*ко
знакъ, а коли змелеть спечеть, то у печи испече*т*сѦ, а з
лопаты 8 печъ не зложи*т* с печи ажъ ѡполонико*м* выбе-
ре*т* (163б). У сучаснай беларускай мове такое ўжыван-
не з'яўляецца вельмі распаўсюджаным, і яно, безумоў-
на, абапіраецца на працяглую традыцыю: Пройдзе Ігнат
пару крокаў, стане, паглядзіць на ціхія хвалькі рэчкі і,
гледзячы, нібы і сам задрэмле (П. Пестрак).

З другой палавіны XVI ст. ужыванне аорыста ў бе-
ларускай пісьменнасці прыкметна пайшло на спад.
У свецкіх і нават у рэлігійных тэкстах гэтага часу
трапляюцца толькі адзінкавыя выпадкі выкарыстання
аорыста: сѦ сіѦ потомъ всѦ исполнищѦ (Будны, 141б);
король... пры*й*де къ шатр8 трыщанову и рече здоро*в* ла-
тынине (Трыстан, 55б); за живота своего нарече своего
сына (Бава, 85б); Пото*м* кнзь велики*й* ѡлькгирдъ 8мре
(Рач., 123).

Як вядома, з пачатку XVII ст. кніжныя стылі бела-
рускай літаратурнай мовы зноў пачалі падвяргацца
царкоўнаславянскаму ўплыву. Формы аорыста адносяц-
ца якраз да такіх царкоўнаславянскіх сродкаў, якія
асабліва прыкметна сталі пранікаць у беларускую пісь-
мовую мову, надаючы ёй архаічны моўны каларыт. Ле-
тапісныя тэксты першай палавіны XVII ст. шырока ад-
люстроўваюць гэту тэндэнцыю: с по*л*година на р8кахъ
д8ховника своего была и престависѦ (Барк., 153); вы-
шей крылоса левого гробъ ей бысть (там жа). Матэрыял
Баркалабаўскага летапісу асабліва паказальны, бо
гэты арыгінальны мясцовы летапіс ствараўся незалежна
ад агульнадзяржаўных беларускіх летапісаў таго пе-
рыяду. Зрэдку аорыст трапляецца і ў перакладах з
польскай мовы, тэксты якіх таксама незалежныя ад
царкоўнаславянскіх узораў: 8л■кшис■ за*с* ахи*лл*ѣи ре-
че ему (Тр. гіст., 71); каза*л* позабива*т* и*х* и каза*л* нести
на гор8 и погребоша и*х* (Стрыйк., 439).

Аорыст, натуральна, нярэдка выкарыстоўваецца ў
беларускіх дзяржаўных летапісах канца XVI — пачатку
XVII ст., якія ствараліся на аснове ранейшых пратогра-
фаў: князь великий Евнутей с страху выбежи з города
з Вилни и вътече в гуры бос, и там озябеть в ноги (Крас.,

133); князи рускии также у свои городы отидоша (там жа, 131); изыйдоша на почайну рек8 м8жи (Лет., 31); быст тот войдило 8 великой моцы (Патр. К., 44); кн[illegible]з великий витовтъ проводи его до крева (там жа, 45б); По[illegible]та 8мре 8 великой старости (Патр. П., 84); и вроди швинторогъ сына кгирмонта (там жа, 86); там же тело сожже ѡтца своего (там жа, 86б).

Асабліва ажывілася ўжыванне форм аорыста ў рукапіснай жыційнай літаратуры першай палавіны XVII ст., што знаходзіць сваё тлумачэнне ў агульнай тэндэнцыі да рэцаркоўнаславянізацыі беларускай пісьменнасці гэтага часу: быст им сух пут и перешли (Жыц. св., 21б); егда же си[illegible] слышав прохор нача плакатис[illegible] (Зб. 752, 26б); то рекшы преклони колени свои и воздѣ р8цы на небо (там жа, 230б); принесоша ему писаніе трех евангелистовъ (там жа, 26); потым не по многих днех помроша слуги его вси (там жа, 106б); то вид[illegible]чи староста почне их 8же ласкаво просити (Пролаг, 485б); великими подвиги и тр8ды спасе свою д8ш8 (Зб. 82, 200б).

У Зборніку выпадкаў кароткім 1722 г.— храналагічна апошняй друкаванай кнізе на старабеларускай мове — аорыст выкарыстоўваецца як звычайная форма прошлага часу, хоць у цэлым дыдактычны характар помніка абмяжоўвае апісанне мінулых падзей: абіе хлѣбъ сей преминисѦ въ мѦсо (21б); тако таѦ жена вѣрова и причастисѦ (там жа); тые слова вырекши оутопленъ бысть (36б); показасѦ ем8 знов8 той же агглъ (46); мощи же его по тріехъ днехъ не ѡбрѣтенны быша (88б).

Такім чынам, формы аорыста ў гісторыі беларускай пісьменнасці належаць да такіх граматычных сродкаў, якія яскрава адлюстроўваюць розныя стадыі ўзаемадзеяння мовы беларускай пісьменнасці з царкоўнаславянскай мовай і з традыцыйнымі моўнымі прыёмамі. Звяртае на сябе ўвагу таксама і тое, што на працягу ўсяго старабеларускага перыяду аорыст ужываўся ў сваім першапачатковым значэнні — абазначаў аднаразовае мінулае дзеянне. Адсутнасць гэтых форм у жывой мове, зразумела, не садзейнічала развіццю якіх-небудзь новых, дадатковых адценняў.

### Імперфект

У наш час агульнапрынятым з'яўляецца меркаванне, што ў жывой мове ўсходніх славян імперфект выйшаў з ужытку ў канцы XII — пачатку XIII ст. Па свайму зна-

чэнню ён прыкметна проціпастаўляўся аорысту і абазначаў мінулае дзеянне, не абмежаванае ў часе, працяглае або паўторнае, расчлененае на асобныя моманты. Імперфект часта трапляецца ў старажытнарускіх летапісах, дзе ён выкарыстоўваецца пры апісанні нораваў і звычаяў, пры паведамленнях аб пастаянных або працяглых мінулых дзеяннях. Іменна з такім традыцыйным значэннем імперфект трапляецца ў летапісе «Аповесць мінулых гадоў»: Полѧне... к родителемъ своимъ, къ свекровемъ и къ деверемъ велико стыдѣнье имѣху, брачныи ѡбычай имѧху. не хожаше зѧть по невѣсту, но приводѧху вечеръ, а завътра приношаху по ней что вдадуче. а древлѧне живѧху звѣриньскимъ ѡбразомъ, жиоуще скотьски: оубиваху другъ друга, ꙗдѧху всѧ нечисто, и брака оу нихъ не бываше, но оумыкиваху оу воды дв҃цѧ (Лаўр., 5).

Беларускія летапісы ранняга перыяду з'яўляюцца тым жанрам старабеларускай пісьменнасці, дзе імперфект яшчэ выкарыстоўваецца як самастойная дзеяслоўная форма. Узнікненне беларускіх летапісаў адносіцца да сярэдзіны XIV ст., калі ў жывой мове імперфекта ўжо даўно не было. Выкарыстанне ж яго ў летапісах яскрава паказвае, наколькі трывала захоўваліся старажытнарускія пісьмовыя традыцыі ў ранняй беларускай пісьменнасці. Важна пры гэтым адзначыць, што імперфект выкарыстоўваецца і ў тых частках летапісаў, дзе апісваюцца падзеі канца XIV — пачатку XV ст., якія не адлюстраваны ў старажытнарускіх крыніцах. Імперфект выступае, напрыклад, у летапісе Аўраамкі, у Нікіфараўскім, Увараўскім, Акадэмічным і Супрасльскім спісах летапісу другой палавіны XV — пачатку XVI ст. Мова гэтых спісаў наогул характарызуецца захаваннем архаічных рыс у розных узроўнях пісьмовага тэксту: Витовтъ послы своѧ слаше к нему (Увар., 31б); ѡвии хотѧх8 Витовта, а дроузии кнзѧ Юрьѧ (там жа, 37б); паде на землю мочь великаа, затымь не можах8 в Литовьскоую землю поити (там жа, 63б).

Нярэдкія формы імперфекта таксама і ў Віленскім спісе канца XV ст., хоць у цэлым гэты помнік у большай меры адышоў ад старажытнарускіх традыцый у параўнанні з іншымі тагачаснымі летапісамі і больш поўна адлюстроўвае асаблівасці жывой беларускай мовы: и збирахоу бо их запирахоу 8 своих избахъ и зажигахоу. а др8гыи великыи храмы ѡчапы поднимахоу и хстѧне

*под* стѣн8 главами кладахоу и зажигахоу а иныи жоны и дѣти на колье тыкахоу (Віл., 445, 449б).

Рэлігійным помнікам гэтага часу, натуральна, таксама вядомы імперфект. Частыя гэтыя формы, напрыклад, у Чэцці 1489 г., дзе архаічная моўная стыхія выступае яшчэ амаль нароўні з уласна беларускай: мнози же народи прихожахоу к немоу (5); елини бо имѣꙗх8ть ю ꙗко богиню великоу и вси боꙗх8сѦ и кланѦхоусѦ еи (6б); та*м* ѡ*т* елинъ мнози хожахоу и крещахоусѦ (7б); давахоу чада своꙗ по всѦ дни (82).

Імперфект як самастойная форма прошлага часу ўласцівы і перакладным выданням Ф. Скарыны, царкоўнаславянскім у сваёй аснове: сеи имеаше две жене (ПЦ, 5); ѡбычай 8бо имеаху егда собирахусѦ вси овце, ѡ*т*валеваху камень и напоивши стада опѦть полагах8 и̓ надъ 8стиемъ кладезѦ (КБ, 52б); живѦху т8 летъ десеть (КР, 2б); пребывахуть 8 него по всѦ дни (ПЦ, 47).

Псалтыр сярэдзіны XVI ст., перакладзены з польскай мовы, з'яўляецца, па сутнасці, апошнім помнікам рэлігійнай пісьменнасці, дзе яшчэ зрэдку выкарыстоўваецца імперфект: скрежетахоу на мѦ зоубы своими (35б); на мѦ велемовѦх8 (40).

Не маючы падтрымкі з боку жывой мовы, імперфект, зразумела, не мог строга вытрымлівацца ў сваім першапачатковым граматычным значэнні. У пісьмовых тэкстах ён нярэдка выкарыстоўваецца ў значэнні ранейшага аорыста, абазначаючы дзеянне таксама мінулае, але не працяглае, а толькі аднаразовае: хотѣша совлечи его и не можах8 (Чэцця, 3б); др8гие же за власы волочах8 (там жа, 9); бы*с* ночь и не вѣдахоу коуда пойти (там жа, 94б).

Такое ўжыванне асабліва характэрна для выданняў Ф. Скарыны: Анна же плакаше и не ꙗдѦше (ПЦ, 6б); Гелий же жрець седѦше на кресле своемъ (там жа); Толико 8ста еѦ двизахусѦ и гласа никто же слышаху (там жа, 6).

Для Скарыны вельмі характэрна яшчэ адна асаблівасць ва ўжыванні імперфекта — выкарыстанне форм імперфекта 3-й асобы адзіночнага ліку ў значэнні аорыста 3-й асобы множнага ліку: оба клѦшесѦ т8 оу кладезѦ того (КБ, 38); навратишесѦ людие до становъ сво*их* (ПЦ, 10б); во днехъ тыхъ собрашесѦ филистымлѦне на брань (ПЦ, 10б); целуѦ единъ другаго плакашесѦ велми (там жа, 45б). Вельмі часта такія формы Скарына ўжывае побач з нармальнымі, правільнымі форма-

мі аорыста ў адных і тых жа сказах: Вси же мужи Ізраилевы ꙋтекоша и розбегошесѧ на своѧ места (ДЦ, 101б); бившисѧ с ними поразиша ихъ и гнашесѧ за ними (КС, 45); они же ꙋтекоша в пустыню и сокришесѧ (там жа, 45б); ꙋвериша людие и возрадовашесѧ о томъ (КВ, 11); Слышаша ꙗзыци и прогневашесѧ (там жа, 29б); бишесѧ филистымлѧне и поразиша людеи Ізраилевыхъ (ПЦ, 11б); наскочиша нань и бишесѧ с нимъ (ТЦ, 181). У такіх выпадках праяўляецца як бы своеасаблівая марфалагічная дысіміляцыя — імкненне пазбягаць аднастайных па вымаўленню канчаткаў. Такое імкненне лёгка ажыццяўлялася дзякуючы таму, што гэтыя формы не мелі апоры ў жывым ужыванні і таму дапускалі замену іх адна другой. Аднак наўрад ці можна бачыць тут свядомае імкненне разнастаіць моўныя сродкі. Тут, відаць, праявілася слабае веданне традыцыйнай граматыкі, што мае месца і ў іншых помніках: приехаше к немꙋ мнози кнзи и боꙗре (Акад., 178б); Вилневци же тогда не вдашесѧ емꙋ (там жа, 182).

У помніках другой палавіны XVI і пачатку XVII ст. імперфект фактычна адсутнічае, бо ў той час выкарыстанне сродкаў царкоўнаславянскай і старажытнарускай моў у беларускай пісьменнасці было зведзена да мінімуму. Імперфекта зусім не ведае Евангелле В. Цяпінскага. Там, дзе ў царкоўнаславянскім тэксце гэтага твора ўжыты імперфект, у Цяпінскага паслядоўна выступае перфект: дивлѧхꙋсѧ вси народи — дивилисѧ вси тижбы (16); весь народъ на помории стоꙗшѣ — всѧ тижба надˢ моремъ стоѧла (17); ꙗко пророка его имеꙗху — ꙗкъ пророка его мели (19б); Множайшии же народи постилаху ризы своꙗ по пути, друзии жѣ рѣзаху ветви ωт дрѣвъ, и посьтилаху по пути — А многие тижбы посьтілали одѣжи свои по дорозе, другие пакъ резали ветье з дерева и посьтилалі на дорозе (28б).

Толькі ў сярэдзіне XVII ст. формы імперфекта зрэдку трапляюцца ў рэлігійных помніках як даніна царкоўнаславянскай плыні, якая ў той час пачала зноў распаўсюджвацца ў беларускай пісьменнасці. Некалькі прыкладаў імперфекта дае Зборнік № 752: Архипъ хлѣба николи не вкушал ани вина пил толко былие варꙗше без соли (10б); ωн же шед плакашесꙗ горко и ꙋчителꙗ своего (26б); Людіе бо тогда возимахꙋ прах ωт гроба и мъного недугъ исцелевахꙋсꙗ (27). Аднак такія спарадычныя прыклады зусім не маюць значэння самастойнай граматычнай катэгорыі.

## Даўнамінулы час

Формы даўнамінулага часу, або плюсквамперфекта, вядомыя старажытнарускай мове з дапаможным дзеясловам *быти* ў форме імперфекта або аорыста, у старабеларускай пісьмовай мове не ўжываліся зусім. Тут на працягу ўсяго старажытнага перыяду выкарыстоўваўся даўнамінулы час новага ўтварэння, куды ўваходзіў дзеепрыметнік на *-л* і звязка *быти* ў форме перфекта. Пры гэтым дзеепрыметнік з асновай на зычны мог ужывацца ў адзіночным ліку мужчынскага роду без канцавога *-л*: *могъ, несъ, умеръ, утекъ* і г. д. Істотным адрозненнем старабеларускага даўнамінулага было таксама і тое, што дзеепрыметнік на *-л* у яго складзе ў множным ліку страціў адрозненне ў родах, тут пачала ўжывацца уніфікаваная форма мужчынскага роду на *-ли*.

У ранніх беларускіх помніках даўнамінулы час паслядоўна служыць для абазначэння дзеяння, якое адбылося раней за іншае мінулае дзеянне, выражанае ў другой частцы выказвання або вядомае з кантэксту. Звязка ў форме перфекта ў большасці выпадкаў захоўваецца ў 1-й і 2-й асобе пры адсутнасці фармальна выражанага дзейніка: положи*л* есми его у простирю которою ѡбвиноу*л* есми бы*л* его (Пак. Хр., 38); ѡвцю котороую есми бы*л* давно страти*л* нашо*л* есми (там жа, 12б); было тое, и*ж* е*с*ми в тебе тыи три копы грош*ей* былъ позычылъ, але есми тобе ихъ заплатилъ (КВЗС, 47б); ȣже есми бы*л* ȣмы*с*ли*л* ȣтѣкати з скитȣ (Зб. 752, 562б); велми замоутилисе есмо были коли искали есмо тебе (Пак. Хр., 36б); како живи есте которые неколи оумерли были есте (там жа, 32).

Звязка ў 1-й асобе звычайна адсутнічае пры наяўнасці асабовага займенніка ў ролі дзейніка: я в него пограбилъ былъ животину, и отдалъ есми ему опять (КСС, 118); ■ емȣ поле заставилъ былъ в сорокȣ грош*ех* (КВЗС, 29); тогъды ■ тотъ ме*д* поставилъ был ȣ погребе (там жа, 35б).

Даўнамінулы час служыў вельмі распаўсюджаным сродкам апавядальнай мовы, таму ў помніках ён практычна найбольш часта выступае ў форме 3-й асобы адзіночнага або множнага ліку. Паколькі звязка ў перфекце 3-й асобы здаўна не ўжывалася, то даўнамінулы час 3-й асобы выступае ў выглядзе спалучэння дапаможнага дзеяслова *быти* ў прошлым часе з дзеепрыметнікам на *-л*. Даўнамінулы час такой структуры вядомы ўсім

14. Зак. 668

помнікам старабеларускай мовы. Наяўнасць яго ў арыгінальных творах, у тым ліку і ў дзелавой пісьменнасці, звязана, несумненна, з існаваннем яго ў жывой народнай мове: здес поꙗвилосѦ было повѣтрие на люди (Гр. 1465); кнѦз великыи Ѧгаило дал былъ полтескъ брату своему (Віл., 439б); оуже оузꙗль быль половиноу Литовское земли (Увар., 20б); ѡбецали были мне дати р8бль грошей... и того не дали (КВЗС, 33б); менилъ то, же ем8 ѡ позве ведомость не дошла была (Ст. 1588, 185); собралисѦ м8жы латголове, которые были седели над берегомъ моремъ (Патр. П., 86б); ѡчи его затмѣлисꙗ были, не моглъ видѣть (Біблія, 304).

Формы даўномінулага часу вельмі распаўсюджаны ў перакладных свецкіх і рэлігійных творах XV—XVII стст. Тут у большасці выпадкаў ён ужываецца ў сваім першапачатковым асноўным значэнні — абазначае папярэдняе дзеянне ў адносінах да наступнага. Гэта наступнае дзеянне называецца ў першай або ў другой частцы выказвання і па часе проціпастаўляецца дзеянню, выражанаму плюсквамперфектам: такъ стомилъсе был на молитве ажь на нагах стоꙗти не моглъ (Пак. Хр., 6б); попоустит ѡно звѣрѦ которое был нанѦл (Валх., 43б); оусе што нс собою был принеслъ оубогим роздал (Жыц. Ал., 97б); заразом их вернул том8, который мнѣ их был позычил (Бельск., 304б); чинил такъ ꙗко ему росказал был царъ (Біблія, 371); сынъ мой сей оумеръ былъ и ожилъ, и згин8лъ былъ, и нашолсѦ (Каліст, 9); самˢ впалъ в т8ю ꙗм8, котор8ю былˢ выкопалˢ и в сѣть оувѦзъ, котор8ю былъ скрите наготовалъ (Варл., 234); книги свои которыи 8же был написал зillustrated нов8 преглꙗдал и поправовал (Зб. 752, 188); внеслъ теды Соломон все што был шлюбовал (Выкл., 84б); далъ ей тые ѡбразы, которие ѡна ему была дала (Зб. 81, 151б).

Побач са старым, асноўным значэннем даўномінулы час пачаў ужывацца і для абазначэння мінулага дзеяння, якое адбывалася пэўны час у мінулым незалежна ад адносін да папярэдняга ці наступнага дзеяння. У большасці выпадкаў такі даўномінулы мае значэнне ранейшага аорыста. Мабыць, пісцы ўкладвалі ў такі даўномінулы нейкае асобае адценне ў супрацьвагу звычайнаму перфекту, які гістарычна ўвабраў у сябе значэнне аорыста. Аднак з зафіксаваных у помніках прыкладаў выявіць такое асобае адценне практычна няма магчымасці: ꙗзык пред силною жалостію оуже был стратил оусю силоу говореніа (Пак. Хр., 11); люди так оу тых

местех мешкаючи над мероу злѦклисе были (Валх., 48б); страх великий был на всех припалъ (Біблія, 433); симеωнъ з великого розмыслу впалъ был в недовѣрство (Кн. Мак., 47); там ем8 была сподобаласѧ невеста своволна (Самсон, 25); всим людем был барзо ωмерзлъ (Хр. польск., 2); люде взѧли то собѣ были на з8бъ (Стрыйк., 610б); цноты свои апостолские влил был в него (Зб. 752, 493б); тростина ем8 в ногу была увѧзла (Пролаг, 488б).

Можна адзначыць і выпадак, калі форма даўномінулага часу абазначае дзеянне, якое з'яўляецца вынікам папярэдняга стану: по всем свѣте хлѣба не было, и голод стиснул был землю (Біблія, 101). Трапляюцца і такія выпадкі, калі ў абедзвюх частках складанага выказвання ўжываецца плюсквамперфект: кгды им былъ реклъ, же на свѣтѣ бѣды мѣти б8дете, затрвожилисѦ были апслωве (Каліст, 160б); не оумерла была, але толко д8хъ сѦ в ней был оутаил (там жа, 145б).

Нарэшце, зрэдку формы даўномінулага часу трапляюцца і ў канструкцыях з умоўным значэннем, дзе імі выражаецца дзеянне не рэальнае, а толькі пажаданае. Форма плюсквамперфекта суправаджаецца пры гэтым часціцай *бы* як паказчыкам умоўнасці: матка его ирина... змовиласѧ на нег з паны, ѧко бы его была з панства зопхнула (Бельск., 358). Плюсквамперфект ва ўмоўных канструкцыях рознага значэння асабліва часта выкарыстоўваецца ў Евангеллі Каліста 1616 г. Тут, з аднаго боку, трапляюцца выпадкі, калі ў першай частцы ўмоўнай канструкцыі выражаецца рэальна выканане дзеянне, ад якога стала магчымым дзеянне другой часткі выказвання: если бы не оувѣрили были, так рыхло не ωтмѣнилисѦ бы (95б); если бы шкоды были не поднѦли, не поткали бы и не просили бы его (29).

У іншых выпадках у першай частцы выказвання формай плюсквамперфекта выражаецца толькі такое магчымае дзеянне, пры выкананні якога магло б ажыццявіцца нейкае іншае дзеянне: если бы доскональ8ю были вѣр8 мѣли, оупевнены были бы, же не естъ речъ можнаѦ погин8ти имъ (137б); если бы о твою голов8 ω безроз8мный Ироде безст8днаѦ танечница тебе была просила, чи далъ бысь ей былъ свою голов8 (321б). У гэтым жа помніку трапляюцца і выпадкі, калі ў другой частцы канструкцыі плюсквамперфект выражае мэту дзеяння: мнѣ нѣкгды козлѦти не далесь, жебымъ сѦ былъ з то-

варишмн своими оувеселил (9б); южъ часъ былъ надшолъ, жебы собѣ поживенѧ были к8пили (45б).

Евангелле Каліста як гамілетычны твор на фоне іншых старабеларускіх помнікаў вылучаецца сваім маральна-дыдактычным зместам, разважаннямі філасофска-этычнага характару, выкладам дагматаў хрысціянскай маралі. Такі характар помніка выклікаў неабходнасць ужывання разнастайных дадатковых штучных сродкаў, якія не мелі адпаведнасці як у народнай мове, так і ў творах іншай накіраванасці.

У беларускіх помніках на працягу ўсяго старажытнага перыяду дапаможны дзеяслоў *быти* ў складзе даўномінулага часу паслядоўна ўжываецца ў спрагальнай форме, тады як у рускай мове звязка ў складзе даўномінулага часу вельмі рана ператварылася ў нязменную часціцу *было*, у сувязі з чым даўномінулы час перастаў ужывацца як самастойная форма прошлага часу.

У помніках XVII ст., пераважна перакладных, трапляюцца формы плюсквамперфекта новай структуры, невядомай пісьменнасці папярэдняга часу. Тут, як і ў сінтэтычных формах перфекта, дзеяслоўная звязка зліваецца ў адно слова з дзеепрыметнікам на *-л* або з іншым першым знамянальным словам фразы, што верагодней за ўсё звязваць з польскім уплывам: тоесмо имъ на писме выдат были росказали (Трыб., 2); ѧ ѡдчасти в нѣкоторыхъ часѣхъ ѡного стопнѧ дошолем былъ (Мак., 76); 8мыслилом был, абы тое дѣтѧ жадным ѡбычаемъ не было ховано (Алекс. XVII, 4); згин8лем былъ, а за твоимъ старанемъ найденый естемъ (Варл., 321—321б); зачимъ верн8лемсѧ вже былъ назад до дом8 (Дыяр., 150). З гэтым тыпам збліжаюцца і зусім рэдкія ўтварэнні накшталт Нашлихмо были скарбъ и знов8 зг8били (Мак., 261).

Падобныя ўтварэнні, іншамоўныя па паходжанню, былі здабыткам старабеларускай літаратурна-пісьмовай мовы і выйшлі з ужытку ў другой палавіне XVII ст., калі старабеларуская пісьмовая мова спыніла сваё існаванне, будучы выцесненай польскай мовай. Не замацаваўшыся ў народна-дыялектнай мове, яны, натуральна, не перайшлі ў новую беларускую літаратурную мову, якая пачала фарміравацца ў XIX ст. на народна-дыялектнай аснове.

Затое пашыраныя ў старабеларускай пісьменнасці формы даўномінулага часу з дапаможным дзеясловам *быти* і дзеепрыметнікам на *-л*, зазнаўшы толькі некато-

рыя фанетычныя змены, захоўваюцца і ў сучаснай беларускай мове.

Такім чынам, у старабеларускай пісьменнасці даўнамінулы час, або плюсквамперфект, выступаў як звычайная, самастойная форма прошлага часу, якая мела шырокі дыяпазон значэнняў. У гэтых адносінах старабеларуская пісьменнасць цесна збліжаецца са стараўкраінскай, але адрозніваецца ад старарускай, дзе плюсквамперфект рана пайшоў на спад і паступова выйшаў з ужытку. У параўнанні з перфектам формы плюсквамперфекта ў беларускай пісьменнасці ўжываліся значна радзей, што тлумачыцца ўмовамі кантэксту.

У структурных адносінах плюсквамперфект старабеларускай пісьменнасці не выяўляе якіх-небудзь нават самых нязначных дыялектных адрозненняў, што тлумачыцца, відаць, адноснай стабільнасцю норм пісьмовай мовы і нязначнымі дыялектнымі адрозненнямі ў гэтай дзеяслоўнай форме. Таму формы плюсквамперфекта не належаць да ліку рыс, якія могуць быць выкарыстаны пры вырашэнні пытання аб дыялектнай аснове старабеларускай літаратурна-пісьмовай мовы і аб тэрытарыяльнай прывязанасці кожнага канкрэтнага помніка.

У беларускай пісьменнасці старажытнага перыяду атрымалі пашырэнне своеасаблівыя формы прошлага часу, якія ў мовазнаўчай літаратуры прынята называць новым даўномінулым часам. Такія формы ўтвараліся ад так званых мнагакратных дзеясловаў, якія сваім лексічным зместам указваюць на паўтаральнасць дзеяння ў мінулым. Утвараліся яны ў асноўным ад беспрыставачных дзеясловаў пры дапамозе суфіксаў *-ива-* (*-ыва-*) і *-ва-* з пэўнымі фанетычнымі змяненнямі зычнага ў аснове і часам з чаргаваннем каранёвага галоснага. Такія формы, знешне падобныя на пазнейшы перфект без звязкі, атрымалі асабліва шырокае распаўсюджанне ў дзелавой пісьменнасці, дзе гаворка ідзе часцей за ўсё аб занятках людзей у мінулым. Гэтыя дзеясловы вядомы толькі з асновамі прошлага часу, у цяперашнім або будучым часе яны не ўжываліся: у адзіночным ліку *бирывалъ, даивалъ, ежчивалъ, кошивалъ, крадывалъ, мощивалъ, плачивалъ, робливалъ, служивалъ, хоживалъ*, у множным — *бирывали, боронивали, воживали, даивали, кормливали, мевали, посылывали, прихоживали, робливали, служивали, хоживали* і г. д.: с того села сомина хоживало на(м) чотыри колоды ѡ(в)са (Гр. 1499; УГ XV, 63); с косою ѡдною на роботѹ хоживал (КВЗС,

32б); сено завъжды тамъ на себе кошивал (там жа, 66б); до сих часовъ завъжды мы того боронивали (там жа, 24б); подводное сл8жбы николи не сл8жывали (там жа, 87); тые которые зъстародавна людми то робливали (Ст. 1588, 38).

Формы такога ўтварэння таксама ў вялікай колькасці адзначаюцца і ў іншых жанрах старабеларускай пісьменнасці — у свецкіх і рэлігійных, у арыгінальных і перакладных: вілію великаднѦ мѦсо едывали (Валх., 80); самъ и с моужми законными приимивали покормъ (Жыц. Ал., 97); мати делывала ему одежу малу (Скар. ПЦ, 8б); внегда туда часто ходивал, стоивал 8 нее ѧсти хлеба (Скар. ЧЦ, 190б); мимо хоживал оу п8стыни (Пс. XVI, 65б); чини так как чинивали цри гл8пыи (Арыст., 17б).

У помніках канца XVI і першай палавіны XVII ст. такія формы атрымалі асабліва шырокае распаўсюджанне. Акрамя пералічаных вышэй трапляюцца яшчэ формы адзіночнага ліку *делывалъ, едалъ, зыскивалъ, казывалъ, мевалъ, ношывалъ, пивалъ, стоивалъ, сыплѧлъ, сѣживалъ* і множнага — *волочивали, выгонивали, державали, едывали, жигали, зывали, игривали, кладывали, пивали, стоивали, чиневали, шивали* і інш.: дай дань которую твое продки даивали моимъ продкомъ (Трыстан, 10); люди тыи его, што за Велею посели, игрывали на трубах дубасных (Крас., 129); перед тым жигали тѣла мертвых на том мѣстци (там жа, 131); там тѣло ѡтца своего зъжог и конѦ его на котором еждчывалъ и шату его которую ношывалъ (Рач., 117); колко недел днепровое рыбы не ѧдали и воды не пивали длѧ великого гнюс8 (Барк., 139б); сонъ виделъ на горе, котор8ю зывали криваѧ (Патр. П., 93); богом нероз8мныи кланѧлисѧ и ѡфери им чиневали (Біблія, 31); никгды вина не мѣвал в 8стех своих (Бельск., 320); лоди и чолны з з8бровых ск8р дивне шивали (Стрыйк., 516б); з ним ѧдали и пивали вкупе цар и царица (Тр. гіст., 68б); был видѣный же там часто плакивал (Зб. 107, 165); мѧса и рыбъ николи не ѧдал, в плотенной с8кни хожывал (Зб. 255, 155).

Вельмі рэдка такія формы суправаджаюцца дзеясловам-звязкай, што фармальна як быццам указвае на іх структурную сувязь з перфектам, хоць перфектнага значэння тут не заўважаецца: Мнози 8бо не длѦ злости не позычивали с8ть (Скар. IC, 47); чим коли есми тебе те-

шивал (Арыст., 1б); ты еси великии добродейства чинивал (Зб. 752, 49).

Разгледжаныя формы новага даўномінулага часу зусім невядомы сучасным беларускім гаворкам і беларускай літаратурнай мове. Гэта дае падставу разглядаць іх як вынік унутранага развіцця граматычнага ладу старабеларускай літаратурнай мовы. Наяўнасць іх ва ўсіх жанрава-стылявых разнавіднасцях сведчыць аб цеснай узаемасувязі паміж імі.

## КАТЭГОРЫЯ ЛАДУ

### *Загадны лад*

У старабеларускай пісьменнасці, як і ў сучаснай беларускай мове, ужываліся сінтэтычныя формы загаднага ладу 2-й асобы адзіночнага ліку, 1-й асобы множнага ліку, 2-й асобы множнага ліку і апісальныя (аналітычныя) формы 3-й асобы абодвух лікаў. Формы загаднага ладу выкарыстоўваюцца неаднолькава ў асноўных жанрава-стылявых разнавіднасцях старабеларускай пісьмовай мовы. Загадны лад з'яўляецца спецыфічнай прыналежнасцю гутарковай мовы, дыялогу. Таму натуральна, што формы загаднага ладу найбольш часта адзначаюцца ў такіх помніках, у якіх выявілася імкненне дасканала перадаць мову субяседніка. У гэтых адносінах багаты і разнастайны матэрыял даюць летапісы, хронікі, хранографы, агіяграфічныя творы і біблейскія тэксты.

Затое форм загаднага ладу вельмі мала ў дзелавых матэрыялах, паколькі ў дзелавой пісьменнасці для выражэння волі звычайна выкарыстоўваўся інфінітыў або спецыяльныя звароты.

Па структуры выдзяляецца некалькі тыпаў форм загаднага ладу, якія вызначаюцца характарам асновы і месцам націску.

У гісторыі беларускай мовы самымі ўстойлівымі аказаліся формы загаднага ладу 2-й асобы адзіночнага ліку з асновай на адзін зычны і з націскам на канчатку. Формы тыпу *бери, заплати, иди, покажи, поможи, прикажи, приходи, стережи, ходи, чини* адзначаюцца ў помніках розных жанраў на працягу ўсяго старажытнага перыяду: оу кого купишь тому заплати (Гр. 1300); ѡсподарь татА тогѡ він8 свою бери (Судз. Каз., 203); далеи краю не ходи (Алекс. XV, 1); вложи меч свои оу ножница

(Пак. Хр., 6б); *ѡт* кроупъ стола твоего кормити прикажи (Жыц. Ал., 98); дороги праведны*х* стережи (Зб. 262, 94); такъ ми боже поможи (Ст. 1588, 122); ѡливы и вино посли слуга*м* твои*м* (Біблія, 413); иди злото до злота (Хр. польск., 8); не хоти такой сличности своей г8бити (Зб. 752, 179); поспѣшисѧ на ратунокъ мо*й* (Пс. XVII, 11б).

Разам з тым у пісьменнасці шырока выкарыстоўваюцца і архаічныя формы з ненаціскным канчаткам *-и*: *буди, види, избави, ѡбачи, ѡстави, плачи, поздорови, потеши, рачи, сѧди, удари, услыши* і інш. У ранніх беларускіх дзелавых дакументах яны, несумненна, адпавядалі жывому вымаўленню. Відаць, не без падтрымкі жывога формаўжывання выкарыстаны такія ўтварэнні ў творах Зборніка Залускага канца XV ст.— у Пакутах Хрыста і Жыцціі Аляксея, дзе ўжываюцца *буди, плачи, потеши, рачи*: здоровъ боуди мистроу (Пак. Хр., 6б); не плачи жоно не плачи ѡблюбеница (там жа, 12б); потеши маткоу смоутноую (там жа, 10б); бо*г* боуди свѣдокъ межи насъ (Жыц. Ал., 97).

У помніках XVI ст. формы з канцавым ненаціскным *-и* выступаюць як даніна царкоўнаславянскай традыцыі. Узорам такога ўжывання з'яўляюцца выданні Ф. Скарыны, дзе звычайнымі выступаюць *воздвижи, глаголи, избави, остави, остани, побуди, постави, разруши, удари, услыши*: не глаголи сего царю (ТЦ, 197б); избави насъ *ѡт* руку его (ЧЦ, 227); 8дари стрелою 8 землю (ЧЦ, 212).

У пазнейшых помніках XVI і XVII стст. такія формы выкарыстоўваліся як пэўны стылістычны сродак у малітвах, у зваротах да бога, да значных і важных асоб, надаючы выказванню адценне ўзнёсласці і ўрачыстасці. У такім значэнні асабліва часта ўжываецца форма *буди*: помочни*к* ми б8ди (Пс. XVI, 28); не б8ди м8дръ въ ѡчью свои*х* (Зб. 262, 94); милости*в* б8ди мнѣ грѣшному (Дыяр., 151); б8ди мне ѡбороною и вожемъ (Зб. 81, 238); б8ди ем8 помочъникъ и заступникъ, б8ди имъ надѣѦ к8 спасению, б8ди имъ пристанище тихое, б8ди имъ стѣна твердаѦ, б8ди имъ милостивъ (Зб. 82, 227б).

Урачыстае маленне, просьба, пажаданне выражаюцца таксама формамі *види, не забуди, избави, обачи, не остави, поздорови, уготови, ускроми, услыши*: види адонаю и смотри (Зб. 262, 111б); не заб8ди нищи*х* свои*х* (Пс. XVI, 14); Обачивъши тую причину, ѡбачи и иншие причины (Будны, 41); наклони 8ха твои а 8слыши (Біб-

лія, 507); 8готови мне гробъ (Зб. 752, 26б); не ѡстави мене раба своего (Зб. 82, 192); избави его ѡт злых навалностей (там жа, 350б).

Аднак у пісьменнасці гэтага часу пануючымі выступаюць формы без канцавога *-и* тыпу *будь, видь, встань, едь, збавъ, зглaдь, зезволь, лѦжъ, поедь, покинь, провадь, сѦдь,* якія ўзніклі ў выніку страты *-и* яшчэ ў старажытную эпоху. У помніках гэты працэс адлюстроўваецца параўнальна позна, у граматах новыя формы адзначаюцца толькі з пачатку XV ст.: хто хочеть поехати поедь (Гр. 1409). Затое ў помніках канца XV ст. прыкладаў такіх форм вельмі многа: ти ми боудь наставникъ (Чэцця, 5); видь девицю сию (там жа, 17); избавь мѦ ѡт меча сего (там жа, 92); покин тоую претѦжкоую жалость (Пак. Хр., 12); оустан возми ложѣ твое (там жа, 20б); поедь к Вилни тамо докончаемь (Увар., 10); боуд поздоровена мти моѦ (Алекс. XV, 1); ст8пи сѦдь т8тъ (Зб. 262, 33); избав мѦ ѡт чинѦчих злость (Пс. XVI, 58).

У пазнейшых помніках формы без канцавога *-и* сталі асноўнай нормай ва ўсіх жанрах старабеларускай пісьменнасці.

Па ўзору заканамерных форм без канцавога *-и* з націскам на аснове ў пісьменнасці пачалі ўжывацца і формы без *-и,* дзе першапачаткова быў, несумненна, націскны канчатак: *вкажъ, вложъ, вступъ, наклонь, осветь, отдаль, погледь, подь, положь, роздѣль, хваль, чинь:* што чиниш чинь бoрѫздей (Пак. Хр., 6б); рѣч лжив8ю ѡтдал ѡт мене (Зб. 262, 109); роздѣль молитву гсдню на колко частей (Будны, 179б); пане бог ти помож (Бава, 75); ѡтдаль казнь и помст8 (Карп., 48б—49); подможъ, а войдѣмо до ѡбозу сирийского (Біблія, 470); З дороги так далекои посил тѣло твое (Жыц. св., 49); вложъ во 8ста его слова мои (Зб. 752, 267).

У пашырэнні такіх форм несумненная роля належыць польскай мове, бо яны сустракаюцца пераважна ў перакладах з польскіх арыгіналаў. Форм без канцавога *-и* асабліва многа ў Псалтыры XVI ст., перакладзеным з польскай мовы: вкаж моць свою (11); вчин мѦ роз8мным (119); ѡтдаль ж ѡт мене проклѦтство (119); чинь доброе и живи на вѣк веков (38б); збавена мѦ оучинь (31).

Асобны тып утвараюць формы загаднага ладу ад дзеясловаў з асновай на два і больш зычных. Адны з іх ужываюцца з націскам на канцавым *-и,* які, натуральна,

захоўваецца і ў пісьменнасці. Але такіх форм выяўлена зусім нямнога: замкни двери за нею (Біблія, 378); помолчи а ꙗ б8д8 говорити (Зб. 262, 26б); потꙗгни мене за собою (там жа, 83); сожми молоко выйдет смѣтана (там жа, 109); стꙗгни на нег р8к8 твою (Бельск., 39); плачъ, фрас8йсꙗ и стогни (Мак., 14).

Трэба адзначыць, аднак, што вырашаць пытанне аб месцы націску ў такіх формах вельмі цяжка, бо ў рукапісных помніках націск звычайна не абазначаўся, а друкаваныя акцэнтаваныя кнігі часам змяшчаюць ненадзейныя звесткі. Таму меркаванні аб націску ў старабеларускай мове прыходзіцца рабіць зыходзячы з сучасных фактаў. Можна дапусціць, што жывому вымаўленню з націскам на аснове адпавядалі напісанні тыпу *воскресни, вспомни, замолкни, наполни, очисти, пастви, продолжи, счезни, умолкни.* Яны адзначаюцца ў помніках XVI—XVII стст.: выиди собѣ въ след ѡвець и пастви ꙗгнꙗта (Зб. 262, 83); на вспоможене мое вспомни (Пс. XVI, 70б); наполни рогъ твой ѡливою (Біблія, 325); до морꙗ мовꙗчи, оумолкни, оутишсꙗ (Каліст, 190б); продолжи милосердие твое (Пс. XVII, 5); Слезъ моихъ не замолкни (Мак., 227); грѣхи твои милостынꙗми ѡчисти (Варл., 126б); ты проклꙗтый зо всим счезни (Зб. 752, 17).

Аднак у пісьменнасці формы гэтага тыпу больш часта ўжываюцца без канцавога *-и: валчъ, вонтпъ, гардь, досвѣдчъ, замолчъ, молвъ, мысль, нагль, наполнь, освѣдчъ, очисть, патръ, поменшъ, помысль, предолжъ, розмысль, свѣдчъ, умилосердьсꙗ, уподобльсꙗ* і інш. Такія формы адзначаюцца ў помніках пачынаючы з канца XV ст. і да сярэдзіны XVII ст.: не мысль што мыслишь на земли (Чэцця, 50б); ѡчисть их ѡт немощеи (там жа, 103б); наполнь волю свою (Пак. Хр., 6б); не нагль д8хомъ своим (Зб. 262, 89б); хвалы моей не замолчь (Пс. XVI, 11б); очисьть впередъ внутрѣное в скленицы (Цяп., 32б); валчъ против ему (Біблія, 273); тепер 8же не вонтпъ (там жа, 595); понехай сварѡв и поменшъ грѣхѡв своихъ (Каліст, 31б); не свѣдчь фалшиве (Варл., 91); просим не гардь нами (Жыц. св., 108б); Патръ иж т8т росказано есть (Выкл., 49б).

Вытокам такіх форм з'яўляецца, відаць, польская мова, з якой яны або запазычваліся непасрэдна, або ствараліся па польскаму ўзору. На гэта ўказвае выкарыстанне іх у перакладах з польскай мовы і ўтварэнне

іх ад запазычаных польскіх лексем (*валчъ, вонтпъ, гардь, нагль, патръ*).

Асобны тып утвараюць формы загаднага ладу, у склад якіх уваходзіць прыстаўка *вы-*. У формах загаднага ладу яна перацягвае на сябе націск, у сувязі з чым канцавы галосны *-и* ў формах з адным зычным у вымаўленні страчваецца. Гэта часткова адлюстроўваецца ў пісьменнасці, хоць тут нярэдка захоўваюцца і традыцыйныя пісьмовыя формы з *-и*: *выбави—выбавъ, выбери—выберъ, выведи—выведь, вызволи—вызволь* і г. д.: выбери со всих людей м8жей м8дрыхъ (Скар. КВ, 35б) — выбер собѣ молодых (Алекс. XVII, 74б); вечнаго пекла вызволи дш8 твою (Зб. 752, 91) — притѧгни борздо а вызволь нас (Біблія, 24б). Аднак формы без канцавога *-и* практычна пераважаюць, у помніках іх колькасць дапаўняецца ўтварэннямі тыпу *выгонь, выложъ, выжень, вынесь, выпаль, выпровадь, выстрель, вытешъ*.

Некалькі іншы малюнак назіраецца ў формах з асновай на два і больш зычных. Тут пераважаюць формы з канцавым *-и* тыпу *выпусти, выполни, вырви, выписѦ, выторгни, вытѧгни:* борабоу выпусти нам (Пак. Хр., 9б); иди и выписѦ (Скар. ПЦ, 6); вырви меч твои из р8к неприѦтел твоих (Пс. XVI, 8); мою т8ю прозб8 выполни (Варл., 277); вытѧгни р8к8 (Выкл., 90б).

У гісторыі беларускай мовы адносна ўстойлівымі аказаліся формы загаднага ладу з асновай на *-й(-j)*. У старажытнасці яны мелі ў канцы складовы гук *-и*, і формы выступалі ў выглядзе *бѣгаи, пии, ховаи*. Пазней, у эпоху ўтварэння мовы беларускай народнасці, канцавы *-и* ў вымаўленні змяніўся на *-й*, але на пісьме гэта спачатку спецыяльна не абазначалася: не боисе ничого (Пак. Хр., 2); ми ногы оумыи (там жа, 5); не вѣр8и томоу (Віл., 439б); болше брате не терѦи земли литовское (там жа, 448). У пазнейшых рукапісных помніках такое *-й* перадавалася значком ˢ, а ў друкаваных кнігах пачалі ўжываць літару *й*: брате милыˢ зъеднаˢ насъ (Рач., 125); не вер8ˢ том8 (Патр. П., 96); заховаˢ насъ ѡт гнѣв8 своего (Хр. польск., 4б); ты стоˢ тут со мною (Бельск., 48); брате, ратуˢ мене тепер (Стрыйк., 585б); 8мыˢ ноги свои (Біблія, 373); роздай маетность свою оубогимъ (Каліст, 74); не хотѣй ѡ том занедбат (Варл., 40).

З форм загаднага ладу з асновай на *-й* па свайму гістарычнаму развіццю выдзяляюцца формы ад дзея-

словаў *біти, лити, пити.* У старажытнарускай мове яны ўжываліся з канчаткам *-и: бии, лии, пии.* У беларускай мове ў формах *бии, лии, пии* карэнны гук *и* сцягнуўся з канчаткам *-и* ў адзін гук *и,* у выніку чаго атрымаліся формы *би, пи, ли.* Аднак у пісьменнасці на працягу ўсяго старажытнага перыяду асноўнай нормай былі формы з канцавым *-и,* які ў ранніх помніках перадаваўся літарай *и,* у скарапісных тэкстах — значком $^{s}$, а ў друкаваных творах — літарай *й*: *бии—би*$^{s}$*—бий* (вытв. *добий, забий, набий, побий, убий*), *лий* (вытв. *вылий, налий, полий, пролий, розлий*), *пий* (*выпий*): піи водȣ ѡт колодѧзѧ своего (Зб. 262, 95б); Возбуди ꙗрость и вылии гневъ (Скар. ІС, 38); боже мѧ ȣбий (Ст. 1588, 122); не пий того трȣнку (Алекс. XVII, 14); иди забий его (Біблія, 409); налий в рог елеꙗ (Бельск., 96); пий же со мною кȣмȣз кобылий (Стрыйк., 500); не ȣбій, не чȣжолож, не крадь (Варл., 91); вылий гнѣвъ твой на поганы (Пс. XVII, 72).

Аповесць аб Трыстане канца XVI ст. з'яўляецца, бадай, адзіным помнікам старабеларускай пісьменнасці, дзе формы гэтага тыпу ў адпаведнасці з жывым вымаўленнем ужываюцца без канцавога *-и*: би чоломъ королю (9б); бисѧ еще мечом (56); пане не заби трыщана, але заби мене (9); не пи того питꙗ (6); выпи тот кубок (11); коли сѧ ѡни ѡба напьют проли ѡстанок (35).

Формы загаднага ладу 1-й асобы множнага ліку ў старабеларускай мове ўжываліся ў трох варыянтах, неаднолькавых па колькасці і жанраваму размеркаванню. Храналагічна найбольш раннім выступае тып з канцавым *-мъ,* прычым перад ім ужываўся тэматычны галосны *е(ѣ)* або *и,* як і ў абвесным ладзе. Такія формы адзначаюцца ў беларускіх граматах і некаторых іншых помніках: мы готови, поедимъ (Гр. пач. XIV ст. РЛА, № 49); станемъ дей у Городке (КСД, 1510); ступмо и смесим тамъ ꙗзыкъ ихъ (Скар. КП, 23); Побȣрим ихъ посполу (Пс. XVII, 57); пойди, прошу, вступим до мѣста иевȣса (Біблія, 287); пойдемъ ȣпадемъ до ног Аврамиꙗ (Зб. 752, 89).

У старабеларускіх помніках сустракаюцца і формы не толькі з захаваннем ранейшага *ѣ* перад *-мъ,* але і формы з *ѣ* перад *-мъ* на месцы ранейшага *-и*: *вернѣмсꙗ, веселѣмсꙗ, воротѣмсꙗ, вчинѣмъ, зступѣмъ, накормѣмъ, посмотрѣмъ, похвалѣмъ, приходѣмъ, пустѣмъ, учинѣмъ* і інш. Асабліва многа такіх утварэнняў у Чэцці 1489: ныне же мы поустѣмъ рѣки (10б); не минѣмъ голодного,

накормѣмъ (19); хвалѣм братиѧ нашю надежю (48б); въкрасѣмсѧ добрыми дѣлы (50); посмотрѣмъ здѣшних вельможь (52). Зрэдку формы гэтага ўтварэння выкарыстоўваюцца і ў помніках XVII ст.: воротѣмсѧ до своей земли (Алекс. XVII, 24); стережѣм же той ласки (Каліст, 290б); вернѣмъсѧ до литвы, бо тут згинем (Дыяр., 151).

Аднак у старабеларускай пісьменнасці ў формах загаднага ладу 1-й асобы множнага ліку шырокае распаўсюджанне атрымаў канчатак *-мо*. Гэты канчатак асабліва распаўсюдзіўся на формы, якія ў 2-й асобе адзіночнага ліку канчаліся на зычны або *-й*: *биймо, будьмо, вкиньмо, встаньмо, вѣрмо, воюймо, даймо, дѧкꙋймо, едьмо, ежмо, забиймо, мѣймо, мовмо, ѡгледаймо, ѡставмо, ѡферуймо, ѡчистьмо, подьмо, поедьмо, слухаймо, станьмо, стоймо, удармо, упоймо, целуймо* і г. д. Чэцця 1489 г. з'яўляецца, па сутнасці, першым беларускім пісьмовым помнікам, дзе такія формы маюць значэнне варыянтнай нормы. Тут адзначаюцца, напрыклад, утварэнні *будьмо, вдал ймосѧ, возвеличьмо, даймо, имѣимо, одѣньмо, празнꙋймо, проклинаймо, станьмо, целоуймо* і інш.

Некалькі нечаканым з'яўляецца выкарыстанне канчатка *-мо* ў перакладах Ф. Скарыны, у мове якога распаўсюджаны формы *биймо, воюймо, не загублѧймо, подьмо, ноставмо, ступмо, удармо, уделаймо, упоймо* і інш.: не загꙋблѧимо души его и не пролеваймо крови брата своего (КБ, 68б); оудармо на филистымлѧнъ ꙋ ночи и биймо ихъ (ПЦ, 29б); ꙋделаймо ꙋ насъ комору малу, и поставмо ему в ней ложе (ЧЦ, 190б). Формы загаднага ладу на *-мо* здаўна адсутнічалі ў паўночнаўсходніх гаворках Беларусі, прадстаўніком якіх быў Ф. Скарына. Таму можна дапусціць, што яму былі вядомы паўднёвабеларускія і ўкраінскія формы на *-мо*, і ён выкарыстаў іх як эквівалент заходнеславянскіх форм на *-my*.

У далейшым формы на *-мо* ўсё больш пашыраліся ў беларускай пісьменнасці, прычым яны пачалі ўжывацца і ад дзеясловаў з асновай на галосны: *войдѣмо, держѣмо, идѣмо, кормѣмо, любѣмо, озмѣмо, пойдѣмо, помнѣмо, терпѣмо, учинѣмо, хвалѣмо, ходѣмо, чтѣмо* і інш. У сукупнасці з формамі на *-мо* ад дзеясловаў, якія ў загадным ладзе 2-й асобы адзіночнага ліку маюць канцавы зычны або *-й*, такія формы ўтвараюць ярка выражаную пісьмовую норму ў помніках канца XVI і ўсяго

XVII ст.: нарадимосѧ поедьмо завтра по зоры (Трыстан, 7); длѧ покоры на том мѣймо досыт (Каз. Кір., 140б); ѡпȣстимо тȣю роспачъ, пристȣпимо до хрестиѧньское едности, познаймо грехъ нашъ (Бер. саб., 51); пойдимо начинимо цѣглы и выпалмо ей ѡгнем (Біблія, 29); ȣчестуймо его и ȣвеселимосѧ з ним (Бельск., 332); встанмо а подмо против неприѧтелем нашим (Кн. Мак., 58); выйдѣмо и проходѣмосѧ по мѣстѣ (Варл., 136б); вси радȣймосѧ вси сѧ веселимо, вси сѧ сегоднѧ тѣшмо (Жыц. св., 118); поидѣмо жъ ѡфѣрȣимо имъ (Зб. 81, 79); подмо а вытратмо их з народȣ людского (Пс. XVII, 77б); встанмо а ѡгледаймо твоего господарства (Зб. 82, 291б).

Асабліва многа такіх форм у Евангеллі Каліста 1616 г., што звязана са зместам помніка. Прызначэнне гэтага гамілетычнага твора заключаецца ў закліку чытачоў да маральнага ўдасканальвання, засваення хрысціянскіх дагматаў, і лепшым сродкам для гэтага аказаліся формы загаднага ладу 1-й асобы множнага ліку, якімі аўтар у лік выканаўцаў адпаведных дзеянняў уключае сябе і сваіх чытачоў: Один дрȣгомȣ бѣды и долегливости носити помагаймо, богатыи оубогихъ спомагаймо, здоровыи хорих навѣжаймо, волныи неволникѡвъ освобожаймо (43б); Притомъ, братіе, не оупиваймосѧ, не обжираймóсѧ, не лихвмо, не забиваймо, не крадмо, не свѣдчмо фалшиве, не чȣжоложмо, а нѣ поглѧдаймо пожадливе и без встыдȣ на чȣжȣю сличность (73); Прошȣ васъ прето братіе, очȣтѣмосѧ и чȣймо, отрезвѣмосѧ и оусилȣймо, а дȣшȣ ѡт злыхъ пожадливостій очистмо (232б—233); Милȣймо, братіе, оубогихъ, не перезираймо оукривженыхъ, чȣжого дѡбра не драпѣжмо, не кривдмо нѣкого, слѡвъ порожних не пріймȣймо (286).

На працягу ўсяго старажытнага перыяду ў пісьменнасці ўжываліся і формы загаднага ладу 1-й асобы множнага ліку з канчаткам *-мы*. Упершыню яны адзначаюцца ў апакрыфічных творах Пакуты Хрыста і Аповесць аб трох каралях-валхвах: дѧкоуймы емоу с тако великое доброты (Пак. Хр., 16); ѡтпоустимы ѡдно слово к собе говорити (там жа, 20); пошлемы его на ѡстров (там жа, 23); радоуймы се и веселимы сѧ оуси (там жа, 33); поидимы по ѡдъпоусты (Валх., 73б). Формы на *-мы* выкарыстоўваў таксама Скарына ў сваіх перакладах, дзе сустракаюцца, напрыклад, *верьмы, встаньмы, жадаймы, каймысѧ, наделаймы, оставмы, подьмы, поедь-*

*мы, пожремы, послушаймы, розошлемы, учинимы, хвальмы, чтемы.*

Формы гэтага тыпу адзначаюцца і ў пазнейшых помніках, амаль выключна ў перакладах з польскай мовы, што пралівае святло на іх польскае паходжанне: ховаймы города костела (Бава, 79); ȣпоймы прето ωтца нашего виномъ (Біблія, 48); шȣкаймы ωт бога вспоможенѧ (Алекс. XVII, 13б); ȣмремы мужне за братю нашу (Кн. Мак., 58); зараз его пред дрȣгими потоплѧймы (Зб. 255, 20б); трваймы до конца (Зб. 752, 233б); помешаймы там ѧзыки (Выкл., 3). У арыгінальных старабеларускіх помніках такія формы адлюстраваны адзінкавымі прыкладамі: ωпустивши старие казни, новоую паметуймы (Будны, 15); ωбачмы, ωткуле тое мнинанье взАли (там жа, 31); ωбачмы *ж* тут в костелѣ римскомъ (Дыяр., 165). У цэлым жа формы загаднага ладу на *-мы* распаўсюджаны значна менш, чым іх адпаведнікі на *-мо.*

Формы загаднага ладу 2-й асобы множнага ліку ў помніках старабеларускай мовы адзначаюцца двух тыпаў — з націскам на канчатку і на аснове. Да першага тыпу адносяцца формы, якія ўтвараліся ад форм адзіночнага ліку пры дапамозе паказчыка множнага ліку аглюцінатыўнага фарманта *-те.* У старажытнасці, як вядома, у формах загаднага ладу ад дзеясловаў I спражэння паміж асновай формы і фармантам *-те* выступаў тэматычны галосны ѣ, ад дзеясловаў II спражэння — тэматычны галосны *и (берѣте, идѣте, несѣте* і *пустите, ходите, чините).* У беларускіх гаворках, аднак, адбылася уніфікацыя гэтых канчаткаў, прычым у паўночна-ўсходніх гаворках перавагу атрымаў канчатак *-ите,* а ў паўднёва-заходніх—*-ѣте.* Неаднолькавае развіццё гэтых форм у жывой беларускай мове абумовіла іх значную стракатасць і няўстойлівасць у пісьменнасці. Для помнікаў ранняга перыяду больш характэрнымі з'яўляюцца формы на *-ите*: возмите его вы а подлоуг законоу вашого соудите его (Пак. Хр., 19б); оуведите петра сѣмо (там жа, 7); спите оуже ωтпочивайте (там жа, 5б); вернитесѦ дочки мои (Зб. 262, 31); не зовите мене надами, зовите мене горькою (там жа, 31б); поидите кормитесѦ хлѣбом моим (там жа, 97б).

Формы такога ўтварэння пераважаюць і ў выданнях Скарыны, што можа мець дваякае тлумачэнне. З аднаго боку, дапушчальным можна лічыць, што тут адлюстраваліся асаблівасці роднай гаворкі перакладчыка. З дру-

гога боку, неабходна ўлічваць і агульную эвалюцыю царкоўнаславянскай мовы ўсходнеславянскай рэдакцыі, дзе спрадвечныя формы на *-ѣте* былі выцеснены формамі на *-ите*. Як бы ні тлумачыць паходжанне такіх форм у выданнях Ф. Скарыны, прыходзіцца канстатаваць, што ўтварэнні тыпу *возмите, запрѦжите, идите, изведите, наберите, пождите, поидите, приимите, принесите, рците* яўна пераважаюць над формамі на *-ѣте:* возмите четыри ведра воды (ТЦ, 171); идите и принесите жертву богȣ вашемȣ (КВ, 17б); наберите собѣ стравы на путь далекий (IН, 19б); пождите тȣ (ПЦ, 27б).

У перакладзе В. Цяпінскага Евангелля на беларускую мову царкоўнаславянскім формам на *-ѣте* пасля-доўна адпавядаюць утварэнні на *-ите:* Возмѣте иго мое на себе — Возмите ермо мое на себе (15); идѣтѣ и вы въ виноградъ мой — идите и вы до винницы моее (27). Такія формы ўжываюцца і ў іншых помніках XVI—XVII стст.: возмите собѣ господаре*м* кого волѦ ваша буде*т* (Рач., 19); прикажите краты желѣзныи справи*т* (Алекс. XVII, 5); идите а накȣпите на*м* живно*с*ти (Бельск., 30б); принесите мнѣ судинȣ новую а вложите в неи соли (Біблія, 458); идите по все*м* мѣсте а *с*пишите пано*в* мои*х* (Жыц. св., 93); покажыте ми монетȣ ци*н*шовую (Зб. 255, 115б); зберите пе*р*ве*й* куколи и свѧжыте его в снопы (Зб. 752, 467б); возмите ѡфѣри, а входите до палацо*в* его (Пс. XVII, 99); за*м*кните це*р*ко*в* з ѡбо*х* сторо*н* (Зб. 82, 292).

Але ў пісьменнасці гэтага часу шырока выкарыстоўваюцца і формы на *-ѣте*. Пры гэтым такія формы ў большасці ўжываюцца ў помніках, дзе няма форм на *-ите*, хоць трапляюцца і тэксты, дзе абодва тыпы ўжываюцца паралельна. Чэцця 1489 г. дае многа прыкладаў новых форм на *-ѣте* замест ранейшых на *-ите*: не говорѣте вы сего (139б); навчѣтесѦ разȣмѣти (21); поидѣте поищѣте ег (4б); не положѣте мѦ вмѣсте со даміано*м* (67б); ѡ оци мое*м* не скорбѣте (85); гдѣ его наидете и мнѣ ѧвѣте (122). У некаторых помніках канца XV і першай палавіны XVI ст. у формах гэтага тыпу нярэдка ў адпаведнасці з жывым беларускім вымаўленнем пішацца *-ете:* возмете кнѦжата ворота ваша (Пак. Хр., 26б); ѧвно на*м* писмо розечтете (там жа, 33б); вернетесѦ дочки мои (Зб. 262, 31); панове мещане по*й*дете с це*р*кви вонъ (КВЗС, 41); ѡзмете ѡѳѦры а входете оу дво*р* его (Пс. XVI, 97); Не оучете сами ѡ*т* себе (Будны, 53).

З канца XVI ст. колькасць форм загаднага ладу з

арфаграфічным варыянтам *-ѣте* прыкметна павялічваецца не толькі за кошт узнаўлення ў пісьменнасці спрадвечных форм на *-ѣте,* але і ўжывання гэтага канчатка на месцы ранейшага *-ите*: зберѣте перше плевелы и звѧжѣте их в снопы (Каз. Кір., 20); ѡтворѣте браны мѣсткии (Алекс. XVII, 10б); Не чинѣте неправости в сꙋде (Навука, 108); идѣте а ѡглѧдѣте землю и мѣсто ерихон (Біблія, 233); вернѣте нам иѡана принесѣте тут тѣло его (Бельск., 310); чинѣте, што сѧ вамъ подобаетъ (Варл., 196б); хвалѣте имѧ его (Пс. XVII, 103); ўчинѣте мнѣ тую ласкꙋ (Зб. 82, 320); вы мнѣ того не боронѣте (Зб. 82, 263).

Адсутнасць строгай унармаванасці ва ўжыванні гэтых форм выяўляецца ў тых выпадках, калі адна і тая ж форма ў адным і тым жа помніку ўжываецца з абодвума канчаткамі: вернитесѧ дочки мои (Зб. 262, 31) — вернетесѧ дочки мои (там жа); панове мещане пойдите с церкви вонъ (КВЗС, 52б) — панове мещане пойдете с церкви вонъ (там жа, 41); идите а купѣте трохи нам пшеницы (Біблія, 98) — идѣте а розглѧдѣте землю (там жа, 240); чините з ним што хочете (Бельск., 139б) — ꙋбогим кривды не чинѣте (там жа, 328б).

З усіх помнікаў XVII ст. вылучаецца толькі Евангелле Каліста 1616 г., дзе формы на *-ѣте* выступаюць адзінай нормай: *возмѣте, вспомѧнѣте, входѣте, идѣте, ищѣте, заколѣте, зносѣте, отступѣте, приведѣте, пустѣте, стережѣте, ходѣте, чинѣте* і інш.

Формы загаднага ладу 2-й асобы множнага ліку з націскам на аснове выяўляюць поўную залежнасць ад адпаведных форм адзіночнага ліку і адрозніваюцца ад такіх толькі аглюцінатыўным афіксам *-те: бачте, бийте, будьте, видьте, вонтпте, вчиньте, выберте, выведьте, вызвольте, выложте, вынесьте, вытратьте, дайте, ежте, забудьте, не кривдьте, наполньте, обачте, отдальте, плачте, подьте, поставте, сѧдьте, услыште, устаньте* і інш.

Такія формы, як і іх адпаведнікі адзіночнага ліку, шырока адлюстроўваюцца ў помніках канца XV ст.: не ѡбидьте сихъ малых (Чэцця, 70б); послышьте и навчѣтесѧ разꙋмѣти (там жа, 20б); поставте емоу хижицоу (там жа, 149б); иною смертью мене оумоучте (Пак. Хр., 11б); оустанте а есте хлѣбъ (там жа, 38); плачте со мною оуси (Жыц. Ал., 99).

Формы такога ўтварэння вельмі распаўсюджаны ў выданнях Ф. Скарыны, і па гэтай асаблівасці мова яго кніг значна аддаляецца ад царкоўнаславянскай. Для

Скарыны звычайнымі з'яўляюцца формы *будьте, видьте, вопте, встаньте, выскочте, гледте, ежте, кричте, множтесѧ, насыпте, обидте, оставте, отступте, плачтесѧ, подьте, поправте, приедьте, сложте, слыште, чиньте:* будте жъ готови ко дню третиему (КВ, 36б); вопте вже и кричте (ІН, 13); ѡтедьте ѡтстȣпте и ѡтлучитесѧ ѡт амалеха (ПЦ, 31); насыпте до нѣго соли (ЧЦ, 187б); приедьте ко мне (КБ, 84); сѣ нынѣ сложте окрасу свою (КВ, 63); слыште сиѧ люди вси (ТЦ, 180б).

У пазнейшай беларускай пісьменнасці формы загаднага ладу 2-й асобы множнага ліку з націскам на аснове паслядоўна ўтвараюцца ад адпаведных форм адзіночнага ліку шляхам далучэння афікса *-те* і якіх-небудзь адступленняў ад гэтага правіла не выяўляюць.

Формы загаднага ладу 3-й асобы адзіночнага і множнага ліку здаўна ўтвараліся апісальна шляхам спалучэння спецыяльнай загаднай часціцы з асноўным дзеясловам цяперашняга ці будучага часу ў адпаведным ліку. Асноўны дзеяслоў у складзе загаднага ладу прайшоў усе тыя стадыі развіцця, што і ў цяперашнім або будучым часе. Спецыфіку ж апісальным формам загаднага ладу надаюць іменна загадныя часціцы, якія былі неаднолькавыя ў розныя перыяды гісторыі беларускай мовы.

У старажытнарускай мове найбольш пашыраны былі формы загаднага ладу 3-й асобы з загаднай часціцай *да,* якая мае агульнаславянскае паходжанне: И еже помыслить от страны руския разрушити таку любовь... да не имуть помощи от бога ни от Перуна да не ущитятся щиты своими, и да посѣчени будуть мечи своими от стрѣлъ и от оружья своего и да будуть раби въ вѣкъ в будущий (Лаўр., 75).

У беларускай пісьмовай мове ранняга перыяду таксама ўжываліся формы загаднага ладу з часціцай *да:* соудить емоу стая трца да будеть проклятъ (Гр. 1399); въ томъ нашъ миръ да не рушыться (Гр. 1442; АЗР, I, № 40); да падоут идоли ваши на землю (Чэцця, 64б); да боудет тобе вѣрное потешеніе (Пак. Хр., 12б); да боудеть ꙗко нечестивый врагъ мой (Зб. 262, 23).

Формы загаднага ладу з часціцай *да* з'яўляюцца амаль адзінымі і ў выданнях Ф. Скарыны. Яны належаць да ліку самых яркіх рыс царкоўнаславянскай асновы яго кніг: раби мои да будуть с ними и да помагають имъ (ТЦ, 132); слуга разумный да будеть тобѣ милъ (ІС, 19); всадите мужа на конь да едеть противу

имъ (ЧЦ, 203б); вземши то да идуть прочь (ПЦ, 63); страхъ твои да не страшить мене (КІ, 18б); да ꙋтишитсѦ гневъ твои над нами (КЮ, 5); да не хвалитсѦ силный силою своею (ПЦ, 7б).

Старажытнаруская пісьмовая традыцыя знайшла сваё адлюстраванне ва ўжыванні ў складзе загаднага ладу часціцы *ать,* самыя раннія выпадкі выкарыстання якой адзначаюцца ў юрыдычных помніках: аже самъ хочеть, ать едеть (Гр. 1229; СГ, 25); ать стоить старыи миръ твердо (Гр. 1300).

Пазней гэта часціца ў цвёрдым варыянце *атъ* адзначаецца ў Чэцці 1489 г. і ў Псалтыры XVI ст.: атъ возмоут свечи горѦщии (Чэцця, 17б); иных крещаю во имѦ твое, атъ вѣроуют тобѣ (там жа, 126б); атъ боудꙋт вспач ѡбернены и поганбеты мыслѦчие мнѣ зле (Пс. XVI, 35); наполнь лица их сромоты, атъ бꙋдоут искати имени твоего (там жа, 85б); атъ прійдет на мѦ млсрдье твое (там жа, 119б). Параўнанне беларускага тэксту Псалтыра з адпаведнымі месцамі царкоўнаславянскага і польскага псалтыроў паказвае адрозненне іх. Напрыклад, выразу беларускага тэксту «атъ пріимꙋт горы покой» у царкоўнаславянскім Псалтыры адпавядае «да воспримꙋть горы миръ», а ў польскім — «Niechay przyimą gory pokój». Гэта параўнанне паказвае, што ў беларускім тэксце Псалтыра выкарыстанне часціцы *атъ* не было вынікам уздзеяння іншамоўных стыхій.

Для беларускай пісьменнасці пачынаючы з сярэдзіны XV ст. асноўным сродкам выражэння апісальных форм загаднага ладу 3-й асобы адзіночнага і множнага ліку стала часціца *нехай.* Яна мае заходнеславянскае паходжанне і з'яўляецца формай загаднага ладу ад дзеяслова *нехати* ў значэнні «дазволіць, дапусціць».

Новая часціца *нехай* упершыню адзначаецца ў Грамаце літоўскага князя Альгерда 1342 г.: Нехай онъ тыи вси вышеписаныи земли и сѣножати и гай и прудъ держитъ (УГ, XIV, 25). Асабліва часта ў дзелавой пісьменнасці формы загаднага ладу з гэтай часціцай трапляюцца з сярэдзіны XV ст.: Нехай они намъ по тому служать, какъ изъ своее отчизны (Гр. 1448; АЛМ, І, № 11); нехай они тую помочь къ нашой потребизнѣ, коли мы ихъ пожадаемъ, кладуть (Гр. 1456; АЗР, І, 72).

У канцы XV ст. гэта часціца пачала замацоўвацца і ў рэлігійнай пісьменнасці, дзе асабліва распаўсюдзілася ў першай палавіне XVI ст.: которогонь коли поцелоую того нехаи зымають (Пак. Хр., 1); ѡны нехай держат

хор[уг]ви (там жа, 17б); межи снопы нехаи збираеть (Зб. 262, 32); нехай б8де доконана злость грешны*х* (Пс. XVI, 11); нехаи тобѣ пошле помо*ч* (там жа, 21б); нехаи боуде дво*р* и*х* поустъ (там жа, 97).

Толькі гэту часціцу паслядоўна ўжывае В. Цяпінскі ў адпаведнасці з часціцай *да* царкоўнаславянскага тэксту: да просвѣтитьсѦ свѣтъ ваш — нехаи светить светло ваше (6); да будеть волѦ твоѦ — нехай б8де*т* волѦ твоѦ (7б); да не 8весть — нехаи не ведае*т* (7б). У пазнейшых помніках усіх жанрава-стылявых разнавіднасцей ужываецца толькі часціца *нехай*.

У позніх помніках адзначаецца некалькі выпадкаў ужывання гэтай часціцы ў выглядзе *нехъ*, якая з'яўляецца запазычаннем польскага niech: нехъ зостава вечна че*ст* (Еўл., 1); не*х* му то ѡ*т*да па*н* в о*н* де*н* (там жа, 23); нехъ же читаютъ книжки своего власного патріарха (Гарм., 178); если хто мнимае*т* ѡ собѣ же е*ст* мудры*м* на се*м* свѣте, не*х* б8де*т* д8рны*м* (Зб. 107, 118б).

Шырокаўжывальная ў сучаснай беларускай мове загадная часціца *хай* у помніках старабеларускай пісьменнасці не фіксуецца зусім.

## *Умоўны лад*

У ранніх помніках з рысамі беларускай мовы ўмоўны лад утвараўся, як і ў старажытнарускай мове, шляхам спалучэння дзеепрыметніка на *-л* з формамі аорыста дапаможнага дзеяслова *быти*. Правільнае выкарыстанне форм умоўнага ладу захоўваецца, напрыклад, у розных спісах Смаленскай граматы 1229 г.: аж бы миръ не ръздроушенъ былъ (СГ, 21); на томь мироу аж бы миръ твьрдъ былъ (там жа); ажь быхомъ то тако оучинили (СГ, 26); а быша сѦ не забыли (СГ, 75).

Пазнейшае выкарыстанне форм умоўнага ладу ў пісьменнасці значна ўскладнілася, што выклікалася рознымі прычынамі: адлюстраваннем фанетыка-марфалагічных працэсаў, што адбываліся ў народна-дыялектнай мове, захаваннем старажытных традыцыйных форм, выпрацоўкай у пісьмовай мове спецыфічных сродкаў у выніку яе ўнутранага развіцця і, нарэшце, уплывам польскай мовы. Дзеянне гэтых фактараў праяўлялася неаднолькава ў асобных жанрах, у выніку чаго агульны стан форм умоўнага ладу выглядае вельмі стракката. Дзеепрыметнік у складзе ўмоўнага ладу падвергся ўсім тым зменам, што адбываліся з ім у формах перфекта і плюс-

квамперфекта. Дзеепрыметнікі з асновай на зычны пасля падзення рэдукаваных, як і ў складзе перфекта, страцілі канцавы *-л* у формах мужчынскага роду адзіночнага ліку: *моглъ, реклъ, умерлъ* змяніліся ў *могъ, рекъ, умеръ.* Пазней пад уздзеяннем польскай мовы ў беларускай мове пачалі ўжывацца формы *моглъ, реклъ, умерлъ,* якія знешне напамінаюць старажытнарускія ўтварэнні, але маюць тут іншае паходжанне. У жывой мове канцавы *-л* у дзеепрыметніках мужчынскага роду адзіночнага ліку з асновай на галосны змяніўся на *-ў: былъ — быў, далъ — даў, ходилъ — хадзіў.* Але на пісьме такое змяненне адлюстроўвалася вельмі рэдка.

Больш прыкметныя змены закранулі дзеяслоўную звязку. Таму змяненне форм умоўнага ладу на працягу ўсяго старажытнага перыяду — гэта, па сутнасці, змяненне звязкі.

Найбольш істотным вынікам змянення звязкі было пашырэнне аарыстычнай формы 2-й і 3-й асобы адзіночнага ліку *бы* на ўсе іншыя асобы адзіночнага і множнага ліку. Гэты працэс адбываўся аднолькава і амаль адначасова ва ўсіх усходнеславянскіх дыялектах, але ў пісьменнасці ён адлюстроўваўся па-рознаму. Выразныя прыклады ўжывання формы *бы* ў значэнні іншых асоб даюць беларускія помнікі XIV—XV стст.: естли бы я Олехно уверху писаный хотелъ тое поле рушити (Гр. 1347; УГ XIV, 25); тыи бы ждали року (Гр. 1487; УГ XV, 43); которые вѣрити боудоуть вечныи бы животъ ѡсегноули (Пак. Хр., 2б); того бы за грѣхъ не личили (Будны, 38б); коли бы вѣдали ѡ твоемъ при*с*тю, забили бы тебе (Алекс. XVII, 41); козаки волѣли бы вси при не*м* го*р*ла да*т* (Стрыйк., 627б); не знали ѡ собѣ где бы были (Зб. 752, 503).

Аднак такія прыклады толькі сігналізуюць аб тых працэсах, што адбываліся ў жывой беларускай мове. У пісьменнасці ж формы ўмоўнага ладу выступаюць у розных варыянтах, прычым характар іх вызначае іменна звязка. Таму мэтазгодна звязку кожнай асобы разглядзець асобна.

Старажытная звязка 1-й асобы *быхъ* захоўваецца на працягу ўсяго старабеларускага перыяду, асабліва ў помніках рэлігійнага зместу, якія наогул у большай ступені захоўвалі пісьмовыя традыцыі папярэдніх эпох: кто ми дасть иж бы*х* А оумерла за тебе (Пак Хр., 1); теперь бы*х* ле*г* и оутихноу*л* (Зб. 262, 13); ѧ бы*х* ѡ*т*ветил ем8, ѡбра*л* бы*х* п8ти сво*и* с ни*м* (там жа, 15б);

нашла быx тѧ на оулици поцѣловала быx тѧ (там жа, 85б); справъ пред собою дорог8 мою, быx не забл8дил (Пс. XVI, 9б); што хочешъ, быx 8чинилъ тобе (Цяп., 59); ест тут мѣстечко малое, до которог быx хотел 8течи (Бельск. 18).

У даданых сказах з мадальнымі адценнямі пажадання, мэты, неабходнасці дзеяння звязка *быхъ* спалучаецца са злучнікамі *а, же, што,* выступаючы, такім чынам, у выглядзе *абыхъ, жебыхъ, штобыхъ.* Аднак такія варыянты звязкі, якія фактычна выконваюць ролю злучнікаў, выкарыстоўваюцца ў помніках неаднолькава ў храналагічных адносінах. Варыянт *абыхъ* адзначаецца ў помніках на працягу ўсяго старабеларускага перыяду: какъ ты хочешь, абыхъ была в дому твоем (Чэцця, 49); потребно есть, абыx ꙗ перво оумерлъ (Пак. Хр., 3); дайте ми прист8пити, абыx оувидела сна моего (Жыц. Ал., 99); ꙗмъ листъ свой вамъ далъ абыx статок свой вызволилъ (КВЗС, 38б); скажи доводней, абыx розумѣлъ причину (Будны, 37б); доп8сти мнѣ абыx в возѣ царском седѣл (Алекс. XVII, 5б); того не чинил есмъ, абыx кого спꙗ чого стратилъ (Тр. гіст., 71); дай мне тую моц абыx их ꙗ сам карал (Зб. 752, 344).

Варыянт *штобыхъ* адзначаецца пераважна ў Пакутах Хрыста канца XV ст.: на свѣтъ пришол есми штобыx волю ѡтца моего оучинил (2б); ты твориш штобыx ꙗ не вѣдал што ты чиниш (6б); час есть штобыx се верноул до него (12б); которого хочете, штобыx выпустил вам (21).

Варыянт *жебыхъ* з'яўляецца ў пісьменнасці пазнейшага часу, калі яна пачала падвяргацца польскаму ўплыву: ѡни на мене жал8ють, жебыхъ ꙗ имъ кривъд8 чинилъ (КВЗС, 117б); штож хочешъ жебыx тобѣ 8чинил (Біблія, 461); 8чыни теж нам ѡбѣдъ, жебыx се з вами и з 8чениками моими 8тѣшил (Зб. 752, 508б).

У помніках з канца XVI ст. несумненна пад польскім уплывам пачала выкарыстоўвацца звязка *бымъ,* якая ў спалучэнні са злучнікамі выступала і ў выглядзе *абымъ, жебымъ:* хотѧи бымъ и ѧ оучачи тебе гин8лъ, але ты не погибаи (Каз. Кір., 72б); Если бымъ не пришол и не мовилъ бымъ имъ, грѣха бы не мѣли (Каліст, 223); ꙗм т8т на то вышол абым до горла ѡтчизны своеи боронил (Стрыйк., 626); Оукажи мнѣ дорог8, которою бымъ мѣлъ ходити (Варл., 356); на то не зезволю, абым тобѣ былъ посл8шныи (там жа, 15б); звады еслим видѣвъ, николим не ѡпустилъ, жебым поеднати не мѣлъ (Зб. 107, 173).

Звязка 2-й і 3-й асобы адзіночнага ліку *бы (абы)* захоўваецца ў яе першапачатковым выглядзе для гэтых асоб на працягу ўсяго старажытнага перыяду: аже бы ты оу своемь слове стоялъ а нашю братию проводилъ бы, мы быхомъ не поминали того конА (Гр. 1300); ты бы приехал къ брат8 своему (Віл., 443); бы не был тот лиходей, не выдали есмо тобе его (Пак. Хр., 19); хто боудеть нашь брат по нашем животѣ, тотъ бы сА не въстоупалъ в тые земли (Гр. Сем.); просили его, бы взложилъ на него руку (Цяп., 53); тое се тежъ маеть роз8мети и ω такой жоне, естли бы первей м8жа 8меръла (Ст. 1588, 287); сѣлъ цар до столу, абы елъ хлѣбъ (Біблія, 334); просили, абы до их приехал для рады (Стрыйк., 465б).

У некалькіх варыянтах выступае звязка ўмоўнага ладу 1-й асобы множнага ліку. Старажытны варыянт *быхомъ (абыхомъ)* захоўваецца ў помніках да канца XV ст.: просили насъ абыхомъ васъ пустили до лучцька търговать (Гр. 1341; УГ XIV, 23); коли жь быхомъ хотѣли тыи двѣ Селищи любо сами оузАти оу него или кому приволили быхомъ выкупити (Гр. 1392—1429; УГ XIV, 110—111); Коли быхом мы тебе поразили, велика бы ти соромота была (Алекс. XV, 2б); тот староста имееть ем8 ласкы оу нас ш8кать, абыхомъ пріп8стілі его ко справѣ (Вісл., 38б).

Аднак гэты варыянт вельмі рана пачаў уступаць месца новай форме *быхмо (абыхмо)*, якая ўзнікла, відавочна, пад уздзеяннем польскай мовы ў выніку кантамінацыі беларускага канчатка *-омъ* і польскага -my. Такія ўтварэнні адзначаюцца ўжо ў помніках з сярэдзіны XIV ст.: билъ намъ чоломъ, абыхмо ему на то дали нашъ листъ и подтвердили быхмо нашимъ листомъ (Гр. 1342; УГ XIV, 25); просили насъ, абыхмо пречоный привилей нашымъ привилеемъ ствердили (Гр. 1389; УГ XIV, 102); штобы ваша млсть наших полочанъ к собѣ пускали, быхмо промеж себе торговали (Гр. 1465); почн8т пытати великого кнзА витовта, што быхмо с ним поговорили (Віл., 442б); А ωтвѣчал бых ем8, пришли быхмо поспол8 на с8д (Зб. 262, 16); што вѣдаешь абыхмо не вѣдали (там жа, 18); просилъ насъ абыхъмо тых людей его ем8 пост8пили (КВЗС, 30); хочеть, абыхмо о его законе иначеи розумели (Будны, 102б); Если быхмо не видели, то быхмо не вѣрыли (Трыстан, 33б); дивные новины ω насъ разъсеваютъ яко быхъмо хотели вер8 свою... выг8битъ

(Унія, 3б); каждый з нас пойдемо, где быхмо выжывене мели (Зб. 752, 208).

У Бяседах Макарыя 1627 г. адзначаюцца формы ўмоўнага ладу 1-й асобы множнага ліку са звязкай *жебыхмо:* Просѣмо теды и мы, жебыхмо моцᵃю его офѣрованы были (10); велми прагнет, жебыхмо сѧ вси ог8ломъ к нем8 наверн8ли (38); Если терпимо з нимъ, жебыхмо з нимъ и оувелбены были (251).

Для помнікаў пачынаючы з другой палавіны XVI ст. характэрны варыянты *бысмо — абысмо — жебысмо, бысмы — абысмы — жебысмы:* есьли бысмо были в дни отецъ нашихъ, не были бысмы исьте сполечъниками имъ (Цяп., 33); Дивовали бысмы сѧ том8, кгды бысмы не вѣдали (Апакр., 46б); справилес нас дл■ того мужнѣйших, абысмы золота вашего могли достат (Алекс. XVII, 8); не дай того боже абысмы мѣли 8тѣкат перед ними (Кн. Мак., 58); не проси абысмо мы вси ехали (Біблія, 379); прійди, жебысмо тѧ видѣли (Мак., 19б); хочу бовемъ того, жебысмы з стороны нашое што колвекъ чынили (Зб. 255, 22); юж не віж8 потребы жебысмо на тои п8щи далеи мешкали (Жыц. св., 39); ѡни того не хоч8т по нас абысмы их за боги хвалили (Выкл., 89б).

У 2-й асобе множнага ліку ўжываецца ў большасці старажытная форма аорыста *бысте,* ускладненая злучнікамі *а, же:* рачили бысте нам допомочъ (Алекс. XVII, 16); Тое росказ8ю вамъ, абысте любили одинъ др8гого (Каліст, 223); тутъ под сондомиръ жебысте прибывать вмс рачили (Барк., 159б).

Форма 3-й асобы множнага ліку *быша* ў якасці звязкі ў складзе ўмоўнага ладу ў старабеларускай пісьменнасці ўжо не ўжывалася. Яе ролю замацавала за сабой уніфікаваная часціца *бы.*

Страта уніфікаванай часціцай *бы* здольнасці абазначаць асобу мела вынікам структурнае пераўтварэнне новых форм умоўнага ладу пры адсутнасці дзейніка, выражанага асабовым займеннікам. Абазначэнне асобы пачало дасягацца дадатковым ужываннем дапаможнага дзеяслова *быти* ў адпаведнай форме цяперашняга часу. Пры адсутнасці дзейніка формы ўмоўнага ладу сталі трохчленнымі са свабодным парадкам кампанентаў. Такім чынам, фармальна ўмоўны лад стаў выражацца спалучэннем часціцы *бы (абы, жебы, штобы)* і перфекта асноўнага дзеяслова. Больш-менш сістэматычнае выкарыстанне форм умоўнага ладу такой структуры пачынаецца з канца XV ст.: штобы еси и самъ в мыто нашо

и въ промыту не вступалъсѧ (Гр. 1487; УГ XV, 43); Чти ѡтца и матку твою, абы есь долго живъ на земли (Будны, 49б); не длѧ того живешъ, абы еси елъ и пилъ без сытости, але длѧ того еси и пѣешъ, жебы еси живъ былъ (Каліст, 158б); длѧ того *ж* есмо тепе*р* пришли до тебе абы есь ехалъ з нами (Біблія, 27б); если бы еси и хоте*л* дати, не бꙋде*ш* моглъ (Зб. 752, 210).

Умоўны лад такога ўтварэння асабліва часта ўжываецца са звязкамі 1-й асобы множнага ліку *есмо* і 2-й асобы множнага ліку *есте,* што тлумачыцца асаблівасцямі кантэксту: ужыванне ўмоўнага ладу больш характэрна для дыялагічнай мовы, дзе субяседнікамі выступаюць першая і другая асобы: оуделаите на*м* пасхоу а любо великую вечерю, штобы есмо ѣли (Пак. Хр., 2б); коли бы есмо молъчали, гре*х* бы есмо имели (там жа, 3б); даи на*м* листъ тотъ, абы есмо ведали, што на не*м* есть писано (Жыц. Ал., 98б); насъ держить, абы есмо не грешили (Будны, 130); не да*й* боже абы есмо сѧ твоего имени запрети могли (Зб. 752, 75б); послалі есмо до ва*с*, штобы есте пришли до мѣста (Пак. Хр., 31б—32); абы теперь были есте оу него, видели *б* есте стра*х* и оубоѧлисѧ *б* есте (Зб. 262, 14б); приказꙋемъ, штобы есте сесь нашъ листъ везде... прибиѧти велѣли (Гр. 1589); дали бы вамъ такие с писма доводы, на которые бы есте поведеть ничого не ꙋмели (Бер. саб., 11б); если бысте сынами авраамовыми были, оучинки авраамовы чинили бы есте (Каліст, 165б).

Нарэшце, у перакладных творах першай палавіны XVII ст. сустракаюцца формы ўмоўнага ладу, дзе ў спалучэнні з абагульненай часціцай *бы* выступаюць формы плюсквамперфекта — спалучэнні дзеепрыметніка на *-л* з дапаможным дзеясловам *быти* ў асабовых формах прошлага часу: если бы не оувѣрили были, та*к* рыхло не ѡтмѣнилисѧ бы (Каліст, 95б); если бы еси тꙋтъ былъ, бра*т* мой не оумеръ бы бы*л* (там жа, 86); А если бы о твою головꙋ, ѡ безрозꙋ*м*ный Ироде, безстꙋднаѧ танечница тебе была просила, чи далъ бысь ей былъ свою голову (там жа, 321б); Где бы бы*л* поле*м* битвꙋ да*л*, та*к* много бы бы*л* люде*й* не страти*л* (Стрыйк., 597). Польскае паходжанне такіх утварэнняў пацвярджаецца прыкладам з Бібліі, перакладзенай у пачатку XVII ст. з польскай біблії Я. Вуйка 1599 г.: бы*с* бы реклъ рано, переста*л* бы бы*л* людъ гонити брата своего (Біблія, 359) — у арыгінале: byś był rzekł rano, przestał by był lud gonić brata swego. Як выключэнне, утварэнне гэтага

тыпу можна адзначыць у дзелавым запісе 1533 г.: хотѣ быхъ былъ не хотелъ заплатити, нижлимъ м8силъ (КВЗС, 23б).

На працягу гісторыі беларускай мовы структурна змянілася і часціца *бы*. У жывым вымаўленні яна скарацілася ў *б* у становішчы пасля галоснага папярэдняга слова. Першыя выпадкі адлюстравання гэтай з'явы адзначаюцца ў мове актаў сярэдзіны XV ст.: Васкоръ Дромутевичъ не уступалъ ся *бъ* (КЗ, 113). Сустракаецца яна і ў царкоўнаславянскіх выданнях Ф. Скарыны: престали бъ приносити жертвъ, егда бы не имели совѣсти (КЛ, 2б); некогда раскаꙗлисꙗ *б* людие 8зревши рать на сꙗ и навратилисꙗ *б* до египта (КВ, 26б). У Зборніку біблейскіх кніг № 262 пачатку XVI ст. такая форма часціцы *бы* мае ўжо значэнне варыянтнай нормы: тог*д*ы б ми оупокоино было (13); проклинали *б* ее, которыи проклинают день (там жа); пожрали *б* жа*д*ници добытѡ*к* ихъ (14); видели *б* есте стра*х* (14б); коли *б* ты оурꙗдилъ ср*д*це свое (16б); не ѡ*т*кривили *б* сꙗ ѡ*т* ѡчью твои*х* (95); ѡболокли бъ того м8жа (130б); кликалі бъ пере*д* нимъ (там жа). Скарочаная форма часціцы *бы* спарадычна адзначаецца і ў іншых помніках XVI ст.: хто *б* мꙗ потѣшил (Пс. XVI, 68б); если бъ на8ма в животе не стало, тогъды жоне и детемъ его ѡни тые пенѣзи мають заплатити (КВЗС, 123б); таковому и на др8гие рочки волно б8деть позвати, только бъ ѡ*т* выбитьꙗ до позваньꙗ десети недель не ѡмешкалъ (Ст. 1588, 176); ѡ томъ радꙗть которою бъ смертью мѣли тебе вморыти (Трыст. 59).

Аднак у пазнейшай пісьменнасці гэта з'ява не атрымала пашырэння. Поўная форма часціцы *бы* была асноўным сродкам выражэння ўмоўнага ладу ў старабеларускай пісьменнасці.

## *ДЗЕЕПРЫМЕТНІК*

У старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове шырока выкарыстоўваліся разнастайныя формы дзеепрыметнікаў незалежнага і залежнага стану цяперашняга і прошлага часу. У сістэме дзеепрыметніка асабліва яскрава выявіліся ўзаемаадносіны беларускай літаратурна-пісьмовай мовы з царкоўнаславянскай. Пад уздзеяннем апошняй у пісьменнасці выкарыстоўваліся архаічныя дзеепрыметнікавыя формы, якія зусім не мелі адпаведнасці ў жывой беларускай мове. Практычна к канцу

XV ст. адбылося размежаванне дзеепрыметнікаў і дзеепрыслоўяў, і ў пісьменнасці з пачатку XVI ст. дзеепрыметнікі выступаюць як самастойная граматычная катэгорыя, зусім не залежная ад дзеепрыслоўяў.

Старабеларуская пісьмовая мова ранняга перыяду ведае яшчэ архаічны тып дзеепрыметнікаў цяперашняга часу незалежнага стану, якія выступаюць толькі ў форме мужчынскага роду назоўнага склону адзіночнага ліку. Гэтыя дзеепрыметнікі адпавядаюць ста́рым кароткім формам дзеепрыметнікаў на *-а, -ѧ* тыпу *берѧ, идѧ, несѧ*, але адрозніваюцца ад іх наяўнасцю ўказальнага займенніка *и: берѧи, идѧи, несѧи.* Дзеепрыметнікі такога ўтварэння адзначаюцца выключна ў канфесіянальных тэкстах, якія адлюстроўваюць царкоўнаславянскі ўплыў адначасова і ў іншых звеннях граматычнага ладу: змии есть велик и лютъ гнѣздѧисѧ въ ѡзере семь (Чэцця, 82б); спираꙗисѧ словомъ не поднесетсѧ (Зб. 262, 18); о нѣмъ вѣмо, ижь млстивый, ласкавый, смрти грѣшного не хотѧй (Будны, 184).

Такія дзеепрыметнікі вельмі распаўсюджаны ў выданнях Ф. Скарыны, дзе звычайнымі з'яўляюцца формы *берѧи, весѧи, верꙋѧи, видѧи, висѧи, гледѧи, даꙗи, живѧи, носѧи, пасѧи, пиѧи, просѧи, спѧи, стоꙗи, терпѧи, ходѧи, хотѧи, хранѧи, ꙗдѧи* і інш.: всѧкъ верꙋѧи вонь не погибнеть (ІН, 3б); Азъ муж[ꙋ] видѧи нищету мою (ПЕ, 7б); Хлебъ ꙋбо божии есть сходѧи с небеси и даꙗи животъ мирꙋ (КВ, 4); внийде Аврамъ до египту хотѧи пребыти тꙋ (КБ, 24); Былъ ꙋбо естъ в тои час царь Гелѧи ꙗдѧи и пиѧи (ТЦ, 165); Азъ ꙋбо есмъ господь богъ вашъ, изведый васъ изъ земли египетское (КЛ., 23); Жрец приносѧй скотину да береть собе кожу (там жа, 15). Сістэматычнае выкарыстанне Скарынам такіх дзеепрыметнікаў належыць да ліку тых яркіх рыс, якія сведчаць аб царкоўнаславянскай аснове мовы яго выданняў і проціпастаўляюць іх беларускай пісьменнасці.

Неўласцівасць падобных дзеепрыметнікаў беларускай мове пацвярджаецца матэрыялам перакладу на беларускую мову В. Цяпінскім Евангелля. Царкоўнаславянскія дзеепрыметнікі на *-ѧи* перакладчык перадае звычайнымі для беларускай пісьменнасці формамі на *-чий: гнѣваꙗйсѧ — гнѣваючийсѧ, приемлѧи — примаючий, просѧи — просѧчий* і г. д. Разам з тым Цяпінскі перакладае іх разнастайнымі сродкамі з рэсурсаў беларускай мовы — назоўнікамі, дзеепрыслоўямі і нават апісальнымі зваротамі: се приближисѧ предаѧи мѧ — ото

приближилъсе выдавца мои (38б); се члкъ бѣ ту, р8к8 имыи сух8 — ото члвкъ был тамъ рук8 маючи сух8ю (15б); тои есть илиѦ хотѦи приити — тотъ ест ильѦ которыи мелъ приити (14б).

Значна пазней, калі старабеларуская літаратурна-пісьмовая мова паўторна падпала пад царкоўнаславянскі ўплыў, дзеепрыметнікі гэтага тыпу зноў ажывіліся ў пісьменнасці. Іх шырока адлюстроўвае, напрыклад, Збор выпадкаў кароткі 1722 г., дзе звычайнымі адзначаюцца формы *біѦй, вверзаѦй, живѦй, к8плѦй, палѦй, прим8шаѦй, продаваѦй, проклинаѦй* і інш.: БіѦй инока проклѦтъ естъ (71б); въверзаѦй дѣтѦ въ рѣк8 грѣшитъ смертелне (9); к8плѦй и продаваѦй грѣшитъ смертелне (58б); Іерей въпадый въ ересь, и Іерей въ бл8дѣ живѦй, важне осщает[s] тѣло (5).

Дзеепрыметнікі цяперашняга часу незалежнага стану царкоўнаславянскага афармлення на *-щ-* таксама вельмі характэрны для ранняга этапа беларускай пісьменнасці. Яны трапляюцца нават у дзелавых дакументах: тотъ будеть проклѦтъ оу сии вѣкъ и оу будущии (Гр. 1387); за себе и за последнихъ будущихъ доброю волею ихъ пускати оу полочьку (Гр. 1405); коли бы хто конѦ а любо клѦчю знашол блоудѦщюю (Судз. Каз., 204б); прысегаю пану богу всемог8щом8 в тройцы едином8 (Ст. 1588, 342).

Дзеепрыметнікі царкоўнаславянскага ўтварэння шырока выкарыстоўваюцца ў рэлігійных помніках канца XV — першай палавіны XVI ст.; повелѣл двѣма свечами горѦщими жечи под пазоусе его (Чэцця, 32б); оувидѣли оуношю стоѩща средѣ двора (там жа, 98б); ѣли чеснок а цибоулю иные вонѦющеи горкіе зеліа (Пак. Хр., 7б); сталосе збежаніе людей за ним идоущих (там жа, 9б); кажного входѦщого там за покаленого имѣли (Валх., 70); не знаидеть ни ѡдное твари живоущеи длѦ злости (там жа, 86б); не осмотрит мѦ ѡко видѦщаго мѦ (Зб. 262, 15); б8дет ѩко дерево саженое ведле вод тек8щих (Пс. XVI, 7).

Дзеепрыметнікі гэтага ўтварэння надаюць яркую царкоўнаславянскую афарбоўку выданням Скарыны: знайдоша Са8ла лежаща и спѦща въ шатре своемъ (ПЦ, 56); Любиши ненавидѦщих тебе, и ненавидиши любѦщихъ тѦ (ДЦ, 103); 8слыши молитву вопиющихъ к тобе и надеющихъсѦ на тѦ не имеющихъ иное помощи развеи тебе (КЕ, 22б); буду збирати класы падающие

опосле женцевъ (КР, 3б); звери ходѧщие въ пустыни знають ꙗмы своѧ (КЮ, 2б); птицы летающие по возъдухꙋ ведають гнезда своѧ (там жа). Катэхізіс С. Буднага 1562 г. можна разглядаць як адзін з апошніх твораў старабеларускай пісьменнасці сярэдзіны XVI ст., дзе царкоўнаславянскі моўны струмень заставаўся яшчэ адчувальным, у тым ліку і дзеепрыметнікі на *-щ:* чиню милосерьдие надъ многими тысѣчьми любѧщими и хранѧщими заповѣди моѧ (9); клѧнущінсѧ мѣли тотъ ѡбычаи поднѧти въ небо руку (25); хотѧщіи спастисѧ в него вѣрили (108); церков ест дружина вѣрующих (156б); даровалъ ему всѣх плавающих с нимъ (196).

Другая палавіна XVI ст. у гісторыі беларускай пісьменнасці была перыядам, калі царкоўнаславянскі ўплыў на мову беларускіх помнікаў быў зведзены да мінімуму. У адпаведнасці з гэтым і ўжыванне дзеепрыметнікаў на *-щ-* у гэты час адлюстроўваецца адзінкавымі прыкладамі, якія вельмі далёкія ад значэння нормы. Але ў помніках канца гэтага стагоддзя дзеепрыметнікі на *-щ-* зноў пачалі ажыўляцца ў канфесіянальнай пісьменнасці, што асабліва прыкметна адбілася на мове друкаваных помнікаў першай палавіны XVII ст.: вже подърастающꙋю травꙋ ꙋсꙋшили есмо (Унія, 16б); мовмо ѡ дхꙋ дышꙋщем (Каз. Кір., 112б); питала еси млекомъ ѡтверзающаго роукꙋ свою и насыщающаго всѧко животно благоволеніѧ (Карп., 36б). Асабліва многа такіх дзеепрыметнікаў у Навуцы аб сямі тайнах 1620 г., дзе адзначаюцца, напрыклад, *берꙋщый, блꙋдѧщий, выражающый, дающый, дѣлающый, знайдꙋющый, исповѣдающыйсѧ, кающыйсѧ, позычающый, пріемлющій, пріймꙋющій, приходѧщий, хотѧщий* і інш. З другога боку, такія друкаваныя канфесіянальныя творы, як Евангелле Каліста 1616, Бяседы Макарыя 1627 г. і Гісторыя аб Варлааме і Іаасафе 1637 г., практычна не маюць дзеепрыметнікаў на *-щ-*. У Евангеллі Каліста адзначаецца толькі форма *животворѧщий* у спалучэннях *животворѧщаѧ кровь, животворѧщий духъ* і *животворѧщий крестъ.*

Таксама нераўнамерна выкарыстоўваюцца гэтыя дзеепрыметнікі і ў рукапісных зборніках гамілетычных твораў XVII ст. Трапляюцца яны ў зборніках № 82, 107, 255, 752, дзе суіснуюць паралельна з формамі на *-ч-:* тѣло стго иѡанна златоустого з команов перенеси до царствующого града (Зб. 82, 356б); видѣвъ діавола над нею там і сам летающаго (Зб. 107, 167); в церкви знашолъ продающих ѡвци и волы (Зб. 255, 24); беда бременным

и перстѧми кормѧщым (там жа, 119б); 8зрел двух 8чениковъ ид8щих за собою (там жа, 125); казал ѡгон розложити и еще дыш8щаго смажит (Зб. 752, 94б); блудѧщих наворочаеш на дорог8 (там жа, 106).

Матэрыял Зборніка № 255 асабліва цікавы тым, што тут адзначаюцца і дзеепрыметнікі на -*щ*-, утвораныя ад беларускіх дзеясловаў: *квитнеющый, мил8ющый, мовѧщый, пытающый*. Гэта сведчыць, што тэндэнцыя да царкоўнаславянізацыі мовы рэлігійных тэкстаў праяўлялася асабліва актыўна ў час стварэння помніка. Яна пакінула прыкметны след у мове апошняй друкаванай кнігі на старабеларускай мове — Зборы выпадкаў кароткім 1722 г., дзе вельмі пашыраны формы тыпу *біющій, боѦщійсѦ, взирающий, горѦщий, грѦд8щій, дающій, исполнѦющий, лежащій, лѣтающій, ненавидѦщій, плавающій, прощающій, роздающій, треб8ющій, оубивающій* і г. д. Тут таксама трапляюцца дзеепрыметнікі на -*щ*- ад беларускіх ці запазычаных на беларускай глебе дзеясловаў: *др8к8ющій, мающій, тримающій, шлюб8ющій*.

Разгледжаныя вышэй дзеепрыметнікі царкоўнаславянскага ўтварэння ў гісторыі старабеларускай літаратурнай мовы адыгралі сваю ролю перш за ўсё ў тым, што паслужылі ўзорам, на аснове якога актывізаваліся дзеепрыметнікі цяперашняга часу незалежнага стану з уласна беларускага матэрыялу. Ад царкоўнаславянскіх дзеепрыметнікаў яны адрозніваюцца фармантам -*ч*-, які на ўсходнеславянскай глебе з'яўляецца заканамерным рэфлексам агульнаславянскага спалучэння *tj*.

Такія дзеепрыметнікі адзначаюцца ўжо ў ранніх помніках беларускай пісьменнасці: хто пригани с8ди на с8де сѦдѦчом8 (Вісл., 34); велми почал троухленъ быти дрыжачий и бачоучий болесть матоухны своей (Пак. Хр., 4б); слышали его говорѦчего да видели легко оумираючего (там жа, 13); вижу тебе сторожа старости моее на марах лежачого не говорѦчого ѡ мною (Жыц. Ал., 98б); б8дешь ѧко лежачіи средѣ морѦ (Зб. 262, 105); потратиш всих говорѦчих лож (Пс. XVI, 9б); вси видѦчие мѦ насмевалисѦ з мене (там жа, 23).

Аднак у першай палавіне XVI ст., калі ўплыў царкоўнаславянскай мовы на беларускую пісьменнасць прыкметна памяншаўся, у беларускай літаратурнай мове намецілася тэндэнцыя да абмежавання дзеепрыметнікаў цяперашняга часу незалежнага стану. Перакладчыкі рэлігійных твораў з царкоўнаславянскай мовы нярэдка выкарыстоўвалі апісальныя звароты там, дзе ў царкоў-

наславянскай мове ўжываюцца дзеепрыметнікі. Такая тэндэнцыя праявілася, напрыклад, у перакладах тэкстаў Зборніка № 262 і Псалтыра XVI ст.: нѣсть творѦи блгое — не есть иже творит добро (Зб. 262, 50б); вси жив8щеи на неи — вси иже жив8ть на неи (там жа, 58); 8подоблюсѦ низходѦщим в ров — прировнамсѦ к тым которые входѦть в рωв (Пс. XVI, 28б).

Тым не менш гэта тэндэнцыя не атрымала развіцця ў беларускай літаратурнай мове пазнейшага часу. Выкарыстанне беларускай мовы ў асноўных сферах грамадскага і культурнага жыцця — іменна ў канцылярска-юрыдычным ужытку, у мастацкай і канфесіянальнай літаратуры — патрабавала выпрацоўкі разнастайных граматычных сродкаў для больш дакладнага і разам з тым сціслага выражэння думкі. Адным з такіх сродкаў для беларускай літаратурнай мовы і аказаліся дзеепрыметнікі цяперашняга часу незалежнага стану, якія не мелі адпаведнасці ў народна-дыялектнай мове і з'явіліся прадуктам унутранага развіцця літаратурнай мовы.

Вельмі паказальна, што В. Цяпінскі ў сваім перакладзе Евангелля ўсімі магчымымі сродкамі пазбягаў ужывання царкоўнаславянскіх марфалагічных рыс. Аднак дзеепрыметнікі цяперашняга часу незалежнага стану ён у большасці выпадкаў захоўвае ў адпаведнасці з царкоўнаславянскім арыгіналам: гласъ вопиющаго в пустыни — голос крічачого в п8стыни (4); просѦщем8 8 тебе даі — просѦчом8 8 тебе даи (7); молитесѦ за творѦщихъ вамъ напасть — молитесе за чинѦчих вамъ пок8сы (7); рече грѦдущімъ по нем — рекъ ид8чимъ за нимъ (10); не убойтесѦ ωт 8бивающих тѣло, душу жѣ не могущих 8бити — не боітесѦ забиваючих тело, а души не могучих забити (13б).

Цікава адзначыць, што дзеепрыметнікі гэтага тыпу Цяпінскі часам ужывае і як адпаведнікі царкоўнаславянскіх дзеепрыметнікаў цяперашняга часу залежнага стану з суфіксам *-м-*: І пришедъ вселисѦ во градѣ нарицаемѣмъ назаретъ — И пришедши мѣшкалъ в городѣ называючомъ назареθ (3б); видѣ тещ8 его лежащ8 и огнемъ жгом8 — 8виделъ тещу его лежачую и огневую жгучую (10); бѣ жѣ ту при горе сътадо съвиное вѣлие пасомо — А было т8тъ прі горе стадо свиное великое пас8чое (49).

З пункту погляду строга граматычнага такі пераклад трэба прызнаць няўдалым, паколькі тут прадмет ці жывая істота, якая, па сутнасці, толькі адчувае на сабе

дзеянне з боку іншай асобы ці прадмета, фармальна ператвараецца ў вытваральніка гэтага дзеяння. Аднак такія прыклады сведчаць аб жывучасці дзеепрыметнікаў у літаратурна-пісьмовай беларускай мове таго часу. Падобнае выкарыстанне Цяпінскім дзеепрыметнікаў цяперашняга часу незалежнага стану трэба разглядаць як ускоснае сведчанне таго, што такія дзеепрыметнікі як самастойная граматычная катэгорыя не былі ўласцівы жывой старабеларускай мове. З'яўляючыся здабыткам выключна кніжнай, пісьмовай мовы і не маючы адпаведнасці ў жывым маўленні, яны дапускалі магчымасць ужывання іх у розных сінтаксічных кантэкстах.

Дзеепрыметнікі цяперашняга часу незалежнага стану адзначаюцца і ў канцылярска-юрыдычнай пісьменнасці, якая наогул больш блізкая да народнай беларускай мовы ў параўнанні з іншымі разнавіднасцямі старабеларускай пісьмовай мовы. Выкарыстанне дзеепрыметнікаў аддаляла мову дзелавых дакументаў ад народнай асновы і разам з тым збліжала яе з іншымі жанрамі. Напрыклад, у друкаваным Статуце Вялікага княства Літоўскага 1588 г. часта адзначаюцца формы *входꙗчый, выходꙗчый, держачый, лежачый, мешкаючый, належачый, походꙗчый, припадаючый, присл8хаючий, приходꙗчий, стоꙗчый, терпꙗчый, 8меючый, 8текаючый, ходꙗчый* і інш.: грехъ свой передъ людми входꙗчыми и выходꙗчыми с костела ꙗвне вызнавати (411); здрадц8 8текаючого забилъ (8); пакли жъ бы хто такъ на поли ходꙗчого конꙗ шлꙗхетского своволне пограбилъ (511); такъ деръжачый ꙗко и зыск8ючый б8деть повиненъ др8гом8 меньш8ю с8м8 заплатити (316).

Такія дзеепрыметнікі атрымалі вельмі шырокае распаўсюджанне ў канфесіянальнай і свецкай літаратуры канца XVI і першай палавіны XVII ст. Іх асабліва многа ў такіх друкаваных помніках, як Евангелле Каліста 1616 г., Бяседы Макарыя 1627 г., Гісторыя аб Варлааме і Іаасафе 1637 г., у Александрыі XVII ст. і ў рукапісных зборніках № 107, 252, у Псалтыры і Бібліі пачатку XVII ст., у перакладзеных з польскай мовы хроніках М. Бельскага і М. Стрыйкоўскага. У гэтых помніках нярэдкія выпадкі, калі нават у адным і тым жа сказе ўжываецца некалькі аднатыпных дзеепрыметнікаў: теперъ завжды грѣшачихъ нас овшеки ωт себе не ωтдалАетъ, але каючихъсА приймѣетъ, см8тАчихъсА оутѣшаетъ, плач8чих оувеселАетъ, прац8ючимъ помагаетъ (Каліст, 203); мнωгихъ не сл8хаючихъ васъ обачите, и

ненавидѧчихъ, и преслѣдꙋючихъ, и потварѧючихъ (там жа, 228); в описыванꙋю марных, з дымом оуходѧчихъ, з вѣтромъ оулѣтаючих, а з водою оуплываючихъ справъ албо дѣевъ (Паўуст., 2б); Кождый бовѣм просѧчій пріймꙋетъ, шꙋкаючій найдꙋетъ, а колатаючомꙋ ѡтворѧетьсѧ (Мак., 47); Зновꙋ зас Діониса межи боги поличаютъ, ночные бесѣды справꙋючого, наꙋчаючого піѧнства, и порываючого чꙋжые жены, и шалѣючого, и оутѣкаючого (Варл., 244—244б); ѡбачилем млоденца в мантіи на конѣ нꙗшомъ сидꙗчого, в тыл до нас смотрꙗчог а дорогу простуючого (Дыяр., 150б).

Аб актыўнасці дзеепрыметнікаў цяперашняга часу незалежнага стану ў старабеларускай пісьмовай мове пазнейшага часу сведчыць шырокае выкарыстанне іх ад запазычаных дзеясловаў. У помніках XVII ст. у розных склонавых формах у якасці азначэнняў ужываюцца дзеепрыметнікі *аппелююючий, арендꙋючий, бенкетꙋючий, вакꙋючий, валчꙋчий, волаючий, дишкꙋрꙋючий, жартꙋючий, жекглююючий, инстигуючий, квитнꙋчий, маестꙋючий, мордꙋючий, ѡбфитꙋючий, ѡферꙋючий, протестꙋючий, рокꙋючий, строфꙋючий, трваючий, триꙋмфꙋючий, тꙋрбꙋючий, уфаючий, фрасꙋючий, шидꙗчий, штꙋрмꙋючий* і інш.

Пашырэнню дзеепрыметнікаў цяперашняга часу незалежнага стану ў старабеларускай пісьменнасці садзейнічалі, безумоўна, пераклады з польскай мовы, дзе такія дзеепрыметнікі не мелі ніякіх абмежаванняў. Гэта відаць з матэрыялу беларускай Бібліі пачатку XVII ст., перакладзенай з польскай Бібліі Я. Вуйка 1598 г.

| **Польскі арыгінал** | **Беларускі пераклад** |
|---|---|
| niech nie ustaie z domu Joabowego płynienie nasienia cierpiący, y trędowaty, y trzymaiący wrzeciono, y od miecza upadaiący, y potrzebuiący chleba. | нехай не ꙋстаеть з дому иѡавового плынене насѣньꙗ терпꙗчий, и трꙋдоватый, и держачий щитъ, и ѡт меча ꙋпадаючий, и потребуючий хлѣба (362). |

У старабеларускай пісьмовай мове XVI і XVII стст. значнае пашырэнне атрымалі таксама дзеепрыметнікі цяперашняга часу сярэднезваротнага стану, паказчыкам іх з'яўляецца зваротная часціца *-сѧ*, якая зліваецца з дзеепрыметнікам у адно слова — *бавѧчийсѧ, боꙗчийсѧ, веселꙗчийсѧ, вертаючийсѧ, гнѣваючийсѧ, збѣгаючийсѧ, кохаючийсѧ, крыючийсѧ, молѧчийсѧ, мстꙗчийсѧ, надѣючийсѧ, навертаючийсѧ, пасꙋчийсѧ, постꙗчийсѧ, радꙋючийсѧ, свѣтѧчийсѧ, стараючийсѧ, спротивлꙗючийсѧ,*

*та*ꙗ*чийс*ѧ і г. д.: товары*ш* ꙗ есми всим боѧчимсѧ тебе (Пс. XVI, 120б); на*й*дено пꙗть царей крыючи*х*сꙗ в печерѣ (Біблія, 246); в пожитка*х* и мысливствахъ кохаючимсѧ вдѧчна бываетъ таковаѧ праца (Кін., 48—48б); Старость честна не в личбѣ лѣтъ рах8ючаѧсѧ, але в з8полности роз8м8 найд8ючаѧсѧ (Мак., 2); на мѣстце живыхъ перешолъ, где голосъ рад8ючихсѧ, где веселѧчи*х*сѧ естъ мешка*не* (Варл., 360); вѣтръ ид8чи*й* пре*д*се а не ве*р*таючи*й*сꙗ (Пс. XVII, 67б); нѣкоторы*й* б8де*т* спротивлꙗючийсꙗ таково*й* пересторозѣ (Дыяр., 155б).

Такім чынам, дзеепрыметнікі цяперашняга часу незалежнага стану былі самым звычайным сродкам старабеларускай пісьменнасці для выражэння самых тонкіх граматычных нюансаў. У гэтым сэнсе старабеларуская пісьмовая мова мела несумненную перавагу ў параўнанні з сучаснай, дзе такія дзеепрыметнікі свядома абмяжоўваюцца ва ўжыванні.

Суадносныя з дзеепрыметнікамі цяперашняга часу незалежнага стану дзеепрыметнікі прошлага часу ўжываліся значна радзей. У структурных адносінах яны больш аднастайныя: ад асноў на галосны ўтвараліся пры дапамозе суфікса *-вш-*, ад асноў на зычны — з суфіксам *-ш-*: *бывший, давший, заснувший, иссохший, падший, умерший* і г. д. Іменныя формы гэтых дзеепрыметнікаў у ранняй беларускай пісьменнасці адзначаюцца галоўным чынам у складзе канструкцыі «давальны самастойны», прычым ужыванне іх адзначаецца не толькі ў рэлігійных творах, але і ў арыгінальных летапісах: и бывш8 покосн8 вѣтроу и поидоша въ корабли*х* (Нік., 254); бывшоу же ем8 в нѣмце*х* и оу ма*р*инѣградѣ оу мистра приехаша к нему мнози кнзи (Віл., 444б); тог*д*а бо скиргаил8 ѡ*т*ехавш8 к полоцк8 и кнѧз велики*и* витовтъ приеде оу вилню (там жа, 446);

Дзеепрыметнікі гэтага тыпу ў функцыі азначэння ўжываюцца пераважна ў рэлігійнай літаратуры, тэксты якой у большай ці меншай меры адчувалі на сабе царкоўнаславянскі ўплыў. У гэтых адносінах паказальным з'яўляецца матэрыял Евангелля В. Цяпінскага, дзе дзеепрыметнікам царкоўнаславянскага тэксту нярэдка адпавядаюць аналагічныя дзеепрыметнікі ў перакладной, беларускай частцы помніка: прославиша бога, давшаго власть таковую члкомъ — славили бга, давшого владъность таков8ю людем (11); приемлеть пославшаго мѧ — примуе*т* пославъшого мене (14); Шедъ же прie-

мыи пѧть талантъ, дела въ нихъ — И шодші взѧвшій пѧть талантовъ, робилъ ими (35б).

Дзеепрыметнікі незалежнага стану прошлага часу зрэдку адзначаюцца ў помніках на працягу ўсяго старажытнага перыяду: нашедший мене нашол живот (Зб. 262, 97); весь родъ нашъ грѣхомъ падшій (Карп., 48б); зблꙋдившихъ насъ на дорогꙋ правꙋю навернꙋл (Каліст, 228б); Слава вызволившемꙋ дшꙋ з неволи египетской (Мак., 375); не прогневайсѧ на мене так много дерзнꙋвшаго мовити (Зб. 752, 205б); розꙋмѣли быт заправдꙋ ѡт царѧ пришедшаго и живъности достаточъне принесшаго (Зб. 82, 244б).

Занялад дзеепрыметнікаў гэтага тыпу ў старабеларускай пісьменнасці яскрава выяўляецца пры параўнанні аднаго і таго ж тэксту, напісанага ў розныя часы. Так, у Псалтыры сярэдзіны XVI ст. яшчэ часта ўжываюцца дзеепрыметнікавыя словазлучэнні, якім у Псалтыры XVII ст. адпавядаюць апісальныя звароты.

| **Псалтыр XVI ст. (132—132б)** | **Псалтыр XVII ст. (156—157б)** |
|---|---|
| вчинившемоу чꙋда великие | тотъ которий самъ чинит чꙋда великие |
| оутвердившемꙋ землю на водах | того которий ꙋтвердилъ землю над водами |
| поразившему египта с первенцп их | того которий поразил египтяны з перворолными ихъ |
| разделившему чермное море на розделы | того которий роздѣлил море чирвоное |

Па меры заняпаду ў старабеларускай пісьменнасці актыўных дзеепрыметнікаў прошлага часу на *-вш-, -ш-* у беларускіх помніках усё большае пашырэнне атрымлівалі актыўныя дзеепрыметнікі прошлага часу на *-л-*, па паходжанню агульныя з нячленнымі формамі дзеепрыметнікаў на *-л*, што ўваходзілі ў склад перфекта, плюсквамперфекта, другога будучага часу і ўмоўнага ладу. Але членныя дзеепрыметнікі на *-лый* прайшлі неаднолькавы шлях развіцця. Беспрыставачныя формы на *-лый* выйшлі з сістэмы дзеяслова і ператварыліся ў прыметнікі: *гнилый, горелый, минулый, рослый, талый, чꙋлый* і г. д.

У адрозненне ад гэтага прыставачныя формы дзеепрыметнікаў на *-лый* яшчэ захоўвалі сувязь з дзеясловам, аднак ужываліся не толькі ў ролі выказніка, але

і азначэння. На працягу ўсяго старабеларускага перыяду ў помніках зафіксаваны наступныя найбольш часта ўжывальныя формы: *впалый, всталый, выкислый, выпалый, выпеклый, высхлый, вышлый, дозрѣлый, завиталый, зав▪залый, загнилый, закаменѣлый, замерзлый, запалый, запаметалый, заплакалый, запꙋстелый, зарослый, засньлый, застарѣлый, затвердѣлый, захорѣлый, збѣлѣлый, зболѣлый, зветшалый, звонтпѣлый, звѧлый, згиблый, згрыбѣлый, згинулый, згнилый, зголоднелый, згорѣлый, здичалый, здохлый, змерлый, зомлѣлый, зосталый, зхорелый, зчернѣлый, незвѧнꙋлый, ѡбридлый, ѡброслый, ѡвдовѣлый, овродѣлый, огнилый, ѡгорѣлый, ѡдпалый, ѡдрентвѣлый, ожилый, ѡзѧблый, ѡмерзлый, опалый, ѡтпалый, ѡпустелый, ѡпухлый, ѡтѧжалый, осѣлый, ѡсиплый, осиротѣлый, ѡслабѣлый, отемнѣлый, погиблый, погинулый, подлеглый, позвѣтшалый, померлый, посивѣлый, потѣмнѣлый, похилый, прибылый, привыклый, прилеглый, прилиплый, припалый, сплѣсн▪лый, спорохнѣлый, спꙋстошалый, стонꙋлый, стрꙋхлѣлый, схꙋделый, ꙋвѧлый, ꙋмерлый, ꙋпалый, ꙋснꙋлый, ꙋсохлый, ꙋтонꙋлый.*

Пры разглядзе гэтага разраду форм найбольшае значэнне мае вызначэнне іх генезісу ў беларускай пісьменнасці. Наяўнасць у дзелавых помніках утварэнняў тыпу *вымерлый, збеглый, зосталый, оселый, осиротелый, подпилый, померлый, прибылый, прилеглый, припалый, схоралый* і іншых служыць пераканаўчым сведчаннем існавання іх у народнай беларускай мове. Аднак найбольшая колькасць такіх утварэнняў фіксуецца якраз не ў дзелавой пісьменнасці, а ў рэлігійнай, і радзей — у свецкай. Неаднолькавая таксама і іх храналогія. З помнікаў канца XV ст. дзеепрыметнікі гэтага тыпу адзначаюцца ў перакладзеных з польскай мовы апакрыфічных творах Пакуты Хрыста і Аповесць аб трох каралях-валхвах: ѡсиплым голосом слышали его говорѧчего (Пак. Хр., 13); видели маткоу ѡто все потехи ѡпоустелоую (там жа, 15); николи тоут оумерлыи так пышно се не поставлѧли (там жа, 25б); тот город и монастырь на той горѣ оуже ѡпоустелыи и поусты стали (Валх., 74).

У помніках першай палавіны XVI ст. такія дзеепрыметнікі прадстаўлены адзінкавымі прыкладамі: толико ж класовъ тонкихъ и ꙋвѧлыхъ выростало (Скар. КБ, 74); дайте питье погибломꙋ (Зб. 262, 109б); елъ бы еси хлебъ выкислый и выпеклый (Арыст., 56); заблꙋдил есми ▪ко ѡвча згиноулое (Пс. XVI, 125б).

Прыкметная экспансія дзеепрыметнікаў на *-л* у беларускую пісьменнасць пачалася ў першай палавіне XVII ст. Тут звяртае на сябе ўвагу факт, што такія дзеепрыметнікі адзначаюцца пераважна ў перакладах з польскай мовы або ў помніках, мова якіх наогул шырока адлюстроўвае польскі ўплыў. Ужо В. Цяпінскі ўжывае іх зрэдку пры передачы значэння царкоўнаславянскіх дзеепрыметнікаў цяперашняга часу на *-щ-* або прошлага на *-ш-*: блажени алчющеи и жажъд8щеи правды — бологие зголоднелые и прагн8чие справедливости (5б); Ідете жѣ паче ко овцамъ погибшимъ — Идите пак раднѣй къ овцамъ погинулымъ (12б). У помніках XVII ст. такіх дзеепрыметнікаў сустракаецца вельмі многа: без нашего пановань земль могла бы ѧко вдова ѡсиротѣлою быт (Алекс. XVII, 9); ѡни з кваплевостю прибѣгли и видѣли василиска здохлого (там жа, 37); ѡт працы и голод8 былъ велми зомлѣлый (Біблія, 321); дом божий згорѣлый знов8 збудованый (там жа, 601); ѡн см8тный и ѡчи заплакалые маючи седит (Бельск., 320); над оупалыми змилованѧ заживайте (Каліст, 47б); барзо прикро то бываетъ зболѣлом8 з дом8 выходити (там жа, 55); потемнѣлый домъ ѡсвѣтилъ (Мак., 92); вынес оутон8лого межи звѣрми лежачого (там жа, 99); выправилъ и оупахалъ д8ш8 зап8стѣлую (там жа, 271); все тѣло его было х8дое и зчернѣлое (Варл., 156); заледве познаный быти моглъ, ѧкъ ѡт слнца б8д8чи зчернѣлый и волѡсами ѡброслый и ѡбличѥе маючій высхлое (там жа, 342б); его ѡбачыл постами зомлѣлого и зхорѣлый жолудокъ его (Зб. 752, 494б); голов8 вжо мѣлъ праве стр8днѣлую (Зб. 82, 333).

Такім чынам, можна лічыць, што народная беларуская мова з'явілася асновай для ўтварэння дзеепрыметнікаў на *-л*, а польская мова паслужыла своеасаблівым каталізатарам, што пасадзейнічаў распаўсюджанню іх у літаратурнай старабеларускай мове.

Дзеепрыметнікі цяперашняга часу залежнага стану з суфіксам *-м-* у параўнанні з іншымі разрадамі дзеепрыметнікаў былі найменш ужывальнымі ў старабеларускай пісьменнасці. У вывучаных тэкстах адзначаюцца найбольш часта наступныя з іх: *видимый, закалаемый, знаемый, зовемый, крещаемый, любимый, м8чимый, называемый, нарицаемый, невидимый, негасимый, недовѣдомый, незнаемый, ненавидимый, непобедимый, непостижимый, непроходимый, ожидаемый, окрадаемый, оповѣдаемый, оремый, оферуемый, питомый, покланѧемый,*

*посекаемый, посылаемый, причащаемый, рознашаемый, р8хомый, славимый, уморѦемый, хвалимый, ѣдомый.*

Аднак у пісьменнасці такія дзеепрыметнікі размяркоўваюцца неаднолькава ў жанравых і храналагічных адносінах. Дзеепрыметнікі тыпу *знаемый, зовемый, любимый, оремый, рухомый* адзначаюцца ў дзелавой пісьменнасці і фіксуюцца ў матэрыялах XVI ст. Тут яны, па сутнасці, выступаюць у значэнні прыметнікаў.

У канцы XVI і ў XVII ст., калі беларуская літаратурна-пісьмовая мова зноў пачала падвяргацца ўплыву з боку царкоўнаславянскай мовы, дзеепрыметнікі на *-м-* зрэдку пачалі выкарыстоўвацца ў помніках рэлігійнага зместу. Яны трапляюцца, напрыклад, у Казанні Кірыла Іерусалімскага 1596 г., Евангеллі Каліста 1616 г., у Гісторыі аб Варлааме і Іаасафе 1637 г. і, нарэшце, у Зборы выпадкаў кароткім 1722 г. Друкаваныя старабеларускія кнігі, як вядома, у параўнанні з рукапіснымі помнікамі ў большай меры адлюстроўвалі сувязь з царкоўнаславянскай мовай: в непроходимы*и* поломе*н* огнисты*и* во*и*де*м* (Каз. Кір., 30б); вѣчне еднакъ той же поклонѦемъ и хвалимъ пребываетъ (Каліст, 138б); одинъ в дв8хъ прироже*н*Ѧхъ славимый и поклонѦемый (там жа, 296); першимъ мѣсѦцемъ естъ квѣтень, называемый Априль (Мак., 56); вси речи, ѩкъ видомые, та*к* и невидомые, з ничего створы*л* (Варл., 47); Причащаем8сѦ пѦтъ речей потреба (Зб. вып., 25); Потребна естъ крещаемымъ дорослымъ пок8та (там жа, 7б). Прыведзенымі прыкладамі, зразумела, не абмяжоўваецца выкарыстанне дзеепрыметнікаў на *-м-* у друкаваных кнігах, тым не менш няма падстаў лічыць іх нармальнай граматычнай катэгорыяй.

Беларускія кніжнікі сутыкаліся са значнымі цяжкасцямі пры перакладзе на беларускую мову царкоўнаславянскіх тэкстаў, дзе дзеепрыметнікі на *-м-* выступалі даволі часта. У гэтых адносінах асабліва паказальнай з'яўляецца перакладчыцкая дзейнасць В. Цяпінскага. Зусім рэдка ён ужывае падобныя дзеепрыметнікі і ў беларускім тэксце: родисѦ ис8съ нарицаемыи хрыстосъ — народилсѦ исъ называемыи хсъ (2б).

У большасці выпадкаў царкоўнаславянскія дзеепрыметнікі на *-м-* Цяпінскі перакладае формамі дзеепрыметнікаў залежнага стану прошлага часу з суфіксамі *-н-* або *-т-*: *беснуемый — бешоный, видимый — виденый, вметаемый — вкидываный, глаголемый — мовеный, искушаемый — кушоный, ненавидимый — ненавиденый, одер-*

*жимый — знѦтый, попираемый — потоптаный, посекаемый — вытѦтый* і г. д.: древо иже не творит плода добра, посекаемо бываеть и во огнь вметаемо — дерево, которое не чинит овощ8 доброго, вытѦто бываеть и до огнѦ вкидывано (4); привѣдоша к нем8 всѦ болѦщаѦ различными недуги и страстьми одержимы — приводили до него вси хорие розличными немоцъми и м8ками знѦтыхъ (5б); будете ненавидими въсеми ѩзыки — будете ненавидени ѡт всихъ народовъ (33б).

Затое дзеепрыметнікі залежнага стану прошлага часу, утвораныя пры дапамозе суфіксаў *-н-* або *-т-*, у старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове не мелі ніякіх абмежаванняў. Пры гэтым найбольш пашыраны былі формы з суфіксам *-н-*, прычым яны ўжываліся і ў дзеепрыметніках, якія ў сучаснай мове могуць афармляцца суфіксам *-т-*: *вкиненый, выкиненый, киненый, откиненый, покиненый, скиненый; притисненый, стисненый, утисненый:* чвороногии быдла в море вкиненыи тон8тъ (Мак., 123); ѡт славы своеи выкинены зостали (Пс. XVII, 28б); кинено еи лвице ѩдовитой (Зб. 82, 374б); нашол дѣтѩ ѡное царское на п8щи покиненое (Тр. гіст., 67б); частокрот оубогыи люди бываютъ оутіснены (Вісл., 17); 8зрѣлъ есми над собою рук8 стѩгнен8ю (Зб. 752, 464б). Трапляюцца выпадкі варыянтных форм у адным і тым жа помніку: евстратий ѡб8вен был в боты желѣзные (Зб. 82, 245) — ѡб8тый был в боты желѣзныѩ (там жа, 243); шатою приѡдѣтыми сталистесѦ (Каліст, 47б) — былъ Іѡанъ приѡдѣныи шерстю велблюдовою (там жа, 275б). У ранніх помніках ад дзеяслова *замкнути* ўжываецца форма *замкнутый,* пазнейшыя творы фіксуюць толькі варыянт *замкненый:* пѣнѦзи колко тисеции летъ оу скарбехъ лежали замкноутые (Пак. Хр., 1); черес замкноутые двери до апостолов оушол (там жа, 25б); до своих ѡцевъ замкноутыми оулицами оушол (Валх., 49); Ерихонъ замкненый был и 8зброенъ (Біблія, 238); замкнены сут 8ста его (Кн. Мак., 59); замкненые двери сердечные ѡтца его ѡдтворилъ (Варл., 315).

Дзеепрыметнікі ад дзеясловаў з асновай на губныя *б, в, м, п* у беларускай мове ўжываюцца з эпентэтычным *л,* і такія формы выступаюць пануючымі ў беларускай пісьменнасці на працягу ўсяго старажытнага перыяду: *вправленый, вславленый, вымовленый, збавленый, злупленый, зробленый, купленый, мовленый, оздобленый, ослѣпленый, охромленый, поставленый, потлумленый, справленый, страпленый, уловленый, уставленый* і г. д.

Але ў эпоху актыўнага ўздзеяння польскай мовы на беларускую ў пісьменнасці пачалі ўжывацца дзеепрыметнікі польскага ўтварэння без эпентэтычнага *л*: *вправеный, вславеный, выбавеный, вымовеный, выставеный, заслепеный, затопеный, збавеный, згубеный, злупеный, мовеный, накорменый, оздобеный, ослепеный, отправеный, пограбеный, погребеный, постановеный, потопеный, пошлюбеный, справеный, страпеный, трапеный, уздоровеный* і інш. Такія ўтварэнні адзначаюцца ўжо ў перакладзенай з польскай мовы ў канцы XV ст. Аповесці аб трох каралях-валхвах: люди здалека смачнего запахꙋ были напо*л*нены, ѡхложены и оуздоровены (75б); оу кацерьстве не соу*т* ѡслепены (80); бо*г* злости ихъ заслепеной терпети не хоче*т* (90б). Асабліва актывізаваліся дзеепрыметнікі такога ўтварэння ў пісьменнасці з канца XVI ст.: тотъ маеть чоловека пограбеного и грабежъ навезати (Ст. 1588, 384); погребены*й* есть в дому свое*м* на пꙋстыни (Біблія, 409); Страпены*й* голодо*м* дале*й* не мѣ*л* што чини*т* (Бельск., 27); чисто*ст* раз богꙋ пошлюбенꙋю до смерти заховали (Выкл., 4); апосто*л*скою цнотою бы*л* ѡздобены*й* (Зб. 255, 128б). У большасці выпадкаў такія дзеепрыметнікі ўжываліся паралельна з беларускімі іх адпаведнікамі.

У беларускіх помніках рэлігійнага і свецкага характару XVII ст. атрымалі пашырэнне формы з падвоеным *н* у суфіксе: *благословенный, боговозлюбленный, богоизбранный, воображенный, воплощенный, воспитанный, вызволенный, дарованный, збавенный, зволоченный, зотворенный, купленный, приказанный, розслабленный, роспаленный, умоленный.* З падвоеным *н* трапляюцца нават дзеепрыметнікі ад запазычаных дзеясловаў: *зафрасованный, змордованный, обѣцанный, облигованный, приоздобленный:* о вѣре розслабленного домышлѦтисѦ можемо (Каліст, 34); не хочемъ бытъ зволоче*н*ными, але при*ѡ*болоче*н*ными (Варл., 153); его искали во *ѡ*дно*м* гробе зотворе*н*ного (Жыц. св., 92); вложили роспале*н*ные желѣза во ꙋшы его (Зб. 752, 315б); вси тые слова збавенные на вѣте*р* пошли (Зб. 107, 65); мѣлъ ѡбѣца*н*ную дорогꙋ до иерꙋсалиму (Зб. 82, 319б); в то*й* вѣре ꙋме*р*ти хочу, в которо*й* есми ѡкреще*н*ный (Пролаг, 487); тыи вси не сꙋтъ облигованныи до слꙋха*н*Ѧ слꙋжбы (Зб. вып., 30б).

Дзеепрыметнікі прошлага часу залежнага стану ўжываліся як у атрыбутыўнай, так і прэдыкатыўнай функцыі. У ранніх беларускіх помніках у прэдыкатыўнай

функцыі ўжываліся выключна дзеепрыметнікі мужчынскага роду ў іменнай форме: емȣ в ночи конь украден (Вісл., 22б); хто бȣдет раненъ а люб ȣ которомъ члонъкȣ ωхромленъ (там жа, 23); створител за такъ марные пѣнѧзи есть проданъ (Пак. Хр., 1б); сотона зостал посеред пекла и стоял зесромочон и выкинен (там жа, 29б). У такой форме дзеепрыметнікі ўжываліся і ў пазнейшай пісьменнасці на працягу ўсяго старажытнага перыяду, хоць для пазнейшага часу яны выступалі ўжо як традыцыйныя. Разам з тым у помніках XVII ст. усё большае пашырэнне атрымлівалі і поўныя, займенныя формы дзеепрыметнікаў у ролі выказніка. Помнікі даюць вельмі многа прыкладаў такога ўжывання: был приωдѣный шатою (Алекс. XVII, 37б); во ωбчии рȣки яко злочинца выданый и проданый естем в неволю (Біблія, 85); отецъ их былъ Іона, не оный ωт кита пожертый и выкиненый, але иншій (Каліст, 7б); Онъ то былъ ωд збойцов зраненый и наполы мертв покиненый (Мак., 287); михайло калафат з цесарства выкиненый и ωслѣпленый был (Бельск., 379); потом был посланый до крева и на смерть ωсȣжоный (Стрыйк., 547); огонь на потребȣ людскȣю естъ створеный (Варл., 239б); зновȣ до вязеня вкиненый былъ (Дыяр., 160б); былъ есми попхненый и похиленый (Пс. XVII, 130); въ тои час и папа римскии выгнаныи был (Жыц. св., 108); еще малым млоденцем до риму посланый ест на наȣку (Пролаг, 486б); был найвышъшым пастырем постановеный (Зб. 255, 140); тое ж ночы пришло войско и забитый естъ цар ωный (Зб. 752, 297); дом мой на моцной скалѣ збудованый ест (Зб. 82, 376).

Яркай асаблівасцю сінтаксічнага ўжывання дзеепрыметнікаў прошлага часу было выступленне іх у значэнні выказніка ў безасабовых сказах у застылай форме ніякага роду адзіночнага ліку. Пры выказніку ў такіх выпадках стаіць прамое дапаўненне, выражанае назоўнікам, займеннікам або субстантываваным словам. Такое ўжыванне адзначаецца ў перакладных помніках з канца XV ст.: на его селищи хлѣбъ продавано (Валх., 44); ωное детѧтко дано на наоуку (Жыц. Ал., 97). Асабліва многа прыкладаў такога ўжывання даюць перакладныя помнікі канца XVI і першай палавіны XVII ст.: ихъ ωбѣихъ тутъ же забито (Трыстан, 12); было тѣло его покинено на дорозѣ (Біблія, 427); не дано их ховат в землю, але их в ωдно ωзеро повкидано (Хр. польск., 4); коня под кролем забито (там жа, 8б); Зараз его пой-

мано и 8 вѧзенню стѧто (Бельск., 205б); там лодю з ними запалено, и всѣх водою и ѡгнем пог8блено (там жа, 285); всюды ѡбразы л8пено, топтано и в болото метано (там жа, 366); всѣхъ поймано и до гетмана приведено (Стрыйк., 594б); Клеѡпатр8 жен8 его нов8ю поймано и ѡкован8ю до риму проважено (Рым., 81б); потым забито его на войне (Жыц. св., 21); едных стинано, др8гих ѡгнем палено (Зб. 107, 96); их мѣто за пиѧных (Зб. 255, 65б); ѡдныхъ ѡкр8тне жылами воловыми бито, др8гихъ палено (Зб. 752, 60б); всюды за его панованѧ хрестиѧн м8чено, имано и стинано и розмаите мордовано (там жа, 162).

У навуковай літаратуры такія канструкцыі разглядаюцца як спецыфічная асаблівасць польскай мовы. Прыведзеныя прыклады, выяўленыя пераважна ў перакладах з польскай мовы, даюць падставу лічыць польскую мову як крыніцу іх для беларускай пісьменнасці. Але дзеепрыметнікі ў такой функцыі шырока адлюстраваны і ў арыгінальных беларускіх помніках: ихъ к роботе приставлѧно (Будны, 91б); 8 заберезинского за тым гнѣвомъ воеводъство троцкое взѧто и дано миколаю радивилу (Рач., 138); тых всихъ по замкохъ литовских послано 8 везэне (там жа, 140б); людей его наголову побито (там жа); Ее оу варшавѣ принѧти не хѡчено (Апакр., 34); имъ тое не было за зле мѣто (там жа, 42); жадного местьца на томъ соборе имъ не дано (Бер. саб., 4); в пѧтом року почато ме бавить на8кою р8скою (Еўл., 1); ранено ме в руку лев8ю (там жа, 10б); ѡтдано то подсудковство мне и привилей ми на то принесено (там жа, 40); в том мене ѧк варом ѡблито (Дыяр., 149); мнѣ там всюды ѧлм8жъны не дано (там жа, 149б). Асабліва паказальным з'яўляецца матэрыял Баркалабаўскага летапісу, мова якога вельмі абмежавана адлюстроўвае польскі ўплыў. Між тым тут такія канструкцыі вельмі распаўсюджаны: на тот час дано ем8 воеводство киевское (137б); 8 месте могилеве поховано албо погребено его (138б); взѧто на кролевство полское кролевича шведскаго жикгимонта третего, а короновано 8 кракове (143); там же того Самуйла 8бито, а поховано 8 киеве (163б).

Дзеепрыметнікі ў такім значэнні часта выкарыстоўваюцца і ў беларускай дзелавой пісьменнасці, якая ў адрозненне ад іншых жанраў у меншай меры адлюстроўвае польскі ўплыў: того Сурмина за то вжо скарано тогды, коли поймано (КПД, 532); того Лаврина пограблено

(КСД, 493); братанича моего тимоша дороневича в домȣ его забито (КВЗС, 29б); за то тебе в ризе дȣбъцы бито (там жа, 51); украдено з дому котелъ пивный (АВК, XXVI, 477); ѡт того всего мыто и мостовое брано быть не маеть (Ст. 1588, 39); колько бы раз ѡ то его позвано (Ст. 1588, 174).

Наяўнасць у сучасных беларускіх гаворках выразаў тыпу *грыбы пазбірана, дом замкнёна, дровы пабіта* сведчыць аб самастойнасці іх у беларускай мове.

## ДЗЕЕПРЫСЛОЎЕ

Дзеепрыслоўі генетычна ўяўляюць сабой кароткія формы дзеепрыметнікаў, якія рана страцілі здольнасць выступаць у атрыбутыўнай функцыі і замацаваліся ў ролі іменнай часткі састаўнога выказніка, дзе здаўна пануючай была форма назоўнага склону адзіночнага або множнага ліку. Пераўтварэнне кароткіх дзеепрыметнікаў у нязменныя дзеепрыслоўныя формы адбывалася адначасова па ўсёй усходнеславянскай моўнай тэрыторыі, але марфалагічнае афармленне іх было неаднолькавым. У беларускай мове, як і ва ўкраінскай, у цяперашнім часе перавагу атрымалі формы жаночага роду адзіночнага ліку тыпу *беручи, идучи, несучи* ў адрозненне ад рускай мовы, дзе замацаваліся формы мужчынскага і ніякага роду *беря, идя, неся.*

Беларускія пісьмовыя помнікі канца XV — пачатку XVI ст. якраз і адлюстроўваюць гэту стадыю пераўтварэння кароткіх дзеепрыметнікаў у дзеепрыслоўі, у сувязі з чым агульны малюнак іх ужывання выглядае стракатым у фармальных і сінтаксічных адносінах. Помнікі гэтага часу даюць яшчэ прыклады выкарыстання кароткіх дзеепрыметнікаў у функцыі азначэння, прычым яны захоўваюць дапасаванне ў родзе і ліку і нярэдка афармляюцца па царкоўнаславянскаму ўзору з дапамогай фарманта *-щ-*: оувиделъ на стȣденци ведро имоуще вжище власѧно (Чэцця 2б); ѡпослѣ их ѩвисѧ жена свѣтлое носѧщи ѡдѣние (там жа, 63б); тыи то три королеве в теле живоуще искали и хвалили его (Валх., 38б). Зусім натуральным з'яўляецца ўжыванне такіх форм у выданнях Ф. Скарыны: ȣказаласѧ естъ Ревека идущи и несущи ведро на плечи своемъ (КБ, 43); Они лежаху по земли ѩдуще и пиюще (ПЦ, 62б); шло естъ все множество людеи за нимъ трубѧще и радующесѧ (ТЦ, 122б); бу-

дете е розмолвѧти седѧще в домех своих, и ходѧще путем своим ложащесѧ и вставающе (ДЗ, 17б).

Аднак у беларускай пісьменнасці пазнейшага часу дзеепрыслоўі на *-щ-* не сустракаюцца зусім, ва ўсіх помніках яны паслядоўна выступаюць з усходнеславянскім фармантам *-ч-*. У гэтым заключаецца іх адрозненне ад дзеепрыметнікаў, якія і пазней яшчэ знаходзіліся пад уплывам царкоўнаславянскага афармлення.

Старыя формы дзеепрыметнікаў на *-а/-ѧ* ў значэнні дзеепрыслоўяў яшчэ трывала захоўваюцца ў помніках канца XV — пачатку XVI ст. Звычайнымі яны выступаюць у Чэцці 1489 г., у Пакутах Хрыста, Аповесці аб трох каралях-валхвах і ў летапісах: пошо*л* ꙗкимъ ра*ду*ꙗсѧ к женѣ своей (Чэцця, 15б); вито*в*тъ приеде оу вилно хотѧ ю засѣсти (Віл., 446б); бы*л* же симо*н* петръ стоꙗ и греѧсѧ (Пак. Хр., 7б); то вчинилъ есми стерега своеи головы (Супр., 90); бы*л* ѡныи кормилець приношаѧ хлѣбъ (Зб. 262, 114). Такія архаічныя ўтварэнні ў выданнях Ф. Скарыны маюць значэнне асноўнай граматычнай нормы: былъ естъ зѧть в доме тьстѧ своего три дни ꙗдѧ и пиѧ с нимъ и веселѧсѧ (КС, 4б); ꙗ стоѧ над нимъ доби*х* его (ДЦ, 66б); Авраамъ же идѧше с ними провожаѧ ихъ (КБ, 32); шолъ естъ за нею мужъ еꙗ плача (ДЦ, 71).

Помнікі гэтага часу даюць многа прыкладаў, дзе былыя формы мужчынскага і ніякага роду на *-а/-ѧ* ўжываюцца ў значэнні множнага або адзіночнага ліку ўсіх родаў: ѡні того месца не смотрѧть, не деръжа сором8 (Вісл., 10б); гоуѳы стоѧ*т* промежи себе не починаа ничого (Віл., 443); мы же поидемъ нанъ надѣѧсѧ на богъ (там жа, 445); ѡба поедуть в ра*т* ко ꙗкаилу, надеꙗ*с* на тыи правды (Увар., 9б); иныхь боꙗрь многи*х* постинали помщаа того Воидила (Акад., 178); из дитѧтко*м* исоусо*м* бегла ис тое коморки боѧсе жидо*в* (Валх., 70). Такія прыклады сведчаць аб знікненні ранейшых адносін у выражэнні роду і ліку.

У гэты ж час пануючае становішча ў пісьменнасці пачалі займаць формы дзеепрыметнікаў жаночага роду адзіночнага ліку, якія выцеснілі сабой ранейшыя родавыя і лікавыя формы. Утварэнні на *-учи/-ючи, -ачи/-ѧчи* фактычна выступаюць у якасці асноўнай нормы ў пісьменнасці канца XV — пачатку XVI ст.: Мик8ла сеючи тое полѧ и нашолъ т8ю мошн8 (Вісл., 32); нестеръ стоꙗчи тоу*т* голосно кликноулъ (Чэцця, 58б); оуси люди ѡколо стоѧчи моужове и жоны замоутилисе (Пак. Хр.,

22); АсирѦне придоша до шатра Олофернова хотечи обудити его (Скар. КЮ, 22); Сее видѦчи сынове Вениаминовы начаша ȣтекати (Скар. КС, 45б).

Некаторыя помнікі гэтага часу захоўваюць спецыфічныя рысы дзеепрыслоўяў, уласцівыя толькі ім. У тэкстах Зборніка Залускага і ў іншых помніках канца XV ст. яшчэ ўжываюцца формы назоўнага склону множнага ліку на *-че:* говорѦче сами в собѣ живот свои спросивше в Макидонью втечем (Алекс. XV, 1б); Мы ж сѣдим платѦче дань родȣ ихъ (Нік., 252б); веселилисе оуси едȣче и пьюче ис ним (Пак. Хр., 37); стоѦли здалека гледѦче на них видѦче как веселѦтсе хвалѦче бога (там жа, 33).

Чэцця 1489 г. з'яўляецца адзіным помнікам старабеларускай пісьменнасці, дзе уніфікаваныя дзеепрыслоўі цяперашняга часу канчаюцца на *-чо*, як у формах *говорѦчо, поведаючо, прибегаючо, радуючосѦ, славѦчо, хотѦчо:* сироты и вдовице падали прибегаючо со слезами (110б); ѡни пошли в поуть свои радуючосѦ (93); раскопали гробъ его, хотѦчо видѣти чомоу сѦ велѣл живъ закопати (45б).

Перакладзеная ў першай палавіне XVI ст. з чэшскай мовы Траянская гісторыя мае яшчэ адзін тып дзеепрыслоўяў, зусім невядомы іншым помнікам старабеларускай пісьменнасці: *бачюць, бранюць, будуць, бьюць, валчюць, видцюць, волаюць, дбаюць, жедаюць, идуць, могуць, приводцюць, прошюць, рекуць, роботȣюць, хцюць* і г. д. Знешне такія ўтварэнні падобныя на формы цяперашняга часу 3-й асобы множнага ліку, але ў кантэксце гэтага твора яны адпавядаюць дзеепрыслоўям *бачучи, боронѦчи, будучи, бьючи, валчучи, видѦчи* і г. д.: приказал ему зостать прошюць его и приказȣюць ѡбы пилне чул ѡ спижи (10); валчюць по шпицах напротивку троѧном велики шкоды оуделал (57); гекторъ ему забеглъ жедаюць взѦть менесцеѦ (60). Чужароднасць такіх утварэнняў адчувалася ўжо самімі старажытнымі кніжнікамі. Аб гэтым сведчаць шматлікія выпраўленні ў рукапісе, зробленыя нейкай асобай іншым почыркам: *будуць* выпраўлена на *будучи,* адпаведна *бьюць — бьючи, видцюць — видѦчи, волаюць — волаючи, идȣць — идȣчи, могуць — могучи, просцюць — просѦчи* і інш.

Аднак у помніках з канца XV ст. усё большае пашырэнне атрымліваюць формы жаночага роду на *-чи,* уніфікаваныя для ўсіх трох родаў і абодвух лікаў: хто нань посмотрит или чтучи ȣслышит (Судз. Каз., 203); мы ж

идемъ на него надеючисѦ на бга (Увар., 17б); пор8чник стоѧчи на правѣ реклъ (Вісл., 20б); закликали оуси рекоучи оукрижоуй албо распьни и́ (Пак. Хр., 9б). У помніках XVI і XVII стст. дзеепрыслоўі на *-чи* выступалі ў тым граматычным значэнні і сінтаксічнай ролі, якія ўласцівы і сучаснай беларускай мове. Яны асабліва часта выкарыстоўваліся ў гамілетычнай і апавядальнай літаратуры, дзе з іх дапамогай у лаканічнай форме перадаваліся разнастайныя адценні дадатковых дзеянняў, якімі суправаджаецца асноўнае дзеянне дзеяслова-выказніка: кнѧз роман... до сендомирскои земли зо всею моцю ѡбернулсѧ б8рѧчи, палѧчи, бер8чи и пленд8ючи села и мѣстечка (Стрыйк., 485); 8текаючих литва аж до ѡшмены реки гонила биючи, колючи, сек8чи, топѧчи и имаючи (там жа, 534); и теперъ еще оуставичне грѣшимо, досажаючи, кривдѦчи, потварѦючи, оболг8ючи, драпѣжачи, лихвѦчи, лихв8 з лихвы бер8чи, насмѣваючисѦ оур8гаючи (Каліст, 66б); живѣмо, чистот8 любѦчи, лзы выливаючи, скр8х8 захов8ючи, тѣло зневолѦючи, оупокорѦючи, и ѧкъ неволникомъ оборочаючи, а д8ш8 д8ховными словами и оучинками оживлѦючи и кормѦчи (там жа, 222); Сам на ѡсобности жив8чи, и голов8 оуставичне попелом посыпаючи, и тѦжкіе вздыханѦ вып8скаючи, и слезами сѦ ѡмываючи ѡдинъ самъ з тымъ самымъ всюды б8д8чимъ, розмовлѦлъ (Варл., 319б).

У рукапісных помніках другой палавіны XVI — першай палавіны XVII ст. прыкметна змянілася фанетыка-арфаграфічнае аблічча дзеепрыслоўяў цяперашняга часу: у суфіксе *-Ѧчи* замест Ѧ сталі пісаць *е*, а зацвярдзелае *ч* пачалі абазначаць напісаннем пасля яго літары *ы*. Так узніклі новыя арфаграфічныя варыянты тыпу *боронечы, видечы, гледечы, доводечы, ездечы, зычечы, личечы, мовечы, мыслечы, носечы, помнечы, просечы, радечы, робечы, седечы, стоечы, судечы, терпечы, ходечы, хотечы, чынечы* і г. д. Дзеепрыслоўі такога афармлення асабліва характэрны для Статута 1566 г., Аповесці аб Трыстане і Аповесці аб Баве, летапісу Рачынскага, а таксама для зборнікаў жыційнай літаратуры № 81, 82, 107, 255 і 752. Гэта яшчэ раз пацвярджае назіранне, што рукапісныя помнікі ў параўнанні з друкаванымі кнігамі былі больш прагрэсіўнымі ў адлюстраванні жывога вымаўлення. Значнай колькасцю такіх форм вызначаюцца і некаторыя друкаваныя кнігі, якія выходзілі з друкарні братоў Мамонічаў — Статут 1588 г. і Апісанне і абарона сабора рускага берасцейскага 1597 г.

Дзеепрыслоўі цяперашняга часу ў старабеларускай пісьменнасці нярэдка ўжываюцца ў складзе звароту «давальны самастойны», дзе раней выкарыстоўваліся дзеепрыметнікі з канчаткамі давальнага склону. Такое ўжыванне асабліва характэрна для летапісаў, але адзначаецца і ў іншых жанрах, нават у дзелавых помніках, што сведчыць аб наяўнасці гэтай канструкцыі ў жывой беларускай мове: идѹчи намъ к ризе и бѹдѹчи на дрѹи Ѳедко кострыца мене зсоромотилъ (КВЗС, 51); в тых часех пануючы тройденю ѹмерли ему ѡбадва браты (Рач., 119); и спѧчи ему там сонъ виделъ (Патр. П; 93); третего днѧ бѹдѹчи мнѣ в дорозѣ кон ми пал и здохлъ (Зб. 82, 187).

Старыя формы дзеепрыметнікаў на *-а/-ѧ* у новай функцыі дзеепрыслоўяў зрэдку трапляюцца і ў пазнейшых помніках. Асабліва характэрны яны для Аповесці аб Трыстане і Аповесці аб Баве, дзе адзначаюцца, напрыклад, *едѧ, кушаѧ, мога, наступаѧ, пиѧ, таѧ, ѹдараѧ, ѹступаѧ, хотѧ*: ѹвидели витези што идет конь наступаѧ на поводы (Трыстан, 49); почали сѧ рубати велми моцно велик часъ ѹдараѧ ѡдин другого (там жа, 11); был тамъ бѡво пѧть дней не едѧ ани пиѧ (Бава, 67б). Гэтыя формы трапляюцца і ў помніках XVII—XVIII стст., што можна разглядаць як вынік уздзеяння царкоўнаславянскай мовы на беларускую пісьменнасць: цесар видѧ молодост их и оуродѹ... нешто их оужалилсѧ (Жыц. св., 30); томѹ стый еремита слѹжити почал, ѹкрѣплѧа его (Зб. 107, 67б); даніилъ... трикрот на день склонѧѧ колѣни свои, кланѧлсѧ и молилъ (Зб. 82, 259б); маешъ ѐ зновѹ крестити, влѣваѧ водѹ на главѹ (Зб. вып., 8).

Дзеепрыметнікі прошлага часу, або дзеепрыметнікі закончанага трывання, абазначаюць дадатковае дзеянне, папярэдняе ў адносінах да дзеяння дзеяслова-выказніка. Пры пераўтварэнні ў дзеепрыслоўі яны прайшлі ўсе тыя стадыі, што і дзеепрыметнікі цяперашняга часу. У помніках XIV — пачатку XVI ст. яшчэ захоўваецца адрозненне па родах і ліках. Дзеепрыметнікі мужчынскага і ніякага роду адзіночнага ліку ўжываюцца з фармантамі *-въ, -дъ* і *-мъ*. Пераважная большасць дзеепрыслоўяў утваралася ад дзеясловаў з асновай на галосны пры дапамозе фарманта *-въ: въставъ, добывъ, забывъ, исцѣливъ, оковавъ, осадивъ, положивъ, послушавъ* і г. д.: назавтрие въставъ моуж тот пошол съ отрочатем (Чэцця, 7б); се слышавъ гѣмонъ разгнѣвалъсѧ вельми (Чэцця,

62б); *ωн* исполъчи*в* воѦ своѦ и поиде против8 имъ (Віл., 446); поидеть прочь, ωсадивь сии городы (Увар., 6б); Лаван*ъ* пак*ъ* воставъ в ночи поцелова дщеры своѦ и вн8ки своѦ, и благославивъ ихъ, навратилсѦ естъ в домъ свои (Скар. КБ, 59); милостникъ мои мелкн8въ прошолъ (Зб. 262, 84б).

Фіналь *-дъ* характэрна для дзеепрыслоўяў ад некаторых дзеясловаў з асновай на зычны. У помніках асабліва часта трапляюцца зыходныя і вытворныя формы ад дзеяслова *ити: шедъ, вшедъ, вышедъ, отшедъ, обышедъ, пошедъ, пришедъ:* никита... шедъ ко оцю своему почал говорити емоу (Чэцця, 30); Олофернъ вшедъ в землю ихъ облѦже наипервей градъ ВеѲулию (Скар. КЮ, 2); прішо*д* Ѳа*л*ко и оузѦлъ ем8 ме*ч* (Вісл., 26б). Такія формы адзначаюцца і ад некаторых іншых дзеясловаў з асновай на зычны: того ищи, а нашодъ к прав8 поставити (Судз. Каз., 203б); всѣдъ на конь самъ погналъ (Чэцця, 44б); сѣ*д* кнѦз великыи Кест8тіи оу вилни пошле*т* два члкы к полоцк8 (Віл., 441).

Дзеепрыслоўі ад былых інфінітываў з насавым галосным у аснове звычайна канчаюцца на *-мъ:* никола самъ вземъ сокир8 дрѣво посѣклъ (Чэцця, 88б); ωнъ *ж* тог*д*а не ωзе*м* вилни и поде к мистр8 (Віл., 446б); петръ выне*м* мечь свои и оутѦ*л* оухо правое малхоушови (Пак. Хр., 6б); снемъ перстень з руки своеѩ далъ и́ на руку его (Скар. КБ, 75б).

Дзеепрыметнікі, якія адносяцца да назоўнікаў жаночага роду адзіночнага ліку, паслядоўна ўжываюцца з фармантам *-ши:* вода соше*д*ши с высоты горнѦѩ приближисѦ к нима (Чэцця, 12б); Она же earnings вземши муки смеси с водою и роспустивши вделала ему кашку, и 8варивши выложила предъ него (Скар. ДЦ, 88б).

У ранняй беларускай пісьменнасці яшчэ трывала захоўваюцца дзеепрыметнікі множнага ліку назоўнага склону з фармантам *-ше*: аравити поимавше ихъ повели в землю свою (Чэцця, 92); емше его привели къ бра*т*у его (Віл., 438); живо*т* свои спросивше в макидонью втече*м* (Алекс. XV, 1б); анна и каипа ωтворивше листы почали потаи чести (Пак. Хр., 33б); то 8слышавше оуси злѦклисе (Жыц. Ал., 98б); тогда собравшесѦ вси пришли искати Давыда (Скар. ДЦ, 75—75б). Толькі ў некалькіх помніках канца XV ст. такія формы адзначаюцца з фармантам *-шо:* шодшо говорите мистроу (Пак. Хр., 31б); в рад8 оушодшо коупили за ни*х* змлю (Валх., 61); оучинившо зборъ препрѣли злы*х* х8лнико*в* (Чэцця,

48б); ωтрешившо замокъ оувоидоша въ клѣть (там жа, 92б). Пазнейшыя помнікі такіх утварэнняў не ведаюць зусім.

Усе вывучаныя помнікі гэтага часу адлюстроўваюць абагульненне формы жаночага роду з фармантам *-ши* — пераўтварэнне яе ў адзіную дзеепрыслоўную форму для ўсіх трох родаў абодвух лікаў: прішедши фалко и загасилъ свечю (Вісл., 27); пришедши звѣзда стала над печорою (Чэцця, 113б); поидоут къ троком и пришедши ωст8пѦт трокы (Віл., 442); ѧ то слышавши назад верн8лсѦ есми (Алекс. XV, 1); ритереве оузѦвши пѣнѦзи молъчати правды не могли (Пак. Хр., 31); то 8знавши ωлѣксѣюс реклъ сам оу себе (Жыц. Ал., 98); поидѣ Швитригаило во Оугры взѧвши Лоуческъ (Увар., 41б); они же подѦковавши царю и благославивши его, навратишесѦ в домы своѦ (Скар. ТЦ, 146б).

У помніках XVI—XVII стст. формы на *-ши* выступаюць асноўным граматычным сродкам выражэння папярэдняга дадатковага дзеяння: ωнаѦ марѧмка 8лезши 8 лазню студен8ю, голову ωткрывши, волосы росп8стивши, печк8 розметала (Барк., 157б); где бы што оу кого розмаитыми способами взѦвши, ωтнѦвши, выдравши и к8пивши том8 своем8 бридком8 бог8 на офѣр8 принесли (Каліст, 75б). Але ў пісьменнасці гэтага часу такія формы характарызуюцца разнастайнасцю арфаграфічных варыянтаў. Для друкаваных кніг характэрна традыцыйнае напісанне канцавога *-ши*, што было арфаграфічнай нормай яшчэ ў выданнях Ф. Скарыны: *бывши, давши, ехавши, живши, почавши, ставши, 8текши* і г. д. У рукапісных жа помніках часта сустракаюцца формы на *-шы* тыпу *взѦвшы, видевшы, давшы, купившы, мевшы, мовившы, почавшы, собравшы, ставшы*. У летапісе Рачынскага такія напісанні ўтвараюць асноўную арфаграфічную норму, у іншых помніках яны ўжываюцца паралельна з традыцыйнымі формамі на *-ши*.

На працягу ўсяго старажытнага перыяду ў пісьменнасці ад дзеясловаў з асновай на зычны ўжываліся дзеепрыслоўі на *-дши: шедши, вшедши, вышедши, дошедши, нашедши, пошедши, пришедши; сѣдши, всѣдши, высѣдши, засѣдши, зсѣдши, осѣдши, усѣдши; падши, впадши, нападши, припадши, спадши, упадши; ведши, выведши, приведши; едши, зъедши, наедшисѦ; накладши, ускладши* і г. д. Аднак у помніках XVII ст. побач з такімі ўтварэннямі адзначаюцца і новыя формы на *-вши* тыпу *вшовши, впавши, довѣвши, евши, знашовши, нашовши,*

*привевши, припавши, пришовши* і г. д.: Там же и вод8 нашовши, поломенъ прагненА оугасилъ (Варл., 340); пошовши на п8щ8 недалеко ωт места збудовал собе келю (Жыц. св., 87б); потомъ пришовши к собѣ реклъ д8хови (Зб. 107, 111б); сл8га ωн впавшы в роспач не хотѣлъ ехат до дом8 (Зб. 752, 50б); ωный слуга не знашовши ихъ в вирите, ехалъ до аѲины (Зб. 82, 350б). Такія канкурыруючыя формы трапляюцца нават у адных і тых жа помніках: 8падши прето сл8га кланАлсА емоу (Каліст, 61б) — 8павши прето товаришъ его оный просилъ его (там жа). Форм на *-вши* асабліва многа ў Евангеллі Каліста 1616 г. і ў Гісторыі аб Варлааме і Іаасафе 1637 г.

У некаторых помніках старабеларускай пісьменнасці адзначаюцца і своеасаблівыя дзеепрыслоўі прошлага часу, у якіх на месцы суфіксальнага *в* пасля галоснага асновы пішацца *л*: *взАлши, вслышалши, ωбернулшисА, ωтворилшисА, пожалши, пожилши, почалши, смолвилши.* Такія формы трапляюцца пераважна ў Псалтыры XVI ст.: ωберноулшис потешил мА еси (71); длА того вслышалши гсь и розгневалсА (80); обобрал двда роба своего, взАлши ωт стад овец их (81); ωтворилшис землА пожерла дафана (107б). Адзінкавыя прыклады такога тыпу сустракаюцца і ў іншых помніках XVI ст., але яны нідзе не маюць значэння нават другараднай нормы і ўспрымаюцца як апіскі. Існуе некалькі версій тлумачэння такога напісання. Падобныя формы верагодней за ўсё тлумачыць як арфаграфічны гіпернармалізм: змяненне ў вымаўленні канцавога *л* у *ў* у формах прошлага часу тыпу *был, дал, писал* при захаванні літары *л* у напісанні выклікала і напісанне *л* у дзеепрыслоўях, дзе таксама вымаўляўся гук *ў*.

У пісьменнасці XVII ст., несумненна, пад царкоўнаславянскім уплывам зноў пачалі пашырацца старажытныя формы дзеепрыслоўяў. Асабліва архаічную афарбоўку помнікам надаюць былыя формы мужчынскага і ніякага роду адзіночнага ліку тыпу *веземъ, исцеливъ, падъ, поехавъ, пришедъ, слышавъ, шедъ* і інш.: исцѣление веземъ ωтходит (Зб. 81, 25б); пришед до новагородка рознеможетсꙗ и 8мре без плод8 (Патр. П., 85б); Сіе же слышавъ великій кнАз ꙗгайло велми возрадовасА (Рост., 87б); ωн же шед плакашесꙗ горко 8чителꙗ своего (Зб. 752, 26б). Аднаўленнем старажытнай моўнай стыхіі можна лічыць і выкарыстанне ў функцыі дзеепрыслоўяў ранейшых дзеепрыметнікаў назоўнага склону

множнага ліку з фармантам *-ше*: м8жи псковскіе видевше его м8жа честна и раз8мна взѧли его собе господаремъ (Патр. П., 88б); его же юдее емше низрин8ша з верх8 црковнаго (Зб. вып., 88б); вси че*р*ницы па*д*ше поклонишасѧ флевиѧнови (Зб. 752, 579).

У цэлым дзеепрыслоўі, як і іншыя формы дзеяслова, выяўляюць усе тыя асноўныя тэндэнцыі, якія характарызуюць развіццё мовы ўсёй старабеларускай пісьменнасці. Традыцыйныя кніжныя дзеепрыметнікі пад уздзеяннем народна-дыялектнай стыхіі ператварыліся ў нязменныя дзеепрыслоўныя формы, якія ў пісьменнасці, поўнасцю адасобіўшыся ад сістэмы дзеепрыметніка, выступаюць у выглядзе самастойнай дзеяслоўнай формы ўжо з пачатку XVI ст.

## *ІНФІНІТЫЎ*

У беларускай пісьменнасці XIV—XVIII стст. выступаюць разнастайныя формы інфінітыва, што тлумачыцца неаднолькавым развіццём іх у народных гаворках і рознай ступенню ўздзеяння на беларускую пісьменнасць іншамоўных стыхій. Фактычна ў марфалагічных адносінах выяўляюцца тры тыпы інфінітываў, якія атрымалі розную рэалізацыю ў пісьмовых помніках: 1) інфінітывы з асновай на галосны; 2) інфінітывы з асновай на спалучэнні зычных і 3) інфінітывы з асновай на заднеязычныя *г* і *к*.

Першы тып інфінітываў быў асабліва распаўсюджаны, ён ахопліваў большую колькасць дзеясловаў. У старажытнарускай мове інфінітывы гэтага тыпу паслядоўна ўжываліся з фіналлю *-ти: говорити, носити, читати.* Аднак канцавы гук *-и* рана адпаў у вымаўленні, і інфінітывы без канцавога *-и* трапляюцца ўжо ў помніках XIII ст.

Самыя раннія выпадкі ўжывання інфінітываў на *-ть* адзначаюцца ў беларускіх граматах з пачатку XIV ст.: ѡнъ шолъ с темъ члвкомь соли вѣсить (Гр. 1300); хто име*т* тое закладывать (Гр. 1377); ѡ*т* кого будеть какаѧ обида нашему монастырю ино досмотрѧ*т* и боронить нам самимъ (Гр. 1399); будуть намъ личьбу давать (Гр. 1487). Зрэдку такія інфінітывы трапляюцца ў летапісах і некаторых рэлігійных помніках: изыиде понамарь ис цркви возыскать члвка (Чэцця, 149); николи противоу его не стоѧть (Увар., 3); бжье дела а человѣчии разоу*м* могли се згодить (Валх., 48б).

Аднак такія прыклады ў гэтых помніках далёкія ад значэння пісьмовай нормы, яны толькі сігналізуюць аб пэўным уздзеянні жывой народнай мовы на пісьмовую мову з яе традыцыйнымі сродкамі. Трэба таксама прымаць пад увагу і той факт, што адпадзенне ў інфінітывах канцавога *-и* адбылося толькі ў частцы беларускіх гаворак, а на значным абшары паўднёва-заходняга беларускага дыялекту старажытныя формы інфінітыва захоўваюцца і да нашага часу.

З помнікаў канца XV ст. наяўнасцю вялікай колькасці інфінітываў на *-ть* вылучаецца Вісліцкі статут. Тут побач з традыцыйнымі формамі на *-ти* тыпу *взѦті, дати, паствиті, платіті, смотрети, с8дити* вельмі шырока выкарыстоўваюцца формы новага ўтварэння *бороніть, брать, быть, взѦть, вѣрнуть, вык8пить, выдать, габать, гонить, дать, держать, ехать, забить, заплатить, иметь, ловить, платить, положить, с8дить, ховать, ш8кать* і інш.: не смееть веньци брать (22); имееть быть ѡс8женъ (30); ѡн ее не хочеть выдать (41б); не имет его габать ѡ граніцю (42б); вшистци в нашеи земли имають с8дить и под виною держать (10); имаеть вѣпрѦ ѡдног с правомъ забить (37б); ѡни имѣють ѡтповѣдать а любо платить (35); мы сказ8емь Міколаꙗ не сл8хать (23).

Інфінітывы на *-ть* Вісліцкага статута ў комплексе з іншымі беларускімі фанетычнымі і граматычнымі рысамі сведчаць аб беларускім паходжанні гэтага помніка, а не ўкраінскім, як гэта часам сцвярджаецца ў працах украінскіх даследчыкаў.

Значэнне варыянтнай нормы інфінітывы на *-ть* маюць у Кнізе караля Казіміра 1482—1491 гг., якая ўваходзіць у склад Літоўскай метрыкі. Тут трапляюцца формы *брать, быть, дать, держать, жадать, жить, кончыть, меть, сл8хать, чинить* і інш. Інфінітывы на *-ть* зрэдку трапляюцца нават у выданнях Ф. Скарыны: навернꙋлъ единого на место его подавать пити собѣ (КВ, 73б); Не имать быть речено тое (IС, 64б); Доколѣ храмать будете на обе стране (ТЦ, 170). Але пануючымі ў Скарыны выступаюць формы на *-ти*, што ўзгадняецца з нормамі тагачаснай царкоўнаславянскай мовы.

Аднак у цэлым ужыванне інфінітываў на *-ть* яшчэ не стала агульнай нормай беларускай пісьменнасці нават у першай палавіне XVI ст. Толькі каля сярэдзіны XVI ст. колькасць інфінітываў на *-ть* значна павялічваецца, што звязана з агульным працэсам дэмакратызацыі літаратурна-пісьмовай мовы і збліжэння яе з жывымі вымаў-

ленчымі нормамі. З помнікаў гэтага часу асабліва вылучаецца Троя, перакладзеная каля сярэдзіны XVI ст. з чэшскага арыгінала. Тут пануючымі выступаюць формы *бачить, быть, взѧть, воевать, дать, добыть, дрыжать, забить, зостать, казать, мовить, ωбронить, подать, познать, радить, стать, стрелѧть, сховать, оутекать, оутомить* і інш.

Многа інфінітываў гэтага тыпу ў Псалтыры, перакладзеным у сярэдзіне XVI ст. з польскай мовы: *быть, брать, дать, дѣлать, зослать, меть, молить, чинить* і інш. У сувязі з гэтым можна зрабіць заключэнне, што ў некаторых творах старабеларускай пісьменнасці інфінітывы на *-ть* распаўсюджваліся пад уплывам заходнеславянскіх моў, а наяўнасць такіх утварэнняў у беларускіх гаворках садзейнічала лёгкаму замацаванню іх у пісьмовай мове.

Аднак для дзелавой пісьменнасці вытокам новых форм інфінітыва трэба лічыць непасрэдна жывыя народныя гаворкі. Іменна такое паходжанне маюць інфінітывы ў Кнізе Віцебскага земскага суда 1533—1540 гг.: ѿ тыхъ хоч8 за пар8к8 дать (10); намъ ее пост8пить не хочеть (5б); пошолъ есми до светое причыстое вечерни сл8хать (53); ωни почали мовить (53). Гэтыя фразы з запісаў непасрэдных удзельнікаў судовых працэсаў вельмі ярка адлюстроўваюць жывую мову свайго часу.

Своеасаблівае выкарыстанне інфінітываў назіраецца ў Катэхізісе С. Буднага 1562 г. У прадмове да гэтага выдання ўжыта многа інфінітываў на *-ть: быть, выдать, давать, зачать, множить, обецать, ожидать, пропоминать, 8радить*. Але ў асноўным тэксце помніка такіх форм няма зусім, тут адзінымі выступаюць традыцыйныя формы на *-ти:* дети родителем$^s$ своим$^s$ повинни служити, любити, слухати, надъ тое живити, приодѣвати (67б). Такое разыходжанне ва ўжыванні інфінітываў можна тлумачыць, відавочна, тым, што прадмова і асноўны тэкст Катэхізіса былі напісаны рознымі асобамі.

Старабеларуская дзелавая пісьменнасць аказалася такой сферай пісьмовай мовы, дзе новыя інфінітывы на *-ть* атрымалі найбольшае распаўсюджанне. Ужо ў рукапісных спісах Статута Вялікага княства Літоўскага 1566 г. новыя інфінітывы выступаюць амаль нароўні са старымі на *-ти: боронить — боронити, быть — быти, вчинить — вчинити, дать — дати, меть — мети, мовить — мовити, тратить — тратити, ховать — ховати* і г. д. Многа інфінітываў новага ўтварэння і ў друкаваным Статуце 1588 г.: маеть се ωчевисто кожъдый ставит и датьсе по-

Аднак такія прыклады ў гэтых помніках далёкія ад значэння пісьмовай нормы, яны толькі сігналізуюць аб пэўным уздзеянні жывой народнай мовы на пісьмовую мову з яе традыцыйнымі сродкамі. Трэба таксама прымаць пад увагу і той факт, што адпадзенне ў інфінітывах канцавога *-и* адбылося толькі ў частцы беларускіх гаворак, а на значным абшары паўднёва-заходняга беларускага дыялекту старажытныя формы інфінітыва захоўваюцца і да нашага часу.

З помнікаў канца XV ст. наяўнасцю вялікай колькасці інфінітываў на *-ть* вылучаецца Вісліцкі статут. Тут побач з традыцыйнымі формамі на *-ти* тыпу *взѧті, дати, паствиті, платіті, смотрети, с8дити* вельмі шырока выкарыстоўваюцца формы новага ўтварэння *бороніть, брать, быть, взѧть, вѣрнуть, вык8пить, выдать, габать, гонить, дать, держать, ехать, забить, заплатить, иметь, ловить, платить, положить, с8дить, ховать, ш8кать* і інш.: не смееть веньци брать (22); имееть быть ѡс8женъ (30); ѡ*н* ее не хочеть выдать (41б); не име*т* его габать ѡ граніцю (42б); вшистци в нашеи земли имають с8дить и под виною держать (10); имаеть вѣпрѧ ѡдно*г* с правомъ забить (37б); ѡни имѣють ѡ*т*повѣдать а любо платить (35); мы сказ8емь Міколаꙗ не сл8хать (23).

Інфінітывы на *-ть* Вісліцкага статута ў комплексе з іншымі беларускімі фанетычнымі і граматычнымі рысамі сведчаць аб беларускім паходжанні гэтага помніка, а не ўкраінскім, як гэта часам сцвярджаецца ў працах украінскіх даследчыкаў.

Значэнне варыянтнай нормы інфінітывы на *-ть* маюць у Кнізе караля Казіміра 1482—1491 гг., якая ўваходзіць у склад Літоўскай метрыкі. Тут трапляюцца формы *брать, быть, дать, держать, жадать, жить, кончыть, меть, сл8хать, чинить* і інш. Інфінітывы на *-ть* зрэдку трапляюцца нават у выданнях Ф. Скарыны: наверн8л<sup>ѕ</sup> единого на место его подавать пити собѣ (КВ, 73б); Не имать быть речено тое (ІС, 64б); Доколѣ храмать будете на обе стране (ТЦ, 170). Але пануючымі ў Скарыны выступаюць формы на *-ти*, што ўзгадняецца з нормамі тагачаснай царкоўнаславянскай мовы.

Аднак у цэлым ужыванне інфінітываў на *-ть* яшчэ не стала агульнай нормай беларускай пісьменнасці нават у першай палавіне XVI ст. Толькі каля сярэдзіны XVI ст. колькасць інфінітываў на *-ть* значна павялічваецца, што звязана з агульным працэсам дэмакратызацыі літаратурна-пісьмовай мовы і збліжэння яе з жывымі вымаў-

тычна не маюць інфінітываў на *-ть*, у іх пануючымі выступаюць старыя традыцыйныя формы. Гэта з'явілася вынікам царкоўнаславянізацыі мовы беларускай пісьменнасці, што наступіла ў пачатку XVII ст. Інфінітываў новага ўтварэння няма, напрыклад, у Евангеллі Каліста 1616 г., у Казанні пахавальным М. Сматрыцкага 1620 г., у Бяседах Макарыя 1627 г. і г. д. У гэтых помніках паслядоўна захоўваюцца традыцыйныя інфінітывы на *-ти*: што за тр8дност$^{s}$ дш҃8 оупокорити, себе самог зневажити, в скромности роскохатисѧ, терпливость заховати, нѣкого не ос8жати, нѣкого не обмовлѧти, ближнихъ любити, и тымъ подобных и инших цнѡтъ постерегати (Каліст, 30); нелза ок8 без свѣтлости глѧдѣти, без ꙗзыка мовити, безъ оушью сл8хати, без ногъ ходити, а без р8къ робити (Мак., 23).

Ужыванне інфінітываў на *-ть* у рукапісных помніках другой палавіны XVI — першай палавіны XVII ст. прайшло такія ж стадыі, як і ў друкаваных кнігах. Іх вельмі мала ў летапісах, мова якіх у параўнанні з іншымі жанрамі больш трывала захоўвала традыцыі пісьменнасці папярэдніх эпох. Крыху часцей яны ўжываюцца ў перакладных свецкіх аповесцях — Аповесці аб Трыстане, Аповесці аб Баве, Гісторыі аб Атыле, Александрыі, Хроніцы польскай і Хранографе XVII ст. З другога боку, іх зусім мала ў беларускіх апрацоўках хронік М. Бельскага і М. Стрыйкоўскага.

Канцылярская кніга Льва Сапегі 1596—1598 гг., якая ўваходзіць у склад Літоўскай метрыкі, служыць узорам дзелавой пісьменнасці, дзе інфінітывы на *-ть* маюць значэнне асноўнай нормы. Вельмі распаўсюджаны такія формы ў рэлігійных рукапісных помніках XVII ст.— Бібліі, у зборніках гамілетычных і агіяграфічных твораў № 81, 82, 255 і 752: 8же болшей злого чинить не буд8 (Біблія, 350); Лукиꙗна шукати и поимать казалъ (Зб. 81, 32); самъ себе збавить, а мене згубить хочешъ (Зб. 82, 392б); ближнего ꙗко себе самого потреба миловать (Зб. 255, 98); все тое терпеть хочу (Зб. 752, 13б).

Аднак вывучэнне фактычнага матэрыялу паказвае, што ў цэлым інфінітывы на *-ти* былі асноўнай нормай старабеларускай пісьменнасці, а іх адпаведнікі на *-ть* займалі другараднае месца. Падтрымцы ў пісьменнасці традыцыйных форм на *-ти* садзейнічала, несумненна, існаванне іх у паўднёва-заходніх беларускіх гаворках, дзе яны захоўваюцца да нашага часу.

Апошняя друкаваная кніга на старабеларускай мо-

писать и шиховать гетманȣ нашомȣ (46); горломъ предъсе за то маеть быть каранъ (23); *ѡт* права не маемъ ничого пересудȣ брать (114); рыбъ з ставȣ кȣ потребе и живности свое*й* можеть ловить (295).

Евангелле В. Цяпінскага, выдадзенае каля 1580 г., з'яўляецца, па сутнасці, першай друкаванай рэлігійнай кнігай, дзе шырокае адлюстраванне атрымалі новыя інфінітывы на *-ть*: *быть, взѧть, выгнать, гамовать, дать, жениться, забить, збудовать, зватьсе, згоршить, змиловатьсе, искать, меть, мовить, остать, очистить, пить, показать, просить, свезать, слухать, спытать, стоѧть, хоронитьсе* і інш.: нехай не ворочаетьсе назадъ взѧть одежъ своихъ (34); почалъ петръ мовить ему (58); могу розрушить цѣрковъ божъю и за три дни збудовать ее (39). У гэтым помніку шырока ўжываюцца зваротныя інфінітывы тыпу *гнездитьсе, датьсе, женитьсе, зватьсе, змешатьсе, змиловатьсе, поститьсе, хоронитьсе* і інш. У інфінітывах гэтага тыпу праявілася тэндэнцыя да фанетычнага напісання, як у выпадках хотѧчомȣ судитца с тобою (7); А [illegible] мовлю вамъ не противитца лихомȣ (там жа). Інфінітывы такога афармлення зрэдку трапляюцца і ў некаторых іншых пазнейшых помніках, але яны нідзе не атрымалі значэння нормы.

Палемічны твор Апісанне і абарона сабора рускага берасцейскага 1597 г. з'яўляецца адной з друкаваных кніг, дзе формы на *-ть* выступаюць як асноўная норма, а ўтварэнні на *-ти* маюць значэнне другараднай, варыянтнай нормы. Яўная перавага ў гэтым помніку новых форм выразна відаць з наступных прыкладаў: Если то грехъ незгодные еднать, милость христиѧнскȣю споивать, покой костела и церкви хрыстовы ȣмоцнѧть, и дȣшамъ до спасеньѧ помагать (10б); его то самого ȣрѧ*д* есть *ѡт*кидать и радить, карать и потверъжать, становить, звезать и розвезать (32). Такі ж характар маюць формы на *-ть* і ў Уніі 1595 г., якая друкавалася ў той жа друкарні братоў Мамонічаў.

З друкаваных кніг XVII ст. наяўнасцю інфінітываў на *-ть* вылучаюцца Навука аб сямі тайнах царкоўных і Лямант у света ўбогіх 1620 г. Гісторыя аб Варлааме і Іаасафе 1637 г. з'яўляецца апошняй старабеларускай друкаванай кнігай, дзе інфінітывы на *-ть* яшчэ нярэдкія: розмовȣ зо мною мѣть замы*шл*ѧешъ (9б); Казалъ ихъ без милости бить (197б); иншȣю дорогȣ вынайдовать почалъ (338б); еще мало попрацовать потреба (351).

Іншыя беларускія друкаваныя кнігі XVII ст. прак-

ўтварэння ранейшага паўустаўнага пісьма ў скарапіснае. Адпаведна гэтай агульнай тэндэнцыі ў пісьменнасці павялічваецца і колькасць інфінітываў з вынасным *т*. Такія формы інфінітываў трапляюцца нават у друкаваных кнігах канца XVI ст. У Статуце Вялікага княства Літоўскага 1588 г. адзначаюцца інфінітывы быт (193), верыт (155), докладат (196), заплатит (367), зложит (196), написат (177), псоват (70), справоват (372), тратит (256) і інш.

З ліку старабеларускіх друкаваных кніг асабліва вялікай колькасцю такіх інфінітываў вылучаецца Апісанне і абарона сабора рускага берасцейскага 1597 г., дзе звычайнымі выступаюць формы быт, брат, верыт, вадит, друкават, жаловатсе, заседат, зватсе, искат, карат, к8пит, мет, пилноват, псоват, складат, слухат, 8стат, 8чинит, хотет і інш.

Аднак у далейшым ужыванне інфінітываў з вынасным *т* у друкаваных кнігах пайшло на спад, што тлумачыцца, відаць, складанасцю набору. Аб гэтым сведчыць і рэдкае ўжыванне вынасных літар у іншых граматычных формах.

У супрацьлегласць гэтаму ў рукапісных помніках XVII ст. колькасць інфінітываў з вынасным *т* няўхільна павялічваецца, што знаходзіцца ў адпаведнасці з агульнай эвалюцыяй скарапіснага пісьма. Асабліва многа інфінітываў з вынасным *т* у такіх помніках XVII ст., як Кароткае апісанне хронікі польскай, Біблія, беларускія апрацоўкі хронік М. Бельскага і М. Стрыйкоўскага, зборнікі № 81, 82, 107, 255, 752 і інш.: не могли священницы стоѧт и служит передъ мглою (Біблія, 417); по мор8 се возит, будоват и ωрат вамъ заборонено (Алекс. XVII, 34б); дал ему моцъ пит з золота, и ходит в шарлатѣ, и носит кнафель золотый (Кн. Мак., 62); лѣпей на войнѣ 8мерет анижли в неволи мешкат (Бельск., 217); зараз без вѣсти казала их киѧном своим и боѧром стинат, мордоват, колот, бит, сѣчъ и забиват (Стрыйк., 441); иных живых в землю казал загребат, стинат, палит, топит, пилами перетират, ωчи выймоват (там жа, 484); которие з вѧзенѧ вышедши почали робит, сѣѧт, ωрат, копат и господарством живности набыват (там жа, 614); козал з шат здет ее, козал велми бит ее розками (Зб. 752, 233).

У рукапісах XVII ст. вынасное *т* у формах інфінітыва ў большасці выпадкаў належыць чытаць як *-ть*. Такое меркаванне пацвярджаецца прыкладамі, калі ў тэкстах

побач адзначаюцца інфінітывы і на *-т*, і на *-ть*: его мѣл мѣть за приꙗтелꙗ и потреб ему додат (Кн. Мак., 51б); шꙋкал его поймат и забить (там жа, 62); почали собѣ живност кгвалтом брать, людем кривды чинит (Хр. польск., 16); слезы з очꙋ вылила, а перестать плакат не могла (Зб. 752, 51б).

У помніках канца XVI і першай палавіны XVII ст. паралельна з разгледжанымі вышэй тыпамі інфінітываў сустракаецца яшчэ адзін варыянт — інфінітывы на *-тъ*: *бытъ, мѣтъ, мовитъ, стоꙗтъ, терпетъ, умеретъ, шукатъ* і інш. У друкаваных кнігах канца XVI ст., якія выдаваліся друкарняй братоў Мамонічаў, літары ъ і ь вельмі часта ставяцца адна замест другой у канцы слоў розных граматычных катэгорый. Так, у Статуце Вялікага княства Літоўскага 1588 г. звычайнымі з'яўляюцца напісанні тыпу *волень (=воленъ), гатъ (=гать), денъ (=день), досытъ (=досыть), ѡбывателъ (=ѡбыватель), častъ (=часть)*; у Апісанні і абароне сабора рускага берасцейскага 1597 г.— *костель (=костелъ), пань (=панъ), тꙋть (=тꙋтъ), ꙋчителъ (=ꙋчитель)* і г. д.

Пры такіх арфаграфічных асаблівасцях помнікаў нельга бачыць у напісанні інфінітываў з канцавым -ъ якую-небудзь спецыфічную марфалагічную рысу, нягледзячы на тое, што інфінітываў такога афармлення тут вельмі многа: *бытъ, бꙋрытъ, взꙗтъ, выгꙋбитъ, выдаватъ, готоватъ, датъ, знатъ, крꙋшитъ, метъ, мовитъ, множитъ, нищитъ, ѡтказатъ, ѡстрытъ, позволитъ, радитъ, розвезатъ, слатъ, строитъ, топтатъ, ꙋдатъ, ꙋмретъ* і інш. Некаторыя з такіх інфінітываў знешне супадаюць з іншымі асабовымі формамі адпаведных дзеясловаў, але іх граматычнае значэнне выразна вызначаецца кантэкстам: тотъ делъ маеть бытъ чыненъ тымъ порꙗдкомъ (ст. 1588, 366); не ленимосе мовитъ ꙋсопшымъ ратункꙋ додатъ (Унія, 16); королъ его млсть водлꙋгъ жеданꙗ его милости позволитъ рачилъ (Бер. саб., 7б); ѡборону сполъное помочи датъ ѡѲерꙋютъ (там жа, 14б).

У гэтых помніках маюць месца выпадкі паралельнага ўжывання інфінітываў на *-ть* і *-тъ* у адных і тых жа сказах: ꙗ вашой вымовки и задаваньꙗ ꙋмею розвезатъ и рострыгнꙋть (Бер. саб., 42б); лепей ꙋпоръного минꙋть, нижли его противь собе ѡстрытъ (там жа, 27).

Інфінітывы такога афармлення трапляюцца і ў некаторых пазнейшых друкаваных кнігах. Асабліва многа іх у Гісторыі аб Варлааме і Іаасафе 1637 г., дзе пашыраны формы *бытъ, вѣдатъ, выкоренитъ, выховатъ, доказатъ,*

*дАковатъ, зостатъ, зроз8мѣтъ, любитъ, мешкатъ, назватъ, ѡтдатъ, поймать, провадитъ, роздаватъ, скаратъ, оучинитъ, ш8катъ* і г. д.: не хочемъ бытъ зволоченными (153); его назадъ хотѣли провадитъ (280); завше подданые до ѡбычаев пановъ своихъ прихилАютъсА, и тое любитъ и пріймоватъ звыкли, в чом пана своего кохаючогосА видАт (307); вси скарбы свои на оубогіе роздаватъ почалъ (308б).

Інфінітывы на *-тъ* сустракаюцца і ў некаторых рукапісных творах XVII ст.: хотѧт тебе ем8 податъ (Лет., 28б); до добрыхъ речей хоч8тъ се зноситъ (Барк., 149б); той его казал водою ѡкреститъ (Бельск., 241); не можемъ того мовитъ (Выкл., 100—100б). У такіх рукапісных творах, як і ў друкаваных кнігах, напісанне *ъ* замест *ь* мае месца і ў іншых катэгорыях слоў, напрыклад у Хроніцы М. Бельскага: *боѧзнъ, жизнъ, кораблъ, мыслъ, смертъ*. З рукапісных помнікаў XVII ст. асабліва вялікай колькасцю інфінітываў на *-тъ* вылучаецца Зборнік № 82.

Нарэшце, у некаторых друкаваных кнігах XVII ст.— перш за ўсё ў Гісторыі аб Варлааме і Іаасафе 1637 г. і Дзідаскаліі 1653 г.— адзначаюцца інфінітывы, дзе пасля канцавога *т* ставіцца значок $^s$: тое быт$^s$ не может$^s$ (Варл., 83б); в той речи тобѣ хоч8 быт$^s$ послушный (там жа, 303б); тѣло покармомъ треба было посилит$^s$ (там жа, 344—344б); прагнеть хто достат$^s$ на8ки (Дзід., прадм.).

Асабліва вялікай стракатасцю інфінітываў вылучаецца Гісторыя аб Варлааме і Іаасафе. Тут без якіх-небудзь відавочных заканамернасцей ужываюцца ўсе разгледжаныя вышэй тыпы інфінітываў: на *-ти (быти, вѣдати, мовити, ходити, ш8кати)*, на *-ть (бить, быть, вѣдать, знать, мѣть, оуробить)*, на *-т (быт, дат, мовит)*, на *-тъ (бытъ, вѣдатъ, любитъ, мѣтъ, ш8катъ)* і на *-т$^s$ (быт$^s$, знат$^s$, посилит$^s$)*.

У гэтай кнізе, мова якой наогул з'яўляецца адным з лепшых узораў старабеларускай пісьменнасці, скандэнсаваны характэрныя для XVII стагоддзя асноўныя тэндэнцыі развіцця пісьмовай мовы. Народная аснова помніка дапаўнялася шматлікімі новымі рысамі, спантаннымі сродкамі, што не знаходзілі непасрэднай адпаведнасці ў народнай мове і складаюць адметную асаблівасць літаратурнай мовы.

Больш устойлівымі ў гісторыі беларускай пісьменнасці аказаліся інфінітывы з асновай на зычны. У колькасных адносінах інфінітываў гэтага тыпу значна менш у параўнанні з інфінітывамі на галосны. Найбольш час-

та ў помніках выступаюць формы *блюсти, вести, внести, впасти, вывести, выкрасти, вынести, выповѣсти, вычести, грести, грызти, довести, ести, занести, засѣети, зъести, злѣзти, знести, класти, клести, красти, лезти, мерти, нес-ти, ѡтвести, пасти, погрести, поднести, померти, пожерти, понести, привести, принести, рости, сѣсти, спасти, стерти, ȣкрасти, ȣпасти, чести* і інш.

Матэрыял помнікаў паказвае, што ўжыванне літары *и* ў інфінітывах з асновай на зычны было асноўнай нормай старабеларускай пісьменнасці. Зусім натуральным з'яўляецца ўжыванне такіх інфінітываў у ранніх беларускіх помніках: полочАном блюсти рижАнина оу полоцку (Гр. 1407); тАжеи было еи тогды животъ вести (Пак. Хр., 14); ѡни хотели и его погрести (там жа, 15); велѣлъ библію чести (Валх., 90б).

Далейшы лёс інфінітываў гэтага тыпу аказаўся ў прамой залежнасці ад месца націску, які ў адных формах падаў на канчатак, у другіх — на аснову. Для меркаванняў аб месцы націску багаты матэрыял даюць акцэнтаваныя друкаваныя кнігі канца XVI ст. і пазнейшыя. Тут, з аднаго боку, зафіксаваны формы *вестѝ, внестѝ, занестѝ, знестѝ, нестѝ, ѡтвестѝ, поднестѝ, принестѝ, привестѝ,* з другога — *впа́сти, вы́вести, вы́красти, вы́повѣсти, кла́сти, па́сти, сѣ̂сти, оукра́сти.*

Цяжка меркаваць, у якой меры абазначаныя ў такіх інфінітывах націскі адпавядалі жывому вымаўленню. Несумненным застаецца факт, што тэндэнцыя да скарачэння форм за кошт ненаціскных гукаў распаўсюдзілася і на інфінітывы з асновай на зычны. У помніках пачынаючы з сярэдзіны XVI ст. усё часцей трапляюцца формы *весть, впасть, выдерть, вывесть, выкрасть, есть, занесть, запасть, звесть, знесть, зъесть, класть, ѡсесть, ѡтнесть, переесть, погресть, поднесть, посѣсть, привесть, рость, спасть, оупасть.* Агульная колькасць іх невялікая, і амаль усе яны трапляюцца ў позніх помніках: преслАдовци его мели оупасть (Пс. XVI, 27б); до нее се прывесть не хочȣть (Бер. саб., 11б); его грифове могли поднесть на высокост (Алекс. XVII, 42б); з ним мѣлъ звесть битву (Кн. Мак., 63); не могли переесть ѡного хлѣба и медȣ перепит (Хр. польск., 5); ты теперъ хочешъ посѣсть землю его (Біблія, 27б); сȣровый живот мел весть (Зб. 255, 160); пророковали ему чарами кгрецкое царство ѡсесть (Зб. 752, 62б); казал его привесть (Зб. 82, 4б).

У гэтых жа помніках амаль усе такія інфінітывы ўжываюцца і з вынасам над радком канцавога *-ст*: *вест,*

впаст, вывест, выкраст, вынест, ест, засест, кластъ, краст, погрест, поднест, покласт, понест, привест, принест, спаст, 8паст. У колькасных адносінах яны амаль супадаюць з інфінітывамі без вынасу над радком канцавога *ст* і адзначаюцца ў помніках тых жа жанраў: не доп8стит оупаст (Пс. XVI, 127б); На хор8гви казалъ класт ѡрла за гербъ (Царств., 77); крол теды казал ѡфѣр до божницы накласт (Бельск., 156); вѣра з ними 8паст мѣла (Зб. 752, 442); в кухни на братию ест варила (Зб. 82, 18).

У такіх напісаннях несумненна адлюстраваўся польскі ўплыў.

Нарэшце, як было ўжо адзначана раней, асобны тып утвараюць інфінітывы з асновай на заднеязычныя *г, к*. Помнікі старажытнарускай мовы інфінітывы гэтага тыпу фіксуюць толькі з фармантам *-чи*: *беречи, волочи, жечи, лечи, печи, речи, стеречи, течи* і г. д.

У ранніх беларускіх помніках з прыкметным царкоўнаславянскім уплывам яшчэ трапляюцца інфінітывы старaславянскага афармлення на *-щи* тыпу *извлещи, изрѣщи, мощи, посѣщи, рещи, стрещи:* повелѣл стыи никола людем посѣщи дрѣво (Чэцця, 88б); нынѣ не буду мощи ести тыхъ потравъ (Скар. КЮ, 19).

Інфінітывы на *-чи* дзеясловаў на заднеязычны з'яўляюцца пануючымі ва ўсіх жанрах старабеларускай пісьменнасці пазнейшага часу. У помніках асабліва часта ўжываюцца формы *бѣчи* (з вытворнымі *забѣчи, побѣчи, розбѣчиса, оубѣчи*), *волочи* (*выволочи, заволочи, зволочи*), *жечи* (*зажечи, зжечи, нажечи*), *лечи* (*ѡблечи, подлечи*), *мочи* (*перемочи*), *оболочи, печи, помочи* (*вспомочи, допомочи*), *речи, сѣчи* (*высѣчи, ѡтсѣчи*), *стеречи* (*стеречисѦ, ѡстеречи, постеречи, оустеречи, оустеречисѦ*), *течи* (*8течи, 8течисе*), *толчи*.

Інфінітывы такой структуры адзначаюцца ў дзелавых і рэлігійных помніках з XIV ст., калі наогул выкарыстанне сродкаў царкоўнаславянскай мовы яшчэ было звычайным: кнѦжо тобе было тое ѡбиды постеречи (Гр. 1300); полочаном стеречи немечьских купьцевъ какъ своѦ братѦ (Гр. 1405); повелѣл двѣма свечами горѦщими жечи под пазоусе его (Чэцця, 32б); оузѦвше іосепа велѣли его стеречи (Пак. Хр., 34); книги ѡриеновы исжечи хотели (Валх., 82б).

Інфінітывы на *-чи* з'яўляюцца пануючымі і ў беларускіх помніках XVII ст., нягледзячы на тое, што ў гэты перыяд мова беларускай пісьменнасці ўступіла ў стадыю рэцаркоўнаславянізацыі: б8нтовницы м8сили до церкви

8течи (Бельск., 215); хотѣл ωблечи мѣсто краков (Хр. польск., 11б); не могли его перемочи (Біблія, 491); на розлѧне крви бѣчи имъ не доп8скаймо (Каліст, 109б—110); мог8тъ ωдинъ др8гого вспомочи (Мак., 20); што жъ оуже иншого можешь речи (Варл., 294); роскаванѧ моего стеречи не б8д8т (Пс. XVII, 89); ѧзык ее выволочи и 8рѣзати казал (Зб. 752, 86); тиран казал их твари бичми сѣчи (Зб. 82, 32б).

У сувязі з фанетызацыяй правапісу беларускай пісьменнасці, што пачалася з сярэдзіны XVI ст., у многіх помніках інфінітыўны фармант *-чи* сталі пісаць у выглядзе *-чы*. Такое напісанне асабліва характэрна для статутаў 1566 і 1588 гг., Аповесці аб Трыстане, Гісторыі аб Баве, зборнікаў № 82, 255 і 752 і інш.: воевода маеть тог с пилностію стерэчы (Ст. 1566, II, 21); ему не могу помочы (Трыстан, 13); велелъ бово ωгонь складти и ее жечы (Бава, 83); быле бы ωт волковъ 8бечы (Унія, 2); бѣчы до п8стынниковъ хрстиѧнских позволилъ (Зб. 81, 134).

У формах на *-чи* канцавое *-и*, як і ў інфінітывах з асновай на галосны, страцілася ў частцы беларускіх гаворак, і гэты працэс таксама адлюстраваны ў помніках. Такія ўтварэнні маюць значэнне варыянтнай нормы ўжо ў Вісліцкім статуце канца XV ст.: умелъ своего местца стереч (10б); петръ имаеть то присѧчь свои раны (19б); имаеть оутечь до с8ди (33б). Аднак у помніках XVI ст. інфінітывы на *-чъ* усё яшчэ рэдкія: м8силъ з дом8 своего втечъ (КВЗС, 135); велел бы ем8 побечь борзо (Арыст., 33б); его англи стереч боудоут (Пс. XVI, 93).

Затое ў помніках XVII ст. такія інфінітывы трапляюцца параўнальна часта, хоць у колькасных адносінах яны і ўступаюць сваім адпаведнікам на *-чи*: радит кнзю своему з города збечъ (Лет., 28б); его ωбѣцалъ стеречъ и боронит (Біблія, 33); сына 8брат и ωстрич и до себе привести казал (Бельск., 373б); имъ того допомочъ ωбецовал (Хр. польск., 17б); старалисѧ ѧк бы том8 забеч (Жыц. св., 110б); мечми их поколот и сеч казал (Зб. 752, 331).

Інфінітывы з асновай на заднеязычны ў беларускай народна-дыялектнай мове зазналі і іншыя змены. Пад уздзеяннем форм цяперашняга часу ў частцы беларускіх гаворак пачалі аднаўляцца гукі *г* і *к* у інфінітывах, прычым у паўднёвых гаворках фармант *-чи* змяніўся на *-ти* пад уздзеяннем фарманта *-ти* іншых інфінітываў. Помнікі старабеларускай пісьменнасці адлюстроўваюць

і гэты працэс: възрадуетсѧ ꙗко моцныи волот бегчи дорогȣ (Пс. XVI, 21); покою и тихости межи розрознеными в вѣрѣ ѡсобливе стерегчи бȣдемо (Дыяр., 169б); мают пнове братїѧ вси сполнѣ запомогчи ведлȣгъ баченьѧ и достаткȣ своего (Ст. бр., 15); во ѡдной печи бȣдȣт пекти хлѣбъ (Біблія, 176); мене не моглъ лѣпъше ȣчтит и въ потцѣвъшȣю сȣкню ѡболокти (Зб. 81, 92).

Разгледжаныя формы яскрава адлюстроўваюць агульную эвалюцыю інфінітываў у старабеларускай пісьменнасці. Яны паказваюць, што афармленне інфінітываў залежала ад ступені ўздзеяння на пісьменнасць розных плыней: царкоўнаславянскай, народна-дыялектнай і польскай. У сваю чаргу інтэнсіўнасць гэтых фактараў вызначалася культурнай і ідэалагічнай арыентацыяй аўтараў і перапісчыкаў.

# ПРЫСЛОЎЕ

Старабеларуская пісьменнасць адлюстроўвае той этап у развіцці прыслоўяў беларускай мовы, калі яны цалкам афарміліся ў самастойны лексіка-граматычны тып, страціўшы марфалагічныя рысы тых часцін мовы, на базе якіх утвараліся, сталі незмяняльнымі і набылі сталую сінтаксічную функцыю акалічнасці. Сістэму старабеларускага прыслоўя найлепш уявіць, разгледзеўшы яго словаўтваральныя тыпы, прадстаўленыя ў помніках пісьменнасці.

## Адзайменнікавыя прыслоўі

У помніках старабеларускай пісьменнасці ўжывалася вялікая колькасць прыслоўяў, якія былі ўтвораны ад старажытных займеннікаў *къи (кыи), и (йь), инъ, овъ, сь, онъ, тъ, вьсь* у розныя часы гісторыі нашай мовы. Найбольш даўнія з іх ужо ў старабеларускі перыяд успрымаюцца як невытворныя, першасныя. Толькі спецыяльны аналіз дазваляе выдзеліць у іх займеннікавую аснову і суфікс, якія надаваў утворанаму слову тое ці іншае значэнне. Такімі суфіксамі былі *-де, -амо(-амъ), -уды(-уда, -уду, -уде), -гды(-гда, -где), -ако(-акъ), -ль (-ли, -лѣ).*

Першыя тры суфіксы *-де, -амо, -уды,* далучаючыся да названых вышэй займеннікаў, утваралі прыслоўі са значэннем месца або напрамку.

З суфіксам *-де* ў помніках старабеларускай пісьменнасці ўжываліся наступныя прыслоўі месца: *где(ж), игде(же), иде(же), кде, кгде, гдесь, где инде(й), где(ж) кольве(къ), гдель кольве(къ), гдень кольве, ледва где, кое где, неде, негде(сь), нигде, никгде, нигде инде(й), инде(й), индей где, овде, онде, зде, здесе(-ся), изде, сезде, везде (ввезде, увесде), вшендзе.*

Адноснае і пытальнае прыслоўе *где*, якое цалкам адпавядае сучаснаму *дзе* (у функцыі акалічнасці і злучаль-

нага слова), са значэннем месца шырока ўжывалася побач з першапачатковым *кде* ўжо ў старажытнарускі перыяд і амаль безраздзельна пануе ў старабеларускі перыяд, прытым у помніках усіх жанраў: могȣть поити проч гдѣ коли комȣ любо (Вісл., 26б); на оное мѣсто гдѣ души были (Будны, 132); там же ȣ ѡлтара рȣского где слȣжилъ римлянинъ (Барк., 151б); але гдѣжъ оное подѣнемъ (Гарм., 187); дѣти не крещенныѧ где бȣдȣтъ мешкали по страшном сȣде? (Зб. вып., 7б).

Побач з асноўным значэннем месца гэта прыслоўе ў некаторых помніках ужывалася і са значэннем напрамку (*куды?*): коли мы сами где своею головою потѧгнемъ тогды ѡнъ с нами тамъ маеть по*и*ти (ККК, 145б, 1487); гдѣ ми ты ȣзвелиш тамъ я хочу поехати (Трыст., 7); розно где хто моглъ ȣтекали (Стрыйк., 534б); идите з бгом где хочете (Дыяр., 149б); а не*сл*ъ самъ где ѡ*н* каза*л* (Зб. 82, 5).

Фанетычна-графічны варыянт *кгде*, які адлюстроўвае існаванне гэтага прыслоўя таксама з выбухным *г*, сустракаецца толькі ў асобных помніках юрыдычнага характару і ў Дзённіку Ф. Еўлашоўскага: а за вину кгдѣ бы узяти шесть воловъ, тую брали тридцать (Вісл., 6); а оного дей подданого... не ведати забили або кгде его подели (АВК, XXI, 245, 1556); и казалэ*м* се ве*ст* до кнышина кгде*м* ледве с тое горючки выходи*л* (Еўл., 12). Як перадачу выбухнога *г*, а не як захоўванне старажытнай традыцыі можна разглядаць і варыянт *кде*, які ўжываецца ў двух помніках з відавочнымі прыкметамі польскага ўплыву — у Зборніку XV ст. і Троі: прішо*л* коу ероузале*м* на гороу ка*л*варіе кде пото*м* кр*с*тоу*с* *о*укрижованъ бы*л* (Валх., 49б); притѧгнули к берегȣ кде ахи*л*е*с* и телѧѳу*с* юж были выступили (Троя, 5). У той жа час у летапісах магла мець месца і традыцыя: в тот ѡстровъ кдѣ ннѣ каменское мѣсто лежить (Супр., 82).

Тоеснае па значэнню з *где*, але ўтворанае ад займенніка *и* прыслоўе *иде(же)* ужываецца выключна ў помніках з відавочным уплывам царкоўнаславянскай мовы: смотрѣте се мѣсто идеже положенъ бы*л* (Чэцця, 327б); е*с* коло зодеиское и идеже соу*т* ві...звѣзды (Неба, 63б); не повѣненъ посщати, на произволеніе, идеже Бгъ произволитъ (Зб. вып., 60). А ў Катэхізісе С. Буднага гэта прыслоўе сустракаем у цытатах або пераказах іншых рэлігійных крыніц: гдь... повѣдѣлъ, идѣже бо еста двои

или трие събрани въ имѧ мое, ту есмъ посрѣдѣ *их* (Будны, 156).

Прыслоўе *игде(же)*, якое часам ужываецца ў помніках рэлігійнага зместу, з'яўляецца вынікам кантамінацыі старажытнага *иде* з тагачасным жывым *где*: вышолъ ко человеку на место игдеже бѣ кладезь (Скар. КБ, 42б).

У спалучэнні з часціцай *-сь* прыслоўе *где* станавілася неазначальным: ри*м*скихъ папежѣвъ ѡвечки ѡ пастырахъ своихъ гдесь тые слова написали (Апакр., 112б); приве*д*ши ему на мысль невѣсту ѡ*д*ну, котор8ю гдесь видѣл такъ его... роспали*л* (Пролаг, 514б). Яно таксама ішло ў пісьменнасць з гутарковай мовы, аб чым сведчыць даволі частае ўжыванне ў юрыдычных актах: пан Андрус... гдесь по купецтвах... своих отехал, теперь в Могелеве немаш (ИЮМ, XXX, 145, 1577); тая Ульяна... нетъ ведома, гдесь з Меньска утекла (АВК, XXXVI, 152, 1582); его немашъ, якобы мелъ змерзнути гдѣсь за Чернеевичами (АВК, XVIII, 342, 1645). Значэнне неазначальнасці прыдавала прыслоўю *где* і прыстаўка *не*: а такъ негдѣ сільныи оубогъ премоглъ (Вісл., 13).

Разнавіднасцю неазначальных прыслоўяў былі складаныя прыслоўі з другой часткай *кольве* і *кольвекъ* — *гдекольве, гдекольвекъ, гдежкольвекъ* (у значэнні *дзе ні, дзе-б ні, дзе-небудзь*). Ужываліся яны ў помніках з відавочнымі прыкметамі польскага ўплыву: естли бы жидове гдѣ собѣ выбрали, у шкѻле, або гдѣкольвекъ, тамъ маюдь сужоны быти (АЗР, I, 25, 1388); хто до Вильня, ал(ь)бо где кольве, уставичъне овъсовъ не возять (КПД, 553, 1557); где бо кольвекъ б8деть тр8пъ, тамъ зберутьсе орлы (Цяп., 34); бы былъ митрополитъ до синодовыхъ справъ гдежъко*л*векъ прист8пова*л* (Апакр., 86); и гдеко*л*ве*к* им**ѧ** его было писано та*м* сгладили (Бельск., 238); и на вс**ѧ**ко*и* маетности его лежачо*и* и р8хомо*и* где*ж*ко*л*векъ б8д8чо*и* всказали (ККС, 154, 1615); 8вес свѣтъ, гдеко*л*ве*к* люди жив8т (Зб. 82, 10).

У перакладзеных з польскай мовы помніках зрэдку ўжываліся прыслоўі і з часціцай *леда* (сучаснае *абы*): пере*д* зб8дова*нем* дом8 бжо*г* чинили ѡфѣри жидове леда где (Бельск., 58); а зараз леда где до болота пришедши рибы лови*л* (Стрыйк., 514).

З дапамогай прыстаўкі *ни* ад *где* ўтваралася прыслоўе з адмоўным значэннем. Яно шырока ўжывалася ў помніках усіх жанраў: ем8ж не пріганено нігдѣ на с*8д* (Вісл., 26б); моавлѧнка... нигде не ѡтходила (Скар. КР, 4); **ѧ**... нигдѣ не мамъ весел**ѧ** (Трыст., 8б); выправова*т* не

смѣ*л* нигдѣ (Стрыйк., 547); хмуры нигде не видати было (Дыяр., 178б).

У старабеларускай пісьменнасці шырока ўжывалася старажытнае прыслоўе *инде*, утворанае з дапамогай суфікса *-де* ад займенніка *инъ*. Яно мела значэнне 'у іншым месцы, дзе-небудзь': имееть с8ды с8дити оу кракове... а б8деть инде с8ди*т* тогды (Вісл., 13б); единый тамъ иный инъде падаше мертвъ (Скар. ПБ, 28); где бы того хорого не зостано иньде искати его не повиненъ (Ст. 1588, 155); што бы уже тр8по*в* ме*р*твы*х* не было палено и*н*де то*л*ко та*м* (Стрыйк., 328б); хрестиѩне... крилисѦ по дома*х*, вкупѣ се ту*т* и и*н*де (Зб. 82, 32). Верагодна, пад уплывам польскай мовы гэта прыслоўе ўжывалася і ў форме *индей* (польск. indziej), таму што сустракаецца яно ў помніках, дзе польскі ўплыў адзначаецца і па іншых з'явах: и кгды бы былъ ваша милость у ономъ панстве своимъ... а не иньдей (КПД, 34, 1538); в мѣстахъ к*р* его м*л*сти и и*н*дей (Апакр., 208); помa*р*ло... сила люде*и* по трою и*н*де*и* вэспо*л* (Еўл., 41). У помніках таго ж характару таксама шырока ўжываліся і састаўныя неазначальныя прыслоўі з *инде(й) — где инде(й), инде(й) где, нигде инде(й)*.

Магчыма, уплывам польскай мовы падтрымлівалася ўжыванне ў беларускіх помніках XVI—XVII стст. старажытнага прыслоўя *овъде* ('на іншым месцы', 'дзе-небудзь'): В. м. панове... шафаровъ панскихъ овдѣ въ часъ рачьте росказати прислати (АЗР, III, 174, 1574); еднакъ же ижъ овде в жадной кнѵзѣ греческой тогосмы знайти не могли (Апакр., 188); прош8 зас повѣж ми намилшіи, ѩкъ ѡвдѣ пришолес (Варл., 343).

Прыслоўе ж *онъде* з такім жа значэннем, што і *овъде*, больш звязана з старой пісьмовай традыцыяй: да здѣ мало потерпѣмъ а ѡндѣ в вѣки радоватисѦ боудемъ (Чэцця, 296); и топ сказить вси народы тые пред вами помалу ту и онде (Скар. ДЗ, 20); его кролевъская милость рачылъ тое оказыванье и пописъ помъкнути далей онъде ажъ лете (КПД, 215, 1551).

Ад агульнарускага перыяду дайшло і даволі часта ўжывалася ў помніках беларускай пісьменнасці прыслоўе *зде*. Яно абазначала канкрэтнае неаддаленае месца. Звычайным яно з'яўляецца ў летапісах: а здѣ братъ четверьтыи... Новгородок державъ (Супр., 82). Трапляецца яно часам і ў юрыдычных дакументах больш ранняга часу: поиди семо здѣ кнѦзь (Гр. 1300); почали митрополити жити на Мосвкѣ, а здѣ церковъ Кіевская мит-

рополья скудѣла (АЗР, 1, 37, 1415). Даволі часта сустракаецца ў помніках рэлігійнага характару, асабліва ў такіх, дзе ўплыў старажытных (царкоўнаславянскіх) пісьмовых традыцый відавочны: тамъ оу греческои земли молиласѧ а здѣ нас помиловала (Чэцця, 46б); аплъ здѣ пишеть (Будны, прадм., 3); длѧ ѧкихъ зась причинъ сіѧ кары Іереемъ даютсѧ не належитъ здѣ изѧвлѧти (Зб. вып., 62). Нават у нерэлігійных помніках ужыванне прыслоўя *зде* звязана з старымі пісьмовымі традыцыямі: егда: гды, когда, коли... повѣстителнѣ же и пытателнѣ вмѣсто когда приемлетсѧ, ѧкоже и зде зриши (Бяр., 40).

Варыянтамі *зде* ў помніках таго ж характару выступалі *здесе, здеся, сезде, сесде:* еси писалъ до насъ же здесе твоѧ братѧ ꙋпали в наши рꙋки (ККК, 107, 1482); пану... габарю и инымъ, хто потомъ будеть здеся (Гр. Казимира 1488); не поиду но сесде оумру (Скар. ТЦ, 126); реистръ... трети здесѧ до насъ принести велели (КВС, 468, 1552); бꙋдꙋчи мне сезде в рогачеве (ККС, 154б, 1615).

У Бібліі Скарыны і Катэхізісе С. Буднага сустракаецца яшчэ і форма *изде*: и рече валаамъ ко валаку ꙋделаи ми изде седмъ требищъ (Скар. КЛ, 50); И сѣ гласъ к нему глѧ, что изде чиниши имѧ (Скар. ТЦ, 172б); мусить таковъ каран быти издѣ на симъ свѣте (Будны, 36).

У помніках агульнарускага перыяду побач з прыслоўем *зде* ў тым жа значэнні ўжывалася таксама старажытнае прыслоўе *ту*, утворанае ад давальнага склону ўказальнага займенніка *тъ*: а где кому годно ту тѧжетьсѧ поручник (Гр. Ізясл. 1264); а тоу были на суде со мною (Гр. 1283); и иныхъ людии товаръ былъ ту (Гр. 1300). У шэрагу помнікаў старабеларускага перыяду, і перш за ўсё ў помніках, якія захоўвалі сувязь з старой пісьмовай традыцыяй або царкоўнаславянскай, прыслоўе *ту* (*тужъ*) працягвала ўжывацца: пакъ ли быхмо имъ не воротили на той день, яко ту написано (АЗР, 1, 22, 1388); и съимꙋтсь на вельи... и тоу перевезѣтсь рат (Віл., 442); и напоили ег... и ѡбночовали тꙋ (Арыст., 227). У некаторых дзелавых помніках XVI—XVII стст., у Апакрысісе, а таксама ў Дзённіку Ф. Еўлашоўскага прыслоўе *ту* ўжывалася, трэба думаць, пад уплывам польскай мовы, дзе яно было жывой з'явай: [Богъ] мнѣ грѣшному чоловѣкови ту на тымъ мизерномъ свѣтѣ... милостивымъ быти рачилъ (АСД, 1, 5, 1507); тые слова дѣеписовы...

здало ми сѧ т8 цале выписати (Апакр., 96); приходи до тэи ту невѣсты (Еўл., 5).

Але асноўным у старабеларускіх помніках сярод прыслоўяў, якія абазначалі канкрэтнае неаддаленае месца адпаведна пытанню *дзе?*, было прыслоўе *тутъ*. Яно ўжывалася ў большасці помнікаў усіх жанраў. Нормай яно з'яўляецца ў дзелавых помніках: где смолвѧть тутъ будеть судъ (АЗР, І, 1, 1340); абы вжо ту*т* ты*м* статуто*м* новым судили (Ст. 1566, 5б); тые помененые и т8*т* вписаные... порѧдки... ствержаемъ (Ст. бр., 20б); у рознага характару рэлігійных творах: плачте со мною оуси которыи тоу*т* есте (Жыц. Ал., 99); есть мѣсто ту*т* близко (Біблія, 47); такъже сѧ и т8тъ тепе*р* придало, шалѣеть продъ (Каліст, ІІ., 264б); а ту*т* што ту*т* ловиш (Зб. 82, 15); у палемічнай літаратуры: изъ ωного еремеѧ которы*и* т8тъ бы*л* ѧк8ю взѧли есте потех8 (Бер. саб., 56); неха*и* тутъ ωкаж8ть м8дрость свою (Унія, 38б); у арыгінальных і перакладных летапісах: выше Ковна двѣ мили и тоу*т* воиска перевезлисѧ (Крас., 159); ту*т* же подле воро*т* б8де*т* стоѧти (Барк., 165); ω свое*м* на тыи ту*т* мѣстца принесе*н*ю... знамена зостали (Стрыйк., 424б); у перакладных аповесцях: и тоу*т* алексан*д*ръ г*ω*д мешкалъ въ индии (Алекс. XV, 2); Тут же стрѣтили его (Мам., 176).

У шэрагу помнікаў, відаць, пад уплывам польскай мовы прыслоўе *тутъ* ужывалася таксама са значэннем напрамку (адпаведна пытанню *куды?*): с тобою поидоу до рима... и ωпѧт се тоу*т* наверноу (Пак. Хр., 24); пришолъ т8тъ до именьѧ королевое ее м*с*ти ωболецъки (КВЗС, 67б, 1533).

Выступала прыслоўе *тутъ* і ў іншых варыянтах (*туто, тута, тутаки*), сярод якіх па частаце больш ужывальным было *туто* і адзінкавымі выпадкамі прадстаўлены астатнія: божею силою тоуто не мало избито бысть рати (Віл., 446); кро*л* те*н*тра*н* тутѳ лежи (Троя, 9б); што пры нимъ сидятъ да крутятъ много тута гетакихъ есть (Мял., 317); зде: т8т, т8таки, обецне (Бяр., 50).

Прыслоўе *тутъ* разам з варыянтамі (*туто, тута, тутаки*) уяўляла сабой жывую народную стыхію. Гэта добра відаць на тых помніках, дзе аўтар свядома рабіў выбар моўных сродкаў. Так, у Евангеллі В. Цяпінскага царкоўнаславянскае прыслоўе *ту* паслядоўна перакладаецца *тутъ*: и глагола 8ченикомъ, седите ту — и мовилъ 8ченикомъ, седите тутъ (38). А. Філіповіч у сваім Дыярыушы ва ўласнай мове ўжывае толькі *тутъ*, а ў цыта-

тах — *ту*: ѡбачмыж тут в костелѣ рымскомъ старшого поведают быти папежа (166); ведл8гъ на8ки еvглскои: где два або три собрани во имѧ мое ту аз посредѣ ихъ есмъ (166б).

Паралельнае ўжыванне двух ці трох вышэй адзначаных сінанімічных прыслоўяў характэрна многім помнікам старабеларускай пісьменнасці. Перавага таго ці іншага прыслоўя характарызуе індывідуальны стыль аўтара або перакладчыка твора, яго адносіны да традыцыйных і народных сродкаў. Так, Увараўскаму спісу летапісу ўласціва ўжыванне прыслоўя *ту* ў якасці асноўнага і радзей — *зде, тутъ, туто*; у спісе Рачынскіх, Быхаўца і ў Хроніцы М. Бельскага асноўным выступае прыслоўе *тутъ*, а факультатыўным з'яўляецца *ту* і зусім адсутнічае *зде*; у Чэцці 1489 г. раўнапраўнымі выступаюць *зде* і *тутъ*, а радзей — *ту*; у Бібліі Ф. Скарыны і Катэхізісе С. Буднага часцей ужываюцца старажытныя прыслоўі *зде* і *ту*, а радзей — народныя *тутъ* і *туто, тута*; у тэкстах Статутаў (1566 і 1588 гг.) ужываецца толькі *тутъ*, хаця ў прадмове да Статута 1588 г. сустракаецца і *ту*, але гэта паланізм.

У старабеларускіх помніках розных жанраў працягвала ўжывацца ўнаследаванае ад ранейшага перыяду азначальнае прыслоўе *везде*, якое ўтварылася з дапамогай суфікса *-де* ад азначальнага займенніка *вѣсь*: добра намъ ему хотѣти и его земли, вездѣ, гдѣ бы ни было (АЗР, I, 63, 1449); богъ везде естъ (Будны, 181); волно будеть... шкодника своего везде имати (Ст. 1566, 54б); порозсылавши вездѣ и собрали... без личбы воиска (Тр. гіст., 69); абы сес лист нашъ везде п8бликованъ был конечно (ККС, 178, 1617). Варыянтамі *везде*, але менш ужывальнымі выступалі *увезде, ввезде, 8весде*: тотъ сл8га албо челѧдъникъ 8везде доброволне проп8щанъ будеть (Ст., 1588, 506); злость и неправость 8весъде ѡбьфит8еть (Унія, 44); абы есте сесь нашъ листъ... въвезде в местахъ... прыбивати велели (КЛС, 13б).

Адначасова з *везде* ў тым жа значэнні, але крыху часцей ужывалася таксама старажытнае прыслоўе *всюды*, утворанае ад *весь* з дапамогай суфікса *-уды*: гсь на смрть з ратоуша всюды... тѧгнен (Пак. Хр., 9б); листы... всюды мають быти касованы (АВК, VIII, 409, 1574); чехове воевали всюды в великои польщи (Хр. польск., 6б); тепер тут страж всюды великаѧ (Дыяр., 151); Бгъ всюды естъ (Зб. вып., 98б). Варыянты гэтага прыслоўя

з суфіксамі *-уду* і *-уда* сустракаюцца значна радзей, прычым у помніках, якія непасрэдна звязаны з царкоўнаславянскай пісьмовай традыцыяй: михаил и гаврилъ всюдоу на служобе бжиеи (Чэцця, 77б); домъ пакъ внутри велить выстругати всюда вооколо (Скар. КЛ, 29), а ў Катэхізісе С. Буднага прыслоўе *всюду* ўжыта толькі ў цытаце: врази твои... обыимуть тѧ всюду, и разбиють тѧ (Будны, 93б).

Тое, што абодва прыслоўі (*везде* і *всюды*) ужываліся ў беларускіх помніках на працягу ўсяго старабеларускага перыяду, пры нязначнай колькаснай перавазе апошняга, гаворыць аб тым, што яны абодва мелі сувязь не столькі з традыцыяй, колькі з гутарковай мовай і, магчыма, у некаторай ступені адлюстравалі прыналежнасць да таго ці іншага дыялекту аўтара або перакладчыка твора.

На фоне разгледжаных прыслоўяў зусім адзінокім выглядае польскі іх адпаведнік *вшендзе* ў помніку палавіны XVII ст.: то имѧ ... мы... вшендзе ег паном прекладати бꙋдемъ (Выкл., 4б).

Прыслоўі, утвораныя з дапамогай суфікса *-уды* (*-уду, -уда, -уде*) ад займеннікаў *къи, сь, тъ*, мелі значэнне напрамку, спалучанае з семантыкай займенніка: *куды* (*куду, куда, куде*) — пытальна-адноснае, *сюды* (*сюду, сюда, сюде*) — указальнае (на блізкі аб'ект) і *туды* (*туду, туда, туде*) — указальнае (на аддалены аб'ект). Асноўным варыянтам у старабеларускі перыяд былі прыслоўі з суфіксам *-уды*: и ѧ тꙋды звозилъ хоромы свои (КСД, 20, 1510); и ѿт обличѧ твоего кꙋды побегꙋ (Пс. XVI, 134б); и король почал до нее ходити ночъю куды собе хожэнье был ꙋчынилъ с полацу ажъ до дому ее (Рач., 44); шли... вниз куды вода несла (Еўл., 31); ѩкъ ѡкрꙋтный тотъ... свѣт с людми сѧ ѡбходит сюды и тꙋды ихъ пересажаючи (Варл., 121б); землю перед нами вказꙋет, кꙋды маем поити (Алекс. 1697, 56).

Другім па частаце ўжывання быў варыянт з суфіксам *-уда*, які шырока ўжываўся ў агульнарускі перыяд. У старабеларускіх помніках ён да некаторай ступені ўжываўся па традыцыі, а часткова быў звязан з жывымі гаворкамі: оузѧт ему свои товаръ куда хочет ехат (Гр. 1407); где коли емоу повелить и ѡн тоуда кочюеть (Увар., 104); Выйди сюда, нешляхетнику, на дворъ (АВК, XVII, 432, 1561); а онъ реклъ, принесѣте мнѣ ихъ сюда (Каліст, II, 43б). У некаторых помніках абодва варыянты ўжываліся адначасова, хоць колькасна пераважае першы.

Да такіх належаць і помнікі XV ст., і помнікі позняга перыяду (канца XVII ст.): кто ваю прельстилъ. оставити тоут ваю и сюда приити (Чэцця, 12б); і ѧзыкъ твои... сюды говорить (там жа, 355); принесите ми ихъ сюды (Цяп., 20); приведите ми его сюда (Цяп., 23б); не мает ѡнъ ѡ*т* мене скритисѧ, и 8течи к8да (Алекс. 1697, 25); землю... вказ8е*т*, к8ды мае*м* по*и*ти (Алекс. 1697, 56).

Прыслоўі з суфіксамі *-уду* і *-уде,* якія былі ўласцівы царкоўнаславянскай мове, ужыты толькі ў двух біблейскіх тэкстах, прытым у такіх, дзе асноўным варыянтам з'яўляецца *-уды*: и опнеш притворъ опонами и куде до него входѦть (Скар. КІ, 75); и розст8пилисѦ воды сюд8 и сюд8 (Хран., 320б).

З суфіксам *-уды* ўжывалася ў помніках старабеларускай пісьменнасці прыслоўе *инуды*, у значэнні 'у іншым месцы', 'у іншае месца': таѧ река оучини*т* собе ин8ды бере*г* (Вісл., 10б); если инуды посмотры*ш* нижъ мнѣ трыщану межы пле*ч* (Трыст., 47б); если бы река кгвалтомъ ин8ды пошла, тогды старое речыщо маеть быти пре*д*се границою (Ст. 1588, 367).

У прыставачных утварэннях ад гэтых прыслоўяў адзначаныя варыянты суфіксаў ужываліся ў залежнасці ад прыстаўкі. У прыслоўях з прыстаўкай *не-* (значэнне неазначальнасці) і з прыстаўкай *ни-* (адмоўнае значэнне) зрэдку ўжываецца суфікс *-уда* (Чэцця, Скар.) і эпізадычна *-уде* (Скар.): творѣ*х* што вжо поиде*т* нѣк8да ѡ*т*селе (Чэцця, 320б); не выходил былъ ник8да з дом8 (Скар. КБ, 82); и никуде не ѡ*т*хожаху с того места (Скар. ЛК, 24б). Але асноўнай выступае форма на *-уды*: нѣкоуды б8де*т* намъ ѡ*т*прѣтисѦ дѣлъ свои*х* (Чэцця, 293б); а ты не ходи никуд*ы* з двора (Трыст., 21б). У прыслоўях жа з прыстаўкай *от-(од-)* зрэдку выступае форма на *-уда* і *-уды*: ршанеж... 8даша гра*д*. и ѡ*т*т8да поиде къ град8 витебск8 (Віл., 450); и ѡ*т*тоуды мистръ ЛифлѦнськи пріиде (Акад., 144), эпізадычна — *-уде*: и навративсѦ ѡ*т*туде если сеи възѦлъ оба волы (Скар. ТЦ, 173). Часцей ужываецца форма на *-удў*: и ѡ*т*т8д8 поид8т къ град8 рши (Віл., 450); ѡ*т*всюду соберет*ь* вас г*с*дь (Скар. ДЗ, 57б); сивило повѣдаи ми отк8дѫ еси тоу (Сівіла, 3); и по неволи ѡ*т*сюд8 выити не можешъ (Алекс. 1697, 86б). Як відаць з прыведзеных прыкладаў, адзначаныя формы прыслоўяў ужываліся ў асноўным у помніках, на мове якіх відавочны царкоўнаславянскі ўплыў.

У асноўнай жа масе помнікаў з гэтым самым значэннем выступаюць прыставачныя прыслоўі іншай суфік-

сацыі (*-ле, -ль, -ли, -ля*) з двума тыпамі займеннікавых асноў. Першы тып быў з галоснымі *о* і *е* — *от(од)коле (-ль, -ля), от(од)веселе (-ль, -ля), от(од)селе (-ль, -ля), от(од)толе (-ль, -ля)*, а другі — з галосным *у(ю)*: *от(од)куле(-ль, -ля), от(од)всюль (отусюль), отсюле (-ль, -ля), от(од)туле(-ль, -ля)*. Гэтыя прыслоўі ў старабеларускі перыяд выступалі пераважна са значэннем месца, значна радзей — з часавым значэннем. Ужыванне адзначаных варыянтаў асноў і суфіксаў у помніках старабеларускай пісьменнасці дае вельмі стракатую карціну, адлюстроўваючы трывалае захаванне ў пісьменнасці традыцыйных (агульнарускіх і царкоўнаславянскіх) моўных сродкаў, з аднаго боку, і шырокае пранікненне ў яе жывых народных — з другога. У гэтым тыпе прыслоўяў размежаванне традыцыйных і народных элементаў ішло не столькі па варыянтах суфіксаў, колькі па тыпах асноў, хаця пэўная залежнасць частаты спалучэння таго ці іншага варыянта суфікса з тым ці другім тыпам асновы праяўляецца. Так, прыслоўі ад першага тыпу асноў (з *о, е*) утвараліся прыкладна аднолькава часта і з суфіксам *-ле*, і з суфіксам *-ль* (пры нязначнай перавазе першага), і радзей — з суфіксам *-ля*. Пры другім тыпе асноў з *у(ю)* відавочная перавага суфікса *-ль* перад *-ле* і зусім нязначная колькасць прыслоўяў з суфіксам *-ля*, а прыслоўе *отвсюль (отусюль)* не мае зусім паралельных варыянтаў *отвсюле(-ля), отусюле(-ля)*. Прыслоўі першага тыпу, з аднаго боку, з'явіліся працягам агульнарускіх традыцый. Гэта перш за ўсё адносіцца да дзелавых і летапісных помнікаў ранейшага перыяду: др8гое ѡтъколе далъ милы*и* богъ 8 р8ки стефан8 ... ѡттъчин8 (ККК, 111, 1482); какъ бы и*м* его ѡ*т*толѣ высади*ти* (Віл., 437б); ꙗкъ ѡтътоль з л8къ вышъли (КВЗС, 90, 1539). А з другога боку, гэты тып прыслоўяў мог ужывацца і пад уплывам царкоўнаславянскай пісьменнасці, асабліва ў помніках палемічнай літаратуры: вверженъ будетъ въ темницу и не выйдетъ оттоль (Пыт., 56); ѡ*д*коль то ту*т* пришла надежда моꙗ (Дыяр., 151). А прыслоўі з галосным *у(ю)* у аснове адлюстроўвалі жывую гутарковую стыхію, але размежавання гэтых тыпаў па жанрах пісьменнасці не наглядаецца. Больш архаічны тып можна сустрэць у помніках, прыбліжаных да жывой народнай мовы, такіх, як Статут 1588 г. або Статут брацтва 1651 г.: не могъ се ѡ*т*толь боръздо зве*р*н8ти (Ст. 1588, 188); гроши... ѡ*т*ко*л* бы мало много пришло, мае*т* писарь... до скринки вложити (Ст. бр., 22б). А тып,

які адлюстроўваў жывую з'яву, мог ужывацца ў архаізаваных помніках: ωткоуле се мнѣ блгсвенье принеслъ еси (Чэцця, 155б), не чюА собѣ помочи ни ωтк8лА (Акад., 136). Многім помнікам уласціва адначасовае ўжыванне тых і другіх форм, прычым пачынаючы з ранняга перыяду (XIV ст.) і канчаючы познімі помнікамі (другая палавіна XVII ст.): а ωт троковъ... ωттулА оунизъ по немну... а ωттолА алижь до шатеевъ (Гр. 1387); маеть ехати до земли своее ωткул естъ (Ст. 1566, 32б); мает ехати до ... повет8 ωтколе родомъ (там жа, 86б); и ωтселе почн8 (Зб. 82, 1б); до которого с■ ωтвсюль люди [звыкли]... прибегати (там жа, 297б); пом■таи ωткул■ еси вщалъ и ωткуль вышолъ (там жа, 309); жадное подоизрене слушне ωттоле 8рости никому не може (там жа, 437).

Аналагічнае становішча ў старабеларускай пісьменнасці займалі і прыслоўі з прыстаўкамі *до-* і *по-*: *доколе(-ль, -ля)* і *докуле(-ль, -ля), доселе(-ль, -ля) і досюль (-ля), дотоле(-ль, -ля)* і *дотуле(-ль, -ля), поколе(-ль, -ля)* і *покуле(-ль, -ля), потоле(-ль, -ля)* і *потуле(-ль)*. Адрозненне было толькі ў семантыцы. Калі прыслоўі з прыстаўкай *от-* у асноўным ужываліся са значэннем месца (рэдка са значэннем часу), то гэтыя, наадварот, у асноўным мелі часавае значэнне і толькі зрэдку ўжываліся для абазначэння месца: абы дети не бралі дѣлници ωт оца док8л др8г8ю жон8 поимет (Вісл., 28); ωпѣкалнікъ... не можеть дѣдичства продат ани граничит доколѣ дѣти пріид8ть лѣт до роз8м8 (там жа, 35); виделъ же еси дотоле, поки... (Скар. ДЛ, 8б); даже дот8ле похожати б8деши и не поидеши далеи (Скар. ІК, 45б); пот8ль того мыта имъ позволити маемъ, поки... (Ст. 1588, 43); с права ωтходити не мають, потоль ажь се... росправит (там жа, 328).

Поўным сінонімам да *покуль(-ле, -ля)*, але з крыху большай частатой выступала ў помніках старабеларускай пісьменнасці прыслоўе *поки*. Яно магло ўжывацца ў ролі акалічнасці: а покиж маешъ тых б8дъ во простотѣ твоей терпѣти (Біблія, 80); а покиж того злого б8дет (Дыяр., 166). Аднак у асноўным яно выступала ў ролі злучальнага слова ў часавых даданых сказах. Прыслоўе *поки*, будучы таксама старажытным па паходжанні, у старабеларускі перыяд уяўляла сабой дыялектную разнавіднасць *покуль(-ле, -ля)*, хаця відавочнага размежавання іх па помніках не назіраецца, і значна павялічвала долю беларускіх народных сродкаў у параўнанні з традыцыйнымі. Тыповым для многіх помнікаў з'яўляецца ўжыванне і *покуль(-ле, -ля)* і *поки* адначасова: и

далеи по немън8 поки их входы... пок8ль ихъ въходы (ККК, 1482, 126б); мудрость ... не оп8стила его покулеж бы не принесла ему жезла црствиѦ (Скар. ПБ, 15б); и насытимъсѦ жадостию плоти поки не будеть день (Скар. ПС, 14).

У радзе помнікаў канца XVI і XVII ст. у тым жа значэнні і побач з *оттоль(-ле, -ля), оттуль(-ле, -ля)*, але значна радзей за іх пад уплывам польскай мовы ўжываліся складаныя прыслоўі — калькі *оттамтоль(-ле, -ля), оттамтуле, оттультамъ*: римъское д8ховенство ѡттамътуле выгналъ (Бер. саб., 40); и выгнаныи ѡтт8ле до дому се верн8лъ (там жа, 42б); жебы зас ѡттоль до ликованьѦ... не бралъ причины (Апакр., 102); вынесите то ѡтъту*л* (Зб. 255, 25б); ѡтцы светые во*л*но ѡттулта*м* выпусти*л* (там жа, 300б); абы напото*м* цесари ѡттамтолѣ стых костеи не взѧли (Зб. 82, 34б).

З польскага прыслоўя таксама скалькаваны *с(з)тамтоль(-ля), с(з)тамтуль(-ля)*, якія зрэдку сустракаюцца галоўным чынам у актавай пісьменнасці канца XVI—XVII ст.: тогды прыехавши стамътол... повинен будет усправедливитсе (АВК, XXXIX, 265, 1579); набрали зтамтолѧ сребра и золота (Біблія, 470); будучы онъ... въ дому... Бабътысты, стамътуль до господы своей... ехалъ (АВК, XX, 257, 1619). У параўнанні з адзначанымі калькамі іх польская мадэль у беларускіх помніках XVII ст. прадстаўлена толькі адзінкавымі выпадкамі: который то свещеникъ стамтондъ отъ отца владыки ушедши до замку... тамъ мешкалъ (АЮЗР, II, 11, 1601).

Пад уплывам адпаведных прыслоўяў польскай мовы аўтары беларускіх помнікаў часам утваралі прыслоўі з часціцай *кольвекъ*: абы жидове, отколь кол(ь)векъ пріеждчаючи, инъде въ месте Виленском... мешканья не мели (КПД, 516, 1568); поид8 за тобою, куды кольвекъ поідѣшъ (Цяп., 10б); и кгды таковыи приходень ѡтк8ль кольвекъ до которого места... приидеть (Ст. 1588, 507).

З трох беспрыставачных сінонімаў-прыслоўяў *коли, когда* і *кеды* ў помніках старабеларускай пісьменнасці яўна пераважае *коли*. У неазначальным значэнні (сучаснае *калі-небудзь*) яно ўжываецца ў большасці помнікаў розных жанраў, уключаючы і рэлігійныя, з самага ранняга перыяду: вѣдомо чинимъ кождому доброму, кто коли на сесь листъ позрить (АЗР, I, 22, 1383); где коли емоу повелить и ѡн тоуда кочюеть (Увар., 104); и где коли иметь его розбиваеть его (Цяп., 55б). Значна радзей *коли* выступала з адносным значэннем: а не вѣда-

ешь што жь тис коли пригодит (Алекс. XV, 2б); и ні есьті имъ [не] было коли (Цяп., 51). Ужывалася *коли* і ў якасці пытальнага прыслоўя: а колижъ то у нихъ бывало (Мял., 317); что естъ крещеніе, ѡт кого, и коли оустановленное (Зб. вып., 6б).

Прыслоўе *когда* ўжывалася ў асноўным у помніках, якія былі цясней звязаны са старой пісьмовай традыцыяй: поидете ли когда на воину противу врагомъ вашимъ (Скар. ДЗ, 41б); вѣси ли когда дит҃ѧ тое народитисѧ маеть (Сівіла, 3). Радзей — у помніках, напісаных параўнальна чыстай старабеларускай мовай: не покажеть... абы хс҃ гь҃ до ст҃ого петра тые власне слова когда мѣлъ мовити (Апакр., 96б); писарь... повинен всегда... мѣти с собою каламарь и папѣрȣ а если бы когда не мѣлъ (Ст. бр., 22б).

Паланізм *кеды* сустракаецца выключна рэдка, прычым у актавых матэрыялах: далисьмы и записалисьмы... дворъ мой Барсуковскій и зо всимъ тым... што кеды на нас шло (АСД, II, 6, 1506).

З неазначальным значэннем ужываліся і прыслоўі, вытворныя ад разгледжаных: *неколи, некогда, некеды (некедысь)* і *некгды (негды, некды, некгдысь)*. Яны таксама прадстаўлялі розныя стыхіі ў старой беларускай літаратурнай мове — жывую, народную, традыцыйную і польскі ўплыў. Суадносіны ў колькасным ужыванні першых трох прыслоўяў у беларускіх помніках аналагічныя з адпаведнымі невытворнымі. Першае месца належыць прыслоўю *неколи*. Яно, як і *коли*, прадстаўляла жывую мову і ўжывалася ў многіх помніках розных жанраў: а неколи таѧ каплица двое двери мѣла (Валх., 58); рекли братѧ до него: нѣколи царем нашим будешъ (Біблія, 83). Нярэдка прыслоўе *неколи* ўскладнялася часціцай *-сь*: посмеѧлис... иж нѣколис гидовалъ есми ѡтцов ихъ (Зб. 262, 24).

Унаследаванае ад старажытнай пары прыслоўе *некогда* ўжывалася ў невялікім коле помнікаў: таково мис оуверило некогда соущоу томоу славному гдрю (Увар., 102); да некогда прельщены ȣчинили бы есте собѣ кумира (Будны, 10б); на рȣках возмȣт тѧ да некогда преткнеши ѡ камен ноги твоеѧ (Дыяр., 174). У некаторых помніках ужываюцца абодва гэтыя прыслоўі з перавагай таго ці іншага. Так, у Чэцці пераважае *неколи*, а ў Катэхізісе С. Буднага — *некогда*.

Суадноснае з *кеды* прыслоўе *некеды(некедысь)* су-

стракаецца таксама выключна рэдка: мстечисе за ωбешене некедыс ωтца его (Еўл., 42).

Іншую карціну распаўсюджанасці мела запазычанае з польскай мовы прыслоўе *некгды (негды, некды, некгдысь)*. Па агульнай колькасці ўжывання яно мала ўступае прыслоўю *неколи(неколись)*. Кола помнікаў, дзе яно прымяняецца, таксама вялікае і разнастайнае ў жанравых адносінах, адсутнічаюць у ім, бадай, толькі неперакладныя летапісы: церковъ Восточная... нѣкгдысь, черезъ часъ долгій, въ неякой разности и въ расколѣ вѣры... хвѣялася (АЗР, І, 56, 1443), а и некгды на бга гнѣваемысѦ (Пак. Хр., 6); и чомъ некгды ȣближене бывало добрамъ столȣ нашого а некгды тежъ и шлѦхтичови (Ст. 1588, 117); ıако нѣкгды добротливою своеıо причиною... то з<sup>е</sup>еднала (Карп., 27). У некаторых помніках ужываюцца адначасова два з адзначаных прыслоўяў, як, напрыклад, у кнігах Ф. Скарыны *некогда* і *негды*: тии то сȣть ихъ же есмо некогда в посмеху имели (ПБ, 7б); видѦщи того его же негды запиралисѦ знати (там жа, 19); у Катэхізісе С. Буднага *некогда* (пераважае) і *неколи*: да некогда прельщены ȣчинили бы есте собѣ кумира (Будны, 10б); пророки ачь неколи проклинають и злоречѦть (там жа, 20).

Аналагічна было і з ужываннем другой групы вытворных прыслоўяў — *николи, никогда, никгды (нигды, никды)*, якія мелі адмоўнае значэнне.

Прыслоўе *никогда* сустракаецца ў невялікай групе помнікаў, якія мелі сувязь са старой пісьмовай традыцыяй, прычым ужываліся яны там адначасова з жывым беларускім прыслоўем *николи*: гсь же никогдаж не ωставлѦеть своих рабъ (Чэцця, 246б); всѦк члвкъ... не погибнеть николиж (там жа, 268б); никогда не ȣвѦнеть мудрость (Скар. ПБ, 9б); возмуть... ıаловицу ωт стада ею же николи не возили (Скар. ДЗ, 41).

У асноўнай масе помнікаў выступаюць два прыслоўі — *николи* і *никгды (нигды, никды)*. Першае з'яўлялася элементам жывой мовы і колькасна пераважала ў цэлым у старабеларускай пісьменнасці. Яно непадзельна пануе ў неперакладных летапісах: николи противоу емоу не стоѦти (Віл., 441); имъ гсдь бгъ... николи не помогъ (Барк., 145). Пераважае ў дзелавой пісьменнасці: Не хочемъ такожъ николи отпустити ихъ (АЗР, І, 26, 1389); буду судити... роков николи не ωмешкиваючи (Ст. 1566, 41б); таı конститȣцыı... николи моцы не мела

(ККСС, 227, 1618). Ужываецца ў многіх перакладных рэлігійных кананічных і некананічных творах, у творах палемічнай літаратуры, у свецкіх перакладных аповесцях і інш.: а ꙗ николи не оубоюсе (Пак. Хр., 5б); единому слову николи никто досыть не ȣчинилъ (Будны, 104б); церков ѡмылить се николи не можеть (Бер. саб., 48); николи на грѣхъ не мела зезволит (Біблія, 33); много роскошных речии перед наши ѡчи приходꙗт, ѡ которих вы николи ничого не вѣдаете (Алекс., 35).

Пачынаючы з XIV ст. у дзелавую беларускую пісьменнасць пачало пранікаць польскае прыслоўе *никгды*: и тежъ возрѣвъ есми знаменитую службу намъ, никгды неомѣшканую... дали есмо ему село новое (РПП, 327, 1392). Затым асабліва ў другой палавіне XVI і ў XVII ст., яно стала канкурыраваць з *николи* не толькі ў дзелавой пісьменнасці, але і ў многіх помніках іншых жанраў. У радзе помнікаў абодва гэтыя прыслоўі ўжываліся адначасова, дзе з перавагай *николи* (Вісл., Ст. 1588, Апакр., Варл., Зб. 107, Зб. 255, Алекс. 1697), а дзе з перавагай *никгды, нигды, никды* (Троя, Зб. 261, Бельск., Стрыйк.): Лихва жидовская не имѣть нигды насыщенія (Вісл., 13); тотъ францикъ... николи ему не упоминался (там жа, 8—9); таковых именеи ...мы гсдръ николи ѡтдавати не маемъ (Ст. 1588, 6); и насъ за границȣ корунную никгды не тегнути жаднымъ ѡбычаемъ (там жа, 68); чого... никгды ничим нарȣшати не хѡчемо (Апакр., 29б); и такие речи признали, котѡрыхъ николи жаденъ греческой релѣи члкъ не признавал (там жа, 44б); и тот сосȣдец нигды водою не ѡмываетсꙗ (Зб. 107, 107); николис так не спрацȣют (там жа, 114б). А ў некаторых перакладных (Хр. польск., Выкл., Пс. XVII) і нават арыгінальных беларускіх творах (Еўл., Пыт., Карп., Ст. бр.) адзінай нормай з'яўляецца *никгды (нигды, никды)*: але се ѡн никгды до того не знал (Еўл., 45); рознȣчитисꙗ з ними никгды не хотѣли (Карп., 23).

У тым самым коле помнікаў, што і адзначаныя паланізмы, сустракаецца і гібрыднае прыслоўе, дзе першай часткай выступае беларускае прыслоўе *коли*, а другой — запазычаная з польскай мовы часціца *кольвек (кольве)*: што... ѡт того панства нашого коликолвекъ впрошоно ку коруне... направити ѡбецуемъ (Ст. 1566, 28).

Старажытныя адзайменнікавыя прыслоўі *тогды, всегды, всегда, иногды, иногда, оногды, оногда, овогды, овогда*, як і разгледжанае раней *когда (кгды)*, мелі часавае значэнне. У агульнарускі перыяд суфіксы *-гды* і

*-гда* былі прыналежнасцю розных дыялектаў. Прыслоўі на *-гды* характэрны тым гаворкам, на базе якіх складвалася беларуская літаратурная мова, таму з самага пачатку ў беларускай пісьменнасці пры наяўнасці іншых варыянтаў асноўным выступае варыянт з суфіксам *-гды.*

Ад займенніка *тъ* з дапамогай гэтых суфіксаў утварыліся прыслоўі *тогды* і *тогда.* Храналагічныя рамкі ўжывання гэтых прыслоўяў супадаюць. Абодва яны дайшлі ад старажытнарускага часу і ўжываліся да канца XVII ст., але першае з іх прадстаўлена ў абсалютнай большасці помнікаў розных жанраў, прычым у значнай частцы іх выступае ў якасці адзінай нормы, у тым ліку ў большасці дзелавых (статуты і акты), у некаторых помніках рэлігійнай літаратуры (Пак. Хр., Жыц. Алякс., Пс. XVI, Цяп.), у перакладных аповесцях (Трыст., Бава), у некаторых летапісах (Рач., Крас.), у некаторых творах палемічнай літаратуры (Бер. саб., Пыт.): анъдре*и* саковичъ вжо былъ тогды вмеръ (ККК, 138б, 1485); а колижъ вжды наболшей люду... бываетъ, есми не тогды (Пыт., 81). У радзе помнікаў *тогды* выступае ў якасці асноўнай нормы ў адносінах да *тогда,* як у Вісліцкім статуце, у некаторых спісах летапісу (Увар., Быx.), у Катэхізісе С. Буднага, у Александрыі 1697 г., а ў некаторых — у якасці раўнапраўнай нормы (Чэцця 1489, Арыст., Акад.). Паказальна, што, як і В. Цяпінскі ў Евангеллі, Л. Зізаній у сваім Лексісе перакладае *тогда* на *тогды*: тогда въсхꙗтиша сѵмона волхва безплотныи на възъдꙋхъ — тогды порвали бѣси сѵмона волхва в римѣ и взнесли на повѣтрѧ (Зіз., 21). Гэта сведчыць, что *тогды* ўспрымалася як норма жывой мовы. Ужыванне прыслоўя *тогда* можна разглядаць як даніну старой пісьмовай традыцыі. Як норма *тогда* выкарыстоўвалася толькі ў асобных актах ранняга перыяду, у Віленскім спісе летапісу, у Бібліі Ф. Скарыны і ў Сказанні аб Сівіле прарочыцы.

Побач з разгледжанымі прыслоўямі ў беларускай пісьменнасці з XVI ст. пад уплывам польскай мовы пачало эпізадычна ўжывацца, а затым і распаўсюджвацца на правах факультатыўнай нормы адносна *тогды* прыслоўе *теды,* як, напрыклад, у Аповесці аб Троі, Гісторыі аб Атыле, Спосабе праў трыбунальскіх і Апакрысісе: теды по ѡтездѣ менела*ѡ* ...вшла до ѡгородꙋ (Троя, 6); теды неслоушне бысь насъ и в то*м* виновалъ (Апакр., 79б). Затым у XVII ст. *теды* становіцца асноўнай у адносінах да *тогды* нормай у радзе перакладных і нават у

некаторых арыгінальных помніках (Біблія, Бельск., Мак., Алекс., Рым., Карп., Каліст, Дыяр.). А ў асобных помніках XVII ст. *теды* выступае ў якасці адзінай нормы, напрыклад у Дзённіку Ф. Еўлашоўскага, Хронікі польскай, Дзідаскаліі: тедыж крол... дал се вывезть (Еўл., 11); поневажъ теды тайна таѦ ест великаѦ (Дзід., 13).

Ад займенніка *въсь* з суфіксамі *-гды, -гда* ў старажытнарускай мове ўжываліся прыслоўі *всегды* і *всегда* са значэннем 'усякі раз, увесь час, пастаянна'. Храналагічныя рамкі іх ужывання ў старабеларускай пісьменнасці і размеркаванне па помніках тыя самыя, што і прыслоўяў *тогды, тогда*. Разам з тым іх становішча ў старабеларускай пісьменнасці не ва ўсім аналагічнае.

Па-першае, *всегды(-гда)* выступала, акрамя асноўнага, і ў іншых варыянтах *(усегды, усегда, навсегды, завсегды, завсегда, завсёды)*. Першыя два з пералічаных варыянтаў ужываліся ў зборніку XV ст. у якасці асноўнай нормы побач з *всегды(-гда)* і з'яўляюцца яго арфаграфічным варыянтам: солдан сам ѡчивисте всегды в огороде есть (Валх., 59б); жидова... оусегда надъ люди дань даваютъ ѡпришную (там жа, 91—91б). Прыставачныя варыянты *завсегды(-гда)* у актавай пісьменнасці фіксуюцца ўжо з XV ст.: маютъ тежъ быти въ листе перворeченномъ завсегды двадцать рядскихъ (КЗ, 705, 1498). Але шырокае ўжыванне яны атрымліваюць толькі ў XVII ст., калі выступаюць у якасці паралельнай нормы таксама ў многіх творах і зборніках рэлігійнай літаратуры, такіх, як Біблія, Навука, Зб. 255, Хран.: и будешъ клал на столъ хлѣбы... завсегды (Біблія, 140); мѣй всегды в сердъц8 гсда бога (там жа, 590). Форма *завсёды*, якая захоўваецца ў беларускай мове і зараз, зафіксавана толькі ў палемічным помніку XVII ст.: Jost u mene staryje knihi ... zawsiody ia tam mnoho wyczytain (Абух., 440).

Па-другое, прыслоўе *всегды(-гда)*, як і яго варыянты, у старабеларускі перыяд не было асноўным у радзе сінонімаў са значэннем 'кожны раз, увесь час, пастаянна'. На першым месцы ў гэтым радзе было агульнае для беларускай і польскай мовы прыслоўе *завжды*, а на другім — паланізм *завше*.

Прыслоўе *завжды* ў дзелавых і рэлігійных помніках старабеларускай пісьменнасці фіксуецца з XV ст.: ѡна завъжды ходить на стын гробъ (Чэцця, 258); твоя милость... завжды намъ радилъ о нашо доброе (АЗР, I, 156,

1496). А ў XVI ст. яно было асноўным у адносінах да *всегды (всегда)* і ўжывалася ва ўсіх жанрах пісьменнасці: дша моѧ в р8ках твоих завжды (Пс. XVI, 122б); мачоха моѧ завъжды такъ мене ѡтъбываеть (КВЗС, 26б, 1537); много валькъ мевалъ и завъжды зыскивалъ (Рач., 314); котором8 таѧ зверхность в церкви божои завжды належала (Унія, 5).

Прыслоўе *завше* зрэдку пачало сустракацца ў некаторых актах першай палавіны XVI ст.: священникомъ... въ млынѣ Смолевицкомъ молоть безъ мѣрки завше (АСД, I, 6, 1507). А к канцу XVI і ў XVII ст. у актавай пісьменнасці яно стала ўжывацца на правах факультатыўнай нормы ў адносінах да *завжды*. З канца XVI і асабліва ў XVII ст. прыслоўе *завше* стала пашырацца і ў помніках іншых жанраў пісьменнасці.

У пары прыслоўяў ад займенніка *инъ* (*иногды* і *иногда*) у старабеларускай пісьменнасці асноўным выступала *иногды*. Яно ўжывалася ў разнастайных жанрах пісьменнасці на працягу ўсяго перыяду: былъ у тебе одинъ дѣтина... а иногды не бывалъ у васъ (РЛА, 26, 1300); иногды знайдетьсе таковъ боранъ (Валх., 50б); а иногды хрестиѧнские справы т8ркомъ выдаюць (Бер. саб., 23); тепер того, а иногды ѡвого меч забиваеть (Біблія, 374).

Прыслоўе *иногда* ў старабеларускай пісьменнасці сустракаецца значна радзей, прычым, як правіла, у помніках са слядамі старых традыцый (Чэцця, кнігі Ф. Скарыны, Акад., Сакр. і інш.). У некаторых з гэтага невялікага кола помніках ужывалася і тое і другое прыслоўе: иногда некто с темници и с окововъ вышедъ бываеть царемъ (Скар. ЕК, 8); скорее приидосте днесь нежели иногды (Скар. КВ, 7б).

У пачатку XVI ст. у тым жа значэнні побач з адзначанымі ў беларускай пісьменнасці з'яўляецца адназоўнікавае прыслоўе *часомъ*: иногды пакъ чиниваху приношение... часом теже приношаху жертвы за грехи (Скар. КЛ, 3). З другой палавіны XVI ст. яно становіцца асноўным у гэтым радзе сінонімаў і ўжывалася ў важнейшых арыгінальных і перакладных помніках розных жанраў: проклинанья бывають... часомъ напрасно, часомъ и зъ гнѣв8 (Будны, 20); а люди шаленые... звыкли людем раны задавати а часомъ і забоиства чинити (Ст. 1588, 434); крол... юж се тэж часом капэлюшэм и рукавицами не мерзил (Еўл., 33).

У гэтым радзе сінонімаў паланізмы сустракаюцца выключна рэдка. Так, у Пакутах Хрыста гэта *инекгды*,

а ў Зборніку № 261 — *часемъ*: коли нас бог не выслоухаеть роспачоуемы а инекгды на бга гнѣваемысѧ (Пак. Хр., 6); которые до таковего часем шаленства прыходѧт же и родицов се власных подчас запирают (Зб. 261, 162).

З дапамогай суфіксаў *-ако* і *-акъ* ад указальных і займенніка *инъ* у старажытнарускай мове ўтвараліся прыслоўі спосабу дзеяння *тако, такъ, како, какъ, яко, якъ, инако, инакъ, сякъ*. Старабеларуская пісьменнасць унаследавала гэтыя словы, але кожная пара з аднакарэнных прыслоўяў мела свой характар ужывання ў беларускіх помніках.

Прыслоўе *тако*, якое было нормай у помніках агульнарускага перыяду, у частцы помнікаў беларускай пісьменнасці працягвала ўжывацца аж да канца XVII ст. У асобных помніках (кнігі Ф. Скарыны, Увар., Супр., Арыст., Будны) яно выступае побач з *такъ* у якасці асноўнай нормы, а ў іншых — ужывалася як факультатыўная норма. Прычым часта форма *тако* выкарыстоўвалася або са стылявымі мэтамі, або ў цытатах: апсли... не тако скоро и не такъ латвѣ... таинами стми служили (Будны, Пр., 1); а мусить так быти бо тако богъ ѡбѣцалъ (там жа, 9); мовит абовѣм Апслъ... тако ли нѣсть ни единъ, въ васъ мдръ, иже бы моглъ разсȣдити междȣ братію своею (Ст. бр., 16).

Прыслоўе *такъ* у беларускіх дзелавых помніках фіксуецца з XIV ст.: естли бы хрестьянинъ жида вдарилъ такъ, яко бы криви не розлилъ (АЗР, I, 24, 1388). А ў XV ст. яно становіцца асноўным у параўнанні з *тако* не толькі ў дзелавых, але і ў помніках іншых жанраў: писано бо есть так коли пастырѦ имоуть (Пак. Хр., 5б). З другой палавіны XVI ст. (пачынаючы ад Статута 1566 г.) прыслоўе *такъ* ужываецца ў якасці адзінай нормы ў абсалютнай большасці беларускіх помнікаў.

У старажытнарускай пісьменнасці існавала два прыслоўі спосабу дзеяння ад займенніка *къй: како* і *какъ*: Першае па традыцыі перайшло ад царкоўнаславянскай мовы, а другое было ўласціва жывым гаворкам. Старабеларуская пісьменнасць часткова захоўвала абодва гэтыя прыслоўі. Прыслоўе *како* ўжывалася амаль выключна ў помніках рэлігійнага характару, а таксама ў Арыстоцелевых варотах і некаторых спісах летапісу (Увар., Быx.). Але нават у гэтых помніках яно было факультатыўным у параўнанні з *какъ* і *яко* (выключэннем з'яўляюцца біблейскія кнігі Ф. Скарыны): ѡ королю славы како нине еси зесромочонъ (Пак. Хр., 10); какъ

еси сме*л* вины оукрижовати іс*с*а (там жа, 29б). Дзелавым жа помнікам пачатковага перыяду беларускай пісьменнасці ўжо была не ўласціва форма *како,* замест яе (абмежавана) ужывалася *какъ*: тѣмъ вѣдомо буди какъ миръ есмы створи*л* (Гр. 1264 г.); естли бы хто какъ на школу жидовскую металъ (АЗР, I, 24, 1388).

Найбольш пашыранымі адзайменнікавымі прыслоўямі спосабу дзеяння ў старабеларускай пісьменнасці былі прыслоўі, утвораныя з дапамогай суфіксаў *-ако* і *-акъ* ад займенніка *и(йь)* — *яко* і *якъ.* Гэта пара сінонімаў ужывалася ў беларускіх помніках на працягу ўсяго старабеларускага перыяду, прычым некаторая агульная колькасная перавага была на баку формы *яко.* У радзе помнікаў XV—XVI стст. яна выступае ў якасці асноўнай (у параўнанні з *како* і *какъ*) нормы, як, напрыклад, у Чэцці, Віленскім і Увараўскім спісах летапісу, Арыстоцелевых варотах, Сказанні аб Сівіле, Катэхізісе С. Буднага і ў некаторых іншых помніках, галоўным чынам звязаных з рэлігіяй: ꙗко *ж* бо ѡт морꙗ множество во*д* исходꙗ́ще тако и ѡт сего моудрость (Увар., 104); ȣказоуетъ ꙗко бли*ж*ного любить потреба (Будны, 4). У гэтых помніках ужыванне *яко,* відаць, тлумачыцца захаваннем старой традыцыі. А ў іншых помніках XVI—XVII стст. суіснуюць формы *яко* і *якъ,* дзе з перавагай *яко* (Ст. 1588, Еўл., Барк., Біблія, Бельск., Стрыйк., Алекс., Рым., Карп., Дзід.), а дзе з перавагай *якъ* (Цяп., Трыст., Рач., Крас., Каліст, Сматр., Мак., Дыяр і інш.).

Сярод помнікаў XVII ст., у якіх пераважае ўжыванне формы *яко,* значную частку складаюць помнікі, перакладзеныя з польскіх крыніц. Гэта сведчыць аб уплыве польскай мовы, дзе слова *яко* было жывой з'явай. Аб польскім уплыве гаворыць і той факт, што пераважна ад гэтай формы ў старабеларускіх помніках другой паловіны XVI і ў XVII ст. ужываліся вытворныя прыслоўі польскага ўзору *якось, якоколве(къ), неяко, неякось, нияко, ле(я)даяко, неледаяко:* іакось дивне справȣет (Барк., 173б); еси и вдовȣ ȣ которои се ꙗкоколве живлю ѡско*р*билъ (Біблія, 438); што се ледаꙗко ѡди*н* дрȣгому проклинаемо (Хр. польск., 4б). Аналагічных утварэнняў ад формы *якъ* у беларускіх помніках мала, гэта нешматлікія выпадкі ўжывання *неякъ* і *ниякъ* і адзінкавыя — *ледаякъ:* и былъ нѣꙗкъ раненъ (Трыст., 37); невымовне нѣякъ... тѣло сsupтелное принялъ (Пыт., 41); угром тое звитѧжство не ледаꙗкъ прышло (Атыла, 1780).

Ад займенніка *инъ* беларуская пісьменнасць таксама захоўвала дзве пары прыслоўяў спосабу дзеяння. З далёкай старажытнасці па традыцыі дайшлі і ў асобных помніках XV і XVI стст. (Чэцця, Арыст., Будны) побач з іншымі ўжываліся прыслоўі з суфіксамі *-ако* і *-аче* (*инако, иначе*): хсъ оумерлъ плотью грѣхи погоубилъ инако всю стоую добрость чинАчи собою (Чэцця, 252б); чи не можно бгу было человѣка инако спасти (Будны, 126б); не иначе якобы тамо тѣломъ и дшею былъ (там жа, 139). Яшчэ радзей яны ўжываліся (таксама факультатыўна) у помніках XVII ст. Адзначаная пара прыслоўяў як з'ява перажытачная на фоне іншых (*инакъ* і *иначей*) часам ужывалася і ў некаторых дзелавых дакументах: а инако бы еси того не чинилъ (КЗ, 596, 1495); тот не инако мает быти каран, толко яко каждый с тых злочинцов (Ст. 1529, 65). Але асноўнымі прыслоўямі спосабу дзеяння ад займенніка *инъ* у старабеларускай пісьменнасці былі варыянты з суфіксамі *-акъ* і *-ачей* (*инакъ, иначей*). Абодва яны звязаны з народнай глебай, аб чым сведчыць шырокае іх (пры некаторай перавазе формы *иначей*) ужыванне ў дзелавой пісьменнасці, у тым ліку ў статутах 1566 і 1588 гг.: то вы ведаете, а мы иначей не будемъ (КЗ, 334, 1480); никакъ собе инакъ въ мысли не мысльте (там жа, 339, 1489); а если бы ѡпекунъ иначэ*и* вчини*л* (Ст. 1566, 79); а хто бы хоте*л* записати инакъ (там жа, 81б). І ў помніках іншых жанраў пісьменнасці відавочная перавага была на баку прыслоўя *иначей*.

### *Адпрыметнікавыя прыслоўі*

Яшчэ ў агульнаславянскі перыяд шырока ўжываліся прыслоўі, утвораныя ад назоўна-вінавальнага склону кароткіх прыметнікаў ніякага роду з дапамогай суфікса *-о* і ад меснага — з дапамогай суфікса *-е*. Абодва гэтыя словаўтваральныя варыянты адлюстраваны ў помніках царкоўнаславянскай пісьменнасці, а мадэль іх утварэння была актыўнай і ў старажытнарускі перыяд развіцця ўсходнеславянскіх моў, прычым часта прыслоўі на *-о* і на *-е* ўтвараліся ад тых самых прыметнікаў (*добро — добре*). Асноўнае значэнне адпрыметнікавых прыслоўяў — значэнне спосабу дзеяння, меры і ступені.

У старабеларускіх помніках прыслоўі на *-о* і *-е* былі самай шматлікай групай сярод адпрыметнікавых пры-

слоўяў. Іх выяўлена каля 1200 лексем. Варыянт на *-е* колькасна пераважае: на *-о* маем каля 300 лексем, а на *-е* — каля 560. Частка ж лексем (каля 300) ужывалася і з тым, і з другім суфіксам, прычым пры паралельным ужыванні гэтых суфіксаў колькасна таксама пераважае варыянт на *-е*. Хаця абодва варыянты маюць свае вытокі ў глыбокай старажытнасці, але прычынай такога шырокага ўжывання прыслоўяў на *-е* ў старабеларускай пісьменнасці, і асабліва ў XVI—XVII стст., быў уплыў польскай мовы, дзе яны таксама мелі перавагу над формамі на *-о*. Толькі прамых запазычанняў з польскай мовы сярод прыслоўяў на *-е* налічваецца каля 250 адзінак.

*Мадэль* гэта была і старажытнай, традыцыйнай, і адначасова жывой. Таму размежаванне жывых і традыцыйных, уласных і запазычаных элементаў у гэтым тыпе прыслоўяў зрабіць цяжка. Праводзіцца яно павінна не на марфалагічным, а на лексічным узроўні з прымяненнем фанетычных крытэрыяў.

Асноўная маса засведчаных у старабеларускіх помніках прыслоўяў на *-о, -е,* (каля 50% лексем) адносіцца да народных беларускіх сродкаў, напрыклад: *близко, бридко, весело, вольно, высоко, гладко, глыбоко, горко, давно, далеко, даремне, добре(-о), долго, дорого, здорово, конно, коротко, криво, латво, мило, моцно, напрасно, недавно, непорушно(-е), низко, особно, охотне(-о), полно, просто, пусто, ровно(-е), скоро, смачно, смело(-е), солодко, страшно, стюдено, сухо, тепло, тесно, трудно, тяжко, часто, щасливе(-о), явно(-е), ясно(-е).* Такія прыслоўі складалі асноўную частку сярод прыслоўяў на *-о, -е* ў помніках усіх жанраў. Нават у кнігах Ф. Скарыны, Чэцці і Арыстоцелевых варотах, якія непасрэдна звязаны з царкоўнаславянскай пісьмовай традыцыяй, яны з'яўляюцца прыкметным пластом: мнѣ дармо служити будешъ (Скар. КБ, 53); и ходѧщии нетерпливе (Скар. ПС, 40).

Да царкоўнаславянізмаў можна аднесці каля 1,5—2% выяўленых прыслоўяў. Гэта такія, як *блазе, благо, боголепно, борзде, велегласно, воборзде, гласне, глубоце, драго, кратце, лепо, мощно, невозбранно, ненадолзе, неудолзе, превелице, присно, сладце, тще, широце, яве.* Пераважная большасць адзначаных прыслоўяў ужывалася ў невялікім коле рэлігійных твораў: ȣверив словомъ жены своеи разгневалсѧ зѣло (Скар. КБ, 72б); еси драго важилъ собе живот мои (Скар. ПЦ, 57б); не воз-

мешь имени гда Бога твоего вотще або напрасно (Будны, 16б). З помнікаў нерэлігійных, у якіх сустракаюцца адзначаныя царкоўнаславянскія прыслоўі, вылучаюцца Арыст., Неба, Бяр., а таксама раннія летапісы. Дзелавой пісьменнасці такія прыслоўі не ўласцівы. Яны былі не толькі лексічна абмежаванай групай, але і частата іх ужывання была нязначнай.

Больш шматлікай (каля 11% лексем) была група, якую ўмоўна можна аднесці да традыцыяналізмаў, словы, якія былі ўнаследаваны ад старажытнарускага перыяду: *безвестно, безстрастно, благодарно, богоугодно, вседушно, гораздо, достаточно, достойно, жестоко, истинно, милосердно, невозможно, немилостиво, неподвижно, нужно, полезно, праведно, право ('справядліва'), прилежно, разумно, сильно, сладко, усердно, чудно.* Асноўная маса гэтых прыслоўяў ужывалася ў тых самых помніках, што і вышэй залічаныя да царкоўнаславянізмаў. Але ўсё ж кола помнікаў, дзе яны зафіксаваны, шырэйшае. Істотным з'яўляецца тое, што традыцыяналізмы сустракаюцца і ў дзелавой пісьменнасці, асабліва XV ст.: а за котории весъ неправо будеть ино ѡтслати оу ригу (Гр. 1405); а любо полѦ емꙋ изорать исправить гораздо (Вісл., 39). Сустракаюцца нават у перакладных мастацкіх творах: силно и жестоко збил мѦ (Трыст., 17б); поцаловала сладко (Бава, 70). Частата іх ужывання таксама была невялікай.

Па колькасці лексем на долю паланізмаў у старабеларускай пісьменнасці прыпадала звыш 30%. Гэта прыслоўі *барзо, безпечно, вельможно, вечысто, запевно, збройно, знакомито, зуполно, коштовно, лацно, небезпечно, неслушно, окрутно, очевисто, пильно, пожитечно, посполито, прожно, ревно, рекомо, рыхло, слушно, снадно, совито, сполечно, срокго, сромотно, суптельно, таемно, хендого, цало; безпечне, врыхле, вцале, вшетечне, выразне, высоце, ганебне, гойне, доводне, досконале, достатечне, жадливе, запевне, зацне, збытне, згодливе, згодне, здрадливе, зелживе, зле, зупелне, кгвалтовне, конечне, нагле, невонтпливе, невымовне, нелитостиве, неслушне, мяновите, обецне, обличне, облудне, обтяжливе, обфите, оздобне, оказале, окрутне, опатрне, очевисте, певне, пенкне, пилне, пожитечне, посполите, правне, прожне, розмаите, своволне, святобливе, скутечне, сличне, слушне, смертелне, снадне, сполечне, спросне, сродзе, сромотне, стале, статечне, суптелне, таемне, умыслне, упрейме, уставичне, учтиве, фалшиве, фортунне, цале,*

*цнотливе, цудне, шляхетне.* Не толькі колькасцю лексем паланізмы ў старабеларускай пісьменнасці перавышаюць традыцыяналізмы і царкоўнаславянізмы. Частата ўжывання паланізмаў таксама была непараўнальна большая. Яны шырока ўжываліся ў помніках усіх жанраў, прычым не толькі ў перакладных, але і арыгінальных беларускіх: тоежъ ночи ωкрутнѣ скаранъ (Будны, 36); маючому бо везьде дано будеть и офіте а там се ωткажетъ если то слушне выдают выволане (Барк., 150); служил... не завше притомне ωднак же правдиве и пилне (Еўл., 9); такіе голосы носѧтсѧ посполите межи людми (Дыяр., 178). Арганічным элементам яны выступаюць і ў дзелавой пісьменнасці пачынаючы з XVI ст.: грознѣ приказуемъ (АЗР, 1, 25, 1388); хто прібѣжит на чюжіи домъ ωброннѣ( Вісл., 10); зѧтѧ... к8 прав8 его ωчевисте поставити маеть (КВЗС, 3, 1533); на пеннои земли нихто кгвалтовне не маеть збожьѧ топътати (Ст. 1588, 371). Ужываліся яны нават у мове Ф. Скарыны, асабліва ў прадмовах і пасляслоўях: право... посполите соблюдаемо естъ (Скар. ДЗ, 3); мы... чтимы жъ 8ставичне светое еvангелие (Скар. КБ, 3б).

Значная частка паланізмаў прайшла фанетычную адаптацыю: *вдячно (удячно), заровно, неотволочно, нерадно, порадно, порядне, прожно, прудко; вкоротце, достаточне, неотволочне, нерядне, потужне, прыстойне, порожне, радне (нерадне), сполне, урядовне (врядовне), хутливе.* Да іх далучаецца пэўная колькасць калек, а таксама неалагізмаў, утвораных на базе ўласных сродкаў: *безпереводно, военно, вшчыпливе, вымыслне, вынятне, годливе, душне* (па колькасці душ), *закладнѣ, листовне, неодменне, неотзывне, оплатне, осадне, поблудне, покутне, помовне, самозначне, судовне.* Прыведзеныя і падобныя да іх прыслоўі можна аднесці да набыткаў старабеларускай кніжнай мовы. Складаюць яны невялікі працэнт (каля 4—5) ад агульнай колькасці зафіксаваных у старой беларускай пісьменнасці прыслоўяў на *-о, -е.* А асноўная сфера іх ужывання — дзелавая пісьменнасць: казали есмо... заплатити того жъ часу, безпереводно (АЗР, I, 339, 1504); товары... домовое роботы мають сѧ розумети и безмытне пропущоны быти (Ст. 1566, 17); ремесло кравецкое покутне без дозволеня мене... в пострыгални робит (АВК, XXXIX, 349, 1579); а сторона поводоваѧ деклѧровалассе с8довъне на иншыи час собе ω т8ю личб8 подданыхъ дысцепътоват (ККСС, 146, 1615).

Другім па частаце ўжывання ў старабеларускай пісьменнасці пасля прыслоўяў на *-о, -е* тыпам адпрыметнікавых прыслоўяў былі суадносныя з родным склонам кароткіх прыметнікаў прыставачныя ўтварэнні.

Найбольш пашыранымі былі прыслоўі з прыстаўкай *з-(с-)* і суфіксам *-а: звечна, звысока, згола, здавна, здалека, здробна, злегка, знагла, знизка, зособна, зпроста, зпрудка, зредка, зстародавна, зтрудна, зъявна, сполна, сприкра, спроста, спрудка.* Варыянтам гэтага тыпу былі менш ужывальныя прыслоўі з фіналлю *-у: здалеку, змалу, змолоду, знову.* Абодва варыянты ўяўлялі сабой старажытны па вытоках, але ўласцівы жывой беларускай мове тып, які ўжываўся ў помніках усіх жанраў пісьменнасці: дѣлница др8гое жоны на ее дѣти сполна приидѹть (Вісл., 41); третие книги моисеевы в них же зособна вси жертвы и каждое слово (Скар. КЛ, 3); або николи, або зрѣдка слухати слова божіа (Будны, 47б); ѡбираючи зстародавна извечныхъ своихъ продковъ собе пнов (Ст. 1566, 27б); потом злегка потѣшоны до лѣпшои надѣи пришол (Стрыйк., 547); народы которыи до нег здалека приходили (Зб. 82, 3б); раз некоторыи здалек8 велми шли (там жа, 4б).

Традыцыйнымі, звязанымі з агульнарускай пісьменнасцю з'яўляюцца нешматлікія прыслоўі з прыстаўкай *из- (ис-)* замест *з-: издавна, издалека, издолга, изнову, израна, изредка, исперва, исполна.* У асноўным яны сустракаюцца ў ранняй дзелавой і рэлігійнай пісьменнасці і рэдка — у помніках пазнейшага часу: имъ мыта не давати... какъ издавна не давали (Гр. 1432); самъ же гѣмонъ воевода издалѣка сто[illegible] смотрѣл (Чэцця, 263).

З пералічаных вышэй прыставачных прыслоўяў да паланізмаў належыць *згола, знагла* і *спрудка (зпрудка).* Яны шырока ўжываліся не толькі ў перакладных помніках розных жанраў, але і ў арыгінальных беларускіх творах: Бы пришодши зпр8дка не нашолъ васъ съпѦчихъ (Цяп., 63б); Літва за козаками гналасѦ ажъ до рогачева да ничого згола не вчинили козакамъ (Барк., 154б).

Суадносяцца з родным склонам і прыслоўі з прыстаўкай *до-* і *за-: допияна, допозна, дополна, дочиста, допевна, зажива, засветла, загоряча.* Яны таксама з'яўляліся жывым тыпам, і хоць ужываліся ў беларускай пісьменнасці не часта, але сустракаюцца ў помніках рознага характару: егда сѦ былъ напилъ допиана вина (Скар. КЕ, 12б); я дей его жду и браги дополна наварю

(АЗР, III, 167, 1574); хс гдь допозна былъ на молитвѣ (Калiст, 50).

Трэцім па частаце ўжывання ў старабеларускай пісьменнасці тыпам адпрыметнікавых прыслоўяў былі прыслоўі з прыстаўкай *по-* і суфіксам *-у*, якія суадносіліся з давальным склонам прыметнікаў. У беларускай пісьменнасці ўжываліся прыслоўі ад кароткіх і ад займенных форм давальнага склону: *подолгу, подробну, помалу, помаленку, полегку, понедалеку, понову, поособну, попригожу, попросту, поразну, пораму, пораненку, поровну, порозну, посуху, потиху, потрезву; по-давному, по-звыклому, по-новому, по-старому*. Тып гэты, як і раней разгледжаны, быў унаследаваны ад папярэдняга перыяду і сустракаецца ў помніках усіх жанраў: обаполъ немна и пуща постарому (Гр. 1387); поедь ты... предъ рабомъ своимъ, азъ же полегъкȣ наследовати тебе бȣду (Скар. КБ, 62); ѡктобра первого постарому, поновому, десѧтого (Барк., 161б).

У старой беларускай пісьменнасці існавала некалькі сінанімічных тыпаў прыслоўяў, утвораных ад суфіксальных адносных прыметнікаў. Самымі пашыранымі былі прыслоўі з прыстаўкай (прыназоўнікам) *по-* і суфіксам *-у*, суадносныя з формамі давальнага склону кароткіх прыметнікаў: *по-арабску, по-асирийску, по-венкгерску, по-жидовску, по-жолнерску, по-злодейску, по-иудейску, по-иноческу, по-козацку, по-королевску, по-лацінску, по-литовску, по-мужицку, по-немецку, по-отцовску, по-панску, по-польску, по-простацку, по-руску, по-рыцерску, по-свѣцку, по-сирску, по-словенску, по-суседску, по-угорску, по-хрестиянску, по-человеческу*. Ужываліся адзначаныя прыслоўі ў помніках розных жанраў галоўным чынам у другой палавіне XVI і ў XVII ст.: плаваломъ я по рыцерску (АВК, XVII, 88, 1540); ѡное мѣсто по немецку названо (Атыла, 91); почалъ ȣчитисѧ по рȣскȣ грамоте и по кгрецкȣ (Барк., 156); мовил по асирииску (Біблія, 504); книги свои по греческу переписовалъ (Пыт., 16); чи мают иноки по свѣцкȣ мешкати (Зб. вып., 73б). Ужывалася форма і з суфіксам *-ы (-и)*. Яна ўласціва такім помнікам, як Валхв., Будны, кнігі Ф. Скарыны, Рач., Крас., сустракаецца ў некаторых актавых матэрыялах: ҷтоут еванькгилію теж по латынскі (Валх., 85б); книги рекомые по гречески ѱалтирио*м* а по еврейски тилим (Скар. КБ, 5); братю свою... такъ не по хрстьѧнски моучат (Крас., 163); упоминаючи ихъ по братерски (АЗР, IV, 307, 1608). Тая і другая форма маг-

ла ўжывацца нават у адным помніку: на вэсэлью праве по кролевску ȣчыненым (Рач., 110б); не по хрестиѧнскии мучыли люди (там жа, 126б). Абедзве яны былі жывымі, народнымі і адлюстроўвалі, верагодна, дыялектныя адрозненні.

Акрамя іх ужываліся яшчэ дзве формы прыслоўяў спосабу дзеяння ад прыметнікаў з суфіксам *-ск-(-цк-)*. Адна з іх (на *-ы, -и*) суадносіцца з былым творным склонам: *всячески, нечеловеческы, нехристiански, приетельскы, разбойнически, рыцерски.* Гэта была традыцыйная форма, ужывалася яна не часта і ў невялікім коле помнікаў: екȣб... тȣю реч межи ими прiетельскы еднал (Вісл., 20); ѡбыйдȣсѧ з ним так приѧтелски (Апакр., 109). Другая мела суфікс *-о* па ўзору прыслоўяў, якія суадносіліся з назоўным склонам: *блюзнерско, бозско, братерско, властелко, гультайско, жолнерско, отзверско, здрадецко, людско, музско, непрыятелско, отцовско, пастырско, панско, приятелско, скотско, товариско, тиранско, христианско, царско, шляхецко.* Яна ўжывалася ў шэрагу помнікаў XVII ст., такіх, як Евангелле вучыцельнае Каліста, Два казанні Л. Карповіча, Казанне М. Сматрыцкага, Хронікі М. Бельскага і М. Стрыйкоўскага і некаторых іншых: абы наȣчилисѧ моузско зносити припадки (Каліст, 50); з ними приѧтелско и товариско розмовы мевал (Бельск., 257). Сустракаецца гэта форма і ў некаторых актах XVII ст.: жаловала... на неякогось Мартина... гультайско се бавечого (АВК, XX, 193, 1602); миколай Рокгинский, служечы жолнерско въ войску... прыехалъ былъ (АВК, XX, 256, 1619). У асобных выпадках пад уплывам польскай мовы ўжывалася і форма з суфіксам *-е*: нас нехаи в том христiанске напоминает (Цяп. Прадм., 270б); его... на смерть тыраньске забили (КЛС, 92б, 1597).

У шэрагу рэлігійных твораў, а таксама ў Арыстоцелевых варотах ужываліся прыслоўі *одесную, ошуюю,* якія суадносяцца з вінавальным склонам: все воинъство небѣсное стоѧщее одесную и ощуию его (Скар. ТЦ, 180); и ставлѧи ѡдесноую людеи воевных неѡтстȣпных и ѡлевȣю пѫшечников (Арыст., 172).

**Ступені параўнання прыслоўяў.** Асноўным сродкам для абазначэння в ы ш э й ш а й ступені ў старабеларускай пісьменнасці выступае суфікс *-ей: безпечней, белей, глыбей, голосней, добрей, должей, моцней, острей, пилней, пристойней, смелей, снадней, трудней, щасливей.* Гэта форма ўжывалася ў большасці арыгінальных і

перакладных помнікаў усіх жанраў: а хто первей позвалъ того первеи и меновать (Вісл., 13б); на немне 8 лѦховичохъ и нижеи лѦховичъ (ККК, 126б, 1482); Петръ еще ѧснеи того пишеть (Будны, 54б); турнаѦ... жедала потребнеи 8сего видети (Трыст., 17б); цена жит8 была танеи (Барк., 152); што далѣй, горѣй поступуютъ (Пыт., 91); боронечи... зацности,.. але лепеи и пожитечнеи воиселка (Стрыйк., 547); если бы довжѣй чекалъ смерти (АЗР, V, 75, 1645).

Частка прыслоўяў вышэйшай ступені ўжывалася і з суфіксам *-ш (большъ, горшъ, лепшъ, меншъ, мнейшъ)*: а большъ имъ тамъ корчомъ не мети (ККК, 36, 1482); королю лѣкарства чынечы горшъ здорове его псовал (Рач., 138): былем в ѡковах през рок и болшъ (Дыяр., 157б).

Абедзве адзначаныя формы прыслоўяў вышэйшай ступені былі ўласцівы жывой беларускай мове. На іх аснове ўтварылася і ў некаторых помніках ужывалася кантамінаваная форма з суфіксам *-ш+-ей (болшей, вышшей, лепшей, горшей, меншей, пружней* (побач з *пружей))*: какъ самъ лепеи роз8меючи (ККК, 126, 1482); и вы... лепшеи за первого добримъ братомъ ѡстали (там жа, 113б); ѡднорожецъ сажнии три и болеи (Барк., 174); жадныx схадокъ болшеи не чинечи розедемъсѦ (там жа, 161б).

Але, акрамя падобных утварэнняў, у частцы старабеларускіх помнікаў сустракаем яшчэ і формы вышэйшай ступені на *-ее(-е): более (боле), борздее, горчее, далее (дале), злее, злоснее, краше, крепчее, лехче (лехчее), лепее, милее, мудрее, ниже, первее, радее, светлее, скорее, хворее, чистее.* Гэтыя формы можна разглядаць як праяўленне сувязі са старой, агульнарускай пісьмовай традыцыяй і як уплыў царкоўнаславянскай пісьменнасці. У параўнанні з вышэй разгледжанымі народнымі яны ў беларускіх помніках ужываліся не часта, прытым пераважна ў такіх рэлігійных помніках, як Чэцця, кнігі Ф. Скарыны, у Катэхізісе С. Буднага (у цытатах), а таксама ў ранніх дзелавых помніках і некаторых іншых: а ѡт ковна дале оунизъ (Гр. 1387); мудрее собѣ починахъ Давыдъ нежели вси сл8зи са8лови (Скар. ПЦ, 40б); иметь ли кнзь великіи Витовтъ долже сидѣти (Акад., 147). Перажытачнасць форм на *-ее(-е)* падкрэсліваецца не толькі іх абмежаваным ужываннем, але і суіснаваннем з народнымі: братіе есть крста чстнѣе и дшамъ

полѣзнее (Чэцця, 24б); свѣт ѡт свѣта честнѣи каменѧ санфира просиѧлъ (там жа, 139).

Формы найвышэйшай ступені ў беларускіх помніках XIV—XVII стст. прадстаўлены ўтварэннямі двух тыпаў. Асноўнай выступае форма, якая ўтваралася ад вышэйшай ступені з дапамогай прыстаўкі *най-* або *на-*: *найзычливей, найменшъ, наймужней, найнижей, найпотужней, найсилней, найсрозше; намоцней, напевней, напростей, наскорей, наскромней, наслушней, наясней.* Варыянт з прыстаўкай *най-* быў уласцівы жывой беларускай мове, а з прыстаўкай *на-* у беларускую пісьменнасць пранік пад уплывам польскай мовы, дзе гэта форма ў той час была асноўнай. У беларускіх помніках яна адзначаецца ўжо з другой палавіны XV ст.: как же сѧ емуналепей будет видети (Любарт., 62, 1466); сынка своего... оу платье оувитого как налепеи могла... положила (Валх., 44б). У XVI і XVII стст. формы з прыстаўкай *на-* атрымліваюць настолькі шырокае распаўсюджанне ў помніках усіх жанраў, што становяцца, па сутнасці, паралельнай нормай пісьмовай мовы побач з *най-*. Раўнапраўнае ўжыванне той і другой прыстаўкі было настолькі звычайным для беларускай пісьменнасці XVI—XVII стст., што яны адначасова выкарыстоўваліся нярэдка і ў адным помніку: о воскресении телъ наших из мертвыхъ наıасней пророкꙋеть (Скар. КБ, 4б); и глад гублѧше землю, наиболеи египетскꙋю (там жа, 87); на соиме... которыи бы напервеи ѡт насъ... зложонъ былъ (Трыб., 1б); сꙋдити мают порѧдкомъ наиперчеи воеводъство витебское (там жа, 10); едность найболшей въ томъ зависла (Пыт., 25); коли жъ вжды наболшей люду въ костелѣ... бываетъ (там жа, 81).

Другім тыпам былі прыслоўі найвышэйшай ступені, якія ўтвараліся ад прыслоўяў звычайнай («нулявой») ступені з дапамогай прыстаўкі *пре-*: *пребедне, превыше, прегорко, предивне, преокрутно, пресилне, преславно, претяжко.* Яны сустракаюцца ў невялікай частцы рэлігійных помнікаў, такіх, як Чэцця, Пакуты Хрыста і Аповесць аб трох каралях-валхвах, кнігі Ф. Скарыны, і некаторых зборніках: снъ прегорко и претѧжко началъ вздыхати (Пак. Хр., 4б); воды розмоглисѧ пресилне надъ землею (Скар. КБ, 18); мѣсто... пречудне приѡздобилъ (Зб. 82, 354). Гэты тып прыслоўяў найвышэйшай ступені ў старажытнай беларускай пісьменнасці ўжываўся пад уплывам царкоўнаславянскай мовы і быў мала распаўсюджаны.

## *Адназоўнікавыя прыслоўі*

У старабеларускай пісьменнасці яны прадстаўлены вялікай колькасцю лексем і некаторыя з іх вызначаюцца шырокай ужывальнасцю. Семантыка прыслоўяў гэтай групы больш разнастайная, чым прыслоўяў, утвораных ад іншых часцін мовы. Значэнне кожнага прыслоўя непасрэдна звязана са значэннем зыходнага назоўніка. Асноўная маса адназоўнікавых прыслоўяў мае адзнаку свайго паходжання — суфікс, які ўзыходзіць да адпаведнага канчатка пэўнага ўскоснага склону назоўніка. Так, з родным склонам суадносяцца прыслоўі *додому, доконца, дома, досмерти, дощад(т)ку, заправды, збоку, звеку, зверху, здолу, ззаду, змолоду, знадворья, зненацка, знизу, знутра, зпереду, зпочатку, зразу, зранку, зысподу, издавна, изначала, наголову, од(т)части, ополночы, спереду, спочатку, сысподу, трохи.* З давальным — *додому, подостатку, позаду, пооcобку, поправде, пораду, порану, посполу, посуху, потроху.* З вінавальным склонам суадносяцца наступныя (самыя пашыраныя) прыслоўі: *вверхъ (уверхъ), ввечоръ (увечоръ), вдень, вдолжки, вдолжъ (уздолжъ), взадъ, внизъ (унизъ), внутръ (унутръ), впере(о)дъ (упередъ), вплавъ, вследъ, вши(ы)рки, вши(ы)ръ, замужъ, заразъ, заправду, навгадъ, навеки, навекъ, наверхъ, навыле(о)тъ, надзвычай, назадъ, назбытъ, назиму, накрыжъ, наночъ, наостатокъ, напоследокъ, наруку, насмерть, троху, убродъ, увосень, уплавъ.* Да творнага склону ўзыходзяць прыслоўі *бокомъ, вкрадкомъ, вечеромъ, весною, верхомъ, гуртомъ, даромъ, днемъ, достаткомъ, дыбкомъ, жартомъ, живцемъ, кгвалтомъ, летомъ, моцъю, мол(в)чкомъ, нарокомъ, ночью, огуломъ, пехотою, пешу, рядомъ, разомъ, раптомъ, самотугомъ, силою, смехомъ, ступою, украдкомъ, часомъ.* А ад меснага паходзяць *вверху, вдостоли, влегце, в(у)месте, внизу, вночи(ы), внутри, вонкахъ, въоцемгненнию, вправде, впустахъ, враньи, вцелости, наверху, наверсе, назаде, наконци, нанизу, наостатку, напереде, напоследку, напочатку, начоле, наяве, ополночы, поволи, поневоли, поправде, посредине, потросе, увечере, унутры, употемку.*

Гэтыя і многа іншых падобных прыслоўяў старабеларускай мовы захоўваюць відавочную сувязь са склонавай формай тых назоўнікаў, ад якіх яны ўтвораны. Разам з тым у пісьменнасці шырока прадстаўлены і такія, дзе ранейшы канчатак ускоснага склону адпаў або слова

настолькі змяніла ўсю структуру, што сцерлася сувязь з ранейшаі формай назоўніка: *восполъ, впосередъ, вчора(вчера), дармо, доловъ, домовъ, досталь, досыть, заутра (завтра, завтре, завтро), замужь, заране(ѣ), ненарокъ, ницъ, ныне, пѣшъ (пѣша), позадь, поодаль (оподаль), поперокъ, поплеч, посполъ (посполу, посполе), потай, презлишъ, споручъ, суголовъ, такрокъ, троха (трохи, троху).* Яны нават для таго часу ўспрымаюцца як невытворныя прыслоўі.

Прыведзеныя тыпы прыслоўяў шырока ўжываліся ў помніках самых розных жанраў на працягу ўсяго старабеларускага перыяду: былъ есмъ не дома во отьца своего (Гр. 1300); ѡттулѧ оунизъ по немну (Гр. 1387); и скиноул доловъ бѣсы (Чэцця, 165б); тое же зимы навеснѹ ѹ великыи постъ начѧ (Вілен., 445); рекли петрови заправдоу ты ѡт них еси (Пак. Хр., 7б); не бери надармо имени его (Скар. КВ, 2); боудет ли делати се нароком (Арыст., 147); со ѡлторка на середѹ ѡполночи... переставилсѧ (Барк., 166); ѹплав выслѹ передобыли (Стрыйк., 547); такій заклад здастсѧ быти жартомъ изреченный (Зб. вып., 81б).

У якасці асноўнай састаўной часткі назоўнікі ўваходзяць у такія прыслоўі, як *сегодня(е), штодень, штодня, штомесяцъ, штоpазъ, тотчасъ.* Пераліченыя словы неаднолькава былі пашыраны ў пісьменнасці (найчасцей сустракаюцца *сегодня* і *штодень*). Традыцыйнае прыслоўе *тотчасъ* яўна ўступае па частаце ўжывання паланізму *натыхместъ.* У цэлым жа такія ўтварэнні складаюць прыкметную групу прыслоўяў, якія ўжываліся ў беларускай пісьменнасці XVI—XVII стст. у помніках свецкай і рэлігійнай літаратуры: есми сегодня... Ивана з вежи гретися до избы выпустилъ (АВК, XXI, 103, 1555); коли бово вина напилсѧ тотчас заснул (Бава, 72); немаль шторокъ сыновъ... примножаеть (Пыт., 7): мѹ штоднѧ новыи в срдцѹ родѧтъ боли (Лям., 3); всемѹ братствѹ на схажках штомсцъ ѡзнаймовати (Ст. бр., 11).

Разгледжаныя прыслоўі з'яўляюцца той групай адназоўнікавых прыслоўяў, якая прадстаўляла ў старабеларускай пісьменнасці жывы струмень народнай гутарковай мовы. У колькасных адносінах яны з'яўляюцца самай шматлікай сярод вытворных ад назоўнікаў групай. Пераважная іх большасць працягвае ўжывацца і ў сучаснай беларускай мове.

Побач з гэтымі ў старабеларускай пісьменнасці існа-

валі і традыцыйныя беспрыставачныя прыслоўі, якія ў далейшым не захаваліся. У лексічных адносінах яны абмежаваны невялікай колькасцю лексем з часавым значэннем і (радзей) са значэннем месца (напрамку): *верху, весне, вечере, вечо(е)ръ, горе, доле, долу, заду, зиме, лете, низу, ночы, праву, часу, утре.* Іх ужыванне таксама не абмежавана якім-небудзь адным жанрам пісьменнасці: а зиме удругое езьдять поездники (КЗ, 465, 1488); вечоръ собралисѦ вси люди (Чэцця, 150б); пришо*л* вечере до бетании (Пак. Хр., 1б); молитесе бы не было ȣтеканье вашо зиме, ни въ суботу (Цяп., 34); того*ж* рокȣ хв веснѣ и лете на люди были... хоробы великие (Барк., 166); и ста*л* мои снопъ правȣ и стоѦлъ (Хран., 59б). Але большасць з іх мела нязначнае пашырэнне ў параўнанні з адпаведнымі прыставачнымі ўтварэннямі. Так, прыслоўі *вечере, вече(о)ръ, горе, низу, долу, заду, ночи, утре* па частаце ўжывання яўна ўступаюць прыслоўям з прыстаўкай *(ввече(о)ръ, вгору, внизъ, внизу, ззаду)* або ўтвораным ад іншага склону ці другой лексемы *(вече(о)ромъ, ночью, рано).* Большай частотнасцю вызначаюцца толькі прыслоўі *весне, зиме, лете,* але і на іх ужыванні бачым адзнаку традыцыйнасці, бо і яны падпалі пад агульную тэндэнцыю замены іншым склонам ці прыставачным утварэннем: того*ж* рокȣ весне ȣ могилеве заложенъ костел (Барк., 153); рокȣ афчд навесне заложена црковъ ȣ могилеве (там жа).

Невялікая група традыцыйных адназоўнікавых прыслоўяў, якія сустракаюцца ў шэрагу старабеларускіх помнікаў, не была звязана з жывой мовай: *вначале, внощи, вовеки, воистинну, вследъ, воспять (вспять), всуе, днесь, искони, накрестъ, нощи(ь)ю, посреде, сторицею, туне, явѣ.* Большасць з іх характарызуецца невялікай частотнасцю і ўжывалася галоўным чынам у Чэцці 1498 г. і кнігах Ф. Скарыны, радзей у іншых творах рэлігійнай пісьменнасці: въздаи боу вътаине а бъ тобе въздасть ■ве (Чэцця, 286); ѡтвратилъ вспѦть десницу свою (Скар. ПЕ, 5б); и велѣлъ Саоулъ вокрестъ стоѦщимъ служебникомъ (Будны, 59). А словы *вовеки (вовеки), воистинну* і *днесь* былі пашыраны ў старабеларускай пісьменнасці і ўжываліся не толькі ў рэлігійнай пісьменнасці, але і ў некаторых творах іншых жанраў: а хто тое после нашого жывота порушыть, да будеть проклятъ вовѣки (РКП, 221, 1504); жебы*м* ■ днес в рȣка*х* ваших

